Праваабарончы цэнтр «Вясна»

# СІТУАЦЫЯ З ПРАВАМІ ЧАЛАВЕКА ў Беларусі ў 2013 годзе

## АГЛЯД-ХРОНІКА

Мінск, 2014

# СІТУАЦЫЯ З ПРАВАМІ ЧАЛАВЕКА Ў БЕЛАРУСІ Ў 2013 ГОДЗЕ

АГЛЯД-ХРОНІКА

Аўтар-складальнік: Таццяна РЭВЯКА

Рэдактар і аўтар уступнага артыкула: Валянцін СТЭФАНОВІЧ

Кніга падрыхтавана па падставе аглядаў сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі за кожны месяц 2013 года. Кожны з месяцовых аглядаў уключае аналіз важнейшых падзей, якія ўплывалі на выкананне правоў чалавека за дадзены перыяд, а таксама найбольш яўныя і характэрныя факты парушэнняў, зафіксаваных за гэты час.

Агляд падрыхтаваны на падставе асабістых зваротаў ахвяр парушэнняў правоў чалавека, фактаў, зафіксаваных праваабаронцамі, а таксама агучаных у адкрытых крыніцах інфармацыі.

У кнізе выкарыстаны фотаздымкі Сяргея Гудзіліна, Сяргея Балая, Таццяны Гаўрыльчык, Аляксандра Ярашэвіча, Віктара Гіліцкага, інтэрнэт-сайтаў http://nn.by, http://euroradio.fm, http://www.svaboda.org, baj.by, http://gazetaby.com, charter97.org, архіва FIDH і Праваабарончага цэнтра «Вясна».



# УСТУП

Сітуацыя з выкананнем правоў чалавека ў краіне на працягу 2013 года заставалася стабільна цяжкай: асноўныя палітычныя і грамадзянскія правы насілі скрайне лімітаваны характар, адбывалася далейшая кансервацыя жорсткіх і аўтарытарных практык, замацоўваліся сістэматычныя і сістэмныя праблемы:

— у месцах пазбаўлення волі на заканчэнне года працягвалі ўтрымлівацца 11 палітычных зняволеных — Мікалай Статкевіч, Алесь Бяляцкі, Эдуард Лобаў, Мікалай Аўтуховіч, Мікалай Дзядок, Уладзімір Яроменак, Васіль Парфянкоў, Андрэй Гайдукоў, Арцём Пракапенка, Яўген Васьковіч, Алег Аліневіч;

— вызваленне палітвязняў Дзмітрыя Дашкевіча, Паўла Севярынца і Аляксандра Францкевіча адбылося ў сувязі з заканчэннем тэрмінаў адбыцця пакарання і не сведчыла аб зменах у палітыцы ўладаў па праблеме палітычных вязняў;

— нягледзячы на заканчэнне ўмоўных тэрмінаў пакарання і вызваленне ад адбыцця пакарання з адтэрміноўкай выканання прысудаў шэрагу асуджаных па палітычных матывах, рознага кшталту абмежаванні працягвалі дзейнічаць у дачыненні больш чым 20-ці асобаў, якія раней былі прыцягнутыя да крымінальнай адказнасці;

— больш за 50 чалавек былі прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе арышту за мірнае ажыццяўленне сваіх грамадзянскіх правоў альбо былі падвергнутыя адвольным арыштам;

— працягвалі выносіцца смяротныя прысуды;

— працягваліся выпадкі ціску на незалежных журналістаў, у тым ліку затрыманні іх праваахоўнымі органамі пры ажыццяўленні прафесійных абавязкаў;

— фіксаваліся выпадкі выкарыстанння катаванняў і іншых бесчалавечных відаў абыходжання, у тым ліку ў дачыненні да асоб, якія ўтрымліваліся ва ўстановах пенітэнцыянарнай сістэмы;

— законатворчы працэс у шэрагу выпадкаў насіў непублічны характар, а законапраекты не былі даступны для абмеркавання грамадскасцю;

— працягвалася палітыка ігнаравання беларускімі ўладамі механізмаў абароны правоў чалавека ААН і міжнародных абавязацельстваў у галіне правоў чалавека.

## Палітычна матываваны пераслед: асноўныя тэндэнцыі года

Нягледзячы на агульнае зніжэнне ўзроўню палітычна матываванага крымінальнага і адміністрацыйнага пераследу ў параўнанні з папярэднімі

гадамі, у 2013 годзе не назіралася станоўчых тэндэнцый і дынамікі, якія б дазвалялі казаць аб паляпшэнні сітуацыі ці пазітыўных чаканнях у кароткатэрміновай перспектыве ў дадзенай сферы. Змяншэнне колькасных паказчыкаў можна хутчэй патлумачыць значным зніжэннем грамадскай і палітычнай актыўнасці і адсутнасцю ў 2013 годзе электаральных кампаній, а не зменай утнутранай палітыкі ўладаў.

Асноўным паказчыкам адсутнасці прагрэсу з'яўлеяцца так і не вырашаная праблема палітычных вязняў і палітычна матыванага пераследу (як крымінальнага, так і адміністрацыйнага) як з'явы.

Пасля вызвалення Дзмітрыя Дашкевіча, Аляксандра Францкевіча і Паўла Севярынца на канец года ў месцах пазбаўлення волі заставаліся 11 палітвязняў — Мікалай Статкевіч, Мікалай Аўтуховіч, Алесь Бяляцкі, Мікалай Дзядок, Эдуард Лобаў, Ігар Аліневіч, Яўген Васьковіч, Арцём Пракапенка, Андрэй Гайдукоў, Васіль Парфянкоў, Уладзімір Яроменак.

Варта адзначыць, што вызваленне Д. Дашкевіча, П. Севярынца і А.Францкевіча адбылося выключна ў сувязі з заканчэннем тэрмінаў адбыцця імі вызначанага судамі тэрмінаў пакарання, пазіцыя афіцыйнага Мінска ў дачыненні да праблемы палітычных зняволеных заставалася нязменнай. Публічна ўлады адмаўлялі наяўнасць палітычных зняволеных у краіне, пры гэтым не раз адзначалася, што калі б «асуджаныя, вызвалення якіх патрабуе Захад», напісалі асабістыя прашэнні аб памілаванні, яны б былі вызвалены. Пра гэта неаднойчы заяўляў як сам кіраўнік дзяржавы А. Лукашэнка, так і міністр замежных спраў Уладзімір Макей.

У 2013 годзе суд вызваліў ад далейшага адбыцця пакарання Ірыну Халіп і Уладзіміра Някляева (абодва былі прыгавораны да двух гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання прысудаў), асуджаных па справе, узбуджанай у сувязі з правядзеннем акцыі пратэсту 19 снежня 2010 года, скончыліся вынесеныя судамі ўмоўныя тэрміны ў дачыненні да фігурантаў гэтай жа справы В. Рымашэўскага, С. Марцэлева, С. Вазняка, А. Фядуты, А. Дзмітрыева, абмежаванне волі без накіравання ва ўстановы адкрытага тыпу Д. Мядзведзя, а таксама асуджанага па абвінавачанні ў паклёпе на прэзідэнта журналіста А. Пачобута. Разам з тым, рознага кшталту абмежаванні працягвалі дзейнічаць у дачыненні больш чым 20 асоб, асуджаных па палітычных матывах, якія былі вызвалены без пагашэння судзімасці. Гэтыя абмежаванні (ад прафілактычнага ўліку да прэвентыўнага нагляду) з'яўляліся сур'ёзным метадам кантролю іх палітычнай актыўнасці з боку спецслужб. Асуджэнне да пазбаўлення волі за парушэнне правіл прэвентыўнага нагляду актывістаў В. Парфянкова і У. Яроменкі з'яўляюцца яскравым прыкладам выкарыстання ўстаноўленых абмежаванняў. Варта адзначыць, што паводле дзеючага закана-

даўства асобы з непагашанай судзімасцю не маюць права вылучацца ў якасці кандыдатаў на выбарах усіх узроўняў.

Становішча палітвязняў выклікала вялікую занепакоенасць. Чацвёра палітвязняў: Мікалай Статкевіч, Мікалай Дзядок, Мікалай Аўтуховіча і Яўген Васьковіч працягвалі адбываць пакаранні ва ўмовах строгай ізаляцыі ў турмах, куды яны былі пераведзены з калоній па рашэннях судоў у сувязі з «парушэннямі рэжыму адбыцця пакарання». Рэгулярна на працягу года з'яўлялася інфармацыя аб змяшчэнні палітвязняў у штрафныя ізалятары, аб разнастайных правакацыях адносна іх з боку адміністрацый папраўчых устаноў, пры гэтым усе скаргі на такое абыходжанне не знаходзілі належнага разгляду ні ў органах пракуратуры, ні ў ДВП МУС Рэспублікі Беларусь. У дачыненні большасці палітвязняў устаноўлены статус «злоснага парушальніка рэжыму», што пазбаўляе іх магчымасці датэрміновага вызвалення і не распаўсюджвае на іх дзеянне закона аб амністыі. Не з'яўляецца выключэннем і асуджаны да 4 гадоў і 6 месяцаў пазбаўлення волі віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека і старшыня Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесь Бяляцкі. У дачыненні да яго ўстаноўлены такі ж статус, на працягу года яму не аднаразова выносіліся рознага кшталту дысцыплінарныя спагнанні. Зняволены праваабаронца знаходзіцца ва ўмовах строгай ізаляцыі як ад знешняга свету (на працягу года меў толькі два кароткатэрміновых спатканні з роднымі), так і ўнутры калоніі: адміністрацыя абмяжоўвае ягоныя магчымасці камунікацыі з іншымі асуджанымі, аказвае ціск на іх за любыя кантакты з А.Бяляцкім, пагражаючы рознымі мерамі дысцыплінарнага характару. Такое абыходжанне яскрава падкрэслівала асаблівае стаўленне да дадзеных зняволеных з боку ўладаў і сведчыла аб іх фактычным прызнанні палітычнымі вязнямі, нягледзячы на публічнае адмаўленне наяўнасці палітвязняў у краіне.

Значная ўвага грамадскасці і праваабаронцаў была прыцягнута да крымінальнай справы, узбуджанай супраць 23-гадовага жыхара г. Навапалацка Андрэя Гайдукова па абвінавачванні ў здрадзе дзяржаве. Поўнай і дакладнай інфармацыі не было, справа насіла закрыты характар, з адваката была ўзята падпіска аб неразгалошванні матэрыялаў. Падчас судовага паседжання, які праходзіў у закрытым рэжыме, Віцебскі абласны суд перакваліфікаваў абвінавачванне А. Гайдукову на ч. 1 арт. 14 і арт. 356-1 КК (замах на ўстанаўленне супрацоўніцтва са спецыяльнай службай, органам бяспекі ці выведвальным органам замежнай дзяржавы) і прыгаварыў яго да 1 года і 6 месяцаў пазбаўлення волі. У ходзе расследвання і судовага разгляду справы былі дапушчаны парушэнні прынцыпа прэзумпцыі невінаватасці, права на абарону, разбіральніцтва

незалежным і бесстаронні судом. Яшчэ да разглдяду касацыйнай скаргі А. Гайдукова, г.зн. да ўступлення прысуда ў законную сілу, у буйнейшай дзяржаўнай газеце «Советская Белоруссия» былі надрукаваны некаторыя матэрыялы з крымінальнай справы А. Гайдукова. Гэта выклікала абгрунтаваную крытыку беларускай праваабарончай супольнасці і было кваліфікавана як парушэнне правоў абвінавачанага. Дадзены факт яскрава прадэманстраваў палітычны матыў дзяржавы ў гэтай справе.

Вялікі грамадскі рэзананс выклікала грамадзянская справа аб прымусовай шпіталізацыі і псіхіятрычным лячэнні доктара Ігара Пастнова пасля шэрагу відэазваротаў, якія ўтрымлівалі крытыку ў тым ліку стану медыцыны Віцебскай вобласці. У жніўні суд Віцебскага раёна ў закрытым паседжанні задаволіў адпаведную заяву Віцебскага абласнога клінічнага цэнтра псіхіатрыі і наркалогіі (дзе працаваў сам І. Пастноў). Судовае паседжанне адбывалася з сур'ёзнымі парушэннямі прынцыпаў справядлівага судовага разбіральніцтва. У рашэнні суда не ўтрымлівалася дастатковага абгрунтавання неабходнасці разгляду справы ў адсутнасць самога І.Пастнова; не было ўказана, у чым канкрэтна заключаецца пагроза з яго боку для грамадства і сабе самога, чаму пакіданне яго без медыцынскай дапамогі можа нанесці яму істотную шкоду. Вынесенае рашэнне не ўтрымлівала ніякіх пераканаўчых довадаў аб неабходнасці яго лячэння і ізаляцыі. Усе гэтыя акалічнасці дазволілі праваабаронцам сцвярджаць аб парушэнні правоў І. Пастнова і незаконным псіхіатрычным лячэнні і ізаляцыі. Нягледзячы на тое, што касацыйная скарга І.Пастнова не была задаволена, ён быў вызвалены са шпіталю і працягнуў сваю працоўную дзейнасць на тым жа працоўным месцы. У значнай ступені вызваленню І. Пастнова спрыяў вялікі грамадскі рэзананс справы не толькі ў Беларусі, але і па-за яе межамі.

Актуальнай праблемай на працягу года заставаўся адміністрацыйны пераслед грамадзян у сувязі з мірным ажыццяўленнем грамадзянскіх правоў і адвольныя затрыманні. Больш за 50 чалавек адбывалі адміністрацыйныя арышты, у асноўным за ўдзел у несанкцыянаваных масавых мерапрыемствах. Пры гэтым як несанкцыянаваныя масавыя мерапрыемствы трактаваліся збор подпісаў на вуліцах, раздача паштовак з выявай палітвязняў і нават прагляд дакументальнага фільма ў сельскім Доме культуры (выпадак са слуцкай актывісткай Зінаідай Цімошык), карнавальны велапрабег «Стылягі на роварах» у Мінску і інш. Адзначалася тэндэнцыя прыцягнення ўдзельнікаў як санкцыянаваных уладамі, так і несанкцыянаваных масавых мерапрыемстваў да адміністрацыйнай адказнасці па арт. 23.4 КаАП Рэспублікі Беларусь (непадпарадкаванне законным па-

трабаванням супрацоўнікаў міліцыі). Пры гэтым суды пры разглядзе такіх спраў не давалі ацэнкі законнасці дзеянняў саміх супрацоўнікаў міліцыі. Актуальнымі заставаліся і выпадкі прывентыўных затрыманняў і арыштаў моладзевых актывістаў.

## Смяротнае пакаранне

Праблема смяротнага пакарання заставалася актуальнай. Праваабаронцам стала вядома пра чатыры выпадкі вынясення смяротных прысудаў: Рыгору Юзэпчуку Магілёўскім абласным судом, Паўлу Селюну Гродзенскім абласным судом, Эдуарду Лыкаву Мінскім абласным судом, Аляксандру Грунову Гомельскім абласным судом. Усе асуджаныя прызнаны вінаватымі ў здзяйсненні наўмысных забойстваў.

У дачыненні да А.Грунова смяротны прысуд выносіўся двойчы: першы раз вынесены Гомельскім абласным судом прысуд быў адменены ў касацыйнай інстанцыі калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда па працэсуальных прычынах і накіраваны ў суд першай інстанцыі на новы разгляд. Пасля гэтага кіраўнік дзяржавы А.Г.Лукашэнка падчас сустрэчы з Генеральным пракурорам Канюком А.У. выказаўся наступным чынам: «Калі ты — нягоднік і падонак, і не першы раз учыняеш злачынства, забіваеш чалавека, дык якое права ты маеш жыць на гэтай зямлі? Я не крыважэрны, але адплата і пакаранне павінны быць адпаведнымі. У іншым выпадку мы ніколі не навядзем парадак, і ніколі не знізім гэтую тэмпературу ў грамадстве. Цяжкія, асабліва цяжкія злачынствы: вінаваты — адказвай на ўсю катушку». Дадзеныя словы хаця і не былі адрасаваны наўпрост судовым органам, аднак агучаную пазіцыю кіраўніка дзяржавы па канкрэтнай крымінальнай справе напярэдадні яе паўторнага разгляду можна ўспрамаць як аказанне ціску на суд. У хуткім часе Гомельскі абласны суд паўторна прыгаварыў А. Грунова да выключнай меры пакарання.

У лістападзе стала вядома пра рашэнне КПЧ ААН па справе расстралянага ў сакавіку 2010 года Андрэя Жука, у якім КПЧ прызнаў у тым ліку і парушэнне арт. 6 МПГПП — права на жыццё. Скарга маці А.Жука была зарэгістравана ў КПЧ ААН у 2009 годзе, і ўрад Беларусі тады ж атрымаў ноту Вярхоўнага камісара па правах чалавека ААН аб прыняцці экстраардынарных мер абароны. Тым не менш, смяротны прысуд быў прыведзены ў выкананне да разгляду звароту Камітэтам. Варта адзначыць, што гэта ўжо другое рашэнне КПЧ ААН, якое ўстанавіла парушэнне права на жыццё — першае было прынята па справе Уладзіслава Кавалёва (расстраляны разам з Дзмітрыем Канавалавым у 2012 г.). Разгляду ў КПЧ ААН на канец года чакалі яшчэ чатыры індывідуальныя звароты беларус-

кіх грамадзян, асуджаных да смяротнага пакарання — Васіля Юзэпчука (расстраляны ў 2010 г.), Андрэя Бурдыкі і Алега Грышкаўцова (расстраляныя ў 2011 г.) і Паўла Селюна (утрымліваецца ў СІЗА № 1 у камеры смяротнікаў). Практыка прывядзення прысудаў да разгляду індывідуальных зваротаў у КПЧ ААН сведчыць пра грубае ігнараванне ўладамі Беларусі міжнародных абавязацельстваў у межах Першага факультатыўнага пратаколу да МПГПП.

Вынясенне смяротных прысудаў перыядычна выклікала дыскусіі ў грамадстве. Выказаўся на гэтую тэму і тагачасны кіраўнік беларускай праваслаўнай царквы мітрапаліт Філарэт у адказе на ліст маці асуджанага Паўла Селюна. Ён адзначыў, што «беларуская праваслаўная царква прыкладае намаганні, каб смяротныя прысуды ў нашай краіне не выконваліся».

На працягу года праваабаронцы ў межах кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання», ініцыяванай БХК і ПЦ «Вясна» некалькі гадоў таму, шмат намаганняў прыкладалі да прыцягнення ўвагі грамадскасці да праблемы смяротнага пакарання: выпусцілі некалькі фільмаў і мультфільмаў на гэту тэматыку, правялі першы музычны канцэрт «Апошні золак», які аб'яднаў беларускіх музыкаў, што падтрымліваюць ідэю адмовы ад такога жорсткага і бесчалавечнага віду пакарання.

## Выкарыстанне катаванняў

Актывізацыя працы праваабаронцаў у накірунку барацьбы з катаваннямі і іншымі відамі жорсткага і негуманнага абыходжання спрыяла акцэнтаванню на гэтай праблеме і шырокаму грамадскаму рэзанансу.

Вялікі розгалас атрымала справа, звязаная са смерцю Ігара Пціўкіна ў СІЗА №1 г.Мінска, дзе ён знаходзіўся толькі чатыры дні. Цялесныя пашкоджанні, зафіксаваныя на трупе, выклікалі ў сваякоў падозранні ў забойстве. У выніку ўключэння ў справу праваабаронцаў з «Платформы», значнага грамадскага рэзанансу і шэрагу публікацый у незалежных СМІ па дадзенай справе была распачата праверка, якая скончылася ўзбуджэннем крымінальнай справы ў дачыненні да фельдшара СІЗА № 1 па ч. 2 арт. 162 КК (неналежнае выкананне прафесійных абавязкаў медработнікам, што пацягнула за сабой па неасцярожнасці смерць чалавека).

У поле зроку Праваабарончага цэнтра «Вясна» патрапіла справа Аляксандра Акуліча, якім памёр у ІЧУ г. Светлагорска ў траўні 2012 г., дзе адбываў адміністрацыйны арышт. Маці загінуўшага і праваабаронцы лічаць, што смерць наступіла ў выніку неаказання яму своечасовай медыцынскай дапамогі супрацоўнікамі ІЧУ. Замест таго каб, выклікаць

хуткую дапамогу А. Акулічу, які знаходзіўся ў відавочна хваравітым стане, да яго працяглы час прымянялі фізічную сілу і спецсродкі, пра што быў зроблены адпаведны запіс у спецыяльным журнале. Нягледзчы на відавочыя факты, органы следства ўпарта не давалі ацэнку гэтым фактам і адмаўлялі ва ўзбуджэнні крымінальнай справы.

Таксама ўвагу ПЦ «Вясна» прыцягнула сітуацыя, якая склалася з асуджаным ПК-15 г. Магілёва Пятром Кучурам. У верасні ён быў змешчаны ў штрафны ізалятар, дзе ў рукамыйніцы і ва ўнітазе была рассыпана хлорка. У выніку патраплення вады на хлорку і выкліканай гэтым хімічнай рэакцыяй вязень адчуў сябе кепска і пачаў грукаць у дзверы з патрабаваннем выклікаць сантэхніка. Ахоўнікі паведамілім яму, што сантэхніка выклікаць не могуць і выклікалі яго, калі вязню стала зусім кепска. Нягледзячы на шматлікія скаргі жонкі асуджанага ў розныя інстанцыі, вінаватыя ў катаваннях службовыя асобы так і не былі прыцягнуты да адказнасці.

Гэтыя прыклады яскрава засведчылі неабходнасць рэфармавання пенітанцыянарнай сістэмы. Адной з асноўных прычын наяўнасці катаванняў у месцах прымусовага ўтрымання грамадзян з'яўляецца адсутнасць дзейсных механізмаў грамадскага кантролю, а таксама адсутнасць у краіне эфектыўных прававых механізмаў абароны правоў чалавека.

## Свабода слова

Не палепшылася ў 2013 годзе сітуацыя са свабодай слова, рэалізацыяй права на распаўсюд і атрыманне інфармацыі грамадзянамі Беларусі.

Адной з тэндэнцый года з'яўляўся працяг практыкі аказання ціску ораганамі пракуратуры і дзяржаўнай бяспекі на незалежных журналістаў, якія супрацоўнічаюць з замежнымі сродкамі інфармацыі без акрэдытацыі на тэрыторыі Беларусі. У асноўным гэты ціск ажыццяўляўся ў дачыненні да журналістаў, якія супрацоўнічаюць са СМІ, якія ажыццяўляюць сваё вяшчанне з тэрыторыі Польшчы: Радыё Рацыя і тэлеканал Белсат.

Фіксаваліся выпадкі затрымання праваахоўнымі органамі журналістаў, якія ажыццяўлялі свае прафесійныя абавязкі па асвятленні тых ці іншых грамадскіх падзей.

На працягу года ўлады ўжывалі розны метады, скіраваныя на абмежаванне права на распаўсюд і атрыманне інфармацыі, у тым ліку шляхам выкарыстання заканадаўства аб супрадзеянні экстрэмізму. Так, 18 красавіка суд Ашмянскага р-на Гродзенскай вобласці вынес рашэнне аб прызнанні экстрэмісцкім матэрыялам альбома «Прэс-фота Беларусі -2011». Справа была ініцыявана па заяве УКДБ па Гродзенскай вобласці пасля канфіскацыі 41 асобніка выдання беларускімі мытнікамі пры спробе ўво-

зу ў Беларусь. Па справе была прызначана экспертыза, якую праводзіла экспертная камісія, прызначаная Гродзенскім аблвыканкамам. Камісія прыйшла да высновы, што ў выданні «змяшчаюцца наўмысна скажоныя, не адпавядаючыя рэчаіснасці матэрыялы аб жыццядзейнасці Рэспублікі Беларусь у палітычнай, эканамічнай, сацыяльнай і іншых сферах, якія прыніжаюць нацыянальны гонар і годнасць грамадзян Рэспублікі Беларусь». Касацыйная інстанцыя Гродзенскага абласнога суда пакінула рашэнне без зменаў, і яно набыло законную сілу.

Паказальнай стала сітуацыя, звязаная з ўключэннем сайта Праваабарончага цэнтра «Вясна» www.spring96.org у спіс інтэрнэт-рэсурсаў абмежаванага доступу. Яшчэ ў 2010 годзе быў выдадзены Указ прэзідэнта № 60 «Аб мерах па ўдасканаленні выкарыстання нацыянальнага сегмента сеткі Інтэрнэт», і адпаведнае палажэнне было зацвердажана Аператыўна-аналітычным цэнтрам пры прэзідэнце і Міністэрствам сувязі і інфарматызацыі. Дадзеныя нарматыўна-прававыя акты прадугледжваюць магчымасць унясення інтэрнэт-рэсурсаў у спіс абмежаванага доступу на падставах: прапаганда экстрэмізму, парнаграфіі і г.д. Неўзабаве з'явілася інфармацыя Міністэрства сувязі і інфармацыі аб унясенні ў спіс абмежаванага доступу шэрагу незалежных інфармацыйных рэсурсаў: сайтаў «Хартыі'97», «Беларускі партызан», Праваабарончага цэнтра «Вясна». Пры гэтым афіцыйнага тлумачэння дзяржаўных органаў аб прычынах унясення сайта арганізацыі ў такі спіс не было. Толькі ў выніку доўгай перапіскі з рознымі адказнымі за вядзенне і ўнясенне ў такі спіс дзяржаўнымі органамі стала вядома, што сайт ПЦ «Вясна» быў унесены ў спіс абмежаванага доступу яшчэ ў жніўні 2011 года рашэннем Генеральнай пракуратуры. Пра гэта афіцыйна паведамілі з Генеральнай пракуратуры намесніку старшыні ПЦ «Вясна» В. Стэфановічу. Прычынай прыняцця такога рашэння была ўказана адсутнасць дзяржаўнай рэгістрацыі арганізацыі і ажыццяўленне дзейнасці ад імя арганізацыі, якая не прайшла дзяржаўнай рэгістрацыі, што, на думку Генеральнай пракуратуры, з'яўляецца «прапагандай дзеянняў, забароненых заканадаўствам». У лісце таксама нагадвалася пра крымінальную адказнасць за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі, устаноўленай арт. 193.1 КК. Абмежаванне доступу да грамадска-палітычных і праваабарончых сайтаў з'яўляецца яскравым прыкладам цэнзуры ў краіне.

## Змены ў Выбарчым кодэксе напярэдадні выбараў у мясцовыя Саветы

16 снежня стартавалі выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў. Напярэдадні кампаніі ў Выбарчы кодэкс былі ўнесены змены і дапаўненні. Гэты

працэс адбываўся ў атмасферы сакрэтнасці: тэкст законапраекта не быў публічным і даступным для шырокай грамадскасці, не праводзілася шырокага абмеркавання прапанаваных, а затым і прынятых зменаў. Нават эксперты БДПІЧ АБСЕ, якія прыехалі ў Мінск па афіцыйным запрашэнні МЗС Беларусі, не атрымалі магчымасці азнаёміцца з поўным тэкстам законапраекта.

Пасля афіцыйнага апублікавання прынятых зменаў стала зразумела, што яны не маюць нічога агульнага з рэкамендацыямі БДІПЧ АБСЕ і ў асноўным датычылі працэдур арганізацыі выбарчага працэсу, а таксама ўзаконьвалі практыку забароны заклікаў да байкоту выбараў, якая была ўведзена ЦВК падчас парламенцкіх выбараў 2012 года. Дадзеныя змены ніякім чынам не могуць спрыяць правядзенню справядлівых і празрыстых выбараў.

## Становішча праваабаронцаў

Становішча праваабаронцаў і праваабарончых арганізацый на працягу 2013 года ў цэлым заставалася такім жа складанымі, як і ў папярэднія гады. Улады працягвалі правядзенне мэтанакіраванай шматгадовай палітыкі марганалізацыі праваабарончай супольнасці, якая ўключае ў сябе выпіхванне ў нелегальнае поле, крыміналізацыю дзейнасці ад імя незарэгістраваных арганізацый, стварэнне перашкодаў у атрыманні ўнутранага і знешняга фінансавання, крыміналізацыю замежнага фінансавання і інш. Усе гэтыя захады стваралі істотныя перашкоды ў легітымнай дзейнасці праваабарончых арганізацый. Яскравым прыкладам такой рэпрэсіўнай палітыкі дзяржавы стала зняволенне кіраўніка ПЦ «Вясна» Алеся Бяляцкага, які працягвае адбываць пакаранне за сваю праваабарончую дзейнасць у папраўчай калоніі г. Бабруйска.

Зафіксаваны выпадкі затрымання праваабаронцаў і прыцягнення іх да адміністрацыйнай адказнасці. Так, пры спробе правядзення пікета памяці загінулага ў СІЗА № 1 г. Мінска Ігара Пцічкіна быў затрыманы, а затым і асуджаны на 5 сутак арышту кіраўнік праваабарончай установы «Платформа» Андрэй Бандарэнка. Падчас распаўсюду паштовак з выявай Алеся Бяляцкага былі затрыманы сябры Рады ПЦ «Вясна» Таццяна Равяка і Уладзь Лабковіч, абодва былі абвінавачаныя ў парушэнні парадку правядзення масавых мерапрыемстваў і прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафаў.

26-27 кастрычніка ў Вільні адбыўся III Беларускі праваабарончы форум, у якім прынялі ўдзел прадстаўнікі беларускіх, замежных і міжнародных праваабарончых структур і які стаў значнай падзеяй для беларускай праваабарончай супольнасці. Форум засведчыў, што, нягледзячы

на неспрыяльныя ўмовы для дзейнасці, колькасць праваабарончых арганізацый і ініцыятыў узрасла, павялічылася іх актыўнасць і прафесіяналізм.

## Міжнародны кантэкст

На пачатку 2013 года працягваліся шчыльныя кантакты беларускага МЗС як з асобнымі чыноўнікамі Еўрапейскага Саюза, так і з прадстаўнікамі знешнепалітычных ведамстваў асобных еўрапейскіх краін. Гэта стала працягам палітыкі навязвання кантактаў паміж беларускім афіцыйным бокам з прадстаўнікамі ЕС, якія адзначаліся на заканчэнні 2012 года. На працягу першых чатырох-пяці месяцаў адбыўся шэраг рознаўзроўневых сустрэч.

Са спецыяльнай місіяй па падрыхтоўцы даклада пра стан правоў чалавека ў Беларусі для дэпутатаў Еўрапарламента прыбыў у Мінск у сакавіка дэпутат ЕП ад Літвы Юстас Палецкіс, які не хаваў, што прыязджаў шукаць пазітыў. Ягоная першапачатковая версія даклада выклікала жорсткую крытыку з боку беларускай праваабарончай супольнасці з-за зробленых высноваў па выніках паездкі ў краіну. У выніку высновы былі набліжаны да адлюстравання рэальнай сітуацыі ў Беларусі.

На працягу першай паловы года гучала шмат слоў аб наладжванні дыялогу паміх ЕС і Беларуссю, аб магчымым хуткім вызваленні палітвязняў як першага і прынцыповага для ЕС кроку з боку афіцыйнага Мінска насустрач узаемавыгаднаму супрацоўніцтву. Часам складалася ўражанне, што асноўным ініцыятарам актывізацыі ўзаемадзеяння з'яўляўся ЕС, а не ўлады Беларусі: афіцыйны Мінск абіраў пазіцыю чакання. Ніякіх крокаў у накірунку зняцця асноўнай перашкоды для дыялогу (вызваленне палітвязняў) з боку Мінска так і не адбылося нават пасля аднабаковага выключэння са спісаў неўяздных у ЕС міністра замежных спраў Беларусі Уладзіміра Макея. Ніякім чынам не паўплываў на зададзены курс афіцыйнага Мінска і віленскі саміт краін Усходняга партнёрства, на які ўскладаліся пэўныя спадзяванні. Да канца года ўвесь «асцярожны аптымізм» на пазітыўныя крокі з боку беларускіх уладаў цалкам знік.

Відавочна, што істотная эканамічная і палітычная падтрымка афіцыйнага Мінска Расійскай Федэрацыяй значна абмяжоўвала магчымасці ўплыву на ўнутрыпалітычныя працэсы з боку ЕС.

На працягу года ўлады Беларусі працягвалі палітыку ігнаравання міжнародных абавязацельстваў у галіне правоў чалавека ў межах ААН. Як і ў папярэднія перыяды ўлады не выконвалі Меркаванні КПЧ ААН па індывідуальных зваротах беларускіх грамадзян, заявілі аб спыненні супрацоў-

ніцтва з яшчэ адным механізмам у межах ААН — Працоўнай групай па адвольных затрыманнях Савета па правах чалавека. Адпаведная заява МЗС Беларусі была зроблена ў сувязі з рашэннем Працоўнай групы ад 2012 года, згодна з якім арышт А. Бяляцкага быў прызнаны адвольным, і ўладам Беларусі прадпісвалася неадкладна вызваліць яго. Падобнае рашэнне Працоўнай групы па адвольных затрыманнях было прынята ў 2011 г. і па справе зняволенага кандыдата ў прэзідэнты на выбарах 2010 г. Мікалая Статкевіча.

Яшчэ адным «раздражняльнікам» афіцыйнага Мінска з'яўляўся ўведзены ў 2012, а ў 2013 годзе працягнуты Саветам па правах чалавека ААН мандат спецдакладчыка па сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі. Афіцыйны Мінск адмаўляўся прызнаваць як сам мандат спецдакладчыка, так і прымаць да ўвагі ягоныя даклады. На сесіі Савета па правах чалавека ААН, якая праходзіла ў Жэневе з 27 траўня па 14 чэрвеня, прадстаўнік Беларусі Міхаіл Хвастоў па выніках прадстаўлення даклада па Беларусі адзначыў, што краіна не мае патрэбы ў спецыяльным дакладчыку або іншых падобных інстытутах. Такая ж пазіцыя была агучана ў кастрычніку прадстаўнікамі МЗС Беларусі падчас прадстаўлення даклада Міклашам Харашці ў Генасамблеі ААН у Нью-Йорку. Беларускія ўлады адмаўлялі сп. Харашці ва ўездзе на тэрыторыю краіны з мэтай вывучэння на месцы сітуацыі з правамі чалавека. Таксама так і не былі запрошаны ў Беларусь тэматычныя дакладчыкі ААН: па абароне праваабаронцаў, па адвольных затрыманнях, незалежнасці судовай сістэмы і адвакатуры, па супрадзеянні катаванням.

Нягледзячы на палітыку адкрытага ігнаравання кантрольных механізмаў ААН па правах чалавека з боку афіцыйнага Мінска, беларускія праваабаронцы на працягу 2013 гога працягвалі актыўнае ўзаемадзеянне як са спецдакладчыкам М. Харашці, так і з іншымі механізмамі ААН, у тым ліку ў межах Універсальнага перыядычнага агляду.

Адным з прыкладаў эфектыўнага ўзаемадзеяння з ААН можна назваць супольны альтэрнатыўны даклад «Паўсюдныя парушэнні працоўных правоў і прымусовая праца ў Беларусі» Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека і Праваабарончага цэнтра «Вясна», прадстаўлены ў Камітэт па эканамічных, сацыяльных і культурных правах. Даклад паступіў у Камітэт напярэдадні разгляду справаздачы Беларусі аб выкананні Пакта аб эканамічных, сацыяльных і культурных правах. У дакладзе, прадстаўленым праваабаронцамі, прыведзены аналіз норм нацыянальнага заканадаўства ў дадзенай сферы, апісана практыка выкарыстання прымусовай працы і элементаў прымусовай працы ў шэрагу накірункаў: кароткатэрміновыя працоўныя кантракты, размеркаванне студэнтаў, прымусовая праца на рэспубліканскіх і мясцовых «суботніках», прымусовая праца

вайскоўцаў, прымусовая праца ў ЛТП і «абавязаных асоб». Па выніках разгляду дакладаў у лістападзе Камітэт па эканамічных, сацыяльных і культурных правах ААН вынес шэраг важных рэкамендацый ураду Беларусі. Сярод якіх: адмена прымусовай працы асоб з алкагольнай і наркатычнай залежнасцю, якія супраць сваёй волі змяшчаюцца ў ЛТП, адмова ад карнага падыходу і засяроджванне на сацыяльнай рэабілітацыі асоб, якія маюць патрэбу ў лячэнні і падтрымцы, забеспячэнне грамадзянам права на свабодны выбар працоўнай дзейнасці і забеспячэнне справядлівых і бяспечных умоў працы, адмена прымусовай працы ў якасці пакарання для асоб, пазбаўленых бацькоўскіх правоў (абавязаных асоб). Камітэт выказаў рэкамендацыі і ў частцы кароткатэрміновых працоўных кантрактаў, адзначыўшы, што яе трэба перагледзець.

# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Студзень

Першы месяц новага 2013 года не прынёс зменаў у сітуацыі з правамі чалавека. У месцах пазбаўлення волі працягвалі знаходзіцца 12 палітычных зняволеных, расследванне спраў аб знікненні палітычных апанентаў А. Лукашэнкі ў 1999 годзе (Ю.Захаранкі, В. Ганчара і А. Красоўскага) зноў было працягнута на тры месяцы, не спыняўся пераслед і ціск на грамадскіх і палітычных актывістаў, праваабаронцаў і прадстаўнікоў незалежных СМІ.

Значнай падзеяй для разумення пазіцыі ўладаў па найбольш вострых пытаннях, датычных правоў чалавека, найперш лёсу палітвязняў, стала праведзеная прэс-канферэнцыя А. Лукашэнкі з прадстаўнікамі беларускіх і замежных сродкаў масавай інфармацыі. На пытанне «Калі на свабоду змогуць выйсці палітвязні Аўтуховіч, Бяляцкі, Дашкевіч і ваш апанент на прэзідэнцкіх выбарах Мікалай Статкевіч?» — кіраўнік дзяржавы адказаў: «Могуць. А што для гэтага трэба рабіць — пачытайце ў «Советской Белоруссии». Адбудуць тэрмін — выйдуць. Могуць і датэрмінова — чытайце закон. У мяне няма ў турмах апанентаў. Статкевіч мне не супернік....» Што тычыцца зняволеннага кіраўніка Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алеся Бяляцкага, то А.Лукашэнка наогул зрабіў выгляд, што ён «не ў курсе справы», дзе ён знаходзіцца. «Яго вызвалілі ці ён яшчэ знаходзіцца ў турме?» — звярнуўся ён з рытарычным пытаннем.

Відавочна спекулятыўнага характару былі выказванні А. Лукашэнкі адносна асуджанай да двух гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання прысуду на два гады журналісткі Ірыны Халіп, жонкі экс-кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава, які пасля вызвалення папрасіў палітычны прытулак у Вялікабрытаніі. На пытанне журналіста, чаму яна не можа выехаць за мяжу да мужа, А. Лукашэнка ва ўласцівай яму манеры адказаў: «Ірына сама адмовілася ехаць — яна разумее, што тут яна пакутніца, а паедзе — там яна нікому не патрэбна будзе, як і яе муж». За больш падрабязнай інфармацыяй ён парэкамендаваў журналістцы звярнуцца да Генеральнага пракурора. Пасля прэс-канферэнцыі і заяў Лукашэнкі кантроль з боку праваахоўных органаў за Ірынай Халіп узмацніўся.

Нягледзячы на выразнае жаданне А. Лукашэнкі звуаляваць балючасць праблемы палітвязняў, ягоныя выказванні ў чарговы раз яскрава падкрэслілі, што іх лёс знаходзіцца пад пільнай увагай дзяржаўнага кіраўніцтва, а

пытанне вызвалення знаходзіцца пад ягоным асабістым кантролем. Гэта найперш звязана з тым, што наяўнасць палітвязняў з'яўляецца адным з ключавых момантаў у перамоўным працэсе паміж ЕС і Беларуссю і магчымасці ўзнаўлення паўнавартаснага дыялогу. Падчас прэс-канферэнцыі А. Лукашэнка выказаўся адносна прэтэнзій ЕС да афіцыйнага Мінска. Па ягоным меркаванні, дарма на Захадзе склалі спіс беларускіх палітвязняў і патрабуюць іх вызвалення і рэабілітацыі. «Ну вы ж туды і бандытаў, і хуліганаў пазапісвалі!» — заявіў Лукашэнка. Пры гэтым кіраўнік дзяржавы прапанаваў вырашаць усе праблемы за сталом перамоваў, адзначыўшы, што нармалізацыя адносін патрэбна толькі яму, а не ягоным апанентам у Мінску.

У студзені беларускія афіцыйныя ўлады працягнулі спробы наладжвання стасункаў з заходнімі краінамі, пра што сведчыць шэраг сустрэч міністра замежных спраў Беларусі Уладзіміра Макея з кіраўнікамі дыпламатычных прадстаўніцтваў дзяржаў-членаў ЕС, Ватыкана, ЗША і Швейцарыі, а таксама з дэлегацыяй Савета Еўропы на чале з кіраўніком кабінета Генеральнага сакратара СЕ Б'ёрнам Бергам, якая прыбыла ў Мінск 14-15 студзеня. Нягледзячы на абмежаваную інфармацыю пра павестку дня сустрэч, ёсць падставы меркаваць, што ЕС і ЗША не адмаўляюцца ад артыкуляваных раней перадумоваў узнаўлення супрацоўніцтва з афіцыйным Мінскам, найперш датычных неабходнасці вызвалення палітвязняў, а беларускі бок спрабуе выпрацаваць прымальны для сябе механізм, каб прадпрыняць пэўныя крокі ў дадзеным накірунку на сваіх умовах, не «згубіўшы твару». Пра гэта сведчыць той факт, што адразу пасля сустрэчы з дэлегацыяй Савета Еўропы экс-кандыдату ў прэзідэнты Мікалаю Статкевічу, які адбывае пакаранне ў магілёўскай турме, пасля паўгадавога перапынку зноў прапанавалі напісаць прашэнне аб памілаванні на імя кіраўніка дзяржавы.

## Палітычныя зняволеныя, крымінальны пераслед грамадскіх актывістаў

2 студзеня стала вядома, што са жніўня 2012 года, калі Васіль Парфянкоў трапіў у баранавіцкі арыштны дом, яму ніводнага разу не дазволілі патэлефанаваць дамоў. Тэрмін пакарання В.Парфянкова заканчваецца 9 лютага 2013 года.

3 студзеня да абвінавачанага ў шпіянажы Андрэя Гайдукова, якога напярэдадні Новага года перавялі з Віцебскага СІЗА ў СІЗА КДБ у Мінску, зноў не дапусцілі адваката. «У будынку КДБ не знайшлося памяшкання

для сустрэчы,» — такую прычыну назвалі адвакату Андрэя Гайдукова, калі той трэці раз запар спрабаваў сустрэцца з падабаронным. Варта адзначыць, што паводле КПК Беларусі адвакат мае права на канфідэнцыйныя спатканні са сваім падабаронным без абмежавання колькасці і часу такіх спатканняў. Неаднаразовыя факты нядопуску адваката да зняволенага ў СІЗА КДБ сталі падставай для апасенняў, што вязень можа падвяргацца катаванням. З гэтай нагоды ініцыятыва «Праваабаронцы супраць катаванняў» накіравала адмысловы зварот да спецдакладчыка ААН. Аўтары звароту просяць запатрабаваць у беларускіх уладаў тлумачэнняў нядопуску абаронцы да А. Гайдукова і рэкамендаваць у тэрміновым парадку забяспечыць умовы для сустрэчы адваката з падабаронным. Праваабарончы цэнтр «Вясна» не выключае, што пераслед А.Гайдукова можа насіць палітычна-матываваны характар і пільна адсочвае дадзены крымінальны працэс.

9 студзеня Таццяна Францкевіч паведаміла, што ў сына Аляксандра абвастрыліся праблемы са страўнікам. Напярэдадні Новага года ён правёў 10 сутак у штрафным ізалятары (агулам за 2012 год ён прабыў у карцары каля месяца). Маці Аляксандра Францкевіча непакоіцца за здароўе свайго сына, у якога толькі адна нырка, і падрыхтавала медыцынскую бандэроль.

11 студзеня стала вядома, што палітвязню Мікалаю Дзядку дазволена толькі адно спатканне і бандэроль на год. Перавод у крытую турму горада Магілёва, куды яго накіравалі са Шклоўскай калоніі нібыта за злоснае парушэнне рэжыму адбыцця пакарання, пазбавіла яго дадатковай колькасці харчовых перадач і спатканняў з роднымі.

11 студзеня з калоніі патэлефанаваў сваёй маці Марыне Лобавай палітвязень Эдуард Лобаў, які паведаміў, што яго могуць пакараць пазбаўленнем кароткатэрміновага спаткання, запланаванага на люты.

15 студзеня А.Лукашэнка на прэс-канферэнцыі заявіў, што Ірына Халіп адмовілася з'язджаць з Беларусі насуперак прадстаўленай ёй магчымасці. 24 студзеня намеснік Генеральнага пракурора Аляксей Стук адзначыў, што прысуд І.Халіп не ўтрымлівае прамой забароны на выезд за мяжу: «Перашкод для яе выезду за мяжу, зыходзячы з прысуду, не маецца. Для гэтага трэба звярнуцца ў орган, які загадвае выкананнем прысуду, — крымінальна-выканаўчую інспекцыю Партызанскага РУУС Мінска. Яна за ёй ажыццяўляе прафілактычнае назіранне. Неабходна звярнуцца туды з заявай, якую Халіп хацела б выкласці. Начальнік інспекцыі разгледзіць яе

і прыме законнае рашэнне». Ірына Халіп пракаментавала заявы вышэйшых службовых асобаў краіны наступным чынам: «Стук забыў згадаць галоўнае — ёсць закон аб выездзе з Беларусі, у адпаведнасці з якім усе асобы, асуджаныя ўмоўна або з адтэрміноўкай выканання прысуду, аўтаматычна ўносяцца ў спіс асоб, якім забаронены выезд з краіны. Аб гэтым не гаворыцца ў прысудах, таму што гэта дзейнічае самастойная норма закона. Так што расказы аб тым, што я свабодная, — гэта бязглуздзіца». 28 студзеня падчас наведвання крымінальна-выканаўчай інспекцыі Партызанскага РУУС Мінска, дзе Ірына Халіп кожны тыдзень павінна адзначацца, яна перадала заяву з просьбай дазволіць ёй выезд за межы Беларусі: «Я прашу дазволіць мне выезд на адзін тыдзень у Вялікабрытанію для сустрэчы з мужам і на адзін тыдзень — у Расійскую Федэрацыю для ўдзелу ў рэдакцыйных мерапрыемствах «Новой газеты», супрацоўнікам якой я з'яўляюся». На заяву журналісткі, паводле закону, улады павінны даць адказ на працягу 30 сутак.

16 студзеня стала вядома, што ад Мікалая Статкевіча зноў пачалі патрабаваць напісання прашэння аб памілаванні. Пра гэта палітык паведаміў у лісце да жонкі Марыны Адамовіч, дзе адзначыў, што форма для прапановы гучала наступным чынам: «Перастаньце гуляць у казакі-разбойнікі, выходзьце на свабоду і едзьце на мора».

26 студзеня стаў вядомы дыягназ хваробы, ад якой пакутуе ў Гродзенскай турме лідар «Маладога Фронту» Дзмітрый Дашкевіч. «У Змітра лекары выявілі запаленне цэнтральнага нерва», — паведаміла жонка палітвязня Наста Дашкевіч. Паводле яе дадзеных, Дзмітрый ад прыступу хваробы не мог нармальна рухацца, і турэмныя лекары калолі яму абязбольваючыя лекі. «Але гэта лячэнне часовае і далей яму патрэбна пастаянная медыцынская дапамога», — адзначыла жонка палітвязня.

## Смяротнае пакаранне

26 студзеня маці расстралянага Уладзіслава Кавалёва Любоў Кавалёва атрымала з упраўлення Вярхоўнага Камісара паведамленне пра тое, што яны чакаюць да 3 ліпеня бягучага года ад беларускага ўрада інфармацыі аб прынятых мерах па выкананні рашэння Камітэта па правах чалавека ААН па справе яе сына. Беларусь, па рашэнні Камітэта па правах чалавека ААН, павінна прызнаць, што ў адносінах да Уладзіслава Кавалёва былі парушаны права на жыццё і абарону, прэзумпцыя невінаватасці і справядлівага судовага разбіральніцтва, а таксама права перагляду судовага рашэння.

## Гвалтоўныя знікненні

4 студзеня Аб'яднаная грамадзянская партыя паведаміла, што рыхтуе зварот да Генеральнага пракурора па справе зніклых палітычных апанентаў А. Лукашэнкі — Віктара Ганчара і Юрыя Захаранкі. Па словах старшыні АГП Анатоля Лябедзькі, партыя збіраецца выкарыстаць досвед справы загінулага ў следчым ізалятары ў Расіі аўдытара інвестфонда Hermitage Capital Management Сяргея Магніцкага (маецца на ўвазе ўвядзенне ЗША візавых санкцыяў у дачыненні да расійскіх службоўцаў, нібыта датычных да яго гібелі). А.Лябедзька заявіў, што АГП мае намер актуалізаваць справы зніклых, бо ў 2014 годзе сканчаецца тэрмін даўніны, і гэтыя справы могуць быць закрыты. АГП выказала намер накіраваць Генеральнаму пракурору канкрэтны, падрабязны зварот і запатрабаваць адказу па ўсіх пытаннях, якія былі агучаны яшчэ ў 1999—2000 гадах у сувязі са знікненнем апанентаў А.Лукашэнкі. Анатоль Лябедзька сказаў, што калі яны атрымаюць адпіску, то вырашэнне гэтай праблемы будуць шукаць у міжнародным ракурсе.

## Выкарыстанне катаванняў і жорсткага абыходжання

1 студзеня стала вядома, што скарга студэнткі Маі Абромчык, якая пацярпела ад неправамерных дзеянняў супрацоўнікаў АМАП 19 снежня 2010 года падчас разгону мірнай акцыі пратэсту на плошчы Незалежнасці ў Мінску, зарэгістравана ў Камітэце па правах чалавека ААН. Беларускія суды не захацелі знайсці вінаватых у прычыненні дзяўчыне цяжкага пералому нагі, хаця іх прозвішчы стаялі пад пратаколам затрымання. Рэабілітацыя складанага пералому доўжылася цягам года, за гэты час Мая перанесла тры аперацыі. У красавіку 2011 года пракурор Маскоўскага раёна Мінска паведаміў Маі Абромчык, што па яе скарзе пракуратура завяла крымінальную справу паводле артыкула 155 КК РБ (прычыненне цяжкіх цялесных пашкоджанняў па неасцярожнасці) на нявысветленую асобу, аднак супрацоўнікі міліцыі ў гэтай справе не фігуравалі. Пры гэтым у судова-медыцынскай экспертызе, якая была праведзена па патрабаванні пракуратуры, адзначана, што зафіксаваныя траўмы могуць быць нанесены прадметам, падобным да міліцэйскай дубінкі.

14 студзеня вартаўнік мінскай аўтастаянкі Васіль Сарочык абскардзіў у гарадской пракуратуры Мінска пастанову аб спыненні крымінальнага пераследу і расследавання па крымінальнай справе ў дачыненні да супрацоўнікаў Ленінскага РУУС сталіцы, якія, па ягоных словах, бралі ўдзел у яго збіванні. У тэкст скаргі В.Сарочыка ўвайшла экспертыза юрыстаў

Platform Innovation, якая зводзіцца да таго, што «орган крымінальнага пераследу не прыняў усіх прадугледжаных законам мер па ўсебаковым, поўным і аб`ектыўным даследаванні акалічнасцяў крымінальнай справы, з-за чаго прыйшоў да неабгрунтаванай высновы аб адсутнасці складу злачынства ў дзеяннях супрацоўнікаў АКВ Ленінскага РУУС Мінска». Абскарджанне звязана з тым, што ў канцы снежня 2012 года крымінальная справа ў дачыненні да супрацоўнікаў Ленінскага РУУС Мінска, удзельнікаў інцыдэнту з Васілём Сарочыкам, была спынена. Інцыдэнт адбыўся 14 лістапада. Паводле слоў В.Сарочыка, у пункт аховы аўтастаянкі прыйшлі два супрацоўнікі праваахоўных органаў, адзін з якіх быў у цывільным. Не прад`яўляючы дакументаў і нічога не тлумачачы, яны загадалі вартаўніку накіроўвацца ў Ленінскі РУУС. Каля гадзіны Сарочык знаходзіўся ў памяшканні дзяжурнай часці ўпраўлення, а затым яго адвялі на допыт. Пазней высветлілася, што допыт праводзіла оперупаўнаважаная Ленінскага РУУС Багданоўская Ж. П. Паводле слоў Сарочыка, оперупаўнаважаная надзела на яго наручнікі і стала збіваць, патрабуючы прызнацца ў крадзяжы надмагільных пліт, якія захоўваліся на тэрыторыі аўтастаянкі, а таксама саляркі і акумулятараў з машын. Акрамя таго, ад вартаўніка спрабавалі дабіцца прызнання ў тым, што ён перыядычна рабаваў кіёскі на рынку «Свелта». Дадзеную сітуацыю падчас прэс-канферэнцыі 15 студзеня А. Лукашэнка пракаментаваў наступным чынам: «Гэта мяне ўсхвалявала. Я Пяткевіч (Наталля Пяткевіч, памочнік прэзідэнта — рэд.) даручыў разабрацца. І мяне праінфармавалі ў той жа дзень, што нібыта жанчына яго збіла... Я вось шчыра скажу — калі ўжо жанчына збіла мужыка, то ў мяне адразу цікавасць знікла да гэтай тэмы. Але вось бачыце — вы ўзнялі гэтае пытанне. Давядзецца цяпер Генеральнаму пракурору гэтым займацца. Але я ведаю, гэтага не было. Не трэба там раскручваць і папракаць нашу міліцыю. Там не было так, як вы гэта падаяце. Але гэта пракурор вам пакажа і дакажа».

## Палітычна матываванае абмежаванне свабоды перамяшчэння

21 студзеня суд Маскоўскага раёна Мінска не задаволіў іск юрыста Беларускага Хельсінкскага камітэта Гары Паганяйлы да дзяржаўных органаў аб кампенсацыі нанесенай яму маральнай шкоды ў памеры 3 мільёнаў рублёў з-за неправамернага ўключэння яго ў спіс невыязных, а таксама вяртанні 300 тысяч рублёў дзяржпошліны. Справа была разгледжана з удзелам прадстаўнікоў адказчыкаў — Міністэрства фінансаў, Міністэрства юстыцыі і Міністэрства ўнутраных спраў. Г.Паганяйлу быў забаронены выезд з краіны на падставе таго, што ён нібыта быў даў-

жніком або зацікаўленай асобай у адносінах да даўжніка па справе аб банкруцтве, і яму спатрэбілася тры месяцы, каб дамагчыся выключэння з гэтага спісу.

## Пераслед праваабаронцаў і праваабарончыя арганізацыі

5 студзеня ў судзе Ленінскага раёна Гродна адбыўся разгляд адміністрацыйных спраў гродзенскіх праваабаронцаў Віктара Сазонава, Рамана Юргеля і Уладзіміра Хільмановіча. У сусветны Дзень правоў чалавека 10 снежня 2012 года яны сфатаграфаваліся з партрэтамі зняволенага праваабаронцы Алеся Бяляцкага і Усеагульнай дэкларацыяй правоў чалавека. Гродзенскай міліцыяй гэты медыйны факт быў кваліфікаваны як «несанкцыянаваны пікет». Усе тры справы былі аб'яднаныя ў адзін адміністрацыйны працэс, які вёў суддзя Віталь Ляцко. Разгляд доўжыўся каля двух з паловай гадзін. У судзе не было прадстаўлена аніякіх доказаў віны праваабаронцаў, не знойдзена ніякіх сведак, усё абвінавачанне грунтавалася выключна на рапартах і домыслах прадстаўнікоў міліцыі. У выніку суддзя Віталь Ляцко абвесціў сваю пастанову — па 15 базавых велічыняў штрафу кожнаму.

## Ціск спецслужбаў на грамадска і палітычна актыўных грамадзян

14 студзеня на актывістку «Еўрапейскай Беларусі» Юлію Сцяпанаву напалі невядомыя ў цывільным. Напад адбыўся каля яе ўласнага пад'езда ў Мінску каля 1 гадзіны ночы, калі Юлія ішла дадому з апошняга аўтобуса. Нападнікі нецэнзурна лаяліся, кінулі дзяўчыну тварам у снег і абрэзалі ёй валасы. Ю. Сцяпанава паведаміла, што на працягу двух апошніх тыдняў атрымлівала ананімныя пагрозы. Яна звязвае напад са сваёй дзейнасцю па дапамозе палітвязням і рэпрэсаваным. 17 студзеня Ю. Сцяпанава прайшла судова-медыцынскую экспертызу, паколькі пры нападзе ёй не толькі адрэзалі валасы, але і разбілі губу, а таксама падала заяву ў УУС Фрунзенскага раёна Мінска з просьбай прыцягнуць злачынцаў да адказнасці.

## Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні

10 студзеня суд Кастрычніцкага раёна Мінска асудзіў актывістку кампаніі «Гавары праўду» Святлану Волкаву да 5 сутак арышту, яшчэ двух актывістаў кампаніі — Юрыя Фабішэўскага і Аляксея Марозава — да 10

сутак. Падстава — непадпарадкаванне міліцыі. Святлану Волкаву затрымалі 9 студзеня, калі яна выйшла з кватэры Юрыя Фабішэўскага а 19-й гадзіне. Хлапцоў забралі з гэтай кватэры праз паўтары гадзіны. Падставай для затрымання стаў распаўсюд улётак кампаніі пра «Грамадзянскую дамову».

15 студзеня салігорскага актывіста грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь» Уладзіміра Лемеша суддзя суда Першамайскага раёна Мінска Юры Гарбатоўскі пакараў штрафам у памеры 30 базавых велічынь. Актывіста абвінавацілі ў непадпарадкаванні супрацоўнікам міліцыі. Па словах маладога чалавека, увечары 14 студзеня ў яго было запланава некалькі важных сустрэч, звязаных з тэматычнай выставай, прысвечанай лістам палітвязняў, але ён быў затрыманы ў Мінску ў метро прыкладна а 16-й гадзіне людзьмі ў цывільным. Калі ён паспрабаваў паклікаць міліцыю, людзі, што яго затрымлівалі, паказалі ім пасведчанні. У.Лемеша павезлі ў РУУС Першамайскага раёна, дзе пратрымалі да раніцы наступнага дня. З пастарунку актывісту ўдалося патэлефанаваць сваім родным з Салігорску і паведаміць пра затрыманне і месца знаходжання.

22 студзеня Анатоль Лябедзька атрымаў па пошце паведамленне аб вынесеным 15 студзеня штрафе ў памеры 3 базавых велічынь за «несанкцыянаванае пікетаванне». Разглядаў справу суддзя Дзмітрый Паўлючэнка, паседжанне праходзіла ў судзе Савецкага раёна Мінска. Сам лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі пра вынясенне штрафу даведаўся постфактум, на судовае паседжанне ён не быў запрошаны. «Несанкцыянаваным пікетаваннем» суддзя прызнаў тое, што Анатоль Лябедзька разам з партыйцамі 19 снежня 2012 года раздаваў каля Камароўскага рынку ўлёткі па назвай «Прынцыповая пазіцыя Аб'яднанай грамадзянскай партыі і яе прыхільнікаў па прыватызацыі дзяржуласнасці. У нас скралі выбары, каб прадаць краіну».

24 студзеня актывіст «Маладога Фронту» Уладзімір Яроменак прыйшоў адзначацца ў РУУС Першамайскага раёна Мінска, што ён абавязаны рабіць кожны чацвер згодна з правіламі прэвентыўнага нагляду. У РУУС актывісту прад'явілі пастанову суда аб тым, што ён пакараны адміністрацыйным арыштам тэрмінам на 12 сутак за парушэнне дадзеных правілаў. У. Яроменак паведаміў пра гэта сваім паплечнікам, якія пад'ехалі і перадалі яму неабходныя рэчы перад адпраўкай у ЦІП на Акрэсціна.

24 студзеня актывіст з Наваполацка Яўген Парчынскі быў аштрафаваны на 5 базавых велічынь. Яго прызналі вінаватым у правядзенні не-

санкцыянаванай акцыі, якая заключалася ў фатаграфаванні са здымкам зняволенага кіраўніка Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алеся Бяляцкага. Працэс над актывістам вёў асабіста старшыня Наваполацкага гарадскога суда Пётр Ляўчонак, які і вырашыў, што падобная акцыя — гэта парушэнне заканадаўства пра масавыя мерапрыемствы. У якасці доказаў правапарушэння суддзя разглядала фотаздымкі, зробленыя на ганку гарадскога суда.

29 студзеня актывіста аргкамітэта па стварэнні партыі БХД Сяргея Малашонка гарадскі суд Наваполацка прызнаў вінаватым у правядзенні несанкцыянаванай акцыі. Суддзя Зоя Балаболава прысудзіла Сяргею Малашонку штраф у памеры 25 базавых велічынь. Доказам вінаватасці актывіста сталі фотаздымкі, размешчаныя ў інтэрнэце: Сяргей Малашонак разам з яшчэ адным наваполацкім актывістам Яўгенам Парчынскім сфатаграфаваліся, трымаючы ў руках партрэты Алеся Бяляцкага, на ганку Наваполацкага гарсуда. Сяргей Малашонак сфатаграфаваўся і на ганку мясцовага аддзялення міліцыі.

## Абмежаванні свабоды слова і права на распаўсюд інфармацыі, пераслед журналістаў

11 студзеня Брэсцкая абласная пракуратура вынесла папярэджанне за працу на замежнае СМІ без акрэдытацыі актывістцы АГП Аліне Літвінчук. «Мяне папярэдзілі пра недапушчальнасць супрацы з замежнымі сродкамі масавай інфармацыі без акрэдытацыі. Сказалі, што выявілі быццам бы нейкія артыкулы на «Радыё Рацыя», якія пісала я. Аднак я ім сказала, што ні з якімі замежнымі СМІ не супрацоўнічаю і папрасіла прад'явіць доказы, што я пісала для сайта «Радыё Рацыя», — адзначыла А. Літвінчук. — Мне паказалі толькі нейкія раздрукоўкі артыкулаў з інтэрнэта. Сказалі, што была пракурорская праверка, якая і пацвердзіла, што артыкулы мае. Аднак з дакументамі той праверкі мяне ніяк не азнаёмілі».

11 студзеня прыйшоў адказ на накіраваны перад Новым годам калектыўны зварот на адрас рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства РУП «Белпошта» з просьбай стварыць для «Газеты Слонімскай» роўныя ўмовы, уключыўшы незалежнае выданне ў сістэму распаўсюду праз РУП «Белпошта» і ў рэалізацыю праз кіёскі РУП «Саюздруку». З РУП «Белпошта» быў атрыманы адказ за подпісам намесніка генеральнага дырэктара па эксплуатацыі Алены Анатольеўны Скрыпчык , у якім паведамляецца: «Ваш калектыўны зварот, які паступіў ў адрас Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства паштовай сувязі «Белпошта» (РУП»Белпошта»),

а таксама з сакратарыята Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па пытанні ўключэння газеты «Газета Слонімская» ў падпісны каталог прадпрыемства разгледжаны. Па выніках паведамляю наступнае. Артыкулам 391 Грамадзянскага кодэкса Рэспублікі Беларусь (далей — ГК) устаноўлена, што грамадзяне і юрыдычныя асобы вольныя ў заключэнні дамовы. Згодна з часткай 3 артыкула 2 ГК удзельнікі грамадзянскіх праваадносін набываюць і ажыццяўляюць свае грамадзянскія правы сваёй воляй і ў сваіх інтарэсах. Яны вольныя ва ўсталяванні сваіх правоў і абавязкаў на аснове дагавора і ў вызначэнні любых умоў дагавора, што не супярэчаць заканадаўству. На падставе п. 1 артыкула 17 Закона Рэспублікі Беларусь ад 17 ліпеня 2008 года № 427-З «Аб сродках масавай інфармацыі», распаўсюджванне прадукцыі сродку масавай інфармацыі ажыццяўляецца ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь юрыдычнай асобай, на якую ўскладзены функцыі рэдакцыі сродка масавай інфармацыі, альбо на падставе дагавора, заключанага ім ва ўстаноўленым парадку з распаўсюднікам прадукцыі сродка масавай інфармацыі. Паміж РУП «Белпошта» і рэдакцыяй вышэйназванага выдання адсутнічаюць дагаворныя адносіны, згодна з якім дадзенае выданне магло быць уключана ў падпісны каталог прадпрыемства. Паколькі абавязак па ўключэнні друкаванага выдання ў каталог не прадугледжаны заканадаўствам, выбар друкаваных выданняў для фармавання каталога з мэтай наступнага іх распаўсюду праз падпіску з'яўляецца правам РУП «Белпошта», рэалізуецца ім у адпаведнасці з заканадаўствам. Зыходзячы з вышэй сказанага, распаўсюд друкаванага выдання «Газета Слонімская» павінен ажыццяўляцца непасрэдна самой рэдакцыяй». Варта нагадаць, што падобная сітуацыя цягнецца з пачатку 2006 года. Менавіта тады «Газета Слонімская» і шэраг іншых незалежных друкаваных выданняў былі выключаны са спісу цэнтралізаванай падпіскі РУП «Белпошта». 26 студзеня з Міністэрства інфармацыі РБ таксама прыйшоў адказ за подпісам намесніка міністра У.У.Матусевіча, які паведаміў, што не мае права ўмешвацца ў гаспадарчую дзейнасць камерцыйнай арганізацыі.

## Абмежаванне свабоды сходаў

9 студзеня Камітэт па правах чалавека ААН прызнаў парушэнне права на выказванне меркавання віцебскай пенсіянеркі-актывісткі Антаніны Піванос. Справа датычылася падзей 25 сакавіка 2008 года, калі А.Піванос выйшла да так званага Сіняга дому з вышыванкай са словамі малітвы «Ойча наш», што было расцэнена міліцыяй як плакат апазіцыйнага зместу. Антаніна Піванос была пакарана штрафам у памеры дзвюх базавых велічынь нібыта за ўдзел у несанкцыянаваным пікеце судом Чыгуначнага

раёна Віцебска. Абскардзіць гэтае рашэнне не ўдалося ні ў Віцебскім абласным, ні ў Вярхоўным судзе. Згодна з рашэннем Камітэта па правах чалавека ААН, у дачыненні да спадарыні А.Піванос быў парушаны артыкул 19 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах. Паводле часткі 2 гэтага артыкула, грамадзяне дзяржаў-удзельніц Пакту, сярод якіх і Беларусь, маюць права на вольнае выказванне сваіх думак. Беларускія ўлады абавязаны выплаціць кампенсацыю, пакрыць панесеныя актывісткай выдаткі і вярнуць канфіскаваную маёмасць.

19 студзеня актывісты з Наваполацка планавалі звярнуцца з заяўкай на правядзенне пікета салідарнасці з палітзняволенымі і супраць збяднення беларускага насельніцтва ва ўмовах сучаснай эканамічнай палітыкі. Да гэтага ім тры разы адмаўлялі, у тым ліку і па прычыне адсутнасці дамоў на абслугоўванне акцыі. Рыхтуючы чарговую заяўку на акцыю, актывісты вырашылі выканаць усе патрабаванні гарадскіх улад, але дамовы з міліцыяй і медыкамі ім заключыць так і не ўдалося. У міліцыю заяўнікі звярнуліся загадзя, 5 студзеня. У гарадскім аддзеле міліцыі ім прапанавалі напісаць заяву на імя начальніка ў адвольнай форме. Праз чатыры дні заяўнікі зайшлі ў гараддзел міліцыі, каб пацікавіцца вынікамі. Аказалася, што заяву ніхто не разглядаў. А калі яна трапіла да начальніка ГАУС Д.Разянкова, той сказаў, што яна «складзена не па форме» і разгляду не падлягае. Як скласці заяву і дамову на ахову пікета і пікетоўцаў належным чынам, супрацоўнік міліцыі патлумачыць адмовіўся. Форма дамовы не задаволіла і медыкаў. Прычым прадстаўнікі гарадской бальніцы самі склалі гэту дамову, якую праз некалькі дзён самі ж і анулявалі. У дамове ад 27.12.2012 было ўказана, што гэтая паслуга мусіць быць аплачана пасля мерапрыемства. Але праз два тыдні заяўнік Сяргей Малашонак атрымаў паведамленне з гарадской бальніцы, што дамова анулюецца праз «няўзгодненасць і супярэчлівасць парадку аплаты».

## Абмежаванне свабоды асацыяцый

3 студзеня стала вядома пра судовы пераслед грамадскага аб'яднання «Добрая воля». Мінюст запатрабаваў ад арганізацыі склікаць чарговы сход, прызнаўшы мінулы незаконным. Чыноўнікі не мелі магчымасці пракантраляваць, ці сход сапраўды адбыўся, бо яны яго праігнаравалі, паведаміў старшыня грамадскага аб'яднання Леанід Скарабагаты. Грамадскае аб'яднанне «Добрая воля» спецыялізуецца на абароне правоў дзяцей, у прыватнасці, дзяцей-сірот. У 2011-2012 гг. сябрамі грамадскага аб'яднання былі выяўлены злоўжыванні і парушэнні, якія былі дапушчаны ў дачыненні да прыёмных сем'яў і дзяцей-сірот службовымі асобамі

Міністэрства адукацыі. Судовы пераслед «Добрай волі» працягваецца з траўня 2012 года па скарзе Мінадукацыі.

5 студзеня старшыня суполкі незалежнага прафсаюза на «Граніце» ў Мікашэвічах Алег Стахаевіч паведаміў, што з-за пераследу з боку адміністрацыі колькасць сяброў прафсаюза значна скарацілася. Так, калі на пачатку 2012 года ў прафсаюз увайшлі каля 300 чалавек, то да пачатку 2013 года ў арганізацыі застаўся дзясятак актывістаў. Галоўная прычына — адміністрацыя «Граніту» працягвае іх пераслед і пагражае звальненнямі рабочым, што бяруць удзел у незалежным прафсаюзным руху. Так, скарбніка суполкі Анатоля Літвінка кіраўніцтва прадпрыемства прымушае амаль штодня пісаць тлумачальныя лісты і спрабуе стварыць такія ўмовы для працы, каб ён звольніўся паводле ўласнага жадання. Яшчэ аднаго актывіста — Леаніда Дубаносава — начальства ставіць перад выбарам: альбо ён забярэ з бухгалтэрыі дакументы пра пералік унёскаў у незалежны прафсаюз са свайго заробку, альбо будуць знойдзены падставы для звальнення.

8 студзеня грамадзянская ініцыятыва «Хопіць біць — трэба жыць» паведаміла, што не можа зарэгістраваць грамадскую арганізацыю з-за перашкод уладаў. Па словах актывіста ініцыятывы Кастуся Жукоўскага, спачатку яны сутыкнуліся з праблемай знаходжання юрыдычнага адраса. «Напрыклад, знаходзім аб'явы аб прадстаўленні юрыдычнага адраса, тэлефануем, ніякіх праблем, нам абяцаюць прадставіць юрыдычны адрас, а потым па розных прычынах адмаўляюць. Потым мы падалі дакументы ў адміністрацыю Цэнтральнага раёна Гомеля, каб узгадніць юрыдычны адрас па месцы майго жыхарства, гэта гучыць як «выкарыстанне не па прызначэнні жылога дома або яго часткі». Па закону такое магчыма з дазволу тых людзей, што пражываюць у гэтым доме. Але і тут пачаліся праблемы», — патлумачыў актывіст. З адміністрацыі яму адказалі, што яго зварот будзе разглядаць галоўны архітэктар адміністрацыі раёна. Таксама з адміністрацыі напісалі, што «Вам неабходна атрымаць узгадненне арганізацый, пералічаных у частцы чацвёртай артыкула 8 Жыллёвага кодэксу (органы горадабудаўніцтва, санітарнай гігіены, супрацьпажарнай бяспекі)». «Нічога гэтага па законе не трэба! Гэта нам ствараюць штучныя перашкоды», — адзначыў Кастусь Жукоўскі.

# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Люты

Нягледзячы на захаванне агульнай стабільна кепскай сітуацыі з правамі чалавека, у лютым адбылася важная падзея, датычная сітуацыі з палітзняволеннымі — на волю выйшаў Васіль Парфянкоў, былы фігурант «справы 19 снежня 2010 года», памілаваны ў 2011 годзе і асуджаны ў 2012 за парушэнне вызначаных судом умоваў прэвентыўнага нагляду. Аднак гэтае вызваленне не змяніла прынцыпова сітуацыю з палітычнымі зняволенымі, паколькі яно было звязана не са зменай пазіцыі беларускіх уладаў адносна наяўнасці ў краіне асуджаных па палітычных матывах, а ў сувязі са сканчэннем 9 лютага тэрміну адбыцця пакарання Васіля Парфянкова. У месцах пазбаўлення волі працягвалі знаходзіцца 11 палітычных зняволеных.

Еўрапейскі Саюз па-ранейшаму заставаўся на прынцыповай пазіцыі і працягваў настойваць, што абавязковай перадумовай пачатку ўзнаўлення кантактаў з афіцыйным Мінскам з'яўляецца вызваленне палітвязняў. Беларусь, у сваю чаргу, дэманстравала нежаданне ісці насустрач гэтым патрабаванням, у той жа час нарошчваючы кантакты з прадстаўнікамі еўраструктур і дыпламатычнага корпусу краін ЕС, што можа сведчыць пра імкненне вядзення дыялогу, але на сваіх праграматычных умовах. «Не ізаляцыя, а ангажаванасць ў еўрапейскі інтэграцыйны працэс можа дапамагчы нашай краіне стаць дэмакратычнай», — заявіў міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей 13 лютага пасля перамоў з еўракамісарам па пытаннях пашырэння і палітыкі добрасуседства Стэфанам Фюле ў Тбілісі ў рамках двухдзённага раўнда перамоў на міністэрскім узроўні паміж прадстаўнікамі Еўрасаюза і краін-удзельніц праграмы ЕС «Усходняе партнёрства». Адначасова, каментуючы вынікі дадзеных перамоў, Фюле заявіў: «Беларусь з'яўляецца адным з нашых партнёраў. Але, на жаль, Беларусь з'яўляецца нашым адзіным партнёрам, з якім мы не маем заканадаўчай базы для моцных двухбаковых стасункаў, як з іншымі партнёрамі. У такіх абставінах Еўрасаюз можа толькі час ад часу падкрэсліваць, што для Беларусі існуе перспектыва поўнага развіцця адносінаў, якім карыстаюцца іншыя нашы партнёры. Перадумовай для гэтага развіцця з'яўляецца вызваленне палітвязняў».

На працягу месяца фіксаваўся актыўны пошук камунікацый кіраўнікоў беларускага МЗС з еўрапейскімі дыпламатамі. 7 лютага міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей прыняў Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Латвійскай Рэспублікі Міхаіла Папкоўса. Па выніках беларускім бо-

кам была распаўсюджана інфармацыя, што ў ходзе сустрэчы былі падведзены вынікі двухбаковага ўзаемадзеяння ў 2012 годзе ў палітычнай і гандлёва-эканамічнай галінах і пацверджана зацікаўленасць у захаванні дынамікі развіцця адносінаў паміж Беларуссю і Латвіяй. 21 лютага, па паведамленні беларускага знешнепалітычнага ведамства, Уладзімір Макей і амбасадар Фінляндыі ў Беларусі Хары Мякі-Рэйніка абмеркавалі стан і перспектывы двухбаковага супрацоўніцтва, узаемадзеяння ў рэгіёне Паўночнай Еўропы. «Адбыўся абмен думкамі па тэматыцы развіцця ўзаемаадносін паміж Беларуссю і ЕС, а таксама па іншых пытаннях міжнароднага парадку дня».

У публічнай інфармацыі МЗС Беларусі не ўтрымлівалася ўзгадак пра падставовую ўмову ўзнаўлення дыялогу краін ЕС з афіцыйным Мінскам, але не выключана, што яна агучвалася еўрапейскімі дыпламатамі падчас сустрэч. Ускосным пацверджаннем таго, што беларускія ўлады вымушаны рэагаваць на пазіцыю ЕС, з'яўляецца тое, што на палітвязняў узмацніўся ціск з мэтай прымусіць іх напісаць прашэнні аб памілаванні на імя прэзідэнта. Хутчэй за ўсё, беларускае кіраўніцтва імкнецца такім чынам з аднаго боку — зрабіць вымушаны крок наперад Еўрасаюзу, з іншага — спрабуе зрабіць гэта на сваіх умовах, максімальна захаваўшы твар.

Афіцыйны Мінск працягваў палітыку непрызнання мандата Спецдакладчыка па сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі, устаноўленага Саветам па правах чалавека ААН згодна з рэзалюцыяй ліпеня 2012 года. Прызначаны на гэтую пасаду Міклаш Харашці 18 лютага на сустрэчы з беларускімі журналістамі ў Кіеве паведаміў, што запытваў беларускую візу некалькі разоў, але пакуль пытанне з ягонай магчымасцю наведаць Беларусь не было вырашаны станоўча. Паводле ягоных слоў, падчас працы над дакладам, які павінен быць прадстаўлены на сесіі СПЧ у чэрвені 2013 года, ён пакуль змог сустрэцца толькі з прадстаўнікамі грамадзянскай супольнасці Беларусі, прычым усе сустрэчы праходзілі за межамі Беларусі.

Адначасова беларускі МЗС працягнуў крытыку праваабарончых механізмаў і органаў ААН. 25 лютага пастаянны прадстаўнік Беларусі пры аддзяленні ААН у Жэневе Міхаіл Хвастоў падчас 22-й сесіі Савета па правах чалавека ААН выступіў з крытыкай бягучага стану спраў у Савеце. Ён адзначыў наяўнасць «шматлікіх праблем у гэтым праваабарончым органе: выбіральнасць, сур'ёзны дысбаланс у разглядзе правоў чалавека на месцах, недастатковая інфармаванасць аб праблемах з правамі чалавека ў краінах, якія пазіцыянуюць сябе як «развітыя дэмакратыі», прасоўванне спрэчных праваабарончых канцэпцый і іншае». Кажучы пра гатоўнасць Беларусі «садзейнічаць ліквідацыі названых недапрацовак», дыпламат

адначасова не выказаў жадання дапусціць беларускім бокам на тэрыторыю краіны спецдакладчыка Савета, каб той мог на месцы азнаёміцца са станам правоў чалавека і такім чынам мець усебаковае ўяўленне пра развіццё сітуацыі ў дадзенай галіне, каб у далейшым выкласці яго ў сваім дакладзе. Спадар Хвастоў выказаў прапанову засяродзіцца на парушэннях правоў чалавека ў іншых краінах, у тым ліку шляхам «прадстаўлення нашай краінай штогадовых дакладаў аб рэзанансных фактах парушэнняў правоў чалавека ў асобных краінах свету». Першы такі даклад з'явіўся пад эгідай Міністэрства замежных спраў Беларусі ў лютым з выкладаннем інфармацыі пра парушэнні правоў чалавека ў 23 еўрапейскіх краінах, ЗША і Канадзе. Мэтай дакладу МЗС артыкуляваў прыцягненне ўвагі да парушэнняў правоў чалавека ў краінах, якія традыцыйна адносяць сябе да «развітых дэмакратый», дэманстрацыя невыканання імі сваіх міжнародных прававых абавязкаў. Дадзеным дакладам беларускі МЗС зрабіў спробу адцягнуць увагу міжнароднай праваабарончай супольнасці ад становішча з правамі чалавека ў Беларусі, а таксама пераключыць крытыку на іншыя краіны, адначасова ўхіляючыся ад прызнання і вырашэння ўнутраных праблем.

## Палітычныя зняволеныя, крымінальны пераслед грамадскіх актывістаў

2 лютага падчас першага за 8 месяцаў тэлефанавання дадому з магілёўскай турмы актывіст анархісцкага руху Мікалай Дзядок паведаміў, што ў турэмнай бальніцы яго абследавалі і выявілі хранічную хваробу страўніка, прызначаны курс лячэння.

3 лютага стала вядома, што нарвежскія парламентарыі вылучылі зняволенага праваабаронцу Алеся Бяляцкага на Нобелеўскую прэмію міру. 8 лютага Хенк Хульшоф, еўрапейскі каардынатар Amnesty International, і Гары ван Бомель, дэпутат Еўрапарламента, сустрэліся з паслом Беларусі ў Гаазе Аленай Грыцэнка, якой перадалі 84 000 подпісаў, сабраных у падтрымку Алеся Бяляцкага, разам з залатой манетай, на якой выгравіраваны партрэт палітвязня і надпіс «Свабоду Алесю Бяляцкаму». У той жа дзень выйшла кніга Алеся Бяляцкага «Асьвечаныя беларушчынай», у якую ўвайшлі яго літаратуразнаўчыя артыкулы і эсэ. Укладанне кнігі Алесь Бяляцкі пачаў у 2011 годзе на волі, а пасля арышту працягнуў працу за кратамі — у турмах у Мінску, Жодзіне і Бабруйску. 13 лютага стала вядома, што Алесь Бяляцкі пазбаўлены спатканняў, якія ён мусіў атрымаць у бліжэйшыя паўгады. Гэтую інфармацыю пацвердзіла жонцы зняволенага Наталлі Пінчук адміністрацыя Бабруйскай калоніі

№ 2, дзе ўтрымліваецца палітвязень. Да гэтага ў 2012 годзе зняволены кіраўнік ПЦ «Вясна» быў пазбаўлены аднаго кароткатэрміновага (з трох магчымых) і аднаго доўгатэрміновага (з двух магчымых) спатканняў з роднымі. Кароткатэрміновае спатканне, якое павінна было адбыцца ў красавіку, турэмная адміністрацыя прызначыла на 21 жніўня. Узмацненне ціску на Алеся Бяляцкага звязваецца са спробай дамагчыся прашэння аб памілаванні.

3 лютага стала вядома, што экс-кандыдату ў прэзідэнты Мікалаю Статкевічу, які адбывае пакаранне ў Магілёўскай турме, была перададзена першая за ўвесь год прадуктовая перадача. Жонка палітычнага вязня Марына Адамовіч адзначыла, што адміністрацыя не прыняла некаторыя прадукты — амаль усю гародніну і зеляніну, а таксама мёд, патлумачыўшы гэта санітарнымі правіламі. 11 лютага Мікалай Статкевіч падчас тэлефанавання Марыне Адамовіч паведаміў, што адносна яго пачалася чарговая хваля правакацый. У камеру да яго быў падсаджаны «спецыяльна навучаны» былы супрацоўнік спецслужбаў, які вядомы вельмі жорсткім стаўленнем да сукамернікаў, здзекамі і збіццём. Праз некалькі дзён з ліста М. Статкевіча стала вядома, што гэты чалавек доўга не затрымаўся ў камеры, хутка разабраўся ў сітуацыі, папрасіў прабачэння за памылку і папрасіў аб пераводзе. Разам з тым, 14 лютага на прэс-канферэнцыі намеснік Генеральнага пракурора Беларусі Аляксей Стук заявіў, што ўмовы ўтрымання ў турмах экс-кандыдата ў прэзідэнты Мікалая Статкевіча і праваабаронцы Алеся Бяляцкага такія ж, як і ў астатніх зняволеных.

4 лютага падчас 10-хвіліннага тэлефанавання дадому з магілёўскай калоніі палітзняволены Арцём Пракапенка паведаміў маці Віялеце Пракапенка, што пасля бранхіту выйшаў на працу, але не да канца здаровы, а ў цэху вельмі халодна. Зняволены папрасіў маці даслаць яму вітаміны.

6 лютага стала вядома, што прадпрымальнік Мікалай Аўтуховіч, які адбывае пакаранне ў гродненскай турме, не можа вырашыць праблемы, якія ў яго ўзніклі з-за няякаснага зубнога пратэза, зробленага яшчэ ў івацэвіцкай калоніі. Зубны боль яго суправаджае ўвесь тэрмін зняволення. Па словах ягонага былога адваката Паўла Сапелкі, плануюцца чарговыя захады для таго, каб праблема зварушылася з месца. З ліста М. Аўтуховіча актывісту Леаніду Гаравому стала вядома, што ён не мае намеру прасіць А.Лукашэнку аб памілаванні. Адзначаючы, што кіраўнік дзяржавы чакае ад палітвязняў хаця б тры словы: «Прашу мяне вызваліць», палітвязень напісаў, што нават гэтых трох слоў ад яго не дачакаюцца.

9 лютага палітвязень Васіль Парфянкоў каля 11 гадзін раніцы выйшаў з Баранавіцкага следчага ізалятара №6, на тэрыторыі якога размяшчаецца арыштны дом, дзе ён адбываў 6-месячны тэрмін пакарання за парушэнне ўмоў прэвентыўнага нагляду. На волі яго сустрэлі сябры і паплечнікі, праваабаронцы, актывісты з Мінску і Баранавічаў. В.Парфянкоў паведаміў журналістам, што чакаў гэтага дня. На ўмовы ўтрымання не скардзіўся. Васіль адзначыў, што добра ведае сітуацыю ў краіне, паколькі рэгулярна чытаў прэсу. Ён таксама распавёў, што прыходзіла шмат лістоў, а некаторыя дні атрымліваў іх нават па некалькі сотняў, як з Беларусі, так і з-за мяжы, падзякаваў усім за падтрымку. На пытанне, ці не збіраецца ён спыняць грамадскую дзейнасць, Парфянкоў адказаў, што не. Пра жыццё ў арыштным доме Парфянкоў распавёў, што ягоная камера была прасторнай, разам з ім адбывалі пакаранне 6-8 чалавек.

11 лютага маладафронтавец Эдуард Лобаў падчас тэлефанавання дадому паведаміў маці Марыне Лобавай пра атрыманне дазволу на кароткатэрміновае спатканне, магчымасць якога раней была пад пагрозай з-за складзенага на яго рапарта. 14 лютага М. Лобава мела кароткатэрміновае спатканне з сынам, якое праходзіла праз шкло.

Нягледзячы на тое, што Эдуард Лобаў адбывае пакаранне ў калоніі, умовы зняволення ён характарызуе як турэмныя. Маці палітвязня адзначыла, што ў апошні час у сына было некалькі дробных парушэнняў, але ў якасці меры пакарання ўжываліся толькі прафілактычныя размовы, таксама падкрэсліла, што магчымасці для самаразвіцця зняволеных вельмі абмежаваныя.

11 лютага з грамадскім актывістам з Наваполацка Андрэем Гайдуковым, які абвінавачваецца ў здрадзе дзяржаве ў выглядзе агентурнай дзейнасці, у следчым ізалятары КДБ сустрэўся адвакат. Па словах маці затрыманага, Вольгі Гайдуковай, сустрэча працягвалася некалькі гадзін і была першай з моманту пераводу яе сына ў СІЗА КДБ у Мінску. «Адвакат патрапіў да яго а дзясятай гадзіне, і да абеда з ім размаўляў, падрабязнасцяў не паведамляе». Адвакат змог толькі сказаць, што Андрэй трымаецца нармальна, выглядае добра, перадае, што здаровы. Дагэтуль адвакату арыштаванага не ўдавалася сустракацца са сваім падабаронным: дазвол давалі, але сустрэчы не адбываліся нібыта з прычыны таго, што ў СІЗА КДБ бракуе адпаведных памяшканняў. 19 лютага Праваабарончы цэнтр «Вясна» і Беларускі Хельсінкскі камітэт выступілі з заявай, у якой запатрабавалі галоснасці і захавання ўсіх працэсуальных гарантый Андрэю Гайдукову, забеспячэння належнай абароны і рэалізацыі ягоных правоў у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь і міжна-

роднымі абавязацельствамі. 28 лютага па справе Андрэя Гайдукова быў дапытаны ў мінскім КДБ у якасці сведкі грамадзянскі актывіст Яўген Канстанцінаў.

14 лютага жонцы былога кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава журналістцы Ірыне Халіп дазволілі часовы выезд з Беларусі. «Мяне выклікалі ў крымінальна-выканаўчую інспекцыю Партызанскага РУУС, дзе я стаю на ўліку. Начальнік КВІ Наталля Каляда паведаміла мне, што па маёй заяве прынята станоўчае рашэнне, і ў перыяд да 3 красавіка я магу наведаць мужа і з'ездзіць у рэдакцыю «Новай газеты», — паведаміла Ірына Халіп.- Але ў маім статусе нічога не мяняецца. Я па-ранейшаму застаюся арыштанткай, у ліпені мяне чакае новы суд, які будзе вырашаць, што са мной рабіць далей». 18 лютага І. Халіп прыйшла адзначацца ў Партызанскі РУУС, але ў кабінеце начальніка крымінальна-выканаўчай інспекцыі яе чакаў зусім іншы чалавек — начальнік аддзела наглядна-выканаўчай дзейнасці ГУУС Мінгарвыканкама Аляксандр Купчэня. «Замест таго, каб даць мне часопіс уліку, у якім я распісваюся, — распавяла І. Халіп — Купчэня спытаў, калі менавіта я еду. Я патлумачыла, што пакуль з датай паездкі да мужа не вызначылася, паколькі ў мяне захварэла дзіця. І тут Купчэня на падвышаных танах загаварыў: — «Вам мяжу адкрылі, а вы не едзеце? Ну прызнайцеся, вы ж нікуды і не збіраліся. Вы не думалі, што вам дадуць дазвол. А вам, насуперак вашым чаканням, далі. Ну так едзьце! Бярыце дзіця, едзьце, атрымлівайце палітычны прытулак, але не вяртайцеся сюды! Вы тут не патрэбныя! Вы толькі факты скажаеце!». «Відавочна, што брызгаючы слінnetwork падпалкоўнік крычаў з чужых слоў. Няўжо не разумеў, што цяпер ён грубейшым чынам парушае не толькі закон, але і службовую інструкцыю? Бо ён мне пагражаў і адкрыта правакаваў на парушэнне рэжыму адбыцця пакарання. Прычым рабіў гэта не дзе-небудзь на вуліцы, а ў крымінальна-выканаўчай інспекцыі, знаходзячыся пры выкананні сваіх абавязкаў, у форме. Зараз зразумела, што мяне проста хочуць выправадзіць з краіны, як выдвараюць дысідэнтаў з СССР» — адзначыла журналістка.

18 лютага стала вядома, што Ігару Аліневічу ўпершыню з траўня 2012 года дазволілі перадачу. Маці Валянціна Аліневіч паведаміла, што пабывала на кароткатэрміновым спатканні з сынам. В. Аліневіч адзначыла, што трэці год начальства не дазваляе Ігару вучыцца ў прафтэхвучылішчы пры наваполацкай калоніі № 10. «Нягледзячы на тое, што ў сына ёсць вышэйшая адукацыя, ён імкнецца да далейшага развіцця. Каб не марнаваць час дарма, ён спрабаваў атрымаць дазвол на вучобу ў ПТВ пры калоніі. Бо гэта яшчэ і шанец адчуць сябе чалавекам, седзячы за

партай у цёплым памяшканні, чаго няма ў турме. Але начальства Ігару неаднаразова ў гэтым адмаўляла, нічым не тлумачачы сваё рашэнне. Варта сказаць, што іншым зняволеным гэта было дазволена».

19 лютага Тамара Васьковіч, бабуля актывіста аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Яўгена Васьковіча, паведаміла, што ад унука больш за месяц няма лістоў. Пасля прысуду палітвязень амаль кожны чацвёрты дзень знаходзіўся ў карцары. З траўня 2011 года ў яго было каля 40 спагнанняў, больш за 20 разоў ён трапляў у штрафны ізалятар, у выніку чаго правёў у ШЫЗА больш за 150 сутак.

19 лютага стала вядома, што палітвязень Аляксандр Францкевіч змешчаны ў штрафны ізалятар івацэвіцкай калоніі на 20 сутак. Пра гэта паведаміла ягоная маці Таццяна Францкевіч. З моманту зняволення гэта чацвёрты выпадак, апошні раз ён правёў у ШЫЗА 10 сутак перад Новым годам. «Для тых, хто не хоча пісаць прашэнне пра памілаванне, ствараюць больш жорсткія ўмовы ўтрымання. Гэта робіцца для таго, каб падарваць іх маральны дух і волю», — мяркуе Т. Францкевіч. Па яе словах, у калоніі ў яе сына ўзніклі праблемы са страўнікам, таму яна падрыхтавала для яго медыцынскую бандэроль. У траўні запланавана доўгатэрміновае спатканне.

## Смяротнае пакаранне

11 лютага Любоў Кавалёва, маці асуджанага па абвінавачанні ў здзяйсненні тэракту і расстралянага Уладзіслава Кавалёва, прызнана «Чалавекам года Віцебска-2012». Жанчына актыўна выступае за адмену смяротнага пакарання ў Беларусі.

13 лютага стала вядома, што наглядная скарга, пададзеная яшчэ ў верасні 2012 года на прысуд асуджанага да смяротнага пакарання і расстралянага Уладзіслава Кавалёва, дагэтуль не разгледжана. Адвакат Станіслаў Абразей звярнуўся да старшыні Вярхоўнага суда з патрабаваннем неадкладна яе разгледзець.

## Гвалтоўныя знікненні

12 лютага прадстаўнікі палітычных партый, грамадскіх рухаў і праваабарончых арганізацый правялі сустрэчу з мэтай выпрацоўкі адзінай тактыкі дзеянняў, якая б не дазволіла закрыць у сувязі са сканчэннем тэрміну даўніны справы знікненняў былога міністра ўнутраных спраў Юрыя

Захаранкі, палітыка Віктара Ганчара, прадпрымальнікам Анатоля Красоўскага і журналіста Дзмітрыя Завадскага. Юрыст БХК Гары Паганяйла паведаміў, што сваякі зніклых і іх афіцыйныя прадстаўнікі падрыхтавалі хадайніцтва на імя Генеральнага пракурора Беларусі аб працягненні тэрмінаў расследавання па гэтых справах. Намеснік старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» Валянцін Стэфановіч вылучыў 3 асноўныя блокі дзеянняў:1. прававыя ў межах нацыянальнага заканадаўства; 2. міжнародныя, уключаючы зварот і прадстаўленне поўнай і дакладнай інфармацыі спецдакладчыку Савета ААН па Беларусі Міклашу Харашці, а таксама выкарыстанне іншых інструментаў, у тым ліку Камітэт па правах чалавека ААН; 3. інфармацыйныя, скіраваныя на працу з грамадствам і фарміраванне грамадскай думкі. Была ўхвалена ідэя падрыхтоўкі нацыянальнага дакладу па праблеме зніклых і яго шырокая прэзентацыя, стварэнне прафесійных дакументальных фільмаў, шырокі збор подпісаў праз электронныя петыцыі.

## Пераслед праваабаронцаў і праваабарончыя арганізацыі

7 лютага гродзенскі праваабаронца Уладзімір Хільмановіч, які вяртаўся з Польшчы маршрутным аўтобусам Беласток-Гродна, быў затрыманы памежнікамі і прадстаўнікамі мытні пераходу «Брузгі». Пасля дагляду рэчаў У.Хільмановіч яшчэ гадзіну чакаў акта мытнага дагляду. Пасля гэтага яму аддалі пашпарт, пасадзілі на іншы аўтобус і больш чым праз дзве з паловай гадзіны прапусцілі праз мяжу.

17 лютага гродзенскія праваабаронцы Раман Юргель, Уладзімір Хільмановіч і Віктар Сазонаў у парадку нагляду падалі скаргі на імя старшыні Гарадзенскага абласнога суда на рашэнні Ленінскага суда г. Гродна і абласнога суда, якія прызналі законным прыцягненне іх да адміністрацыйнай адказнасці за размешчаны ў інтэрнэце фотаздымак, кваліфікаваўшы гэта як несанкцыянаваны пікет. Адміністрацыйныя штрафы ў памеры паўтара мільёны кожны з праваабаронцаў мусілі заплаціць за здымак падтрымкі палітвязня, кіраўніка Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алеся Бяляцкага.

25 лютага без якіх-небудзь папярэджанняў у офіс Беларускага Хельсінкскага камітэта прыйшлі супрацоўнікі Міністэрства па падатках і зборах Рэспублікі Беларусь. Яны ўручылі кіраўніку арганізацыі Алегу Гулаку Пастанову аб арышце і (або) канфіскацыі маёмасці і Паведамленне аб правядзенні мерапрыемстваў па выяўленні маёмасці плацельшчыка. БХК павінен заплаціць у бюджэт звыш Br 284 млн. падаткаў і штрафных санкцый па выкарыстаных у 2002-2003 гг. грантах Еўракамісіі, якія

паводле міжнародных дамоў Рэспублікі Беларусь прадстаўляліся ў беспадатковым рэжыме.

## Ціск спецслужб на грамадска і палітычна актыўных грамадзян

14 лютага актывістцы «Еўрапейскай Беларусі» Юліі Сцяпанавай РУУС Фрунзенскага раёна Мінска адмовіў ва ўзбуджэнні крымінальнай справы супраць невядомых, якія напалі на яе. У афіцыйным адказе, які атрымала Юлія Сцяпанава, паведамлялася, што ў дзеяннях нападаўшых няма складу крымінальнага злачынства, а ёсць толькі адміністрацыйнае правапарушэнне, таму калі іх знойдуць, то прыцягнуць да адказнасці згодна з Адміністрацыйным кодэксам (максімум, што ім пагражае — 15 сутак арышту). У дакуменце, які атрымала Юлія Сцяпанава, таксама ўказана, што ў дзеяннях гэтых людзейназіраецца варожае стаўленне з-за грамадскай дзейнасці. Актывістка адзначае, што міліцыя сама прызнае палітычны падтэкст гэтай справы, але пры гэтым не збіраецца шукаць злачынцаў і прыцягваць іх да прапарцыйнай адказнасці. З заявай у міліцыю актывістка звярталася ў сувязі з нападам на яе 14 студзеня ўначы невядомымі ў цывільным каля ўласнага пад'езда. Нападнікі нецэнзурна лаяліся з нагоды яе палітычных перакананняў і дзейнасці па дапамозе рэпрэсаваным, кінулі тварам у снег і абрэзалі валасы.

## Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні

1 лютага ў Кобрыне быў затрыманы грамадскі актывіст Алесь Мех, калі стаяў у чарзе на флюараграфію. Падышоўшаму супрацоўніку мясцовага РАУС Анатолю Джыгу не спадабалася прыватная размова Алеся Меха з суседкай па чарзе аб новых пазыках Беларусі. А.Джыга вывеў яго з чаргі, затым на вуліцу і патэлефанаваў у КДБ. Замест чакаемай машыны з КДБ да іх пад'ехала міліцэйская «Ніва» і завезла ў Кобрынскі РАУС. Джыга пайшоў у дзяжурную частку пісаць рапарт, а да затрыманага Меха падышоў супрацоўнік КДБ, які пачаў размаўляць зусім не па дадзенай сітуацыі. Актывіст яму сказаў, што той павінен ведаць родную мову і размаўляць на ёй, калі абараняе дзяржаву. На гэтым стасункі з супрацоўнікам КДБ скончыліся, а спадара Меха завялі ў адзін з кабінетаў і запатрабавалі пісаць тлумачальную. У тлумачальнай актывіст адзначыў, што чалавек у цывільным, які ўмяшаўся ў размову і запатрабаваў выйсці разам з ім, не прадставіўся, і толькі пазней ён даведаўся, што Анатоль Джыга — супрацоўнік міліцыі.

У ноч з 1 на 2 лютага ў мінскі «Клуб 6А», дзе збіраюцца прадстаўнікі ЛГБТ, з чарговай «праверкай», ужо трэцяй за апошні месяц, прыйшлі каля дзесяці супрацоўнікаў унутраных спраў у цывільным. Быў праведзены пашпартны кантроль, прыкладна 40 чалавек было затрымана для высвятлення асобаў, усіх даставілі ў аддзяленне міліцыі. Аднаго з хлопцаў, які патрабаваў супрацоўніка міліцыі прадставіцца, сілай па зямлі павалаклі да аўтобуса, а там прычапілі наручнікамі да сядзення. Усім затрыманым забаранілі карыстацца тэлефонамі і паабяцалі трымаць да вечара. Ціск на ЛГБТ-супольнасць Беларусі пачаўся прыкладна праз тыдзень пасля падачы дакументаў на рэгістрацыю ў Міністэрства юстыцыі арганізацыі ЛГБТ.

5 лютага грамадскі актывіст з горада Бярозаўка Вітольд Ашурак атрымаў уведамленне з Лідскага раённага суда, згодна з якім ён павінен заплаціць 150 тысяч беларускіх рублёў за судовыя выдаткі, якія панёс Свіслацкі раённы суд. Справа звязана з ягоным затрыманнем 27 кастрычніка 2012 года за тое, што ў час Дня памяці паўстанцаў 1863 года трымаў бел-чырвона-белы сцяг, за што быў пакараны Свіслацкім судом трыма суткамі адміністрацыйнага арышту. Ён у належны тэрмін заплаціў грошы за харчаванне ў час зняволення. Цяпер жа ад актывіста запатрабавалі аплаціць вядзенне судовага працэсу. Да гэтага В. Ашурку прыйшоў афіцыйны ліст, у якім паведамлялася, што ён мусіць заплаціць 78 тысяч беларускіх рублёў за ўтрыманне пад арыштам у снежні 2010 года. Тады Вітольд Ашурак быў асуджаны да адміністрацыйнага арышту, праз два гады ад яго запатрабавалі заплаціць незразумелую пеню за ўтрыманне паводле пераразліку.

7 лютага актывіст «Альтэрнатывы» Дзмітрый Сільчанка быў асуджаны судом Савецкага раёна Мінска на 10 сутак арышту па артыкуле 23.34 КаАП РБ — парушэнне парадку арганізацыі ці правядзення масавых мерапрыемстваў за ўдзел у флэш-мобе на тэму афіцыйнага беспрацоўя ў Беларусі. 29 студзеня актывісты «Альтэрнатывы» на агароджы каля Камароўскага рынка замацавалі імправізаваныя манекены, якія сімвалізавалі беспрацоўных, трымаючы ў руках плакаты: «Як і іншыя 1,5 мільёны беларусаў, я з'язджаю на працу ў Маскву», «Улада мяне не заўважае», «Я нічога не магу купіць на гэтым кірмашы» і інш. Актывістаў арганізацыі выклікалі ў РАУС на прафілактычную размову, на якую з'явіўся толькі Дзмітрый Сільчанка, астатнія адмовіліся ісці на сустрэчу без адвакатаў.

12 лютага Мінскі гарадскі суд разгледзеў скаргу салігорскага актывіста грамадскай ініцыятывы «Еўрапейская Беларусь» Уладзіміра Леме-

ша на пастанову суда Першамайскага раёна Мінска, згодна з якой ён быў аштрафаваны на тры мільёны рублёў за нібыта непадпарадкаванне спецназаўцам у цывільным. Працэс доўжыўся літаральна пятнаццаць хвілін, у задавальненні скаргі адмоўлена.

16 лютага віцебскіх сябраў аргкамітэта па стварэнні партыі БХД Аляксея Кішчука і Станіслава Лаўрэнава затрымалі за акцыю салідарнасці з палітвязнямі і даставілі ў Кастрычніцкі РАУС. Акцыя праходзіла ў самым цэнтры Віцебска каля Летняга амфітэатра. Аляксей Кішчук і Станіслаў Лаўрэнаў разгарнулі расцяжку са словам «Свабоду!» і дасталі партрэты палітвязняў. І больш нічога зрабіць не паспелі, бо праз лічаныя хвіліны да іх ужо пад'ехала міліцэйская машына. Абвінавачванне прад'яўлена па арт. 23.34 КаАП — удзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве. Пачаўся судовы працэс над затрыманымі 18 лютага, да гэтага часу яны ўтрымліваліся ў ізалятары часовага ўтрымання. У сувязі з хадайніцтвамі аб удзеле ў судовым працэсе адвакатаў працэс суддзёй суда Кастрычніцкага раёна Віцебска Інай Грабоўскай быў перанесены. 21 лютага Іна Грабоўская прысудзіла Станіславу Лаўрэнаву і Аляксею Кішчуку па 30 базавых велічынь штрафу, прызнаўшы іх вінаватымі ў правядзенні несанкцыянаванай акцыі. На судовым працэсе абодва актывісты сваёй віны не прызналі, спрабуючы давесці, што выказвалі свае ўласныя меркаванні.

20 лютага ў Лідзе адбылося судовае паседжанне над Аляксандрам Калышкам, старшынём грамадскага аб'яднання «Польскай культуры зямлі Лідскай». Яго «віна» заключалася ў тым, што ён разам з сябрамі арганізацыі ўсклалі кветкі і запалілі знічкі на месцы пахавання ксяндза Адама Фалькоўскага. Гэтыя дзеянні былі кваліфікаваны як несанкцыянаванае масавае мерапрыемства. Суддзя Сяргей Піпко прызнаў старшыню грамадскага аб'яднання вінаватым у арганізацыі несанкцыянаванага мітынгу і 22 студзеня пакараў штрафам у 25 базавых велічынь.

21 лютага скульптар Генадзь Лойка каля ўваходу ў мінскую гімназію № 4 правёў акцыю супраць русіфікацыі школ з выкладаннем на беларускай мове. Ён прыйшоў з плакатам «Віншую з Днём роднай мовы. Гімназія № 4 была апошняй з беларускай мовай навучання». Затрымалі скульптара па дарозе дадому. У той жа дзень у судзе Фрунзенскага раёна Мінска Генадзя Лойку прызналі вінаватым ва ўдзеле ў несанкцыянаваным мерапрыемстве і пакаралі арыштам на 5 сутак.

24 лютага прыкладна ў 13 гадзін каля дзесяці актывістаў культурніцкаасветніцкага руху «Еўрапейскае дзеянне» затрымалі ў Мінску ў Вяснян-

цы, дзе яны сабраліся, каб паўдзельнічаць у арганізаванай прабежцы. Каля «Мінск-арэны» іх чакаў аўтазак. Супрацоўнікі міліцыі абвінавацілі актывістаў у дробным хуліганстве, ноч да суда затрыманыя правялі ў ЦІП на Акрэсціна. Суды прайшлі ў закрытым рэжыме. Анатоля Навумовіча пакаралі арыштам на 15 сутак, некаторых іншых, якія адмовіліся называць праваабаронцам свае прозвішчы, таксама пакаралі арыштам на 10 альбо 15 сутак. Адзін з актывістаў, які прызнаў сваю віну, атрымаў 2 сутак арышту.

25 лютага міліцыя Першамайскага раёна Мінска запатрабавала ад былога палітвязня Мікіты Ліхавіда адбыць 10 сутак адміністрацыйнага арышту за ўдзел у мітынгу 19 снежня 2010 года. Пра тое, што Мікіта Ліхавід мусіць самастойна прыйсці ў Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў, яму паведаміў участковы. Паводле ягоны слоў, прыйшла адпаведная папера з РУУС Першамайскага раёна, прычым не толькі на Ліхавіда, але на многіх адміністрацыйна пакараных, якія не адбылі свае тэрміны цалкам. Пры гэтым патлумачана, што тэрміну даўніны па такіх пастановах няма. Мікіта Ліхавід лічыць такое рашэнне незаконным, бо, па-першае, з моманту вынясення пастановы суда прайшло больш за два гады, а па-другое — за тыя падзеі ён адбыў пакаранне ў крымінальным парадку, а паводле заканадаўства два разы за адно правапарушэнне караць нельга.

28 лютага адзін з лідараў моладзевай арганізацыі «Zмена» Павел Вінаградаў быў арыштаваны на 7 сутак за парушэнне рэжыму прэвентыўнага нагляду суддзёй суда Маскоўскага раёна Мінска Яўгенам Хаткевічам. Арышт звязаны з удзелам П. Вінаградава ў карпаратыве «Гавары праўду» 22 лютага з нагоды трохгоддзя грамадскай кампаніі, які праходзіў у рэстарацыі «Журавінка». Згодна з умовамі нагляду, актывісту нельга наведваць месцы, дзе рэалізуецца алкагольны разліў — кавярні, рэстарацыі, бары. Павел Вінаградаў быў затрыманы, калі 28 лютага прыйшоў адзначацца ў міліцыю, яно адразу павезлі ў суд. Вінаградаў не адмаўляў, што прысутнічаў на святкаванні.

## Абмежаванні свабоды слова і права на распаўсюд інфармацыі, пераслед журналістаў

4 лютага Міністэрства інфармацыі паўторна адхіліла просьбу часопіса «ARHE» перарэгістравацца з новым заснавальнікам. Па словах выконваючага абавязкі галоўнага рэдактара «ARHE -Пачатак» Алеся Пашкевіча, гэтым разам міністэрства не задаволіла сама працэдура падачы дакументаў, хаця яна цалкам паўтарала мінулую спробу.

6 лютага, у першы дзень Міжнароднай кніжнай выставы ў Мінску, была запланавана прэзентацыя новага рамана Уладзіміра Някляева на стэндзе польскай амбасады сярод кніг-фіналістаў літаратурнай прэміі імя Гедройца. Да супрацоўнікаў польскай амбасады падышлі арганізатары выставы і забаранілі прэзентаваць кнігу У.Някляева, але прэзентацыя пачалася імправізавана. У хуткім часе да вядучага, паэта Андрэя Хадановіча, падышлі супрацоўнікі аховы і далі пяць хвілін на згортванне імпрэзы. Адначасова на стэндзе кнігарні «Логвінаў» арганізатарамі выставы была забароненая аўтограф-сесія Уладзіміра Някляева.

14 лютага старшыня Віцебскай абласной рады Партыі БНФ Леанід Аўтухоў звярнуўся да дырэктара тэлерадыёкампаніі «Віцебск» Анатоля Камовіча з прапановай стварыць новую тэлеперадачу грамадска-палітычнай накіраванасці. У адказ А.Камовіч даслаў ветлівую адмову, спаслаўшыся на недахоп фінансавання. «Ваша прапанова вельмі слушная, але ж стварэнне новых праектаў у гэтым годзе кампаніяй не запланавана з прычыны недахопу фінансавых сродкаў», — гаворыцца ў лісце за подпісам дырэктара ТРК «Віцебск». На думку Л.Аўтухова, падобная праграма на тэлебачанні цалкам адпавядала б прадэклараванаму праву на свабодны доступ да інфармацыі, якое нібыта існуе ў Беларусі. Між тым такой праграмы на віцебскім тэлебачанні не было ні летась, ні пазалетась, ні 10 гадоў таму. І не з фінансавых прычын, а з ідэалагічных.

15 лютага стала вядома, што Беларусь увайшла ў лік дзесяці найбольш цэнзураваных краін свету. Такую выснову зрабіў міжнародны Камітэт у абарону журналістаў (CPJ). CPJ адзначае, што Аляксандар Лукашэнка кіруе найбольш «цэнзураванай» краінай свету, працягвае палітыку задушэння крытычнай журналістыкі і падаўлення свабоды меркаванняў.

18 лютага незалежнага тэлеаператара Аляксандра Баразенку папрасілі з'явіцца ў Мінскую гарадскую пракуратуру 20 лютага «ў межах праверкі». Адпаведная позва была накіравана журналісту па месцы прапіскі. Падчас размовы ў пракуратуры ў Баразенкі пыталіся пра ягоную працу на тэлеканале «Белсат», але ён адмовіўся нешта тлумачыць, спаслаўшыся на артыкул 27 Канстытуцыі, які дазваляе грамадзянам не сведчыць супраць сябе. «Мне выдалі паперу, у якой адзначаецца, што я нібыта парушыў Закон аб СМІ, працуючы без акрэдытацыі, што я з'яўляюся супрацоўнікам тэлеканала «Белсат». Я не згодны з гэтым папярэджаннем, бо такія палажэнні закону парушаюць мае канстытуцыйныя правы на збор і распаўсюд інфармацыі. Але гэта тая дадзенасць, з якой даводзіцца лі-

чыцца, таму я не буду абскарджваць гэтае папярэджанне, бо ведаю, што гэта бессэнсоўна»- паведаміў Аляксандр Баразенка.

25 лютага наваполацкаму актывісту Яўгену Парчынскаму па тэлефоне прыгразіў «непрыемнасцямі» невядомы, які не назваў свайго імя, але заявіў, што ён «з гарадской адміністрацыі». Невядомы «параіў» прыбраць з мясцовага незалежнага сайта артыкул «Новополоцкие власти опять испугались», сказаўшы, што ў адваротным выпадку «будуць непрыемнасці». У артыкуле гаворыцца пра тое, што мясцовым актывістам у чарговы раз не далі дазволу на правядзенне пікета. Такі стан рэчаў, калі людзі не могуць скарыстацца сваім правам на свабоду выказвання сваіх думак і меркаванняў, аўтар лічаць ненармальным. Таксама ў артыкуле напісана, што пры ранейшым кіраўніку горада дазвол на акцыю атрымаць было яшчэ можна. Але цяпер, калі старшынёй гарвыканкама стала Наталля Качанава, правесці нейкую акцыю стала немагчыма, і адмовы паўтараюцца раз за разам.

27 лютага ўчастковы інспектар, старэйшы лейтэнант міліцыі Сяргей Карыткін склаў два пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні на грамадскага актывіста з Бялыніцкага раёна Валерыя Вусіка. Першы пратакол быў складзены за быццам бы меўшы факт паклёпа ў адносінах да старшыні СВК «Лебедзянка» Пятра Бялова, другі — за распаўсюд незалежнай газеты «Магілёўскі Выбар», якая распаўсюджваецца быццам бы з парушэннем арт. 17 Закона аб СМІ.

28 лютага ў другой палове дня каля Акадэміі навук у Мінску супрацоўнікі міліцыі затрымалі журналістаў БелаПАН Васіля Сямашку, Ганну Афоніну і Сяргея Сацюка, якія ладзілі відэаапытанне наконт таго, каго гатовыя грашова падтрымаць грамадзяне: уладу ці апазіцыю. Затрыманых даставілі ў РУУС Першамайскага раёна Мінска, дзе супрацоўнікі міліцыі перапісалі іх пашпартныя дадзеныя, прагледзелі адзнятае відэа, нічога не выдалялі, а потым адпусцілі. На развітанне міліцыянты Першамайскага РАУС параілі ім наступным разам ладзіць свае апытанні на тэрыторыі іншага раёна.

## Абмежаванне свабоды сходаў

7 лютага баранавіцкі прадпрымальнік і грамадскі актывіст Мікалай Чарнавус атрымаў ліст за подпісам намесніка старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Д. Касцюкевіча, у якім паведамлялася, што гарвыканкам не дае згоды на правядзенне мітынга 12 лютага. У лісце з гарвыканкама гаворыцца, што «асобы, якія дапусцілі парушэнне парадку арганізацыі ці

правядзення масавага мерапрыемства на працягу 1 года пасля накладання адміністрацыйнага спагнання за такое парушэнне, не могуць выступаць арганізатарамі масавых мерапрыемстваў.»

25 лютага стала вядома, што сябра КХП БНФ Ян Дзяржаўцаў змагаецца за права выказваць свае меркаванні падчас пікетаў ды іншых масавых акцый. Парадак правядзення гэтых мерапрыемстваў рэгламентуецца рашэннем Віцебскага гарвыканкама № 881. Апазіцыянер спрабаваў судзіцца з УКВП «Віцебская гарадская ЖКГ» — арганізацыяй, якая, на яго думку, парушае рашэнне гарвыканкама і перашкаджае рэалізацыі права на свабоду выказванняў, адмаўляючыся заключаць дамовы на абслугоўванне падчас масавых мерапрыемстваў. Ян Дзяржаўцаў спрабуе ці абавязаць дадзеную ўстанову да заключэння дамоў, ці ўдасканаліць само рашэнне гарвыканкама, змест якога выклікае супярэчнасці.

27 лютага галоўны ідэолаг Салігорскага райвыканкама Мікалай Маскевіч забараніў правядзенне пікета ў падтрымку будаўніцтва новай гарадской палiклiнiкi. Адпаведная заява 8 лютага была накiравана мясцовым уладам, заяўнiкам выступаў сябра Аб'яднанай грамадзянскай партыi Вiктар Малочка. Пiкет па зборы подпiсаў грамадзян пад зваротам да ўладаў мясцовага i нацыянальнага ўзроўню з патрабаваннем будаўнiцтва ў сталiцы гарнякоў новай сучаснай палiклiнiкi планавалася правесцi 2-га сакавiка ў цэнтры горада каля ўнiвермага «Салiгорск». У заяве адзначалася, што падчас парламенцкiх выбараў 2012 года i прэзiдэнцкiх выбараў 2010 года збор подпiсаў у дадзеным месцы быў дазволены. Аднак гэты аргумент не пераканаў намесніка старшыні Салігорскага выканкама па ідэалагічнай працы. Спадар Маскевiч адмовiў у правядзеннi пiкета ў сувязi з неадпаведнасцю месца яго правядзення рашэнню Салiгорскага райвыканкама «Аб мерах па папярэджаннi надзвычайных здарэнняў i захаваннi законнасцi пры правядзеннi масавых мерапрыемстваў».

27 лютага стала вядома, то Камітэт па правах чалавека ААН зарэгістраваў адну са скаргаў сябраў партыі левых «Справядлівы свет» са Жлобіна на забарону правядзення пікетаў у 2012 годзе мясцовым райвыканкамам. Кіраўнік раённай партыі «Справядлівы свет» Валеры Рыбчанка адзначыў, што ў Камітэт па правах чалавека ААН яны накіравалі дзве скаргі. Адна з іх датычылася забароны мясцовымі ўладамі пікетаў у падтрымку палітзняволеных у 2012 годзе — яе і зарэгістравалі. Другую скаргу, якая датычылася фальсіфікацый прэзідэнцкіх выбараў 2010 года і звароту сябраў партыі ў розныя інстанцыі з гэтай нагоды, папрасілі пракаментаваць больш падрабязна.

## Абмежаванне свабоды асацыяцый

7 лютага на прэс-канферэнцыі міністр юстыцыі Беларусі Алег Сліжэўскі паведаміў, што Міністэрства юстыцыі адмовіла ў рэгістрацыі ў 2012 годзе 19 грамадскім аб'яднанням, сярод якіх — дзве палітычныя партыі: «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» і «Беларуская камуністычная партыя працоўных». Міністр адзначыў, што ініцыятары стварэння грамадскіх аб'яднанняў не вельмі стараліся і рыхтаваліся да мерапрыемстваў, якія неабходна правесці па заканадаўству для заснавання аб'яднанняў. А. Сліжэўскі паведаміў, што па выніках 2012 года ў Беларусі з'явілася 111 новых грамадскіх аб'яднанняў, зарэгістраваны 4 саюзы (асацыяцыі) грамадскіх аб'яднанняў, 29 новых аргструктур палітычных партый.

8 лютага ў лісце за подпісам начальніка ўпраўлення па пытаннях некамерцыйных арганізацый Міністэрства юстыцыі Алены Кірычэнкі атрымана адмова ў дзяржаўнай рэгістрацыі Рэспубліканскага маладзёжнага грамадскага аб'яднання «Праваабарончы цэнтр «Лямбда» (пад такой назвай у другі раз спрабаваў легалізавацца Праваабарончы праект «Гей-Беларусь»). Прычынай для адмовы названа тое, што «прадстаўлены статут РМГА «Праваабарончы цэнтр «Лямбда» не ўтрымлівае палажэнняў, якія сведчаць аб тым, што статутная дзейнасць дадзенага грамадскага аб'яднання будзе накіравана на забеспячэнне сацыяльнага станаўлення і ўсебаковага развіцця моладзі».

14 лютага Міністэрства юстыцыі Беларусі адмовіла ў рэгістрацыі грамадскага аб'яднання «Маладыя хрысціянскія дэмакраты». Месяц таму Мінюст прыпыніў рэгістрацыю арганізацыі ў сувязі з патрабаваннем падаць дадатковыя дакументы, у прыватнасці, паперы, на якіх фіксавалася рэгістрацыя ўдзельнікаў з'езда, а таксама дамову аб арэндзе памяшкання для правядзення з'езда. У аргкамітэце аб'яднання палічылі, што перадача гэтых дакументаў у міністэрства не прадугледжана заканадаўствам, таму не сталі выконваць гэтае патрабаванне. Устаноўчы з'езд арганізацыі «Маладыя хрысціянскія дэмакраты» прайшоў у Мінску 3 лістапада 2012 года.

21 лютага Асамблея няўрадавых дэмакратычных арганізацый і Цэнтр прававой трансфармацыі выпусцілі гадавы агляд «Свабода асацыяцый і прававы стан некамерцыйных арганізацый у Беларусі» за 2012 год. Як адзначана ў аглядзе, «у 2012 годзе магчымасці для рэалізацыі свабоды асацыяцый у Беларусі не пашырыліся. На ўзроўні прававога рэгулявання, нягледзячы на ўвядзенне асобных пазітыўных норм, не было зафіксавана значных змяненняў, якія паляпшаюць альбо пагаршаюць становішча

некамерцыйных арганізацый. На ўзроўні правапрымяняльнай практыкі захаваліся ранейшыя негатыўныя трэнды, пры гэтым іх інтэнсіўнасць не змянілася». Асобна Цэнтр правовой трансфармацыі падрыхтаваў аналіз рэгістрацыі грамадскіх аб'яднанняў у 2012 годзе і спісы зарэгістраваных і ліквідаваных на працягу года некамерцыйных арганізацый.

25 лютага стала вядома, што яшчэ аднаму прафсаюзнаму актывісту прадпрыемства «Граніт» пагражае звальненне. Адміністрацыя настойліва спрабуе знайсці парушэнні ў працы памочніка экскаватаршчыка Леаніда Дубаносава, які з'яўляецца сябрам мясцовай суполкі Беларускага незалежнага прафсаюза. Кожны дзень на працоўнае месца Дубаносава прыходзіла адмысловая камісія, якая цягам аднаго дня прымусіла рабочага скласці две тлумачальныя пра нібыта выяўленыя хібы ў ягонай працы. Леанід Дубаносаў, які працуе на «Граніце» амаль 20 гадоў і дагэтуль не меў ніякіх заўваг ад кіраўніцтва прадпрыемства, лічыць, што актыўнасць адміністрацыі звязана з тым, што ягоны працоўны кантракт сканчаецца 2 траўня. Паколькі Леанід збіраецца сыходзіць у адпачынак, спагнанне яму хочуць вынесці да сыходу ў адпачынак, каб пазней (за месяц да заканчэння кантракта) абвесціць, што працоўныя адносіны з ім не будуць працягнутыя з-за выяўленых парушэнняў.

# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Сакавік

Сакавік адзначыўся актывізацыяй дыпламатычных стасункаў паміж структурамі і краінамі Еўрапейскага Саюза і беларускім афіцыйным бокам, што з'яўлялася важным аспектам для разумення перспектыў развіцця сітуацыі з правамі чалавека, улічваючы моцную залежнасць дадзенай сферы ад знешнепалітычнага фактара. Нягледзячы на агучаныя заявы еўрачыноўнікаў па выніках кантактаў з беларускім бокам, у асноўным прынцыповым пытанні — вызваленні палітвязняў пазітыўных зменаў не адбылося. Як станоўчыя крокі беларускіх уладаў можна адзначыць спыненне крымінальнай справы па абвінавачанні ў паклёпе на прэзідэнта супраць журналіста Андрэя Пачобута, а таксама адмова УДФР ад узбуджэння крымінальнай справы супраць рэдакцыі часопіса «Архэ-Пачатак». Такім чынам, беларускі бок заняў прамежкавую пазіцыю: не прадпрыняў практычных захадаў па вырашэнні асноўнай праблемы, якая артыкулюецца ЕС як перадумова для ўзнаўлення паўнавартасных стасункаў з афіцыйным Мінскам, але спыніў практыку далейшай канфрантацыі, даўшы зразумець, што гатовы ўстрымацца ад пашырэння спісу палітвязняў.

Найбольш аптымістычныя заявы, датычныя перспектывы вызвалення палітвязняў, былі агучаны дакладчыкам па Беларусі Еўрапейскага парламента Юстасам Палецкісам, які з 18 па 21 сакавіка знаходзіўся ў Мінску з мэтай збору матэрыялаў для свайго даклада для дэпутатаў ЕП. Ю. Палецкіс па выніках візіту адзначыў, што ўздымаў праблему палітвязняў на ўсіх сустрэчах, найперш з афіцыйнымі беларускімі чыноўнікамі. «І зараз, наколькі я зразумеў, Мінск не з'яўляецца больш закасцянелым і не гатовым вырашаць гэтыя пытанні. На мой погляд, гэта цалкам магчыма. Але калі і як гэта адбудзецца, пакуль вельмі цяжка сказаць». Каментуючы змест даклада, Ю.Палецкіс пазначыў ключавую праблему ў адносінах Беларусі з ЕС: «Аб сітуацыі з палітвязнямі абавязкова будзе сказана ў дакладзе ў раздзеле аб правах чалавека. Гэта само сабой зразумела — пакуль у Беларусі ёсць палітзняволеныя і ўлада не праяўляе жадання вырашаць гэтыя пытанні, супрацоўніцтва з ЕС будзе ісці з вялікімі перашкодамі і вялікімі стратамі для абодвух бакоў». Прэс-сакратар знешнепалітычнага ведамства Андрэй Савіных у сваю чаргу заявіў, што беларускі бок разлічвае, што даклад еўрадэпутата Юстаса Палецкіса дапаможа ў актывізацыі дыялогу паміж Мінскам і Брусэлем «ці, як мінімум, палепшыць паразуменне паміж намі», удакладніўшы, што «мы зацікаўлены ў развіцці адносін з Еўрасаюзам на раўнапраўнай і празрыстай аснове».

Што азначаюць агучаныя беларускім МЗС умовы, не было растлумачана, але калі гэта працяг адстойвання пазіцыі прагматычнага дыялогу, то гэта зніжае магчымасць пазітыўных зменаў, паколькі наяўнасць палітвязняў па-ранейшаму заставалася асноўнай перашкодай для наладжвання стасункаў Еўрапейскага Саюза і афіцыйнага Мінска.

Тое, што дадзеная пазіцыя застаецца нязменнай, было пацверджана і амбасадарам Італіі Арнальдам Абеці падчас сустрэчы з журналістамі 22 сакавіка ў Мінску. «Вызвалення беларускіх палітвязняў чакае не толькі Еўразвяз, але і ўвесь свет». Пры гэтым ён адзначыў: працягваючы настойваць на вызваленні палітвязняў, ЕС таксама шукае «іншыя каналы для выпраўлення сітуацыі, якая нікому не прыносіць карысці». Сітуацыя ў адносінах Беларусі і ЕС была абмеркавана 25 сакавіка падчас сустрэчы намесніка міністра замежных спраў Беларусі Алены Купчынай з кіраўніком прадстаўнітва ЕС у Беларусі Майрай Морай. І хаця беларускі МЗС па выніках сустрэчы паведаміў коратка, што «падчас размовы бакі абмяняліся думкамі аб сітуацыі і перспектывы развіцця адносінаў паміж Беларуссю і Еўрапейскім Саюзам», ёсць падставы лічыць, што пытанне палітвязняў было адным з ключавых у гэтай размове. Сітуацыя з правамі чалавека, а таксама пытанні вызваленні і рэабілітацыі палітвязняў у Беларусі абмяркоўваліся таксама падчас беларуска-літоўскіх кансультацый паміж МЗС 28 сакавіка ў Мінску.

У пачатку сакавіка Міжнародная Федэрацыя за правы чалавека (FIDH) і Праваабарончы цэнтр «Вясна» выказалі глыбокую занепакоенасць не толькі тым, што палітвязні па-ранейшаму знаходзяцца за кратамі, але і абурэнне масавымі і сістэматычнымі актамі ціску і рэпрэсій, якім падвяргаюцца людзі, абмежаваныя ў правах па палітычных прычынах. Так, на сакавік 2013 года ў Беларусі 11 палітычных зняволеных заставаліся ў месцах пазбаўлення ці абмежавання волі (І.Аліневіч, М.Аўтуховіч, А.Бяляцкі, Я.Васьковіч, Д.Дашкевіч, М.Дзядок, Э.Лобаў, А.Пракапенка, П.Севярынец, М.Статкевіч, А.Францкевіч); 2 чалавекі адбывалі пакаранне ў выглядзе абмежавання волі без накіравання ва ўстановы адкрытага тыпу (Д.Мядзведзь, С.Барановіч); 8 асоб адбывалі пакаранне ў выглядзе ўмоўных тэрмінаў ці пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання прысудаў (С.Вазняк, А.Дзмітрыеў, С.Марцалеў, У.Някляеў, А.Пачобут, В.Рымашэўскі, А.Фядута, І.Халіп); 3 чалавекі заставаліся ў статусе абвінавачаных па крымінальных артыкулах (А.Міхалевіч, А.Сурапін, С.Башарымаў); заставаўся ў следчым ізалятары КДБ А. Гайдукоў, абвінавачанне якога можа быць палітычна матываваным; 3 былыя палітвязні знаходзіліся пад устаноўленым судамі прэвентыўным наглядам (П.Вінаградаў, В.Парфянкоў, У.Яроменак); у адносінах 25 памілаваных ці вызваленых датэрмінова

ажыццяўляўся прафілактычны нагляд. FIDH і ПЦ «Вясна» падрыхтавалі адпаведную аналітычную запіску, якая была перададзена Спецыяльнаму дакладчыку па Беларусі пры Савеце па правах чалавека ААН, Еўрапейскаму камісару па пытаннях пашырэння і палітыкі добрасуседства Штэфану Фюле, адпаведным тэматычным інстанцыям ААН, АБСЕ і іншым міжнародным механізмам па абароне правоў чалавека. Міжнародная Федэрацыя за правы чалавека (FIDH) і Праваабарончы цэнтр «Вясна» запатрабавалі ад беларускіх уладаў спыніць ганебную рэпрэсіўную практыку; вызваліць і зняць судзімасць з усіх незаконна асуджаных, а таксама перагледзець справы, у якіх відавочны палітычны складнік, і зняць з раней вызваленых ахвяраў палітычна матываванага пераследу ўсе абмежаванні ў правах.

Важнейшай падзеяй не толькі для беларускай, але і сусветнай праваабарончай супольнасці стала прыняцце 21 сакавіка Саветам па правах чалавека ААН беспрэцэдэнтнай рэзалюцыі з мэтай пакласці канец фінансаваму ўдушэнню праваабарончых НДА. Гэтая рэзалюцыя стала моцным адказам усё большай тэндэнцыі скарачэння — а часам і крыміналізацыі — дзейнасці праваабаронцаў, што абмяжоўвае іх права на доступ да фінансавання, асабліва, калі яно паходзіць з замежных краін. Рэзалюцыя, пададзеная Нарвегіяй у суаўтарстве з 62 іншымі дзяржавамі, сцвярджае, што «ніякі закон не мусіць крыміналізаваць або пазбаўляць легітымнасці дзейнасць у абарону правоў чалавека з прычыны паходжання фінансавання». Гэтая рэзалюцыя зацвердзіла і ўмацавала папярэднія высновы праваабарончых механізмаў ААН па прызнанні неадпаведнасці абмежавальных і рэпрэсіўных метадаў і законаў міжнароднаму заканадаўству ў галіне правоў чалавека. Гэта было прадэманстравана нядаўнім рашэннем Працоўнай групы ААН па адвольных затрыманнях (WGAD) у справе Алеся Бяляцкага, якое пацвердзіла , што Беларусь у парушэнне сваіх міжнародных абавязацельстваў умешваецца ў фінансаванне дзейнасці праваабарончых НДА, і заклікала Беларусь неадкладна вызваліць А. Бяляцкага, арышт якога быў прызнаны адвольным. Усе адпаведныя механізмы ААН павінны зараз абапірацца на гэты тэкст дзеля ўзмацнення абароны праваабаронцаў, якія сталі мішэнню для заканадаўства і практыкі па абмежаванні іх законнай дзейнасці ў многіх краінах.

Перад прыняццем рэзалюцыі Саветам па правах чалавека ААН Абсерваторыя па абароне правоў праваабаронцаў, сумесная праграма Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH) і Сусветнай арганізацыі супраць катаванняў (OMCT), выпусціла ўсебаковае даследаванне па абмежаваннях на доступ праваабаронцаў да фінансавання, якое паказвае, як урады па ўсім свеце ўсё часцей ствараюць перашкоды доступу

НДА да фінансавання, у прыватнасці, замежнага. Дзяржавы звяртаюцца да абмежавальных законаў, паклёпніцкіх кампаній і судовага пераследу праваабаронцаў як спосабу падавіць любую крытыку; сярод іх Алжыр, Бангладэш, Бахрэйн, Беларусь, Егіпет, Расія, разам з Азербайджанам, Эфіопіяй, Індыяй і многімі іншымі ўва ўсіх рэгіёнах свету.

## Палітычныя зняволеныя, крымінальны пераслед грамадскіх актывістаў

1 сакавіка Валянціна Аліневіч, маці палітычнага зняволенага Ігара Аліневіча, паведаміла, што адміністрацыя Наваполацкай калоніі № 10 затрымлівае карэспандэнцыю ад сына. Яна адзначыла, што праблемы з лістамі былі і раней, і ёй незразумела, чаму так адбываецца, бо перапісваюцца яны з сынам на агульныя і нейтральныя тэмы. У сярэдзіне сакавіка выйшла кніга Ігара Аліневіча «Еду ў Магадан», у якой у выглядзе дзённікаў аўтар апавядае пра падзеі ў Беларусі з канца 2010 года, пра сістэму правасуддзя, палітвязняў і анархічны рух, пра свой арышт і зняволенне ў СІЗА КДБ.

6 сакавіка жонка экс-кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава Ірына Халіп, асуджаная на два гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання пакарання на два гады за ўдзел у акцыі пратэсту ў Мінску 19 снежня 2010 года, вылецела ў Варшаву. Ірыне Халіп дазволілі часовы выезд з Беларусі, каб наведаць мужа і рэдакцыю «Новой газеты» у Расіі, карэспандэнтам якой яна з'яўляецца. Дазвол быў выдадзены 13 лютага крымінальна-выканаўчай інспекцыяй Партызанскага РУУС Мінска, дзе яна стаіць на ўліку. 3 красавіка І. Халіп вярнулася ў Беларусь.

На пачатку сакавіка Amnesty International падвяла вынікі Марафону ў падтрымку Алеся Бяляцкага, які прайшоў па ўсім свеце. Агулам па ўсім свеце было прынята 104,731 мер у падтрымку беларускага праваабаронцы, якога арганізацыя прызнала вязнем сумлення. Удзельнікі глабальнай кампаніі выказалі сваю падтрымку зняволенаму кіраўніку ПЦ «Вясна», віцэ-прэзідэнту Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH) рознымі спосабамі — напісаннем лістоў салідарнасці, падпісаннем петыцый за вызваленне Алеся Бяляцкага на адрас беларускіх уладаў, а таксама творчымі акцыямі, у тым ліку канцэртамі і светлавымі праекцыямі. 6 сакавіка ў Мінску адбылася прэзентацыя кнігі Алеся Бяляцкага «Асьвечаныя Беларушчынай», якая складаецца з літаратуразнаўчых эсэ і нарысаў пра беларускіх пісьменнікаў. Аўтар задумваў выпусціць гэтае выданне да свайго 50-годдзя, аднак яно пабачыла свет падчас знаходжання права-

абаронцы за кратамі. Частка эсэ напісана А. Бяляцкім ужо ў знавoленні. 30 сакавіка з кватэры Алеся Бяляцкага судовыя выканаўцы пачалі забіраць рэчы, якія былі раней апісаныя. Жонка палітвязня Наталля Пінчук паведаміла, што напярэдадні з іх кватэры судовы выканаўца забраў тэлевізар, які быў апісаны яшчэ перад судом.

11 сакавіка стала вядома, што следства па справе наваполацкага актывіста, абвінавачанага ў «здрадзе дзяржаве шляхам агентурнай дзейнасці» Андрэя Гайдукова працягнулі яшчэ на месяц — да 8 красавіка. Пра гэта паведаміла ягоная маці Вольга Гайдукова, дадаўшы, што ніякіх іншых падрабязнасцяў гэтай справы не ведае. Следства цягнецца ўжо пяты месяц. Адзінае станоўчае, што адбылося па дадзенай справе — да Андрэя Гайдукова пачалі бесперашкодна пускаць адваката.

11 сакавіка палітвязень Аляксандр Францкевіч пасля 20 сутак у ШЫЗА быў пераведзены ў памяшканне крытага тыпу (ПКТ) Івацэвіцкай калоніі №22 да канца тэрміна адбыцця пакарання (павінен выйсці на волю ў верасні 2013 года). Палітвязень таксама да канца тэрміна пазбаўлены перадач і спатканняў, ён можа атрымліваць толькі бандэролі. ПКТ — памяшканне, дзе ўтрымліваюцца 4 чалавекі, прагулка дазволена на працягу гадзіны ў дзень.

13 сакавіка Віялета Пракапенка, маці палітычнага вязня Арцёма Пракапенкі, паведаміла, што кіраўніцтва Магілёўскай калоніі раіла сыну напісаць прашэнне аб памілаванні на імя Аляксандра Лукашэнкі, але ён адмовіўся. Праз тыдзень, 20 сакавіка, родныя паведамілі, што Арцёма кінулі ў штрафны ізалятар нібыта за парушэнне рэжыму на 5 сутак і пазбавілі чарговай 30-кілаграмовай перадачы. У знак пратэсту хлопец галадаў на працягу пяці дзён, праведзеных у штрафным ізалятары, ён не ўжываў турэмную ежу (ён вегетарыянец, і з турэмнай ежы спажывае толькі кашы).

15 сакавіка суд Першамайскага раёна Мінска на 6 месяцаў працягнуў прэвентыўны нагляд у дачыненні да былога палітвязня, актывіста «Маладога Фронта» Уладзіміра Яроменка — да 15 верасня 2013 года. Прэвентыўны нагляд над У. Яроменкам быў устаноўлены 15 сакавіка 2012 года, аднак за гэты час актывіст двойчы прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці за нібыта парушэнне грамадскага парадку. Рашэнне вынесла суддзя Ярмоленкава з удзелам пракурора Ермаковай. 20 сакавіка ў судзе Першамайскага раёна Мінска паўторна разглядалася справа Уладзіміра Яроменкі, якога 24 студзеня пакаралі 12 суткамі

адміністрацыйнага арышту за парушэнне прэвентыўнага нагляду. Не пагадзіўшыся з пастановай суда, У.Яроменак абскардзіў яе ў Мінгарсудзе, які адмяніў дадзенае рашэнне і накіраваў справу на новы разгляд у той жа суд да іншага суддзі. Падчас паўторнага разгляду суддзя Ганна Паскевіч, далучыўшы да ранейшых двух фактаў парушэнняў нагляду яшчэ адзін, прысудзіла яму ў канчатковым варыянце 15 сутак арышту. Паколькі 12 сутак Яроменак адбыў раней, яму заставалася адбыць яшчэ трое сутак адміністрацыйнага арышту. 24 сакавіка У. Яроменак павінен быў выйсці на волю, але з Цэнтра ізаляцыі правапарушальнікаў яго забралі супрацоўнікі Першамайскага РУУС і даставілі ў аддзел, дзе пратрымалі да 15 гадзін, каб актывіст не патрапіў на акцыю, прымеркаваную да Дня Волі.

15 сакавіка ўпраўленне Следчага камітэта Беларусі па Гродзенскай вобласці завяршыла расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да журналіста польскай «Gazety Wyborczej» Анддрэя Пачобута па абвінавачанні ў паклёпе на прэзідэнта. «У сувязі з тым, што высновы лінгвістычных экспертыз разыходзяцца, а падчас папярэдняга следства не здабыта аб'ектыўных дадзеных, якія пацвярджаюць здзяйсненне Пачобутам злачынства, вынесена пастанова аб спыненні папярэдняга расследавання ў сувязі з недаказанасцю ўдзелу абвінавачанага ў здзяйсненні злачынства». У сувязі з гэтым у адносінах да А. Пачобута была адмененая мера стрымання ў выглядзе падпіскі аб нявыездзе.

22 сакавіка палітвязня Эдуарда Лобава пазбавілі грошай у калоніі нібыта за парушэнне рэжыму. Маці палітвязня Марына Лобава адзначыла, што яго ўжо каралі падобным чынам па гэтай жа падставе, і тэрмін пакарання падыходзіў да канца, але цяпер начальства ўзгадала яму правіны за пачатак гэтага года. Па яе словах, Э. Лобаў на працягу паўгода зможа атрымліваць толькі па 100 тысяч у месяц, менш за дзесяць еўра. М. Лобава паведаміла, што на працягу больш чым паўтары гады Эдуарду не даюць магчымасці залячыць зубы, а яму трэба паставіць дзве пломбы. Маці дамовілася з мясцовым стаматолагам, што набудзе добрыя пломбы, кіраўніцтва калоніі спачатку дало дабро на перадачу, але потым адмовілася яе прымаць.

28 сакавіка палітвязня Мікалая Дзядка ў магілёўскай турме наведаў адвакат. У выніку стала вядома, што зняволены адбыў 6 сутак у карцэры. Прычыну змяшчэння ў карцар адміністрацыя калоніі не назвала, адзначыўшы, што нібыта Мікалай перамяшчаўся ў камеры і парушаў парадак. Паводле адваката, М. Дзядок на здароўе не скардзіцца.

27 сакавіка Сяргею Марцалеву, які адбывае пакаранне ў выглядзе 2 гадоў пазбаўлення волі ўмоўна з выпрабаваўчым тэрмінам у 2 гады за ўдзел у акцыі 19 снежня 2010 года, было адмоўлена ў выездзе за мяжу для лячэння. С.Марцалева судзілі разам з Ірынай Халіп, якой дазволілі выезд за мяжу для сустрэчы з мужам, і таму ён спадзяваўся, што таксама атрымае дазвол на выезд. Для асуджаных з выпрабаваўчым тэрмінам існуе тры прычыны, па якіх іх могуць выпусціць за мяжу: смерць блізкага сваяка за мяжой, удзел у судовым працэсе ў іншай дзяржаве і выезд па стане здароўя. Да сваёй заявы Марцалеў дадаў медычныя даведкі, аднак у адмове з інспекцыі па выкананні пакаранняў указвалася, што 9-я гарадская паліклініка Мінска не пабачыла неабходнасці ў лячэнні С.Марцалева за мяжой.

### Смяротнае пакаранне

13 сакавіка, да гадавіны выканання прысудаў у дачыненні да Дзмітрыя Канавалава і Уладзіслава Кавалёва, пакараных смерцю па абвінавачанні ў здзяйсненні тэракту ў мінскім метро ў 2011 годзе, адбылася прэс-канферэнцыя з удзелам маці Уладзіслава Кавалёва і праваабаронцаў. Любоў Кавалёва паведаміла, што нарэшце атрымала адказ на наглядную скаргу з Вярхоўнага суда, якую адвакат падаў яшчэ ў верасні 2012 года. Адказ за подпісам старшыні Вярхоўнага суда адшукаўся ў юрыдычнай кансультацыі № 2 Ленінскага раёна Мінска, у якой працуе адвакат. Высветлілася, што ён быў складзены яшчэ ў лістападзе 2012 года. «Вярхоўны суд у асобе старшыні Сукалы не знайшоў ніякіх парушэнняў норм Крымінальна-працэсуальнага кодэкса. У ім значыцца, што Уладу было дадзена дастаткова часу для абароны», — указана ў адказе. Праваабаронца Раман Кісляк адзначыў, што важна высветліць, якая структура выконвала смяротны прысуд у дачыненні да Канавалава і Кавалёва: гэта можа быць або следчы ізалятар № 1 МУС, дзе звычайна ўтрымліваюцца «смяротнікі», або СІЗА КДБ, у якім знаходзіўся Кавалёў. «Устанаўленне органа, які прывёў у выкананне прысуд, неабходна, каб разумець, як дзейнічаць далей, ад каго дамагацца адказаў», — сказаў Р.Кісляк. Наступным дзеяннем, паводле яго слоў, стане патрабаванне аб раскрыцці месца пахавання У.Кавалёва. Р. Кісляк таксама заявіў, што праваабаронцы маюць намер дамагацца выключэння з заканадаўства Беларусі нормы, згодна з якой цела пакаранага смерцю не выдаецца сваякам, спасылаючыся на рашэнне Камітэта па правах чалавека ААН па справе Кавалёва, дзе адзначаецца: утойванне падобнай інфармацыі ад сваякоў пакараных з'яўляецца «бесчалавечным абыходжаннем».

## Гвалтоўныя знікненні

16 сакавіка падчас імпрэзы, прысвечавнай памяці зніклых палітыкаў Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага і журналіста Дзмітрыя Завадскага, а таксама памерлага пры нявысветленых абставінах Генадзя Карпенкі, пачалося публічнае падпісанне петыцыі, складзенай праваабаронцам Гары Паганяйлам у Генпракуратуру, з патрабаваннем расследавання гэтых спраў.

## Пераслед праваабаронцаў і праваабарончыя арганізацыі

4 сакавіка стала вядома, што ў дачыненні да кіраўніка праваабарончай установы «Платформа» Андрэя Бандарэнкі можа быць распачатая крымінальная справа за «паклёп на адрас супрацоўнікаў міліцыі» ў сувязі з абнародаваннем у лютым інфармацыі пра здзекі супрацоўнікаў Лідскага РАУС над Багданам і Іванам Шкурко. Андрэй Бандарэнка даведаўся, што яго шукае міліцыя г. Кіраўск (Магілёўскай вобласці), дзе ён афіцыйна прапісаны. Пры гэтым ніякіх позваў па месцы прапіскі не прыходзіла, супрацоўнікі міліцыі тэлефанавалі бацьку Андрэя і настойліва прасілі перадаць сыну, што яго чакаюць у РАУС. Не дачакаўшыся з'яўлення А. Бандарэнкі, кіраўскія міліцыянеры накіравалі дакументы назад у Ліду.

14 сакавіка баранавіцкі праваабаронца Сяргей Гоўша па пошце атрымаў пастанову старшыні Вярхоўнага суда В.А.Сукалы, згодна з якой адменена пастанова суддзі Брэсцкага абласнога суда ад 4 кастрычніка 2012г. аб адмове ў разглядзе справы праваабаронцы ў касацыйнным парадку нібыта ў сувязі з прапушчанымі тэрмінамі. Пастанова старшыні ВС прадпісвае накіраваць скаргу Гоўшы ў абласны суд для разгляду іншым суддзёй. Справа датычыць адміністрацыйнага пераследу праваабаронцы яшчэ падчас парламенцкіх выбараў, калі пасля выяўлення фальсіфікацыі пратакола акруговай камісіяй Баранавіцкай-Заходняй выбарчай акругі № 5, дзе ён быў зарэгістраваны як назіральнік, ён быў абвінавачаны ў брыдкаслоўі і пакараны штрафам у памеры 15 базавых велічынь. С. Гоўша абскардзіў пастанову суда ў Брэсцкім абласным судзе, адначасова звярнуўшыся з заяваю аб вызваленні ад аплаты дзяржпошліны. Суд заяву аб вызваленні ад дзяржпошліны разглядаць не стаў, а проста вярнуў праваабаронцу ўсе матэрыялы і адмовіў у разглядзе справы ў сувязі з няўплатай дзяржпошліны, а пазней — у сувязі з пропускам вызначаных законам тэрмінаў абскарджання. Брэсцкі абласны суд адмовіўся разглядаць справу па сутнасці і не задаволіў хадайніцтва Сяргея Гоўшы аб узнаўленні тэрміну на абскарджванне. 17 сакавіка Сяргей Гоўша атрымаў позву з Брэскага абласнога суда

з паведамленнем, што разгляд справы прызначаны на 21 сакавіка. У задавальненні касацыйнай скаргі суд адмовіў.

21 сакавіка жонка гомельскага праваабаронцы Леаніда Судаленкі атрымала афіцыйны запыт з Інспекцыі па падатках і зборах па Савецкаму раёну Гомеля з пытаннем, ці пазычала яна грошы свайму мужу? Ужо некалькі месяцаў падатковая праводзіць розныя праверкі ў дачыненні да праваабаронцы і яго сям'і, і нават сына, які служыць у войску. У інспекцыю быў дасланы адказ, што калі людзі жывуць у шлюбе, сумесна пражываюць у адной кватэры, вядуць агульную гаспадарку, ніхто нікому грошы не пазычае. Адносна сына праваабаронцы была прад'яўлена прэтэнзія ў перавышэнні выдаткаў над прыбыткамі, залічаны ў выдаткі квіткі ў Польшчу, дзе ён вучыўся. У адказе ў падатковую наконт выдаткаў сына Леанід Судаленка адзначыў, што прадставіць неабходныя дакументы зараз немагчыма, таму што сын зрабіць гэта не ў стане па той прычыне, што ён у войску. Ён нагадаў падатковай, што ў перыяд часу, за які інспектары патрабуюць справаздачу, сын не з'яўляўся падатковым рэзідэнтам РБ.

25 сакавіка журналіст-праваабаронца Тамара Шчапёткіна з Бярозы ў гонар Дня Волі вывесіла на сваім балконе нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг, які прыцягнуў увагу супрацоўнікаў міліцыі. Участковы існпектар Сяргей Несцяровічам прыйшоў дадому да Т. Шчапёткінай і запатрабаваў зняць сцяг, папярэдзіўшы, што не выключана, што яна атрымае павестку ў міліцыю.

27 сакавіка гарадзенскія праваабаронцы Віктар Сазонаў, Раман Юргель і Уладзімір Хільмановіч атрымалі адказ на сваю скаргу ад старшыні Гродзенскага абласнога суда. Праваабаронцы аспрэчвалі рашэнне Ленінскага раённага суда Гродна, які аштрафаваў іх на 15 базавых велічынь кожнага за фотаздымак у інтэрнэце ў знак салідарнасці з Алесем Бяляцкім, і пастанову Гродненскага абласнога суда па выніках разгляду касацыйнай скаргі. Старшыня абласнога суда Аляксандр Грынкевіч заняў пазіцыю свайго ведамства, пацвердзіўшы, што фатаграфаванне праваабаронцаў у Міжнародны дзень правоў чалавека і размяшчэнне фотаздымка ў інтэрнэце было несанкцыянаванай публічнай акцыяй, якая падлягала адміністрацыйнаму пакаранню.

## Выкарыстанне катаванняў і жорсткага абыходжання

5 сакавіка ў дачыненні да пяці супрацоўнікаў Лідскага РУУС узбуджана крымінальная справа па прыкметах злачынства, прадугледжанага ч.3

арт. 426 КК (перавышэнне ўлады або службовых паўнамоцтваў, учыненага асобай, якая займае адказнае становішча, альбо якая пацягнула цяжкія наступствы, а таксама наўмыснае здзяйсненне службовай асобай дзеянняў, якія відавочна выходзяць за межы правоў і паўнамоцтваў, дадзеных яму па службе, спалучанае з гвалтам, пакутай ці абразай пацярпелага альбо ужываннем зброі або спецыяльных сродкаў). Пастанова аб завядзенні крымінальнай справы была вынесена начальнікам Лідскага раённага аддзела Следчага камітэта Аляксандрам Урбановічам. Справа ўзбуджана ў сувязі з агучваннем праваабарончай установай «Платформа» інфармацыі аб супрацьпраўных дзеяннях супрацоўнікаў міліцыі ў дачыненні да жыхароў Ліды Івана і Багдана Шкурко. Інцыдэнт адбыўся 18 лістапада 2012 года, інфармацыя пра яго з'явілася на сайце «Платформы» 19 лютага.

17 сакавіка ў Дзяржынску адбыўся інцыдэнт, пра які прэсавая служба Упраўлення ўнутраных спраў Мінаблвыканкама заявіла, што два хулiганы жорстка збілі супрацоўнікаў патрульнай-паставой службы міліцыі. Як вынікала з паведамленняў, двое маладых людзей, Сяргей Хачатуран і Віталь Ганчар, позна ўвечары пачалі чапляцца да супрацоўнікаў ППСМ, якія неслі сваю вахту на вуліцах Дзяржынска. У адказ міліцыянты ўжылі спецсродкі і даставілі хлопцаў у РАУС. Праваабаронцы з «Платформы» знайшлі сведку Андрэя Калацея, які распавёў пра адрозны ад афіцыйнага сцэнар развіцця падзеяў. А. Калацея супрацоўнікі РАУС затрымалі ў той вечар на вуліцы. Калі С. Хачатурана і В. Ганчара затрымлівалі і загружалі ў міліцэйскую машыну, ён сам ужо там быў. Андрэй стаў сведкам збіцця Сяргея Хачатурана ў пастарунку. Знайшліся і іншыя сведкі, якія ў той вечар былі разам з хлопцамі. Начальнік Дзяржынскага РАУС Святаслаў Дарашэвіч заявіў , што ніхто з удзельнікаў інцыдэнту ў Дзяржынску не шпіталізаваны — ні Сяргей Хачатуран, ні Віталь Ганчар, па гэтым факце расследаванне праводзіць Следчы камітэт, а ў дачыненні да гэтых грамадзян заведзена крымінальная справа за супраціў супрацоўнікам міліцыі. Аднак праваабаронцам стала вядома, што пасля затрымання Сяргей Хачатуран трапіў у шпіталь з дыягназам «страсенне мозгу», такі ж дыягназ медыкі паставілі і Віталю Ганчару, які ў выніку ўдараў дубінкамі па галаве некалькі разоў траціў прытомнасць.

## Ціск спецслужбаў на грамадска і палітычна актыўных грамадзян

27 сакавіка прыкладна ў 10-30 каля будынка Клімавіцкага райвыканкама актывіста «Гавары праўду» Аляксандра Балобіна затрымалі двое

невядомых, якія назваліся супрацоўнікамі КДБ. Аляксандра Балобіна пасадзілі ў машыну і адвезлі ў іншы горад — у Крычаўскі міжрайаддзел КДБ, дзе на працягу трох гадзін праводзілі «гутарку». Там яго завялі ў кабінет да начальніка Крычаўскага міжрайаддзела КДБ Іллі Краўцова, які абвінавачваў актывіста ў парушэнні артыкула 193.1 Крымінальнага кодэкса — у дзейнасці ад імя незарэгістраванай арганізацыі, паказаў шмат матэрыялаў, фотаздымкаў, якія быццам бы пацвярджаюць гэта. І.Краўцоў прапаноўваў актывісту супрацоўнічаць, «кансультаваць супрацоўнікаў КДБ» па пэўных пытаннях, ад чаго ён адмовіўся. А.Балобіна папярэдзілі, што інфармацыя пра «сустрэчу з супрацоўнікамі КДБ не павінна нікуды патрапіць», бо ў яго будуць вялікія праблемы, «забяруць аператыўныя машыны і болей дамоў ён не з'явіцца». Быў складзены пратакол апытання. Пасля «гутаркі» ў КДБ Аляксандра Балобіна адпусцілі, адмовіўшыся везці дадому. Аляксандр быў вымушаны дабірацца з Крычава ў вёску Паўлавічы Клімавіцкага раёна за ўласны кошт. Аляксандра Балобіна, якому 23 гады, спрабуюць забраць у войска, хаця папярэдне медыцынская камісія ў розныя гады два разы прызнавала яго не падлягаючым да прызыву ў сувязі з захворваннем скуры. На 28 сакавіка грамадскага актывіста выклікалі на чарговую медыцынскую камісію.

### Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні

2 сакавіка гродзенскія сябры БХД імкнуліся правесці пікет у падтрымку малога памежнага руху з краінамі-суседкамі. Заяўніца пікета пенсіянерка Галіна Котава памылкова зразумела, што пікет дазволілі правесці ў Румлёўскім парку. Калі акцыю збіраліся пачаць, з'явіліся людзі ў цывільным, якія пачалі здымаць прысутных на відэа. Гэтыя людзі не папярэдзілі афіцыйна, што пікет усё ж недазволены. Калі гэта высветлілася, сябры БХД адразу разышліся, па-сутнасці пікет так і не пачаўся. Аднак, пазней на заяўніцу пікета Галіну Котаву быў складзены пратакол пра адміністрацыйнае правапарушэнне. 18 сакавіка Суддзя Кастрычніцкага раённага суда Гродна Зінаіда Барцэвіч асудзіла Галіну Котаву да штрафу ў 25 базавых велічынь.

5 сакавіка суддзя Мінскага гарадскога суда Аляксей Бычко пакінуў у сіле рашэнне суддзі суда Фрунзенскага раёна Мінска Людмілы Лапо, якая 21 лютага пакарала скульптара Генадзя Лойку адміністрацыйным арыштам на 5 сутак за акцыю ў падтрымку роднай мовы. Мастак назваў судовы працэс па яго справе «палітычным» і падкрэсліў, што будзе працягваць змагацца супраць дыскрымінацыйнай русіфікацыі айчыннай сістэмы на-

роднай адукацыі і абуральных дзеянняў суддзяў, якія адмовіліся весці судовыя працэсы на дзяржаўнай беларускай мове.

5 сакавіка слуцкі актывіст Віталь Амяльковіч атрымаў пастанову аб спыненні адміністрацыйнай справы ў адносінах да яго, якую 28 лютага вынесла адміністрацыйная камісія пры Слуцкім райвыканкаме. Актывіста абвінавачвалі ў расклейванні налепак на слупе каля крамы. Двойчы камісія прызнавала Амяльковіча вінаватым у парушэнні правіл добраўпарадкавання населеных пунктаў, зацверджаных рашэннем Слуцкага райвыканкама. Рашэннем камісіі актывіста аштрафавалі на мільён рублёў. Не згодны з вердыктам, Віталь Амяльковіч абскардзіў пастанову ў судзе Слуцкага раёна. Адміністрацыйны працэс спынены ў сувязі з недаказанасцю віны. Такім чынам, на тое, каб даказаць сваю невінаватасць, Віталю Амяльковічу спатрэбілася сем месяцаў.

8 сакавіка актывістка «Еўрапейскай Беларусі» Валянціна Цюрава была затрымана на Камароўскім рынку Мінска. Яна праводзіла адзіночны пікет, трымаючы плакат «Дзе маё свята? Дзе мая свабода?». Гэтай акцыяй яна спрабавала прыцягнуць увагу да праблем, з якімі сутыкаюцца жанчыны ў Беларусі. Суд над Валянцінай Цюравай прайшоў 11 сакавіка. Суддзя Савецкага раёна Мінска Дзмітрый Паўлючэнка прызнаў актывістку вінаватай у правядзенні несанкцыянаванага пікета і прысудзіў трое сутак арышту. Паколькі менавіта столькі правяла дзяўчына ў чаканні суда ў цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў, яна была вызваленая адразу пасля паседжання.

12 сакавіка ў Гродна супрацоўнікі міліцыі затрымалі сябра БХД Сяргея Верамеенку, які накіроўваўся з торбай улётак у партыйны офіс. На ўваходзе яго спынілі двое асоб у цывільным, якія прадставіліся супрацоўнікамі міліцыі. С.Верамеенку затрымалі на вачах ягоных аднапартыйцаў і павезлі ў пастарунак. У торбе затрыманага былі ўлёткі ў падтрымку палітвязняў. Сябры БХД збіраліся распаўсюджваць іх у рамках кампаніі салідарнасці «Напішы палітвязню ліст».

18 сакавіка ў Брэсце падчас акцыі «Хваля салідарнасці», арганізаванай аргкамітэтам па стварэнні партыі БХД, былі затрыманы трое сяброў партыі: Улад Бароўскі, Яўген Хазіахметаў і Андрэй Шарэнда. Іх затрымалі пры вывешванні нацыянальных бел-чырвона-белых сцягоў. 22 сакавіка суд Маскоўскага раёна Брэста аштрафаваў А.Шарэнду на 25 базавых велічынь, Я. Хазіахметава — на 10 базавых велічынь. Пратакол 17-гадовага Бароўскага накіраваны на разгляд камісіі па справах непаўнагадовых адміністрацыі Маскоўскага раёна Брэста.

23 сакавіка раніцай у Талачыне на аўтобусным прыпынку міліцыя затрымала актывіста кампаніі «Наш Дом» Рамана Забелу. Затрыманне праводзіў супрацоўнік крымінальнага вышуку маёр міліцыі Карота. Падставы для затрымання — Раман Забела нібыта падобны на чалавека, які падазраецца ў здзяйсненні злачынства. Не выключана, што затрыманне з'яўлялася прэвентыўным напярэдадні святкавання 95-годдзя БНР з мэтай не дапусціць яго ўдзелу ў афіцыйна дазволеным масавым мерапрыемстве ў Мінску.

24 сакавіка пасля заканчэння дазволенага ўладамі шэсця і мітынгу да Дня Волі ў Мінску супрацоўнікі міліцыі затрымалі лідара «Маладых дэмакратаў» Дзмітрыя Кавалгіна і актывіста АГП Станіслава Рамановіча. Падчас затрымання адзін з супрацоўнікаў міліцыі нанёс Кавалгіну некалькі ўдараў па галаве. Абодва актывісты былі абшуканыя, у іх канфіскавалі вялікі бел-чырвона-белы сцяг, які неслі ў галаве калоны, і 2 меншыя сцягі, пасля чаго яны былі вызвалены. У РУУС Савецкага раёна Мінска было дастаўлена 9 затрыманых удзельнікаў акцыі, сярод іх — трое грамадзян Украіны. На ўсіх затрыманых склалі пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні — «непадпарадкаванні супрацоўнікам міліцыі». Усе затрыманыя да суда заставаліся за кратамі. 25 сакавіка суддзя суда Савецкага раёна Мінска Дзмітрый Паўлючэнка вынес папярэджанне непаўнагадоваму грамадзяніну Украіны Назару Зеліноўскаму, дзве грамадзянкі Украіны Юлія Грышчук і Юлія Слівінская атрымалі пакаранне ў выглядзе 1 сутак адміністрацыйнага арышту. Актывіста «Еўрапейскай Беларусі» Аляксандра Кавалёва асудзілі да штрафу ў 40 базавых велічынь, Антона Цімохава пакаралі штрафам ў памеры 25 базавых велічынь, да пяці сутак арышту быў асуджаны Віталь Станішэўскі. Сяргею Мокічу вынеслі штраф памерам 35 базавых велічынь, Алег Асташонак пакараны штрафам у памеры 40 базавых велічынь, актывіст «Еўрапейскай Беларусі» Алег Рагоўскі атрымаў пакаранне ў выглядзе штрафу ў 30 базавых велічынь.

25 сакавіка ў Віцебску прайшоў судовы працэс над актывістамі Партыі БНФ Кастусём Смолікавым і Леанідам Аўтуховым, якія былі затрыманы 22 сакавіка ў гандлёвым цэнтры «Эвіком» падчас раздачы самвыдатаўскага бюлетэня «Магістрат» з інфармацыяй пра запланаваную акцыю на Дзень Волі. Рашэнне суддзя суда Кастрычніцкага раёна Віцебска Іна Грабоўская выносіла ўжо пасля сканчэння працоўнага дня, каля 21 гадзін вечара: яна пастанавіла пакараць абодвух актывістаў 5 суткамі арышту па абвінавачанні ў парушэнні заканадаўства аб масавых мерапрыемствах. Па дарозе на працэс былі затрыманы прыхільнікі стварэння партыі БХД Алена Шабуня і каардынатарка аргкамітэта Таццяна Севярынец.

Яны ехалі ў машыне Аляксандра Кузняцова, кіраўніка гарадской суполкі Партыі БНФ. Машыну затрымалі супрацоўнікі ДАІ і аштрафавалі кіроўцу на 300 тысяч рублёў нібыта за парушэнне правілаў руху. Але пасажырак не адпусцілі таксама, прымусіўшы чакаць каля дзвюх гадзін. Яшчэ двух актывістаў, Станіслава Лаўрэнава і Аляксея Кішчука, затрымалі таксама па дарозе ў суд: міліцыянты заявілі, што «яны падобны да злодзеяў, якія скралі бутэльку гарэлкі». Кішчук і Лаўрэнаў трапілі ў Кастрычніцкі райсуд якраз пасля сканчэння працэсу.

25 сакавіка ў Віцебску каля 20.30 быў затрыманы былы палітвязень Сяргей Каваленка па абвінавачанні ў тым, што ён нібыта пераходзіў вуліцу не па пешаходным пераходзе. Ноч С. Каваленка правёў у ізалятары часовага ўтрымання. На яго склалі два пратаколы аб адміністрацыйных парушэннях — за пераход вуліцы ў неналежным месцы і дробнае хуліганства. 26 сакавіка суддзя Першамайскага райсуда Н.Карабліна задаволіла хадайніцтва Каваленкі наконт удзелу ў працэсе адваката і пастанавіла вызваліць яго з-пад варты, выпісаўшы позву на наступнае судовае паседжанне. 29 сакавіка суддзя Валянціна Кісмярошкіна аштрафавала Сяргея Каваленку на 10 базавых велічынь, прызнаўшы вінаватым у дробным хуліганстве.

27 сакавіка, калі беларускі ЛГБТ-актывіст Сяргей Андросенка вяртаўся з Вільні, на станцыі Гудагай яго высадзілі з цягніка Вільнюс — Мінск. Спачатку 2 мытнікі і асоба ў цывільным ажыццявілі мытны дагляд рэчаў актывіста. Яго рэчы, заплечнік, ноўтбук, нават часопіс «Sexus», які выдаецца «Белгазетай», падвергнуліся ўважліваму агляду. Праз гадзіну ад начальніка Ашмянскай мытні Нівяркевіча прыйшло ўказанне на асабісты мытны дагляд. Пасля мытнага кантролю актывісту выдалі копіі актаў і пашпарт і адпусцілі, але на выхадзе з залы мытнага надгляду актывіста сустрэў іншы супрацоўнік мытні і папрасіў прайсці з ім у іншы будынак для вырашэння «тэхнічнага пытання». У выніку ў Сяргея Андросенкі зноў забралі пашпарт, паведаміўшы, што ён нібыта лічыцца ў базе дадзеных несапраўдных дакументаў.

29 сакавіка ў Навабеліцкім судзе Гомеля адбыўся разгляд пратаколаў, складзеных міліцыяй у дачыненні намесніка АГП Васіля Палякова і грамадзянскага актывіста Уладзіміра Шыцікава. Раніцай 29 сакавіка яны былі выкліканы па позве ў Навабеліцкі РАУС. Там міліцыянеры пад кіраўніцтвам начальніка аддзела аховы правапарадку Генадзя Хількевіча склалі пратакол за парушэнне артыкула 23.34 КаАП (несанкцыянаваны мітынг) і тут жа адвялі Палякова і Шыцікава ў суд. Суд доўжыўся 15 хвілін, апа-

зіцыянераў прызналі вінаватымі ва ўдзеле ў несанкцыянаваным мітынгу і пакаралі кожнага штрафам у памеры 20 базавых велічынь. Несанкцыянаваным мітынгам міліцыя прызнала ўскладанне кветак на вуліцы Дзмітрава Гомеля, дзе раней жыла дзеяч БНР Палута Бадунова. Такую акцыю штогод 25 сакавіка да Дня Волі праводзяць гомельскія апазіцыянеры, каб ушанаваць памяць вядомай зямлячкі.

## Абмежаванні свабоды слова і права на распаўсюд інфармацыі, пераслед журналістаў

7 сакавіка ў краму да бялыніцкага прадпрымальніка і сябра Партыі БНФ Мікалая Мяцеліцы завітаў супрацоўнік Бялыніцкага РАУС, якога цікавіла распаўсюджваемая ў краме незалежная прэса. Ён настойліва парэкамендаваў Мікалаю Мяцеліцу спыніць распаўсюд у сваёй краме маланакладных дэмакратычных газет, у адваротным выпадку ў яго «могуць з'явіцца праблемы ў бізнэсе». Мікалай адрэагаваў абсалютна спакойна, сказаў, што ніякіх беларускіх законаў не парушае, маланакладныя газеты «Рэгіён», «Паходня» і «Магілёўскі выбар» выдадзены ў адпаведнасці з Законам аб СМІ і любы жадаючы можа ўзяць іх у краме без усялякіх абмежаванняў.

14 сакавіка часопіс «Arche» атрымаў трэцюю адмову ў рэгістрацыі. Па словах выконваючага абавязкі галоўнага рэдактара Алеся Пашкевіча, нагода для адмовы чыноўнікаў з Мінінфармацыі на гэты раз — не быў указаны нейкі нумар тэлефона. 22 сакавіка стала вядома, што ва ўзбуджэнні крымінальнай справы па выніках праверкі рэдакцыі часопіса « Arche» адмоўлена. Пра гэта даведаўся адвакат, пасля таго як звярнуўся ў Камітэт дзяржаўнага кантролю ў сувязі са сканчэннем чарговага тэрміну праверкі дзейнасці часопіса. 25 сакавіка Дэпартамент фінансавых расследаванняў разблакаваў банкаўскі рахунак рэдакцыі, аднак у ДФР не далі пісьмовага пацвярджэння аб незавядзенні крымінальнай справы.

11 сакавіка на былога дэпутата Бялыніцкага райсавета, жыхара вёскі Лебедзянка Валерыя Вусіка ўчастковы інспектар Сяргей Карыткін склаў пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні (дробнае хуліганства), якое быццам бы той здзейсніў падчас наведвання са здымачнай групай тэлеканала «Белсат» фермы мясцовай гаспадаркі СВК «Лебедзянка» 28 лютага 2013 года. Тады на жывёлагадоўчы аб'ект прыбыў намеснік старшыні кааператыва, які абвінаваціў журналістаў у «прамысловым шпіянажы» і запатрабаваў ад іх тэрмінова пакінуць аб'ект, пагражаючы выклікаць супрацоўнікаў Бялыніцкай міліцыі. 22 сакавіка ўчастковы інспектар

Сяргей Карыткін наведаўся да незалежнага бялыніцкага журналіста Барыса Вырвіча. Ён хацеў даведацца, як выдаецца і распаўсюджваецца незалежная дэмакратычная газета «Магілёўскі Выбар». Па словах Сяргея Карыткіна, гэта неабходна для аб'ектыўнага разгляду пратакола аб адміністрацыйным правапарушэнні, складзенага на былога дэпутата Бялыніцкага райсавета Валерыя Вусіка. Участковага інспектара цікавіла таксама тое, ці з'яўляецца Валерый Вусік сябрам Партыі БНФ. Пасля супрацоўнік праваахоўных органаў пачаў апытваць пра тое, якім чынам і на якой падставе выдаецца газета «Магілёўскі Выбар», дзе знаходзіцца яе рэдакцыя і г. д. 29 сакавіка суд Бялыніцкага раёна пакараў Валерыя Вусіка штрафам у памеры 50 базавых нібыта за паклёп у адрас старшыні СВК «Лебедзянка» Пятра Бялова і за распаўсюд незалежнай газеты «Магілёўскі Выбар».

15 сакавіка ў раённай бібліятэцы Зэльвы планавалася прэзентацыя кнігі Сяргея Чыгрына «Краязнаўчымі сцежкамі Зэльвеншчыны». 13 сакавіка Сяргею Чыгрыну патэлефанавала дырэктар Зэльвенскай раённай бібліятэчнай сістэмы Святлана Жамойціна і сказала, што «прэзентацыі кнігі не будзе з-за таго, што ў кнізе шмат напісана пра Ларысу і Янку Геніюшаў, пра прэзідэнта БНР Васіля Захарку, пра тое, як са званіцы Сынковіцкай царквы вылівалі званы для Хатыні і пра іншыя звесткі, за якія іх сённяшняя ўлада па галоўцы не пагладзіць і такія факты супярэчаць сённяшняму жыццю».

18 сакавіка з усіх работнікаў Слонімскай раённай бальніцы, раённай і гарадской паліклінік пачалі збіраць па 4 тысячы рублёў на падпіску раённай газеты «Слонімскі веснік» на другі квартал. Летась таксама ўсіх прымушалі выпісваць раёнку. Асабіста галоўны ўрач Слонімскай бальніцы Юрый Пяцельскі загадваў усім загадчыкам аддзяленняў бальніцы выпісваць газету. Такі самы вусны загад ад галоўнага ўрача паступіў і зараз. Тым часам на незалежную «Газету Слонімскую» падпісацца немагчыма, бо яна па-ранейшаму не ўключана ў рэспубліканскі падпісны каталог «Белпошты».

19 сакавіка карэспандэнт «Радыё Свабода» Міхаіл Карневіч не быў дапушчаны на будаўнічую пляцоўку Астравецкай АЭС нібыта з-за адсутнасці неабходнай паперы з Міністэрства энергетыкі. Перад гэтым, каб зрабіць рэпартаж пра будоўлю Астравецкай АЭС, Міхаіл Карневіч падаў у Дырэкцыю будаўніцтва АЭС усе дакументы, якія там ад яго запатрабавалі. Дазвол атрымаў, але калі прыехаў у Астравец, яму заявілі, што будаўнічую пляцоўку ён наведаць не можа.

24 сакавіка падчас святкавання Дня Волі была затрымана ў падземным пераходзе каля Акадэміі Навук відэааператар газеты «Наша Ніва» Таццяна Гаўрыльчык падчас здымкаў супрацоўнікаў міліцыі, якім гэта не спадабалася. Міліцыянты забралі ў яе рэдакцыйнае пасведчанне і адвялі ў апорны пункт на станцыі метро. Пасля некалькіх гадзін Таццяну Гаўрыльчык выпусцілі з міліцэйскага апорнага пункта.

26 сакавіка тэлеканалу «Белсат» чарговы раз адмовілі ў акрэдытацыі. У сваім рашэнні МЗС Беларусі спаслалася на тое, што беларускія журналісты ўжо неаднаразова парушалі заканадаўства, калі супрацоўнічалі з тэлеканалам. Рашэнне аб адмове ў акрэдытацыі перадалі афіцыйнаму прадстаўніку канала ў Беларусі Міхаілу Янчуку.

## Абмежаванне свабоды сходаў

7 сакавіка старшыня абласной арганізацыі Партыі БНФ Леанід Аўтухоў падаў заяўку ў Чыгуначную раённую адміністрацыю Віцебска, каб 25 сакавіка правесці мітынг на віцебскім стадыёне «Лакаматыў». Старшыня абласной структуры Руху «За Свабоду» Хрыстафор Жаляпаў прапанаваў арганізаваць мітынг таксама 25 сакавіка, але ў Парку імя 30-годдзя ВЛКСМ. Абодва месцы — гарадскія паркі — вызначаны мясцовымі адміністрацыямі для правядзення масавых акцый. Аднак яшчэ адна ўмова, каб атрымаць дазвол, — наяўнасць дамоўленасцяў з цэнтральнай гарадской паліклінікай, абласной управай МУС і службамі ЖКГ на абслугоўванне мерапрыемства. Аднак згаданыя вышэй структуры па розных прычынах адмовіліся заключыць дамовы з прадстаўнікамі апазіцыі. Медыкі спасляліся на тое, што ўсе брыгады «хуткай дапамогі» заняты ў сувязі з пікам сезонных захворванняў. А з міліцыі прыйшоў адказ, што дамова будзе заключана толькі ў тым выпадку, калі мерапрыемства дазволіць раённая адміністрацыя.

7 сакавіка адмову ў правядзенні вулічнага шэсця ў гонар 150-х угодкаў паўстання К.Каліноўскага атрымаў сябра КХП БНФ Ян Дзяржаўцаў. Шэсце актывіст планаваў на 10 сакавіка і звярнуўся па дазвол у гарвыканкам, бо меркаваны маршрут пралягае па тэрыторыі ўсіх трох раёнаў горада. Пісьмовая адмова ўладаў датавана 4 сакавіка, але на паштовым штэмпелі — іншая дата, 6.03.2013, хаця пра сваё рашэнне ўлады мусяць апавясціць заяўніка не пазней як за 5 дзён да замоўленай акцыі. З медыкамі і міліцыяй заключыць дамовы так і не ўдалося. Галоўны ўрач Віцебскай гарадской цэнтральнай паліклінікі С.Цітовіч адмовіў актывісту, спаслаўшыся на сезонны ўздым захворванняў і вялікую нагрузку на «хуткую дапамогу». А намеснік начальніка міліцыі грамадзкай бяспекі УУС

Віцаблвыканкама І.Скарыновіч заявіў, што маршрут вулічнага шэсця, на ягоную думку, не адпавядае Закону «Аб масавых мерапрыемствах», і адмовіў ў заключэнні дамовы на гэтай падставе.

14 сакавіка клімавіцкія актывісты «Гавары праўду» атрымалі адмову з мясцовага райвыканкама на сваю заяву аб правядзенні пікета 25 сакавіка, прымеркаванага да Дня Волі. Падставай для адмовы паслужыла тое, што, па меркаванні чыноўнікаў, «заява не можа быць разгледжана, бо не адпавядае артыкулу 5 Закона «Аб масавых мерапрыемствах» ад 30 снежня 1997 года».

19 сакавіка слонімскія актывісты атрымалі адмову з райвыканкама на заяўку аб правядзенні 23 сакавіка мітынгу, прысвечанага Дню Волі. Намеснік старшыні райвыканкама Мікалай Шых спаслаўся на тое, што заяўнікі нібыта не ўказалі, у якім гарадскім парку будзе праводзіцца мітынг, бо ў Слоніме, па словах чыноўніка, два паркі: па вуліцы Опернай у цэнтры горада і на Паркавай вуліцы (мікрараён «Альбярцін»). Такі адказ вельмі здзівіў заяўнікаў, бо ў Слоніме няма аніводнага парка: ёсць набережная канала Агінскага на Опернай вуліцы і сквер каля палаца Пуслоўскіх у Альбярціне. Тым не менш, у правядзенні мітынгу адмоўлена.

20 сакавіка грамадскі актывіст Віктар Сырыца атрымаў адмову на правядзенне пікета 25 сакавіка, прысвечанага 95-м угодкам абвяшчэння БНР, за подпісам намесніка старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Д. Касцюкевіча. Заяўнік заключыў дамовы з гарпаліклінікай, ЖКГ, але супрацоўнік Баранавіцкага ГАУС маёр Павел Кульгавік адмовіўся заключыць з ім дамову аб ахове грамадскага парадку, як гэта патрабуе закон і рашэнне гарвыканкама. Двойчы В.Сырыца асабіста хадзіў у гарадскую міліцыю, трэці — размаўляў з ім па тэлефоне, але безвынікова. У выніку акцыя да Дня Волі была забаронена гарвыканкамам.

21 сакавіка салігорскі раённы выканаўчы камітэт забараніў правядзенне 24 сакавіка пікета, прымеркаванага да 95-х угодкаў з Дня абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Заяўнікам мерапрыемства выступаў мясцовы грамадскі актывіст Уладзімір Шыла. Пікет меркавалася правесці на стадыёне «Будаўнік», адзіным афіцыйна дазволеным уладамі месцы для правядзення масавых мерапрыемстваў. Прычынай забароны мерапрыемства выконваючы абавязкі старшыні Салігорскага райвыканкама Валерый Шамрук назваў неадпаведнасць нормам Закона «Аб масавых мерапрыемствах» заяўленых арганізатарам мер па забеспячэнні грамадскага парадку і бяспекі.

22 сакавіка каардынатар грамадзянскай ініцыятывы «Хопіць піць — трэба жыць» Зміцер Карашкоў падаў скаргу ў суд Цэнтральнага раёна Гомеля на адмову гарвыканкама ў правядзенні пікета «Супраць алкагалізацыі насельніцтва». Прычына адмовы — тая ж, што і ўсім заяўнікам пікетаў і мітынгаў на працягу апошніх чатырох гадоў: заяўнік не выканаў абавязкаў па заключэнні дамоваў з міліцыяй, хуткай дапамогай і камунальнымі службамі. У заяве ў суд актывіст просіць прызнаць рашэнне гарвыканкама «Аб масавых мерапрыемствах» неправамоцным і адмяніць яго пункты, якія абмяжоўваюць законныя правы грамадзян, а таксама прызнаць рашэнне выканкама аб забароне пікету незаконным.

27 сакавіка былая старшыня Гомельскага гарвыканкама Святлана Гальдадзе падала скаргу ў Камітэт па правах чалавека ААН на забарону ёй сумесна з мясцовымі праваабаронцамі Анатолем Паплаўным і Леанідам Судаленкам правесці ў абласным цэнтры 4 жніўня 2012 года пікет у падтрымку зняволенага праваабаронцы Алеся Бяляцкага. Раённы суд, дзе абскарджвалася забарона, стаў на бок гарвыканкама, а абласны суд зацвердзіў рашэнне раённага. Таксама і Вярхоўны суд, дзе абскарджвалася рашэнне, не задаволіў скаргу. Такім чынам, унутраныя сродкі прававой абароны былі вычарпаны. Святлана Гальдадзе просіць Камітэт устанавіць факт парушэння яе і праваабаронцаў правоў на свабоду правядзення мірных сходаў і свабоду выказвання меркавання з боку дзяржавы і рэкамендаваць беларускаму ўраду прывесці Закон «Аб масавых мерапрыемствах», а таксама рашэнне мясцовай улады аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў у адпаведнасць з міжнароднымі абавязацельствамі.

## Абмежаванне свабоды асацыяцый

26 сакавіка ў Вярхоўным судзе адбыліся папярэднія слуханні па справе адмовы ў рэгістрацыі Міністэрствам юстыцыі ГА «Маладыя Хрысціянскія Дэмакраты». Само судовае паседжанне прызначана на 9 красавіка. Мінюст адмовіў у рэгістрацыі па трох пунктах. Па-першае, у міністэрстве лічаць, што спіс заснавальнікаў арганізацыі можа не адпавядаць рэчаіснасці, бо названы іх несапраўдныя месцы працы. Па-другое, Мінюст указвае на тое, што заснавальнікі не прадаставілі дадатковыя матэрыялы, якія маюць дачыненне да з'езда, у прыватнасці, дамову з гаспадаром памяшкання і спіс удзельнікаў з'езда. Ініцыятары стварэння арганізацыі палічылі такое патрабаванне незаконным, а таму не сталі выконваць рэкамендацыі міністэрства. Па-трэцяе, на думку Мінюста, заснавальнікі арганізацыі афармілі дакументы з парушэннямі правіл арфаграфіі і пунктуацыі, якія тычацца ўжывання вялікай літары на тытульным лісце і двухкосся.

# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Красавік

У красавіку сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі заставалася стабільна кепскай з відавочнай тэндэнцыяй да пагаршэння. За кратамі па-ранейшаму працягвалі ўтрымлівацца 11 палітычных зняволеных (Ігар Аліневіч, Мікалай Аўтуховіч, Алесь Бяляцкі, Яўген Васьковіч, Дзмітрый Дашкевіч, Мікалай Дзядок, Эдуард Лобаў, Арцём Пракапенка, Павел Севярынец, Мікалай Статкевіч, Аляксандр Францкевіч); 2 чалавекі працягвалі адбываць пакаранне ў выглядзе абмежавання волі без накіравання ва ўстановы адкрытага тыпу (Дзмітрый Мядзведзь, Святаслаў Барановіч); 8 — пакаранне ў выглядзе ўмоўных тэрмінаў ці з адтэрміноўкай выканання прысудаў (Сяргей Вазняк, Андрэй Дзмітрыеў, Сяргей Марцалеў, Уладзімір Някляеў, Андрэй Пачобут, Віталь Рымашэўскі, Аляксандр Фядута, Ірына Халіп). У статусе абвінавачаных па палітычна матываваных справах заставаліся 3 асобы — Алесь Міхалевіч, Антон Сурапін, Сяргей Башарымаў. Пад вартай у СІЗА КДБ утрымліваўся Андрэй Гайдукоў, абвінавачанне супраць якога можа насіць палітычна матываваны характар. Адносна 3 былых палітзняволеных у якасці кантролю і ціску выкарыстоўваўся ўстаноўлены судамі прэвентыўны нагляд (Павел Вінаградаў, Васіль Парфянкоў, Уладзімір Яроменак), яшчэ ў адносінах да 25 памілаваных і вызваленых датэрмінова — прафілактычны нагляд.

Небяспечнай тэндэнцыяй красавіка стала вынясенне грамадскім і палітычным актывістам пракурорскіх папярэджанняў і папярэджанняў з боку КДБ пра магчымую крымінальную адказнасць за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі. На працягу месяца падобныя папярэджанні атрымалі праваабаронца Тамара Сяргей (Мінск), актывіст партыі БХД Алег Аксёнаў (Магілёў) і актывіст грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду» Аляксандр Кузьмін (Белаазёрск). Наступным крокам можа стаць узбуджэнне крымінальных спраў па арт. 193.1 КК РБ, санкцыя якога прадугледжвае адказнасць у выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам да двух гадоў.

Працягваліся адвольныя затрыманні і арышты грамадскіх і палітычных актывістаў, журналістаў, значна была абмежаваная свабода сходаў і выказвання меркаванняў. Акрамя дазволеных уладамі «Чарнобыльскага шляху» ў Мінску і дэманстрацыі да 1 траўня ў Брэсце, усе астатнія мірныя сходы па ўсёй краіне былі забаронены. Беларускі МЗС у трэці раз адмовіў у акрэдытацыі незалежнаму тэлеканалу «Белсат», што працягнула практыку неспрыяльных умоў працы журналістаў. Небяспечная тэндэнцыя з магчымымі доўгатэрміновымі наступствамі была закладзена прызнаннем экстрэмісцкім фота-альбома «Прэс-фота-2011» па відавоч-

на надуманых і абсурдных падставах. Працягваліся звальненні з працы актывістаў незалежных прафсаюзных суполак і практыка закрыцця грамадскіх арганізацый.

У сітуацыі адсутнасці рэальных механізмаў уплыву на сітуацыю з правамі і свабодамі ўнутры краіны і ўлічваючы значную залежнасць дадзенай сферы ад знешнепалітычнага фактару, вялікая ўвага ўдзялялася стасункам афіцыйнага Мінска з заходнімі краінамі, найперш Еўрапейскага Саюза і ЗША. На працягу месяца прадстаўнікі беларускага знешнепалітычнага ведамства дэманстравалі нарошчванне кантактаў з еўрапейскімі дыпламатамі і палітыкамі.

1 красавіка міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей заявіў у інтэрв'ю «РІА Навіны» і БелТА, што Беларусь гатова да дыялогу з ЕС, але без усялякага ціску і санкцый. Пытанні ўзаемадзеяння па лініі Беларусь — ЕС, у тым ліку ў кантэксце маючага адбыцца старшынства Літвы ў Еўрапейскім Саюзе, 9 красавіка Уладзімір Макей абмеркаваў з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Літоўскай Рэспублікі ў Мінску Эвалдасам Ігнатавічусам. 10 красавіка ў Віцебску У. Макей правёў перамовы з міністрам замежных спраў Латвіі Эдгарсам Рынкевічсам, па выніках якіх заявіў, што «адносіны Беларусі з ЕС не знаходзяцца ў тупіку»: «Ёсць яснае разуменне таго, што мы павінны заўсёды знаходзіць алгарытм дзеянняў, якія дазволяць нам, вырашаючы прынцыповыя праблемы, паступова рухацца па тых кірунках, якія магчымыя». Урэгуляваць усе спрэчныя пытанні паміж Беларуссю і Еўрасаюзам у адзін момант не ўдасца, але дыялог вельмі важны,» — такую думку ў сваю чаргу выказаў Эдгарс Рынкевічс. «Тут у нас ёсць яшчэ вельмі шмат пытанняў, над якімі трэба папрацаваць. Гэта бачанне ЕС па некаторых аспектах дэмакратычных правоў і свабод, але разам з тым, што вельмі важна, мы пераходзім да абмеркавання гэтых пытанняў, да дыялогу, і я думаю, ёсць некаторыя пытанні, якія будуць прасоўвацца ў станоўчым рэчышчы. Мы будзем працягваць гэтыя перамовы і далей,» — адзначыў ён.

У рамках візіта ў Брусэль намеснік міністра замежных спраў Беларусі Алена Купчына 11 красавіка мела шэраг сустрэч, у тым ліку — з членам Еўрапейскай камісіі па пытаннях пашырэння ЕС і Еўрапейскай палітыкі суседства Штэфанам Фюле і дырэктарам ЕСЗД па Расіі, «Усходняму партнёрству», рэгіянальнаму супрацоўніцтву і АБСЕ Гунарам Вігандам.

26 красавіку Уладзімір Макей прыняў Часовага паверанага ў справах ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Ітана Голдрыча. У ходзе сустрэчы Голдрычу было перададзена пасланне міністра замежных спраў Беларусі Макея дзяржаўнаму сакратару ЗША Дж. Кэры, у якім выкладзена бачанне перспектыў развіцця беларуска-амерыканскіх адносін.

Надзвычайная актывізацыя кантактаў прадстаўнікоў ЕС і ЗША з беларускім афіцыйным бокам, змест якіх так і заставаўся закрытым для грамадскасці, выклікала пытанне адносна магчымай змены пазіцыі і стратэгіі заходніх дэмакратый адносна ўладаў Беларусі. Найперш паўстала пытанне, ці адмаўляюцца яны ад ранейшай прынцыповай пазіцыі, якая заключаецца ва ўзнаўленні стасункаў з афіцыйным Мінскам выключна пасля вызвалення палітвязняў. Гэтае пытанне набыло асаблівую вастрыню пасля таго, як на канферэнцыі ў Бруселі «Дыялог аб мадэрнізацыі з беларускім грамадствам», якая адбылася 9 красавіка, прадстаўнікі Еўрапарламента выказаліся за неабходнасць дыялогу з беларускімі ўладамі. У выніку 11 красавіка Петэр Стана, прэс-сакратар Штэфана Фюле, мусіў тлумачыць, што вызваленне ўсіх палітычных зняволеных у Беларусі застаецца абавязковай умовай вяртання Бруселя да нармальных адносін з Мінскам, а канферэнцыя «не з'яўляецца сур'ёзным паваротам у адносінах».

Актывізацыя стасункаў ЕС і ЗША з беларускімі ўладамі давала некаторую надзею на магчымасць дасягнення пазітыўных дамоўленасцяў у пытанні вызвалення палітвязняў, але на працягу месяца не было зафіксавана ніякіх рэальных прыкмет паляпшэння ў дадзеным накірунку. А выніковасць дыпламатычных захадаў была пастаўлена пад сумнеў пасля выступлення А. Лукашэнкі 26 красавіка, калі ён заявіў: «Адназначна магу сказаць: у еўрапейцаў зацвердзілася жалезна, і ў асвечаных членаў нашай пятай калоны, што рэжым санкцый і ўльтыматумаў аказаўся не проста контрпрадуктыўным, а шкодным для самога Еўрапейскага Саюза». Паводле яго слоў, сёння стаіць пытанне аб тым, «як выйсці з тупіка, у які мы з еўрапейцамі трапілі не па нашай віне». «Вось пачынаюць: там — палітвязні. Я яшчэ раз кажу: мы за палітыку нікога не судзім, у нас няма палітычных артыкулаў. Крымінальшчына самая простая. Як выйсці з гэтага становішча, я ўжо сказаў, і адыходу тут ніякага не будзе. Хто хацеў быць на волі — ён сёння на волі. Хто хоча быць у турме і выйсці героем — Гасподзь з вамі, сядзіце там», — заявіў кіраўнік дзяржавы. Такім чынам А. Лукашэнка фактычна заявіў, што ўлады Беларусі не маюць намеру ісці на кампрамісныя саступкі па найбольш прынцыповым для ЕС пытанні, што ў некаторым сэнсе ставіць пад сумнеў магчымасць аднаўлення паўнавартаснага дыялогу паміж Беларуссю і ЕС.

## Палітычныя зняволеныя, крымінальны пераслед грамадскіх актывістаў

3 красавіка наваполацкі сябра аргкамітэта па стварэнні партыі БХД Ілля Багданаў паведаміў, што ў канцы сакавіка пасля адпаведнага хадайніц-

тва адваката ён зноў пераведзены ў статус сведкі па справе «аб здрадзе дзяржаве». Ён напачатку праходзіў па гэтай справе ў якасці сведкі, аднак напрыканцы 2012 года падчас допыту следчы Алег Барысевіч паведаміў яму пра перавод у статус падазраванага. Па дадзенай справе абвінавачаным застаецца 23-гадовы аператар прадпрыемства «Нафтан» Андрэй Гайдукоў. 8 красавіка тэрмін утрымання яго ў СІЗА КДБ быў працягнуты яшчэ на месяц. Ніякіх падрабязнасцяў расследвання, якое цягнецца ўжо шосты месяц, дагэтуль няма. 29 красавіка стала вядом, што справу А.Гайдукова рыхтуюць да перадачы ў суд.

4 красавіка з ліста палітвязня Яўгена Васьковіча ягонай бабулі Тамары Уладзіміраўне стала вядома, што да яго пачалі даходзіць лісты. У прыватнасці, ён атрымаў шмат лістоў падтрымкі і віншаванняў да Дня Волі. Таксама да яго дайшла перадача ад сваякоў, лёс якой доўгі час быў невядомы. Яўген таксама патлумачыў прычыну сваёй адмовы ад адваката. Паводле яго словаў, ніякі адвакат яму дапамагчы не зможа, а марнаваць грошы на тое, каб даведацца пра ягоны стан, пра што ён можа апісаць у сваіх лістах, ён лічыць бессэнсоўным.

6 красавіка стала вядома, што палітвязень Аляксандр Францкевіч ужо больш за месяц знаходзіцца ў памяшканні камернага тыпу. Ён пачаў пісаць і ўжо даслаў некалькі апавяданняў Аляксандру Фядуту. Адзін аповяд філасофскі, а другі — фантастычны.

6 красавіка Эдуарду Лобаву дазволілі сустрэцца з ксяндзом. Адбылося гэта пасля ўмяшальніцтва апостальскага нунцыя арцыбіскупа Клаўдыё Гуджэроцці. За працэдурай споведзі назіралі некалькі супрацоўнікаў адміністрацыі Івацэвіцкай калоніі, таму споведзь прайшла літаральна моўчкі.

13 красавіка маці палітвязня Ігара Аліневіча паведаміла, што пасля выхаду ягонай кнігі пра ўтрыманне ў СІЗА КДБ і СІЗА на вул. Валадарскага ў Мінску «Еду ў Магадан» ад сына перасталі прыходзіць лісты. Тым не менш, выданне кнігі было жаданнем самога Ігара. 19 красавіка ў Мінску адбылася прэзентацыя кнігі Ігара Аліневіча. 22 красавіка стала вядома, што Ігар Аліневіч правеў у штрафным ізалятары 20 сутак. 26 красавіка палітвязня ў наваполацкай калоніі наведаў адвакат. У выніку сталі вядомыя прычыны ўтрымання І. Аліневіча ў ШЫЗА: 10 сутак за тое, што адмовіўся прыбіраць туалет, яшчэ некалькі сутак дадалі адразу, як увайшоў у камеру — за тое, што павітаўся з сукамернікамі, што было расцэнена як незаконныя размовы. Потым яшчэ дадалі некалькі дзён за дробныя парушэнні.

14 красавіка былы кандыдат у прэзідэнты Мікалай Статкевіч паведаміў у лісце, што зняволеным турмы №4 г. Магілёва ўпершыню выдалі прадугледжаныя законам сродкі гігіены, якіх палітвязень дабіваўся некалькі месяцаў. 20 красавіка стала вядома, што на Мікалая Статкевіча ў турме пачалася новая хваля ціску. Палітвязень перадаў на волю інфармацыю, што турэмшчыкі даюць яму ежу ў асобных, адмыслова пазначаных талерках, што не выключае спробаў яго атручвання.

## Смяротнае пакаранне

2 красавіка Любоў Кавалёва, маці абвінавачанага ў здзяйсненні выбуху ў мінскім метро ў красавіку 2011 года і расстралянага Уладзіслава Кавалёва, паведаміла пра свае захады па высвятленні інфармацыі пра тое, якая структура выканала смяротны прысуд, вынесены Вярхоўным судом яе сыну. Любоў Кавалёва дасылала запыты пра гэта ў некалькі інстанцый. «Спачатку я напісала старшыні Камітэту дзяржбяспекі, бо Улада да апошняга трымалі ў СІЗА КДБ. Атрымала ліст за подпісам самога старшыні Валерыя Вакульчыка, дзе напісана, што гэтае пытанне — па-за кампетэнцыяй КДБ. І што звяртацца трэба ў Вярхоўны суд, бо менавіта туды, паводле артыкула 175 Крымінальна-выканаўчага кодэксу, прыходзіць паведамленне, што прысуд выкананы. Але намеснік старшыні Вярхоўнага суда Валеры Калінковіч таксама адказаў, што гэта па-за іх кампетэнцыяй. І прапанаваў звярнуцца ў Дэпартамент выканання пакаранняў. На запыт у ДВП я атрымала адказ зноў толькі са спасылкай на артыкул 175. У частцы 5 там згадваецца «установа, якая выконвае смяротны прысуд» — што яна мусіць паведаміць пра выкананне суду, які вынес такі вырак, а адтуль мусяць напісаць сваякам. Паведамленне з Вярхоўнага суда мы атрымалі, але дабіцца, што за «ўстанова» займаецца расстрэламі асуджаных, пакуль не ўдалося», — распавяла Любоў Кавалёва. 24 красавіка маці і сястра Уладзіслава Кавалёва — Любоў Кавалёва і Таццяна Казяр — звярнуліся ў Адміністрацыю прэзідэнта, Міністэрства ўнутраных спраў і Камітэт дзяржаўнай бяспекі з патрабаваннем раскрыць ім месца пахавання Уладзіслава. Яны спасылаліся на рашэнне Камітэта па правах чалавека ААН, які прызнаў парушаным права на жыццё У. Кавалёва, а таксама звярнуўся да беларускіх уладаў з патрабаваннем раскрыць месца ягонага пахавання, расцэньваючы ўтойванне гэтай інфармацыі як жорсткае абыходжанне ў адносінах да родных.

## Гвалтоўныя знікненні

2 красавіка следчы камітэт даслаў адказ на сумесны зварот Аб'яднанай грамадзянскай партыі і праваабаронцаў пра перспектывы расследа-

вання знікненняў экс-міністра ўнутраных спраў Юрыя Захаранкі, палітыка Віктара Ганчара, бізнэсмена Анатоля Красоўскага і журналіста Дзмітрыя Завадскага. Адказ не ўтрымліваў ніякай інфармацыі па сутнасці расследавання і ягоных вынікаў, а з'яўляўся класічнай адпіскай без усялякіх намёкаў на зацікаўленасць у расследаванні гэтых злачынстваў.

## Пераслед праваабаронцаў і праваабарончыя арганізацыі

1 красавіка быў адчынены новы офіс Праваабарончага цэнтра «Вясна». Знайсці новае памяшканне пад офіс пасля канфіскацыі папярэдняга было для арганізацыі вялікай цяжкасцю. Намеснік старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» Валянцін Стэфановіч адзначыў, што, нягледзячы на перашкоды з боку ўладаў, у сценах новага офіса арганізацыя будзе працягваць усе накірункі сваёй дзейнасці. З моманту канфіскацыі офіса ў лістападзе 2012 года праца «Вясны» не спынялася, нягледзячы на адсутнасць памяшкання. Грамадская прыёмная працавала ў офісе Руху «За свабоду» і Камітэта дапамогі рэпрэсаваным «Салідарнасць». Падчас адкрыцця офіса былі прэзентаваны аналітычныя выданні — штогадовы агляд-хроніка «Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі» і «Справаздача па выніках маніторынгу месцаў прымусовага ўтрымання ў Рэспубліцы Беларусь».

Увечары 2 сакавіка адбыўся несанкцыянавы доступ да сайта Магілёўскага аддзялення Праваабарончага цэнтра «Вясна», у выніку якога невядомыя размясцілі тры правакацыйных артыкулы, у тым ліку — публікацыю з пагрозамі ад імя праваабаронцы Барыса Бухеля незалежнаму журналісту Алесю Буракову. Невядомымі асобамі была ўзламаная бяспека сайта і заменены паролі доступу да панэлі адміністратара (бэк-офіса). Апроч таго, была знішчана праваабарончая інфармацыя за апошнія два гады. 5 красавіка сайт mahilyowspring.org цалкам аднавіў сваю працу. Вернута выдаленая інфармацыя, знішчаны паклёпніцкія артыкулы, спецыялісты заняліся павышэннем ягонай бяспекі.

9 красавіка ў Мазыры быў абрабаваны прыватны дом праваабаронцы Уладзіміра Целепуна. Зламыснікі залезлі ў дом праз вакно, разбіўшы шкло ў двух рамах. Былі скрадзены інструменты, а таксама знік Ордэн «Чарнобыльскі Крыж: Мужнасць. Годнасць. Гуманнасць», якім праваабаронца быў узнагароджаны Усеўкраінскай грамадскай арганізацыяй «Саюз Чарнобыль Украіны» ў 2011 годзе з нагоды 25-ых угодкаў аварыі на ЧАЭС. Уладзімір Целяпун у 1986 годзе прымаў удзел у ліквідацыі наступстваў гэтай тэхнагеннай катастрофы. 26 красавіка Уладзіміра Целяпуна

выклікалі ў Следчы камітэт, які займаўся справай аб рабаўніцтве, і вярнулі скрадзеную чарнобыльскую ўзнагароду. Астатнія рэчы да гэтага часу не былі знойдзены.

18 красавіка праваабаронца Леанід Судаленка падаў у суд Цэнтральнага раёна Гомеля пазоў да казны (Міністэрства фінансаў) аб кампенсацыі маральнай шкоды з-за невыканання ўладамі рашэння Камітэта па правах чалавека ААН. Маральную шкоду ён ацаніў у памеры заробку дэпутата парламента за чатыры гады паўнамоцтваў. У час выбараў дэпутатаў ПП НС у 2004 годзе праваабаронца не быў зарэгістраваны як кандыдат у дэпутаты, хаця і сабраў неабходную колькасць подпісаў выбаршчыкаў. Акруговая выбарчая камісія і ЦВК палічылі, што юрыст няправільна ўказаў сваё месца працы. Вярхоўны суд стаў на бок ЦВК, пасля чаго Леанід Судаленка накіраваў скаргу ў Камітэт па правах чалавека ААН. У 2010 годзе Камітэт прыйшоў да высновы, што ў дачыненні да аўтара скаргі дапушчаны парушэнні яго правоў прымаць удзел у вядзенні дзяржаўных спраў шляхам абрання на выбарах. Таксама Камітэт вырашыў, што ў дадзеным выпадку была прыменена дыскрымінацыя па палітычных матывах. Камітэт абавязаў Беларусь прадставіць аўтару эфектыўны сродак прававой абароны, а таксама разглядаць любыя будучыя хадайніцтвы аб яго вылучэнні кандыдатам у дэпутаты пры поўным выкананні палажэнняў Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах.

19 красавіка актывісты ініцыятывы «Супраць беззаконня ў судах і пракуратуры» спрабавалі перадаць Аляксандру Лукашэнку, які выступаў з пасланнем да Нацыянальнага сходу, петыцыю з просьбай разгледзець іх скаргі, паколькі яны шмат гадоў застаюцца без увагі чыноўнікаў і суддзяў. Праваабаронцу Тамару Сяргей і больш за 10 актывістаў да будынка Нацыянальнага сходу не дапусціла ахова прэзідэнта. Удзельнікаў акцыі міліцыя штуршкамі і пагрозамі прымусіла сысці з плошчы Незалежнасці. 24 красавіка Генеральная пракуратура папярэдзіла праваабаронцу Тамару Сяргей аб адказнасці за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі паводле артыкула 193.1 Крымінальнага кодэкса РБ.

25 красавіка прыкладна каля 21 гадзіны быў узламаны сайт Праваабарончага цэнтра «Вясна». Шляхам несанкцыянаванага доступу на сайце быў палярна зменены сэнс некаторых публікацый. Прычым гэта было здзейснена адразу на трох мовах сайта: беларускай, рускай і англійскай. У прыватнасці, была замененая інфармацыя пра падпісанне Андрэем Курэйчыкам петыцыі супраць смяротнага пакарання — напісана, што ён падтрымаў смяротнае пакаранне. Былі замененыя коды на відэа, якое разме-

шчанае на youtube: замест відэазвароту Андрэя Курэйчыка быў устаўлены відэаролік за захаванне смяротнага пакарання. Таксама заменена інфармацыя пра пазіцыю Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH) — напісана тое, што яна выступае ў падтрымку дзяржаўнай палітыкі Беларусі. Змены адбыліся і ў некаторых іншых матэрыялах. Цягам 30 хвілін супрацоўнікам інфармацыйнай службы бяспекі «Вясны» ўдалося перадухіліць наступныя атакі і выправіць фальшывую інфармацыю.

25 красавіка гродзенскага праваабаронцу і журналіста Уладзіміра Хільмановіча выклікалі ва Упраўленне КДБ па Гродзенскай вобласці на 14 гадзін 26 красавіка. Прадстаўнік КДБ растлумачыў прычыну выкліку наступным чынам: «у межах кампетэнцыі дзейнасці ўпраўлення КДБ». Уладзімір Хільмановіч атрымаў вуснае папярэджанне за асобныя артыкулы. КДБ лічыць, што некаторыя матэрыялы мяжуюць з дыскрэдытацыяй Беларусі. Падставай для папярэджання сталі публікацыі ў тыднёвіку беларусаў у Польшчы «Ніва».

29 красавіка назіральнік-праваабаронца Вячаслаў Дашкевіч, затрыманы ў Мінску ўвечары 26 красавіка пасля санкцыянаванай уладамі акцыі «Чарнобыльскі шлях», быў асуджаны да пяці сутак адміністрацыйнага арышту. Такое рашэнне прыняў суддзя суда Савецкага раёна Дзмітрый Паўлючэнка. Назіральнік быў затрыманы, калі кіраваўся да РУУС Савецкага раёна Мінска, каб адсочваць дастаўку туды затрыманых удзельнікаў «Чарнобыльскага шляху». В. Дашкевіч, згодна з пастановай суда, прызнаны вінаватым у непадпарадкаванні законным патрабаванням службовых асоб (ст.23.4 Адміністрацыйнага кодэкса).

## Ціск спецслужбаў на грамадска і палітычна актыўных грамадзян

25 красавіка наваполацкага актывіста Яўгена Парчынскага чалавек, які не прадставіўся, па тэлефоне выклікаў на «прафілактычную гутарку». Актывісту прапанавалі сустрэцца на вуліцы, а потым папрасілі сесці ў легкавую машыну, дзе ўжо знаходзіліся двое мужчын, а трэці прагульваўся вакол машыны. Ніводзін з трох сябе не назваў, нягледзячы на настойлівыя патрабаванні. Па словах спадара Парчынскага, з боку невядомых было шмат пытанняў пра іншых наваполацкіх апазіцыянераў і пра тое, якія мэты ў грамадскага аб'яднання «Свабодны рэгіён». Напрыканцы размовы актывіста папярэдзілі пра крымінальную адказнасць за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі і за змест артыкулаў на сайце http://freeregion.info — у тым выпадку, калі там будуць размяшчацца матэрыя-

лы зневажальнага ды паклёпніцкага зместу ў дачыненні Рэспублікі Беларусь. Я. Парчынскага таксама папярэдзілі пра адміністрацыйную адказнасць, калі будзе арганізавана нейкая акцыя да гадавіны Чарнобыльскай аварыі. Па словах актывіста, ён пазнаў аднаго з суразмоўцаў. Той часта наведваўся на розныя акцыі ў Наваполацку, але ніхто з прадстаўнікоў дэмакратычнага руху не быў з ім знаёмы. Таму ў актывістаў ужо даўно склалася меркаванне, што ён — прадстаўнік спецслужб. Спадар Парчынскі паведаміў, што ніякіх дакументаў падчас гутаркі з асобамі ў цывільным не складалася, ніякіх афіцыйных папер яму падпісваць не прапаноўвалі.

29 красавіка актывіст БХД Алег Аксёнаў атрымаў другое папярэджанне ад Магілёўскага КДБ за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі. У гэты дзень раніцай актывісту патэлефанаваў следчы КДБ Махуноў, які запрасіў яго на сустрэчу ў будынак КДБ. Праз некалькі хвілін актывісту была дастаўлена позва. Старшыні Магілёўскай абласной арганізацыі БНФ «Адраджэньне» Дзмітрыю Салаўёву было адмоўлена быць грамадскім прадстаўніком Алега Аксёнава падчас размовы ў КДБ. Гутарка са следчым КДБ Махуновым працягвалася каля гадзіны. Супрацоўнік спецслужбы паведаміў Алегу Аксёнаву, што нагодай для пастаноўкі на прафілактычны ўлік з'яўляецца дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі — партыі БХД, а таксама дзейнасць у складзе незарэгістраваных арганізацый — кампаніі па назіранні за выбарамі «За справядлівыя выбары» і Магілёўскай рэгіянальнай кааліцыі дэмакратычных сіл. У якасці доказу Махуноў прадаставіў раздрукоўкі з розных сайтаў, дзе ўзгадвалася прозвішча Аксёнава. Актывіст спрабаваў пераканаць следчага, што партыя БХД дзейнічае ад імя свайго аргкамітэта, аднак ён гэта адмовіўся разумець». Акрамя Алега Аксёнава на прафілактычным уліку ў Магілёўскай абласной управе КДБ знаходзяцца актывістка БХД Таццяна Шамбалава і старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі БНФ «Адраджэньне» Дзмітрый Салаўёў.

## Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні

3 красавіка ў Слонімскі РАУС былі выкліканы сябры слонімскага згуртавання дэмакратычных сіл Іван Бедка і Іван Шэга. Позву Івану Шэгу ўручылі на працы, а Івану Бедку прынеслі дадому. Маёр міліцыі Аляксандр Худзько сказаў, што неабходна напісаць тлумачэнні адносна запуску на Дзень Волі шарыкаў. Іван Бедка і Іван Шэга адмовіліся пісаць тлумачэнні. 18 красавіка ў Слонімскім РАУС па факце ўдзелу ў святкаванні Дня Волі маёрам міліцыі Вадзімам Шчурскім былі дапытаны мясцовыя актывісты

АГП браты Сяргей і Андрэй Бялько. Пісаць тлумачэнні адносна ўдзелу ў святкаванні сябры АГП адмовіліся. Па справе святкавання Дня Волі ў міліцыю быў выкліканы таксама пенсіянер Мікалай Барысік, якога дапытваў маёр міліцыі Ігар Клыбік. Мікалай Барысік адмовіўся ад усіх тлумачэнняў, адзначыўшы, што святкаванне Дня Волі — гэта яго асабістая справа. 22 красавіка ў Слонімскі РАУС выклікалі і дапыталі яшчэ двух чалавек за ўдзел у Дні Волі. Маёр міліцыі Ігар Клыбік дапытаў сяброў Віктара Марчыка і Альберта Глінніка. Пісаць пісьмовыя тлумачэнні яны адмовіліся. Усе ўдзельнікі святкавання Дня Волі былі ідэнтыфікаваны міліцыяй па здымках, якія з'явіліся ў інтэрнэце пасля мерапрыемства.

4 красавіка былы палітвязень Васіль Парфянкоў, які толькі 9 лютага быў вызвалены з арыштнага дома Баранавіцкага следчага ізалятара №6, дзе адбываў пакаранне ў выглядзе 6 месяцаў пазбаўлення волі за парушэнне правіл прэвентыўнага нагляду, быў зноў абвінавачаны ў парушэнні ўстаноўленага судом нагляду. Суддзя Першамайскага суда Мінска Юрый Гарбатоўскі пакараў актывіста штрафам у памеры 8 базавых велічынь.

4 красавіка камісія па справах непаўнагадовых адміністрацыі Маскоўскага раёна Брэста вынесла рашэнне аб накладанні штрафу на 18-гадовага Уладзіслава Бароўскага ў памеры 0,5 базавай велічыні. Такое рашэнне прынята камісіяй пасля разгляду матэрыялаў адміністрацыйнай справы адносна У.Бароўскага на падставе ч. 1 арт. 23.34 КаАП (удзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве). У. Бароўскі разам з актывістамі аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Яўгенам Хазіахметавым і Андрэем Шарэндам былі затрыманы супрацоўнікамі міліцыі 18 сакавіка на вуліцы Маскоўскай побач з паркам Воінаўінтэрнацыяналістаў, дзе ў гэты дзень быў вывешаны бел-чырвона-белы сцяг на ўстаноўленым на пастаменце бронетранспарцёры.

5 красавіка ў судзе Першамайскага раёна Мінска адбыўся чарговы суд над былым палітвязнем, актывістам «Маладога Фронту» Уладзімірам Яроменкам па абвінавачанні ў парушэнні ўмоў прэвентыўнага нагляду, устаноўленага судом. Паводле судовай пастановы, Уладзімір Яроменак не знаходзіўся ў сябе дома ў прамежак часу з 21 гадзіны вечара да 6 гадзін раніцы 24 лютага. Справу разглядаў суддзя Юры Гарбатоўскі. Уладзімір Яроменак не прысутнічаў на працэсе, бо не быў праінфармаваны пра яго загадзя. 23 красавіка актывісту патэлефанаваў участковы інспектар і прапанаваў прыйсці да яго ў апорны пункт, патлумачыўшы, што ён асуджаны на 15 сутак арышту. 24 красавіка Уладзіміра Яроменку адправілі ў Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў адбыць пакаранне.

5 красавіка ў Віцебскім абласным судзе адбыўся разгляд касацыйнай скаргі старшыні абласной арганізацыі Партыі БНФ Леаніда Аўтухова на рашэнне суда Кастрычніцкага раёна, згодна з якім 25 сакавіка суддзя Іна Грабоўская пакарала яго 5 суткамі арышту за быццам бы парушэнне заканадаўства аб масавых мерапрыемствах. Правапарушэннем суддзя расцаніла раздачу Леанідам Аўтуховым разам з аднапартыйцам Кастусём Смолікавым бюлетэня «Магістрат», прысвечанага Дню Волі. Скаргу разглядала суддзя Ірына Смалякова. Леанід Аўтухоў хадайнічаў, каб разгляд адбываўся на беларускай мове, аднак суддзя гэтае хадайніцтва адхіліла, як і пазнейшае хадайніцтва пра адвод суда, з якім выступіў актывіст. Суддзя Смалякова пакінула рашэнне суда першай інстанцыі без зменаў.

9 красавіка актывіста Руху «За свабоду» Яна Мельнікава, які пад бел-чырвона-белым сцягам віншаваў мінакоў з Днём Волі 25 сакавіка на плошчы Якуба Коласа сталіцы, выклікалі ў РУУС Савецкага раёна Мінска і склалі там адміністрацыйны пратакол па ч. 2 арт. 23.34 КаАП (арганізацыя несанкцыянаванай акцыі). 10 красавіка суддзя суда Савецкага раёна Аксана Рэлява вынесла рашэнне аб накладанні штрафу ў памеры 22 базавых велічынь.

10 красавіка суд Маскоўскага раёна Мінска прызнаў грамадскую актывістку Ніну Багінскую вінаватай у правядзенні несанкцыянаванай акцыі і аштрафаваў на 25 базавых велічынь. Актывістку затрымалі 25 сакавіка падчас малітвы каля Чырвонага касцёла сталіцы, калі жанчына разгарнула бел-чырвона-белы сцяг. Пастанову вынесла суддзя Таццяна Мотыль.

12 красавіка ў памяшканні ўпраўлення ўнутраных спраў Віцебскага аблвыканкама быў затрыманы мясцовы актывіст Пётр Іваноў. Перад гэтым ён у абласным ДАІ ў якасці сведкі даваў тлумачэнні палкоўніку Сцяпанаву па справе аб затрыманні 16 лютага за акцыю (трымалі плакат са словамі «Свабоду» ў цэнтры Віцебска) сябраў БХД Аляксея Кішчука і Станіслава Лаўрэнава. Пры гэтым Іваноў прасіў прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці супрацоўнікаў міліцыі, якія ўдзельнічалі ў затрыманні (за парушэнне правіл дарожнага руху). За гэта на Пятра Іванова склалі адміністрацыйны пратакол за быццам бы свядома фальшывае паведамленне. Іванова прывезлі да будынку суда Першамайскага раёна, аднак затым міліцэйская машына развярнулася і паехала зноў у РАУС Першамайскага раёна Віцебска, дзе на яго склалі яшчэ адзін пратакол — за парушэнне артыкула 23.4 КаАП — непадпарадкаванне законнаму распараджэнню ці патрабаванню службовай асобы падчас выканання ёй

службовых паўнамоцтваў. Судовы працэс пачаўся 15 красавіка ў судзе Першамайскага раёна Віцебска. Суддзя Андрэй Прэйс задаволіў хадайніцтва Пятра Іванова аб удзеле ў працэсе адваката і перанёс разгляд справы. 17 красавіка актывіст атрымаў штраф у памеры 20 базавых велічынь па абвінавачанні ў паведамленеіі непраўдзівых звестак у скарзе на парушэнне кіроўцам міліцэйскага аўтамабіля правіл дарожнага руху. Другі штраф, таксама ў памеры 20 базавых велічынь — за непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі, якія гвалтам цягнулі яго ў суд за ілжэсведчанні. Ні ў першым, ні ў другім выпадку Пётр Іваноў не прызнаў свае віны.

12 красавіка старшыня Мінскага гарадскога суда Уладзімір Пуціла адмовіў лідару АГП Анатолю Лябедзьку ў задавальненні касацыйнай скаргі на пастанову суддзі суда Савецкага раёна Мінска Дзмітрыя Паўлючэнкі, які завочна вынес рашэнне аб накладанні на яго штрафу яшчэ 15 студзеня. Тады палітыка аштрафавалі за раздачу грамадзянам інфармацыйных улётак з інфармацыяй аб адносінах АГП і яе прыхільнікаў да прыватызацыі дзяржуласнасці. Анатоль Лябедзька абскардзіў дадзенае рашэнне ў гарадскім судзе, аднак суддзя Валерый Камісараў 15 лютага пакінуў скаргу без задавальнення. Пазіцыю сваіх калег падтрымаў і старшыня Мінскага гарадскога суда.

17 красавіка Віктару Івашкевічу забаранілі выезд з краіны ў сувязі са справай траўня 2012 года, калі работніца Мазырскага НПЗ Марына Цыбліенка падала на яго ў суд за заклікі да еўрапейскіх кампаній байкатаваць беларускія нафтапрадукты. Тады суд абавязаў В.Івашкевіча выплаціць работніцы Мазырскага НПЗ 500 тысяч рублёў і абвергнуць заявы на сайце «Хартыі'97» з заклікам увесці эканамічныя санкцыі. Віктар Івашкевіч заплаціў «кампенсацыю» рабочай і праз паўгода яму быў дазволены выезд за межы краіны, аднак цяпер судовы выканаўца па гэтай справе паведаміў, што выезд палітыку зноў абмежаваны, паколькі ён да гэтага часу не абверг свае заявы ў СМІ.

17 красавіка віцебскі абласны суд не задаволіў касацыйную скаргу Сяргея Каваленкі. Рашэнне Першамайскага райсуда, якое спрабаваў абскардзіць віцебскі актывіст КХП БНФ, засталося без зменаў — Сяргей Каваленка мусіць выплаціць 1 мільён штрафу, прысуджанага яму за дробнае хуліганства. Суддзя абласнога суда Ірына Смалякова падтрымала рашэнне суддзі Першамайскага райсуда Валянціны Кісмярошкінай. Судом былі без пярэчанняў прынятыя факты, выкладзеныя ў міліцэйскіх пратаколах, у якіх указвалася, што Каваленка ішоў па праезжай частцы вуліцы 2-ая Прадольная, і гэта парушэнне правіл дарожнага руху заўва-

жыў міліцэйскі патруль, які пад'ехаў на машыне і зрабіў заўвагу. Сяргей Каваленка нібыта ў нецэнзурнай форме адмовіўся сысці на ходнік.

22 красавіка быў затрыманы актывіст моладзевага крыла кампаніі «Гавары праўду» — «Zmena» Павел Вінаградаў, які напярэдадні вывесіў бел-чырвона-белы сцяг і партрэт палітвязня Мікалая Статкевіча над уваходам на станцыю метро «Няміга» ў Мінску. 23 красавіка ў судзе Цэнтральнага раёна адбыўся разгляд адміністрацыйнай справы П. Вінаградава па абвінавачанні ў парушэнні арт. 23.34. КаАП РП (парушэнне парадку правядзення масавага мерапрыемства). Суддзя Вікторыя Шабуня вынесла пастанову аб адміністрацыйным арышце П.Вінаградава тэрмінам 12 сутак.

26 красавіка ў горадзе Астраўцы Гродзенскай вобласці, дзе будуецца АЭС, двойчы быў затрыманы лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька і журналісты Аляксандр Баразенка і Наста Яўмен, якія ехалі з палітыкам рабіць рэпартажы.

26 красавіка ў Мінску адбылася штогадовая мемарыяльная акцыя да ўгодкаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Дэманстрацыя была дазволена Мінгарвыканкамам і праходзіла мірна. Аднак прадстаўнікі праваахоўных органаў не ўстрымаліся ад перашкодаў, і мерапрыемства суправаджалася затрыманнямі журналістаў і грамадскіх актывістаў. Прэвентыўна каля сваіх дамоў былі затрыманы старшыня Рады ГА «Экадом» Ірына Сухій, а таксама актывісты Васіль Сінюхін, Канстанцін Кірыленка, Вольга Каскевіч. Іх пратрымалі ў Першамайскім РУУС 3 гадзіны і адпусцілі, калі «Чарнобыльскі Шлях» завершыўся. Яшчэ некалькі эколагаў былі блакаваны ў сваіх кватэрах і не змаглі прыйсці на акцыю. Каля РУУС Савецкага раёна, куды прывезлі частку затрыманых пасля акцыі, быў затрыманы назіральнік-праваабаронца Вячаслаў Дашкевіч. Пасля «Чарнобыльскага шляху» быў жорстка збіты да крыві чатырма сілавікамі ў цывільным і затрыманы актывіст анархісцкага руху Ігар Труханoвіч. Журналісткі «Нашай Нівы» Ірына Арахоўская і Аксана Рудовіч , якія здымалі збіццё, былі затрыманы і дастаўлены ў аддзяленне міліцыі Савецкага раёна, адкуль праз некалькі гадзін былі вызвалены. У 21.45 былі затрыманы Алена Вітко (пазней вызвалена), Ян Мельнікаў (вызвалены позна ўвечары), Інна Казлоўская (непаўнагадовая, забралі бацькі) і дзяўчына Наста (прозвішча невядомае). Позна ўвечары былі затрыманы журналісты беларускага «Радыё Рацыя» Аляксандр Ярашэвіч і Генадзь Барбарыч, якія былі дастаўленыя ў Савецкі РУУС. За ўдзел у акцыі былі таксама затрыманы актывісты «Еўрапейскай Беларусі» Аляксандр Тарнагурскі і Дзмітрый Чарняк. Да суда

ўсе затрыманыя ўтрымліваліся ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў. 29 красавіка ў судзе Савецкага раёна Мінска адбыліся судовыя працэсы. Журналісты Генадзь Барбарыч і Аляксандр Ярашэвіч былі асуджаныя на 3 сутак арышту кожны за «непадпарадкаванне патрабаванням міліцыі» (артыкул 23.4 КаАП РБ), пастановы былі вынесены суддзёй Кірылам Палулехам. Праваабаронца Вячаслаў Дашкевіч быў асуджаны да 5 сутак адміністрацыйнага арышту па тых жа абвінавачваннях, пастанова была прынята суддзёй Дзмітрыем Паўлічэнкам. Актывіста Ігара Труханoвіча асудзілі да 10 сутак арышту па абвінавачванні ва ўдзеле ў незаконным масавым мерапрыемстве і непадпарадкаванні супрацоўнікам міліцыі (суддзя Аксана Рэлява). Дзмітрый Чарняк і Аляксандр Тарнагурскі былі асуджаныя да 10 сутак арышту кожны па аналагічных абвінавачаннях суддзямі Аксанай Рэлява і Дзмітрыем Паўлючэнкам адпаведна.

30 красавіка на віцебскага сябра КХП БНФ Яна Дзяржаўцава быў складзены пратакол пра парушэнне заканадаўства аб масавых мерапрыемствах. Міліцыянеры выклікалі яго ў Кастрычніцкі РАУС, каб зафіксаваць правапарушэнне, якога яны на свае вочы не бачылі — пратакол быў складзены на падставе здымкаў, выкладзеных у інтэрнэце. 26 красавіка Ян Дзяржаўцаў з аднапартыйцам Віталем Каваленкам выйшлі на вуліцу Замкавую і да помніка П. Машэраву з плакатамі «Будаваць АЭС без згоды народа можа толькі вораг Беларусі» і «Дыктатар, пабудуеш Астравец — пажнеш Чарнобыль». Верагодна, нехта з мінакоў выклікаў міліцыю. Аднак міліцэйская машына пад'ехала ўжо тады, калі актывісты згарнулі плакаты і збіраліся сыходзіць. Акцыю мінакі здымалі на мабільныя тэлефоны, і ўжо ў абед фотаздымкі з'явіліся на розных інтэрнэт-сайтах. Паводле міліцыянтаў, гэта будзе выкарыстана як доказ на судовым працэсе.

## Абмежаванні свабоды слова
## і права на распаўсюд інфармацыі, пераслед журналістаў

29 сакавіка суд Бялыніцкага раёна пакараў штрафамі жыхара вёскі Лебедзянка Валерыя Вусіка: нібыта за паклёп у адрас старшыні СВК «Лебедзянка» Пятра Бялова (30 базавых велічынь) і за распаўсюд незалежнай газеты «Магілёўскі Выбар» (20 базавых велічынь). Вёў судовае паседжанне старшыня суда Бялыніцкага раёна Уладзімір Гуз. Суддзя не задаволіў хадайніцтва Валерыя Вусіка аб удзеле ў адміністрацыйным працэса яго адваката, а таксама не прыняў да ўвагі пісьмовыя сведчанні шэрагу жыхароў вёскі Лебедзянкі, якія пацвярджалі, што факты парушэнняў у дзейнасці СВК «Лебедзянка», выкладзеныя у артыкуле Валерыя Вусіка «Што змянілася за апошнія некалькі год у СВК «Лебедзянка»?» у

газеце «Магілёўскі Выбар», сапраўды мелі месца. Пры гэтым суддзя спасылаўся на тое, што супрацоўнікі Бялыніцкага РАУС прынялі пастанову аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы ў адносінах адміністрацыі СВК «Лебедзянка», бо факты, выкладзеныя ў скаргах Валерыя Вусіка, не пацвердзіліся. Не прыняў да ўвагі суд і сведчанні выдаўца газеты «Магілёўскі Выбар» Барыс Вырвіча, што газета выдаецца ў адпаведнасці з Канстытуцыяй і Законам аб СМІ.

11 красавіка экс-рэдактару часопіса «ARCHE-Пачатак» Валеру Булгакаву прыйшоў афіцыйны адказ на яго запыт ва ўпраўленне Дэпартамента фінансавых расследаванняў (УДФР) па Мінскай вобл. і г. Мінску. Намеснік кіраўніка УДФР Бацэвічус паведаміў, што «па выніках праверкі, праведзенай УДФР КДК РБ па Мінскай вобласці і г. Мінску ў завядзенні крымінальнай справы па арт. 243 КК РБ у дачыненні да Вас... адмоўлена». У лісце Валерыю Булгакаву таксама было прапанавана з'явіцца ва УДФР па Мінскай вобл. і г. Мінску «для вырашэння лёсу выданняў», якія яму належаць. Аналагічны ліст сп. Бацэвічус адрасаваў ТАА «Інбелкульт» (былы выдавец часопіса, ад імя якога таксама быў зроблены запыт). Абедзве паперы датаваны 9 красавіка. 23 красавіка Міністэрства інфармацыі чарговы раз адмовіла часопісу «ARCHE-Пачатак» ва ўнясенні зменаў у звесткі аб рэгістрацыі выдання, што паставіла пад пытанне захаванне часопіса. У рашэнні за подпісам намесніка міністра інфармацыі Уладзіміра Матусевіча адзначана, што рэдакцыя нібыта не ўказала інфармацыю аб перапрызначэнні галоўным рэдактарам Валера Булгакава. У сваю чаргу аўтары часопіса назвалі рашэнне накіраваным на знішчэнне выдання.

17 красавіка ў Ашмянскім раённым судзе пачаўся разгляд справы, ініцыяванай упраўленнем КДБ па Гродзенскай вобласці, аб прызнанні экстрэмісцкімі матэрыялаў альбома «Прэс-фота Беларусі — 2011». Чатыры дзеясяткі асобнікаў альбома было канфіскавана ў фатографаў Юліі Дарашкевіч і Аляксандра Васюковіча 2 лістапада 2012 года пры перасячэнні мяжы на памежным пераходзе «Каменны Лог». Суддзя — Аляксандр Давыдаў. У якасці «зацікаўленых асоб» па справе праходзілі фатографы Юлія Дарашкевіч, Аляксандр Васюковіч і Вадзім Заміроўскі, які разам з Ю.Дарашкевіч з'яўляецца арганізатарам конкурсу «Прэс-фота Беларусі». З даведкі, прадстаўленай адвакату Дарашкевіч, вынікала, што экспертная камісія, прызначаная рашэннем Гродзенскага аблвыканкама, зрабіла выснову аб тым, што ў альбоме «змяшчаюцца наўмысна скажоныя, не адпавядаючыя рэчаіснасці матэрыялы аб жыццядзейнасці Рэспублікі Беларусь у палітычнай, эканамічнай, сацыяльнай і іншых сферах, якія прыніжаюць нацыянальны гонар і годнасць грамадзян Рэспублікі Бела-

русь». У пачатку працэсу адвакаты заявілі хадайніцтва аб тым, каб была праведзена альтэрнатыўная экспертыза фотаальбома, але яно было адхілена. 18 красавіка суд Ашмянскага раёна прызнаў «Прэс-фота Беларусі — 2011» экстрэмісцкім і пастанавіў знішчыць 41 асобнік выдання, раней канфіскаваны беларускай мытняй. У гэты ж дзень ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» выказала нязгоду з рашэннем суда, адзначаючы, што «сам факт разгляду гэтай справы ў судзе выглядаў абсурдна, і менавіта ён, а не змест альбома, здольны «падарваць давер да органаў улады». У ранейшым сваім звароце да органаў КДБ з заклікам адклікаць судовы іск БАЖ адзначала, што «фотаздымкі гэтага альбома не ўтрымліваюць заклікаў да экстрэмісцкай дзейнасці і не прапагандуюць яе. Фотаздымкі не ствараюць, а толькі адлюстроўваюць рэчаіснасць. Яны па вызначэнні не могуць «утрымліваць свядома скажоных, не адпаведных рэчаіснасці домыслаў пра жыццядзейнасць Рэспублікі Беларусь». Тое, што прэтэнзіі экспертнай групы выклікала «падборка матэрыялаў фотаальбома ў сукупнасці», сведчыць пра перадузятае стаўленне саміх экспертаў, а не стваральнікаў альбома». 26 красавіка журналістамі была накіравана касацыйная скарга ў Гродненскі абласны суд на рашэнне Ашмянскага раённага суда.

19 красавіка журналіст Радыё «Свабода» Алег Груздзіловіч і відэааператар інфармацыйнай кампаніі БелаПАН Сяргей Сацюк былі затрыманы ў Мінску падчас асвятлення акцыі пратэсту, якую ладзіла грамадзская ініцыятыва «Супраць беззаконня ў судах і пракуратуры» на плошчы Незалежнасці. Журналісты былі дастаўлены ў РУУС Маскоўскага раёна, адкуль праз некалькі гадзін адпушчаны. Ім вярнулі відэапаратуру, але ўсе запісы знішчылі.

24 красавіка прыблізна ў 11.50 часова перастаў працаваць сайт «Еўрапейскага радыё для Беларусі» — замест галоўнай старонкі карыстальнікі маглі бачыць толькі абвестку пра тэхнічныя працы на сайце. «Літаральна 15 хвілін таму на сайце з'явілася надзвычайная колькасць канэктаў, — адзначыў галоўны рэдактар «Еўрарадыё» Віталь Зыблюк. — Магчыма, гэта была тэхнічная накладка, а, магчыма, спланаваная DDOS-атака». Пасля 12-й гадзіны сайт запрацаваў у звычайным рэжыме.

24 красавіка старшыню віцебскай абласной арганізацыі Партыі БНФ Леаніда Аўтухова выклікалі ў Кастрычніцкі райаддзел міліцыі Віцебска, дзе азнаёмілі з пратаколам пра парушэнне заканадаўства аб СМІ. Л. Аўтухова абвінавацілі ў тым, што была перавышана колькасць асобнікаў партыйнага бюлетэня «Магістрат», падчас раздачы якога Л.Аўтухоў быў

затрыманы 22 сакавіка ў гандлёвым цэнтры «Эвіком» і за што ўжо быў асуджаны на 5 сутак адміністрацыйнага арышту па абвінавачанні ў парушэнні заканадаўства аб масавых мерапрыемствах (у бюлетэні ўтрымлівалася інфармацыя пра запланаванае святкаванне Дня Волі). Пры гэтым падчас канфіскацыі асобнікі бюлетэня не падлічваліся ў прысутнасці Л.Аўтухова, і адкуль узялася выніковая лічба, яму невядома.

25 красавіка хакеры размясцілі на галоўнай старонцы сайта belaruspartisan.org пасланне:»Мы маглі б заваліць і вас, і «Хартыю», і «Вясну», і многіх іншых яшчэ даўно, але мы даем вам магчымасць існаваць пад нашым кантролем. Чаму мы гэта не рабілі? Проста цікава, хто, адкуль і ШТО кажа. А цяпер у нас ёсць спіс гаваруноў, якіх папярэджваем ў апошні раз: кажыце, пішыце, але не зарывайцеся, не трэба ліць бруд і абражаць АСОБУ». Як адзначыла рэдакцыя сайта, гэта справа рук «хакераў у пагонах». Невядомыя, якія змясцілі на сайце заяву, прадставіліся «паслядоўнікамі групы «Анонимус». Некалькімі днямі раней DDoS-нападу падвергнуўся сайт «Хартыя-97», яго праца была заблакаваная на гадзіну. Рэдакцыя сайта заявіла, што ў нападзе выявіўся «расійска-беларуска-ўкраінскі след (больш за 60% IP былі з Украіны, 30% — з Беларусі)».

Варта адзначыць, што сайты «Беларускі партызан», «Хартыя-97» і Праваабарончага цэнтра «Вясна» ўнесены ў так званыя «чорныя спісы» і забаронены для прагляду ў дзяржустановах.

26 красавіка падчас наведвання пляцоўкі пад будаўніцтва Астравецкай АЭС былі затрыманы незалежныя журналісты Аляксандр Баразенка і Настасся Яўмен. Затрыманых даставілі ў мясцовы РАУС, адкуль праз некаторы час адпусцілі. Журналісты рабілі рэпартаж наведвання Астраўца лідарам АГП Анатолем Лябедзькам і актывістамі Іванам Круком і Мікалаем Уласевічам.

26 красавіка пасля правядзення дазволенага ўладамі «Чарнобыльскага шляху» ў Мінску былі затрыманы журналісткі «Нашай Нівы» Ірына Арахоўская і Аксана Рудовіч, якія здымалі на відэа збіццё актывіста анархісцкага руху Ігара Трухановіча. Журналісткі былі дастаўлены ў РУУС Савецкага раёна, адкуль у 21. 30 былі вызвалены. Пасля заканчэння акцыі былі затрыманы журналісты «Радыё Рацыя» Генадзь Барбарыч і Аляксандр Ярашэвіч і дастаўлены ў аддзяленне міліцыі Савецкага раёна. Пасля 23 гадзін увечары іх перавезлі ў Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў на Акрэсціна. Раніцай 27 красавіка ў ізалятары адмовіліся для іх прыняць перадачу. Журналісты былі абвінавачаны ў непадпарадкаванні законным патрабаванням супрацоўнікаў міліцыі (артыкул 23.4

КаАП РБ) і 29 красавіка асуджаны на 3 сутак адміністрацыйнага арышту кожны згодна з рашэннем суддзі суда Савецкага раёна Мінска Кірыла Палулеха.

26 красавіка быў атакаваны сайт ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» www.baj.by. DDos-атака пачалася праз 30 хвілін пасля таго, як на сайце быў размешчаны матэрыял пра спосабы абараніцца ад віртуальных нападаў на сайты. «Мы ўзялі парады ў дасведчаных IT-шнікаў, напісалі, як засцерагчыся ад узломаў і DDoS-атак, аднак самі трапілі пад прыцэл невядомых. Нашыя праграмісты спрабуюць утаймаваць атаку, аднак гэта вельмі складана, таму даводзіцца проста чакаць, пакуль яна скончыцца», — паведаміў прэс-сакратар БАЖ Барыс Гарэцкі. Праз гадзіну праца сайта была ўзноўлена.

30 красавіка тэлеканалу «Белсат» было адмоўлена ў акрэдытацыі Міністэрствам замежных спраў Рэспублікі Беларусь. Чыноўнікі спасылаліся на тое, што беларускія журналісты ўжо неаднаразова парушалі заканадаўства, калі супрацоўнічалі з тэлеканалам. Гэта ўжо трэцяя адмова уладаў Беларусі ў акрэдытацыі. Раней улады спасылаліся на іншыя фармальныя прычыны.

## Абмежаванне свабоды сходаў

9 красавіка гомельскія ўлады забаранілі акцыю, запланаваную на 1 траўня актывістамі партыі левых «Справядлівы свет». Заяўка на правядзенне масавага мерапрыемства была накіравана ў гарвыканкам яшчэ ў сакавіку. Заяўляльнікі паспрабавалі загадзя заключыць дамовы з адпаведнымі структурамі. Але не ўдалося: міліцыя спаслалася на тое, што нельга заключыць дамову, пакуль няма рашэння гарвыканкама аб дазволе на мітынг, гарвыканкам дазволу не дае, пакуль міліцыя не заключыць дамову. Апазіцыянеры плануюць звярнуцца за тлумачэннем ў гарвыканкам, каб ім распавялі — як можна на практыцы выканаць іх рашэнне.

12 красавіка віцебскія актывісты Аляксей Гаўруцікаў, аднапартыец палітвязня Мікалая Статкевіча, і кіраўнік абласной структуры Руху «За Свабоду» Хрыстафор Жаляпаў планавалі правесці пікет салідарнасці з палітзняволенымі, а таксама супраць збяднення беларускага насельніцтва. Заяўку падалі ў Першамайскую раённую адміністрацыю, бо хацелі правесці акцыю ў адмыслова вызначаным для гэтага месцы — Парку 30-годдзя ВЛКСМ на тэрыторыі Першамайскага раёна. Раённая адміністрацыя

адмовіла, спаслаўшыся на рашэнне Віцебскага гарвыканкама, згодна з якім акцыі дазваляюцца толькі ў тым выпадку, калі заключаны дамовы з ЖКГ, лекарамі і супрацоўнікамі міліцыі. Служба хуткай дапамогі ўхілілася ад гэтага, напісаўшы, што «брыгадамі будзе ажыццяўляцца абслугоўванне рэспубліканскай універсіяды па боксу».

17 красавіка суддзя Жанна Андрэйчык (суд Цэнтральнага раёна Гомеля) разгледзела скаргу актывіста Кастуся Жукоўскага на адмоўнае рашэнне гарвыканкама адносна дазволу ў правядзенні пікета. Актывіст з паплечнікамі планавалі 1 красавіка правесці пікет «Гомельскі гарвыканкам! Прэч ад гісторыі» з мэтай прыцягнення ўвагі грамадскасці да знішчэння ўнікальнай драўлянай забудовы ў цэнтры Гомеля. Гарвыканкам не даў дазвол на правядзенне пікета, спаслаўшыся на невыкананне рашэння «Аб масавых мерапрыемствах»: не былі заключаны дамовы з міліцыяй, камунальнымі службамі і «хуткай дапамогай». Разам з тым, спробы заяўнікаў пікетаў заключыць такія дамовы натыкаліся на адмову — з боку тых жа службаў: міліцыі, «хуткай», камунальнікаў. Службы спасылаліся, што без дазволу гарвыканкаму яны не могуць заключыць дамову, гарвыканкам жа не даваў дазволу без дамоў. Гэта патлумачыў на судзе і Кастусь Жукоўскі, дадаўшы, што забарона гарвыканкама на правядзенне пікета парушае яго канстытуцыйныя правы, а рашэнне гарвыканкама аказваецца на практыцы невыканальным. Суд вынес рашэнне: пакінуць скаргу без задавальнення.

22 красавіка стала вядома, што ў Віцебску забаранілі дзве акцыі да ўгодкаў аварыі ў Чарнобылі. Мітынг, прысвечаны памяці Чарнобыльскай трагедыі, збіраўся арганізаваць кіраўнік абласной структуры Руху «За Свабоду» Хрыстафор Жаляпаў. Імпрэзу ў Парку імя 30-годдзя ВЛКСМ забараніла правесці Першамайская раённая адміністрацыя. Афіцыйная прычына — адсутнасць дамоў з медыкамі і міліцыяй на абслугоўванне акцыі. Дамову ўдалося заключыць толькі з камунальнікамі, астатнія адказныя структуры праігнаравалі зварот дэмакратычных актывістаў. Такім чынам, арганізатары акцыі зноў паўсталі перад праблемай невыканальнага рашэння Віцебскага гарвыканкама № 881, бо яно вымагае ад арганізатараў масавых мерапрыемстваў перад падачай заявак заключаць дамовы на абслугоўванне з медыкамі, камунальнікамі і міліцыяй, але ад супрацоўніцтва згаданыя структуры адмаўляюцца. Паводле тае самае прычыны атрымаў адмову ад Чыгуначнай раённай адміністрацыі і кіраўнік абласной арганізацыі Партыі БНФ Леанід Аўтухоў. Ён падаваў заяўку на правядзенне мітынга да 27-х угодкаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС у Парку культуры і адпачынку чыгуначнікаў.

23 красавіка ў Віцебску забаранілі пікет з-за «сезонных захворванняў». Сябра КХП БНФ Ян Дзяржаўцаў ужо трэці раз не змог заключыць дамову з медыкамі на абслугоўванне масавай акцыі. Пікет, прысвечаны ўгодкам Чарнобыльскай трагедыі, быў забаронены мясцовымі ўладамі на падставе таго, што няма дамоўленасцяў з паліклінікай і міліцэйскай управай. Спадар Дзяржаўцаў адзначыў, што і раней міліцыя адмаўлялася заключаць з ім дамовы, але па розных прычынах. А гарадская паліклініка над варыянтамі не раздумвае: ён там адзіны.

25 красавіка магілёўскім актывістам АГП было адмоўлена ў правядзенні пікета памяці зніклага палітыка і генерала Юрыя Захаранкі. Афіцыйна магілёўскі гарвыканкам патлумачыў адмову ў правядзенні масавага мерапрыемства тым, што заяўка пададзена на нявызначанае ўладамі месца. Актывісты АГП хацелі правесці пікет у цэнтры горада каля будынка Магілёўскага абласнога дыягнастычнага цэнтра 7 траўня з нагоды чатырнаццатай гадавіна знікнення Юрыя Захаранкі. 1 сакавіка на гэтым месцы праводзілі свой пікет актывісты БРСМ без ніякага афіцыйнага дазволу.

25 красавіка Мінгарвыканкам не дазволіў Беларускаму кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў (БКДП) правесці 1 траўня мітынг у абарону правоў працоўных. БКДП звярнуўся да сталічных уладаў з просьбай дазволіць правядзенне мітынгу ў парку імя 50-годдзя Вялікага Кастрычніка. З тэлефоннай размовы з начальнікам аддзела грамадска-масавай работы Мінгарвыканкама Юрыем Уральскім лідар БКДП Аляксандр Ярашук даведаўся: адказ выканкама ўжо высланы і ў ім адзначаецца, што «1 траўня ва ўсіх пяці паркавых зонах Мінска будуць праводзіцца афіцыйныя масавыя гулянні, таму праводзіць якія-небудзь дадатковыя мерапрыемствы немэтазгодна».

## Абмежаванне свабоды асацыяцый

1 красавіка Вярхоўны суд пачаў разглядаць іск Міністэрства юстыцыі супраць міжнароднага грамадскага аб'яднання «Добрая воля». Праверка арганізацыі Мінюстам пачалася са скаргі Міністэрства адукацыі, якое абвінаваціла «Добрую волю» ў нестатутнай дзейнасці (прававая падтрымка сірот і шматдзетных сем'яў) і выкарыстанні незарэгістраванай сімволікі (паштовых канвертаў з надпісам «Добрая воля»). Пазней Мінадукацыі адклікала свае прэтэнзіі, але Мінюст выявіў парушэнні ў дзейнасці арганізацыі (вялікая літара «В» замест малой на пячатцы, «незарэгістраваныя» канверты, памылка ў назве арганізацыі, якая бязвыплатна здае «Добрай волі» офіс у Ратамцы і інш.). Гэтых «літар закона» хапіла, каб

спыніць дзейнасць арганізацыі з 26 лістапада 2012 года па 27 студзеня 2013 г. У іску на ліквідацыю Мінюст прадставіў абвінавачанняў на 16 пунктах. 3 красавіка Вярхоўны суд задаволіў іск Міністэрства юстыцыі аб ліквідацыі «Добрай волі». Суд прызнаў, што арганізацыя несвоечасова ўнесла змены ў статут, не прыпыніла дзейнасці ў адпаведнасці з рашэннем рэгіструючага органа, не пацвердзіла свайго міжнароднага статуса, мела хібы ў справаводстве, не падавала Мінюсту запатрабаваных звестак. Таксама арганізацыя павінна выплаціць дзяржпошліну ў памеры 300 тысяч рублёў.

1 красавіка загадам генеральнага дырэктара РУВП «Граніт» Эдуарда Гаўрылковіча з прадпрыемства ў Мікашэвічах быў звольнены Анатоль Літвінка, адзін з ініцыятараў стварэння незалежнай прафсаюзнай суполкі. Сакратару-скарбніку арганізацыі Беларускага незалежнага прафсаюза на «Граніце» (менавіта на гэтую пасаду быў абраны Анатоль Літвінка) уручылі апавяшчэнне, у якім было сказана пра скасаванне працоўнага кантракта з-за нібыта «сістэматычнага невыканання працоўных абавязкаў». Год таму з «Граніту» была звольненая жонка Анатоля — Людміла Літвінка, якая пасля доўгі час не змагла знайсці працу ў Мікашэвічах. Акрамя таго, на працягу мінулага года былі звольнены практычна ўсе актывісты, якія знаходзіліся ля вытокаў стварэння арганізацыі — Алег Стахаевіч, Мікалай Карышаў, Віталь Пашэчка, Генадзь Паўлоўскі. Пад пагрозай звальнення застаецца яшчэ адзін актывіст — Леанід Дубаносаў.

18 красавіка пракуратура Бярозаўскага р-на Брэсцкай вобласці вынесла папярэджанне за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі актывісту грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду» Аляксандру Кузьміну. Афіцыйнае папярэджанне актывіст атрымаў за подпісам пракурора Бярозаўскага раёна, малодшага дарадцы юстыцыі Д.А. Дзярабіна. У пракуратуры яму і яго адвакату не дазволілі азнаёміцца з матэрыяламі па справе, сказаўшы, што адашлюць яе кур'ерам у Бярозаўскі РАУС, і там можна будзе з імі азнаёміцца. Актывіст «Гавары праўду» паведаміў, што ў міліцыю з пісьмовым запытам даць прававую ацэнку ягоным дзеянням на тэрыторыі рэгіёна звярнуўся старшыня выканкама Белаазёрскага раёна. Аляксандр Кузьмін звязвае вынясенне папярэджання са сваёй актыўнай дзейнасцю вакол сітуацыі з прыватызацыяй кватэр у адным з дамоў Белаазёрска.

# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Травень

У траўні не было зафіксавана станоўчай дынамікі ў становішчы з правамі чалавека ў Беларусі, сітуацыя заставалася стабільна кепскай. Адсутнасць рэальных механізмаў уплыву на дадзеную сферу ўнутры краіны і моцная залежнасць яе ад знешнепалітычнага фактару стварылі сітуацыю, калі найбольшыя чаканні звязваліся са знешнім уздзеяннем, найперш у пытанні вызвалення палітвязняў. Аднак інтэнсіўныя кантакты беларускіх уладаў з Еўрапейскім Саюзам, ягонымі структурамі і асобнымі краінамі, а таксама з ЗША не прывялі да рэальных прыкмет паляпшэння ў дадзеным накірунку. За кратамі па-ранейшаму працягвалі ўтрымлівацца 11 палітычных зняволеных, 2 чалавекі працягвалі адбываць пакаранне ў выглядзе абмежавання волі без накіравання ва ўстановы адкрытага тыпу, 8 — пакаранне ў выглядзе ўмоўных тэрмінаў ці з адтэрміноўкай выканання прысудаў, у статусе абвінавачанага працягваў знаходзіцца пад вартай Андрэй Гайдукоў, адносна якога не выключаецца палітычная матывацыя праследу, адносна 3 былых палітзняволеных у якасці кантролю і ціску выкарыстоўваўся ўстаноўлены судамі прэвентыўны нагляд, яшчэ ў адносінах да 25 памілаваных і вызваленых датэрмінова — прафілактычны нагляд. Не адбылося паляпшэння і ў справе выканання свабоды выказвання меркавання, сходаў, асацыяцый і іншых правоў і свабод.

Разам з тым, у траўні з'явілася сур'ёзная падстава засумнявацца ў трывалай пазіцыі Еўрапейскага Саюза адносна ўзнаўлення стасункаў з афіцыйным Мінскам выключна пасля вызвалення палітычных зняволеных. У папярэднім дакладзе, падрыхтаваным членам Еўрапарламента Ю.Палецкісам для еўрапейскіх інстытутаў, адзначалася, што сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі палепшылася, у сувязі з чым рэкамендавалася разгледзець «прыпыненне дзеяння санкцый ЕС у дачыненні да ключавых беларускіх чыноўнікаў для пашырэння неабходных дыпламатычных каналаў камунікацыі з Беларуссю з улікам правядзення саміту Усходняга партнёрства». Даклад выклікаў сёр'ёзную крытыку з боку беларускай праваабарончай супольнасці, і ў выніку падчас онлайн-канферэнцыі на сайце «Радыё Свабода» 24 траўня Палецкіс прызнаў: фармулёўка пра «паляпшэнне сітуацыі з правамі чалавека» ў справаздачы няўдалая і будзе зменена. 29 траўня падчас абмеркавання даклада на пасяджэнні Камітэта замежных спраў Еўрапарламента ў Бруселі Ю.Палецкіс акцэнтаваў увагу на тым, што ў падрыхтаваным ім дакладзе не

гаворыцца аб зняцці санкцый з афіцыйных прадстаўнікоў Беларусі і што передумова для ўзнаўлення кантактаў з беларускім бокам аб вызваленні палітвязняў застаецца нязменнай.

Важнай падзеяй, звязанай з міжнароднай ацэнкай сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі, стала абнародаванне 3 траўня даклада спецыяльнага дакладчыка ААН Міклаша Харашці. Дакумент быў падрыхтаваны ў межах мандата, зацверджанага Саветам ААН па правах чалавека. Паводле ацэнкі спадара Харашці, правы чалавека застаюцца сістэматычна абмежаванымі, асабліва ў выпадках свабоды асацыяцый, сходаў і выказвання меркаванняў, а таксама ў гарантыях належнага вядзення судовага працэсу і справядлівага суда. Спецдакладчык канстатаваў цэнтралізацыю заканадаўчай і выканаўчай улад вакол апарата прэзідэнта. Міклаш Харашці выказаў заклапочанасць адсутнасцю вяршэнства закона ў Беларусі і тым, што юрыдычная сістэма не можа быць гарантам правоў у сітуацыях, калі гэта супярэчыць інтарэсам уладаў. Асабліва адзначаецца ціск на правабарончыя арганізацыі, у тым ліку ў выглядзе судовай ліквідацыі праваабарончай арганізацыі «Платформа» і канфіскацыі памяшкання Праваабарончага цэнтра «Вясна». У дакладзе выпрацаваны рэкамендацыі да ўраду Беларусі з мэтай паляпшэння сітуацыі з выкананнем правоў і свабод грамадзян. М.Харашці звярнуў увагу на тое, што так і не атрымаў магчымасці наведаць Беларусь для азнаямлення з сітуацыяй на месцы, паколькі беларускія ўлады адмовіліся супрацоўнічаць з ім. Дадзены даклад быў ухвалены беларускімі праваабаронцамі, якія адзначылі ў ім аб'ектыўны падыход і адсутнасць палітычнай кан'юнктуры.

Беларускія ўлады дэманстравалі далейшы адыход ад выканання ўзятых на сябе міжнародных абавязальніцтваў. 17 траўня намеснік старшыні ПЦ «Вясна» Валянцін Стэфановіч накіраваў міністру замежных спраў Беларусі Уладзіміру Макею зварот у сувязі з невыкананнем беларускай дзяржавай рашэння Працоўнай групы па адвольных затрыманнях ААН у справе Алеся Бяляцкага. У рашэнні, прынятым 31 жніўня 2012 года, Працоўная група прызнала, што пазбаўленне волі кіраўніка ПЦ «Вясна» і віцэ-прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека Алеся Бяляцкага з'яўляецца адвольным, і падкрэсліла, што «адэкватнымі сродкамі прававой абароны з'яўляецца вызваленне сп. Бяляцкага і наданне яму законнага права на кампенсацыю ў адпаведнасці з артыкулам 9, пунктам 5 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах (МПГПП)». Аднак беларускі бок у адказ заявіў, што не бачыць сэнсу ў супрацоўніцтве з Працоўнай групай і абвінаваціў яе ў палітычнай заангажаванасці.

«Беларусь заўсёды канструктыўна ставілася да ўзаемадзеяння з тэматычнымі працэдурамі Савета [Савета па правах чалавека ААН], прадстаўляла на яго адрас усю запрошваемую інфармацыю. Аднак у такіх умовах з улікам крайняй палітычнай ангажаванасці Працоўнай групы, адсутнасці прафесійнай этыкі ў яе дзейнасці Беларусь не бачыць сэнсу для далейшага ўзаемадзеяння з Працоўнай групай у яе цяперашнім складзе», — заявіла ў сваім выступе афіцыйная дэлегацыя Рэспублікі Беларусь падчас 22-й сесіі Савета па правах чалавека ААН, якая праходзіла сёлета ў сакавіку. Патрабаванне Працоўнай групы беларуская дэлегацыя назвала «ўмяшальніцтвам ва ўнутраныя справы дзяржавы»: «Разглядаем заключэнне Працоўнай групы па справе Бяляцкага як спробу апраўдаць злачынцу шляхам прылічэння яго да праваабаронцаў, умяшальніцтва ва ўнутраныя справы суверэннай дзяржавы». Прымаючы да ўвагі гэтыя заявы, В.Стэфановіч у сваім звароце да міністра замежных спраў нагадаў, што спецыяльныя працэдуры ААН (у тым ліку Працоўная група па адвольных затрыманнях) з'яўляюцца дапаможнымі органамі ААН. Іх юрыдычныя заключэнні, такія як вышэйзгаданае рашэнне па справе Алеся Бяляцкага, з'яўляюцца рашэннямі ААН. Рэспубліка Беларусь як дзяржава-сябра ААН мае абавязак супрацоўнічаць з усімі органамі і механізмамі ААН (як гэта прадугледжана артыкулам 56 Статута ААН), а таксама звязана дамовамі, у прыватнасці МПГПП, якія Беларусь ратыфікавала ў 1973 г. Праваабаронца, спасылаючыся на ч. 5.11. Палажэння аб Міністэрстве замежных спраў, зацверджанага пастановай Савета Міністраў Рэспублікі ад 31.07.2006 № 978, падкрэсліў, што ў задачы міністэрства ўваходзіць і «кантроль за выкананнем міжнародных дамоваў Рэспублікі Беларусь дзяржаўнымі органамі Рэспублікі Беларусь і аказанне садзейнічання ў выкананні міжнародных дамоў Рэспублікі Беларусь». У сувязі з гэтым Валянцін Стэфановіч просіць міністра замежных спраў забяспечыць кантроль за выкананнем рашэння Працоўнай групы па адвольных затрыманнях ААН па справе Алеся Бяляцкага, прыняць захады па садзейнічанні выкананню дзяржаўнымі органамі Рэспублікі Беларусь дадзенага рашэння.

## Палітычныя зняволеныя, крымінальны пераслед грамадскіх актывістаў

2 траўня маці палітвязня Эдуарда Лобава — Марына Лобава паведаміла, што начальства Івацэвіцкай калоніі № 22 больш за паўтары гады не дае зняволенаму магчымасці залячыць зубы. Яна падкрэсліла, што сын яшчэ ў сакавіку запісаўся на прыём да стаматолага. 21 траўня ў калоніі адбылося спатканне Эдуарда Лобава з маці і братам Уладам, якое

працягвалася трое сутак. Пасля спаткання адміністрацыя не дазволіла перадаць зняволенаму ежу нібыта з-за парушэнняў рэжыму. Такое здарылася ўпершыню, раней дазвалялі передаваць 5-10 кілаграмаў з 30 магчымых.

3 траўня пасля месяцовага перапынку Валянціна Аліневіч, маці палітвязня Ігара Аліневіча, атрымала ад сына ліст. 5 траўня Ігар Аліневіч патэлефанаваў дадому павіншаваць родных з Вялікаднем (апошні званок быў 8 сакавіка). 30 траўня Ігару Аліневічу, які адбывае пакаранне ў Наваполацкай калоніі № 10, дазволілі кароткатэрміновае спатканне з сям'ёй. Валянціна Аліневіч адзначыла, што атрымалася перадаць Ігару пасылку.

3 траўня Тамара Васьковіч, бабуля палітвязня Яўгена Васьковіча, паведаміла, што больш за месяц не атрымлівае лістоў ад зняволенага ўнука. Толькі ў канцы траўня ізаляцыя, створаная кіраўніцтвам Магілёўскай турмы № 4, была перарваная — ад Яўгена Васьковіча пачалі даходзіць лісты. Стала вядома, што да яго дайшла перадача ад родных, лёс якой доўгі час быў невядомы.

4 траўня палітзняволены Павел Севярынец, які адбывае пакаранне ў спецкамендатуры в. Куплін Пружанскага раёна, быў адпушчаны на 3 дні адсвяткаваць Вялікдзень дома ў Віцебску. Паколькі дарога заняла шмат часу, пабыць дома Павел змог каля 1,5 сутак. 6 траўня палітвязень вярнуўся назад у спецкамендатуру. 29 траўня П. Севярынец паведаміў, што за час адбыцця пакарання атрымаў больш за 2 тысячы лістоў, большасць з якіх — з беларускіх рэгіёнаў, кожны другі — з Мінску, кожны дзясяты — з-за мяжы.

4 траўня зняволены былы кандыдат у прэзідэнты Мікалай Статкевіч патэлефанаваў жонцы Марыне Адамовіч, каб павіншаваць яе з праваслаўным Вялікаднем. Ён перадаў, што ліст за 25 красавіка жонка не атрымае, паколькі яго канфіскавалі. У гэтым лісце ўтрымлівалася пасланне моладзеваму актывісту Паўлу Вінаградаву, які правёў акцыю салідарнасці са Статкевічам і адседзеў за гэта 12 сутак. 29 траўня жонка М. Статкевіча паведаміла, што вакол палітвязня ў магілёўскай турме № 4 зноў паднялася незразумелая валтузня, якая нагадвае спробы турэмнай адміністрацыі выбіць прашэнне аб памілаванні. На гэты раз гаворка ідзе пра графалагічную падробку. М. Статкевіч вырашыў апярэдзіць такую верагоднасць. Падобныя пагрозы раздаваліся ў адрас палітвязня яшчэ ў Шклове летам 2011 года.

7 траўня Вольга Гайдукова, маці 24-гадовага жыхара Наваполацка Андрэя Гайдукова, абвінавачанага ў «здрадзе дзяржаве», атрымала адмову ў спатканні з сынам ад следчага Віцебскай управы КДБ Алега Барысевіча. З ліста сына ад 29 красавіка яна даведалася, што следства ўжо завяршылася, і што зняволены азнаёміўся з матэрыяламі справы. 27 траўня стала вядома, што справу будзе разглядаць Віцебскі абласны суд. 30 траўня старшыня КДБ Беларусі Валерый Вакульчык паведаміў, што судовыя слуханні па справе Андрэя Гайдукова пройдуць у закрытым рэжыме. Ён таксама ўдакладніў, што прад'яўленае Гайдукову абвінавачанне не мянялася. 31 траўня была абвешчана дата судовага паседжання — 12 чэрвеня, працэс прызначана весці суддзя Галіна Урбановіч. ПЦ «Вясна» і Беларускі Хельсінкскі камітэт выступілі з сумеснай заявай, у якой заклікалі кампетэнтныя органы забяспечыць правядзенне адкрытага судовага разгляду па справе А. Гайдукевіча. Маці актывіста таксама настойвае на тым, каб судовы працэс быў адкрытым.

12 траўня адвакат палітвязня Аляксандра Францкевіча пасля наведвання яго ў Івацэвіцкай калоніі «Воўчыя норы» паведаміў, што ягонаму падабароннаму паказалі дакумент пра вызваленне — зняволены выйдзе на волю 6 верасня. 28 траўня стала вядома, што Аляксандра Францкевіча трымаюць аднаго ў памяшканні камернага тыпу.

15 траўня стала вядома, што палітзняволены Мікалай Аўтуховіч фактычна не можа паўнавартасна харчавацца з-за праблем з зубамі — у яго спадаюць масты, якія яму некалі зрабілі. У заканадаўстве не прапісаны нормы, як дзейнічаць у такой сітуацыі, аднак гэта можа трактавацца як адсутнасць патрэбнай медыцынскай дапамогі.

16 траўня Наталля Пінчук, жонка старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алеся Бяляцкага, падчас наведвання бабруйскай калоніі №2 з мэтай перадаць рэчавую перадачу даведалася, што ў сакавіку праваабаронцу пазбавілі права на харчовыя перадачы. Забарона разлічана на 6 месяцаў і будзе працягвацца да жніўня. Наталля Пінчук перадала мужу ў калонію спартовы строй, пасцельную бялізну і іншыя рэчы. Гэта была адзіная дазволеная вязню ў год рэчавая перадача. 20 траўня праваабарончая арганізацыя Front Line Defenders распаўсюдзіла заяву з нагоды новых выпадкаў выкарыстання дысцыплінарных захадаў з боку адміністрацыі калоніі ў дачыненні да Алеся Бяляцкага. 27 траўня ў межах 38-га Кангрэса Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH) Алесь Бяляцкі быў пераабраны віцэ-прэзідэнтам FIDH. У 2007 годзе ён стаў першым віцэ-прэзідэнтам FIDH з Усходняй Еўропы, у 2010 годзе быў

абраны на другі тэрмін. З лістоў А. Бяляцкага стала вядома, што зняволены праваабаронца рыхтуе да выдання тры свае кнігі: першая з іх прысвечана праваабарончаму руху, другая — з публікацый Бяляцкага ў прэсе, інтэрв'ю, з успамінаў, якія з'явіліся за час яго праваабарончай дзейнасці — больш чым за 15 гадоў, канцэпцыя трэцяга выдання распрацоўваецца — гэта будзе дапаможнік грамадскім актывістам і праваабаронцам па арганізацыі кампаній падтрымкі палітзняволеных.

22 траўня палітвязень Арцём Пракапенка, які адбывае пакаранне ў Магілёўскай калоніі № 15, атрымаў дазвол на кароткатэрміновае спатканне з роднымі. Бацька палітвязня паведаміў, што ў сына ёсць праблемы са здароўем, але яны нязначныя.

## Смяротнае пакаранне

30 красавіка старэйшы памочнік пракурора Магілёўскай вобласці Ала Кузняцова паведаміла, што Магілёўскі абласны суд вынес першы ў 2013 годзе смяротны прысуд. Выключная мера пакарання вынесена ўраджэнцу Жытомірскай вобласці 1969 г.н., на рахунку якога чатыры забойствы. Апошняе ён здзейсніў ужо ў месцах пазбаўлення волі, адбываючы пакаранне ў Магілёўскай турме № 4 паводле прысуду ў выглядзе 25 гадоў пазбаўлення волі. З чэрвеня 2012 года ён знаходзіўся ў адной камеры з жыхаром Барысава 1990 г.н. і яшчэ адным зняволеным. Асуджаны прапанаваў трэцяму вязню згуляць з ім у даміно «на жыццё» — па дамове, пераможца пазбаўляў жыцця таго, хто прайграў. Супернік ініцыятара прайграў партыю. Пасля гэтага пераможца дамовіўся з сукамернікам 1990 г.н., калі яны заб'юць прайграўшага. 4 ліпеня 2012 года яны задушылі сукамерніка шалікам. Ураджэнец Жытомірскай вобласці цалкам прызнаў віну ў судзе, нягледзячы на тое, што неаднаразова мяняў паказанні. Другі мужчына свой удзел у забойстве адмаўляў, але яго віна была даказана цалкам падчас папярэдняга расследавання і судовага разгляду справы. Суд прызнаў вінаватымі абодвух удзельнікаў злачынства. Ураджэнец Жытомірскай вобласці па сукупнасці прысудаў за раней здзейсненае злачынства быў асуджаны да смяротнага пакарання, жыхар Барысава — да 16 гадоў пазбаўлення волі з адбываннем у калоніі строгага рэжыму. Як адзначыла Ала Кузняцова, да злачынства асуджаны ўжо здзейсніў тры забойствы, усе яны таксама адносяцца да катэгорыі цяжкіх і асабліва цяжкіх. Мужчына характарызуецца вельмі адмоўна, неаднаразова парушаў рэжым адбыцця пакарання, знаходзіцца на прафуліку ў турме № 4 як асоба, схільная да ўцёкаў, нападу, суіцыду. На думку прадстаўніка абласной пракуратуры, асуджаны ўяўляе

пагрозу для грамадства нават ва ўмовах строгай ізаляцыі, ні пазбаўленне волі на доўгі тэрмін, ні пажыццёвае зняволенне да яго выпраўлення не прывядуць, таму пакаранне ў выглядзе смяротнай кары «цалкам апраўдана». Прысуд быў абвешчаны 24 красавіка і пакуль не ўступіў у законную сілу.

28 траўня праваабаронца і палітвязень Алесь Бяляцкі паведаміў у лісце, што асуджаных інфармуюць пра вынясенне смяротных прысудаў. Па словах Бяляцкага, на дошцы аб'яў Бабруйскай калоніі, дзе ўтрымліваецца праваабаронца, з'явілася інфармацыя, што Магілёўскім абласным судом вынесены смяротны прысуд. Хутчэй за ўсё зняволеных інфармуюць пра гэта з мэтай падтрымання дысцыпліны.

1 чэрвеня з праграмы «Таямніцы следства», якая выйшла на 1 канале Беларускага тэлебачання, сталі вядомы прозвішчы фігурантаў справы, вынікам якой стаў вынесены Магілёўскім абласным судом смяротны прысуд. Да смяротнага пакарання асуджаны Рыгор Юзэпчук, да 16 гадоў пазбаўлення волі — Павел Петракоў, ахвярай здзейсненага ў турме забойства стаў Ігар Хадаркоў.

## Гвалтоўныя знікненні

7 траўня споўнілася 14 гадоў, як пры нявысветленых абставінах у цэнтры Мінска знік генерал Юрый Захаранка. Яго выкралі вечарам 7 траўня 1999 года ў раёне вуліцы Магілёўскай у Мінску па дарозе дадому. Неўзабаве сям'я Захаранкі атрымала палітычны прытулак у Германіі. Расследаванне справы па факце знікнення Захаранкі так і не завершана. Паводле слоў праваабаронцы Алега Волчака, які з'яўляецца даверанай асобай сям'і Захаранкі, раз на тры месяцы ён атрымлівае ад следчых органаў паведамленне аб чарговым працягу папярэдняга расследавання. Справа па факце забойства Захаранкі была распачата 17 верасня 1999 года на падставе артыкула 101 КК (наўмыснае забойства). Гэта значыць, што 17 верасня 2014 года яно можа быць спынена ў сувязі з заканчэннем тэрміну даўніны прыцягнення вінаватых да адказнасці. Беларускія праваабаронцы маюць намер дамагацца перакваліфікацыі артыкула справы на артыкул 128 КК (злачынства супраць чалавечнасці), якая не мае тэрміну даўніны. Знікненне Юрыя Захаранкі стала першым гучным знікненнем у Беларусі людзей, якія лічацца апанентамі А.Лукашэнкі. Так, 16 верасня 1999 года без вестак зніклі дэпутат Вярхоўнага Савета XIII склікання Віктар Ганчар і бізнэсмен Анатоль Красоўскі, а летам 2000-га знік журналіст Дзмітрый Завадскі, некалі асабісты аператар Лукашэнкі.

## Ціск спецслужб на грамадска і палітычна актыўных грамадзян

15 траўня клімавіцкі актывіст кампаніі «Гавары праўду» Аляксандр Балобін атрымаў адказ з пракуратуры Магілёўскай вобласці на сваю скаргу на дзеянні супрацоўнікаў Крычаўскага міжрайаддзела КДБ, якія затрымалі яго 27 сакавіка каля Клімавіцкага райваенкамата і адвезлі ў Крычаў. У адказе з пракуратуры Магілёўскай вобласці за подпісам старэйшага дарадцы юстыцыі, памочніка пракурора Магілёўскай вобласці М. А. Раманоўскага гаворыцца, што «пры ажыццяўленні меры індывідуальнай прафілактыкі адносна Вас (Аляксандра Балобіна — рэд.) у форме прафілактычнай гутаркі супрацоўнікі Крычаўскага міжрайаддзела КДБ УКДБ Рэспублікі Беларусь па Магілёўскай вобласці дзейнічалі законна і абгрунтавана. Падстаў для ўжывання мер пракурорскага рэагавання не маецца». Згодна адказу пракуратуры, супрацоўнікі Крычаўскага міжрайаддзела КДБ правялі з Аляксандрам Балобіным прафілактычную гутарку, «якая з'яўляцца самай мяккай з мер індывідуальнай прафілактыкі правапарушэнняў». Падставай для гутаркі паслужыла тое, што «адгледжаны шэраг матэрыялаў, размешчаных на Вашай старонцы ў сацыяльнай сетцы «У кантакце», якія трапілі ў поле зроку супрацоўнікаў УКДБ падчас маніторынгу сеткі Інтэрнэт, у якіх распавядаецца аб Вашым удзеле ў палітычным жыцці Вашага рэгіёна, а таксама Вашай дзейнасці ў фармаце незарэгістраванага ва ўстаноўленым парадку грамадскага аб'яднання ГК «Гавары праўду». Крыху раней Аляксандр Балобін атрымаў адказ на свой зварот ва ўпраўленне КДБ па Магілёўскай вобласці, куды ён таксама скардзіўся на дзеянні супрацоўнікаў Крычаўскага міжрайаддзела КДБ і патрабаваў кампенсацыі выдаткаў на праезд з Крычава да вёскі Паўлавічы Клімавіцкага раёна, дзе ён пражывае. У адказе, падпісаным намеснікам начальніка ўпраўлення С. М. Феакціставым, гаворыцца, што «ў дзеяннях супрацоўнікаў Крычаўскага МРА КДБ парушэнняў існуючага заканадаўства Рэспублікі Беларусь не ўгледжваецца». Таксама паведамляецца, што кампенсацыі выдаткаў на праезд у дадзеным выпадку не прадугледжваецца.

21 траўня невядомы патэлефанаваў на мабільны тэлефон магілёўскага блогера Дзмітрыя Ярмоленкі, прадставіўся супрацоўнікам КДБ і прапанаваў сустрэцца дзеля таго, каб паразмаўляць у нефармальнай абстаноўцы. Малады чалавек ад сустрэчы адмовіўся, паведаміўшы, што яна адбудзецца толькі ў тым выпадку, калі ён атрымае на рукі афіцыйную позву. Супрацоўнік КДБ сказаў, што ў гэтым няма такой вострай неабходнасці, і ён можа прыехаць да размовы на працу ў гарсвет, дзе пра-

цуе Дзмітрый, аднак так і не з'явіўся. Дзмітрый Ярмоленка паведаміў, што дзяржаўныя структуры зацікавілі ягоныя артыкулы пра валанцёрку з Нямеччыны Марлену Хельш, якая ад верасня 2012 года да сярэдзіны траўня 2013 года працавала ў Магілёўскім фондзе «Блакітныя берагі» з дзецьмі дашкольнага ўзросту і людзьмі з абмежаваннямі. Сама Марлена ўжо пакінула Беларусь, аднак інтарэс да яе асобы і публікацый на магілёўскім сайце «Свабодны фармат» (http://formats.by) у рубрыцы «Дзённік валанцёра» толькі ўзрос. Варта адзначыць, што супрацоўнікі КДБ таксама тэлефанавалі ў Магілёўскі фонд «Блакітныя берагі» і пыталіся ў яе кіраўніка Святланы Пагірскай, ці ведае яна пра тое, што валанцёрка з Нямеччыны друкуе свае нататкі на сайце «Свабодны фармат».

21 траўня да магілёўскага прафсаюзнага лідара Галіны Лісіцынай завіталі супрацоўнікі КДБ, з якімі яна адмовілася размаўляць без позвы. Крыху раней Галіне Лісіцынай давялося паразмаўляць з супрацоўнікамі дзяржбяспекі каля двух гадзін. Пытанні датычыліся дзейнасці прафсаюза, паездак актывістаў, а таксама верагоднага пераемніка Галіны Лісіцынай на пасадзе прафсаюзнага каардынатара ў Магілёве. Жанчына адзначыла, што ў яе склалася ўражанне, што КДБ пра яе ведае болей, чым яна сама. Праз іх актыўнасць у яе з'явіліся праблемы ў сям'і. Галіна Лісіцына паведаміла, што супрацоўнікі КДБ прыходзілі на працу яшчэ да адной актывісткі прафсаюза, прозвішча якой яна не пажадала агучваць.

## Выкарыстанне катаванняў і жорсткага абыходжання

6 траўня пасля выхаду з Цэнтра ізаляцыі правапарушальнікаў пасля 10-сутачнага арышту за ўдзел у Чарнобыльскім шляху актывіст «Еўрапейскай Беларусі» Аляксандр Тарнагурскі заявіў, што ў яго камеры былі вошы, а адміністрацыя турмы адмаўлялася праводзіць санапрацоўку. Вызвалены ў той дзень актывіст Зміцер Чарняк адзначыў, што і ў іх камеры таксама быў вашывы вязень.

## Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні

2 траўня актывіста Руху «За свабоду» Яна Мельнікава затрымалі супрацоўнікі міліцыі. У парку імя М.Горкага ў Мінску ён трымаў расцяжку з надпісам «Анархізм не злачынства, Ігар Труханович не злачынца». Ноч Мельнікаў правёў у пастарунку Першамайскага РУУС. 3 траўня актывіста абвінавацілі ва ўдзеле ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве і непадпарадкаванні законным патрабаванням супрацоўнікаў міліцыі (ч.3

арт. 23.34, арт 23.4 КаАП Рэспублікі Беларусь). Суддзя Цэнтральнага раёна Мінска Вікторыя Шабуня пакарала яго арыштам на 10 сутак. Справа разглядалася без адваката.

3 траўня віцебскага актывіста КХП-БНФ Сяргея Каваленку, які знаходзіцца на прафілактычным уліку пасля вызвалення з Магілёўскай калоніі ў верасні 2012 года, выклікалі ў інспекцыю Першамайскага раёна Віцебска, дзе вынеслі другое папярэджанне. Першае папярэджанне за парушэннне правіл дарожнага руху Сяргей Каваленка атрымаў 16 красавіка, другое тычыцца таго ж эпізоду 25 сакавіка, але звязана з з тым, што С. Каваленка нібыта яшчэ і нецэнзурна лаяўся на міліцыю. У 2010 годзе С. Каваленку пасля двух папярэджанняў з «хатняй хіміі» асудзілі на 2 гады і 1 месяц зняволення ў калоніі.

4 траўня актывіста аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» з Гродна Сяргея Верамеенку выклікалі ў РАУС і склалі пратакол у сувязі з яго затрыманнем 12 сакавіка. Актывіста азнаёмілі з вынікамі экспертызы Мінсувязі, якая паказала, што канфіскаваныя ў яго ўлёткі з інфармацыяй пра палітвязняў і асобнікі газеты «Крыніца Гарадзенская» не адпавядаюць вызначаным тэхнічным нормам. На Сяргея Верамеенку быў складзены пратакол за распаўсюд друкаванай прадукцыі без выходных дадзеных. 7 траўня ў судзе Ленінскага раёна Гродна адбыўся суд над Сяргеем Верамеенкам. Актывіст атрымаў штраф у памеры 20 базавых велічынь.

8 траўня ў Баранавічах ў гарадскім судзе адбыўся разгляд адміністрацыйнай справы актывісткі АГП Анжалікі Камбалавай, якую 7 траўня затрымалі супрацоўнікі міліцыі за арганізацыю і правядзенне несанкцыянаванага пікету ў памяць зніклага 14 гадоў таму экс-міністра ўнутраных спраў Беларусі Юрыя Захаранкі. Усю ноч актывістка правяла ў камеры ізалятара часовага ўтрымання. Судовае паседжанне вяла суддзя Кацярына Груда. Яна прызнала актывістку вінаватай у парушэнні ч.2 арт.23.34 КаАП і прысудзіла ей адміністрацыйны штраф у памеры 20 базавых велічынь.

9 траўня лідара «Змены», моладзевага крыла грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду!» Паўла Вінаградава забралі ў міліцыю раніцай каля 7.00 проста з кватэры. Ніякіх тлумачэнняў з боку супрацоўнікаў міліцыі не было. Адпусцілі яго ў 16.45. Павел Вінаградаў паведаміў, што ў міліцыі яму паказалі два прафілактычныя фільмы: пра шкоду п'янства і пра тое, што трэба быць уважлівым за рулём. Грамадскага актывіста адпусцілі

толькі тады, калі з ЦІП на Акрэсціна выйшаў актывіст «Маладога Фронту» Уладзімір Яроменак, сустрэчу з якім якраз арганізоўваў П. Вінаградаў. Пры гэтым супрацоўнікі міліцыянты самога Уладзіміра Яроменку вывезлі з ЦІП за горад і заблакавалі сім-картку на ягоным сотавым тэлефоне. Тым не менш, сябры прывезлі актывіста пад сцены Акрэсціна, дзе і адзначылі сустрэчу.

17 траўня суддзя Кастрычніцкага райсуда Віцебска Алена Протас прызнала старшыню абласной арганізацыі Партыі БНФ Леаніда Аўтухова і сябра гэтай партыі Кастуся Смолікава парушальнікамі заканадаўства аб СМІ за распаўсюд бюлетэня «Магістрат». 22 сакавіка Леанід Аўтухоў і ягоны аднапартыец былі затрыманы ў гандлёвым цэнтры «Эвіком». Першапачаткова на абодвух склалі пратаколы за парушэнне заканадаўства аб масавых акцыях у сувязі з тым, што ў бюлетэні быў артыкул пра мітынг у Дзень Волі 25 сакавіка, і партыйцы адбылі па 5 сутак арышту. Супрацоўнікі міліцыі налічылі, што наклад бюлетэня перавышае 299 асобнікаў, пры гэтым падлік праводзіўся не асобнікамі, а «вялікімі стосамі» ды «тоўстымі пачакамі» — так аргументавалася на судзе незаконнае перавышэнне накладу. Паводле Кастуся Смолікава, у яго падчас затрымання былі ў руках толькі 2 бюлетэні. Астатнія асобнікі міліцыянты «падлічвалі», знайшоўшы пры аглядзе аўтамабіля, якім кіраваў Леанід Аўтухоў. У выніку Кастусю Смолікаву і Леаніду Аўтухову прысудзілі па 3 базавых велічынь штрафу.

17 траўня суддзя суда Першамайскага раёна Мінска Юрый Гарбатоўскі аштрафаваў былога палітвязня Васіля Парфянкова за парушэнне правіл нагляду на 30 базавых велічынь па частцы 2 артыкула 24.12 КаАП «Невыкананне патрабаванняў прэвентыўнага нагляду». 16 траўня крымінальны інспектар Аляксей Пяркоў прыходзіў з праверкай, але Парфянкова не было дома. Таму было зафіксавана парушэнне. Парфянкоў крыху затрымаўся на працы, а калі вярнуўся, то яго ўжо чакаў участковы.

18 траўня ў Кастрычніцкім райсудзе Віцебска прайшоў разгляд адміністрацыйнай справы, распачатай супраць сябраў КХП-БНФ Яна Дзяржаўцава і Віталя Каваленкі. Суддзя Іна Грабоўская прызнала іх вінаватымі ва ўдзеле 26 красавіка ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве на падставе відэароліка з youtube.com. Дзяржаўцаў і Каваленка ў гадавіну чарнобыльскай аварыі выйшлі на вуліцу Замкавую з плакатамі «Будаваць АЭС бяз згоды народу можа толькі вораг Беларусі» і «Дыктатар, пабудуеш Астравец — пажнеш Чарнобыль». Але гэта не было заўважана віцебскай міліцыяй: тыя пад'ехалі на службовай машыне, калі яны ўжо збіраліся сыходзіць, і іх плакаты былі згорнуты. Таму галоўным доказам у

судзе сталі відэаматэрыялы, якія былі выкладзеныя кімсьці ў інтэрнэце. Суддзя Іна Грабоўская аштрафавала кожнага на 20 базавых велічынь.

21 траўня ЛГБТ-актывіста Аляксея Куліка пры перасячэнні ўкраінска-беларускай мяжы на станцыі Церуха знялі з цягніка, каб правесці асабісты мытны дагляд. ЛГБТ-актывіст прабыў у зале мытнага надгляду з 4 да 7 раніцы, хаця ў акце аб правядзенні асабістага дагляду пазначана, што працэдура працягвалася ўсяго 15 хвілін. Падчас асабістага мытнага надгляду Аляксея папрасілі паказаць змест багажу, кампутара і флэшкі, а таксама распрануцца да майткаў. Забароненых для перамяшчэння праз дзяржаўную мяжу прадметаў выяўлена не было. Афіцыйнай прычынай асабістага мытнага надгляду назвалі супадзенне: маўляў, тыя, хто часта ездзяць праз мяжу, перыядычна праходзяць падобную працэдуру. Таксама актывіста папярэдзілі аб магчымай паўторнай падобнай працэдуры, калі ён будзе перасякаць дзяржаўную мяжу.

22 траўня адміністрацыйная камісія Глыбоцкага райвыканкама аштрафавала былога настаўніка матэматыкі Мар'яна Місевіча за тое, што ён размаляваў свой гаўбец пад нацыянальны сцяг і прымацаваў на ім «Пагоню». У пратаколе гэта было названа «парушэннем архітэктурнага рашэння» будынка. Спадара Місевіча пакаралі штрафам памерам 2 базавыя велічыні.

31 траўня раніцай дома быў прэвентыўна затрыманы лідар «Змены» Павел Вінаградаў і дастаўлены ў РУУС Маскоўскага раёна Мінска нібыта для «прафілактычнай размовы». Да актывіста супрацоўнікі міліцыі не дапусцілі адваката, паведаміўшы яму, што Павел не затрыманы, і таму паслугі абаронцы не патрэбныя. Павел мяркуе, што затрыманне звязана з самітам прэм'ер-міністраў краін СНД у Мінску. П. Вінаградава 12 гадзін пратрымалі ў міліцыі і ўвечары адпусцілі.

## Абмежаванні свабоды слова
## і права на распаўсюд інфармацыі, пераслед журналістаў

2 траўня Freedom House апублікавала справаздачу аб свабодзе прэсы ў 2012 годзе. Беларусь трапіла ў спіс самых горшых. Першае месца ў свеце займаюць Нарвегія і Швецыя з самай свабоднай прэсай, далей ідуць некалькі краін Заходняй Еўропы і ЗША. Найгоршымі краінамі для журналістаў названы Беларусь, Куба, Эрытрэя, Экватарыяльная Гвінэя, Іран, Паўночная Карэя, Туркменістан, Узбекістан — у іх, згодна са справаздачай, незалежных СМІ фактычна не існуе.

2 траўня ў прыватны дом у аграгарадку Вялікая Машчаніца Бялыніцкага раёна да незалежнага журналіста Барыса Вырвіча завітаў участковы інспектар Бялыніцкага РАУС, лейтэнант міліцыі Аляксандр Емельянаў. Асноўнай прычынай для візіта супрацоўнік міліцыі назваў высвятленне пытання, якім чынам на тэлеканале «Белсат» з'явіўся матэрыял пра СВК «Лебедзянка», і ці з'яўляюцца незалежныя журналісты, якія здымалі гэты сюжэт, «сотрудниками телеканала «Белсат».У той жа дзень участковы інспектар наведаў дома ў вёсцы Лебедзянка Бялыніцкага раёна жыхара гэтай вёскі Валерыя Вусіка. Па словах Валерыя Вусіка, супрацоўніка міліцыі вельмі цікавіла, як ён пазнаёміўся з незалежнымі журналістамі і як матэрыял пра СВК «Лебедзянка» з'явіўся на тэлеканале «Белсат». 13 траўня незалежных журналістаў з Магілёва Аліну Скрабунову і Яўгена Глушкова позвамі выклікалі ў Бялыніцкі РАУС да участковага інспектара Аляксандра Емельянава. Аднак яны ад паездкі ў Бялыніцкую міліцыю вырашылі адмовіцца ў сувязі з тым, што позвы не былі аформлены адпаведным чынам. 17 траўня Яўген Глушкоў атрымаў пад роспіс паўторную позву з Бялыніцкага РАУС. У позве ўказана, што незалежны журналіст выклікаецца «ў якасці асобы, супраць якой распачаты адміністрацыйны працэс». 20 траўня Яўген Глушкоў і Аліна Скрабунова не з'явіліся для апытання «ў якасці асобаў, супраць якіх распачаты адміністрацыйны працэс» у Бялыніцкі РАУС. 22 траўня кіраўніцтва СВК «Лябядзянка» напісала калектыўную скаргу на незалежных журналістаў з Магілёва. Нагодай для гэтага стала нібыта хлуслівая інфармацыя пра ўнутраную сітуацыю ў сяльгаса-вытворчым кааператыве, якую распаўсюдзілі журналісты. Незалежную журналістку Аліну Скрэбунову апыталі з гэтай нагоды ў Кастрычніцкім РАУСе Магілёва. Супрацоўнік міліцыі паведаміў, што з пракуратуры Бялыніцкага раёна паступіла даручэнне правесці апытанне з нагоды калектыўнай скаргі на незалежных журналістаў Аліну Скрабунову, Яўгена Глушкова, Барыса Вырвіча і грамадскага актывіста Валерыя Вусіка.

6 траўня вечарам каля станцыі метро «Міхалова» ў Мінску былі затрыманыя журналіст Беларускага Радыё «Рацыя» Аляксандр Ярашэвіч і блогер Дзмітрый Галко. Прыкладна каля 20-40 побач з імі спыніўся мікрааўтобус з групай спецназаўцаў, якія запіхнулі іх у аўтамабіль і адвезлі ў Маскоўскі РУУС Мінска. Супрацоўнікі міліцыі абвінавацілі журналістаў у непадпарадкаванні і склалі пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні. 7 траўня журналістаў судзілі ў Маскоўскім судзе. Справы разглядалі суддзя Таццяна Мотыль і Яўген Хаткевіч. Зміцер Галко быў асуджаны на 10 сутак арышту па абвінавачанні ў нецэнзурнай лаянцы і аказанні супраціўлення міліцыі. Аляксандру Ярашэвічу прысудзілі 12 сутак арыш-

ту. Яго прызналі вінаватым у парушэнні двух артыкулаў КаАП — 23.4 (непадпарадкаванне міліцыі) і 17.1 (хуліганства). 21 траўня Мінскі гарадскі суд пакінуў без задавальнення касацыйныя скаргі журналіста Аляксандра Ярашэвіча і блогера Дзмітрыя Галко.

8 траўня журналісту Радыё «Свабода» Алегу Груздзіловічу вынесена папярэджанне, падпісанае першым намеснікам пракурора Мінска Раманоўскім. Папярэджанне тычыцца артыкула і кнігі «Хто ўзарваў мінскае метро?». У ім гаворыцца, што журналіст «ажыццявіў акцыю па пранікненні на станцыю метро «Фрунзенская» з металічнымі прадметамі ў сумцы, якая нагадвае выкарыстаную арганізатарамі тэракту ў мінскім метрапалітэне». Размова ідзе пра тое, што 10 красавіка Алег Груздзіловіч падрыхтаваў матэрыял пра тое, як працуе служба аховы метро. Пракуратура адзначае, што журналіст размясціў на сайце Радыё «Свабода» «крытычны артыкул «З вялікай торбай у метро: з двух разоў праверылі адзін і ў торбу не зазірнулі» з відэасуправаджэннем». Далей у папярэджанні гаворыцца, што адбылася прэзентацыя кнігі «Хто ўзарваў мінскае метро?», аўтарам якой з'яўляецца Алег Груздзіловіч, у якой «ставіцца пад сумнеў аб'ектыўнасць афіцыйных вынікаў расследавання крымінальнай справы па факце выбуху ў мінскім метрапалітэне, а таксама справядлівасць беларускай судовай сістэмы ў цэлым». У папярэджанні таксама адзначаецца, што «ў выпадку прадстаўлення замежнай дзяржаве, замежнай ці міжнароднай арганізацыі заведама няпраўдзівых звестак пра палітычнае, эканамічнае, сацыяльнае, вайсковае і міжнароднае становішча Рэспублікі Беларусь, прававое становішча грамадзян РБ, якія дыскрэдытуюць РБ і яе органы ўлады», журналіста могуць прыцягнуць да адказнасці.

13 траўня ўсе кіраўнікі школ і дзіцячых садкоў Слонімскага раёна наведалі начальніка Упраўлення адукацыі Слонімскага райвыканкама Тарэсу Юшкевіч і паказалі падпісныя квіткі на «Настаўніцкую газету», раённую газету «Слонімскі веснік», «Гродзенскую праўду», «Советскую Белоруссию» і «Знамя юности». Падпіску на гэтыя выданні пад асабісты кантроль узяла начальнік Упраўлення адукацыі. Кожны кіраўнік школы і садка пад ціскам асабіста выпісаў гэтыя выданні, а таксама на школы і садкі. Педагогі незадаволены такім прымусам і звярнуліся ў незалежную «Газету Слонімскую». Газета апублікавала іх скаргу і спіс газет, якія неабходна выпісаць. Напрыклад, сярэднія школы Слоніма павінны выпісаць не менш 15 асобнікаў «СБ», «Слонімскага весніка», «Настаўніцкай газеты», школы раёна — не менш 8, базавыя школы раёна — не менш 4, дашкольныя ўстановы не менш 2.

17 траўня грамадскага распаўсюдніка незалежных выданняў «Новы час» і «Рабочая салідарнасць» Рыгора Грыка начальнік ідэалагічнага аддзела Баранавіцкага гарвыканкама Таццяна Жытко запрасіла для размовы. Разам з Таццянай Жытко прысутнічалі яшчэ двое супрацоўнікаў ідэалагічнага аддзела, якія прымалі актыўны ўдзел у «прафілактычна-выхаваўчай» размове. Высветлілася, што Р. Грыка выклікалі, каб пераканаць у неабходнасці спыніць грамадска-палітычную дзейнасць і, як сказала Таццяна Жытко, каб ён «не баламуціў» народ.

22 траўня з пятай па ліку спробы быў перарэгістраваны з новым заснавальнікам часопіс «Arche. Пачатак» Міністэрствам інфармацыі. Спробы перарэгістраваць «Arche. Пачатак» рэдакцыя рабіла з лістапада 2012 года.

24 траўня старшыню Гомельскай філіі «Беларускай асацыяцыі журналістаў» Анатоля Гатоўчыца выклікалі ў абласную пракуратуру. Напярэдадні яму патэлефанаваў старшы памочнік пракурора вобласці Дзмітрый Дэбой і запрасіў на гутарку. Ён патлумачыў, што ў пракуратуры «ёсць звесткі, што 24 красавіка Гатоўчыц падрыхтаваў відэасюжэт на спадарожнікавы тэлеканал «Белсат» пра паводку ў Гомелі». Журналіст заявіў, што гатовы прыйсці ў пракуратуру, але толькі па позве. Напярэдадні такая позва прыйшла на адрас Анатоля Гатоўчыца — ён мусіў з'явіцца ў пракуратуру.

25 траўня журналісту Беларускага Радыё «Рацыя» з Гродна Віктару Парфёненку ўжо пяты раз адмовілі ў акрэдытацыі. Пяты год сябра БАЖ падае паперы на афіцыйную акрэдытацыю, і пяты год атрымлівае адмову з Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь. Віктар Парфёненка мае намер падаваць на акрэдытацыю чарговы раз.

27 траўня суд Крычаўскага раёна выклікаў рэдактара крычаўскай незалежнай газеты «Вольны горад» Сяргея Няроўнага і яе выдаўца Уладзіміра Кудраўцава на 5 чэрвеня ў якасці адказчыкаў па іску «Аб абароне дзелавой рэпутацыі» з боку УКП «Чэрыкаўскае ПМК № 280». Начальнік арганізацыі А.В. Фралоў просіць суд Крычаўскага раёна «прызнаць распаўсюджаныя звесткі аб КУП «Чэрыкаўскае ПМК-280» у друкаваным выданні «Вольны горад» №4 ад 3 лютага 2013 года неадпавядаючымі рэчаіснасці», а таксама «абавязаць друкаванае выданне «Вольны горад» надрукаваць абвяржэнне на той жа старонцы ў той жа калонцы дадзенага друкаванага выдання». Іск «Аб абароне дзелавой рэпутацыі» падаў начальнік УКП «Чэрыкаўскае ПМК № 280» А. В. Фралоў адносна

інфармацыі, выкладзенай у артыкуле «Прыгонныя». Артыкул быў напісаны пасля тэлефанавання ў рэдакцыю «Вольнага горада» жонкі працаўніка Чэрыкаўскай ПМК №280. Жанчына сцвярджала, што яе муж не можа атрымаць заробак ужо трэці месяц.

29 траўня стала вядома, што сябры ГА «БАЖ» Вольга Чайчыц і Алесь Сіліч абавязаныя з'явіцца ў смалявіцкую раённую пракуратуру. Паводле позвы, незалежных журналістаў выклікаюць, каб узяць з іх тлумачэнні. Самі Вольга Чайчыц і Алесь Сіліч звязваюць выклік у пракуратуру з іх прысутнасцю на грамадскім абмеркаванні праекта Кітайска-беларускага індустрыяльнага парка пад Смалявічамі, што праходзіла ў красавіку. Тады прысутны на абмеркаванні супрацоўнік міліцыі перапісаў пашпартныя дадзеныя журналістаў і паабяцаў «разабрацца». 30 траўня журналістка Вольга Чайчыц атрымала пісьмовае папярэджанне ад пракуратуры Смалявіцкага раёна за супрацоўніцтва з тэлеканалам «Белсат».

30 траўня журналістку «Народнай Волі» Марыю Малевіч не акрэдытавалі на прэс-канферэнцыю, прысвечаную правядзенню «Першага Сырнага фестывалю пад Мінскам». Спачатку яе запрасілі на мерапрыемства, але пазнейператэлефанавалі і папрасілі не прыходзіць, спасылаючыся на прысутнасць чыноўнікаў і магчымыя вострыя пытанні з боку выдання. На просьбу прэс-службы ГА «БАЖ» пракаментаваць сітуацыю адказны за акрэдытацыю на фестываль Андрэй Кірыенка назваў дзеянні журналісткі «неадэкватнымі» і ад далейшых каментароў адмовіўся.

31 траўня суддзя Мінскага гарадскога суда Валер Камісараў пакінуў у сіле пастановы аб арышце журналістаў Генадзя Барбарыча і Аляксандра Ярашэвіча. У сваіх скаргах на пастановы суда першай інстанцыі затрыманыя 26 красавіка пасля дазволенай уладамі акцыі «Чарнобыльскі шлях» журналісты рабілі акцэнт на вялікай колькасці недакладнасцяў і парушэнняў, якія мелі месца. Апроч гэтага, Генадзь Барбарыч і Аляксандр Ярашэвіч падкрэслілі, што сведкі з боку міліцыі былі зацікаўленыя ў прызнанні журналістаў вінаватымі, бо панясуць адміністрацыйную адказнасць у выпадку апраўдання сябраў ГА «БАЖ». Журналісты падрабязна распавялі пра акалічнасці затрымання і дзеянні супрацоўнікаў міліцыі. У прыватнасці, пра тое, што міліцыянеры не прадстаўляліся затрыманым, не тлумачылі прычыны затрымання, не далі магчымасці азнаёміцца з пратаколам адміністрацыйнага парушэння і нават не змаглі ў судзе дакладна паведаміць месца затрымання. Нягледзячы на гэта, суддзя Валер Камісараў «не знайшоў падстаў» адмяніць адміністрацыйнае пакаранне.

## Абмежаванне свабоды сходаў

3 траўня брэсцкія актывісты Аб'яднанай грамадзянскай партыі атрымалі адмовы з гарвыканкама на 12 заявак на правядзенне 7 траўня на розных пляцоўках Брэста пікетаў, прысвечаных праблеме знікнення былога міністра ўнутраных спраў і палітыка Юрыя Захаранкі. Адначасова на пікетах планавалася прыцягнуць увагу грамадскасці да знікнення іншых вядомых асобаў у Беларусі — Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Дзмітрыя Завадскага, пра знаходжанне якіх таксама няма звестак. У сваім адказе пра забарону пікетаў чыноўнікі Брэсцкага гарвыканкама спасылаліся на тое, што падобныя акцыі можна ладзіць толькі ў вызначаных месцах (стадыён «Лакаматыў» і пляцоўка ў Парку воінаў-інтэрнацыяналістаў).

3 траўня суд Салігорскага раёна не задаволіў скаргу грамадскага актывіста Уладзіміра Шылы на забарону пікета да Дня Волі. Справу разглядала намесніца старшыні суда Ала Трафімчук. Бок адказчыка прадстаўляў юрыст Салігорскага райвыканкама Аляксей Страпко. На судовым паседжанні таксама прысутнічалі прадстаўнікі міліцыі і пракуратуры. У сваёй прамове падчас судовага паседжання Уладзімер Шыла адзначыў, што рашэнне па дадзенай справе насамрэч ўжо даўно вядома ўсім бакам. Мэта ж яго скаргі — дакументальная фіксацыя парушэння правоў чалавека. Дадзеныя дакументы, заявіў актывіст на судзе, дазволяць усіх датычных да парушэнняў прыцягнуць да адказнасці ў будучыні. 20 траўня грамадскі актывіст Уладзімір Шыла падаў скаргу на забарону масавага мерапрыемства да Дня Волі ў Мінскі абласны суд.

6 траўня Баранавіцкі райвыканкам забараніў Мілавідскі фэст, запланаваны грамадскасцю горада і раёна на 2 чэрвеня і прысвечаны 150-м угодкам Мілавідскай бітвы 1863 года. Гэта стала вядома з ліста за подпісам намесніка старшыні райвыканкама Анатоля Філанчука, які атрымалі арганізатары фэста Віктар Сырыца, Вячаслаў Болбат і Тэрэса Селівончык. У адказе раённага чыноўніка паведамлялася, што «...ў гэты дзень і ў гэтым месцы аддзел культуры Баранавіцкага райвыканкама запланаваў правядзенне мерапрыемства ў сувязі з 150-мі ўгодкамі Мілавідскай бітвы 1863 года, таму правядзенне другога мерапрыемства па гэтай тэматыцы не мэтазгодна». Як адзначыў Віктар Сырыца, арганізатары фэсту амаль за 2 месяцы да мерапрыемства падалі падрабязную заяву ў райвыканкам, на працягу месяца заключылі дамовы з раённай міліцыяй, паліклінікай і жыллёва-камунальнай гаспадаркай па абслугоўванні масавага мерапрыемства. Ніхто ім не казаў, што на 2 чэрвеня ўжо запланавана нейкае афі-

цыйнае мерапрыемства, і ніхто не прапаноўваў іншую дату. Пасля атрыманай адмовы была пададзена паўторная заяўка на правядзенне фэсту 9 чэрвеня, але ўжо 21 траўня Баранавіцкі райвыканкам Мілавідскі фэст забараніў зноў. На гэты раз намеснік старшыні райвыканкама Анатоль Філанчук матываваў адмову парушэннем п. 5 Закона РБ «Аб масавых мерапрыемствах», пры гэтым чыноўнік райвыканкама не патлумачыў, што канкрэтна парушылі арганізатары.

## Абмежаванне свабоды асацыяцый

30 красавіка Савет Міністраў прыняў пастанову №327 «Аб зацвярджэнні пераліку грамадскіх арганізацый (аб'яднанняў) і іх арганізацыйных структур, фондаў, аб'яднанняў юрыдычных асоб і (ці) індывідуальных прадпрымальнікаў (асацыяцый і саюзаў), у дачыненні да якіх пры арэндзе нерухомай маёмасці да базавых ставак ужываецца паніжальны каэфіцыент 0,1, і прызнанні страціўшымі сілу некаторых пастаноў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь». Гэты пералік замяніў сабой ранейшы спіс некамерцыйных арганізацый, якія карысталіся ільготамі па арэндзе памяшкання, і які дзейнічаў ад 9 красавіка 2010 года. Пералік 2010 года перыядычна папаўняўся новымі арганізацыямі, і на 2012 год утрымліваў у сабе 451 некамерцыйную арганізацыю, якім стаўкі арэнды памяшканняў былі зніжаны ў дзесяць разоў у параўнанні з іншымі арэндатарамі. Зацверджаны 30 красавіка 2013 года новы пералік прадугледжвае ільготу толькі для 195 грамадскіх аб'яднанняў, іх арганізацыйных структур, фондаў, саюзаў і асацыяцый. Такім чынам, колькасць некамерцыйных арганізацый, якія маюць права карыстацца ільготнымі стаўкамі арэнды памяшканняў, паменшылася з 451 да 195 арганізацыяў — больш чым у два разы. Абсалютная большасць арганізацый, якія засталіся ў пераліку ільготнікаў, гэта дабрачынныя, чарнобыльскія, гуманітарныя і спартыўныя. Сярод арганізацый, што раней карысталіся ільготамі, але не патрапілі ў новы спіс: Згуртаванне Беларусаў свету «Бацькаўшчына», Грамадскае аб'яднанне «Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны», Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне «Беларуская Асацыяцыя клубаў ЮНЕСКА», Беларускае грамадскае аб'яднанне «Экалагічная ініцыятыва», Дабрачыннае грамадскае аб'яднанне «Кропля жыцця» (аб'ядноўвае донараў крыві), Грамадскае аб'яднанне літоўцаў «Тэвінэ», Міжнародная грамадская дабрачынная арганізацыя «Надзея Экспрэс», Міжнароднае грамадскае аб'яднанне «Палестынская суполка», Грамадскае аб'яднанне «Дзецям Чарнобыля», Грамадскае аб'яднанне «Магілёўская габрэйская суполка», Грамадская арганізацыя «Беларускі фонд SOS — Дзіцячая вёска». Агулам ільготаў пазбаўленыя 256 арганізацый, якія будуць

вымушаны плаціць поўную арэндную плату за памяшканні на агульных умовах. У параўнанні з мінулым пералікам арганізацый-ільготнікаў скарацілася колькасць палітычных партый, якія карыстаюцца паніжальным каэфіцыентам пры аплаце арэнды: ільготы пакінуты для Камуністычнай партыі і Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасці. Ільготаў пазбаўленыя Беларуская сацыяльна-спартыўная партыя, Беларуская патрыятычная партыя і Беларуская аграрная партыя.

3 траўня Галоўнае гаспадарчае ўпраўленне пры прэзідэнце Беларусі распачало кампанію па экстраным скасаванні дамоў арэнды і высяленні з памяшкання Рэспубліканскага моладзевага грамадскага аб'яднання «Сустрэча». У гэты дзень арганізацыя атрымала ліст з абвесткай аб неабходнасці на працягу трох працоўных дзён скасаваць дамову арэнды на памяшканне, дзе знаходзіцца юрыдычны адрас у Мінску. У лісце пазначана наступнае: «Аб'яднанню неабходна здзейсніць поўны разлік па арэнднай плаце і камунальных плацяжах, вызваліць нежылое памяшканне, якое арэндуе аб'яднанне, і перадаць яго па акце прыёму-перадачы прадстаўніку Галоўнага ўпраўлення». Прычыны і абгрунтаванні для спыненьня дамовы арэнды ў лісце не пазначаны. РМГА «Сустрэча» паведаміла, што скасаванне дамовы арэнды з боку Галоўнага гаспадарчага ўпраўлення была ініцыявана і ў некаторых іншых гарадах, дзе месцяцца ананімна-кансультацыйныя пункты аб'яднання. Там пазначаны тэрміны скасавання дамоў да канца траўня. Тэрміновае вызваленне памяшкання ў Мінску можа прывесці да ліквідацыі аб'яднання. Кіраўніцтва арганізацыі звязвае гэта з тым, што РМГА «Сустрэча» ажыццяўляе дзейнасць па прафілактыцы ВІЧ/СНІД і ІППШ сярод мужчын, якія маюць сэкс з мужчынамі. З мэтай вырашэння дадзенай сітуацыі прадстаўнікі аб'яднання накіравалі лісты ў Міністэрства аховы здароўя РБ, ПРААН з просьбай аказаць садзейнічанне ў недапушчэнні ліквідацыі РМГА «Сустрэча», захаванні дзяржаўных арэндаў, і адпаведна, у працягу прафілактычнай дзейнасці ў рамках рэалізацыі грантаў Глабальнага фонду. РМГА «Сустрэча» дзейнічае ў сферы прафілактыкі ВІЧ/СНІДу з 1998 года.

20 траўня актывістка Грамадзянскай ініцыятывы супраць беззаконня ў судах і пракуратуры з горада Мазыра Галіна Герасімава атрымала вуснае папярэджанне за ўдзел у дзейнасці незарэгістраванага грамадскага аб'-яднання ад першага намесніка пракурора Гомельскай вобласці Вадзіма Сушчынскага. Як паведаміла юрыст Тамара Сяргей, тэкст папярэджання зачытаў Герасімавай начальнік аддзела па ахове правапарадку і прафілактыцы правапарушэнняў Мазырскага РАУС Аляксандр Быкаў, які пра-

вёў з актывісткай прафілактычную гутарку. Пры гэтым ён звярнуў увагу на тое, што сваімі дзеяннямі грамадзяне перашкаджаюць працы дзяржаўных устаноў.

21 траўня экскаватаршчык прадпрыемства «Граніт» Леанід Дубаносаў даведаўся пра тое, што з ім не працягнуты кантракт. У гэты дзень ён упершыню выйшаў на працу пасля адпачынку, аднак не быў дапушчаны на сваё месца для выканання службовых абавязкаў у начную змену. Начальнік варты Руслан Буневіч паведаміў Дубаносаву, што яшчэ 16 траўня з ім не быў працягнуты працоўны кантракт. Пры гэтым ніякіх дакументаў, якія б пацвярджалі гэтыя словы, Буневіч не прадставіў. У сваю чаргу Леанід Дубаносаў запрасіў сведкаў і склаў акт пра тое, што яму не дазволілі распачаць працу. Л.Дубаносаў да апошняга часу заставаўся адзіным з ініцыятараў стварэння суполкі Беларускага незалежнага прафсаюза на РУПП «Граніт» у Мікашэвічах, які дагэтуль працаваў непасрэдна на згаданым прадпрыемстве. Усе іншыя актывісты гэтага прафсаюза, супраць з'яўлення якога амаль паўтары гады выступае адміністрацыя «Граніта», ужо звольнены і не здолелі дамагчыся аднаўлення на працы праз суд.

31 траўня актывіст грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду» Аляксандр Кузьмін з Белаазёрска падаў скаргу ў Брэсцкую абласную пракуратуру на неабгрунтаванасць вынесенага яму папярэджання па арт. 193-1 Крымінальнага кодэкса РБ. А. Кузьмін просіць абласную пракуратуру адмяніць афіцыйнае папярэджанне, вынесенае пракурорам Бярозаўскага раёна Дзмітрыем Дзерабіным, паколькі справы па пэўных кампаніях у рамках «Гавары праўду» актывіст не адносіць да дзейнасці ад імя незарэгістраванай арганізацыі. Справа па дзейнасці Аляксандра Кузьміна ад імя незарэгістраванай арганізацыі ўзнікла пасля заявы старшыні Белаазёрскага гарвыканкама Вячаслава Дамброўскага ў Бярозаўскі РАУС. Каб азнаёміцца са справай, Кузьміну і яго адвакату прыйшлося чакаць месяц.

# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Чэрвень

Чэрвень адзначыўся відавочнай тэндэнцыяй да пагаршэння становішча з правамі чалавека ў Беларусі. За кратамі па-ранейшаму заставаліся палітвязні, спіс якіх папоўніўся яшчэ адным прозвішчам: да году і шасці месяцаў пазбаўлення волі быў асуджаны 23-гадовы жыхар Наваполацка Андрэй Гайдукоў. Такім чынам, у чэрвені ў месцах пазбаўлення і абмежавання волі ўтрымліваліся 12 палітычных зняволеных: Алесь Бяляцкі, Мікалай Статкевіч, Мікалай Аўтуховіч, Дзмітрый Дашкевіч, Эдуард Лобаў, Павел Севярынец, Мікалай Дзядок, Аляксандр Францкевіч, Яўген Васьковіч, Арцём Пракапенка, Ігар Аліневіч і Андрэй Гайдукоў.

На працягу месяца былі таксама ўзбуджаны 2 крымінальныя справы па палітычных матывах: супраць Аляксея Шчадрова паводле артыкула 193.1 Крымінальнага кодэкса — дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі, а таксама супраць былога палітвязня Васіля Парфянкова па артыкуле 421 Крымінальнага кодэкса (парушэнне патрабаванняў прэвентыўнага нагляду). Калі дадзеныя крымінальныя справы будуць даведзеныя да суда, у выніку чаго дадзеныя асобы будуць пазбаўлены волі, то яны будуць лічыцца новымі палітычнымі вязнямі.

Дадзеныя фактары не паўплывалі на адыход ад трывала дэклараваемай да гэтага часу пазіцыі Еўрапейскага Саюза адносна ўзнаўлення кантактаў з беларускім афіцыйным бокам выключна пасля вызвалення палітвязняў. Так, 24 чэрвеня на паседжанні Савета міністраў замежных спраў ЕС у Люксембургу было прынята рашэнне аб прыпыненні візавых санкцый у дачыненні да міністра замежных спраў Беларусі Уладзіміра Макея. Нягледзячы на тое, што ў дакуменце па выніках паседжання ўказвалася, што гэтая мера прынятая для спрашчэння дыпламатычных кантактаў паміж Еўрасаюзам і Беларуссю, дадзены крок праваабарончай супольнасцю быў успрыняты як змена прынцыповай пазіцыі ЕС па вызваленні палітвязняў як перадумова наладжвання кантактаў з беларускімі ўладамі. Гэта звязана з тым, што Уладзімір Макей быў унесены ў «чорны спіс» ЕС у студзені 2011 года ў асабістай якасці, як кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі, які мае дачыненне да жорсткага разгону акцыі пратэсту 19 снежні 2010 года і наступнага пераследу актывістаў апазіцыі.

Сур'ёзнае пагаршэнне зафіксавана ў сферы ўжывання смяротнага пакарання. Толькі за чэрвень былі вынесены два смяротныя прысуды: 12 чэрвеня Гродзенскім абласным судом 23-гадоваму жыхару Вілейкі і 14 чэрвеня Гомельскім абласным судом 25-гадоваму жыхару абласнога

цэнтра Аляксандру Грунову. Дадзеныя прысуды былі вынесены на фоне актывізацыі кантактаў афіцыйнага Мінска са структурамі Савета Еўропы па пытанні магчымасці ўвядзення мараторыя ці адмены дадзенага віду пакарання ў Беларусі. 21 чэрвеня ў Мінску адбыўся круглы стол «Рэлігія і смяротнае пакаранне», арганізаваны Саветам Еўропы ў супрацоўніцтве з беларускай дзяржавай, а 27 чэрвеня ўжо ў Страсбургу дэпутаты Палаты прадстаўнікоў бралі ўдзел у паседжанні Камітэта ПАСЕ па палітычных пытаннях і дэмакратыі па абмеркаванні пытання пра смяротнае пакаранне ў Беларусі. Вынясенне смяротных прысудаў падчас дыскусій на дадзеную тэму з міжнароднымі структурамі паказвае, што беларускія ўлады не гатовы ісці далей абмеркавання, і на дадзены момант не гатовыя да вырашэння праблемы па сутнасці.

Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі была ў цэнтры ўвагі Савета па правах чалавека ААН, дзе 4 чэрвеня ў межах 23-й Сесіі адбылося абмеркаванне даклада краінавага спецдакладчыка Міклаша Харашці. У дакуменце была дадзена ацэнка становішча з правамі чалавека ў Беларусі ў перыяд з 5 ліпеня 2012 года па 31 сакавіка 2013 года і адлюстраваны сістэматычны характар іх парушэнняў. З рэзкай крытыкай як самога даклада, так і наяўнасці інстытута спецдакладчыка выступіў прадстаўнік Беларусі пры ААН у Жэневе Міхаіл Хвастоў. Ён заявіў, што даклад выкарыстоўваецца для таго, каб аказаць палітычны і эканамічны ціск на Беларусь. «Беларускі народ не мае патрэбы ў спецдакладчыку. Мы ведаем, якія ў нас ёсць праблемы, і гатовы іх вырашаць. У нас ёсць свая мадэль, якая заснавана на нацыянальным суверэнітэце, бяспецы і вяршэнстве закона. Мы адхіляем усе абвінавачанні, якія ўтрымліваюцца ў дакладзе, і заяўляем, што высновы даклада для нас непрымальныя».

У сваю чаргу, праваабарончая супольнасць адзначыла аб'ектыўны характар даклада і заклікала ў чарговы раз беларускія ўлады да супрацоўніцтва з праваабарончымі інструментамі ААН. Так, намеснік кіраўніка Праваабарончага цэнтра «Вясны» Валянцін Стэфановіч падчас інтэрактыўнага дыялога адносна справаздачы спецыяльнага дакладчыка заклікаў беларускія ўлады запрасіць у краіну тэматычных дакладчыкаў ААН, у тым ліку дакладчыкаў па катаваннях, абароне праваабаронцаў, незалежнасці судовай сістэмы і адвакатуры, свабодзе асацыяцый і Працоўную групу па адвольных затрыманнях. «Мы таксама заклікаем дапусціць у краіну Спецыяльнага дакладчыка ААН па сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі, як ён неаднаразова прасіў, каб ён мог атрымаць інфармацыю пра становішча ў краіне як ад незалежных НДА, так і ад дзяржаўных органаў», — адзначыў В. Стэфановіч.

13 чэрвеня ў межах 23-й сесіі Савета па правах чалавека ААН адбылося галасаванне па рэзалюцыі аб сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі, якая ўтрымлівала палажэнне аб падаўжэнні мандата спецдакладчыка. За яе прыняцце аддалі свае галасы дэлегацыі 26 краін, супраць выступілі 3, 18 — устрымаліся. Такім чынам, мандат спецыяльнага дакладчыка па сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі быў працягнуты яшчэ на адзін год. Гэтае рашэнне вельмі станоўча было ацэнена праваабаронцамі краіны, якія ўспрымаюць дадзены інструмент як магчымасць наладжвання дыялога па праблемах правоў чалавека паміж беларускімі ўладамі і міжнароднай супольнасцю, што можа прывесці да сістэмнага паляпшэння становішча ў дадзенай галіне.

## Палітычныя зняволеныя, крымінальны пераслед грамадскіх актывістаў

1 чэрвеня Марына Адамовіч, жонка зняволенага экс-кандыдата ў прэзідэнты Мікалая Статкевіча, паведаміла, што палітвязень з турмы рыхтуе кнігу «Шлях волі» — зборнік артыкулаў і эсэ, напісаных за мінулае дзесяцігоддзе. 20 чэрвеня, перад пачаткам старшынства Літвы ў Еўрапейскім Саюзе, быў абнародаваны зварот М. Статкевіча да прэм'ер-міністра Літвы Альгірдаса Буткявічуса з нагоды абмеркавання магчымасці запрашэння вышэйшых службовых асоб Беларусі на саміт Усходняга Партнёрства ў Вільні, у якім сярод іншага адзначалася: «Тыя, хто змагаецца за свабоду нашай краіны, разглядаюць любыя прамыя кантакты кіраўніцтва дэмакратычных краін з верхаводамі беларускага рэжыму як здраду ідэалам дэмакратыі і спробу легітымізацыі дыктатуры. Я звяртаюся да Вас з заклікам адмовіцца ад сустрэч з кіраўніцтвам беларускага рэжыму да таго часу, пакуль у нашай краіне не застанецца ніводнага палітвязня».

6 чэрвеня стала вядома, што палітвязень Дзмітрый Дашкевіч атрымаў адказ на сваю скаргу ў Дэпартамент выканання пакаранняў МУС РБ адносна прыніжэнняў, з якімі вымушаны сутыкацца зняволеныя штодня — у прыватнасці, у турмах не дазваляюць карыстацца звычайнымі лыжкамі, акрамя прыёмаў ежы па раскладзе. А гэта значыць, што зняволеныя не могуць ні размяшаць цукар у гарбаце, ні з'есці ўласную ежу з перадач, а вымушаныя рабіць гэта футлярам ад зубной шчоткі. Д. Дашкевіч прасіў праверыць законнасць гэтага правіла. Як вынікае з адказу ДВП, такое правіла ёсць, але прадстаўнікі МУС не ўказалі, які дакумент прадугледжвае такую норму, што паставіла пад сумнеў існаванне такога дакумента. 25 чэрвеня Наста Дашкевіч, жонка Д. Дашкевіча, паведаміла, што ёй і яе

бацьку тэлефанавалі супрацоўнікі Першамайскага РУУС г. Мінска і пыталіся, ці яны не супраць, каб палітвязень пасля вызвалення жыў у іх. Жонка Д. Дашкевіча не выключыла, што рыхтуюцца дакументы для ўстанаўлення прэвентыўнага нагляду за яе мужам пасля выхаду на волю, мяркуемага 28 жніўня.

7 чэрвеня намеснік старшыні ПЦ «Вясна» Валянцін Стэфановіч атрымаў з МЗС Беларусі адказ на свой зварот адносна невыканання дзяржавай рашэння Працоўнай групы па адвольных затрыманнях ААН па справе зняволенага кіраўніка арганізацыі Алеся Бяляцкага. У звароце на імя міністра Уладзіміра Макея праваабаронца нагадваў, што ў задачы МЗС уваходзіць і кантроль за выкананнем міжнародных дамоў Рэспублікі Беларусь дзяржаўнымі органамі, і аказанне садзейнічання ў выкананні міжнародных дамоваў. «Беларусь не мае магчымасці прыняць да разгляду меркаванні Працоўнай групы, аб чым Савет ААН па правах чалавека і Працоўная група па адвольных затрыманнях праінфармаваны,» — так падвынікоўваецца адказ МЗС, датаваны 31 траўня і падпісаны намеснікам міністра Валянцінам Рыбаковым. У якасці аргументацыі прадстаўнік міністэрства адзначыў наступнае: «Выкананне меркаванняў Працоўнай групы па адвольных затрыманнях не падпадае пад міжнародныя абавязацельствы Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці з міжнароднымі дамовамі, удзельніцай якіх з'яўляецца Рэспубліка Беларусь». Гэтым абзацам МЗС дэманстратыўна пацвердзіў адмову беларускай дзяржавы ад выканання рашэння Працоўнай групы, адмову ад супрацоўніцтва, паколькі ў сваім звароце Валянцін Стэфановіч якраз зрабіў акцэнт на тым, што «спецыяльныя працэдуры ААН (у тым ліку Працоўная група па адвольных затрыманнях) з'яўляюцца дапаможнымі органамі ААН. Яны былі створаны Саветам па правах чалавека ААН і падсправаздачныя яму. Сябры ПГАЗ абіраюцца Кансультатыўнай групай, якая прызначаецца Саветам па правах чалавека ААН, на падставе ведаў і досведу ў галіне іх мандата, добрасумленнасці, незалежнасці і бесстароннасці. Іх юрыдычныя заключэнні, такія як вышэйзгаданае рашэнне па справе Алеся Бяляцкага, з'яўляюцца рашэннямі ААН. Рэспубліка Беларусь як дзяржава-сябра ААН мае абавязак супрацоўнічаць з усімі органамі і механізмамі ААН (як гэта прадугледжана артыкулам 56 Статута ААН), а таксама звязана дамовамі, у прыватнасці МПГПП, якія Беларусь ратыфікавала ў 1973 г.». Відавочна, прадстаўнікі знешнепалітычнага ведамства не пажадалі пачуць довады праваабаронцы.

7 чэрвеня Таццяна Францкевіч, маці зняволенага актывіста анархісцкага руху Аляксандра Францкевіча, які адбывае пакаранне ў Івацэвіцкай

калоніі, паведаміла, што да яе сына не прапусцілі бандэроль з кнігамі Сяргея Даўлатава і Франца Кафкі. Бандэроль была адаслана назад без указання прычын, хаця перад гэтым у калоніі адвакату сказалі, што можна дасылаць мастацкую літаратуру. Папярэджвалі, каб не дасылалі толькі філасофскія і палітычныя кнігі, але забаранілі і мастацкія.

У першай палове чэрвеня палітвязень Мікалай Дзядок быў змешчаны на 10 сутак у штрафны ізалятар магілёўскай турмы №4, дзе ён адбывае пакаранне. Прычыну змяшчэння ў ШЫЗА жонцы зняволенага актывіста анархісцкага руху Валерыі Хоцінай не паведамілі.

12 чэрвеня ў Віцебскім абласным судзе пачаўся разгляд справы 23-гадовага навапалачаніна Андрэя Гайдукова па абвінавачанні ў здзяйсненні злачынства, прадугледжанага артыкулам 356 Крымінальнага кодэкса (здрада дзяржаве ў форме правядзення агентурнай дзейнасці). Суд над А. Гайдуковым праходзіў у закрытым рэжыме, нягледзячы на просьбы праваабаронцаў зрабіць працэс адкрытым. У ходзе судовага разбіральніцтва абвінавачванні былі перакваліфікаваны на частку 1 артыкула 14 і артыкул 356-1 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (замах на ўстанаўленне супрацоўніцтва са спецыяльнай службай, органам бяспекі або разведвальным органам замежнай дзяржавы). 1 ліпеня суддзя Галіна Урбановіч вынесла прысуд — 1 год 6 месяцаў пазбаўлення волі. У гэты ж дзень Праваабарончы цэнтр «Вясна» і РПГА «Беларускі Хельсінкскі Камітэт» заявілі, што паколькі папярэдняе следства і суд былі цалкам закрытыя, «можна выказаць здагадку, што неабходнасць у разглядзе дадзенай справы ў закрытым судовым разглядзе была выклікана жаданнем схаваць ад грамадскасці незаконныя метады расследавання і правакаванне абвінавачанага да здзяйснення больш цяжкага злачынства. Такая кваліфікацыя зробленага судом паказвае, што КДБ увёў у зман грамадскасць у той час, як супрацоўнікамі КДБ не было выяўлена факту ўстанаўлення грамадзянінам Рэспублікі Беларусь супрацьпраўнага супрацоўніцтва з органамі замежнай дзяржавы. Пры ўстаноўленых абставінах супрацоўнікі КДБ працягвалі схіляць Гайдукова да здзяйснення больш цяжкага злачынства, гэта значыць, здзейснілі правакацыю». Ацэньваючы ў сукупнасці названыя абставіны, характар прад'яўленага абвінавачвання, дапушчаныя падчас папярэдняга расследавання працэсуальныя парушэнні, а таксама закрыты рэжым разгляду справы ў судзе, зыходзячы з наяўнай у праваабаронцаў інфармацыі аб дзеяннях Гайдукова, якія паслужылі фармальнай падставай для яго затрымання, Праваабарончы цэнтр «Вясна» і РПГА «Беларускі Хельсінкскі Камітэт» прыйшлі да высновы, што «асуджэнне А. Гайдукова з'яўляецца неабгрунтаваным

і палітычна матываваным, паколькі яно ў значнай ступені мела на мэце павышэнне ролі і значнасці КДБ у дзяржаве непрымальнымі ў дэмакратычным грамадстве метадамі».

14 чэрвеня палітзняволены Эдуард Лобаў паведаміў сваёй маці Марыне Лобавай у тэлефоннай размове, што пракуратура паўторна разгледзіць ягоную скаргу на шэраг парушэнняў пры разглядзе ягонай справы ў судзе ў 2011 годзе, а таксама пра допыты ў КДБ без адваката. 25 чэрвеня ў Івацэвіцкай калоніі адбылося кароткатэрміновае двухгадзіннае спатканне Э. Лобава з маці. Зняволены паведаміў, што, нягледзячы на летні сезон, садавіны, ягад ці свежай гародніны вязням не даюць, з усёй гародніны — кіслая капуста ці салёныя гуркі. Нават у турэмнай краме садавіна бывае крайне рэдка ўвосень.

20 чэрвеня стала вядома, што ў Шчучынскім раёне ўзбуджана крымінальная справа паводле артыкула 193.1 Крымінальнага кодэкса (дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі) супраць жыхара вёскі Аляксандраўка, каталіцкага верніка Аляксея Шчадрова, які арганізаваў у вёсцы прытулак для бяздомных. Паводле пастановы начальніка ААПП Шчучынскага РАУС маёра міліцыі Сяргея Асовіка, які разглядаў матэрыялы праверкі, Аляксей Шчадроў «арганізаваў дзейнасць ... незарэгістраванай рэлігійнай арганізацыі і забяспечыў умовы яе функцыянавання без рэгістрацыі ва ўсталяваным заканадаўствам парадку». Аляксей Шчадроў сцвярджае, што ён не ствараў ніякіх арганізацый, а проста займаецца дабрачыннасцю, стварыўшы прытулак для бяздомных. З гэтымі асобамі ён разам маліўся, але ніякай секты не ствараў. Антоні Грэмза, віцэ-канцлер Гарадзенскай рымска-каталіцкай курыі, да якой фармальна прыналежыць вернік Аляксей Шчадроў, таксама назваў дзеянні верніка прыватнай ініцыятывай, а не стварэннем нейкага сектанцкага руху. Паводле артыкула Крымінальнага кодэкса А. Шчадрову пагражае да двух гадоў пазбаўлення волі.

21 чэрвеня актывіста анархісцкага руху, палітвязня Арцема Пракапенку, які адбывае пакаранне ў магілёўскай калоніі, пазбавілі прадуктовых перадач падчас доўгатэрміновага спаткання з маці — Віялетай Пракапенка. Начальства калоніі забараніла яму браць прадукты на вынас, паколькі ён па-ранейшаму з'яўляецца «злосным парушальнікам рэжыму». Арцём Пракапенка працуе ў калоніі памочнікам зваршчыка.

28 чэрвеня бацькі палітзняволенага Ігара Аліневіча паведамілі, што мелі з сынам працяглае спатканне ў калоніі № 10 горада Наваполацка.

Па словах маці зняволенага, Валянціны Аліневіч, сустрэча працягвалася адны суткі ў пакоі, які быў не большы за 10—12 квадратных метраў, без дазволу яго пакідаць, што ва ўмовах спёкі было цяжкім выпрабаваннем. Па назіраннях І. Аліневіча, тыя людзі, з якімі ён размаўляе, потым падвяргаюцца пераследу. У гэты ж дзень стала вядома, што з Валянцінай Аліневіч адмовіліся працягнуць працоўны кантракт. Маці палітвязня больш за 30 гадоў адпрацавала ў Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце. Адміністрацыя казала, што яна запатрабаваны спецыяліст высокага ўзроўню, аднак спецслужбы настаялі на тым, каб працоўныя адносіны з В.Аліневіч былі скасаваныя. Па словах маці палітвязня, увесь гэты час яна ніякім чынам не дэманстравала свае палітычныя перакананні на працы, і да апошняга года ў яе не было праблем з кіраўніцтвам ВНУ.

28 чэрвеня ў Першамайскім РУУС Мінска быломy палітвязню Васілю Парфянкову паведамілі, што супраць яго ўзбуджана крымінальная справа па артыкуле 421 Крымінальнага кодэкса за парушэнне патрабаванняў прэвентыўнага нагляду. Гэта ўжо другая крымінальная справа па дадзеным артыкуле пасля вызвалення яго згодна з указам прэзідэнта аб памілаванні ў жніўні 2011 года пасля асуджэння да чатырох гадоў пазбаўлення волі па ч. 2 арт. 293 КК РБ за ўдзел у акцыі пратэсту супраць фальсіфікацый падчас апошніх прэзідэнцкіх выбараў. Першы раз актывіст быў асуджаны судом Першамайскага раёна г. Мінска паводле артыкула 421 Крымінальнага кодэкса 29 траўня 2012 г. і пакараны 6 месяцамі турэмнага арышту. Тэрмін нагляду, прызначаны Васілю Парфянкову, павінен быў скончыцца 30 чэрвеня. На момант абвяшчэння аб узбуджэнні крымінальнай справы ў В. Парфянкова былі толькі два парушэнні правіл прэвентыўнага нагляду.

## Смяротнае пакаранне

10 чэрвеня маці абвінавачанага ў здзяйсненні тэракту ў мінскім метро і расстралянага Уладзіслава Кавалёва — Любоў Кавалёва і ягоная сястра Таццяна Казяр накіравалі скаргу ў Міністэрства ўнутраных спраў на адмову Дэпартамента па выкананні пакаранняў паведаміць ягонае месца пахавання. Родныя Уладзіслава Кавалёва звярталіся ў ДПВ з такой просьбай 25 красавіка, але ўжо 8 траўня атрымалі адмову. Першы намеснік начальніка ДВП МУС Рэспублікі Беларусь С.І. Працэнка паведаміў, што «парадак выканання смяротнага пакарання строга рэгламентаваны артыкулам 175 Крымінальна-выканаўчага кодэкса Рэспублікі Беларусь, у адпаведнасці з якім прысуд да смяротнага пакарання, які ўступіў у законную сілу, выконваецца пасля атрымання афіцыйнага паведамлення аб

адхіленні скарг, накіраваных у парадку нагляду і хадайніцтва аб памілаванні. Смяротнае пакаранне выконваецца непублічна шляхам расстрэлу. Цела для пахавання не выдаецца, аб месцы пахавання не паведамляецца». У сваім звароце ў МУС Л. Кавалёва і Т. Казяр настойваюць на тым, што норма «пра месца пахавання не паведамляецца», прадугледжаная ч. 55 арт 175 Крымінальна-выканаўчага кодэкса, на якую спасылаецца ДВП, з'яўляецца нікчэмнай, паколькі супярэчыць арт. 7 Міжнароднага пакта аб грамадзяскіх і палітычных правах. Сваю пазіцыю яны абгрунтоўваюць меркаваннем Камітэта па правах чалавека ААН па справе Уладзіслава Кавалёва, згодна з якім «поўная сакрэтнасць вакол даты экзэкуцыі і месца пахавання, а таксама адмова ў выдачы цела для пахавання ў адпаведнасці з рэлігійнымі перакананнямі і звычаямі сям'і пакаранага зняволенага стварылі эфект запалохвання і пакарання сям'і шляхам наўмыснага пакідання іх у стане невядомасці і псіхічнага стрэсу. У сілу гэтых абставінаў Камітэт вырашыў, што гэтыя элементы ў сукупнасці, а таксама наступная ўпартая адмова дзяржавы-удзельніка ў інфармаванні аўтараў пра месца пахавання Кавалёва ўяўляюць сабой бесчалавечнае абыходжанне з аўтарамі ў парушэнне артыкула 7 Пакта» (пункт 11.10 меркаванняў).

12 чэрвеня Гродзенскі абласны суд вынес прысуд у выглядзе смяротнага пакарання 23-гадоваму жыхару Вілейкі, прызнаўшы яго вінаватым па чатырох артыкулах Крымінальнага кодэкса: арт.139 ч.2 пункты 1 і 6 (забойства дзвюх асоб, учыненае з асаблівай жорсткасцю); арт.205 ч.1 (крадзёж); ст.347 ч.1 (здзек над трупамі), ст.378 (крадзёж асабістых дакументаў). Працэс вёў суддзя Анатоль Заяц. 5-га жніўня 2012 года асуджаны з рэўнасці забіў у адной з кватэр маласямейнага інтэрната ў Гродна сваю жонку, жыхарку Жлобіна, і яе знаёмага гродзенца. Злачынства лічыцца «побытавым», абвінавачаны прызнаны дзеяздольным.

12-15 чэрвеня ў Мадрыдзе ўдзел у працы V Сусветнага Кангрэса супраць смяротнага пакарання ўзялі прадстаўнікі кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі». Кангрэс быў арганізаваны асацыяцыяй «Разам супраць смяротнага пакарання» (Ensemble Contre la Peine de Mort (ECPM)) пры сумеснай падтрымцы ўрадаў Іспаніі, Нарвегіі і Швейцарыі.

14 чэрвеня ў Гомельскім абласным судзе быў вынесены смяротны прысуд па крымінальнай справе ў дачыненні 25-гадовага жыхара абласнога цэнтра Аляксандра Грунова па абвінавачанні ў забойстве студэнткі ГДУ ім.Ф.Скарыны Наталлі Емельянчыкавай. Забойства з асобай жорсткасцю

адбылося 19 верасня 2012 года, ахвяры былі нанесены 102 нажавыя раненні. Дзяўчына загінула, не дайшоўшы некалькі метраў да свайго пад'езда. У судзе Аляксандр Груноў віну прызнаў цалкам. У 2005 годзе Аляксандр Груноў быў асуджаны да пазбаўлення волі тэрмінам на 8 гадоў за нанясенне цяжкіх цялесных пашкоджанняў, якія прывялі да смерці — ён да смерці збіў сужыцеля сваёй маці. Забойства дзяўчыны ён здзейсніў, прабыўшы толькі год на волі пасля адбыцця пакарання.

18 чэрвеня намеснік старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» Валянцін Стэфановіч звярнуўся да старшыні Белтэлерадыёкампаніі ў сувязі з паказаным 1 чэрвеня на тэлеканале «Беларусь-1» у праграме «Таямніцы следства» сюжэта, у якім распавядаецца пра забойства ў Магілёўскай турме. У дадзеным сюжэце пра акалічнасці здзейсненага Рыгорам Юзэпчуком і яго саўдзельнікам забойства сукамерніка ў кантэксце адмоўных характарыстык асобы некалькі разоў указваецца яго нацыянальная прыналежнасць. У сюжэце выкарыстоўваюцца словазлучэнні «з цыганам Юзэпчуком было ўсё зразумела», «з малаадукаваным цыганам Юзэпчуком», «са словаў цыгана», «асуджаны цыган Юзэпчук» і г.д. Пры гэтым нацыянальнасці саўдзельніка Паўла Петракова і пацярпелага Ігара Ходанава, якія таксама маюць скрайне адмоўныя характырыстыкі асоб, у дадзеным сюжэце не ўказваюцца. Па меркаванні Валянціна Стэфановіча, падобнае ўказанне на нацыянальную прыналежнасць злачынцы можа спрыяць праявам ксенафобіі і дыскрымінацыйным паводзінам у грамадстве, а таксама фармаванню выключна негатыўных ацэнак у дачыненні да прадстаўнікоў усёй цыганскай нацыянальнай меншасці ў нашай краіне. Праваабаронца звярнуўся з просьбай да Генадзя Давыдзькі правесці праверку ўказаных фактаў, а таксама тлумачальную працу з аўтарамі праграмы аб недапушчальнасці падобных фактаў у будучыні.

19 чэрвеня Генеральны пракурор Беларусі Аляксандар Канюк выказаў незадаволенасць пазіцыяй медыя і праваабаронцаў адносна вынесеных за апошнія дні ў краіне двух смяротных прысудаў — у Гомелі і Гродна. «Зноў пачаўся лямант у СМІ. Пра што яны лямантуюць? Лямантуюць пра лёс чалавека, які загубіў некалькі жыццяў. Але ніхто не пагаварыў з маці 22-гадовай забітай дзяўчыны, ніхто не пацікавіўся, як далей будуць жыць блізкія ахвяраў», — заявіў Генпракурор, выступаючы ў Палаце прадстаўнікоў. Паводле Канюка, «сёння ёсць зрух у тым, што мы больш клапоцімся пра злачынцаў, а не пра ахвяры». «Лямант пачаўся, але як злачынцу выправіць, калі ён адрэзаў галаву і ездзіў з ёй у сумцы па рэспубліцы? Што рабіць з нягоднікам, які нанёс 122 нажавых раненняў сваёй ахвяры?» — адзначыў Генпракурор.

21 чэрвеня ў Доме міласэрнасці ў Мінску адбыўся круглы стол «Рэлігія і смяротнае пакаранне», арганізаваны Саветам Еўропы ў супрацоўніцтве з беларускай дзяржавай. У ім прынялі ўдзел прадстаўнікі Праваслаўнай і Рыма-Каталіцкай Цэркваў, заканадаўчай і судовай улады Рэспублікі Беларусь, дэлегаты Савета Еўропы, дыпламаты, праваабаронцы. Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Мітрапаліт Філарэт накіраваў удзельнікам вітальнае слова: «Беларуская Праваслаўная Царква настойліва звяртала ўвагу грамадскасці на праблему смяротнага пакарання яшчэ ў 90-х гадах мінулага стагоддзя. У 1996 годзе напярэдадні ўсенароднага рэферэндуму, на якім, сярод іншага, абмяркоўвалася пытанне аб смяротнай кары, мы заклікалі беларускі народ адмовіцца ад такой меры пакарання. «Мы, хрысціяне, не можам апраўдваць смяротнае пакаранне, бо гэта грэх забойства ... Жыццё любога чалавека належыць яго Творцы, Богу. Не мы, грэшныя людзі, даравалі быццё чалавеку — не нам і пазбаўляць чалавека існавання. Бо за жыццё кожнага з нас Гасподзь Ісус Хрыстос аддаў сваё жыццё, зведаўшы пакуты, знявагі, здзекі і смерць на Крыжы ... Дзяржава, спапяляючы сваіх грамадзян, кожны раз нанова распінае Хрыста». Такой была наша пазіцыя ў год рэферэндуму. На сёння яна засталася нязменнай».

27 чэрвеня ў Страсбургу на паседжанні Камітэта ПАСЕ па палітычных пытаннях і дэмакратыі абмяркоўвалася пытанне пра смяротнае пакаранне ў Беларусі. Беларускі афіцыйны бок прадстаўлялі дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Мікалай Самасейка і Аляксандр Зазуля. Па выніках свайго ўдзелу ў паседжанні Мікалай Самасейка адзначыў, што галоўнае пытанне было ў тым, каб у Беларусі ўвялі мараторый на смяротнае пакаранне. Па словах М.Самасейкі, ён патлумачыў дэпутатам Савета Еўропы, што пытанне аб смяротным пакаранні ў Беларусі вырашалася не кімсьці з чыноўнікаў, а па выніках рэферэндуму, падчас якога большасць беларусаў выказалася за ўжыванне дадзенай меры пакарання. Таму адмяніць вынікі рэферэндуму не так проста. Разам з тым, Мікалай Самасейка сказаў, што ў грамадстве ёсць розныя думкі наконт смяротнага пакарання, як і ў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў: адны выступаюць за адмену смяротнага пакарання, іншыя лічаць, што яго трэба пакідаць. «Таму», — сказаў спадар Самасейка, — «мы абяцалі не рабіць рэзкіх рухаў у гэтым пытанні, а вырашаць яго, як кажуць англічане, step by step (крок за крокам)».

## Ціск спецслужб на грамадска і палітычна актыўных грамадзян

6 чэрвеня, пасля заканчэння прызыву ва ўзброеныя сілы Рэспублікі Беларусь, была прадпрынята спроба гвалтоўна прызваць у войска акты-

віста «Гавары праўду» Арцёма Свіршчыка. Актывіст быў дастаўлены ў гарадскі ваенкамат, дзе супрацоўнікі адмовіліся прадастаўляць яму дакументы, паводле якіх яго прызываюць, спасылаючыся на тое, што гэта дакументы для службовага карыстання. Пасля некалькіх гадзін знаходжання ў ваенкамаце Арцёму Свішчыку выдалі позву з'явіцца праз некалькі дзён і адпусцілі. За тыдзень да гэтага здарэння актывіст адмовіўся ад супрацоўніцтва з КДБ.

12 чэрвеня Алег Аксёнаў падаў скаргу на незаконную дзейнасць упраўлення КДБ па Магілёўскай вобласці ў суд Ленінскага раёна Магілёва. Праз суд актывіст аркамітэта партыі Беларуская Хрысціянская дэмакратыя просіць адмяніць вынесенае яму папярэджанне КДБ, а таксама прызнаць незаконнай і неабгрунтаванай праведзенную з ім супрацоўнікам спецслужбы прафілактычную размову. Таксама Алег Аксёнаў дамагаецца абавязаць начальніка УКДБ па Магілёўскай вобласці прынесці яму пісьмовыя прабачэнні, а супрацоўніка УКДБ Махунова — вусныя за іх незаконныя дзеянні. Справа датычыць падзеяў 29 красавіка, калі супрацоўнік КДБ Махуноў выклікаў па позве ў будынак КДБ Алега Аксёнава для прафілактычнай размовы. Падчас «размовы» Махуноў паведаміў, што актывісту вынесена папярэджанне нібыта за дзейнасць ад імя назарэгістраванай партыі — аргкамітэта Беларускай Хрысціянскай дэмакратыі, а таксама за ўдзел у дзейнасці двух незарэгістраваных у вызначыным парадку арганізацый — грамадзянскай кампаніі «За справядлівыя выбары-2012» і Магілёўскай рэгіянальнай кааліцыі дэмакратычных сіл. На прафілактычным уліку КДБ Алег Аксёнаў знаходзіцца ўжо болей за год. У Магілёве на такім уліку стаяць таксама актывістка БХД Таццяна Шамбалава і лідар Магілёўскай абласной арганізацыі БНФ «Адраджэньне» Дзмітрый Салаўёў.

## Выкарыстанне катаванняў і жорсткага абыходжання

20 чэрвеня стала вядома, што крычаўскія міліцыянеры жорстка збілі чалавека. Па выніках праверкі ўзбуджана крымінальная справа паводле прыкмет складу злачынства, прадугледжанага ч. 3 арт. 426 КК (перавышэнне ўлады ці службовых паўнамоцтваў). Падчас папярэдняга расследавання былі ўстаноўлены асобы супрацоўнікаў, якія, наўмысна перавышаючы свае службовыя паўнамоцтвы, нанеслі жыхару горада Крычава цяжкія цялесныя пашкоджанні. Аднаму з супрацоўнікаў выстаўлена абвінавачанне і абрана мера стрымання ў выглядзе ўзяцця пад варту. Збітага грамадзяніна затрымалі ў снежні 2012 года, ён праходзіў у якасці падазраванага ў крадзяжы у Крычаўскім УКПП «Ка-

мунальнік». Супрацоўнікі міліцыі прымянілі меры фізічнага ўздзеяння да падазраванага, у выніку гэтага ён атрымаў цяжкія цялесныя пашкоджанні. Пасля вызвалення грамадзянін звярнуўся з заявай у Крычаўскі міжрайаддзел КДБ.

## Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні

3 чэрвеня стала вядома, што Камітэт па правах чалавека ААН выявіў парушэнне права на свабоду і асабістую недатыкальнасць у адносінах да брэсцкай актывісткі Руху «За Свабоду» Жаны Коўш. Актывістка звярнулася ў Камітэт па правах чалавека ААН яшчэ ў 2008-м годзе са скаргай на тое, што яе двойчы затрымлівалі ў Брэсце па падазрэнні ў здзяйсненні крымінальных злачынстваў (кожная з гэтых спраў пасля была спынена) і змяшчалі ў ізалятар часовага ўтрымання. У першым выпадку Ж.Коўш знаходзілася там у чаканні суда 61 гадзіну, у другім — 72. Актывістка лічыць, што ўтрыманне пад вартай звыш 48 гадзін без дастаўлення да суддзі з'яўляецца парушэннем яе права на свабоду і асабістую недатыкальнасць згодна Міжнароднаму пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах. Камітэт ААН у абодвух выпадках прызнаў парушэнні Пакта. Важна адзначыць, што да гэтага часу ніхто не ставіў перад гэтым міжнародным органам пытанне аб парушэнні Пакта пры больш кароткім, чым 72 гадзіны, тэрміне ўтрымання пад вартай без дастаўлення да суддзі. Камітэт у справе Жанны Коўш усталёўвае новы стандарт ААН. Высновы Камітэта па справе Жанны Коўш павінны прывесці да перагляду заканадаўства аб затрыманні і заключэнні пад варту як у Беларусі, так і ў іншых дзяржавах-удзельніцах Пакта, якія пакуль яшчэ не ўвялі 48-гадзінны максімальны тэрмін для дастаўлення да суддзі затрыманага.

4 чэрвеня позна ўвечары падчас распаўсюду ўлётак супраць прызыўнога рабства быў затрыманы член аргкамітэта па стварэнні Нацыянал-бальшавіцкай партыі Дзмітрый Паліенка. Пасля затрымання ён быў дастаўлены ў РАУС Маскоўскага раёна, дзе быў падвергнуты збіццю з боку супрацоўнікаў праваахоўных органаў. 5 чэрвеня суд Маскоўскага раёна Мінска асудзіў Д. Паліенку на пяць сутак арышту па артыкуле 17.1 КаАП РБ (дробнае хуліганства).

10 чэрвеня міліцыя г. Шчучын склала пратакол адміністрацыйнага правапарушэння, якое нібыта здзейсніла пенсіянерка Вераніка Себасцьяновіч, сябра незарэгістраванага «Саюзу палякаў на Беларусі». 82-гадовай жанчыне праз пошту быў дасланы ліст з копіяй пратакола адміністра-

цыйнага правапарушэння — правядзенне несанкцыянаванага мітынгу. В.Себасьцяновіч у траўні была адной з удзельніц усталявання памятнага крыжа на хутары ў Рачкаўшчыне, што непадалёк Бакштаў (Шчучынскі раён) у памяць жаўнера Арміі Краёвай Анатоля Радзівоніка, які быў забіты супрацоўнікамі НКВД. Крыж усталёўваўся на прыватнай тэрыторыі. 13 чэрвеня аналагічны пратакол быў складзены на старшыню «Саюзу палякаў на Беларусі» Мечыслава Яськевіча. 19 чэрвеня Шчучынскі раённы суд разгледзеў адміністрацыйныя справы ў дачыненні да Мечыслава Яськевіча і Веранікі Себасьцьяновіч. Разгляд справы з перапынкамі доўжыўся больш за пяць гадзін. У выніку абодва актывісты былі прызнаны вінаватымі ў арганізацыі несанкцыянаванага масавага мерапрыемства і аштрафаваны: Мечыслаў Яськевіч — на 40 базавых велічынь, Вераніка Себасьцяновіч — на 25 базавых велічынь.

12 чэрвеня грамадскага актывіста Віктара Сырыцу, арганізатара Мілавідскага фэсту ў гонар 150-х угодкаў Мілавідскай бітвы 1863 года, выклікалі ў Баранавіцкі РАУС. Участковы інспектар Баранавіцкага РАУС ст. лейтэнант Дзяніс Майсеня ў прысутнасці начальніка міліцыі грамадскай бяспекі і прафілактыкі маёра міліцыі Віталя Куляшова прапанаваў Віктару Сырыцу і яго адвакату Зоі Гаўдзей азнаёміцца і падпісаць адміністрацыйны пратакол. Супрацоўнік міліцыі паведаміў, што грамадскі актывіст абвінавачваецца ў здзяйсненні адміністрацыйнага правапарушэння, прадугледжанага ч. 2 арт. 23.34 КаАП РБ — арганізацыя і правядзенне 2 чэрвеня несанкцыянаванага мерапрыемства ў памяць касінераў 1863 года. 19 чэрвеня старшыня суда Баранавіцкага раёна і г.Баранавічы Мікалай Кміта адправіў адміністрацыйны пратакол, складзены на Віктара Сырыцу, назад у міліцыю для выпраўлення недахопаў. Гэта стала вядома з ліста, які спадар Сырыца атрымаў з суда.

27 чэрвеня ў Мінску каля 12 гадзін супрацоўнікі міліцыі затрымалі лідара прадпрымальніцкага руху «Перспектыва» Анатоля Шумчанку і журналістаў Аляксандра Сівога («Народная Воля»), Ігара Карнея (Радыё «Свабода»), Касцюкевіч Наталлю, якія накіроўваліся ў гандлёвы цэнтр «Паркінг», дзе страйкавалі прадпрымальнікі. Усе яны былі дастаўлены ў Цэнтральны РУУС Мінска. Анатоль Шумчанка разам з прадпрымальнікамі планаваў перадаць патрабаванні дробнага бізнесу ў Дэпартамент прадпрымальніцтва Міністэрства эканомікі. Праз 2 гадзіны журналісты былі адпушчаны, на Анатоля Шумчанку складзены пратакол адміністрацыйнага правапарушэння — арганізацыя несанкцыянаванага масавага мерапрыемства, і ў гэты ж дзень суд Цэнтральнага раёна Мінска асудзіў яго на пяць сутак арышту.

## Абмежаванні свабоды слова і права на распаўсюд інфармацыі, пераслед журналістаў

У чэрвені адбылася падзея, якой незалежная газета «Борисовские новости» дамагалася восем гадоў. З траўня 2005 года па распараджэнні Мінскага абласнога выканаўчага камітэта ўсе незалежныя газеты вобласці былі выключаны з падпісных каталогаў «Белпошты» і пазбаўлены магчымасці рэалізацыі праз кіёскі «Белсаюздруку». Ніякія довады і эканамічныя выкладкі не дапамагалі ў супрацьстаянні «БН» і гэтых дзяржструктур. І вось нарэшце чытачы зноў могуць атрымліваць «Борисовские новости» па пошце. Засталася справа за «малым» — дамагчыся вяртання газеты ў кіёскі «Белсаюздруку». У канцы чэрвеня, падчас падпісной кампаніі, у паштовых аддзяленнях Барысава прыбралі інфармацыйныя плакаты «Борисовских новостей». Зроблена гэта было з падачы ідэолагаў райвыканкама.

3-5 чэрвеня ў Беларусі з афіцыйным візітам знаходзілася прадстаўнік АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ Дунья Міятавіч. Яна сустрэлася з дэпутатамі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, чыноўнікамі Адміністрацыі прэзідэнта, Міністэрства інфармацыі, Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра, Міністэрства замежных спраў, а таксама рэдактарамі буйных дзяржаўных медыяў, сябрамі БАЖ і БСЖ. Дунья Міятавіч адзначыла найбольш праблемныя моманты, з якімі сутыкаюцца беларускія прадстаўнікі СМІ: адвольныя кароткатэрміновыя затрыманні, адміністрацыйныя і крымінальныя справы супраць журналістаў. Па яе меркаванні, гэтыя праблемы павінны вырашацца ў бліжэйшы час. «Падчас сустрэчы з парламентарыямі і чыноўнікамі высокага рангу я пачула словы ўпэўненасці, што з затрыманнямі і крымінальнымі справамі будзе скончана», — адзначыла яна. «Я перакanана, што Беларусь мае патрэбу ў заканадаўчых рэформах у сферы СМІ. Інтэрнэт павінен быць больш свабодным. Баланс паміж дзяржаўнымі і камерцыйнымі СМІ павінен быць большым. Я таксама хацела б убачыць у будучыні грамадскае радыё і тэлебачанне ў Беларусі», — адзначыла спадарыня Міятавіч. Прадстаўнік АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ лічыць, што ў Беларусі надышоў час для радыкальных зменаў па свабодзе слова. «Улады павінны дазволіць крытыку, адрозныя меркаванні ў грамадстве. Гэта цана, якую любая краіна мусіць сплаціць за дэмакратыю».

5 чэрвеня ў Мінску за распаўсюд газеты «Наш дом» была затрымана Наталля Лявонава. Яна была дастаўлена ў аддзяленне міліцыі Фрунзенскага раёна. Праз дзве гадзіны пасля напісання тлумачэння дзяўчыну выпусцілі з пастарунку.

7 чэрвеня ў Брэсце незалежным журналістам перашкаджалі выконваць прафесійныя абавязкі. Інцыдэнт здарыўся на тэрыторыі брэсцкага рынку «Аўтазапчасткі» ў той час, калі яго наведвалі ініцыятары кампаніі «Народны рэферэндум», каб паразмаўляць з прадпрымальнікамі і іншымі жыхарамі горада. Рэпартаж з гэтай сустрэчы рабілі незалежныя журналісты Алесь Ляўчук і Мілана Харытонава, да якіх падыйшоў загадчык рынку Алег Дзенісюк і заявіў, што нельга здымаць без дазволу, бо тэрыторыя рынку — гэта прыватная ўласнасць. Акрамя таго, па словах Ляўчука, загадчыка цікавіла, як будуць выкарыстаны зробленыя здымкі. Неўзабаве на рынку з'явіліся прадстаўнікі праваахоўных органаў, якія перапісалі асабістыя дадзеныя Алеся Ляўчука і Міланы Харытонавай і папярэдзілі, што ў далейшым іх могуць выклікаць у міліцэйскі пастарунак для апытання.

7 чэрвеня журналіст Алесь Сіліч атрымаў пісьмовае папярэджанне ад пракуратуры Смалявіцкага раёна за супрацоўніцтва з тэлеканалам «Белсат». Некалькі тydняў да гэтага карэспандэнты тэлеканала «Белсат» Вольга Чайчыц і Алесь Сіліч атрымалі позвы з патрабаваннем з'явіцца ў Смалявіцкую раённую пракуратуру, каб даць тлумачэнні адносна іх прысутнасці на грамадскім абмеркаванні праекта Кітайска-беларускага індустрыяльнага парка пад Смалявічамі, што праходзіла ў красавіку. Тады прысутны на абмеркаванні супрацоўнік міліцыі перапісаў пашпартныя дадзеныя журналістаў і паабяцаў «разабрацца». Пасля гэтага папярэджанне спачатку атрымала Вольга Чайчыц, а зараз і Алесь Сіліч.

11 чэрвеня журналісту «Еўрапейскага радыё для Беларусі» Дзмітрыю Лукашуку адмовілі ў акрэдытацыі на прэс-канферэнцыю ў Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. Пра гэта паведаміў начальнік упраўлення інфармацыйна-аналітычнай работы ПП НС Мікалай Ліс. Ён патлумачыў, што журналіста не акрэдытавалі з-за таго, што няма гадавой акрэдытацыі пры парламенце. На прэс-канферэнцыю з нагоды разгляду дэпутатамі законапраекта аб канфіскацыі аўтамабіляў у нецвярозых кіроўцаў журналіст «Еўрарадыё» спрабаваў акрэдытавацца на працягу тыдня. Атрымаць гадавую акрэдытацыю пры Палаце прадстаўнікоў «Еўрарадыё» безвынікова спрабавала цягам двух папярэдніх гадоў.

16 чэрвеня быў затрыманы незалежны тэлежурналіст Міхась Янчук падчас здымкаў у Стаўбцоўскім раёне, дзе, паводле некаторых звестак, заўважаны падазроны мор свінняў. Журналіста даставілі ў Стаўбцоўскі РАУС, адкуль пасля складання пратакола даставілі міліцэйскай машынай наўпрост на чыгуначную станцыю. У журналіста нічога не забралі.

24 чэрвеня Гродзенскі абласны суд разгледзеў касацыйную скаргу па справе фотаальбома «Belarus Press Photo — 2011». У красавіку суд Ашмянскага раёна Гродзенскай вобласці прызнаў гэты фотаальбом экстрэмісцкім. Касацыйная скарга арганізатараў конкурсу не была задаволена. 41 асобнік альбома канфіскавалі ў Юліі Дарашкевіч і Аляксандра Васюковіча 2 лістапада 2012 года на памежным пераходзе «Каменны Лог».

26 чэрвеня ў рагачоўскага актывіста Дзяніса Дашкевіча ўзялі тлумачэнні наконт публікацыі на незалежным сайце vrogacheve.ru. Міліцыянтаў цікавілі падрабязнасці, якія маюць дачыненне да публікацыі пра праслед рагачоўскага паэта Юрыя Арэстава.

## Абмежаванне свабоды сходаў

11 чэрвеня суд Цэнтральнага раёна Гомеля ў асобе Марыны Дамненка разгледзеў скаргу Гомельскай арганізацыі Беларускай партыі левых «Справядлівы свет» на дзеянні гарвыканкама па забароне мітынгу 1 траўня. Камунальныя службы заключылі з заяўнікамі дамову, але міліцыя і «хуткая» адмовілася зрабіць гэта. Каб правесці мітынг ці пікет, трэба мець дазвол ад гарвыканкама, а каб атрымаць дазвол, трэба папярэдне заключыць платныя дамовы з камунальнымі службамі, міліцыяй і «хуткай дапамогай». Міліцыя і «хуткая», у сваю чаргу, адмаўляюцца заключаць дамовы на той падставе, што няма дазволу з гарвыканкама. Нягледзячы на такое «замкнёнае кола», суд не задаволіў скаргу і прызнаў правамоцным рашэнне гарвыканкама па забароне масавага мерапрыемства.

14 чэрвеня суд Ленінскага раёна Магілёва разгледзеў скаргу актывіста Аб'яднанай грамадзянскай партыі Міхаіла Шарамета на адмову ў правядзенні пікета ў цэнтры горада. Суддзя Юлія Трапыніна палічыла, што рашэнне гарвыканкама было законным, і праводзіць масавыя мерапрыемствы можна толькі ў спецыяльна вызначаных гарвыканкамам месцах. Пікет планавалася правесці 7-га траўня, у дзень знікнення Юрыя Захаранкі.

18 чэрвеня слонімцы Іван Бедка і Віктар Марчык атрымалі адмову са Слонімскага райвыканкама на заяву аб правядзенні пікета 27 чэрвеня ў падтрымку доктара-траўматолага Івана Шэгі. У адмове за подпісам намесніка старшыні райвыканкама Віктара Ката паведамлялася, што «згодна з планам работы аддзела па справах моладзі і ГА «БРСМ» не маем магчымасці прадставіць Вам месца ў гарадскім парку па вуліцы Оперная ў патрабуемы час, паколькі ў 11.00 ч. 27 чэрвеня 2013 г. пачатак крос-вікторыны «Знай свой край».

20 чэрвеня актывіст грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду» Вячаслаў Болбат падаў скаргу ў суд Баранавіцкага раёна і г. Баранавічы на дзеянні райвыканкама, які двойчы забараніў адукацыйна-культурніцкае мерапрыемства «Мілавідскі фэст — памяці касінераў 1863 года». У скарзе ўказваецца, што грамадскія актывісты Вячаслаў Болбат, Віктар Сырыца і Тэрэса Селівончык 19 красавіка падалі заяву ў райвыканкам на правядзенне масавага мерапрыемства 2 чэрвеня 2013 года, да якой яны прыклалі свае абавязацельствы арганізатараў масавага мерапрыемства аб забеспячэнні грамадскага парадку і бяспекі падчас правядзення мерапрыемства. У сваёй скарзе Вячаслаў Болбат адзначае, што арганізатары культурніцкага фэста гарантавалі аплату выдаткаў, звязаных з правядзеннем масавага мерапрыемства, у пацвярджэнне чаго 29.04.2013 г. на імя старшыні райвыканкама яны даслалі копіі дамоў з КУМВП «Баранавіцкая раённая ЖКГ», аддзелам унутранных спраў Баранавіцкага райвыканкама, установай аховы здароў`я «Баранавіцкая цэнтральная паліклініка». Такім чынам арганізатары мерапрыемства выканалі ўсе патрабаванні Закона «Аб масавых мерапрыемствах у РБ». Аднак сваім рашэннем ад 03.05.2013 г. Баранавіцкі раённы выканаўчы камітэт забараніў правядзенне фэсту з той прычыны, што быццам бы ў гэты дзень і ў гэтую гадзіну на тым жа месцы аддзел культуры райвыканкама запланаваў сваё культурніцкае мерапрыемства. Арганізатары мерапрыемства накіравалі другую заяву аб правядзенні запланаванай адукацыйна-культурніцкай акцыі на 09.06.2013 г. Нягледзячы на тое, што правядзенню фэсту 09.06.2013г. не перашкаджалі аніякія афіцыйныя мерапрыемствы, Баранавіцкі райвыканкам сваім рашэннем ад 20.05.2013 г. зноў жа забараніў яго правядзенне. Падставай для адмовы цяпер стала тое, што заяўнікі быццам бы не выканалі п. 5 Закона «Аб масавых мерапрыемствах у РБ». Што менавіта было парушана з боку заяўнікаў, у рашэнні выканкама не згадвалася.

26 чэрвеня стала вядома, што на тры заяўкі на адзіночныя пікеты ва ўсіх трох раёнах Віцебска жыхар горада Віктар Жаркоў атрымаў тры забароны. В. Жаркоў падчас пікетаў хацеў праінфармаваць пра парушэнне ягоных правоў з боку міліцыі. Заяўнік падаў скаргі на дзеянні адміністрацый раёнаў Віцебска ў тры раённыя суды адпаведна.

26 чэрвеня сябры Слонімскага згуртавання дэмакратычных сіл, якія сёлета 25 сакавіка адзначалі Дзень Волі, паведамілі, што іх працягваюцца выклікаць у міліцыю і пракуратуру ў сувязі нібыта з правядзеннем несанкцыянаванага масавага мерапрыемства. Кіраўнік слонімскай суполкі БХД Іван Бедка атрымаў позву за подпісам пракурора Слонімскага раёна, старэйшага дарадцы юстыцыі Анатоля Яўлаша з'явіцца ў праку-

ратуру «па факце правядзення несанкцыянаваных масавых мерапрыемстваў, прысвечаных гадавіне ўзнікнення БНР».

## Абмежаванне свабоды асацыяцый

2 чэрвеня з'езд сябраў аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Віцебшчыны быў фактычна сарваны ў выніку таго, што прадстаўнікоў з вобласці выклікалі на працу ў выходны дзень. У прыватнасці, на працу тэрмінова і без папярэджання былі выкліканыя сябры БХД з Наваполацка і Лепеля. Па словах сустаршыні БХД Віталя Рымашэўскага, на актывістаў аказваюць ціск рэгіянальныя супрацоўнікі КДБ, якія пагражаюць «праблемамі» за ўдзел у падобных з'ездах хрысціянскіх дэмакратаў.

10 чэрвеня Генеральная пракуратура адмовіла ў задавальненні скаргі праваабаронцы Тамары Сяргей на дзеянні намесніка Генпракурора Аляксандра Лашына, які 23 красавіка вынес ёй афіцыйнае папярэджанне аб крымінальнай адказнасці па артыкуле 193.1 КК РБ за арганізацыю дзейнасці незарэгістраванага грамадскага аб'яднання — Грамадзянскай ініцыятывы супраць беззаконня ў судах і пракуратуры. Выконваючы абавязкі Генпракурора Мікалай Кукліс афіцыйнае папярэджанне пакінуў у сіле.

17 чэрвеня Міністэрства юстыцыі Беларусі адмовілася зарэгістраваць рэспубліканскае даследча-асветніцкае грамадскае аб'яднанне «Гавары праўду». Устаноўчы сход аб'яднання быў праведзены 13 красавіка, а 8 траўня — пададзены дакументы на рэгістрацыю. Адказ павінен быў прыйсці да 8 чэрвеня, але ліст з Мін'юста датаваны 12 чэрвеня, чым міністэрства парушыла тэрміны, якія прадугледжаны законам на рэгістрацыю ці матываваную адмову ў рэгістрацыі. Адмова матывавана дзвюма прычынамі: па-першае, чыноўнікі палічылі, што тэрмін дзеяння гарантыйнага ліста (а ён быў да 31 траўня) на юрыдычны адрас скончыўся; другой прычынай названа тое, што нібыта не вызначаны колькасны склад праўлення. Гэта была ўжо трэцяя спроба рэгістрацыі аб'яднання.

18 чэрвеня Міністэрства юстыцыі адмовіла ў рэгістрацыі маладзёжнаму грамадскаму аб'яднанню «Маладыя дэмакраты». У сваёй адмове чыноўнікі спасылаліся на дрэнны почырк у рукапісных спісах заснавальнікаў, а таксама ўказалі, што дакумент павінен быў быць набраны асаблівым шрыфтам. Таксама Міністэрства юстыцыі абвінавачала «Маладых дэмакратаў» у тым, што яны падалі «недакладныя і няпоўныя звесткі пра заснавальнікаў аб'яднання».

# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Ліпень

У ліпені захавалася тэндэнцыя да пагаршэння сітуацыі з правамі чалавека. У беларускіх турмах і калоніях па-ранейшаму ўтрымліваліся 12 палітычных зняволеных: Алесь Бяляцкі, Мікалай Статкевіч, Мікалай Аўтуховіч, Дзмітрый Дашкевіч, Эдуард Лобаў, Павел Севярынец, Мікалай Дзядок, Аляксандр Францкевіч, Яўген Васьковіч, Арцём Пракапенка, Ігар Аліневіч і Андрэй Гайдукоў. Дзмітрый Мядзведзь і Святаслаў Барановіч працягвалі адбываць пакаранне ў выглядзе абмежавання волі без накіравання ва ўстановы адкрытага тыпу, Андрэй Пачобут — пакаранне з адтэрміноўкай выканання прысуду. Да ўзбуджанай у чэрвені крымінальнай справы супраць былога палітвязня Васіля Парфянкова за парушэнне прэвентыўнага нагляду, дадалася аналагічная крымінальная справа супраць Уладзіміра Яроменкі. Прэвентыўны нагляд як сродак кантролю і ціску працягваў выкарыстоўвацца адносна былога палітзняволенага Паўла Вінаградава, яшчэ ў адносінах да 25 памілаваных і вызваленых датэрмінова — прафілактычны нагляд. Працягваліся следчыя дзеянні па крымінальнай справе, узбуджанай па арт. 193.1 КК за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі супраць Аляксея Шчадрова.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» не расцэньвае спыненне крымінальнага пераследу Ірыны Халіп і Уладзіміра Някляева пасля заканчэння адтэрміноўкі выканання прысудаў як знак паляпшэння агульнай сітуацыі ў сферы правоў чалавека, паколькі лічыць іх пакаранне незаконным, несправядлівым і палітычна матываваным па сваёй сутнасці.

Адсутнасць станоўчай дынамікі ў галіне правоў чалавека ў Беларусі вымушаны быў прызнаць у сваім дакладзе, падрыхтаваным для еўрапейскіх інстытутаў, член Еўрапарламента Ю.Палецкіс. Калі ў траўні падчас першага чытання ў дакладзе казалася пра «паляпшэнне сітуацыі з правамі чалавека» ў Беларусі, то пасля сур'ёзнай крытыкі з боку беларускіх экспертаў і еўрадэпутатаў падчас другога чытання 9 ліпеня ў Камітэце па замежных справах Еўрапарламента фармулёўка была зменена. «Тэзіс пра тое, што змянілася сітуацыя з правамі чалавека, перафармуляваны цалкам. Зараз гаворыцца пра цяжкае становішча з правамі чалавека. Але адначасова цытуецца, па статыстыцы Праваабарончага цэнтра «Вясна», што колькасць асуджаных па палітычных матывах паменшылася. Але зараз тлумачыцца, што гэтыя лічбы — вынік атмасферы запалохвання і рэпрэсій», — адзначыў Юстас Палецкіс. Еўракамісіі,

Вярхоўнаму прадстаўніку ЕС па знешняй палітыцы і палітыцы бяспекі, Савету ЕС і дзяржавам — членам ЕС еўрапарламентарыі рэкамендавалі заклікаць беларускія ўлады паважаць правы чалавека і рухацца ў кірунку дэмакратычных рэформаў, каб спыніць самаізаляцыю краіны ад Еўропы. Па меркаванні Еўрапарламента, ЕС таксама павінен яшчэ раз выразна пазначыць: перадумовай для якога-небудзь прагрэсу, які мог бы прывесці да зняцця санкцый і разблакіроўкі двухбаковых адносін, з'яўляецца безумоўнае і неадкладнае вызваленне і рэабілітацыя ўсіх палітвязняў. ЕС, гаворыцца ў дакладзе, павінен «з найбольшай карысцю выкарыстоўваць часовае прыпыненне візавых санкцый у дачыненні да міністра замежных спраў Беларусі як дыпламатычнага канала сувязі, і яго магчымы ўдзел у саміце Усходняга партнёрства, перш за ўсё для таго, каб садзейнічаць вырашэнню пытання аб палітвязнях».

У развіццё дадзенай стратэгіі пытанне пра вызваленне палітзняволеных у Беларусі абмяркоўвалася на сустрэчы міністраў замежных спраў краін Еўрасаюза і Усходняга партнёрства, якая прайшла 22 ліпеня ў Брусэлі з удзелам кіраўніка беларускага МЗС Уладзіміра Макея. Адразу пасля сустрэчы У.Макей адзначыў: «Мы абмеркавалі ўсе пункты, якія стаялі на парадку дня, што датычацца нашага супрацоўніцтва з Еўрасаюзам».

Паводле ацэнкі кіраўніка МЗС Літвы Лінаса Лінкявічуса, беларускі міністр прадэманстраваў жаданне «канструктыўна супрацоўнічаць» з ЕС. «У адрозненне ад таго, што было раней, не было ніякіх пярэчанняў — можа, прамаўчаў у гэтым месцы, але гэта лепш, чым пярэчыць — калі большасць выступоўцаў нагадалі пра пытанне палітвязняў», — адзначыў кіраўнік літоўскай дыпламатыі.

Еўракамісар па пытаннях пашырэння і добрасуседства Штэфан Фюле пасля сустрэчы з Уладзімірам Макеем выказаў спадзяванне, што запрашэнне міністра замежных спраў можа прынесці станоўчыя вынікі для палітвязняў у Беларусі, а бліжэйшым часам у Брусэлі ён зможа сустрэцца з Алесем Бяляцкім: «Цяпер адкрыліся магчымасці для ўзаемадзеяння з уладамі на такім узроўні, які не тое што не дазваляе нам забыцца аб нашых патрабаваннях і ўмовах, але на самой справе можа іх узмацніць».

Аднак рэальных вынікаў аптымізм еўрапейскіх палітыкаў і зробленыя авансы беларускаму афіцыйнаму боку да канца ліпеня так і не прынёс.

У сітуацыі ігнаравання беларускімі ўладамі мандата спецдакладчыка па правах чалавека ў Беларусі, які быў працягнуты Саветам па правах чалавека ААН у чэрвені бягучага года, і адмоваў у запрашэнні ў краіну, важнай падзеяй для міжнароднай ацэнкі сітуацыі сталі праведзеныя

ў Вільні 12-13 ліпеня кансультацыі Міклаша Харашці з прадстаўнікамі беларускай праваабарончай супольнасці. Міклаш Харашці чарговы раз звярнуўся да беларускіх уладаў па візу, паколькі лічыць патрэбным прыехаць у Беларусь, каб на месцы вывучыць сітуацыю з правамі чалавека, а таксама сыходзячы з пераканання, што дыялог з беларускімі ўладамі можа стаць вельмі важным інструментам паляпшэння сітуацыі з правамі чалавека, але ніякай рэакцыі на свой зварот не атрымаў. Падчас кансультацыяў у Вільні вялікая ўвага надавалася беларускаму заканадаўству, неадпаведнасць міжнародным стандартам якога і практыка ўжывання прыводзяць да негатыўных наступстваў у розных галінах правоў чалавека.

## Палітычныя зняволеныя, крымінальны пераслед грамадскіх актывістаў

2 ліпеня Мікалаю Статкевічу дазволілі кароткатэрміновае двухгадзіннае спатканне з жонкай Марынай Адамовіч у магілёўскай турме №4 — праз краты, двайное шкло і тэлефон. 12 ліпеня палітвязню дазволілі патэлефанаваць з турмы жонцы. Ён адзначыў, што пасля працяглага змагання яму дазволілі рабіць адзін званок на месяц. 16 ліпеня Марына Адамовіч паведаміла, што ў лісце Мікалай Статкевіч напісаў, што яго папярэдні ліст быў не проста канфіскаваны, а накіраваны ў абласную пракуратуру разам з яго паказаннямі аб сітуацыі ў Шклоўскай калоніі, пра якую ён напісаў у гэтым лісце.

5 ліпеня маці зняволенага анархіста Аляксандра Францкевіча — Таццяна Францкевіч паведаміла, што пасля вызвалення, якое мусіць адбыцца ў пачатку верасня, над яе сынам будзе ўстаноўлены міліцэйскі нагляд. У жніўні ў калоніі павінен адбыцца суд, які вызначыць тып і тэрмін нагляду. 29 ліпеня Таццяна Францкевіч адзначыла, што ад Аляксандра даходзяць не ўсе лісты, бо цэнзар Івацэвічскай калоніі «Воўчыя норы» сышоў у адпачынак.

9 ліпеня абарона Андрэя Гайдукова падала касацыйную скаргу ў Вярхоўны суд на прысуд, вынесены Віцебскім абласным судом. Паводле звестак маці Андрэя Гайдукова — Вольгі Гайдуковай, вязня да канца ліпеня намераны ўтрымліваць у Віцебскім СІЗА.

10 ліпеня суд Цэнтральнага раёна Мінска адмовіў экс-кандыдату ў прэзідэнты Беларусі, лідару кампаніі «Гавары праўду» Уладзіміру Някляеву ва ўзбуджэнні крымінальнай справы па факце нападу на яго 19

снежня 2010 года. Пасяджэнне суда адбылося пад старшынствам Валерыя Есьмана. У.Някляеў прасіў адмяніць пастанову аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы, падпісаную пракурорам мінскай пракуратуры Ермаковым, і абавязаць «распачаць крымінальную справу па факце бандыцкага нападу». Экс-кандыдат у прэзідэнты заявіў, што разглядае напад на яго 19 снежня «як замах на жыццё». Прадстаўнік адказчыка, пракурор Бабчонак заявіў, што не згодны з У.Някляевым. Пракуратура абгрунтавала адмову ва ўзбуджэнні крымінальнай справы тым, што, паводле дадзеных, атрыманых з МУС і КДБ, спецпадраздзяленні гэтых структур не праводзілі 19 снежня якіх-небудзь мерапрыемстваў у дачыненні да Уладзіміра Някляева і яго прыхільнікаў. Суд палічыў гэтыя довады абгрунтаванымі. 25 ліпеня суд Ленінскага раёна Мінска вызваліў Уладзіміра Някляева, асуджанага 20 траўня 2011 года на два гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання прысуду на два гады, ад адбыцця пакарання. Экс-кандыдат у прэзідэнты быў прызнаны вінаватым па ч. 1 арт. 342 Крымінальнага кодэкса (арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх). Суд над У. Някляевым заняў 40 секунд. З пастановай суда У.Някляеў быў азнаёмлены ў кабінеце суддзі Вольгі Коцур.

12 ліпеня быламу палітвязню Васілю Парфянкову следчы Першамайскага РУУС Мінска афіцыйна прад'явіў абвінавачанне паводле артыкула 421 Крымінальнага кодэкса (парушэнне ўмоў прэвентыўнага нагляду). У гутарцы са следчым Парфянкоў заўважыў, што паводле закона для ўзбуджэння крымінальнай справы неабходна мець тры парушэнні, а ў яго толькі іх два. Следчы адказаў, што «два парушэнні — гэта ўжо сістэма», і інспектар убачыў у гэтым падставу для ўзбуджэння справы. 17 ліпеня В. Парфянкоў азнаёміўся з матэрыяламі справы, пасля чаго яна была накіравана ў суд. Дата суда да канца ліпеня не была прызначана. В.Парфянкову пагражае арышт на паўгода ці пазбаўленне волі да аднаго года. Васіль Парфянкоў за ўдзел у Плошчы 2010 года быў асуджаны да 4 гадоў зняволення, памілаваны і выпушчаны на волю, пасля чаго над ім быў устаноўлены прэвентыўны нагляд. За яго парушэнне ў 2012 годзе В. Парфянкоў ужо быў асуджаны на 6 месяцаў арышту.

13 ліпеня Эдуард Лобаў сустрэўся ў калоніі з каталіцкім святаром — айцом Дзмітрыем са Слуцкай парафіі, з якім ён ужо двойчы сустракаўся. Сустрэча праходзіла ў прысутнасці супрацоўніка адміністрацыі Івацэвіцкай калоніі № 22, дзе адбывае пакаранне Эдуард, і працягвалася прыкладна гадзіну. У канцы ліпеня маці Эдуарда Лобава — Марына Лобава паведаміла, што са следчага камітэта прыйшла адмова на скаргу

сына, датычную ягоных незаконных допытаў супрацоўнікамі КДБ падчас папярэдняга следства.

14 ліпеня, у дзень вянчання маладафронтаўца Уладзіміра Яроменкі, яму патэлефанаваў следчы Першамайскага РУУС г. Мінска і настойліва папрасіў з'явіцца на размову. У.Яроменак дамовіўся перанесці размову на 16 ліпеня. У гэты дзень яму прад'явілі пастанову аб узбуджэнні крымінальнай справы па артыкуле 421 КК РБ (парушэнне правіл прэвентыўнага нагляду), датаваную 24-м траўня. 22 ліпеня У.Яроменак разам з адвакатам азнаёміўся з матэрыяламі крымінальнай справы. Сярод дакументаў — пратаколы, якія склалі супрацоўнікі міліцыі паводле парушэнняў нагляду. Усталяваных судом парушэнняў толькі два, а астатнія — тое, што лічыць міліцыя парушэннямі. З імі У. Яроменак не пагадзіўся, і адвакат выклала дадзеныя заўвагі ў скарзе. Таксама ў скарзе звярталася ўвага на тое, што справа была расследавана ў гэтак званым «хуткім рэжыме» — усяго за 15 дзён, між тым як заведзеная яна была яшчэ ў траўні. Пасля азнаямлення са справай яна была перададзена ў пракуратуру. З Уладзіміра Яроменкі следчы ўзяў падпіску пра нявыезд.

18 ліпеня Аляксей Шчадроў, супраць якога ўзбуджана крымінальная справа паводле артыкула 193.1 Крымінальнага кодэкса (дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі), паведаміў пра намер зарэгістраваць дабрачынную арганізацыю місіянераў дабрачыннасці імя Маці Тарэзы з Калькуты. Некалькі дзён таму Аляксея Шчадрова наведаў прадстаўнік Шчучынскага РАУС, які цікавіўся сітуацыяй у прытулку ў вёсцы Аляксандраўка непадалёк ад Васілішак. На той час у ім засталося 7 нямоглых чалавек, якія фактычна не могуць нават хадзіць. Калі супраць Аляксея Шчадрова была пачата крымінальная справа, у прытулку, які размяшчаўся ў чатырох хатах, было 27 чалавек. Семярых з іх удалося ўладкаваць на працу, іншыя раз'ехаліся. За два гады, што прытулак існаваў, у ім перабыло 97 чалавек. Аляксей Шчадроў склаў скаргу на імя пракурора Шчучынскага раёна, у якой просіць адмяніць пастанову пра ўзбуджэнне крымінальнай справы ў дачыненні да яго і спыніць вытворчасць па ёй.

19 ліпеня суд вызваліў журналістку Ірыну Халіп, асуджаную 16 траўня 2011 года па абвінавачанні ва ўдзеле ў групавых дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак за падзеі ў Мінску 19 снежня 2010 года, да двух гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання пакарання на два гады, ад адбыцця пакарання па заканчэнні адтэрміноўкі прысуду. Такое рашэнне прыняла суддзя суда Партызанскага раёна Мінска

Рыта Шаграй. Суддзя зачытала матэрыялы з крымінальна-выканаўчай інспекцыі РУУС Партызанскага раёна Мінска пра ўмовы адбыцця І.Халіп пакарання і вынікі праверак рэжыму адбыцця пакарання, а таксама хадайніцтва крымінальна-выканаўчай інспекцыі аб вызваленні яе ад пакарання. Пракурор Сакалова падтрымала гэтае рашэнне. Падтрымаў таксама і супрацоўнік інспекцыі. 30 ліпеня ў Ірыны Халіп пры рэгістрацыі на рэйс Мінск-Варшава супрацоўнікі службы бяспекі аэрапорта «Мінск-2» забралі пашпарт. Журналістцы паведамілі, што яна знаходзіцца ў «спісах КДБ», і яе вылет у Польшчу неабходна ўзгадніць з Камітэтам дзяржбяспекі. Пашпарт І. Халіп вярнулі за паўгадзіны да ўзлёту самалёта. Пасля вызвалення ад адбыцця пакарання Ірыну Халіп у міліцыі запэўнілі, што ўсе абмежаванні з яе знятыя.

20 ліпеня скончыўся двухгадовы тэрмін умоўнага пакараннння ў Сяргея Марцалева, 22 ліпеня — у Сяргея Вазняка, Аляксандра Фядуты, Андрэя Дзмітрыева, Віталя Рымашэўскага. Усе яны былі асуджаны па ч. 1 арт. 342 Крымінальнага кодэкса (арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх) за ўдзел у акцыі пратэсту супраць фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў 2010 года.

20 ліпеня сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Павел Севярынец, які адбывае тры гады абмежавання волі ў спецкамендатуры в. Куплін Пружанскага раёна, атрымаў трохдзённы адпачынак, падчас якога ён наведаў Віцебск, дзе жывуць яго бацькі. Дарога заняла каля паўтары сутак.

20 ліпеня палітвязню, лідару «Маладога Фронту» Дзмітрыю Дашкевічу, які адбывае пакаранне ў Гродзенскай турме строгага рэжыму, споўнілася 32 гады. Гэта ўжо трэці Дзень нараджэння, які Д. Дашкевіч сустрэў за кратамі.

24 ліпеня бялыніцкі журналіст Барыс Вырвіча паведаміў, што з атрыманага ад палітвязня Мікалая Аўтуховіча ліста яму стала вядома, што ў Гродзенскую турму № 1 даходзяць не ўсе лісты з волі. Палітвязень напісаў, што, калі раней ён атрымліваў у месяц у сярэднім 90-95 лістоў, то ў чэрвені да яго дайшло толькі 40, хоць ён ведае, што пэўныя людзі лісты яму дасылалі.

24 ліпеня палітзняволены Яўген Васьковіч быў змешчаны на 10 сутак у штрафны ізалятар Магілёўскай турмы №4, дзе ён адбывае пакаран-

не. Пра гэта паведаміў адказны сакратар аргкамітэта па стварэнні партыі БХД Дзяніс Садоўскі, адзначыўшы, што матывіроўка яму невядомая. Пачынаючы з траўня 2011 года, калі Я.Васьковіч быў накіраваны для адбыцця пакарання, ён правёў у штрафным ізалятары амаль 200 сутак. Па словах Дзяніса Садоўскага, адміністрацыя турмы працягвае настойліва прапаноўваць Васьковічу напісаць прашэнне пра памілаванне, але ён катэгарычна адмаўляецца.

28 ліпеня палітвязню Арцёму Пракапенку споўнілася 23 гады. Напярэдадні яму дазволілі кароткатэрміновае спатканьне на працягу дзвюх гадзін з сям'ёй. Маці вязня Віялета Пракапенка распавяла, што ён працуе ў начную змену і стамляецца, вельмі схуднеў. Яму родныя даслалі атэстат, паколькі зняволены збіраецца вучыцца на муляра. Маці А.Пракапенкі прасіла, каб ён напісаў прашэнне аб памілаванні, але Арцём гаворку на гэтую тэму абарваў.

## Смяротнае пакаранне

4 ліпеня асуджаны да смяротнага пакарання жыхар Гомеля Аляксандр Груноў падаў касацыйную скаргу ў Вярхоўны суд на прысуд Гомельскага абласнога суда. Напярэдадні праваабаронца Леанід Судаленка сустрэўся з маці Аляксандра Грунова. Абмяркоўвалася пытанне вычарпання ўсіх эфектыўных сродкаў прававой абароны ўнутры краіны для падачы індывідуальнай скаргі ў Камітэт па правах чалавека ААН.

8 ліпеня Беларускі Хельсінкскі камітэт перадаў у Вярхоўны суд заключэнне грамадскай экспертызы па працэдуры «amicus curiae» па справе асуджанага да смяротнага пакарання Рыгора Юзэпчука. У міжнароднай юрыдычнай практыцы такая дзейнасць («amicus curiae», з лац. — «сябар суда») выкарыстоўваецца як інструмент удасканалення прававой сістэмы. Падобныя даследаванні праваабарончых арганізацый праводзяцца не ў інтарэсах працэсуальнага боку, а як магчымасць выказаць нейтральнае меркаванне аўтараў з глыбокай павагай і прызнаннем высокага аўтарытэту і незалежнасці суда. Прадметам гэтага даследавання стаў пошук аргументаў на карысць выключэння смяротнага пакарання Р.Юзэпчуку і замены яго на альтэрнатыўнае пакаранне — пажыццёвае зняволенне.

18 ліпеня Вярхоўны суд паведаміў БХК, што касацыйная скарга Рыгора Юзэпчука адхілена, смяротны прысуд пакінуты ў сіле. У дадзенай справе звяртае на сябе ўвагу той факт, што забойства Р. Юзэпчуком бы-

ло здзейснена ў сітуацыі, калі ўсе трое сукамернікаў магілёўскай турмы знаходзіліся пад поўным кантролем адміністрацыі. Па запыце БХК Дэпартамент выканання пакаранняў МУС паведаміў, што па гэтым факце праводзілася службовая праверка, па выніках якой прынятыя меры адпаведнага рэагавання.

19 ліпеня Любоў Кавалёва і Таццяна Казяр — маці і сястра асуджанага да смяротнага пакарання і расстралянага 15 сакавіка 2012 года Уладзіслава Кавалёва, абіванавачанага ў арганізацыі тэракту ў метро ў Мінску, звярнуліся ў суд Кастрычніцкага раёна сталіцы са скаргай на неправамерныя дзеянні Дэпартамента выканання пакаранняў, Міністэрства ўнутраных спраў і Камітэта дзяржбяспекі. Родныя Кавалёва адзначылі, што адмова прадставіць звесткі пра месца пахавання Уладзіслава парушае міжнародныя стандарты, а таксама звярнулі ўвагу на парушэнне Закона «Аб зваротах грамадзян». Родныя У. Кавалёва абскардзілі адмову Дэпартамента выканання пакаранняў у прадстаўленні звестак аб месцы ягонага пахавання ў Міністэрства ўнутраных спраў. Адтуль скарга была «спушчана» ў Дэпартамент, то бок у той орган, на які яны скардзіліся — гэта першае парушэнне. Другое парушэнне ў тым, што ў адмове раскрыць родным месца пахавання дзяржорганы спасылаюцца на арт.175 ч. 5 Крымінальна-выканаўчага кодэкса, які не адпавядае патрабаванням арт. 7 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, які забараняе катаванні і жорсткае абыходжанне. Практыка не разгалошваць блізкім інфармацыі, дзе пахаваны расстраляны па прысуду, падпадае пад дзеянне дадзенага артыкула. Маці і сястра Кавалёва спадзяюцца атрымаць праз суд інфармацыю пра месца пахавання Уладзіслава.

## Выкарыстанне катаванняў і жорсткага абыходжання

24 ліпеня, пасля года безвыніковых зваротаў у розныя інстанцыі з нагоды смерці сына 26 траўня 2012 года ў ІЧУ Светлагорскага РАУС ад рук супрацоўнікаў міліцыі, Валянціна Акуліч звярнулася па дапамогу ў Праваабарончы цэнтр «Вясна». Пасля кансультацыі юрыстаў яна накіравала на імя пракурора Светлагорскага раёна скаргу на пастанову Старэйшага следчага Светлагорскага раённага аддзела Следчага камітэта Петачэнкі Вячаслава Уладзіміравіча аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы па факце смерці яе сына Аляксандра Акуліча. Сын В. Акуліч загінуў на чацвёртыя з пяці сутак, на якія ён быў змешчаны ў ІЧУ. Валянціна Акуліч распавяла: «Мой сын выпіваў, і мы хацелі змясціць яго ў ЛПП, каб трошкі падлячыць. 22 траўня я патэлефанавала ўчастковаму і спытала, як яго змясціць у ІЧУ, каб ён адышоў ад гэтых п'янак.

Ён мне адказаў: патэлефануйце ў «102», яны прыедуць і забяруць. Я патэлефанавала. Яго афармілі ў ІЧУ на пяць сутак. На чацвёртыя суткі яму стала дрэнна, але першапачаткова «хуткую дапамогу» супрацоўнікі ІЧУ яму не выклікалі. Хоць сукамернікі прасілі іх — выклічце хуткую, яму дрэнна. Калі ён ужо пачаў бегаць па камеры, яго вывелі, зрабілі «ластаўку», за кайданкі прычапілі да кратаў і пачалі збіваць. Прычым відэакамера назірання зафіксавала ўсё толькі да моманту, калі яго вывелі з камеры «сутачнікаў», а калі пачалі біць — адбыўся «абрыў». Нанеслі 18 удараў. Калі ў яго ўжо пачаліся курчы і спынілася дыханне, яго паклалі на падлогу і выклікалі «хуткую». «Хуткая» прыехала — ён ужо нежывы». Калі Валянціна Аляксееўна прыехала ў морг, цела сына ёй паказаць адмовіліся, сказалі толькі прывезці вопратку. Агледзець цела сына маці змагла толькі калі яго прывезлі дадому. «Я ўбачыла, што ён увесь у сіняках, увесь зрэзаны, і рукі і ногі, твар увесь чорны. Я патэлефанавала ў «102» і сказала: забойцы, вы забілі майго сына, я вам не верыла, што ён сам памёр. Да мяне прыехалі два супрацоўнікі міліцыі, я прасіла іх зняць цела на камеру — яны адмовіліся. На наступны дзень я патэлефанавала знаёмай, яна прынесла фотаапарат і мы ўсе знялі. У той жа вечар я напісала заяву». У заяве Валянціна Акуліч прасіла правесці праверку па факце смерці яе сына і з нагоды наяўнасці на яго целе шматлікіх цялесных пашкоджанняў. У матэрыялах праверкі пазначаны дадзеныя судова-медыцынскай экспертызы: «Пры даследаванні трупа знойдзены наступныя цялесныя пашкоджанні: шматлікія садзені, на валасістай частцы галавы, твары, у вобласці правага плечавага сустава, у вобласці локцевых суставаў, у вобласці прамянёвазапясцевых суставаў на левай галёнцы, кровазліццё пад слізістай абалонкай перадпачатку паражніны рота (верхняя губа). Сінякі на задняй паверхні грудной клеткі ўзніклі ад тупога цвёрдага прадмета тыпу дубінкі, палкі. Усе пералічаныя цялесныя пашкоджанні ўзніклі ад дзеяння тупых цвёрдых прадметаў незадоўга да наступлення смерці (на працягу сутак) і належаць да лёгкіх цялесных пашкоджанняў ці не знаходзяцца ў прычынна-следчай сувязі з надыходам смерці. Утварэнне ўсяго комплексу цялесных пашкоджанняў пры падзенні на плоскасці выключаецца, бо шматлікія пашкоджанні размяшчаліся ў розных анатамічных абласцях і паражнінах цела». У пастанове аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы следчы Петачэнка В.У. паведамляе маці памерлага, што неабходнасць ва ўжыванні фізічнай сілы і спецсродкаў у дачыненні да яе сына была выклікана тым, што ён «паводзіў сябе агрэсіўна, аказваў непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі, не падпарадкоўваўся іх законным патрабаванням». «Дзеянні супрацоўнікаў міліцыі Сцешанкова А.Г. і Бачко А.А., якія знаходзіліся пры выкананні службовых абавязкаў, адпавяда-

юць закону РБ «Аб органах унутраных спраў» і ўчынены ў межах прадастаўленых ім паўнамоцтваў. У сувязі з гэтым падставаў для ўзбуджэння крымінальнай справы няма», — пастанавіў следчы Следчага камітэта. Валянціна Акуліч лічыць, што праверка па факце смерці яе сына праведзена недастаткова поўна і мае патрэбу ў дапаўненні, а таму пастанова Старэйшага следчага Светлагорскага раённага аддзела Следчага камітэта Петачэнкі В.У. з'яўляецца дачаснай і падлягае адмене. Пра гэта яна паведамляе ў сваёй скарзе на імя пракурора Светлагорскага раёна. Валянціна Аляксееўна ў скарзе настойвае на правядзенні дадатковай судова-медыцынскай экспертызы і прыняцці па яе выніках рашэння аб прыцягненні вінаватых асобаў да адказнасці.

## Пераслед праваабаронцаў і праваабарончыя арганізацыі

19 ліпеня ў кватэры Валянціны Каваленка, актывісткі Грамадзянскай ініцыятывы супраць беззаконня ў судах і пракуратуры, прайшоўператрус. Па словах В. Каваленка, супрацоўнікі міліцыі шукалі ў яе доме наркотыкі. Праводзілаператрус, які цягнуўся каля 40 хвілін, старэйшы лейтэнант Ладзеева з дапамогай трох міліцыянтаў: Барычонка, Зарубы, Кісялёва. Актывістцы патлумачылі, што нібыта па справе 2011 года нейкі затрыманы паказаў, што яна прадала яму наркотыкі. Супрацоўнікі міліцыі нічога не знайшлі ў кватэры В. Каваленка. Яна ўпэўнена, што гэты ціск звязаны з тым, што яна з мужам дабіваюцца перагляду крымінальнай справы сына, пішуць скаргі, лісты ў розныя інстанцыі.

## Ціск спецслужб на грамадска і палітычна актыўных грамадзян

10 ліпеня суд Ленінскага раёна Магілёва пакінуў без задавальнення скаргу актывіста аргкамітэта партыі «Беларуская Хрысціянская дэмакратыя» Алега Аксёнава. Актывіст абскарджваў папярэджанне, якое яму вынес КДБ 19 красавіка за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі. Суддзя Валянціна Лапаціна палічыла, што Магілёўскае абласное ўпраўленне КДБ правамоцна вынесла папярэджанне актывісту. Нагодай для гэтага сталі публікацыі ў інтэрнэце, у якіх Алег Аксёнаў выступаў ад імя аргкамітэта партыі БХД. У сувязі з гэтым Алег Аксёнаў знаходзіцца на прафілактычным уліку КДБ. 22 ліпеня Алег Аксёнаў падаў касацыйную скаргу ў калегію па грамадзянскіх справах Магілёўскага абласнога суда з просьбай адмяніць рашэнне суда Ленінскага раёна і вынесенае яму Магілёўскім упраўленнем КДБ афіцыйнае папярэджанне. Акрамя таго актывіст хоча, каб у адрас Магілёўскай управы КДБ было вынесена

прыватнае вызначэнне за дапушчаныя ў адрас яго грубыя парушэнні заканадаўства, а таксама каб былі прызнаны ў вызначаным парадку арт. 193.1 Крымінальнага кодэкса і ч.3 арт.7 Закона «Аб палітычных партыях», якія забараняюць дзейнасць ад імя незарэгістраваных партый, неканстытуцыйнымі.

## Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні

2 ліпеня ў Мінску былі затрыманы актывісты нацыянал-бальшавіцкага руху Дзмітрый Паліенка, Аляксандр Палякоў і Дзяніс Гаўрыкаў. Супрацоўнікі міліцыі паведамілі, што яны падазраюцца ў рабаванні, аднак калі актывістаў даставілі ў РУУС Кастрычніцкага раёна, на іх былі складзены пратаколы па артыкуле 17.1 КаАП за нібыта нецэнзурную лаянку ў грамадскім месцы. А.Палякоў пасля складання пратакола быў адпушчаны, бо з'яўляецца непаўнагадовым, Зміцера Паліенку і Дзяніса Гаўрыкава 4 ліпеня асудзілі на 2 сутак арышту, якія яны ўжо адседзелі ў чаканні суда.

4 ліпеня ў Магілёве актывіст Аб'яднанай грамадзянскай партыі Мікалай Гладышаў правёў адзіночны пікет супраць размяшчэння ў Беларусі расійскай авіябазы. На плоце былога Дома быта ў цэнтры горада ён размясціў плакат «Не — расійскім авіябазам на беларускай зямлі». Праз паўтары гадзіны актывіст быў затрыманы. Супрацоўнік міліцыі адвёў яго ў бліжэйшы пастарунак, дзе быў складзены пратакол апытання. Пасля складання пратакола Гладышаву была выпісана позва ў міліцыю, пасля чаго ён быў адпушчаны. 7 ліпеня Мікалай Гладышаў быў выкліканы ў РУУС Ленінскага раёна, дзе яго чарговы раз апыталі і склалі пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні. Мікалая Гладышава абвінавацілі ў парушэнні артыкула 23.34 (парушэнне парадку арганізацыі альбо правядзення масавых мерапрыемстваў) КаАП. Супрацоўнік міліцыі Загорскі паведаміў актывісту, што ў бліжэйшы час яго выклічуць у суд, і яму трэба чакаць адпаведнай позвы.

8 ліпеня суд Савецкага раёна Мінска аштрафаваў актывіста аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская дэмакратыя» Паўла Пракаповіча на 25 базавых велічынь за акцыю памяці журналіста Дзмітрыя Завадскага. 7 ліпеня ўвечары актывіст размясціў на сталічнай плошчы імя Якуба Коласа партрэт Д.Завадскага, пасля чаго быў затрыманы. Пратакол правапарушэння складзены па артыкуле 23.34 КаАП (арганізацыя альбо ўдзел у несанкцыянаваным масавым

мерапрыемстве). Ноч да суда П. Пракаповіч правёў у Ізалятары часовага ўтрымання.

16 ліпеня старшыню руху «Маладая Беларусь» Дзмітрыя Касяровіча затрымалі на мяжы па дарозе ў Вільню і адвезлі ў аддзяленне міліцыі Савецкага раёна Мінска. Затрыманаму паведамілі, што ён знаходзіцца ў базе правапарушальнікаў і да гэтага часу не адбыў 12-сутачны адміністрацыйны арышт, які яму прызначылі за нібыта нецэнзурную лаянку судом Савецкага раёна Мінска 17 сакавіка 2008 года. Тады пасля рашэння суда, ужо знаходзячыся ў цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў, Касяровіч паскардзіўся на здароўе і быў дастаўлены ў 11-ю клінічную бальніцу Мінска з гіпертанічным крызам. Пасля гэтага ў ізалятар яго так і не вярнулі. 17 ліпеня ў ЦІП пацвердзілі, што Дзмітрый Касяровіч дастаўлены да іх адбываць пакараннне.

17 ліпеня на кіраўніка Баранавіцкай суполкі ТБМ і актывіста Руху «За свабоду» Віктара Сырыцу ст. лейтэнант Баранавіцкага РАУС Дзяніс Майсеня склаў трэці адміністрацыйны пратакол па абвінавачанні ў падрыхтоўцы і правядзенні несанкцыянаванага мерапрыемства — Мілавідскага фэсту ў гонар паўстанцаў 1863 года. Раней старшыня суда Баранавіцкага раёна і г. Баранавічы Мікалай Кміта двойчы накіроўваў пратаколы, складзеныя на В. Сырыцу, назад у міліцыю для выпраўлення недахопаў. 31 ліпеня суддзя суда г. Баранавічы і Баранавіцкага раёна Кацярына Груда прызнала В. Сырыцу вінаватым у парушэнні арт.23.34 Адміністрацыйнага кодэкса РБ і вынесла пастанову аб пакаранні штрафам у памеры 20 базавых велічынь.

22 ліпеня на баранавіцкага прадпрымальніка і грамадкага актывіста Мікалая Чарнавуса склалі два пратаколы адміністрацыйнага правапарушэння. Яго абвінавацілі ў парушэнні ч.3 арт.23.34 КаАП (арганізацыя і правядзенне несанкцыянаванага масавага мерапрыемства) падчас мітынгаў баранавіцкіх прадпрымальнікаў 27 чэрвеня і 1 ліпеня. Першы мітынг праходзіў на Кааператыўным рынку, другі — каля будынка падатковай інспекцыі. Мікалай Чарнавус падчас мерапрыемстваў трымаў у руках плакаты: «Мы хочам працаваць» і «Нам не патрэбны такі Мытны саюз». З пратаколамі М. Чарнавуса азнаёміў маёр міліцыі Дзмітрый Мізгер проста на працоўным месцы прадпрымальніка.

25 ліпеня ў Мінску актывіста грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду» Паўла Вінаградава затрымалі раніцай, калі ён накіроўваўся на суд над кіраўніком кампаніі Уладзімірам Някляевым. Ён выклікаў таксі, выйшаў з

кватэры і знік — служба таксі паведаміла, што выклік адзначаны, як «не адбыўся». Як стала вядома пазней, П.Вінаградава супрацоўнікі міліцыі адвезлі ў РУУС Маскоўскага раёна, адкуль каля 16 гадзін быў вызвалены. У гэты ж дзень быў затрыманы яшчэ адзін актывіст кампаніі «Гавары праўду» — Віталь Васількоў. Малады чалавек выйшаў з офіса, каб папаліць, і адразу ж быў затрыманы невядомымі людзьмі ў цывільным. 26 ліпеня Віталь Васількоў быў асуджаны судом Маскоўскага раёна Мінска на 10 сутак адміністрацыйнага арышту па арт 23.4 КаАП РБ (непадпарадкаванне законным патрабаванням супрацоўнікаў міліцыі). Пастанову вынесла суддзя Таццяна Мотыль.

27 ліпеня бабруйскі сябра аргкамітэта партыі БХД, прадпрымальнік Вячаслаў Шэлег паведаміў, што раніцай знікла яго 16-гадовая дачка Наталля. Знайшлася яна толькі ўдзень і была дастаўлена ў бальніцу з сатрасеннем мозгу. Дзяўчына, па словах В. Шэлега, кожны дзень у 6 гадзін раніцы выходзіць на прабежку і бегае каля 40 хвілін. Калі яна не вярнулася своечасова, а яе тэлефон не адказваў, бацькі ўсхваляваліся, бо роўна месяц таму ёй пагражалі невядомыя ў пад'ездзе. Яны казалі, каб дзяўчына перадала бацьку, каб той перастаў лезці ў палітыку, і пагражалі згвалтаваннем. Пасля таго, як Наталля ўбачыла гэтых людзей у пад'ездзе другі раз, была пададзена адпаведная заява ў міліцыю. Наталля расказала бацькам, што падчас ранішняй прабежкі атрымала ўдар у патыліцу, а калі ачуняла, убачыла, што знаходзіцца ў лесе. На ёй было падранае адзенне, яе цела і твар перапэцкалі чорнай фарбай. Калі яна выйшла на трасу, каб спыніць машыну, з-за яе выгляду кіроўцы баяліся яе падабраць, але потым падвезлі, яна змагла патэлефанаваць бацьку. Бабруйскія міліцыянты прыехалі на ранішні выклік Шэлега праз дзве гадзіны, правялі апытанне. Пасля вяртання Наталлі ў яе і бацькоў узялі паказанні, паабяцалі правесці праверку. Вячаслаў Шэлег выказаў меркаванне, што за выкраданнем дачкі могуць стаяць спецслужбы, а мэтай з'яўляецца запалохванне яго за грамадскую і палітычную актыўнасць.

29 ліпеня ў судзе Партызанскага раёна Мінска прайшлі суды над трыма актывістамі кампаніі «Альтэрнатыва» — Алегам Корбанам, Дзмітрыем Сільчанкам і Алегам Кералем. 26 ліпеня актывісты ўсталявалі нацыянальныя бел-чырвона-белыя сцягі на мосце праз Партызанскі праспект каля ўнівермага «Беларусь» — акцыя ладзілася з нагоды 23-й гадавіны прыняцця Дэкларацыі аб суверэнітэце Беларусі. Праз лічаныя хвіліны іх затрымалі супрацоўнікі міліцыі ў цывільным і запіхнулі ў два мікрааўтобусы. Разам з актывістамі былі затрыманы фотакарэспандэнт «Нашай Нівы» Сяргей Гудзілін, карэспандэнты БелаПАН Захар Шчарбакоў і Анд-

рэй Корсак, а таксама грамадская актывістка Вольга Бурневіч. Усе былі дастаўлены ў Партызанскі РУУС. Пасля высвятлення асоб журналістаў і дзяўчыну адпусцілі без складання пратаколаў, а Алега Корбана, Дзмітрыя Сільчанку і Алега Кераля змясцілі да суда ў ЦІП. Усе актывісты былі абвінавачаны ў дробным хуліганстве (арт. 17.1 КаАП РБ). Адміністрацыйную справу Алега Корбана разглядала суддзя Вольга Паўлоўская, Дзмітрыя Сільчанкі— суддзя Кацярына Чайко. Усе трое актывістаў атрымалі пакаранні ў выглядзе адміністрацыйных арыштаў тэрмінам 5 сутак.

## Абмежаванні свабоды слова і права на распаўсюд інфармацыі, пераслед журналістаў

2 ліпеня ў Рэчыцы на сходзе прадпрымальнікаў рынку «Славянскі» міліцыя высвятляла, на якой падставе незалежная журналістка, сябра БАЖ Ларыса Шчыракова праводзіць відэаздымкі. Капітан міліцыі Дзмітрый Свірыдзенка запатрабаваў пасведчанне. Ларыса Шчыракова паказала пасведчанне сябра ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў». Капітан перапісаў у блакнот усе звесткі. Праз некаторы час у мінскім офісе ГА «БАЖ» раздаўся тэлефонны званок з Рэчыцы. Міліцыя спраўджвала, ці з'яўляецца Ларыса Шчыракова сябрай арганізацыі. Правяраў дакументы Дзмітрый Свірыдзенка і ў старшыні Гомельскай арганізацыі ГА «БАЖ» Анатоля Гатоўчыца.

9 ліпеня незалежная журналістка, сябра ГА «БАЖ» Алена Сцяпанава была выклікана ў Кастрычніцкі РАУС Віцебска, дзе старшы інспектар аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Сяргей Вяракса азнаёміў яе з пратаколам адміністрацыйнага правапарушэння па арт. 22.9 ч. 2 КаАП. Супрацоўнікі міліцыі сцвярджаюць, што Алена Сцяпанава на працягу доўгага перыяду «ажыццяўляла прафесійную дзейнасць журналіста замежнага СМІ «Радыё Свабода» без адпаведнай акрэдытацыі». Між тым, адміністрацыйны артыкул, на падставе якога ўзбуджана справа, прадугледжвае адказнасць за «парушэнне вызначанага парадку рассылкі абавязковых бясплатных асобнікаў перыядычных выданняў, распаўсюд эратычных выданняў, апублікавання СМІ абвяржэння, а таксама незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ». 12 ліпеня ў судзе Кастрычніцкага раёна Віцебска павінен быў адбыцца судовы працэс над Аленай Сцяпанавай, але суддзя Іна Грабоўская накіравала пратакол назад у міліцыю на дапрацоўку. Суд перанесены на няпэўны тэрмін.

10 ліпеня журналістаў газеты «Наша Ніва» Мікіту Дубалеку і Ірыну Арахоўскую затрымалі ў цэнтры Мінска з мэтай нібыта праверкі даку-

ментаў. Праз некаторы час яны былі адпушчаны без складання пратаколаў затрымання.

25 ліпеня карэспандэнта аддзела ўнутранай палітыкі тыднёвіка «Беларусы і рынак» Ігара Ільяша затрымала міліцыя. Журналіст прысутнічаў на судовым паседжанні па справе экс-кандыдата на пасаду прэзідэнта Уладзіміра Някляева, якое праходзіла ў судзе Ленінскага раёна сталіцы. Пасля заканчэння паседжання І. Ільяш накіраваўся да аўтобуснага прыпынку. Па дарозе да яго падышлі трое супрацоўнікаў Маскоўскага РУУС у цывільным і папрасілі прайсці за імі ў мікрааўтобус, які стаяў побач. Сваё патрабаванне яны аргументавалі тым, што ён нібыта «трапіў у поле аператыўнай здымкі схаванай камерай, аналіз запіса якой выявіў нейкія правапарушэнні». Журналіста даставілі ў аддзел аховы правапарадку і прафілактыкі Маскоўскага РУУС, дзе яму заявілі, што ён затрыманы для высвятлення асобы, «паколькі прад'явіў пасведчанне журналіста без пашпарта». Пасля высвятлення пашпартных дадзеных І. Ільяша апыталі на прадмет таго, дзе ён знаходзіўся ўвечары 24 ліпеня, а таксама хто можа пацвердзіць яго словы. Пасля гэтага яны папрасілі прабачэння і адпусцілі карэспандэнта.

26 ліпеня падчас вывешвання нацыянальных бел-чырвона-белых сцягоў актывістамі кампаніі «Альтэрнатыва» разам з удзельнікамі акцыі былі затрыманыя журналісты: фотакарэспандэнт газеты «Наша Ніва» Сяргей Гудзілін, карэспандэнты БелаПАН Захар Шчарбакоў і Андрэй Корсак. Яны разам з актывістамі былі дастаўленыя ў РУУС Партызанскага раёна, адкуль пасля высвятлення асобаў былі адпушчаныя.

28 ліпеня незалежнага журналіста Дзмітрыя Лупача не пусцілі на сход жыхароў вёскі Дзеркаўшчына Глыбоцкага раёна, дзе абмяркоўвалася забарона гадаваць свіней у 5-кіламетровай зоне ад свінакомплексу «Маліноўшчына». Убачыўшы журналіста, старшыня Глыбоцкага райвыканкама Алег Морхат звярнуўся да намесніка начальніка міліцыі Глыбоцкага раёна Віктара Адамовіча з пытаннем, хто прапусціў на сход журналіста. Афіцыйна адмову прысутнічаць на сходзе Д. Лупачу патлумачылі тым, што ён — не жыхар Дзеркаўшчыны.

## Абмежаванне свабоды сходаў

12 ліпеня ў судзе Баранавіцкага раёна і горада Баранавічы пачаўся разгляд скаргі актывіста грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду» Вячаслава Болбата на дзеянні Баранавіцкага райвыканкама, які двойчы забараніў

адукацыйна-культурніцкае мерапрыемства «Мілавідскі фэст — памяці касінераў 1863 года». Разглядала грамадзянскую справу Вячаслава Болбата на дзеянні дзяржаўнага органа суддзя Вера Углік, сакратар Вольга Казлоўская. Вячаслаў Болбат адзначыў, што арганізатары культурніцкага свята выканалі ўсе патрабаванні Закона «Аб масавых мерапрыемствах у РБ» і прасіў суд прызнаць незаконным рашэнне Баранавіцкага райвыканкама. Начальнік юрыдычнага аддзела Баранавіцкага райвыканкама Вольга Фір'ян і намеснік начальніка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Дзмітрый Варвашэня адзначылі, што 2 чэрвеня арганізатарам фэсту было забаронена мерапрыемства, бо аддзел культуры райвыканкама ў гэты дзень і час запланаваў сваё культурніцкае мерапрыемства, прысвечанае 150-м угодкам Мілавідскай бітвы (яно не адбылося). Прадстаўнікі райвыканкама адзначылі таксама, што 9 чэрвеня Мілавідскі фэст быў забаронены па прычыне таго, што заяўнікі не заключылі новыя дамовы з раённай міліцыяй, паліклінікай, ЖКГ. Пры гэтым заяўнікі накіроўвалі заяву не на новае мерапрыемства, а толькі прасілі райвыканкам перанесці дату запланаванага фэсту з 2 на 9 чэрвеня. 15 ліпеня суддзя Вера Углік прызнала дзеянні Баранавіцкага райвыканкама законнымі ў справе забароны правядзення Мілавідскага фэсту і адмовіла ў задавальненні скаргі Вячаслава Болбата на дзеянні дзяржаўнага органа.

19 ліпеня судовая калегія Мінскага абласнога суда пакінула без зменаў рашэнне суда Салігорскага раёна па забароне пікета да Дня Волі, заяўнікам якога выступаў мясцовы актывіст Уладзімір Шыла. Мінскі абласны суд палічыў просьбу заяўніка аб ускладанні абавязкаў па забеспячэнні грамадскага парадку і бяспекі на органы мясцовай улады дастатковай прычынай для забароны масавага мерапрыемства. Спасылкі Уладзіміра Шылы на гарантыі дзяржавы, прапісаныя ў Канстытуцыі Беларусі і міжнародныя абавязальніцтвы ў межах Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах судовай калегіяй Мінскага абласнога суда, як і судом Салігорскага раёна раней, былі праігнараваны.

25 ліпеня Мінгарвыканкам адмовіў Партыі БНФ у правядзенні пікета супраць размяшчэння ў Беларусі расійскай ваеннай базы. Па словах старшыні партыі Аляксея Янукевіча, гарадскія ўлады матывавалі сваё рашэнне тым, што заяўка не адпавядае заканадаўству аб масавых мерапрыемствах, а таксама незразумела, якія меры будуць прадпрымаць заяўнікі для забеспячэння бяспекі ўдзельнікаў пікета. Акрамя таго, у пісьмовым адказе з гарвыканкама адзначалася, што правядзенне пікета можа стварыць перашкоду пешаходнаму і транспартнаму руху. Заяўлены

пікет Партыя БНФ мела намер правесці 27 ліпеня ў Мінску насупраць расійскай амбасады.

Заяўленыя на 27 ліпеня ў Віцебску тры пікеты былі забаронены. Прыхільнік сацыял-дэмакратычных поглядаў, сябар палітвязня Мікалая Статкевіча Аляксей Гаўруцікаў і каардынатар Руху «За свабоду» Хрыстафор Жаляпаў хацелі правесці акцыю ў Чыгуначным раёне абласнога цэнтра — адзначыць угодкі прыняцця Дэкларацыі аб незалежнасці Беларусі і патрабаваць неадкладнага вызвалення і рэабілітацыі палітвязняў. Яны атрымалі адмову. Адмоўны адказ атрымаў і сябар Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі БНФ Ян Дзяржаўцаў, які планаваў зладзіць пікет у парку культуры і адпачынку Мазурына, што ў Кастрычніцкім раёне, супраць расійскіх вайсковых баз. Страшыня абласной рады Партыі БНФ Леанід Аўтухоў атрымаў адмову з адміністрацыі Чыгуначнага раёна. Падставы для трох адмоваў аднолькавыя: арганізатары не прадставілі дамовы на абслугоўванне акцый структурамі ЖКГ, медыкамі і міліцыяй. Выкананне гэтай умовы зацверджана рашэннем Віцебскага гарвыканкама ад 10.07.2009 года № 881, якое немагчыма выканаць. Актывісты неаднаразова спрабавалі ініцыяваць змены ў гэтым рашэнні, звярталіся ў суд і да кіраўніцтва горада, аднак пакуль безвынікова.

29 ліпеня Гомельскі гарвыканкам не даў дазволу на правядзенне 4 жніўня шэсця ў падтрымку зняволенага праваабаронцы Алеся Бяляцкага і іншых палітвязняў, разглядзеўшы заяву грамадзян Юрыя Варонежцава, Леаніда Судаленкі і Анатоля Паплаўнага. Гарвыканкам нават рашэння не прымаў па дадзеным пытанні, як таго патрабуе заканадаўства, а даслаў заяўнікам паведамленне «Аб разглядзе заявы на масавае мерапрыемства». Там гаворыцца, што «узгадніць масавае мерапрыемства не ўяўляецца магчымым, таму што заяўленае месца правядзення вулічнага шэсця (пешаходная частка вуліцы Савецкая) не адпавядае патрабаванням закону «Аб масавых мерапрыемствах». Намеснік старшыні гарвыканкама Аксана Рудзянок патлумачыла ў лісце, што па маршруту шэсця размешчаны на адлегласці менш за 50 метраў падземны пешаходны пераход, а таксама будынкі выканаўчых органаў. Чыноўніца дадала, што заяўнікі не выканалі патрабаванне рашэння гарвыканкама «Аб масавых мерапрыемствах» і не заключылі платныя дамовы з міліцыяй, «хуткай» і камунальнымі службамі. Але, як паказвае практыка, такія дамовы заключыць немагчыма — бо ні «хуткая», ні «міліцыя» не заключаюць дамовы, пакуль няма дазволу гарвыканкама.

29 ліпеня стала вядома, што пікет салідарнасці з Алесем Бяляцкім і іншымі беларускімі палітвязнямі, замоўлены на 4 жніўня каля галоўнай канцэртнай пляцоўкі Гарадскога парку культуры і адпачынку ў Жодзіне, не дазволены гарадскімі ўладамі. Адмову атрымаў адзін з заяўнікаў — праваабаронца Аляксей Лапіцкі. Намеснік галоўнага лекара гарадской бальніцы У.П.Цыолта ў адказе на запыт праваабаронцаў пра заключэнне дамовы, якая патрабуецца згодна п.5 рашэння №1020 Жодзінскага гарвыканкама, прадставіў разгорнутую калькуляцыю падліку выдаткаў для аказання «дадатковых медыцынскіх паслуг» пры правядзенні замоўленага пікетавання (колькасцю 1-2 чал., максімум — да 10) на агульную суму 370 тыс. беларускіх рублёў. Камунальнікі ў сваю чаргу адзначылі «неправамоцнасць падрыхтоўкі праектаў дамоў на прыборку тэрыторыі пасля правядзення на ёй масавага мерапрыемства». У адказе з Жодзінскага выканкама, які падпісаў першы намеснік па ідэалогіі Ю. А. Шары 25.07.2013, тым часам адзначаецца, што «...заява аб правядзенні масавага мерапрыемства (пікетавання) у г.Жодзіна 4 жніўня 2013 года з 18.00 да 19.30 не можа быць разгледжана...» Прычынаю пры гэтым называецца тое, што пададзеныя дакументы «не адпавядаюць патрабаванням п.5» вышэйзгаданага рашэння, у якім маецца прадпісанне прыкладаць да заяўкі на правядзенне масавага мерапрыемства копіі дамоў з ЖКГ, міліцыяй і медыкамі.

31 ліпеня праваабаронца Сяргей Гоўша і грамадскі актывіст Віктар Сырыца атрымалі лісты за подпісам намесніка старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Дз. Касцюкевіча, у якіх паведамлялася, што гарвыканкам не дае згоды на правядзенне 4 жніўня інфармацыйнага пікета ў падтрымку зняволенага праваабаронцы Алеся Бяляцкага, які ўжо 2 гады знаходзіцца ў турме. Чыноўнік палічыў, што заяўнікі парушылі рашэнне гарвыканкама ад 16.06.2009г. № 1497 «Аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў у горадзе Баранавічы», згодна якому вуліца Леніна не з'яўляецца месцам для правядзення падобных мерапрыемстваў.

## Абмежаванне свабоды асацыяцый

9 ліпеня Актывіст кампаніі «Гавары праўду» Аляксандр Кузьмін з Белаазёрска атрымаў адказ на сваю скаргу з пракуратуры Брэсцкай вобласці за подпісам намесніка пракурора, старэйшага дарадцы юстыцыі Аляксандра Точкі. У адказе напісана, што Бярозаўскі РАУС не знайшоў складу злачынства ў дзеяннях Аляксандра Кузьміна і адмовіў ва ўзбуджэнні крымінальнай справы, і тут жа дадаецца, што папярэджанне, вынесенае пракуратурай Бярозаўскага раёна Кузьміну за дзейнасць ад імя незарэ-

гістраванай арганізацыі на падставе высноваў Бярозаўскага РАУС, застаецца ў сіле. Справа Кузьміна ўзнікла пасля звароту старшыні Белаазёрскага гарвыканкама Вячаслава Дамброўскага ў Бярозаўскі РАУС. Ён прасіў прыцягнуць Кузьміна да адказнасці за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі.

31 ліпеня на бабруйскім заводзе трактарных дэталяў і агрэгатаў быў звольнены Дзмітрый Курмаз, наладчык аўтаматычных ліній і агрэгатных станкоў 5 разраду. Ён працаваў на прадыпрыемстве з 2007 года, і ад таго часу не меў дысцыплінарных спагнанняў. Звольнены рабочы ўпэўнены, што ад яго пазбавіліся, бо ён з'яўляецца сябрам завадской пярвічкі СПБ. Рабочыя ўчасткаў, якія абслугоўваў на заводзе Дзмітрый Курмаз, былі абураныя такім рашэннем кіраўніцтва завода. Яны, у сваю чаргу, напісалі калектыўны зварот дырэктару прадпрыемства Аляксандру Аграновічу.




Крэсла для Алеся Бяляцкага на III Беларускім праваабарончым форуме.
*Вільня, 26-27 кастрычніка 2013 г.*




Акцыя салідарнасці з палітвязнямі. На фота: Анастасія Дашкевіч, Андрэй Санні-каў, Марына Адамовіч, Дзмітрый Бандарэнка, Наталля Радзіна, Марэк Мігальскі і іншыя. *Варшава, 8 сакавіка 2013 г.*



Палітвязень Васіль Парфянкоў выйшаў на волю пасля 6 месяцаў арышту.
*Баранавічы, 9 лютага 2013 г.*



Вадзім Мушынскі, адвакат палітвязня Андрэя Гайдукова, каля будынка Віцебскага абласнога суда.
*Віцебск, 1 ліпеня 2013 г.*




Суд над актывістам «Маладога Фронту» Уладзімірам Яроменкам. Прысуд — 3 месяцы арышту па абвінавачанні ў парушэнні правіл прафілактычнага нагляду.
*Мінск, 20 жніўня 2013 г.*




Валянціна Аліневіч, маці палітвязня Ігара Аліневіча, падчас прэзентацыі кнігі сына «Еду ў Магадан». *Мінск, 19 красавіка 2013 г.*



Родныя палітвязняў Алеся Бяляцкага, Эдуарда Лобава, Мікалая Статкевіча — Наталля Пінчук, Марына Лобава, Марына Адамовіч на III Беларускім праваабарончым форуме. *Вільня, 26-27 кастрычніка 2013 г.*



Палітвязень
Аляксандр Францкевіч
выйшаў на волю
з Івацэвіцкай калоніі
«Воўчыя норы».
*3 верасня 2013 г.*



Палітвязня
Дзмітрыя Дашкевіча
каля гродненскай турмы
сустракае жонка
Анастасія Дашкевіч.
*28 жніўня 2013 г.*



Палітвязень
Павел Севярынец
пасля вызвалення
на чыгуначным
вакзале Мінска.
*19 кастрычніка 2013 г.*




Суд Ленінскага р-на Гродна вызваліў журналіста Андрэя Пачобута ад адбыцця пакарання. *23 верасня 2013 г.*



Ірыну Халіп і Уладзіміра Някляева суды Партызанскага і Ленінскага раёнаў Мінска вызвалілі ад адбыцця пакарання. *25 ліпеня 2013 г.*



Дзень Волі. Удзельнікі мітынгу з партрэтамі зніклых беларускіх палітыкаў Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, журналіста Дзмітрыя Завадскага, бізнэсмэна Анатоля Красоўскага і памерлага пры нявысветленых абставінах Генадзя Карпенкі. *Мінск, 24 сакавіка 2013 г.*



Дзень Волі. Удзельнікі мітынгу з партрэтамі беларускіх палітвязняў. *Мінск, 24 сакавіка 2013 г.*



«Чарнобыльскі шлях». *Мінск, 26 красавіка 2013 г.*




Удзельнік «Чарнобыльскага шляху» Максім Вінярскі з плакатам: «У Беларусі дзве бяды. Не другому Чарнобылю. Дыктатуру пад суд». *Мінск, 26 карасавіка 2013 г.*




Удзельнікі «Чарнобыльскага шляху» з транспарантам «Мы супраць беларускай АЭС». *Мінск, 26 красавіка 2013 г.*



Упершыню з 2002 года ў Брэсце адбылася дазволеная ўладамі першамайская дэманстрацыя, якую ладзілі прадстаўнікі дэмакратычных сіл.
*Брэст, 1 траўня 2013 г.*




Актывісты Партыі БНФ і КХП-БНФ ушанавалі памяць змагароў Слуцкага збройнага чыну.
*Слуцк, 25 лістапада 2013 г.*



Мілавідскі фэст памяці паўстанцаў 1863 года.
*Мілавіды (Баранавіцкі раён), 2 чэрвеня 2013 г.*




Жыхар Гомеля
Юрый Рубцоў
асуджаны на 3 сутак
арышту за ўдзел у шэсці
ў Курапаты ў майцы
з надпісам:
«Лукашэнко уходи».
*Мінск, 3 лістапада 2013 г.*



Акцыя памяці Ігара Пцічкіна, які загінуў пры нявысветленых абставінах у СІЗА №1 была разагнана міліцыяй, удзельнікі затрыманы. На фота: сястра І. Пцічкіна Ірына Міранові́ч. *Мінск, 14 верасня 2013 г.*



Лідара «Zмены» Паўла Вінаградава сустракаюць сябры
і паплечнікі каля ЦІП на Акрэсціна пасля адбыцця ім 12-сутачнага
арышту за вывешаны партрэт М. Статкевіча. *Мінск, 4 траўня 2013 г.*



Журналіста Генадзя Барбарыча суд Савецкага раёна Мінска арыштаваў на 3 сутак. *29 красавіка 2013 г.*



Журналіста Аляксандра Ярашэвіча суд Савецкага раёна Мінска арыштаваў на 3 сутак. *29 красавіка 2013 г.*




Журналістаў Аляксандра Ярашэвіча і Дзмітрыя Галко даставілі ў суд Маскоўскага раёна Мінска. А. Ярашэвіч арыштаваны на 12 сутак, Д. Галко — на 10 сутак. *7 траўня 2013 г.*



Фотажурналісты Юлія Дарашкевіч, Аляксандр Васюковіч і Вадзім Заміроўскі каля суда Ашмянскага раёна, які прызнаў фотаальбом «Прэс-фота Беларусі 2011» экстрэмісцкім. *Ашмяны, 18 красавіка 2013 г.*



Акцыя салідарнасці з Алесем Бяляцкім прадстаўнікоў FIDH падчас 38-га Кангрэсу Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека. Стамбул, *27 траўня 2013 г.*



Пасля 5-месячнага перапынку пасля канфіскацыі памяшкання аднавіў працу офіс Праваабарончага цэнтра «Вясна». *Мінск, 1 красавіка 2013 г.*




Акцыя садідарнасці з палітвязнямі ў Дзень правоў чалавека. *Брэст, 10 снежня 2013 г.*




Салідарнасць з палітвязнем Мікалаем Статкевічам. *Мінск*



Паштоўкі — палітвязням. Акцыя салідарнасці ў Гродна.




Салідарнасць з палітычнымі зняволенымі. *Бяроза*

# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Жнівень

У жніўні захоўвалася складаная сітуацыя ў галіне правоў чалавека, пры гэтым станоўчая падзея — выхад на волю палітзняволенага Дзмітрыя Дашкевіча — не змяніла агульных кепскіх тэндэнцый і не разглядаецца праваабаронцамі як прыкмета паляпшэння. Д. Дашкевіч не проста адбыў першапачатковы тэрмін пакарання ў турме, але і дададзены падчас адбыцця пакарання год за «злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі» (арт. 411 КК). Пры гэтым, нягледзячы на настойлівае патрабаванне Еўрапейскага Саюза не толькі аб вызваленні, але і рэабілітацыі палітычных зняволеных, ні адно з вылучаных супраць Д. Дашкевіча абвінавачванняў не было знята, а ён не адноўлены ў правах. Больш за тое, адносна яго на паўгады пасля вызвалення ўсталяваны прэвентыўны нагляд, што дае ўладам права ў любы час наведваць яго, абмяжоўваць у перамяшчэнні і кантраляваць ягоную актыўнасць, а ў выпадку парушэнняў — падвергнуць больш сур'ёзным абмежаванням ці крымінальнаму пераследу. Дадзенае апасенне звязана з наяўнай практыкай, якая склалася ў адносінах да былых палітвязняў, якая працягвала пашырацца ў жніўні. Так, да 3 месяцаў арышту 20 жніўня быў асуджаны былы палітвязень Уладзімір Яроменак за парушэнне правіл прэвентыўнага нагляду (арт. 421 Крымінальнага кодэкса РБ). На працягу жніўня працягваліся следчыя дзеянні па крымінальнай справе супраць яшчэ аднаго былога палітвязня Васіля Парфянкова па аналагічным абвінавачанні.

Такім чынам, вызваленне Дзмітрыя Дашкевіча не паўплывала прынцыпова на сітуацыю з палітвязнямі ў краіне, паколькі яно было звязана са сканчэннем тэрміну адбыцця пакарання, а не з пазіцыяй беларускіх уладаў на скасаванне дадзенай з'явы і не з імкненнем выканання ўмовы вызвалення палітвязняў дзеля ўзнаўлення дыялогу з Еўрапейскім Саюзам. Да канца жніўня ў месцах пазбаўлення ці абмежавання волі працягвалі ўтрымлівацца 11 палітычных зняволеных: Алесь Бяляцкі, Мікалай Статкевіч, Мікалай Аўтуховіч, Эдуард Лобаў, Павел Севярынец, Мікалай Дзядок, Аляксандр Францкевіч, Яўген Васьковіч, Арцём Пракапенка, Ігар Алінэвіч і Андрэй Гайдукоў. Ніякіх рэальных крокаў з боку беларускіх уладаў у накірунку іх вызвалення не было прадпрынята. Разуменне адсутнасці пазітыўных тэндэнцый у дадзенай сферы было зафіксавана і ў заяве Пітэра Стано, прадстаўніка еўракамісара Штэфана Фюле: «Мы прынялі да ведама факт вызвалення Дзмітрыя Дашкевіча... Мы настойваем, што Беларусь павінна неадкладна вызваліць усіх палітычных зняволеных і рэабілітаваць іх, незалежна ад працягласці тэрмінаў іх зняволення».

Разам з тым, адначасова з прынцыповай рыторыкай Еўрапейскага Саюза ў пытанні палітвязняў, у жніўні назіралася замацаванне ранейшай тэндэнцыі пошуку і развіцця кантактаў ЕС з беларускім афіцыйным бокам. 9 жніўня ў Мінску пасол Эстоніі ў Беларусі Яак Ленсмент сустрэўся з намесніцай міністра замежных спраў Аленай Купчынай; 28 жніўня адбылася сустрэча Алены Купчыной з кіраўніком прадстаўніцтва Еўрапейскага Саюза ў Беларусі Майрай Морай, а таксама з амбасадарамі Вялікабрытаніі і Літвы Брусам Бакнелам і Эвалдасам Ігнатавічусам. У прэс-службе беларускага знешнепалітычнага ведамства паведамілі, што падчас гутаркі з Майрай Морай «былі абмеркаваны пытанні развіцця адносінаў паміж Беларуссю і Еўрасаюзам, у тым ліку перспектывы рэалізацыі сумесных праектаў і шэраг запланаваных мерапрыемстваў». Ці захоўвалася абумоўліванне абмяркоўваемага супрацоўніцтва вызваленнем і рэабілітацыяй палітвязняў — ні адзін з бакоў перамоваў не паведаміў. Гэта выклікае насцярожанасць з боку праваабарончай супольнасці, паколькі знешнепалітычны фактар на сённяшні дзень з'яўляецца фактычна адзіным інструментам уплыву на афіцыйны Мінск, а адыход ад публічна дэкларуемай пазіцыі ЕС па праблеме палітвязняў можа спрыяць замарожванню пытання і абыходу яго наўзамен эканамічнай і палітычнай мэтазгоднасці.

## Палітычныя зняволеныя, крымінальны пераслед грамадскіх актывістаў

3 жніўня жонка Мікалая Статкевіча Марына Адамовіч паведаміла, што турэмная камісія 25 ліпеня зняла з палітвязня статус «злоснага парушальніка рэжыму», пакінуўшы статус «не стаўшага на шлях выпраўлення». Адмена статуса «злоснага парушальніка рэжыму» надала палітвязню права на павелічэнне сумы для пакупак у турэмным шапіку ад 1 да 2 базавых велічынь. 12 жніўня Мікалай Статкевіч адзначыў у Магілёўскай турме чарговы, ужо трэці Дзень нараджэння ў зняволенні — яму споўнілася 57 гадоў. У лісце да жонкі ён паведаміў, што адміністрацыя турмы не перадае яму віншавальныя паштоўкі да Дня нараджэння, імкнучыся стварыць уражанне, што яго ўсе пакінулі. Таксама М. Статкевіч напісаў, што 5 жніўня яму вынеслі чарговае спагнанне і паведаміў пра факты неаказання яму медыцынскай дапамогі: яго спачатку амаль прымусова завялі ў санчастку, дзе «выявілі» падвышаны ціск, пасля «дапамогі» яму стала горш, і на наступны дзень, калі ён упаў, дапамагаць яму не спяшаліся цягам 20 хвілін, хоць сусед увесь час барабаніў у дзверы. У санчастцы калоніі палітвязню далі невядомыя прэпараты, ад якіх яго самаадчуванне пагоршылася.

4 жніўня споўнілася роўна два гады з моманту арышту Алеся Бяляцкага — кіраўніка Праваабарончага цэнтра «Вясна», віцэ-прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека. Да гэтай даты быў прымеркаваны Міжнародны дзень салідарнасці з грамадзянскай супольнасцю Беларусі. Акцыі салідарнасці ў гэты дзень прайшлі ў некалькіх гарадах Польшчы, Украіны, Расіі, Германіі, а таксама ў Літве, Нарвегіі, Швецыі, Швейцарыі, Чэшскай Рэспубліцы, Вялікабрытаніі, Італіі, Кыргызстане, Казахстане, Азербайджане, Арменіі і ЗША. Больш за 245 тысяч чалавек заклікалі вызваліць Алеся Бяляцкага праз сацыяльныя сеткі. У Беларусі акцыі салідарнасці прайшлі больш чым у 20 гарадах, нягледзячы на тое, што ўсе масавыя мерапрыемствы, прымеркаваныя да гэтага дня, былі забаронены мясцовымі ўладамі. Напярэдадні гадавіны арышту А.Бяляцкага Спецыяльны дакладчык ААН па пытанні аб становішчы ў галіне правоў чалавека ў Беларусі Міклаш Харашці заклікаў урад Беларусі «неадкладна і безумоўна» вызваліць і рэабілітаваць праваабаронцу. «Зняволенне сп. Бяляцкага з'яўляецца сімвалам рэпрэсій супраць праваабаронцаў», — адзначыў ён. 7 жніўня зняволенаму праваабаронцу была перададзена першая ў 2013 годзе харчовая перадача — у сакавіку ў выніку накладзеных спагнанняў Алеся Бяляцкага пазбавілі права на атрыманне харчовых перадач на 6 месяцаў. Агулам палітвязень быў пазбаўлены перадач амаль 8 месяцаў. 14 жніўня адміністрацыя папраўчай калоніі №2 у Бабруйску, дзе адбывае пакаранне Алесь Бяляцкі, адказала на зварот БАЖ аб змякчэнні рэжыму яго ўтрымання. Начальнік калоніі Аляксандр Какунін напісаў, што за час адбывання пакарання Алесь Бяляцкі «неаднаразова дапускаў парушэнні вызначанага парадку адбывання пакарання», што «ўказаныя ў звароце спагнанні асуджаны Бяляцкі А. В. не абскарджваў», і што «падстаў для адмены спагнанняў альбо іх замены на іншыя... не маецца». 17 жніўня аналагічны адказ БАЖ атрымала з Упраўлення дэпартамента выканання пакаранняў па Магілёўскай вобласці: часова выконваючы абавязкі начальніка УДВП па Магілёўскай вобласці Юры Талкачоў напіасў, што спагнанні ў дачыненні Алеся Бяляцкага былі накладзены за парушэнне зняволеным Правіл унутранага распарадку Бабруйскай папраўчай калоніі №2, і падставаў для іх адмены не маецца. 21 жніўня адбылося кароткатэрміновае спатканне Алеся Бяляцкага з жонкай Наталляй Пінчук і сястрой Вольгай. Гэта першая двухгадзінная сустрэча праваабаронцы са сваякамі ад снежня 2012 года. Праваабаронца паведаміў, што па-ранейшаму працуе на швейнай вытворчасці, шмат чытае, з газет ведае пра асноўныя падзеі на волі. У 2013 годзе, калі нічога не зменіцца, павінны адбыцца яшчэ два спатканні Бяляцкага са сваякамі: адно доўгатэрміновае і адно кароткатэрміновае.

13 жніўня ў Гродзенскай турме адбыўся суд, які вызначыў, што над палітвязнем Дзмітрыем Дашкевічам пасля вызвалення будзе ўстаноўлены превентыўны нагляд на працягу 6 месяцаў: ён павінен быць дома з 8 вечара да 6 ранку, тры разы на месяц адзначацца ў міліцыі, выезд за мяжу — толькі з дазволу РАУС, дзе ён будзе прапісаны, выезд у іншы горад — таксама толькі з дазволу міліцыі. 28 жніўня ў 6.30 раніцы Дзмітрый Дашкевіч быў вызвалены з Гродзенскай турмы. Яго выпусцілі на волю пасля адбыцця поўнага тэрміну пакарання па абвінавачваннях у «злосным хуліганстве» і «злосным непадпарадкаванні патрабаванням адміністрацыі». Каля турэмнай брамы яго ўсю ноч чакалі дзясяткі чалавек — жонка Наста, журналісты, актывісты. Д. Дашкевіч сказаў, што турэмшчыкі абудзілі яго раней, чым звычайна, у 5.30 ён з'еў свой апошні сняданак у турме, сабраў рэчы і пакінуў будынак. Пра стаўленне да сябе ў турме ён распавёў, што адміністрацыі розных турмаў спрабавалі выкарыстоўваць зняволеных дзеля таго, каб яны ўплывалі на яго, але пераважна паўсюль ён атрымліваў падтрымку. Лідар «Маладога Фронту» падкрэсліў, што не ўспрымае сваё вызваленне як міласэрнасць. Ён падзякаваў за падтрымку і паведаміў, што працягне займацца палітыкай, але выйдзе з шэрагаў «Маладога Фронту» ў сувязі з 32-гадовым узростам. 29 жніўня на прэс-канферэнцыі ў Мінску Дзмітрый Дашкевіч сказаў, што напісаць на імя прэзідэнта прашэнне аб памілаванні яму афіцыйна прапаноўвалі толькі адзін раз — у калоніі ў Горках (Магілёўская вобласць), калі «ішла хваля вызвалення палітвязняў і вызвалілі каля дзесяці чалавек». Тады яго да сябе запрасіў начальнік і прапанаваў напісаць, паабяцаўшы, што выпусцяць на волю. Дашкевіч адмовіўся. Неафіцыйна ж, адзначыў Дашкевіч, яму прапаноўвалі напісаць такое прашэнне шмат разоў.

13 жніўня стала вядома, што маці палітзняволенага Андрэя Гайдукова — Вольга Гайдукова мела кароткатэрміновае спатканне з сынам, які да ўступлення прысуду ў сілу ўтрымліваўся ў Віцебскім СІЗА. Спатканне адбывалася праз шкло. Маці і сын кантактавалі праз тэлефон цягам дзвюх гадзін. Гэта было другое спатканне за час зняволення А. Гайдукова: першае было адразу пасля суда і васьмі месяцаў следства. Вольга Гайдукова дадала, што лісты ад сына прыходзяць рэгулярна, раз на тыдзень дазволены перадачы. 27 жніўня Вярхоўны суд разглядаў касацыйную скаргу Андрэя Гайдукова і пакінуў прысуд без зменаў — паўтары гады пазбаўлення волі. 29 жніўня Вольга Гайдукова атрымала ў Вярхоўным судзе дазвол на спатканне з сынам, 30 жніўня гэта спатканне адбылося ў Віцебскім следчым ізалятары № 2. 31 жніўня Андрэй Гайдукоў быў пераведзены адбываць пакаранне ў Магілёўскую папраўчую калонію № 19.

14 жніўня Валянціна Аліневіч, маці палітвязня Ігара Аліневіча, паведаміла, што яе сыну даходзяць не ўсе лісты, а калі даходзяць, то з вялікімі затрымкамі. Яна таксама распавяла пра рэакцыю сына пра яе звальненне з працы: «спачатку турбаваўся, але ў нейкі момант адчуў дзіўнае пачуццё палёгкі», дадаўшы, што хвалявацца з гэтай нагоды і накручваць сабе думкі не варта, таму што ўладам толькі і трэба, «каб чалавек сам сябе з'еў».

20 жніўня суддзя суда Першамайскага раёна Мінска Леанід Ярмоленкаў прызнаў былога палітвязня Уладзіміра Яроменку вінаватым у парушэнні правіл прэвентыўнага нагляду (арт. 421 Крымінальнага кодэкса РБ) і вынес пакаранне ў выглядзе 3 месяцаў арышту (дзяржабвінаваўца Чарапковіч прапанавала пакараць яго арыштам у 6 месяцаў). Адвакат адзначыла ў судзе, што падчас следства былі дапушчаны шматлікія парушэнні. Так, пастанова следчага камітэта аб узбуджэнні крымінальнай справы была датавана 24 траўня, у той час як дакументы па справе ў СК паступілі і былі зарэгістраваны 27 траўня, а два рапарты, якія з'яўляюцца доказам парушэння правіл прэвентыўнага нагляду, наогул нідзе не рэгістраваліся. Адвакат таксама адзначыла, што бок абвінавачання ўвогуле не высвятляў прычыны, па якіх У. Яроменак адсутнічаў па месцы жыхарства падчас праверак. Праваабарончы цэнтр «Вясна» расцаніў прысуд Уладзіміру Яроменку «як палітычна матываваны ў мэтах недапушчэння ці спынення ягонай далейшай грамадска-палітычнай дзейнасці, аказання ціску ў сувязі з такой дзейнасцю. Прысуд У. Яроменку з'яўляецца наўпроставым наступствам ягонага асуджэння на 3 гады пазбаўлення волі за ўдзел у акцыі пратэсту пасля прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010 года».

22 жніўня Анатоль Пракапенка, бацька палітвязня Арцёма Пракапенкі, паведаміў, што адміністрацыя Магілёўскай калоніі № 15 зняла забарону на прадуктовыя перадачы адносна ягонага сына. Родным Пракапенкі ўдалося перадаць Арцёму 35 кілаграм прадуктаў, з якіх пяць кілаграм садавіны. Анатоль Пракапенка адзначыў, што статус «злоснага парушальніка» з сына пакуль што не зняты. Арцём Пракапенка падаў заяву на навучанне прафесіі муляра, але рашэнне пакуль не прынята.

23 жніўня палітвязню Мікалаю Дзядку, які адбывае пакаранне ў Магілёўскай турме №4, споўнілася 25 гадоў. Гэта ўжо трэці Дзень нараджэння, які М. Дзядок адзначыў у зняволенні.

30 жніўня ў Івацэвіцкай калоніі №22 адбыўся суд, які вызначыў, што пасля вызвалення 3 верасня бягучага года над палітвязнем Аляксандрам

Францкевічам будзе ўстаноўлены прэвентыўны нагляд на паўгода. Пра гэта паведаміла яго маці Таццяна Францкевіч, якая разам з адвакатам ездзіла да сына ў калонію на суд, які прымаў рашэнне пра тэрмін нагляду.

## Ужыванне прымусовай псіхіятрыі

16 жніўня Ігар Пастноў, які жорстка крытыкаваў недахопы ў віцебскай сістэме аховы здароўя і да апошніх дзён працаваў урачом-псіхіятрам у абласным псіхіятрычным шпіталі, быў змешчаны ў закрытае аддзяленне гэтай самай установы «са згоды пракурора» проста ў працоўны час. Гэта адбылося пасля заявы намесніка галоўурача па ідэалогіі пра тое, што ўрач Пастноў паводзіць сябе «неэтычна». Ігару Пастнову і раней пагражалі псіхіятрычным лячэннем — пасля выступу на тэлеканале «Белсат» з крытыкай дзейнасці старшыні аблвыканкама Аляксандра Косінца, таксама ў мінулым урача, доктара медыцыны, аднак дагэтуль далей пагроз не ішло: Пастноў — дыпламаваны спецыяліст у гэтай галіне, і таму быў упэўнены, што да прымусовага змяшчэння ў шпіталь не дойдзе. 21 жніўня суддзя Віцебскага райсуда Таццяна Дзегцярова ў закрытым пасяджэнні санкцыянавала прымусовае псіхіятрычнае лячэнне Ігара Пастнова. Яго самога на працэс не прывезлі, што зазвычай практыкуецца толькі ў складаных клінічных выпадках, калі хворы чалавек можа нанесці шкоду навакольным. Не было на працэсе і адваката. 22 жніўня ў псіхіятрычным шпіталі І. Пастнова змог наведаць адвакат. 30 жніўня адвакат падаў у Віцебскі абласны суд касацыйную скаргу на рашэнне Віцебскага раённага суда аб прымусовым лячэнні Ігара Пастнова. Праваабарончы цэнтр «Вясна» і Беларускі Хельсінскі камітэт выступілі з супольнай заявай, у якой заклікалі кампетэнтныя органы «неадкладна вызваліць Ігара Пастнова з псіхіятрычнага стацыянара і перагледзець рашэнне аб яго прымусовай шпіталізацыі ў адкрытым працэсе з захаваннем вызначаных працэдур і прынцыпаў справядлівага судовага разбіральніцтва». У заяве адзначалася: «Відавочна, што парушэнне права Ігара Пастнова на справядлівае судовае разбіральніцтва пацягнула парушэнне яго права на асабістую недатыкальнасць. Такія дзеянні, апроч усяго, з'яўляюцца парушэннем гарантыі на свабоду меркаванняў і іх свабоднае выказванне».

«Міжнародная амністыя» заявіла пра гатоўнасць прызнаць Ігара Пастнова вязнем сумлення. «Затрыманне Ігара Пастнова магло быць неабгрунтаваным з-за выказанай ім законнай крытыкі сістэмы аховы здароўя Віцебскай вобласці. Калі гэта так, то «Міжнародная амністыя» будзе лічыць яго вязнем сумлення», — было сказана ў заяве міжнароднай праваабарончай арганізацыі.

## Смяротнае пакаранне

26 жніўня калегія па грамадзянскіх справах Мінскага гарадскога суда пакінула без задавальнення прыватную скаргу Любові Кавалёвай і Таццяны Казяр — родных расстралянага Уладзіслава Кавалёва, абвінавачанага ў здзяйсненні тэракту ў метро Мінска. Суддзя Аксана Будоўская пагадзілася з высновамі суда Кастрычніцкага раёна Мінска аб тым, што разгляд дадзенага звароту не падведамасны агульным судам Беларусі. Родныя Кавалёва абскарджвалі адмову суда Кастрычніцкага раёна г. Мінска ва ўзбуджэнні грамадзянскай справы па іх скарзе на адмову прадставіць інфармацыю пра месца пахавання Уладзіслава. Па словах адваката Сяргея Галубка, у дадзеным выпадку парушана канстытуцыйнае права кожнага на судовую абарону. Адвакат таксама адзначыў, што ў чарговы раз беларускія суды пацвердзілі сваё нежаданне выконваць рашэнне Камітэта па правах чалавека ААН. Адзіны станоўчы момант на працэсе — гэта дадзеная магчымасць абараняць інтарэсы родных Уладзіслава Кавалёва расійскаму адвакату Сяргею Галубку. Паводле адваката, рашэнне будзе абскарджана ў наглядным парадку, а таксама будуць прыняты меры на міжнародным узроўні, каб дабіцца выканання рашэння Камітэта па правах чалавека ААН, які прызнаў, што ў адносінах да Уладзіслава было парушана права на жыццё, а ў адносінах да Любові Кавалёвай і Таццяны Казяр — права на атрыманне цела забітага сваяка і інфармацыі пра месца ягонага пахавання.

## Выкарыстанне катаванняў і жорсткага абыходжання

6 жніўня праваабарончая ўстанова «Платформа» распаўсюдзіла інфармацыю пра смерць у СІЗА №1 у Мінску 21-гадовага мінчука Ігара Пцічкіна, які 15 траўня 2013 года судом Заводскага раёна Мінска быў асуджаны да 3 месяцаў адміністрацыйнага арышту за здзяйсненне злачынства, прадугледжанага артыкулам 417 Крымінальнага кодэкса (невыкананне прысуду суда аб пазбаўленні права займаць пэўныя пасады або займацца пэўнай дзейнасцю). 30 ліпеня ў 17.00 Ігар разам з маці і сястрой прыехаў у РУУС Заводскага раёна Мінска для таго, каб панесці прызначанае пакаранне. Гэта быў апошні раз, калі блізкія бачылі Ігара жывым. Супрацоўнік СІЗА № 1, які паведаміў маці страшную навіну, агучыў і прычыну смерці Ігара — сардэчны прыступ. Начальніка СІЗА № 1 Варыкаш Вікенцій абвінаваціў нябожчыка ва ўжыванні наркотыкаў, алкаголю і курыльных сумесяў, з-за чаго, на ягоную думку, і памёр Ігар Пцічкін. Начальнік санчасткі Пахановіч агучыў яшчэ адну версію смерці Ігара Пцічкіна: раптоўныя неадэкватныя паводзіны, у выніку якіх кантралёры

зафіксавалі зняволенага выключна з добрых памкненняў, а смерць наступіла па невядомых прычынах. Без дазволу маці цела Ігара Пцічкіна адправілі ў морг і зрабілі ўскрыццё. Пазней, падчас працэдуры апазнання родныя ўбачылі шматлікія гематомы, сінякі, раны на целе І. Пцічкіна. Няўзброеным вокам былі заўважныя пераломы рэбраў, а на запясцях — бачныя сляды кайданкоў і адкрытыя раны.

## Пераслед праваабаронцаў і праваабарончыя арганізацыі

4 жніўня ў Магілёве падчас правядзення праваабаронцамі акцыі салідарнасці са зняволеным Алесем Бяляцкім была затрымана яе ўдзельніца Дыяна Буракова. Дзяўчына правяла ў пастарунку каля гадзіны. Пасля складання пратакола аб адміністрацыйным затрыманні Дыяна была адпушчана на свабоду.

5 жніўня ў Мінску падчас раздачы паштовак з інфармацыяй пра зняволенага праваабаронцу Алеся Бяляцкага былі затрыманы праваабаронцы Таццяна Рэвяка і Уладзімір Лабковіч. Яны былі дастаўлены ў аддзел правапарадку РУУС Савецкага раёна, дзе на іх былі складзены пратаколы адміністрацыйнага правапарушэння па арт. 23.34 КаАП РБ (парушэнне парадку арганізацыі і правядзення масавых мерапрыемстваў). У гэты ж дзень праваабаронцы былі дастаўлены ў суд Савецкага раёна Мінска. Справу Уладзіміра Лабковіча разглядаў суддзя Дзмітрый Паўлючэнка, справу Таццяны Рэвякі — суддзя Марына Фёдарава. Пратаколы, складзеныя на праваабаронцаў, былі накіраваны суддзямі назад у РУУС Савецкага раёна на дапрацоўку. 6 жніўня суддзі Д. Паўлючэнка і М. Фёдарава прызналі У. Лабковіча і Т. Рэвяку вінаватымі і прынялі рашэнні аб накладанні на іх штрафу ў памеры 30 базавых велічынь. 27 жніўня ў Мінскім гарадскім судзе адбыўся разгляд касацыйнай скаргі Таццяны Рэвякі. Суддзя Аляксей Бычко пакінуў пастанову суда Савецкага раёна Мінска без зменаў, а скаргу без задавальнення. 30 жніўня суддзя Мінскага гарадскога суда Валерый Камісараў адмяніў пастанову суда Савецкага раёна аб адміністрацыйным правапарушэнні і спагнанні штрафу ў адносінах да Уладзіміра Лабковіча і накіраваў справу ў суд Савецкага раёна на перагляд іншаму суддзі, адзначыўшы, што «дапушчана шмат прабелаў» і не было «ўсебаковага, поўнага і аб'ектыўнага вывучэння і ацэнкі абставінаў справы».

12 жніўня невядомыя зламыснікі ўзламалі паштовую скрыню Камітэта абароны рэпрэсаваных «Салідарнасць» plosca2006@yahoo.com і здзейснілі рассылку ад імя старшыні арганізацыі Іны Кулей, якая быццам бы

страціла грошы і дакументы ў Іспаніі, з просьбай дапамагчы ёй, выслаўшы 2.900 еўра на пэўны рахунак. «Салідарнасць» абвергла рассылку падобнага ліста і выказала просьбу з гэтага часу спраўджваць атрыманую з plosca2006@yahoo.com інфармацыю.

16 жніўня стала вядома, што супрацоўнік міліцыі з Дзяржынскага РАУС Віталь Клімашэўскі яшчэ ў ліпені падаў заяву з патрабаваннем узбудзіць крымінальную справу паводле артыкулаў 179 (незаконнае збіранне або распаўсюд інфармацыі аб прыватным жыцці) і 188 (паклёп) Крымінальнага кодэкса на аўтара артыкула пра катаванні ў Дзяржынскім РАУС, апублікаваным на сайце праваабарончай установы «Платформа». У выніку папярэдняга вывучэння сутнасці справы В.Клімашэўскаму адмовілі, пасля чаго ён напісаў заяву аб прыцягненні аўтара артыкула да адказнасці паводле арт. 9.2 (паклёп) Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях. 19 жніўня ў судзе Партызанскага раёна Мінска мусіў адбыцца суд над намесніцай дырэктара «Платформы» Аленай Красоўскай-Касперовіч, але ў сувязі з адсутнасцю дакументаў па адміністрацыйнай справе быў адкладзены на нявызначаны тэрмін. Справа датычылася збіцця супрацоўнікам міліцыі Віталём Клімашэўскім і Дзмітрыем Касцевічам дваіх маладых людзей — Сяргея Хачатурана і Віталя Ганчара.

16 жніўня намеснік старшыні праваабарончага праекта «ГейБеларусь» Максім Дзмітрыеў быў выкліканы позвай у якасці сведкі без указання канкрэтнай адміністрацыйнай або крымінальнай справы ва Упраўленне па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі крымінальнай міліцыі МУС. Разам з ім у якасці прадстаўніка ад РПГА «Беларускі Хельсінкскі Камітэт» прысутнічала праваабаронца Наталля Манькоўская. «Гутарку» з ЛГБТ-актывістамі праводзілі старэйшы оперупаўнаважаны па АУС Павел Грамузаў, намеснік начальніка другога аддзела Упраўлення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі палкоўнік міліцыі Уладзімір Емяльянаў і чалавек у цывільным, які катэгарычна адмовіўся прадстаўляцца, але якога П . А. Грамузаў называў імем Дзіма. Як адзначаюць актывісты, гэта была менавіта гутарка, а не допыт сведкі, ніякіх пратаколаў не вялося. Размова датычылася праекта «ГейБеларусь», планаў арганізацыі, дзейнасці, якую яна цяпер ажыццяўляе. На ўсе гэтыя пытанні Максім Дзмітрыеў адмовіўся адказваць у адпаведнасці з арт. 27 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Пры гэтым супрацоўнік міліцыі не забыўся нагадаць пра тое, што ў Крымінальным кодэксе існуе артыкул за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі. Затым былі зададзены пытанні пра старшыню арганізацыі Сяргея Андросенку. «Вось Сяргей з'ехаў, і вам раім», — параіў актывістам чалавек у цывіль-

ным. Таксама параілі «не высоўвацца», «не асвятляць» і «не прыцягваць увагу да ЛГБТ». Усяго «гутарка» працягвалася крыху больш за гадзіну.

## Ціск спецслужбаў на грамадска і палітычна актыўных грамадзян

26 жніўня Магілёўскі абласны суд разгледзеў скаргу актывіста аргкамітэта партыі «Беларуская Хрысціянская дэмакратыя» Алега Аксёнава, які намагаўся абскардзіць прафілактычную размову, якую праводзілі з ім супрацоўнікі КДБ, сваю пастаноўку на прафілактычны ўлік у дадзенай установе, а таксама антыканстытуцыйнасць артыкула 193.1 Крымінальнага кодэкса аб дзейнасці ад імя незарэгістраванай арганізацыі. Суд адмовіў па ўсіх пунктах. Паводле судовага рашэння — правы актывіста не парушаюцца Магілёўскай управай КДБ. На прафілактычным уліку КДБ Алег Аксёнаў знаходзіцца ўжо болей за год. У Магілёве на такім уліку стаяць таксама актывістка БХД Таццяна Шамбалава і лідар Магілёўскай абласной арганізацыі БНФ «Адраджэньне» Дзмітрый Салаўёў.

## Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні

1 жніўня суддзя суда горада Баранавічы і Баранавіцкага раёна Кацярына Груда вынесла пастанову пра штраф у памеры 20 базавых велічынь старшыні Баранавіцкай філіі ТБМ, актывісту Руху «За свабоду» Віктару Сырыцы. Актывіст быў абвінавачаны ў парушэнні арт.23.34 Адміністрацыйнага кодэкса РБ — арганізацыі і правядзенні 2 чэрвеня несанкцыянаванага мерапрыемства, прысвечанага 150-й гадавіне Мілавідскай бітвы паўстанцаў Каліноўскага. Кацярынай Груда не былі прыняты да ўвагі словы сведкі маёра Куляшова пра тое, што мерапрыемства не было, яно было адменена гарадскімі ўладамі без паведамлення пра гэта ў прэсе, г. зн. жадаючыя прыняць у ім удзел — не папярэджаны. Калі людзі прыехалі на маючы адбыцца фестываль і чакалі 30 хвілін гэта мерапрыемства, ні міліцыя, ні загадчык ідэалагічнага аддзела Баранавіцкага гарвыканкама не падышлі і не сказалі, што фестывалю не будзе.

2 жніўня транспартная міліцыя Мінска ўзяла тлумачэнні ў актывіста «Zмены» Паўла Вінаградава адносна размешчаных ім у сацыяльных сетках фотаздымкаў бел-чырвона-белага сцяга, прымацаванага да электрычкі. 27 ліпеня Павал Вінаградаў размясціў здымкі ў фэйсбуку і напісаў: «Сёння актывісты Zмены вырашылі правесці акцыю ў гонар абвяшчэння незалежнасці. На станцыі каля Мінскага мора актывісты прымацавалі да электрычкі 4-метровы бел-чырвона-белы сцяг. І электрычка, і сцяг, які

лунаў на ёй, паспяхова заехалі ў Мінск». Сілуэты актывістаў былі зафаташопленыя. У Мінскі аддзел унутраных спраў на транспарце актывіст прыйшоў, узяўшы вялікую сумку з неабходнымі рэчамі, не выключаючы абвінавачання ў адміністрацыйным правапарушэнні, аднак на гэты раз абышлося толькі тлумачэннямі.

6 жніўня ўвечары была праведзена чарговая акцыя нацыянал-бальшавікоў супраць прызыўнога рабства. На агароджы міністэрства абароны была вывешаная расцяжка «Далоў армію рабоў!» і раскіданы ўлёткі, якія растлумачваюць негатыўныя бакі фарміравання арміі на прымусовай аснове і перавагу для абараназдольнасці і эканомікі краіны арміі добраахвотнай. 8 жніўня раніцай у розных раёнах Мінска супрацоўнікі міліцыі затрымалі пратэстоўцаў Яўгена Контуша, Алеся Гулевіча, Алеся Палякова, Дзмітрыя Паліенку і даставілі ў РУУС Цэнтральнага раёна. Алеся Палякова вызвалілі, паколькі ён з'яўляецца непаўнагадовым. Астатнія актывісты былі абвінавачаны ў парушэнні арт 23.34. КаАП (парушэнне парадку арганізацыі і правядзення масавых мерыпрыемстваў). У другой палове дня затрыманыя былі дастаўлены ў суд Цэнтральнага раёна Мінска. Суддзя Аляксандр Якунчыхін вынес пастанову аб накіраванні пратакола адміністрацыйнага правапарушэння ў адносінах да Дзмітрыя Паліенкі на дапрацоўку і вызваленні актывіста. Суддзя Вікторыя Шабуня накіравала матэрыялы адміністрацыйнай справы Яўгена Контуша на дапрацоўку ў РУУС Цэнтральнага раёна, а Аляксандру Гулевічу прысудзіла штраф у памеры 10 базавых велічынь. 22 жніўня суддзя Якунчыхін вынес рашэнне пакараць Дзмітрыя Паліенку штрафам у памеры 12 базавых велічынь, суддзя Шабуня пакарала Яўгена Контуша штрафам у тым жа памеры — 12 базавых велічынь.

8 жніўня сябра Аб'яднанай грамадзянскай партыі з Магілёва Мікалай Гладышаў, які 4 ліпеня зладзіў адзіночны пікет супраць намераў размясціць у Беларусі расійскую авіябазу, атрымаў позву, у якой было пазначана, што 15 жніўня ён мусіць з'явіцца ў Ленінскі раённы суд як правапарушальнік. Паводле міліцэйскага пратакола, Гладышаў абінавачваецца ў парушэнні закону аб правядзенні масавых мерапрыемстваў. 15 жніўня суд Ленінскага раёна Магілёва аштрафаваў Мікалая Гладышава за несанкцыяваны пікет на 10 базавых велічынь.

10 жніўня падчас правядзення нацболамі спартыўна-палявых збораў у раёне Воўкавічскага вадасховішча ў Мінскім раёне з прымяненнем фізічнай сілы і слезацечнага газу былі затрыманы 12 юнакоў. Не паспелі актывісты раскласці палаткі, як іх лагер быў акружаны шасцю аўтамабілямі, з

якіх выскачылі людзі ў міліцэйскай форме і ў цывільным. Яны не прадставіліся і з выкарыстаннем фізічнай сілы паклалі ўсіх прысутных на зямлю тварам уніз. Пры гэтым да Дзяніса Сахара і непаўнагадовага Аляксандра Палякова былі ўжытыя спецсродкі — слезацечны газ і кайданкі. Затым супрацоўнікі міліцыі правялі дагляд рукзакоў. Міліцыянты і супрацоўнікі КДБ размаўлялі выключна матам, ужывалі пагрозы, запалохванне і фізічную сілу. Усіх затрыманых адвезлі ў аддзяленне міліцыі ў Ждановічах, дзе былі складзены пратаколы за «распіццё алкагольных напояў у грамадскім месцы», хаця дзеянне адбывалася ў глухім лесе, і спіртныя напоі ўдзельнікамі паходу не распіваліся, паколькі мерапрыемства насіла спартыўны характар. Намеснік начальніка аддзялення Пяткевіч адразу ж вынес пастановы аб прыцягненні 11 удзельнікаў мерапрыемства да адміністрацыйнай адказнасці і аштрафаваў кожнага на суму ад 100 да 800 тысяч рублёў. Дзяніса Сахара абвінавацілі ў непадпарадкаванні законным патрабаванням службовай асобы (арт 23.4 КаАП РБ) і адвезлі ў ІЧУ Мінскага раёна да суда. 12 жніўня ў судзе Мінскага раёна суддзя Андрэй Бяліла пачаў разгляд адміністрацыйнай справы Дзяніса Сахара. Актывіст падаў хадатайніцтва дапытаць сведак са свайго боку, а таксама міліцыянтаў. Суддзя задаволіў хадатайніцтва, суд быў перанесены на 26 жніўня. У гэты дзень на разгляд справы ў суд не з'явіліся ўсе сведкі, таму працяг працэсу быў перанесены на 4 верасня.

13 жніўня ў адным са шматпавярховых дамоў Віцебска супрацоўнікі Кастрычніцкага РАУС быў затрыманы пенсіянер Андрэй Андрэеў за распаўсюд улётак пра «Народны рэферэндум». На затрыманага быў складзены пратакол за парушэнне заканадаўства аб СМІ —паводле артыкула 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях. Улёткі былі канфіскаваны падчас складання пратакола ў Кастрычніцкім РАУС, матэрыялы справы перададзены ў суд Кастрычніцкага раёна Віцебска.

14 жніўня ў Бабруйску каля прахадной «Белшыны» падчас распаўсюду бюлетэня «Голас розуму» былі затрыманы лідар АГП Анатоль Лябедзька і ягоны паплечнік Віктар Бузінаеў. А. Лябедзька і В. Бузінаеў атрымалі позвы з'явіцца ў міліцыю 20 жніўня. У гэты дзень маёр міліцыі Сяргей Рудзько паведаміў старшыні бабруйскай суполкі АГП Віктару Бузінаеву, што на актывіста будзе складацца пратакол аб адміністрацыйным парушэнні за парушэнне заканадаўства аб СМІ, але пратакол так і не быў складзены. Анатоль Лябедзька адмовіўся прыязжаць на сустрэчу з маёрам Рудзько.

24 жніўня ў першай палове дня міліцыя перапыніла аргмерапрыемства ў офісе кампаніі «Гавары праўду» ў Мінску, дзе праводзіліся заня-

ткі для сяброў кампаніі з рэгіёнаў. Міліцыя спачатку заблакавала дзверы офіса, не даючы нікому магчымасці выйсці, пасля гэтага каля 30 чалавек пасадзілі ў аўтазакі і павезлі ў РУУС Кастрычніцкага раёна Мінска. Усіх пратрымалі ў РУУС больш за тры гадзіны, а потым вызвалілі. У офісе міліцыяй былі канфіскаваны друкаваныя матэрыялы, звязаныя з «Народным рэферэндумам».

26 жніўня ў судзе Баранавіцкага раёна і горада Баранавічы адбыўся разгляд адміністрацыйнай справы грамадскага актывіста і прадпрымальніка Мікалая Чарнавуса, на якога маёр міліцыі Дзмітрый Мізгер склаў два пратаколы адміністрацыйнага правапарушэння па ч.3 арт.23.34 (арганізацыя і правядзенне несанкцыянаванага масавага мерапрыемства) падчас мітынгаў баранавіцкіх прадпрымальнікаў 27 чэрвеня і 1 ліпеня 2013 года. Загадчыца аддзела ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі Баранавіцкага гарвыканкама Таццяна Чылік даводзіла суду, што менавіта Мікалай Чанавус быў арганізатарам несанкцыянаваных акцый прадпрымальнікаў. Такой жа думкі прытрымліваўся ў судзе дырэктар Баранавіцкага кааператыўнага рынку Віталь Рахмеджанаў. Мікалай Чарнавус не прызнаў сябе вінаватым ў арганізацыі страйкаў, даводзячы, што гэта былі стыхійныя сходы. Суд не прызнаў Мікалая Чарнавуса вінаватым у арганізацыі несанкцыянаваных акцый пратэсту прадпрымальнікаў, але прызнаў яго актыўным удзельнікам і прысудзіў яму адміністрацыйны штраф у памеры 21 базавай велічыні.

27 жніўня каля будынку пасольства Расіі ў Мінску магілёўскі актывіст АГП Мікалай Гладышаў правёў адзіночны пікет супраць размяшчэння ў Беларусі расійскіх вайсковых баз. Ён разгарнуў плакат: «Не — замежным ваенным базам! Расійскія вайскоўцы, прэч». Праз 15 хвілін яго затрымала міліцыя. У гэты ж дзень суд Цэнтральнага раёна асудзіў М. Гладышава на 10 сутак адміністрацыйнага арышту па абвінавачанні ў парушэнні парадку арганізацыі і правядзення масавага мерапрыемства па арт. 23.34 КаАП РБ. Рашэнне вынесла суддзя Вікторыя Шабуня.

28 жніўня суддзя Першамайскага суда Мінска Сяргей Бандарэнка разгледзеў адміністрацыйную справу былога палітвязня Уладзіміра Яроменкі аб парушэнні ім правіл адбыцця прэвентыўнага нагляду (ч.2 арт. 24.12 КаАП РБ). Суддзя прызнаў актывіста вінаватым і аштрафаваў яго на 10 базавых велічынь.

29 жніўня ў Мінску перад прэсавай канферэнцыяй вызваленага напярэдадні з турмы Дзмітрыя Дашкевіча быў затрыманы былы актывіст «Ма-

ладога Фронту» Мікалай Дземідзенка. Суд Цэнтральнага раёна прызнаў яго вінаватым у парушэнні арт. 23.4 КаАП (непадпарадкаванне законным патрабаванням службовай асобы) і асудзіў на 12 сутак арышту.

## Абмежаванні свабоды слова і права на распаўсюд інфармацыі, пераслед журналістаў

2 жніўня віцебскія журналісты Сяргей Серабро і Алена Сцяпанава ў адзін дзень атрымалі аднолькавыя лісты з загалоўкам «Ведай, куды язык можа давесці». Невядомы, падпісаўшыся імем Яўген Мішакоў, выказваў крытыку інфармацыйнай палітыцы «Радыё Свабода» і «БелаПАН» і зневажаў незалежных журналістаў. Алена Сцяпанава распавяла, што подпіс, найхутчэй, выдуманы, а адрас заведзены, верагодна, для «разавай адпраўкі». Калі журналістка запыталася ў Яўгена Мішакова, ці не блытае ён чагосьці, адказу не атрымала. Напрыканцы ліста былі змешчаны відавочныя пагрозы, накшталт таго, то праз «доўгі язык» журналісты могуць трапіць у «месцы не такія аддаленыя». У апошнім абзацы ліста незалежным журналістам «нагадалі» пра існаванне Закона «Аб асновах дзейнасці па прафілактыцы правапарушэнняў», а таксама артыкулы Крымінальнага кодэкса «Дыскрэдытацыя Рэспублікі Беларусь» і «Заклікі да дзеянняў, накіраваных на шкоду знешняй бяспецы Рэспублікі Беларусь, яе суверэнітэту, тэрытарыяльнай недатыкальнасці, нацыянальнай бяспецы і абароназдольнасці».

13 жніўня Руслан Мірзоеў, аўтар відэаролікаў «Хронікі завода» пра жыццё Мінскага аўтамабільнага завода, быў асуджаны на 7 сутак арышту. Праваахоўныя органы зацікаваліся, ці праўдзівыя звесткі ў роліках Мірзоева, якія ён здымаў у сталічным раёне Курасоўшчына. Той растлумачыў, што рабіў пастаноўкі. У выніку суд вырашыў асудзіць яго за нецэнзурную лаянку, паколькі ў роліках гучалі мацюкі. Рашэнне выносіла суддзя Ала Булаш.

17 жніўня да блогера са Светлагорска Генадзя Жулегі прыйшлі супрацоўнікі міліцыі, якія з санкцыі пракурора правялі вобыск і канфіскавалі кампутар. Дзеянні міліцыі былі звязаны з размяшчэннем блогерам 6 жніўня на сваіх старонках у сацыяльных сетках знятага ім відэароліка пра дом старшыні Светлагорскага райвыканкама. Пасля гэтага ролік з'явіўся на некалькіх навінавых сайтах. Г.Жулега і раней здымаў ролікі пра жыццё ў райцэнтры, нявырашаныя сацыяльныя праблемы горада. «Дом старшыні райвыканкама я здымаў, не адмаўляю. На ўсе пытанні, на ўсе нявырашаныя праблемы ў горадзе ўлады адказваюць: няма грошай. Я гэтым ролікам паказаў, што грошы ёсць, толькі вось выдаткоўваюцца яны на

будаўніцтва дамоў для начальства, а не на вырашэнне праблем грамадзян», — патлумачыў блогер. Супрацоўнікі міліцыі растлумачылі блогеру, што жонка старшыні райвыканкама напісала заяву, што ролікам, размешчаным у інтэрнэце, ён зганьбіў гонар і годнасць яе сям'і, а інфармацыя на відэа носіць паклёпніцкі характар і просіць прыцягнуць яго да ўстаноўленай законам адказнасці. Міліцыянты паведамілі Генадзю Жулегу, што яго кампутар будуць правяраць, а потым будзе вырашацца пытанне аб прыцягненні яго да адказнасці.

19 жніўня ў салігорскім офісе «Беларуськалія» адбылася прэсавая канферэнцыя кіраўніцтва прадпрыемства, на якую прадстаўнікі СМІ былі дапушчаны выбарачна. 16 жніўня на спробу карэспандэнта Радыё «Свабода» акрэдытавацца намеснік дырэктара па кадрах і ідэалагічнай працы «Белкалію» Анатоль Махлай адказаў, што мусіць параіцца з генеральным дырэктарам Валерыем Кірыенкам і папрасіў затэлефанаваць раніцай 19 жніўня. Аднак гендырэктар адмовіў карэспандэнту «Свабоды» ў магчымасці прысутнічаць на прэс-канферэнцыі, заявіўшы, што радыё не выклікае даверу, адпаведна, і прысутнасьць журналіста непажаданая.

20 жніўня каля прахадной завода «Магілёўхімвалакно» быў затрыманы карэспандэнт «БелаПАН» Алесь Асіпцоў. Журналіст знаходзіўся на прылягаючай да прадпрыемства тэрыторыі, дзе праводзіў апытанне з нагоды памераў заробкаў на прадпрыемстве. Гэта не спадабалася ахове прадпрыемства, якая вырашыла яго затрымаць. Журналісту паведамілі, што тэрыторыя, дзе ён знаходзіўся, належыць прадпрыемству, і сваё месца знаходжанне там трэба ўзгадняць. Ахова выклікала міліцыю, якая ўзяла ў журналіста пісьмовае тлумачэнне, пасля чаго А. Асіпцоў быў адпушчаны.

24 жніўня прыкладна ў 16.30 каля РУУС Кастрычніцкага раёна Мінска быў затрыманы відэааператар «БелаПАН» Васіль Сямашка падчас выканання службовых абавязкаў — здымак актывістаў «Гавары праўду», якія выходзілі з міліцэйскага будынка. У міліцыі журналіста пратрымалі каля гадзіны, пры гэтым выдалілі адзняты відэаматэрыял — інтэрв`ю з намеснікам старшыні грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду» Андрэем Дзмітрыевым. Паводле слоў В.Сямашкі, неабходнасць выдалення сюжэта міліцыянеры матывавалі тым, што інтэрв`ю знята на фоне будынка РУУС. Ніякіх папер у дачыненні да журналіста ў міліцыі не складалася.

28 жніўня віцебскага незалежнага журналіста Уладзіміра Жыгулова выклікалі ў пракуратуру па позве на 3-га верасня. Журналіст патэлефа-

наваў па нумары, указаным на бланку, але яму адмовіліся тлумачыць непасрэдныя прычыны выкліку. У позве было напісана: «для тлумачэнняў па пытанні парушэння заканадаўства аб СМІ» Уладзімір Жыгулоў мусіць з'явіцца да пракурора аддзела па нагляду за выкананнем заканадаўства і законнасцю прававых актаў П.М.Зайцава.

## Абмежаванне свабоды сходаў

1 жніўня магілёўскія праваабаронцы Барыс Бухель і Аляксей Колчын атрымалі адмову на правядзенне пікету з патрабаваннем вызвалення Алеся Бяляцкага, які мусіў адбыцца 4 жніўня ў цэнтры горада. Адпаведны адказ падпісаны кіраўніком справамі Магілёўскага гарвыканкама Ігарам Аўсеенкам. У лісце гаворыцца, што ў горадзе існуе вызначанае для масавых мерапрыемстваў месца, якое знаходзіцца на ўскрайку горада на стадыёне «Хімік», каля дома 64в па вуліцы Чалюскінцаў і што масавыя мерапрыемствы варта праводзіць там, а ніяк не ў цэнтры горада. 19 жніўня Б. Бухель і А. Колчын падалі скаргу ў суд Кастрычніцкага раёна Магілёва на рашэнне аб адмове ў правядзенні пікета.

1 жніўня брэсцкім прадстаўнікам Праваабарончага цэнтра «Вясна» забаранілі праводзіць 4 жніўня акцыю ў падтрымку палітзняволенага Алеся Бяляцкага. Заяўку на арганізацыю мерапрыемства падаваў Уладзімір Вялічкін. У адмове чыноўнікі спасылаюцца на парушэнні закона «Аб масавых мерапрыемствах», звяртаючы ўвагу на адсутнасць дамоваў на абслугоўванне тэрыторыі дзяржаўнымі службамі. Праваабаронца Уладзімір Малей лічыць, што адмова ў правядзенні пакетавання — неправамерная, паколькі парушаюцца канстытуцыйныя правы на свабоду выказвання меркавання і мірных сходаў.

1 жніўня заяўнікі на правядзенне пікета салідарнасці з палітвязнямі ў Рэчыцы — В. Пуціцкі і А. Шабетнік атрымалі адмову за подпісам першага намесніка старшыні райвыканкама В.Г. Атаманчука. Пікет салідарнасці быў замоўлены на 4 жніўня каля гарадскога Дома культуры. У лісце з райвыканкама сказана, што ў горадзе існуе вызначанае для масавых мерапрыемстваў месца, якім з'яўляецца асфальтаваная пляцоўка ў парку культуры і адпачынку «Перамога».

2 жніўня гомельскім прадстаўнікам Беларускай партыі левых «Справядлівы свет» адмовілі ў правядзенні пікета, запланаваным на 6 жніўня з мэтай прапаганды і данясення да насельніцтва ідэй партыі. Мерапрыемства планавалася на адзінай дазволенай у горадзе пляцоўцы каля

ДК таварыства глухіх «Віпра». Старшыня абласной арганізацыі партыі Уладзімір Сякерка загадзя заключыў платныя дамовы са спецыяльнымі службамі, прынамсі, з камунальнікамі і хуткай медыцынскай дапамогай. Але намеснік старшыні гарвыканкама Аксана Рудзянок дала гомельскім левым адказ, што «згодна працоўнаму плану па арганізацыі фестывалю «Сожскі карагод», на пляцоўцы каля ДК «Віпра» 6 жніўня будзе рэпетыцыя творчых калектываў, таму ўзгадніць правядзенне пікета не ўяўляецца магчымым». Фестываль «Сожскі карагод» плануецца ў Гомелі 14-15 верасня.

2 жніўня заяўнікі пікета салідарнасці з Алесем Бяляцкім і ўсімі палітвязнямі ў Бабруйску атрымалі афіцыйны адказ, што правядзенне мерапрыемства не дазволена. У лісце за подпісам намесніка старшыні гарвыканкама Віктара Дзесятніка ўказана некалькі прычын для адмовы. Чыноўнік напісаў, што бабруйчане няправільна аформілі заяву, не пазначылі від масавага мерапрыемства. «У асноўных паняццях, якія ўжываюцца ў артыкуле 2 Закона, адсутнічае паняцце «пікет», што не дазваляе дакладна вызначыць від масавага мерапрыемства, заяўленага Вамі», — гаворыцца ў лісце. Таксама Дзесятнік адзначыў, што заяўнікі мусілі ўказаць меры, якія будуць імі прынятыя для забеспячэння бяспекі, медыцынскага абслугоўвання і прыборкі тэрыторыі і ўзгадніць «парадак аплаты гэтых паслуг». У лісце гаварыцца, што да атрымання дазволу на правядзенне пікета нельга распаўсюджваць інфармацыю аб ім. «А на інтэрнэт-сайтах «Бабруйскага кур'ера» была размешчана інфармацыя аб правядзенні вышэйназванага масавага мерапрыемства». Напрыканцы ліста заяўнікаў традыцыйна папярэдзілі аб адказнасці, якую яны панясуць у выпадку ўдзелу ў несанкцыянаваным мерапрыемстве.

3 жніўня гарадзенскія праваабаронцы атрымалі адмову на правядзенне пікета 4 жніўня ў падтрымку зняволенага кіраўніка ПЦ «Вясна» Алеся Бяляцкага. Адпаведны ліст з гарвыканкама прыйшоў праз пошту Уладзіміру Хільмановічу. Такім чынам, заяўнікі даведаліся пра адмову ў правядзенні пікета фактычна за дзень да часу яго прызначэння. Само рашэнне Гарадзенскага гарвыканкама за подпісам намесніка старшыні З.В. Кулешы датавана 1 жніўня. Між тым, заканадаўства абавязвае мясцовыя органы ўлады паведамляць пра сваё рашэнне на прадмет дазволу (забароны) правядзення масавага мерапрыемства за 5 дзён да даты плануемага мерапрыемства. Адмова гарвыканкама праводзіць заяўнікам пікет тлумачыцца тым, што з пункту гледжання мясцовай улады заяўнікі не прадставілі «заключаныя з адпаведнымі службамі дамовы для забеспячэння грамадскага парадку, медыцынскага абслугоўван-

ня і прыборкі тэрыторыі». Увечары 2 жніўня кватэру аднаго з заяўнікаў Рамана Юргеля наведаў участковы міліцыянер, які папярэдзіў праваабаронцу пра адміністрацыйную адказнасць за правядзення несанкцыянаванага мерапрыемства. Пры тым пастановы гарвыканкама наконт забароны ці дазволу правядзення пікета ў міліцыянта на руках не было. Праваабаронца Віктар Сазонаў атрымаў праз пошту афіцыйны адказ Гарадзенскага гарвыканкама на заяўку пра правядзенне пікета толькі 6 жніўня.

8 жніўня стала вядома, што Жлобінскі раённы выканаўчы камітэт не дазволіў правесці два пікеты, якія планавалі зладзіць сябры партыі «Справядлівы свет» 9 і 10 жніўня. Адпаведныя лісты за подпісам старшыні райвыканкама Генадзя Суздалева атрымаў кіраўнік раённай партыі левых Валеры Рыбчанка. Абодва пікеты планавалася правесці ў парку «Прыдняпроўскі». Першы з іх быў прысвечаны праблеме, з якой сутыкнуўся Свабодны прафсаюз металістаў: Мінюст адмовіў прафсаюзу вярнуць пячатку і дакументы. Рыбчанка і ягоныя паплечнікі збіраліся звярнуць увагу жыхароў Жлобіна да гэтай сітуацыі, але старшыня Жлобінскага райвыканкама патлумачыў сябру партыі «Справядлівы свет», што да заявы па правядзенні пікета не былі прыкладзены дамовы, якія прадугледжаны заканадаўствам. Другі пікет, запланаваны на 10 жніўня, які меў на мэце данясенне ідэй партыі і бачанне праблем, што стаяць перад Жлобінам, забаранілі праводзіць па той прычыне, што ў гэты час у парку будуць праводзіцца мерапрыемствы, прысвечаныя Дню будаўніка.

8 жніўня стала вядома, што Светлагорскі раённы выканаўчы камітэт адмовіў сябрам партыі «Справядлівы свет» у правядзенні пікета, які мусіў адбыцца ў парку культуры і адпачынку 10 жніўня. Старшыня светлагорскай раённай партыі левых Сяргей Дайнэка паведаміў, што пікет быў заяўлены з мэтай прыцягенння ўвагі жыхароў Светлагорска да ідэй партыі і для таго, каб вырашыць адну з асноўных праблем горада — стан парку культуры і адпачынку, які знаходзіцца ў жудасным стане. У лісце за подпісам намесніка старшыні райвыканкама Мяркулава адзначалася, што менавіта ў гэты дзень і гэты час, з 11 да 14 гадзін, у гарадскім парку ладзіцца культурна-спартыўнае мерапрыемства «Моладзь. Здароўе. Лад жыцця».

8 жніўня стала вядома пра забарону пікета Свабоднага прафсаюза металістаў (СПМ), які быў запланаваны на 9 жніўня ў вызначаным гарвыканкамам месцы. Актывісты СПМ мелі намер пратэставаць супраць

таго, што Міністэрства юстыцыі затрымлівае выдачу кіраўніку прафсаюза Аляксандру Бухвоставу Статут прафсаюза і пячаткі. Сваю адмову мясцовыя ўлады патлумачылі тым, што міліцыя не можа забяспечыць ахову правапарадку падчас масавага мерапрыемства.

11 жніўня Брэсцкі гарвыканкам адмовіў мясцовым актывістам грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду» праводзіць пікет, падчас якога планавалася звярнуць увагу на бездарожжа ў мікрараёне Паўднёвы. Як адзначыў Ігар Маслоўскі, удзельнікі акцыі мелі намер выказаць пратэст у сувязі з ігнараваннем чыноўнікамі патрабаванняў, выкладзеных у калектыўным звароце (свае подпісы паставілі 1100 чалавек). Пікет планавалася ладзіць 12 жніўня каля супермаркета «Еўраопт» у мікрараёне — побач з праблемнай тэрыторыяй. Аднак брэсцкія ўлады забаранілі акцыю на той падставе, што ў гэтым месцы правядзенне падобных мерапрыемства не прадугледжана. Паводле Маслоўскага, «падымаць праблемы жыхароў мікрараёна Паўднёвы ў іншых месцах горада, дзе правядзенне акцый дазволена, не мае сэнсу».

12 жніўня старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі АГП Уладзімір Шанцаў атрымаў адказ з Магілёўскага гарвыканкама, у якім чыноўнікі адмовілі ў правядзенні мітынга і шэсця 18 жніўня ў дазволеным для такіх мерапрыемстваў месцы на стадыёне «Хімік» супраць размяшчэння на тэрыторыі Беларусі расійскай авіябазы.

16 жніўня салігорскі грамадскі актывіст Уладзімір Шыла звярнуўся ў Канстытуцыйны суд. Ён лічыць неабходным змяніць правапрымяняльную практыку органаў выканаўчай улады і судоў агульнай юрысдыкцыі ў сувязі са сталымі адмовамі ў правядзенні масавых мерапрыемстваў. Толькі ў 2012 годзе актывіст атрымаў 37 забарон на свае заявы. Як вядома, грамадзяне Беларусі не маюць права ўносіць пытанні на разгляд у Канстытуцыйны суд наўпрост, але нішто не забараняе суду выказваць сваё меркаване паводле зваротаў грамадзян, лічыць Уладзімір Шыла. Актывіст таксама напісаў у звароце, каб Канстытуцыйны суд прапанаваў судам агульнай юрысдыкцыі пры вырашэнні спрэчак аб забароне на правядзенне масавых мерапрыемстваў сыходзіць з прыярытэту артыкулаў Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах ды канстытуцыйнага права грамадзян на мірныя сходы і на свабоднае выказванне свайго меркавання. Дзеля больш эфектыўнага вырашэння праблемы Уладзімір Шыла лічыць неабходным крокам з боку Канстытуцыйнага суда прапанаваць Нацыянальнаму Сходу Рэспублікі Беларусь унесці адпаведныя змены ў Закон «Аб масавых мерапрыемствах».

17 жніўня Хрыстафор Жаляпаў, каардынатар Руху «За свабоду» па Віцебскай вобласці, атрымаў адказ на калектыўны ліст ад намесніка старшыні аблвыканкама А. Дзіуліна. Больш як 40 мясцовых жыхароў прасілі адмяніць рашэнне гарвыканкама наконт парадку правядзення масавых акцый. Адказ чыноўнікаў аблвыканкама — адмоўны. Віцебскія актывісты на працягу ўжо больш як трох гадоў спрабавалі атрымаць дазволы на правядзеньне масавых мерапрыемстваў, але раённыя адміністрацыі такіх дазволаў не даюць. Яны спасылаюцца на рашэнне віцебскага аблвыканкама, якога заяўнікі акцый выканаць проста не могуць. Так, паводле рашэння гарадскіх уладаў, арганізатары мусяць разам з заяўкай падаваць у раённыя адміністрацыі і копіі дамоваў на абслугоўванне мерапрыемстваў. Але адказныя структуры адмаўляюцца ад заключэння дамоваў з актывістамі паводле розных прычын. А некалькі разоў заяўнікам наўпрост казалі, што заключаць дамоваў не будуць, пакуль няма станоўчага рашэння раённых адміністрацый. У адказе А.Дзіуліна напісана, што ўсе ранейшыя адмовы актывісты атрымлівалі на законных падставах, і што рашэнне гарвыканкама таксама цалкам законнае.

19 жніўня грамадскі актывіст з Клімавіцкага раёна Аляксандр Балобін атрымаў з мясцовага райвыканкама адказ на заяўку аб правядзенні пікета салідарнасці з беларускімі палітвязнямі. У адказе за подпісам намесніка старшыні райвыканкама А. Ламанава гаворыцца, што Клімавіцкі райвыканкам разгледзеў заяву па пытанні правядзення пікетавання на цэнтральным рынку горада 23 жніўня. «Цэнтральны рынак знаходзіцца ў прыватнай уласнасці. Для прыняцця мер пісьмовага рэагавання па вашаму звароту вам неабходна атрымаць пісьмовы дазвол дырэктара прыватнага ўнітарнага прадпрыемства па аказанні паслуг «Клімавіцкі цэнтральны рынак» Давыдава А. М. на правядзенне масавага мерапрыемства».

26 жніўня стала вядома, што Камітэт па правах чалавека ААН прызнаў парушанымі правы жыхароў Брэста Ірыны Лаўроўскай, Дзяніса Турчаняка, Валерыя Фамінскага і Рамана Кісляка наконт выказвання меркаванняў і свабоды мірных сходаў. Нагодай для звароту ў Камітэт па правах чалавека ААН стала тое, што мясцовыя ўлады забаранілі правядзення пікетаў па розных пытаннях, звязаных з усталяваннем помніка да 1000-годдзя Брэста. Акцыі былі забаронены на той падставе, што ў горадзе вызначана толькі адзінае месца для пікетавання — стадыён «Лакаматыў», а актывісты спрабавалі ладзіць пікеты на вуліцы Гогаля — побач з месцам, дзе планавалася ўсталяваць помнік. Спробы абскардзіць дзеянні брэсцкіх улад у беларускіх судах не далі плёну, пасля чаго ў канцы 2009 года скарга была накіравана ў Камітэт па правах чалавека ААН.

## Абмежаванне свабоды асацыяцый

7 жніўня Вярхоўны суд не задаволіў скаргу прадстаўнікоў кампаніі «Гавары праўду» на адмову Міністэрства юстыцыі ў рэгістрацыі грамадскага аб'яднання. Адпаведнае рашэнне агучыла суддзя Валянціна Кулік. Адмову ў рэгістрацыі Мінюст аргументаваў двума парушэннямі, якія «носяць неадольны характар». У якасці аднаго з парушэнняў Мінюст указаў на пратэрмінаваны гарантыйны ліст адносна юрыдычнага адраса. Аднак, як сцвярджаюць прадстаўнікі кампаніі «Гавары праўду», на час падачы дакументаў у міністэрства (8 траўня) гарантыйны ліст быў сапраўдным, тэрмін яго дзеяння завяршаўся 31 траўня, і Мінюст цягнуў з адказам да апошняга, а потым заявіў, што ў аб'яднання няма юрыдычнага адраса. Другое парушэнне, з пункту гледжання чыноўнікаў, заключалася ў тым, што не вызначаны колькасны склад праўлення, але ён вызначаны ў складзе пяці чалавек, былі пералічаны прозвішчы. Устаноўчы сход «Гавары праўду!» адбыўся 13 красавіка ў Мінску. У ім узялі ўдзел каля 60 дэлегатаў з Мінска і абласцей Беларусі. Старшынёй арганізацыі быў абраны Уладзімір Някляеў, яго намеснікам — Андрэй Дзмітрыеў. Гэта была ўжо трэцяя спроба грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду» прайсці афіцыйную рэгістрацыю.

21 жніўня Вярхоўны суд адмовіў у задавальненні скаргі на адмову Міністэрства юстыцыі ў рэгістрацыі моладзевага грамадскага аб'яднання «Маладыя дэмакраты». Такое рашэнне вынес суддзя Ігар Мільто. На думку Мінюста, у ходзе праверкі дакладнасці пададзеных для рэгістрацыі аб'яднання дакументаў былі выяўленыя «шматлікія парушэнні». Так, у спісах заснавальнікаў не ўтрымліваюцца ўсе вызначаныя законам звесткі. Акрамя таго, пры правядзенні праверкі звестак пра асоб, якія ўказаны ў спісах, Мінюст устанавіў недакладнасць звестак пра шэраг заснавальнікаў аб'яднання ад Гродзенскай вобласці, у сувязі з чым спісы прызнаны несапраўднымі. Гэта не першая спроба афіцыйнай рэгістрацыі «Маладых дэмакратаў». Папярэдні з'езд адбыўся 29 студзеня 2011 года. Міністэрства таксама адмовіла ў рэгістрацыі, матывуючы тым, што «асноўныя палажэнні статута МГА «Маладыя дэмакраты» не адпавядаюць патрабаванням заканадаўства, а сама назва арганізацыі супярэчыць палажэнням яе статуту».

21 жніўня адмоўлена ў рэгістрацыі грамадскаму аб'яднанню «Берасцейскія Хрысціянскія Дэмакраты». Як вынікае з адказу галоўнага ўпраўлення юстыцыі Брэсцкага аблвыканкама, падставай для адмовы з'яўляецца тое, што назвы арганізацыі на рускай і беларускай мовах адрозніваюцца. Паводле намесніцы начальніка ўпраўлення Ларысы Ба-

ландзінай, якая падпісала афіцыйны ліст, назва «Берасцейскія Хрысціянскія Дэмакраты» на беларускай мове не адпавядае назве «Брестские Христианские Демократы» на рускай. Пры гэтым скарочаную назву (ГА «БХД») заснавальнікам арганізацыі трэба было ўзгадняць з установай, якая займаецца рэгістрацыяй. Акрамя таго, чыноўніца аблвыканкама заўважыла, што «назва аб'яднання не змяшчае ўказання на характар дзейнасці аб'яднання», што з'яўляецца парушэннем артыкула 12 Закона РБ «Аб грамадскіх аб'яднаннях». Іншых заўваг галоўнае ўпраўленне юстыцыі Брэсцкага аблвыканкама не мела, але палічыла што прэтэнзіі да назвы маюць непераадольны характар, таму арганізацыі і адмовілі ў рэгістрацыі.

# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Верасень

У верасні не было зафіксавана станоўчай дынамікі ў сферы выканання правоў чалавека, сітуацыя заставалася стабільна кепскай, адбывалася далейшая кансервацыя негатыўных тэндэнцый, якія складаліся на працягу апошніх месяцаў.

Вызваленне з месцаў пазбаўлення волі палітвязня Аляксандра Францкевіча стала станоўчай падзеяй, але гэта адбылося не ў выніку канцэптуальных зменаў у падыходзе ўладаў да вырашэння праблемы палітычных зняволеных, а ў выніку сканчэння тэрміну пакарання, таму не можа разглядацца як пазітыўная прыкмета. Пасля вызваленння за А. Францкевічам быў устаноўлены прэвентыўны нагляд на 6 месяцаў, адпаведнае рашэнне пра што было прынята судом яшчэ падчас ягонага знаходжання ў калоніі. Гэта замацавала практыку кантролю за палітвязнямі і іх актыўнасцю пасля адбыцця пакарання. Дадзеная форма кантролю сур'ёзна абмяжоўвае правы былых палітычных зняволеных і стварае магчымасць прыцягнення іх да адказнасці, у тым ліку — крымінальнай, у выпадку парушэнняў вызначаных правілаў нагляду. Пра рэальнасць такой пагрозы сведчаць пакаранні ў выглядзе арыштаў былых палітычных зняволеных Васіля Парфянкова (6 месяцаў у 2012-2013 гг.) і Уладзіміра Яроменкі (рашэнне пра арышт на 3 месяцы суд прыняў у жніўні 2013 года). Акрамя А. Францкевіча, прэвентыўны нагляд у верасні дзейнічаў у адносінах да яшчэ трох былых палітвязняў — Уладзіміра Яроменкі (пастанова суда аб арышце пакуль не ўступіла ў сілу), Дзмітрыя Дашкевіча і Паўла Вінаградава.

Да канца верасня ў месцах пазбаўлення і абмежавання волі працягвалі ўтрымлівацца 10 палітычных зняволеных: Алесь Бяляцкі, Мікалай Статкевіч, Мікалай Аўтуховіч, Эдуард Лобаў, Павел Севярынец, Мікалай Дзядок, Яўген Васьковіч, Арцём Пракапенка, Ігар Аліневіч і Андрэй Гайдукоў. Адсутнасць палітычнай волі беларускіх уладаў на прынцыповае вырашэнне праблемы палітвязняў пакідала ўсё менш аптымізму на іх датэрміновае вызваленне. Ніякіх рэальных крокаў у гэтым накірунку не было прадэманстравана беларускім кіраўніцтвам ні сыходзячы з уласнага рашэння, ні з мэтай выканання патрабавання Еўрапейскага Саюза, які па-ранейшаму вылучаў вызваленне палітвязняў як перадумову ўзнаўлення дыялогу з афіцыйным Мінскам.

Варта адзначыць, што ў верасні замацоўвалася тэндэнцыя апошніх месяцаў нарошчвання Еўрапейскім Саюзам кантактаў з беларускім бо-

кам. Так, у сярэдзіне верасня міністр замежных спраў Уладзімір Макей прыняў удзел у сустрэчы кіраўнікоў МЗС краінаў «Усходняга партнёрства» , якая прайшла ў Ерэване ў рамках трэцяга раўнда нефармальных міністэрскіх дыялогаў. Вельмі актыўна таксама кантактавала з амбасадарамі еўрапейскіх краін і заходнімі калегамі намеснік міністра замежных спраў Беларусі Алена Купчына. Аднак і дадзеныя актыўныя крокі таксама не прынеслі станоўчых зрухаў.

Разуменне складанасці сітуацыі з правамі чалавека ў краіне было зафіксавана ў дакладзе, падрыхтаваным дакладчыкам Еўрапарламента па Беларусі Юстасам Палецкісам для Еўракамісіі, вярхоўнага прадстаўніка ЕС па знешняй палітыцы і палітыцы бяспекі, Рады ЕС і дзяржаў-членаў Еўрасаюза, які быў прэзентаваны 11 верасня ў Страсбургу. Ю.Палецкіс зазначыў, што сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі працягвае заставацца цяжкай. Еўракамісар па пытаннях пашырэння і добрасуседства Штэфан Фюле, які выступаў ад імя вярхоўнага прадстаўніка ЕС па пытаннях знешняй палітыкі і палітыкі бяспекі, зазначыў, што выкладзеныя ў дакладзе рэкамендацыі «дапамогуць у вырашэнні пытання, як знайсці выйсце са складанай сітуацыі ў краіне-суседцы». Ён заявіў, што ЕС гатовы паўнавартасна супрацоўнічаць з Мінскам пры ўмове, што «ўсе палітычныя зняволеныя будуць вызвалены і рэабілітаваны, а Беларусь прадэманструе прагрэс у сферы захавання правоў чалавека». Ш.Фюле адзначыў таксама, што пасля прызначэння Уладзіміра Макея міністрам замежных спраў уладамі Беларусі быў зроблены шэраг захадаў для наладжвання адносінаў з ЕС.

Пра «паступовае наладжванне» двухбаковых адносінаў паміж Беларуссю і ЕС заявіў па выніках свайго візіту ў Мінск і кіраўнік дэпартамента Расіі, Усходняга партнёрства, Цэнтральнай Азіі, рэгіянальнага супрацоўніцтва і АБСЕ Еўрапейскай службы знешніх дзеянняў Гунар Віганд. Еўрачыноўнік знаходзіўся з рабочым візітам у Беларусі 24—25 верасня. Ён назваў свой візіт часткай спроб Еўрасаюза «стаць бліжэй да Беларусі ў межах Усходняга партнёрства», саміт якога запланаваны на канец лістапада ў Вільнюсе: «Чакаем, што Беларусь будзе ўдзельнічаць у саміце і атрымае запрашэнне на яго ў такім жа фармаце, як і іншыя краіны-партнёры». Г. Віганд зноў нагадаў, што» вызваленне і рэабілітацыя палітзняволеных па-ранейшаму застаюцца «неабходнай і абавязковай умовай для нармалізацыі адносін Еўрасаюза і Беларусі і рэалізацыі іх поўнага патэнцыялу».

Важным крокам да незаангажаванай ацэнкі сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі стаў даклад Спецыяльнага дакладчыка ААН Міклаша Харашці, падрыхтаваны да 68-ай сесіі Генеральнай асамблеі ААН і аб-

народаваны ў сярэдзіне верасня. У дакладзе Спецыяльны дакладчык надае асноўную ўвагу пытанню аб правах чалавека ў кантэксце выбарчых працэсаў у Беларусі. Ён разглядае характэрныя віды парушэнняў правоў чалавека мэтанакіраванага і сістэмнага характару, у выніку чаго Беларусь з'яўляецца адзінай краінай у Еўропе, у якой на працягу апошняга дзесяцігоддзя ў парламент не было абрана ні аднаго апазіцыянера. Спецыяльны дакладчык прадставіў рэкамендацыі для паляпшэння становішча ў галіне правоў чалавека ў Беларусі ў адпаведнасці з яе міжнароднымі абавязацельствамі.

## Палітычныя зняволеныя, крымінальны пераслед грамадскіх актывістаў

3 верасня пасля адбыцця трохгадовага тэрміну пазбаўлення волі з Івацэвіцкай калоніі быў вызвалены палітвязень Аляксандар Францкевіч. Ён распавёў, што ўвесь час адчуваў ціск, а апошнія пяць месяцаў правёў у памяшканні камернага тыпу. А. Францкевіч адзначыў, што ў калоніі вельмі дрэннае харчаванне — пражыць можна толькі з таго, што дасылаюць сваякі, а з гародніны, якую давалі ў турме, была толькі морква. Аляксандар накіраваўся ў Наваполацк, дзе яму прызначылі прэвентыўны нагляд на паўгода, але не выключыў пераезду ў Мінск, каб мець магчымасць аднавіцца ў кампутарнай фірме, дзе працаваў да арышту.

3 верасня экспертная камісія, на разгляд якой Ашмянская мытня накіравала зборнік літаратуразнаўчых эсэ і нарысаў Алеся Бяляцкага «Асьвечаныя Беларушчынай», што выйшаў у свет за час зняволення аўтара, прыйшла да высновы, што кніга «можа нанесці ўрон іміджу Рэспублікі Беларусь». 40 асобнікаў выдання былі канфіскаваныя ў праваабаронцы Тацляны Рэвяка на беларуска-літоўскай мяжы ў пункце пропуску «Каменны Лог» 3 ліпеня 2013 года. Экспертызу праводзілі дацэнт кафедры гісторыі Беларусі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Я. Купалы Уладзімір Ягорычаў і загадчык кафедры крымінальнага права і крыміналогіі юрыдычнага факультэта гэтага ж універсітэта Вадзім Хілюта. З даведкі экспертнай камісіі вынікае, што «эксперты» ў кнізе Алеся Бяляцкага шукалі «экстрэмізм». 25 верасня зняволены кіраўнік Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесь Бяляцкі адзначыў сваё 51-годдзе. Гэта ўжо трэці Дзень нараджэння, які праваабаронца сустрэў у месцах пазбаўлення волі. 30 верасня Парламенцкая асамблея Савета Еўропы прыняла рашэнне аб ўганараванні Алеся Бяляцкага прэміяй імя Вацлава Гавела ў галіне правоў чалавека. Старшыня ПАСЕ Жан-Клод Міньён павіншаваў з узнагародай жонку праваабаронцы Наталлю Пінчук, якая прысутнічала на цырымоніі.

4 верасня стала вядома, што палітвязень Яўген Васьковіч, асуджаны на 7 гадоў пазбаўлення волі па абвінавачанні ў спробе падпалу дзвярэй бабруйскага КДБ, у турме быў пазбаўлены газет. Пра гэта з ліста ўнука даведалася яго бабуля Тамара Уладзіміраўна, якая не атрымлівала ніякіх звестак амаль паўтары месяцы.

5 верасня Валянціна Аліневіч, маці палітвязня Ігара Аліневіча, паведаміла, што ад сына два тыдні няма званкоў і лістоў, а пасылкі з літаратурай забароненыя — дазволена толькі падпіска на друкаваныя выданні. Такія правілы ўведзены новым начальнікам Наваполацкай калоніі №10, дзе палітвязень адбывае пакаранне. 24 верасня Ігар Аліневіч сустрэў у зняволенні сваё 30-годдзе. У гэты дзень да яго прыехаў адвакат, адразу пасля сустрэчы з якім да Аліневіча прыйшоў дзяжурны і сказаў, што за тое, што Ігар не выйшаў на працу ў гэты дзень, яго караюць карцарам. Асаблівасць сітуацыі ў тым, што Аліневіч быў прыняты ў прафесійна-тэхнічнае вучылішча, а такія зняволеныя вызваляюцца ад працы. Пасля карцара І.Аліневіча выключылі з вучылішча без тлумачэння прычын.

9 верасня Марына Адамовіч, жонка Мікалая Статкевіча паведаміла пра працяг ціску на палітвязня з мэтай атрымання прашэння аб памілаванні. У сваім лісце М. Статкевіч напісаў, што 21 жніўня падчас ранішняга абыходу адзін з начальнікаў аддзелаў Магілёўскай турмы заявіў яму, што «хопіць гуляць у казакі-разбойнікі, пара прымаць рашэнне», бо хопіць сядзець. М. Статкевіч адказаў яму, што мужчынскае рашэнне ён ужо даўно прыняў. У пачатку верасня М. Статкевіча па ініцыятыве адміністрацыі турмы выклікалі ў медсанчастку, але палітвязень выказаў недавер работнікам турэмнай медыцыны і адмовіўся адказваць на пытанні, датычныя ягонага здароўя. Адмова была звязана з тым, што пасля таго, як раней яму была аказаная меддапамога, стан ягонага здароўя значна пагоршыўся.

11 верасня Шчучынская раённая міліцыя прыняла пастанову аб спыненні крымінальнай справы паводле артыкула 193.1 Крымінальнага кодэкса (дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі) супраць верніка-дабрачынца Аляксея Шчадрова. На рукі дакумент А. Шчадроў атрымаў 24 верасня. Крымінальная справа спынена са спасылкай на п. 11 ч. 1 арт. 29 КПК — па узбуджанай справе вытворчасць падлягае спыненню пры наяўнасці падстаў для вызвалення ад крымінальнай адказнасці, прадугледжаных артыкуламі Асаблівай часткі Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Заўвага да 193-1 КК абвяшчае, што асоба, якая добраахвотна спыніла дзеянні, прадугледжаныя гэтым артыкулам, і заявіла аб гэтым дзяржаўным органам, вызваляецца ад крымінаіль-

най адказнасці, калі ў яго дзеяннях не ўтрымліваецца складу іншага злачынства. Аляксей Шчадроў за апошнія месяцы з дапамогай праваабарончых арганізацый зарэгістраваў прыватную сацыяльную ўстанову «Павер у сябе», і рашэнне аб спыненні справы прынята з улікам рэгістрацыі ўстановы.

17 верасня Марына Лобава, маці палітвязня Эдуарда Лобава, паведаміла, што яе сын паступіў у ПТВ пры Івацэвіцкай калоніі № 22, дзе адбывае пакаранне. Цяпер ён вучыцца на электразваршчыка, кожны дзень, акрамя выхадных у яго заняткі. Э. Лобаў плануе вучыцца 10 месяцаў, як у звычайным ПТВ, пасля гэтага атрымае дыплом, у якім не будзе пазначана, што ён атрыманы ў калоніі. М. Лобавай гэта стала вядома з тэлефанавання сына.

19 верасня стала вядома аб тым, што Мікалай Аўтуховіч, які адбывае пакаранне ў турме № 1 г. Гродна, нанёс сабе лязом пашкоджанні жывата. Прычынай стала здзеклівае стаўленне адміністрацыі да асуджанага. Два гады запар Мікалаю Аўтуховічу выносяць незаконныя спагнанні менавіта ў той момант, калі павінны быць пагашаны ўсе раней накладзеныя на яго пакаранні. На гэты раз Мікалаю Аўтуховічу 4 верасня паведамілі, што турэмным кантралёрам 27 жніўня на яго быў складзены рапарт за парушэнне правіл унутранага распарадку папраўчай установы. Прычынай для складання рапарту паслужыла тое, што нібыта 26 жніўня ён пасля адбою не знаходзіўся на сваім спальным месцы, пры тым, што палітвязень прынцыпова выконвае рэжым. Праз месяц у дачыненні да яго павінны былі быць пагашаны ўсе спагнанні, але адміністрацыя турмы імкнецца трымаць Мікалая Аўтуховіча ў статусе «злоснага парушальніка рэжыму ўтрымання». Стала вядома таксама, што М. Аўтуховіч адбыў 2 сутак у ШЫЗА па невядомых прычынах. 26 верасня адвакат М. Аўтуховіча пасля наведвання свайго падабароннага паведаміла, што стан здароўя яго палепшыўся, і ён пераведзены ў камеру. Палітвязень абскардзіў вынесенае спагнанне пракурору Гродзенскай вобласці, аднак 24 верасня адміністрацыя папраўчай установы абвясціла яму адказ пракуратуры, у якім паведамлялася, што ягоная скарга перанакіравана ў Дэпартамент выканання пакаранняў. Пададзеная дадатковая скарга пракурору Гродзенскай вобласці.

23 верасня ў судзе Ленінскага раёна Гродна адбыўся разгляд справы журналіста Андрэя Пачобута, які ў ліпені 2011 года быў асуджаны за «паклёп на прэзідэнта» на 3 гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання прысуду на два гады. Суд прыняў рашэнне вызваліць журна-

ліста ад адбыцця пакарання ў сувязі з тым, што ён не парушаў заканадаўства. Працэс закрыцця крымінальнай справы аформіў суддзя Юрый Казакевіч.

25 верасня стала вядома, што палітычнага вязня Арцёма Пракапенку пазбавілі доўгатэрміновага спаткання з бацькамі. Яно было запланавана на снежань. Прычыну адмовы ў сустрэчы з роднымі не дазволілі паведаміць. Пра гэта палітвязень расказаў сваёй маці Віялеце Пракапенка падчас тэлефоннай размовы.

## Ужыванне прымусовай псіхіятрыі

12 верасня Віцебскі абласны суд разгледзеў касацыйную скаргу на рашэнне суддзі Віцебскага райсуда Таццяны Дзегцяровай, якая санкцыянавала для ўрача-псіхіятра абласнога псіхіятрычнага шпіталю Ігара Пастнова прымусовае псіхіятрычнае лячэнне. У жніўні Ігар Пастноў, які жорстка крытыкаваў недахопы ў віцебскай сістэме аховы здароўя, быў змешчаны ў закрытае аддзяленне гэтай самай установы «са згоды пракурора» проста ў працоўны час. Разгляд касацыйнай скаргі прайшоў у адсутнасць самога І. Пастнова ў закрытым рэжыме: на яго не дапусцілі ні журналістаў, ні праваабаронцаў, ні даверную асобу Ігара Пастнова, ні ягонага адваката. Разгляд быў прызначаны тэрмінова: за дзень да працэсу ў абласным судзе казалі, што матэрыялаў справы ў іх няма, а пасля 16 гадзін суд быў прызначаны на раніцу наступнага дня. Рашэнне Віцебскага райсуда касацыйная судовая інстанцыя пакінула без зменаў. 20 верасня Ігара Пастнова перавялі з псіхіятрычнага шпіталя ў дзённы стацыянар. Ён паведаміў, што яму пастаўлены дыягназ «разладжанне асобы па параноідным тыпе» і выказаў занепакоенасць тым, што любыя самастойныя захады па абароне сваіх правоў будуць трактавацца як абвастрэнне хваробы. Таму ён аформіў даверанасць на праваабаронцу Пятра Іванова, каб той прадстаўляў ягоныя інтарэсы і займаўся ягонай справай.

## Смяротнае пакаранне

17 верасня ў Вярхоўным судзе адбыўся разгляд касацыйнай скаргі асуджанага да смяротнага пакарання 23-гадовага Паўла Селюна. Рашэнне аб прымяненні выключнай меры пакарання ў адносінах да П. Селюна ў чэрвені вынес Гродзенскі абласны суд, прызнаўшы яго вінаватым па чатырох артыкулах Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь: арт.139 ч.2 пункты 1 і 6 (забойства дзвюх асоб, учыненае з асаблівай жорсткасцю); арт.205 ч.1 (крадзёж); арт. 347 ч.1 (здзек над трупамі), арт.378 (крадзёж

асабістых дакументаў ). Касацыйную скаргу разглядала судовая калегія Вярхоўнага суда пад старшынствам намесніка старшыні Вярхоўнага суда Валерыя Калінковіча. Вызначэнне — пакінуць прысуд у сіле. Маці асуджанага напярэдадні разгляду касацыі звярнулася да Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта з просьбай звярнуцца да Аляксандра Лукашэнкі, каб яе сына памілавалі і адмянілі смяротнае пакаранне ў дачыненні да яго.

## Выкарыстанне катаванняў і жорсткага абыходжання

5 верасня жыхарка Светлагорска Валянціна Акуліч атрымала са Светлагорскага раённага аддзела Следчага камітэта чарговую пастанову аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы па факце смерці яе сына Аляксандра Акуліча ў ІЧУ Светлагорскага РАУС у траўні 2012 года. Папярэднюю пастанову жанчына абскардзіла і ў ліпені бягучага года накіравала падрыхтаваную скаргу аб нязгодзе з вынесенай пастановай у раённую пракуратуру і раённы аддзел СК. У сувязі з гэтай скаргай 1 жніўня начальнік Светлагорскага РАСК Аляксандр Прыкалоцін адмяніў пастанову аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы ад 9 чэрвеня 2013 года, была адноўлена даследчая праверка. Таксама па хадайніцтве Валянціны Акуліч была прызначаная дадатковая судова-медыцынская экспертыза. 27 верасня Валянціна Акуліч атрымала вынікі дадатковай судова-медыцынскай экспертызы, аднак пытанне аб тым, ці мелася прамая прычынна-выніковая сувязь паміж смерцю яе сына ў ізалятары часовага ўтрымання і несвоечасова аказанай медыцынскай дапамогай, засталося без адказу. Паколькі супрацоўнікі следства неабгрунтавана абыходзілі пытанне аб своечасовасці аказання дзяжурнымі па ІЧУ Бачко А.А. і Сцешанковым Р.В. меддапамогі затрыманаму, які знаходзіўся ў хваравітым стане, маці памерлага не магла змірыцца з адмовай ва ўзбуджэнні крымінальнай справы і прасіла паставіць перад дадатковай экспертызай канкрэтныя пытанні. Але канкрэтных адказаў на гэтыя пытанні ёй атрымаць не ўдалося. У сувязі з заключэннем гэтых экспертаў жанчына выкладае свае патрабаванні пракурору: «Такім чынам, я настойваю на допыце экспертаў з мэтай атрымання тлумачэння дадзенага імі заключэння з улікам маіх меркаванняў. Мяне па-ранейшаму цікавіць пытанне аб тым, калі трэба было пачынаць лячэнне майго сына — пры праяве прыкмет захворвання або пасля таго, як супрацоўнікі ІЧУ збілі яго і «ўкрыжавалі» на кратах з дапамогай наручнікаў, якімі сродкамі — збіццём гумовай палкай ці медыкаментозна, а таксама аб тым, ці магла своечасова аказаная ў рамках пратакола дыягностыкі і лячэння медыцынская дапамога змяніць ходу хваробы».

17 верасня Андрэй Бандарэнка, кіраўнік праваабарончай установы «Платформ інавейшн», якая займаецца выкананнем правоў чалавека ў пенітэнцыярных установах, паведаміў, што смерць Ігара Пцічкіна, які памёр 4 жніўня ў СІЗА №1 г. Мінска, магла наступіць у выніку збіцця так званым рэзервам — дзяжурнай групай для задушэння беспарадкаў. І. Пцічкін адчуў сябе кепска і доўгі час спрабаваў выклікаць доктара, аднак яму адмаўлялі. Яго падтрымалі сукамернікі, і ў асобна ўзятай камеры адбыўся міні-бунт. Быў выкліканы нарад, Ігара вывелі з камеры і працягвалі збіваць ужо ў калідоры. 27 верасня стала вядома, што супраць фельчара СІЗА № 1, які дзяжурыў у ноч смерці Ігара Пцічкіна, распачата крымінальная справа паводле часткі 2 артыкула 162 КК (неналежнае выкананне прафесійных абавязкаў медработнікам, што пацягнула за сабой па неасцярожнасці смерць пацыента). Праверку па факце смерці Ігара Пцічкіна праводзіць раённы аддзел Следчага камітэта Маскоўскага раёна Мінска, тэрмін правядзення праверкі падоўжаны да 4 лістапада. Сваякам дагэтуль афіцыйна не паведамілі прычыну смерці Ігара.

## Пераслед праваабаронцаў і праваабарончыя арганізацыі

14 верасня ў 8.30 на памежным пункце Цяруха пры вяртанні з Украіны была знята з цягніка для правядзення асабістага дагляду сябра Беларускага Хельсінкскага камітэта, актывістка ЛГБТ-руху Наталля Манькоўская. Загад на дагляд дадзены кіраўніком змены мытнікаў капітанам Міхаілам Войнікам. Разам з Наталляй, каб адсочваць сітуацыю вакол калегі, выйшаў з цягніка Міхаіл Мацкевіч з Цэнтра прававых трансфармацый. Пасля 3-гадзінных працэдур дагляду рэчаў і асабістага дагляду, складання адпаведных дакументаў Н. Манькоўская была вызвалена. Ніякіх рэчаў не вымалася. Прычыну правядзення даглядаў праваабаронцы не паведамілі.

14 верасня ў Мінску падчас спробы правядзення акцыі памяці загінулага ў СІЗА №1 Ігара Пцічкіна, якую планавалі ягоныя родныя і сябры, быў затрыманы Андрэй Бандарэнка, кіраўнік праваабарончай установы «Платформы інавейшн». Ён быў дастаўлены ў РУУС Маскоўскага раёна, адкуль быў вызвалены позна ўвечары.

18 верасня ў судзе Савецкага раёна Мінска павінен быў адбыцца паўторны разгляд адміністрацыйнай справы сябра Рады Праваабарончага цэнтра «Вясна» Уладзіміра Лабковіча, абвінавачанага ў здзяйсненні адміністрацыйнага правапарушэння па арт. 23.34 КаАП (парушэнне парадку правядзення масавага мерапрыемства) за раздачу паштовак пра зняволенага праваабаронцу Алеся Бяляцкага 5 жніўня. 6 жніўня суддзя Д. Паўлю-

чэнка прызнаў У. Лабковіча вінаватым і прыняў рашэнне аб накладанні на яго штрафу ў памеры 30 базавых велічынь. Гэтае рашэнне было адменена Мінскім гарадскім судом, справа была накіравана ў суд Савецкага раёна на перагляд іншаму суддзі. На гэты раз разгляд справы быў даручаны намесніку старшыні суда Эдуарду Якубоўскаму. На паседжанне не з'явіўся супрацоўнік міліцыі Смаляк, які ажыццяўляў затрыманне праваабаронцы, разгляд перанесены на 30 верасня. У гэты дзень сведка на судовы працэс не з'явіўся зноў, справа была перанесена на 7 кастрычніка.

27 верасня ў сацыяльнай сетцы «Укантакце» ад імя праваабаронцы Паўла Левінава былі распаўсюджаны абразлівыя матэрыялы супраць вядомых у Віцебску актывістаў грамадзянскай супольнасці. Павел Левінаў сцвярджае, што не мае ніякага дачынення да старонкі ў «Укантакце», створанай ад яго імя, і лічыць гэта правакацыяй. На старонцы праваабаронцы па адрасе vk.com/id164498091 можна было пабачыць відэа, на якім ён нібыта ладзіць адзіночны пікет з патрабаваннем «Свабоду папугаям!». Відэа з'явілася неўзабаве пасля таго, як споўнілася 2 гады з моманту заключэння пад варту праваабаронцы Алеся Бяляцкага, і лозунг «Свабоду палітвязням!» на фотаздымку П. Левінава быў заменены на «Свабоду папугаям!». Затым з'явіўся зняважлівы нарыс супраць кіраўніцы кампаніі «Наш дом» Вольгі Карач, якая напярэдадні заявіла пра магчымы ўдзел у прэзідэнцкіх выбарах. Згаданыя матэрыялы былі выдалены са старонкі «Укантакце», але ўсё яшчэ захоўваюцца ў кэшы пошукавых сістэм.

### Ціск спецслужбаў на грамадска і палітычна актыўных грамадзян

4 верасня журналістку Ірыну Халіп, жонку лідара грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь» Андрэя Саннікава, разам з сынам затрымалі ў аэрапорце «Мінск-2». Служба бяспекі аэрапорта не прапусціла яе на пасадку, забраўшы дакументы. Супрацоўнікі службы бяспекі заявілі Ірыне Халіп, што выезд з краіны неабходна ўзгадніць з Камітэтам дзяржбяспекі, паколькі яна знаходзіцца ў абмежавальных спісах гэтага ведамства. Паўгадзіны Ірына з сынам чакалі, пакуль яе выезд з краіны ўзгодняць з КДБ. Затым іх прапусцілі на пасадку.

### Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні

2 верасня ў судзе Першамайскага раёна г. Мінска адбыўся суд над прадпрымальнікам Іллёй Дабратворам па абвінавачанні ў дробным хулі-

ганстве (арт. 17.1 КаАП РБ). 30 жніўня каля 20 гадзін вечара ён праехаў у метро з разгорнутым бел-чырвона-белым сцягам у гонар вызвалення з турмы лідара «Маладога Фронту» Дзмітрыя Дашкевіча. На станцыі метро «Уручча» Іллю Дабратвора затрымалі супрацоўнікі міліцыі. У той жа дзень яго адвезлі ў Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў. Суддзя Сяргей Бандарэнка прызнаў Іллю Дабратвора вінаватым і прыняў рашэнне аб арышце яго на 5 сутак.

4 верасня актывіст нацыянал-бальшавіцкага руху Дзяніс Сахар быў прызнаны вінаватым у непадпарадкаванні законным патрабаванням службовай асобы (арт 23.4 КаАП РБ) і пакараны штрафам у 40 базавых велічынь. Справа разглядалася ў судзе Мінскага раёна, суддзя — Андрэй Бяліла. Абвінавачанне датычыла падзеяў 10 жніўня, калі Дзяніс Сахар з паплечнікамі быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі падчас правядзення нацболамі спартыўна-палявых збораў у раёне Воўкавічскага вадасховішча ў Мінскім раёне. Разгляд справы Дзяніса Сахара двойчы пераносіўся з-за таго, што сведкі своечасова не з'яўляліся ў суд.

9 верасня суд Кастрычніцкага раёна Віцебска аштрафаваў сябра партыі «Справядлівы свет» Андрэя Андрэева на 20 базавых велічынь за распаўсюд улётак пра «Народны рэферэндум». Рашэнне вынесла суддзя Алена Протас паводле артыкула 22.9 КаАП (парушэнне заканадаўства аб сродках масавай інфармацыі). У жніўні А. Андрэева затрымалі падчас распаўсюду ўлётак у шматкватэрным доме.

14 верасня сваякі і сябры загінулага пры нявысветленых абставінах у СІЗА №1 Ігара Пцічкіна былі затрыманы пры спробе зладзіць хвіліну маўчання каля сцен ізалятара. 13 удзельнікаў акцыі былі затрыманы каля СІЗА і дастаўлены ў РУУС Маскоўскага раёна, пяцёра — на вуліцы Няміга, дастаўлены ў РУУС Цэнтральнага раёна. Міліцыя таксама затрымала карэспандэнтаў Радыё «Свабода» і газеты «Наша Ніва». Журналістаў адпусцілі прыкладна праз 3 гадзіны. На Аляксандра Гаўрыша, Сяргея Яўменава, Ігара Кавалёва, Віктара Катляніка і цяжарную сястру Ігара Пцічкіна Ірыну Мірановіч у РУУС Цэнтральнага раёна былі складзены пратаколы адміністрацыйнага правапарушэння па абвінавачванні ў правядзенні несанкцыянаванага масавага мерапрыемства (арт. 23.34 КаАП РБ), усё затрыманыя, акрамя І. Мірановіч, да суда былі дастаўлены ў Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў. Адносна 12 удзельнікаў акцыі, дастаўленых у РУУС Маскоўскага раёна, таксама былі складзены пратаколы адміністрацыйнага правапарушэння, але яны былі вызвалены без уручэння позваў у суд. З РУУС Маскоўскага раёна ў ЦІП быў дастаўлены толькі Аляксей Круглік у

сувязі са знойдзенай у ягонай машыне паляўнічай зброяй, 16 верасня ён быў аштрафаваны на 5 базавых велічынь па абвінавачанні ў парушэнні парадку правядзення масавых мерапрыемстваў, адміністрацыйны пратакол аб правапарушэнні, звязаным з захоўваннем паляўнічай зброі, разглядаўся асобна. 16 верасня ў судзе Цэнтральнага раёна адбыліся суды над удзельнікамі акцыі, дастаўленымі з ЦІП. Ігар Кавалёў (суддзя Вікторыя Шабуня), Віктар Катлянік (суддзя Вікторыя Шабуня) і Аляксандр Гаўрыш (суддзя Наталля Вайцяховіч) былі аштрафаваны на пяць базавых велічынь, Сяргей Яўменаў (суддзя Наталля Вайцяховіч) — на шэсць базавых велічынь, Ірыне Міронавіч вынесена папярэджанне (суддзя Леанід Ясіновіч).

На 16 верасня былыя палітвязні Уладзімір Яроменак і Васіль Парфянкоў былі выкліканы ў РУУС Першамайскага раёна Мінска, дзе ім паведамілі, што 13 верасня суддзя суда Першамайскага раёна Юры Гарбатоўскі пакараў іх завочна арыштамі тэрмінам на пяць сутак па абвінавачванні ў парушэнні ўмоў прэвентыўнага нагляду (арт. 24.12 КаАП РБ). Уладзімір Яроменак і Васіль Парфянкоў былі накіраваны з РУУС адбываць пакаранне ў Цэнтра ізаляцыі правапарушальнікаў. Абодва былыя палітвязні знаходзяцца пад крымінальным пераследам па тым абвінавачанні. Уладзімір Яроменак 20 жніўня судом Першамайскага раёна быў асуджаны на тры месяцы арышту, Васіль Парфянкоў чакаў накіравання сваёй крымінальнай справы ў суд. 21 верасня Васіль Парфянкоў быў дастаўлены з Цэнтра ізаляцыі правапарушальнікаў у РУУС Першамайскага раёна, адкуль накіраваны ў лячэбна-працоўны прафілакторый у Светлагорску №1 на 12 месяцаў. Пастанова аб накіраванні Васіля Парфянкова ў ЛПП было прынята судом Першамайскага раёна Мінска 4 верасня, грамадзянскую справу разглядаў суддзя Сяргей Бандарэнка. Паколькі рашэнне суда не было абскарджана ў Мінскі гарадскі суд, яно ўступіла ў сілу. Практыку прымусовай ізаляцыі грамадзянаў у ЛПП па-за межамі крымінальнага пераследу праваабаронцы разглядаюць як парушэнне правоў чалавека.

17 верасня грамадскі актывіст Мікалай Чарнавус быў выкліканы ў Баранавіцкую міжраённую пракуратуру, дзе атрымаў афіцыйнае папярэджанне. У лісце, які падпісаў Баранавіцкі міжраённы пракурор Більдзейка А.А., адзначалася, што М. Чарнавус прызнаны арганізатарам несанкцыянаваных мітынгаў баранавіцкіх прадпрымальнікаў 27 чэрвеня на тэрыторыі мясцовага кааператыўнага рынку і перад уваходам у будынак гарвыканкама. Таксама ў афіцыйным папярэджанні ўказвалася, што М. Чарнавус выконваў функцыі арганізатара масавага мерапрыемства 1 ліпеня перад уваходам у будынак Міністэрства па падатках і зборах РБ. Пракуратура нагадала Мікалаю Чарнавусу, што трэба выконваць закон

«Аб масавых мерапрыемствах» і афіцыйна папярэдзіла аб недапушчэнні дзеянняў, парушаючых нормы закона. У выпадку далейшага парушэння парадку арганізацыі і правядзенні масавых мерапрыемстваў грамадскі актывіст можа быць прыцягнуты да ўстаноўленай законам адказнасці.

22 верасня па дарозе з Гомеля ў Мінск (прыкладна ў 20 км ад Рэчыцы) быў затрыманы прыватны мікрааўтобус «Фіат» з 8 дэлегатамі ўстаноўчай канферэнцыі па стварэнні кааліцыі «За сумленныя, справядлівыя выбары для лепшага жыцця», дзявяты затрыманы — кіроўца. Мікрааўтобус быў спынены супрацоўнікамі Рэчыцкага ДАІ пад кіраўніцтвам маёра Ігара Лапаціна і капітана Васільчука на падставе таго, што транспартны сродак вельмі падобны на той, на якім 17 верасня было здзейснена ДТП, у якім пацярпела жанчына. Быў праведзены агляд мікрааўтобуса, у выніку якога высветлілася, што пад капотам таблічка прымацавана markнымі заклёпкамі. На падставе гэтых двух названых прычын мікраааўтобус разам з пасажырамі быў дастаўлены ў Рэчыцкі райаддзел міліцыі. Кіроўца выкліканы для разбіральніцтва ў РУУС, пасажыры засталіся чакаць яго і вынікаў разбіральніцтва ў мікраааўтобусе. Па невядомых падставах у кіроўцы запатрабавалі зрабіць адбіткі пальцаў і зняцца на відэа. Дактыласкапічныя дадзеныя былі знойдзены ў базе міліцыі, а здымацца на відэа без удакладнення статуса кіроўца адмовіўся. Супрацоўнікі ДАІ паведамілі затрыманым дэлегатам, што іх цікавіць толькі кіроўца, а самі яны могуць быць вольнымі. Праз 2 гадзіны кіроўца быў адпушчаны, супрацоўнікі ДАІ сказалі, што выклічуць яго асобна позвай, каб высветліць сітуацыю з біркай пад капотам. Пасля вызвалення кіроўцы ўсе накіраваліся ў Гомель, паколькі ехаць у Мінск на ўстаноўчы сход было ўжо позна і нямэтазгодна. У гэты ж дзень былі затрыманы 2 дэлегаты ўстаноўчай канферэнцыі з Барысава — Леў Марголін і Алег Лыско.

27 верасня ў Мінску быў затрыманы Павел Вінаградаў, лідар «Zмены» — моладзевага крыла грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду». Ён вяртаўся з акцыі, якую актывісты «Zмены» правялі на плошчы Якуба Коласа. Удзельнікі акцыі расставілі на лаўках свіныя галовы з плакатамі, што заклікалі вызваліць палітвязняў, падняць заробкі ўрачоў, не ўводзіць выязную пошліну і інш. П.Вінаградава даставілі спачатку ў РУУС Маскоўскага раёна (па месцы жыхарства), а затым перавезлі ў РУУС Савецкага раёна, на тэрыторыі якога праводзілася акцыя. У гэты ж дзень Павел Вінаградаў быў асуджаны судом Савецкага раёна сталіцы на 15 сутак арышту па артыкуле 23.34 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях (парушэнне парадку арганізацыі ці правядзення масавага мерапрыемства). Рашэнне вынес суддзя Кірыл Палулех.

28 верасня былі затрыманыя чатыры ўдзельнікі фэстывалю бегу «Кубак выкліку», які прайшоў у Мінску па ініцыятыве беларускіх спартовак Аліны Талай і Аляксандры Герасімені. Прычынай затрымання сталі майкі, у якіх каманда інтэрнэт-праекта Serabranka хацела ўзяць удзел у забегу, і на якіх быў змешчаны партрэт палітзняволенага Мікалая Статкевіча, а таксама надпіс «Серабранка — за спорт, Беларусь і Статкевіча». Затрыманыя Кірыл Жываловіч, Яўген Напорка, Максім Дубоўскі і Андрэй Вісловіч былі дастаўлены ў РУУС Цэнтральнага раёна, дзе іх пратрымалі каля пяці гадзін. У дачыненні да затрыманых былі складзеныя пратаколы па ч. 1 арт. 23.34 КаАП (парушэнне парадку правядзення масавых мерапрыемстваў). Трое затрыманых, акрамя К. Жываловіча, былі накіраваны ў Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў да суда. 30 верасня ў судзе Цэнтральнага раёна адбыўся разгляд адміністрацыйных спраў журналістаў і тэхнічных супрацоўнікаў інтэрнэт-праекта. Суддзя Вікторыя Шабуня вынесла Кірылу Жываловічу пакаранне ў выглядзе штрафу памерам 20 базавых велічынь; такімі ж штрафамі былі пакараны Яўген Напорка (суддзя Наталля Вайцяховіч), Андрэй Вісловіч (суддзя Аляксандр Якунчыхін) і Максім Дубоўскі. Суды праходзілі фактычна ў закрытым рэжыме: у залу не прапусцілі журналістаў і праваабаронцаў.

## Абмежаванні свабоды слова і права на распаўсюд інфармацыі, пераслед журналістаў

2 верасня Баранавіцкі ГАУС адмовіўся прадставіць мясцовай газеце «Intex-press» статыстыку па правапарушэннях, здзейсненых у стане алкагольнага ап'янення, фактах самагонаварэння, нелегальнага продажу спіртнога і інш. Карэспандэнтка газеты «Intex-press» Таццяна Некрашэвіч рыхтавала артыкул пра абмежаванне гандлю алкаголем у начны час, якое ініцыявалі органы ўнутраных спраў. Спачатку журналістка звярнулася па дадзеныя ў групу інфармацыі і грамадскіх сувязяў Баранавіцкага ГАУС. Там інспектар Вольга Сакута абяцала падрыхтаваць матэрыялы, аднак на працягу тыдня давала карэспандэнту адзін адказ: «Завіс камп'ютар. Не можам выбраць дадзеныя». 2 верасня Вольга Сакута заявіла, што газеце «Intex-press» кіраўніцтва ГАУС забараніла даваць інфармацыю. У той жа дзень журналістка па тэлефоне дамовілася пра гутарку па гэтай жа тэме з начальнікам аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Баранавіцкага ГАУС Эдуардам Суднікам. 3 верасня ў прызначаны час яна прыехала на сустрэчу, але пачула, што інфармацыі Суднік не прадставіць, бо яму «забаронена даваць інфармацыю дадзенаму выданню». На пытанне, хто забараніў, Эдуард Суднік адказаў, што кіраўніцтва ГАУС, а кіраўніцтву прыйшло распараджэнне з Баранавіцкага гарвыканкама.

3 верасня незалежны журналіст Уладзімір Жыгулоў атрымаў афіцыйнае папярэджанне, падпісанае намеснікам пракурора Віцебскай вобласці Георгіем Каранько, пра недапушчальнасць працы без акрэдытацыі на замежны сродак масавай інфармацыі — газету «Витебский курьер», зарэгістраваную ў Смаленску. Пракурор Павел Зайцаў, да якога быў выкліканы незалежны журналіст, апеляваў да прэцэдэнту ў абласным псіхіятрычным шпіталі, куды Уладзімір Жыгулоў прыехаў па запрашэнні галоўнага лекара Алены Мартынавай, якая пагадзілася на інтэрв'ю пра працу гэтай установы і пра стан Ігара Пастнова, змешчанага сюды на прымусовае псіхіятрычнае лячэнне. Аднак ад гутаркі з журналістам А.Мартынава адмовілася, спаслаўшыся на занятасць, а яе намеснік Ігар Свіркуноў размаўляць з журналістам не стаў увогуле. Ён заявіў, што газета «Витебский курьер», дзе падрабязна выкладаецца гісторыя Ігара Пастнова, не зарэгістравана ў Беларусі. Пракуратура палічыла, што дастаткова факта сустрэчы Уладзіміра Жыгулова з Ігарам Свіркуновым для высноваў аб супрацоўніцтве журналіста з «Витебским курьером» і вынясення папярэджання.

4 верасня ў Бабруйску вядомы мясцовы блогер Алег Жалноў з сынам каля будынка мясцовага ДАІ знялі на відэа парушэнне правіл дарожнага руху — няправільную паркоўку машын, якія належалі супрацоўнікам аддзела наркакантролю, што і месціцца ў тым жа будынку. Блогер звярнуўся з вуснай заявай з гэтай нагоды да інспектара ДАІ Аляксандра Бутоўскага, які таксама заехаў у той час на тратуар. Інспектар заявіў, што яго працоўны дзень скончаны, і выклікаў па мабільным тэлефоне іншых работнікаў міліцыі. Супрацоўнікі ДАІ, што прыбылі на месца (Аляксандр Аляксандраў, Віталь Падута, Яўген Сераштан), спрабавалі забараніць відэаздымкі, а пасля затрымалі абодвух Жалновых, абвінаваціўшы ў парушэнні п. 35 правілаў дарожнага руху (неабгрунтаванае стварэнне перашкодаў руху транспартнага сродку). З прымяненнем сілы абодвух зацягнулі ў будынак і павалілі на падлогу, надзеўшы кайданкі. Затым даставілі ў міліцыю, дзе правялі асабісты дагляд і забралі некаторыя рэчы: тэлефоны, відэакамеру, смартфон, банкаўскія карткі, пропуск на працу, пашпарты. Затрыманых адпусцілі праз тры гадзіны, пасля таго, як следчы ўзяў з іх тлумачэнні. Рэчы вярнулі вечарам наступнага дня, але відэакасету і карту памяці смартфона, дзе былі зафіксаваны падзеі каля будынка ДАІ, так і не аддалі. У ДАІ блогеру пагражалі «пасадзіць» па крымінальнай справе — нібыта за непадпарадкаванне і нанясенне цялесных пашкоджанняў супрацоўніку міліцыі.

5 верасня следчы ўпраўлення Следчага камітэта па горадзе Мінску Андрэй Еўлаш надаў працэсуальны статус сведкі па крымінальнай спра-

ве журналістцы TUT.BY Кацярыне Сінюк і папярэдзіў аб магчымай адказнасці за разгалошванне інфармацыі. Размова ішла пра яе матэрыял пра былога кіраўніка міжнароднага дабрачыннага грамадскага аб'яднання «У дапамогу дзецям-сіротам» Вячаслава Давыдовіча, затрыманага 29 жніўня па падазрэнні ў незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці. Пасля затрымання Давыдовіча Кацярына Сінюк афіцыйна звярнулася па інфармацыю ў праваахоўныя органы Беларусі. Пасля публікацыі матэрыялаў журналістцы пачалі пастпаць патрабаванні не паведамляць нічога пра лёс Вячаслава Давыдовіча. Такое ж патрабаванне выставіў і следчы Андрэй Еўлаш. Ён абвесціў журналістцы рашэнне прыцягнуць яе да крымінальнай справы ў якасці сведкі. Журналістку папярэдзілі, што ў выпадку разгалошвання матэрыялаў крымінальнай справы яна можа быць пакараная штрафам альбо арыштам да шасці месяцаў. Сама Кацярына Сінюк лічыць, што такія дзеянні — спроба прымусіць яе не пісаць пра арышт Вячаслава Давыдовіча.

6 верасня, напярэдадні Міжнароднага дня салідарнасці журналістаў, старшыня ГА «БАЖ» Жанна Літвіна і намеснік старшыні Андрэй Бастунец агучылі вынікі даследавання Індэкса, згодна з якімі Беларусь з'яўляецца самай праблемнай краінай па свабодзе СМІ сярод краін Усходняга партнёрства. Найбольш спрыяльныя для СМІ ўмовы існуюць у Грузіі, на другім месцы — Малдова, на трэцім — Арменія, на чацвертым — Украіна, на пятым — Азербайджан. Зводны Індэкс рыхтавала міжнародная грамадская арганізацыя «Internews-Украіна» пры падтрымцы Еўрасаюза ў межах праекта «Назіранне за свабодай слова ва Усходнім рэгіёне Еўрапейскай палітыкі суседства», які паўстаў з ініцыятывы Форума грамадзянскай супольнасці Усходняга партнёрства.

8 верасня ў гарадскім парку культуры і адпачынку Бабруйска прайшла «Сушка» — выстава фотааматараў і фатографаў-прафесіяналаў. Любы ўдзельнік выставы з дапамогай прышчэпак для бялізны мог прымацаваць свае працы на спецыяльныя вяроўкі, працягнутыя паміж дрэвамі. У абмен на свае фотаздымкі можна было забраць тыя, што найбольш спадабаліся. Напярэдадні выставы стала вядома, што мясцовыя ідэолагі паставілі яе арганізатарам умову: ніякіх фотаздымкаў апазіцыйнага характару. Гэтак жа, як парнаграфічных, а таксама тых, што прапагандуюць фашызм, нацызм, расізм, міжнацыянальную варожасць, гвалт. Пад «апазіцыйнымі» мясцовыя ўлады мелі на ўвазе ўсе фотаздымкі, публікацыі, якія, на іх думку, не ўпісваюцца ў афіцыйную ідэалагічную дактрыну, таму «апазіцыйным» можа быць названа, напрыклад, фота бамжа, дрэнных дарог або шыкоўнай машыны мясцовага «мэра». «Сушка» — гэта міжна-

родны выставачны праект абмену фатаграфіямі, які аб'ядноўвае больш за 90 гарадоў і 40 000 удзельнікаў у розных краінах.

9 верасня ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» апублікавала вынікі апытання па праблеме доступу да інфармацыі пры працы журналістаў з дзяржаўнымі ведамствамі. Своеасаблівы «рэйтынг закрытасці» ўзначаліла Міністэрства аховы здароўя — больш чым 46% журналістаў заявілі, што маюць праблемы пры звароце па інфармацыю ў дадзенае міністэрства. На другім месцы па рэйтынгу закрытасці Мінсельгасхарч (40%), на трэцім — Камітэт дзяржаўнай бяспекі (33%).

18 і 19 верасня ў судзе Крычаўскага раёна працягваўся разгляд чарговага пазова КУП «Чэрыкаўскага ПМК-280» да газеты «Вольны горад». Суддзя Антаніна Качанава высвятляла абставіны таго, ці сапраўды журналісты газеты «Вольны горад» у артыкуле «З абвяржэннем пачакаем» дыскрэдытавалі кіраўніцтва прадпрыемства і падрывалі дзелавую рэпутацыю КУП «Чэрыкаўскае ПМК-280». Гэты артыкул быў змешчаны ў нумары № 25 газеты «Вольны горад» ад 29 чэрвеня 2013 года. Суддзя Антаніна Качанава падышла да разгляду справы адказна. Яна запатрабавала ад адміністрацыі КУП «Чэрыкаўскае ПМК-280» прадставіць у суд калектыўныя дамовы работнікаў, іх працоўныя кніжкі, а таксама кнігу рэгістрацыі загадаў па прадпрыемстве. Наступнае пасяджэнне суда суддзя прызначыла на 21 кастрычніка, каб адміністрацыя ПМК-280 змагла падрыхтаваць усе неабходныя дакументы.

## Абмежаванне свабоды сходаў

2 верасня гродзенскія праваабаронцы Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч і Раман Юргель падалі ў суд Ленінскага раёна Гродна скаргу на рашэнне Гродзенскага гарвыканкама ад 1 жніўня, якім было забаронена правядзенне інфармацыйнага пікета ў падтрымку Алеся Бяляцкага. Гарвыканкам, на думку заяўнікаў, парушыў іх канстытуцыйныя правы на свабодны распаўсюд інфармацыі і Закон «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь». Паводле заканадаўства, мясцовая ўлада абавязана даць афіцыйны адказ заяўнікам не пазней, чым за 5 дзён да заяўленага мерапрыемства. У дадзеным жа выпадку Гродзенскі гарвыканкам прыняў сваё рашэнне толькі 1 жніўня, а выслаў 2 жніўня, пра што сведчыць адпаведны штэмпель на канверце. У выніку двое з праваабаронцаў атрымалі рашэнне праз пошту толькі за дзень да заяўленага мерапрыемства, якое планавалася на 4 жніўня, а Віктар Сазонаў — увогуле 6 жніўня. 23 верасня ў выніку разгляду грамадзянскай справы суддзя Ленінскага

раённага суда Жанна Краўчанка не задаволіла скаргу праваабаронцаў. Яна ўзяла бок Гродзенскага выканкама, ігнаруючы нават той факт, што гарвыканкам пратэрмінаваў з афіцыйным адказам. Пракурор таксама была цалкам на баку выканаўчай улады, не звярнуўшы ўвагу суда на парушэнне заканадаўства з боку гарвыканкама. Жанна Краўчанка таксама не задаволіла некалькі хадайніцтваў заяўнікаў, у прыватнасці, занатоўваць іх выступы і паказанні ў пратаколе паседжання па-беларуску.

2 верасня суддзя Брэсцкага абласнога суда Наталля Сурма не задаволіла касацыйную скаргу Віктара Сырыцы на пастанову суддзі суда Баранавіцкага раёна і г. Баранавічы Кацярыны Груда па справе Мілавідскага фэсту. Актывіст быў прызнаны вінаватым у здзяйсненні правапарушэння, прадугледжанага ч. 2 арт. 23.34 КаАП і быў прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу ў памеры 20 базавых велічынь за падрыхтоўку і арганізацыю несанкцыянаванага мітынгу ў Мілавідах 2 чэрвеня. Віктар Сырыца даводзіў суду, што несанкцыянаванага масавага мерапрыемства не было, што ён толькі арганізаваў паездку людзей на афіцыйнае свята, анансаванае дзяржаўнай газетай «Наш край». Аднак суддзя Наталля Сурма не знайшла падстаў для адмены пакарання.

2 верасня Слонімскі райвыканкам забараніў правядзенне запланаваных на 8 верасня пікетаў супраць размяшчэння ваенных баз замежных дзяржаў на тэрыторыі Беларусі, заяўкі на якія падавалі сябры Партыі БНФ Іван Шэга і Віктар Марчык. У адмове за подпісам старшыні Слонімскага райвыканкама Іосіфа Паўлюкевіча была названа наступная прычына: «Слонімскі раённы выканаўчы камітэт паведамляе, што Вам адмоўлена ў правядзенні пікетавання ў гарадскім парку па вуліцы Оперная 8 верасня 2013 г. у сувязі з тым, што згодна з планам аддзела ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі Слонімскага райвыканкама на вышэйуказаную дату запланавана правядзення свята «Фарбы восені».

2 верасня Магілёўскі гарвыканкам не дазволіў мітынг і шэсце супраць размяшчэння на тэрыторыі Беларусі расійскай авіябазы, запланаваныя на 8 верасня. Пад калектыўнай заяўкай на правядзенне мерапрыемства падпісаліся восем лідараў дэмакратычных арганізацый і партый. У адказе чыноўнікі з гарвыканкама прычыну адмовы патлумачылі тым, што пададзеная заява не адпавядае ўстаноўленым гарвыканкамам патрабаванням. Нібыта спачатку трэба было заключыць дамову з міліцыяй і іншымі службамі, якія бы займаліся абслугоўваннем мітынгу, а толькі потым падаваць заяўку. Тым часам далёка не ўсе службы, у тым ліку праваахоўныя, заключаюць дамовы на аказанне сваіх паслугаў без адпаведна-

га дазволу гарвыканкама. Атрымліваецца замкнёнае кола, вынікам якога становіцца стопрацэнтная адмова ў правядзенні любога мерапрыемства, якое пажадалі б правесці магілёўскія дэмакраты.

3 верасня суд Ленінскага раёна Магілёва ў асобе суддзі Андрэя Юрчанкі прызнаў законнай забарону пікета 4 жніўня насупраць будынка магілёўскага глаўпаштамта з нагоды двухгоддзя зняволення праваабаронцы Алеся Бяляцкага. Праз суд праваабаронца Барыс Бухель хацеў таксама прызнаць рашэнне гарвыканкама аб адзіным вызначаным месцы для правядзення масавых мерапрыемстваў у горадзе незаконным. Падчас судовага працэсу стала вядома, што суддзя Юрчанка не ведае механізму падачы скаргі ў Камітэт па правах чалавека ААН, а таксама прэцэдэнтаў, якія звязаныя з Беларуссю. Праваабаронцам прыйшлося правесці для яго «лікбез», а пасля перапынку ў судзе прынесці некалькі матэрыялаў такіх справаў, у якіх Камітэт прызнае парушэнні, дапушчаныя судовай сістэмай Беларусі ў дачыненні да пэўных грамадскіх актывістаў. Суддзю гэта ўразіла, аднак не паўплывала на вынік разгляду справы.

4 верасня стала вядома, што Баранавіцкі гарвыканкам не дазволіў пікет супраць расійскай авіябазы, які запланаваў грамадскі актывіст Мікалай Чарнавус на 8 верасня. У адказе, які падпісаў намеснік старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Дзмітрый Касцюкевіч, паведамлялася, што Мікалай Чарнавус 19 лістапада 2012 года быў прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці згодна арт. 23.34 ч.2 КаАП за парушэнне парадку арганізацыі і правядзення масавага мерапрыемства (за правядзенне дабрачыннага абеду на Баранавіцкім кааператыўным кірмашы). Забарона пікета была растлумачана менавіта гэтай падставай са спасылкай на арт. 5 (абзац 6) Закона РБ «Аб масавых мерапрыемствах» ад 30 снежня 1997 года.

5 верасня Валерый Міснікаў, прававы інспектар прафсаюза работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці па Віцебскай вобласці, атрымаў адмову ад адміністрацыі Чыгуначнага раёна на сваю заяўку на правядзенне пікета, прысвечанага сацыяльным праблемам працоўных. Пікет планаваўся на 8 верасня з колькасцю ўдзельнікаў — адзін чалавек. Акцыя была забаронена на падставе рашэння Віцебскага гарвыканкама №881 «Аб арганізацыі і правядзенні масавых акцый», які прад'яўляе дадатковыя і практычна невыканальныя патрабаванні да арганізатараў масавых мерапрыемстваў, якія ладзяцца без удзелу дзяржавы.

5 верасня Бялыніцкі райвыканкам адмовіў мясцовым прадстаўнікам Партыі БНФ у правядзенні 8 верасня пікета супраць размяшчэння замеж-

ных вайсковых баз на тэрыторыі краіны. Адпаведны адказ за подпісам старшыні Бялыніцкага райвыканкама Аляксандра Вароніна атрымаў сябра Сойма Партыі БНФ з Бялыніцкага раёна Барыс Вырвіч. Падставай для адмовы паслужыла тое, што менавіта 8 верасня з 8-00 да 14-00 на пляцоўцы перад будынкам раённага Цэнтра культуры павінен адбыцца традыцыйны восеньскі кірмаш па продажы сельскагаспадарчай прадукцыі.

5 верасня ўступіла ў сілу новае рашэнне аб масавых мерапрыемствах, якое прыняў Гомельскі гарвыканкам. На сайце гарвыканкама паведамляецца, што мэтай прыняцця дадзенага рашэння з'яўляецца «пашырэнне пераліку месцаў для правядзення масавых мерапрыемстваў у горадзе Гомелі, арганізатарамі якіх выступаюць грамадзяне, палітычныя партыі, прафесійныя саюзы, іншыя арганізацыі, а таксама ўдасканаленне ўзаемадзеяння арганізатараў масавых мерапрыемстваў і мясцовых органаў улады». Раней у горадзе была толькі адна пляцоўка для правядзення пікетаў і мітынгаў — у спальным раёне каля ДК «Віпра» таварыства глухіх. Зараз жа ў Гомелі вызначаны дзве пляцоўкі для пікетаў і мітынгаў. Прычым адна — у аддаленым мікрараёне Навабеліца, каля дзіцячай спартыўнай школы, а другая — на іншым канцы горада, у раёне, дзе размешчаны толькі прамысловыя будынкі, заводы і фабрыкі — каля сквера на скрыжаванні вуліц Барыкіна і Вайсковай. Цікава, што ранейшая адзіная пляцоўка была хоць у некалькіх кіламетрах ад цэнтра Гомеля, гэтыя ж пляцоўкі наогул размешчаны ў такіх месцах, што іх цяжка знайсці. У новым рашэнні перапісаны пункты мінулага рашэння аб абавязковым заключэнні платных дамоў з міліцыяй, «хуткай» і камунальнікамі.

7 верасня старшыня Быхаўскай раённай арганізацыі Партыі БНФ Сяргей Антонаў атрымаў з Быхаўскага райвыканкама паведамленне аб забароне пікета супраць размяшчэння ў Беларусі замежных вайсковых баз, запланаванага на 8 верасня ў мясцовым парку «50 гадоў Перамогі». Падставай для забароны правядзення пікетавання стала тое, што з 3 па 10 верасня ў парку «50 гадоў Перамогі» прадпрыемства «Быхаўрайводаканал» праводзіць рамонтныя работы.

12 верасня Мінгарвыканкам забараніў правядзенне Маршу супраць абортаў, арганізатарамі якога выступілі грамадскае дабрачыннае аб'яднанне «Цэнтр падтрымкі сям'і і мацярынства «Матуля», брэсцкае маладзёжнае культурна-асветніцкае грамадскае аб'яднанне «У абарону жыцця і сямейных каштоўнасцяў», дабрачынны мясцовы фонд «Адкрытыя сэрцы». На марш было дабраславенне кіраўнікоў праваслаўнай і каталіцкай цэркваў у краіне — мітрапалітаў Філарэта і Тадэвуша Кандрусе-

віча. Мэтай Маршу было прыцягненне ўвагі да абароны традыцыйных сямейных каштоўнасцяў і жыцця ненароджаных дзяцей. Прычыну забароны арганізатары мерапрыемства назвалі «незразумелай».

12 верасня Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь не прыняў да разгляду зварот салігорскага грамадскага актывіста Уладзіміра Шылы. У звароце салігорац казаў аб неканстытуцыйнасці правапрымяняльнай практыкі органаў выканаўчай улады і судоў агульнай юрысдыкцыі краіны, а таксама аб адмове ў правядзенні масавых мерапрыемстваў і аб неправамерным абмежаванні канстытуцыйнага права на свабоднае выказванне свайго меркавання і права на мірныя сходы. У сваім адказе Канстытуцыйны суд нагадаў У. Шылу, што ўзбуджэнне вытворчасці і вынясенне заключэння аб неканстытуцыйнасці нарматыўна-прававых актаў ажыццяўляецца толькі па прапановах Прэзідэнта, парламента, Вярхоўнага суда ды Савета Міністраў. Для звычайнага грамадзяніна Канстытуцыйны суд з'яўляецца недасяжным.

14 верасня Баранавіцкі гарвыканкам забараніў пікет супраць збяднення сем'яў, якія гадуюць дзяцей. Гэта стала вядома з ліста за подпісам намесніка старшыні гарвыканкама Д. Касцюкевіча, які атрымаў актывіст гарадскога прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці Рыгор Грык. Чыноўнік паведаміў, што ўлада не дае згоды на правядзенне пікета, бо ў адпаведнасці з рашэннем Баранавіцкага гарвыканкама ад 16 чэрвеня 2009 г. № 1497 «арганізатары масавага мерапрыемства незалежна ад колькасці прапанаваных удзельнікаў абавязаны заключыць дамовы». Заяўнік адзначыў, што ведае пра гэтае патрабаванне, але заключыць дамовы з ЖКГ, паліклінікай і міліцыяй проста немагчыма. Таму ў сваёй заяве ён паведаміў, што актывісты РЭПа самастойна забяспечаць грамадскі парадак падчас пікета, а потым прыбяруць тэрыторыю ад смецця і абавязкова аплацяць выдаткі па медычнаму абслугоўванні ўдзельнікаў пікета ў 10-ці дзённы тэрмін пасля правядзення масавага мерапрыемства, але гэта не паўплывала на рашэнне выканкама.

19 верасня ў судзе Бярозаўскага раёна была разгледжана скарга праваабаронцаў Сяргея Русецкага, Тамары Шчапёткінай і грамадскай актывісткі Таццяны Тарасевіч, якія прасілі суд прызнаць неправамоцнымі адмову Бярозаўскага райвыканкама ў пікеце-салідарнасці з палітвязнямі 4 жніўня, а таксама парушэнне тэрмінаў дачы адказу (замест 30 ліпеня, як таго патрабуе закон, адказ заяўнікам быў дасланы 2 жніўня). Кіраўнік юрыдычнага аддзела райвыканкама Яўген Каштэлян даводзіў, што спазненне з адказам звязана з тым, што ў выканкаме цярпліва чакалі ад за-

яўнікаў дамоў, а яны іх не данеслі. У той жа час у міліцыі паведамілі, што дамову яны складуць толькі пасля рашэння райвыканкама. З Бярозаўскім ЖКГ дамова была, а бальніца адмовіла на падставе таго, што такой паслугі няма ў пастанове Міністэрства аховы здароўя, як і няма прэйскуранта на яе. Старшыня суда Бярозаўскага раёна Вадзім Мазоль, які вёў працэс, як і памочнік пракурора Аксана Гардзеюк, не ўбачылі ў адмове і дзеяннях райвыканкама парушэнняў закона.

24 верасня кіраўнік Слонімскага згуртавання дэмакратычных сіл Іван Шэга атрымаў адмову на заяўку аб правядзенні 28 верасня пікета-пратэста супраць практыкі забаронаў правядзення масавых мерапрыемстваў, якія плануюцца дэмакратычнымі сіламі ў Слоніме. Адмова была падпісана старшынёй Слонімскага райвыканкама Іосіфам Паўлюкевічам і матывавана наступным чынам: «Згодна з планам работы аддзела адукацыі, спорта і турызма Слонімскага раённага выканаўчага камітэта не маем магчымасці прадставіць Вам месца ў гарадскім парку па вул.Оперная ў патрабуемы час, паколькі 28 верасня 2013 года ў 12.00 пачатак спартыўнага мерапрыемства «Спорт нам поможет силы умножить».

24,25 і 26 верасня актывісты Беларускай партыі левых «Справядлівы свет» планавалі ў Гомелі правесці пікеты з мэтай прапаганды ідэй партыі сярод насельніцтва і публічнага абмеркавання сацыяльна-эканамічнага становішча краіны. На ўсе заяўкі старшыня Гомельскай абласной арганізацыі партыі Уладзімір Сякерка атрымаў адмовы. Намеснік старшыні Гомельскага гарвыканкама Аксана Рудзянок забараніла «Справядліваму свету» правесці пікеты, паколькі да заяўкі не была прыкладзена дамова з гарадской паліклінікай на медыцынскае абслугоўванне мерапрыемства. З Гомельскай цэнтральнай гарадской паліклінікі Уладзімір Сякерка атрымаў адказ, што «штодзённае зняцце брыгады хуткай медыцынскай дапамогі з лініі 24, 25 і 26 верасня прывядзе да затрымкі абслугоўвання выклікаў і невыканання нарматываў». Адказ падпісаў галоўны ўрач гарадской паліклінікі Вячаслаў Яшчанка.

25 верасня сябра Слонімскай суполкі БХД Алесь Масюк атрымаў адмову на заяўку аб правядзенні 29 верасня ў гарадскім парку пікета, прысвечанага абароне «Газеты Слонімскай», а таксама за права жыхароў Слонімшчыны свабодна афармляць падпіску на незалежнае выданне ў аддзяленнях РУП «Белпошта» і набываць яго ў кіёсках «Белсаюздруку». Адмова за подпісам старшыні Слонімскага райвыканкама Іосіфа Паўлюкевіча ўтрымлівала матывацыю забароны масавага мерапрыемства: «Згодна з планам работы аддзела ідэалагічнай работы, культуры

і па справах моладзі Слонімскага раённага выканаўчага камітэта, РК ГА «БРСМ» 29 верасня 2013 года ў 12.00 у гарадскім парку па вул.Опернай пачатак традыцыйнай крос-віктарыны «Знай свой край».

## Абмежаванне свабоды асацыяцый

11 верасня ў судзе Лунінецкага раёна было вынесена рашэнне па справе актывіста незалежнага прафсаюза Леаніда Дубаносава, які лічыць незаконным сваё звальненне з РУП «Граніт», што знаходзіцца ў Мікашэвічах. З рашэння суда вынікае, што Дубаносава звольнілі з працы з парушэннем заканадаўства (за што вынесена прыватнае вызначэнне) і ён мае падставы патрабаваць кампенсацыю нанесенай маральнай шкоды. Акрамя таго, адміністрацыя «Граніта» мусіць сплаціць прафсаюзнаму актывісту матэрыяльную дапамогу памерам 1 мільён рублёў. Разам з тым, старшыня раённага суда Міхаіл Дзенісовіч абвесціў, што выяўленыя парушэнні не з'яўляюцца падставай для аднаўлення Леаніда Дубаносова на працы. Таксама суддзя адмовіў у задавальненні той часткі позвы, якая тычыцца спынення дыскрымінацыі па прафсаюзнай прыналежнасці з боку кіраўніцтва мікашэвіцкага прадпрыемства, на чым настойваў Дубаносаў. 27 верасня Леанід Дубаносаў падаў касацыйную скаргу ў Брэсцкі абласны суд.

18 верасня ў судзе Ленінскага раёна Брэста прайшоў першы судовы працэс па скарзе актывіста кампаніі «Гавары праўду» Аляксандра Кузьміна з Белаазёрска, у якой ён просіць прызнаць неправамоцным папярэджанне, вынесенае яму за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі Бярозаўскай раённай пракуратурай (за подпісам Данілы Дзярабіна) і падтрыманае Брэсцкай абласной пракуратурай. Актывіст па-ранейшаму прытрымліваецца пазіцыі, якую выклаў спачатку ў Бярозаўскім РАУС (куды ў свой час звярнуўся з заявай цяпер ужо былы старшыня Белаазёрскага гарвыканкама Вячаслаў Дамброўскі, каб прыцягнулі Кузьміна да крымінальнай адказнасці за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі), а далей і ў пракуратурах, што дзеянні ягоныя не парушаюць закон, паколькі кампанія «Гавары праўду» — гэта не грамадская арганізацыя, а грамадская ініцыятыва. Бярозаўскі РАУС фактычна пагадзіўся з пазіцыяй Аляксандра Кузьміна, прызнаўшы, што складу злачынства ў ягоных дзеяннях няма, але пракурор вырашыў інакш.

19 верасня грамадскі актывіст Мікалай Чарнавус падаў у суд Баранавіцкага раёна і г. Баранавічы скаргу на дзеянні начальніка ўпраўлення эканомікі гарвыканкама Раісы Уласовіч. М. Чарнавус адзначыў, што

неаднаразова звяртаўся ў Баранавіцкі гарвыканкам і Брэсцкі аблвыканкам, каб атрымаць памяшканне для грамадскага аб'яднання баранавіцкіх украінцаў «Кабзар». Спачатку гарвыканкам выдзеліў памяшканне (вул. Савецкая, д.60), але потым хутка адмовіўся ад папярэдняга рашэння. Разам з тым, на афіцыйным сайце Баранавіцкага гарвыканкама размешчана інфармацыя, што ў горадзе шмат вольных памяшканняў. Але на ўсе просьбы М. Чарнавуса аб выдзяленні памяшкання для ГА «Кабзар» з мэтаю атрымання юрыдычнага адраса адказваюць, каб актывісты заплацілі 2 млн. рублёў і ўдзельнічалі ў аўкцыёне. Мікалай Чарнавус просіць суд абавязаць Баранавіцкі гарвыканкам выдзеліць адно з вольных памяшканняў для ГА «Кабзар».

# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Кастрычнік

Для кастрычніка былі характэрны замацаванне і кансервацыя негатыўных тэндэнцый у сферы правоў чалавека, якія фарміраваліся на працягу апошніх месяцаў. Станоўчая падзея — вызваленне з месцаў абмежавання волі палітвязня Паўла Севярынца — не змяніла агульнага цяжкага становішча і не расцэньваецца як прыкмета пазітыўнай дынамікі, паколькі выхад на волю палітвязня адбыўся не ў сувязі з прадпрынятымі ўладамі крокамі і зменай стаўлення да праблемы палітычных зняволеных, а ў сувязі са сканчэннем тэрміну адбыцця пакарання.

У месцах пазбаўлення волі працягвалі ўтрымлівацца 9 палітычных зняволеных: Алесь Бяляцкі, Мікалай Статкевіч, Мікалай Аўтуховіч, Эдуард Лобаў, Мікалай Дзядок, Яўген Васьковіч, Арцём Пракапенка, Ігар Аліневіч і Андрэй Гайдукоў. Палітвязні падвяргаліся ціску і пакаранням, пагаршаліся і без таго нялёгкія рэжымы іх утрымання, якія абмяжоўваюць іх сродкі да існавання, якасць харчавання і медыцынскай дапамогі. Пазбаўленне спатканняў са сваякамі, абмежаванне карэспандэнцыі і пастаянны ціск з мэтай атрымання прашэнняў аб памілаванні дапаўнялі фізічныя выпрабаванні псіхалагічнымі, набліжаючы ўмовы ўтрымання да жорсткага і зневажаючага чалавечую годнасць абыходжання.

У канцы кастрычніка скончыўся 3-гадовы тэрмін абмежавання волі (так званая «хатняя хімія») у дачыненні да фігуранта справы аб масавых беспарадках Дзмітрыя Мядзведзя, пасля чаго ён быў пастаўлены на прафілактычны ўлік. Разнастайныя меры абмежавальнага характару ў сувязі з непагашанай судзімасцю — ад прафілактычнага (28 чалавек) да прэвентыўнага (3 чалавекі — Павел Вінаградаў, Дзмітрый Дашкевіч і Аляксандр Францкевіч) нагляду — дзенічалі ў дачыненні да былых палітвязняў, што дазваляла спецслужбам кантраляваць іх грамадска-палітычную дзейнасць. У адносінах да Васіля Парфянкова прэвентыўны нагляд быў прыпынены на час ягонага знаходжання ў лячэбна-працоўным прафілакторыі, але не спынена крымінальная справа, узбуджаная за парушэнне правіл нагляду. Нягледзячы на тое, што з 1 кастрычніка быў зняты прэвентыўны нагляд з Уладзіміра Яроменкі, у кастрычніку стала вядома пра прызначэнне даты разгляду ягонай касацыйнай скаргі (12 лістапада) па справе, датычнай вынесенага ў жніўні пакарання ў выглядзе 3 месяцаў арышту за парушэнне правіл прэвентыўнага нагляду.

У кастрычніку ўзмацнілася акцэнтаванне Еўрапейскім Саюзам да беларускіх уладаў на пытанні вызвалення палітвязняў як перадумовы

ўзнаўлення паўнавартаснага супрацоўніцтва і ўдзелу ў праграмах ЕС. Нарошчванне актыўнасці ў дадзеным накірунку абумоўлівалася найперш набліжэннем саміту краін Усходняга партнёрства і ўмовах удзелу ў ім афіцыйнай дэлегацыі Беларусі. Міністр замежных спраў Польшчы Радаслаў Сікорскі і міністр замежных спраў Швецыі Карл Більд апублікавалі ва «Украинской правде» артыкул адносна магчымага далучэння да еўрапейскай супольнасці новых краін і тых крокаў, якія краіны павінны для гэтага зрабіць. Адносна Беларусі было адзначана: «Мы па-ранейшаму цвёрда стаім на патрабаваннях аб тым, што Беларусь павінна вызваліць сваіх палітычных зняволеных, і мы заклікаем нашых партнёраў трымацца далей ад практыкі выбарачнага правасуддзя. Мы занепакоеныя адступленнем ад дэмакратычных прынцыпаў».

«Беларусь для актывізацыі супрацоўніцтва з Еўрапейскім Саюзам у межах Усходняга партнёрства павінна ліквідаваць шэраг перашкод, галоўнай з якіх з'яўляецца наяўнасць у краіне палітвязняў, — заявіў дырэктар па палітычных пытаннях МЗС Швецыі Торб'ерн Сульстрэм па выніках паездкі ў Мінск. — Для нас было важна наведаць перад самітам у Вільні сталіцы ўсіх дзяржаў Усходняга партнёрства. Мы сустракаліся з прадстаўнікамі МЗС і адміністрацыяй прэзідэнта Беларусі. Па супрацоўніцтве ў межах Усходняга партнёрства з Беларуссю існуе даволі вялікая перашкода — гэта наяўнасць палітвязняў. Мы сказалі нашым суразмоўцам, што пара ліквідаваць гэту перашкоду».

З боку Еўрапейскага Саюза крокам палітыкі крытычнага ўзаемадзеяння з Беларуссю, накіраванай на забеспячэнне захавання правоў чалавека і дэмакратычных прынцыпаў, стала працягненне 29 кастрычніка санкцый адносна беларускіх чыноўнікаў, адказных за ажыццяўленне рэпрэсій, і кампаній, якія фінансуюць рэжым. «У адпаведнасці са штогадовым аглядам Савет працянуў абмежавальныя меры Еўразвяза ў дачыненні да Беларусі да 31 кастрычніка 2014 года. Гэта адбылося ў сувязі з тым, што палітычныя зняволеныя да гэтага часу не вызвалены, а паляпшэнняў у сферы павагі правоў чалавека, вяршэнства закона і дэмакратычных прынцыпаў у Беларусі не назіраецца», — паведаміў сайт Афіцыйнага часопіса ЕС. Пры гэтым ЕС зняў санкцыі пяці беларускіх кампаній і 13 чыноўнікаў, але дадаў трох чалавек: начальніка Бабруйскай папраўчай калоніі № 2 Аляксандра Какуніна і яго намесніка Юрыя Трутко, а таксама Аляксандра Лапатку, які ўказаны як намеснік начальніка Мазырскай папраўчай калоніі № 9. Візавыя абмежавальныя меры ўведзены адносна іх за выкарыстаннне жорсткага і бесчалавечнага абыходжання адносна палітвязняў і ціску на іх.

Важнай падзеяй для беларускай праваабарончай супольнасці, у тым ліку з пункту гледжання ацэнкі сітуацыі ў краіне, стала правядзенне 26-27

кастрычніка III Беларускага праваабарончага форуму, у якім узялі ўдзел больш за 110 дэлегатаў з 25 арганізацый, беларускія і замежныя госці. У Рэзалюцыі Форуму «Аб становішчы з правамі чалавека ў Беларусі» канстатавалася, што «за час, які мінуў з правядзення мінулага Форуму ўвосень 2010 года, становішча з выкананнем правоў чалавека ў Беларусі драматычным чынам пагоршылася» і «ў адрозненне ад рэзалюцыі папярэдняга Форуму 2010 года, цяпер мы не можам адзначыць аніякіх пазітыўных зменаў альбо тэндэнцый, якія б сведчылі пра патэнцыял да паляпшэння сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі». У Заяве «Аб захадах па вяртанні Беларусі да выканання міжнародных стандартаў па правах чалавека» адзначалася, што «цягам апошніх пятнаццаці гадоў Рэспубліка Беларусь паступова аддалялася ад міжнародных стандартаў у галіне правоў чалавека, замацаваных у міжнародных пактах і канвенцыях па правах чалавека». Удзельнікі Форуму рашуча асудзілі «гэткае грэблівае стаўленне ўрада Беларусі да каштоўнасцяў і нормаў правоў чалавека» і настойліва заклікалі яго «вярнуцца ў прававое поле, акрэсленае Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, падпісанымі нашай краінай міжнароднымі дакументамі па правах чалавека, не дапускаць адхілення ад устаноўленых гэтымі нормамі стандартаў». У Звароце да саміту Усходняга Партнёрства ўдзельнікі Форуму падкрэслілі: «Мы разглядаем праграму Усходняга партнёрства як сродак набліжэння краін-партнёраў да еўрапейскіх стандартаў жыцця ва ўсіх сферах. Пры гэтым гандлёва-эканамічнае развіццё краін-партнёраў не можа быць аддзеленае ад сацыяльна-палітычнага і гуманітарнага вымярэння еўрапейскіх стандартаў, у тым ліку ў сферы выканання правоў чалавека(...). Мы заклікаем удзельнікаў Саміту прыкласці намаганні да заахвочвання ўрада Беларусі зняць тыя перашкоды, якія робяць немагчымым паўнавартасны ўдзел Беларусі ва Усходнім Партнёрстве. У першую чаргу з шэрагу такіх крокаў мы бачым неадкладнае і безумоўнае вызваленне палітычных вязняў, іх аднаўленне ў правах».

На міжнародным узроўні сістэмныя праблемы ў сферы правоў чалавека ў Беларусі ў кантэксце выбарчых працэсаў найбольш яскрава былі прадстаўлены ў дакладзе Спецдакладчыка ААН Міклаша Харашці, прэзентаваным 28 кастрычніка на Генеральнай асамблеі ААН у Нью-Ёрку. Прадстаўнік беларускай дэлегацыі ў чарговы раз падкрэсліў пазіцыю непрызнання мандата Спецыяльнага дакладчыка, і, адпаведна, яго дакладу, акцэнтаваўшыся на тым, што яго краіна разглядае ўстанаўленне мандата як спробу ЕС аказаць ціск на краіну, якая праводзіць незалежную палітыку. Прадстаўнік Беларусі адзначыў, што пры праходжанні УПА Беларусь імплементавала большасць узятых на сябе рэкамендацый. Падыход да ацэнкі сітуацыі з правамі чалавека ў краінах-сябрах ААН выключна ў ме-

жах УПА быў падтрыманы шэрагам краін, якія таксама маюць праблемы з выкананнем правоў чалавека, такіх як Куба, Венесуэла, Лаос, Расія, Кітай, Іран, Туркменістан, Казахстан, Азербайджан, Узбекістан, Зімбабвэ, Нікарагуа. Адначасова краіны ЕС, ЗША, Швейцарыя і Нарвегія падтрымалі даклад, выказалі занепакоенасць сітуацыяй з правамі чалавека ў краіне і ў чарговы раз заклікалі ўлады Беларусі супрацоўнічаць з адмысловымі працэдурамі і механізмамі ААН, у прыватнасці, забяспечыць допуск на тэрыторыю краіны Спецыяльнага дакладчыка ААН па Беларусі.

## Палітычныя зняволеныя, крымінальны пераслед грамадскіх актывістаў

1 кастрычніка з былога палітвязня Уладзіміра Яроменкі былі зняты прэвентыўны нагляд — такое рашэнне прыняў суд Першамайскага раёна Мінска. Пра гэта актывісту паведамілі ў крымінальна-выканаўчай інспекцыі. Уладзімір Яроменак за парушэнне прэвентыўнага нагляду ў жніўні быў асуджаны на 3 месяцы арышту судом Першамайскага раёна сталіцы. Актывіст абскардзіў прысуд. 25 кастрычніка стала вядома, што разгляд касацыйнай скаргі прызначаны на 12 лістапада.

4 кастрычніка Валянціна Аліневіч атрымала кароткатэрміновае спатканне ў Наваполацкай калоніі з сынам — палітвязнем Ігарам Аліневічам.

5 кастрычніка Аляксандр Дзядок, бацька палітвязня Мікалая Дзядка, паведаміў, што ягоны сын рыхтуе скаргу па сваёй справе ў апошнюю наглядную інстанцыю — на імя старшыні Вярхоўнага суда. 28 кастрычніка жонка палітвязня Валерыя Хоціна агучыла інфармацыю, што за два апошнія месяцы Мікалай Дзядок быў двойчы пакараны карцарам. Першы раз палітвязень трапіў туды на 10 дзён у верасні, а другі раз — на 5 дзён у кастрычніку. Прычыны пакарання — фармальныя. Па словах Валерыі Хоцінай, у Мікалая пагаршаецца здароўе.

6 кастрычніка Марына Адамовіч, жонка палітвязня Мікалая Статкевіча, атрымала з Магілёўскага ўпраўлення дэпартамента выканання пакаранняў адказ на сваю скаргу, датычную цэнзуравання лістоў больш за тры дні, што забаронена па законе. Дэпартамент у сваім адказе ўказаў, што М. Статкевіч не ўтрымліваецца пад вартай, а з'яўляецца асуджаным, таму патрабаванні закона на яго не распаўсюджваюцца. 9 кастрычніка стала вядома, што Мікалай Статкевіч адмовіўся надалей звяртацца па медыцынскую дапамогу ў турме. Палітвязень заявіў, што яго звароты па дапамогу выкарыстоўваюцца адміністрацыяй папраўчых установ як сіг-

нал для арганізацыі супрацьпраўнага ціску шляхам незаконнага стварэння ўмоў для абвастрэння захворванняў, пра якія стала вядома. У такой сітуацыі зварот па медыцынскую дапамогу дае адваротны эфект і робіцца небяспечным, што змушае яго хаваць інфармацыю пра праблемы са здароўем.

9 кастрычніка пасля працяглага перапынку пачалі даходзіць лісты ад палітвязня Мікалая Аўтуховіча з Гродзенскай турмы. Пра стан свайго здароўя пасля нанясення лязом пашкоджанняў жывата ў знак пратэсту супраць накладання несправялівых спагнанняў палітвязень паведаміў: «Са здароўем сапраўды ўсё нармальна. Прашу тых, хто мяне падтрымлівае, не хвалявацца». 16 кастрычніка праваабаронца Алег Волчак паведаміў, што Мікалай Аўтуховіч напісаў яму не верыць адміністрацыі турмы, калі яна паведаміць, што з ім здарыўся інсульт альбо прыпадак. Алег Волчак таксама распавёў пра тое, што атрымаў адказ на зварот у Генеральную пракуратуру Беларусі, які быў пададзены ім і Аляксандрам Камароўскім (абодва з'яўляюцца сустаршынямі рэспубліканскага грамадскага аб'яднання ветэранаў вайны ў Афганістане) 25 верасня, у якім запатрабавалі праверкі законнасці двух спагнанняў, накладзеных на Мікалая Аўтуховіча. У адказе сказана, што зварот перанакіраваны ў Гродзенскую абласную пракуратуру.

12 кастрычніка Марына Лобава, маці палітвязня Эдуарда Лобава, паведаміла, што яе сыну дазволена сустрэча ў турме са святаром айцом Дзмітрыем, які служыць у Слуцкім раёне. Паводле яе слоў, гэта не першая сустрэча са святаром, адбываецца яна ў прысутнасці прадстаўніка адміністрацыі, таму гэта не звычайная споведзь, а размова аб душэўным стане, пра планы, пра тое, чым ён займаецца. 24 кастрычніка Марына Лобава атрымала кароткатэрміновае спатканне з сынам — дзве гадзіны размовы праз шкло. Адміністрацыя Івацэвіцкай калоніі таксама дазволіла перадаць перадачу зняволенаму. Марына Лобавала паведаміла, што Эдуард адчувае сябе здавальняюча і працягвае вучыцца на электразваршчыка ў ПТВ пры калоніі.

19 кастрычніка палітвязень Павел Севярынец быў вызвалены са спецкамендатуры № 7 у вёсцы Куплін Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці, дзе адбываў трохгадовае пакаранне за ўдзел у акцыі пратэсту супраць фальсіфікацыі вынікаў выбараў 19 снежня 2010 года. Сябры, паплечнікі і журналісты планавалі сустракаць П.Севярынца ў Пружанскім раёне, бо меркавалася, што ён выйдзе на волю каля 10.00. Аднак прыкладна ў 6.00 стала вядома, што Павел ужо знаходзіцца на шляху ў Мінск. У 3.30

яго вывезлі са спецкамендатуры і пасадзілі на цягнік Брэст-Масква, які прыбыў у сталіцу ў 8.42. Паводле слоў палітыка, спадарожнікі, з якімі яму давялося ехаць у цягніку, пазналі яго, выказвалі сваю падтрымку і цікавіліся лёсам іншых асуджаных па справе аб масавых беспарадках. Падчас сустрэчы П.Севярынца на чыгуначным вакзале Мінска былі затрыманы шэсць журналістаў, палітык Віталь Рымашэўскі, актывісты Ганна Шапуцька і Андрэй Молчан (усе былі вызвалены пасля таго, як П. Севярынец пакінуў тэрыторыю вакзала). 21 кастрычніка П.Севярынец абавязаны стаць на ўлік у РАУС па месцы жыхарства ў Віцебску. Былы палітвязень заявіў, што мае намер працягваць займацца грамадска-палітычнай дзейнасцю.

29 кастрычніка адказны сакратар Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі Дзяніс Садоўскі паведаміў, што ўжо больш за месяц сваякі і сябры палітвязня Яўгена Васьковіча не атрымліваюць ад яго лістоў. Адміністрацыя Магілёўскай турмы абмяжоўвае вязня ў атрыманні газет.

30 кастрычніка афіцыйны часопіс Еўрасаюза апублікаваў новы варыянт беларускага «чорнага спісу», у якім знаходзяцца 232 асобы і 25 прадпрыемстваў. Адпаведнае рашэнне 29 кастрычніка прыняў Савет ЕС. У спіс беларускіх чыноўнікаў, якія трапляюць пад санкцыі Еўрасаюза, былі дададзены прозвішчы Аляксандра Какуніна, начальніка Бабруйскай папраўчай калоніі № 2, і яго намесніка Юрыя Трутко. У гэтай калоніі адбывае пакаранне палітвязень — праваабаронца Алесь Бяляцкі. Праваабаронца Андрэй Бандарэнка, які лабіяваў уключэнне ў абмежавальны спіс ЕС кіраўнікоў Бабруйскай калоніі, адзначыў: «Мы да гэтага часу атрымліваем інфармацыю пра ціск на Алеся Бяляцкага, якому «не рэкамендуецца» мець зносіны з іншымі асуджанымі. Любы зняволены, які адважыўся пагаварыць з Алесем, жорстка караецца адміністрацыяй калоніі, аж да змяшчэння ў штрафны ізалятар».

30 кастрычніка скончыўся тэрмін адбыцця пакарання ў выглядзе 3 гадоў абмежавання волі без накіравання ва ўстановы адкрытага тыпу ўдзельніка акцыі пратэсту 19 снежня 2010 года Дзмітрыя Мядзведзя. Д. Мядзведзь не мае дачынення да палітычных партый і рухаў, па спецыяльнасці ён інжынер-энергетык, працаваў у сферы будаўніцтва, меў уласны бізнэс. На плошчы ён апынуўся выпадкова — дамовіўся сустрэцца з сынам, але яны згубілі адзін аднаго ў натоўпе людзей. У выніку і ён сам, і ягоны сын былі затрыманы ўначы з 19 на 20 снежня і асуджаныя на 10 сутак арышту. Пасля адбыцця адміністрацыйнага тэрміну Д. Мядзведзь быў паўторна арыштаваны і змешчаны ў СІЗА на вул. Валадарскага — гэтым разам у межах крымінальнай справы аб масавых беспарадках. Пас-

ля сканчэння тэрміну адбыцця пакарання Д. Мядзведзь пастаўлены на прафілактычны ўлік у РУУС па месцы пражывання, на працягу пяці гадоў за ім будзе заставацца судзімасць.

31 какстрычніка Вольга Гайдукова, маці палітвязня Андрэя Гайдукова, паведаміла, што яна разам з дачкой Марыяй мела доўгатэрміновае спатканне працягласцю 3 сутак з сынам у калоніі №19 у Магілёве. Па словах Вольгі Гайдуковай, ужо з 8 жніўня Андрэй мог патрапіць пад умоўна-датэрміновае вызваленне. Аднак у сувязі з тым, што ў той час ён толькі прыбыў у калонію, то атэстацыю ў яго адносінах не праводзілі.

## Смяротнае пакаранне

8 кастрычніка ў Мінску былі прэзентаваны вынікі даследавання, праведзенага сацыялагічнай кампаніяй Satio на тэму злачыннасці і пакарання ў Беларусі. Даследаванне выявіла неадназначнае стаўленне да смяротнага пакарання як у яго прыхільнікаў, так і праціўнікаў. На прамое пытанне аб адмене смяротнага пакарання больш за палову апытаных жыхароў Беларусі выказаліся за падтрымку яго прымянення — 63,8%. Аднак пры высвятленні стаўлення да альтэрнатыўных мер пакарання (пажыццёвае зняволенне, мараторый на прымяненне смяротнага пакарання), таксама выявілася шырокая падтрымка апытаных. Сярод перакананых прыхільнікаў смяротнага пакарання галоўным аргументам з'яўляецца адэкватная адплата за здзейсненае злачынства. Дадатковы важны аргумент — пачуццё бяспекі грамадзян ад наяўнасці ў дзяржаве смяротнага пакарання. Для перакананых праціўнікаў смяротнага пакарання галоўны аргумент — каштоўнасць чалавечага жыцця. 73,5% рэспандэнтаў асцерагаюцца судовых памылак і прытрымліваюцца пазіцыі «горш асудзіць невінаватага, чым дазволіць вінаватаму сысці ад пакарання». 33% апытаных не валодаюць інфармацыяй пра смяротнае пакаранне, а 5,5 % перакананыя, што ў краіне даўно ўведзены мараторый. Толькі 6% апытаных адначылі, што чыталі пра смяротную кару ў СМІ. У аснове даследавання Satio — вынікі асабістых інтэрв'ю з 1 100 жыхарамі Беларусі ва ўзросце ад 18 да 75 гадоў і вынікі шасці тэматычных фокус-груп, праведзеных у 2013 годзе. Даследаванне было выканана па замове Penal Reform International.

9 кастрычніка спецдакладчык ААН па сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі Міклаш Харашці заклікаў улады Беларусі неадкладна ўвесці мараторый на смяротнае пакаранне, пакуль не адбудзецца рэформы заканадаўства і судовай сістэмы, якая дазволіць выдаліць смяротнае пакаранне з Крымінальнага кодэкса краіны.

10 кастрычніка каардынатар кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі» Андрэй Палуда, які з'яўляецца даверанай асобай асуджанага да смяротнага пакарання Паўла Селюна, паведаміў, што Камітэт па правах чалавека ААН зарэгістраваў індывідуальны зварот па ягонай справе 2 кастрычніка 2013 года за № 2289/2013. Пра гэта А. Палуда праінфармаваў Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь, нагадаўшы пра абавязак забяспечыць невыкананне смяротнага прысуду да разгляду звароту: «У адпаведнасці з правілам 92 працэдур Камітэта дзяржава не павінна прыводзіць у выкананне смяротны прысуд да разгляду дадзенага зварота па сутнасці». У адпаведнасці з Палажэннем аб Міністэрстве замежных спраў, зацверджаным Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 31 ліпеня 2006 года № 978, функцыя кантролю за выкананнем міжнародных дамоў ускладаецца на МЗС, таму праваабаронца дадаткова просіць, каб Міністэрства апавясціла Вярхоўны Суд, Генпракуратуру і МУС аб рэгістрацыі КПЧ ААН зварота Паўла Селюна, а таксама пракантраляваць выкананне міжнародных дамоў Рэспублікі Беларусь гэтымі дзяржаўнымі органамі і аказаць ім неабходнае садзеянне ў гэтым. 24 кастрычніка Андрэй Палуда атрымаў адказ з Міністрэства замежных спраў Рэспублікі Беларусь на свой зварот. Намеснік міністра Валянцін Рыбакоў адзначыў, што «паведамленне было накіравана беларускаму боку для атрымання пісьмовых каментароў. Выконваючы свае міжнародныя абавязацельствы ў рамках Факультатыўнага пратакола (да Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычнах правах), Беларусь плануе накіраваць такія каментары ў Камітэт у парадку, прадугледжаным арт. 4 ч. 2 Факультатыўнага пратакола». Сутнасць звароту аб прыпыненні выканання смяротнага прысуду і інфармавання адпаведных дзяржаўных органаў (у дадзеным выпадку — МУС і Генпракуратуры) аб разглядзе ў КПЧ індывідуальнага паведамлення Паўла Селюна, Міністэрствам замежных спраў была цалкам праігнаравана.

18 кастрычніка Калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда разгледзела касацыйную скаргу асуджанага да смяротнага пакарання Аляксандра Грунова на прысуд Гомельскага абласнога суда. Аляксандр Груноў быў прысуджаны да расстрэлу на падставе п.6 ч.2 артыкула 139 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. 25-гадовы хлопец здзейсніў забойства сваёй знаёмай студэнткі Наталлі Емельянчыкавай. На паседжанні Вярхоўнага суда абаронца абвінавачанага Сяргей Красноў падкрэсліў, што крымінальнае заканадаўства Беларусі прадугледжвае, акрамя смяротнага пакарання, і іншыя меры пакарання — пазбаўленне волі на тэрмін ад васьмі да дваццаці пяці гадоў або пажыццёвае зняволенне. Абаронца, спасылаючыся на нормы міжнароднага права і звязаныя з імі

нормы нацыянальнага заканадаўства, прадставіў судовай калегіі шэраг парушэнняў, якія знайшлі сваё адлюстраванне ў матэрыялах крымінальнай справы, на якія суд першай інстанцыі не звярнуў увагі. У прыватнасці, адвакат казаў пра парушэнне прэзумпцыі невінаватасці ў дачыненні да яго падабароннага (арт. 26 Канстытуцыі РБ і п.2 арт.14 МПГПП), парушэнне прынцыпу роўнай абароны і спаборнасці судовага працэсу (арт.22 Канстытуцыі РБ і арт.24 КПК РБ), адзначыў наяўнасць супярэчнасцяў, звязаных з псіхолага-псіхіятрычнай экспертызай стану здароўя Грунова. Апроч таго, абаронца указаў на яшчэ адзін момант, які меў месца адразу пасля вынясення прысуду, і на які, паводле яго слоў, ніхто не звяртае ўвагу: «Калі прысуд судовай калегіі Гомельскага абласнога суда яшчэ не ўступіў у законную сілу, Груноў ужо ўтрымліваўся ў адзіночнай камеры для смяротнікаў у ІЧУ УУС Гомельскага аблвыканкама, дзе быў вымушаны насіць вопратку з надпісам «ИМН» (на рускай мове — исключительная мера наказания), такім чынам, ён зведваў такое абыходжанне, як быццам зыход справы і яго лёс былі ўжо прадвызначаныя...». 22 кастрычніка Калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда адмяніла смятротны прысуд Аляксандру Грунову, справа накіравана на новае судовае разбіральніцтва.

## Выкарыстанне катаванняў і жорсткага абыходжання

15 кастрычніка палітвязень Мікалай Аўтуховіч апублікаваў у газеце «Народная воля» матэрыял пра ўмовы ўтрымання ў турме №1 Гродна, дзе ён адбывае пакаранне з канца студзеня 2012 года, і куды ён быў пераведзены з Івацэвіцкай калоніі пасля адпаведнага рашэння суда. Некаторыя вытрымкі з публікацыі М. Аўтуховіча: «Я не скардзіўся, калі мяне па прыбыцці ў турму адразу пасялілі ў камеру-ізалятар і пратрымалі там 255 сутак. У гэтай сырой і халоднай камеры з бетоннай падлогай, без стала і лаваў (што забаронена законам) я сядзеў бы да канца тэрміну, калі б не выпадковая нататка ў газеце. У камеры ад вялікай вільготнасці, мокрых сцен рэчы пакрываліся цвіллю нават у сумцы. Гніў матрац. Пры гэтым асобныя супрацоўнікі турмы са здзекам казалі: «Радуйся, што табе далі нумар «люкс»!» Вось толькі ад такога «люкса» ў мяне, чалавека, які не паліць, з лёгкіх пачалі адкашлівацца вільготныя згусткі. У гэтым «люксе» нават летам даводзілася сядзець у шапцы, а ўсю зіму на ўнутраных кратах вакна быў лёд (...) Я не рэагаваў, калі ў маці не прынялі прадуктовую перадачу, якую самі ж і дазволілі, прымеркаваўшы да нашага спаткання. Мама на сваю невялікую пенсію назбірала грошай на 30 кг нятанных прадуктаў, прывезла, а ёй кажуць: «Не паложана!» Хіба гэта не здзек? Добра, што я на спатканні падрыхтаваў яе да такога варыянту

развіцця падзей і крыху супакоіў. А так магла б і інфаркт атрымаць (...) Не скардзіўся я і на медыкаў, якія ігнаравалі мае звароты па дапамогу. За год я звяртаўся да іх 40 разоў, адгукнуліся толькі 6 разоў. Прычым наведванні дактароў заканчваюцца адным пытаннем: «Дык што табе даць, калі ў нас нічога няма?» А ў ВК-5 дактары шчыра казалі: «Лягчэй аформіць паперы аб тваёй смерці, чым лячыць». У мяне шмат сур'ёзных захворванняў, але пры гэтым медыкі турмы ні разу (!) не ўзялі ў мяне аналізы. І такое стаўленне не толькі да мяне — падобныя скаргі я чуў ад многіх асуджаных. На прыём да начальніка медчасткі я не мог патрапіць больш за два месяцы, хоць спраўна пісаў заявы. А калі трапіў, то на маё пытанне: «Чаму сустрэчы прыйшлося чакаць так доўга?», ён адказаў, што ад мяне ніякіх заяваў не паступала ... Так, гэта праўда, напісаныя асуджанымі заявы тут часта сыходзяць у нікуды. Адзін раз мяне адмовіліся выводзіць да адваката з-за адсутнасці маёй заявы. Я не стаў пісаць новую, паколькі літаральна за некалькі дзён да прыезду адваката я аддаў заяву на сустрэчу асабіста ў рукі начальніку. Так не павінна адбывацца, але адбываецца. Я не рэагаваў на многія іншыя поскудзі і правакацыі, пакуль з дапамогай пракурора Гродзенскай вобласці, які ў студзені 2013 года наведаў маю камеру, не даведаўся, што з'яўляюся «злосным парушальнікам» рэжыму ўтрымання ў турме № 1. Як аказалася, на мяне яшчэ ў кастрычніку 2012-га быў напісаны рапарт пра тое, што я не рэагую на заўвагі кантралёра. Хоць у рэальнасці такіх заўваг і папярэджанняў не было. І ў кастрычніку 2012 года мне, аказваецца, вынеслі вымову, пра якую я выпадкова даведаўся ў студзені 2013 года (...) І вось роўна за месяц да пагашэння ўсіх маіх спагнанняў па такім жа сцэнары мне выносяць вымову. Што гэта за турма, у якой пад капірку фабрыкуюць парушэнні шараговыя кантралёры, а кіраўніцтва паказвае, што не мае дачынення да гэтага? (...) Не бывае такіх супадзенняў, каб двойчы — у 2012 годзе і ў 2013 годзе — я атрымліваў спагнанні як раз перад тым, як павінны пагасіць усе папярэднія. Такім чынам, мне прыйшлося выказаць пратэст і спаласаваць лязом жывот. Усе гэтыя меры на сумленні выканаўцаў. Іншага спосабу прыцягнуць увагу да дадзенай праблемы ўжо няма. На пратэстныя галадоўкі адміністрацыя не рэагуе. Я пратэстую, бо заўтра гэты кантралёр пацвердзіць, што на яго змене Аўтуховіч сам засіліўся ў камеры на кратах або памёр ад сардэчнай недастатковасці (...) Я зарабіў у турме грыбок пазногцяў. Вельмі доўга даказваў адміністрацыі, што так быць не павінна, каб 500 чалавек карысталіся нажніцамі, якія ніхто не дэзінфікуе і якія проста вісяць на кручку ў лазні. Пераканаў. Дазволілі. Тройчы мая жонка прывозіла абцужкі для пазногцяў і тройчы везла іх назад. Адны дазваляюць, іншыя кажуць, што не дазволена (...) Асуджаным у турме № 1 забаронена мець асабістую іголку для шыцця. Яе наяўнасць — гэта ўжо

найгрубейшае парушэнне, за якое можна атрымаць спагнанне. Атрымліваецца, што адміністрацыя прымушае асуджаных наперакор здароваму сэнсу карыстацца адной іголкай на 10-15 камер, і гэта пры тым, што ў некаторых камерах знаходзяцца ВІЧ- інфікаваныя і носьбіты гепатыту (...) Чаму ў шапіку турмы няма ў продажы гародніны і садавіны? За 20 месяцаў знаходжання ў Гродна я толькі тры разы бачыў, што ў шапіку прадаюць цыбулю. Няўжо ўжо цыбуля для Беларусі экзатычная гародніна? Я шмат разоў спрабаваў вырашыць пытанне з адміністрацыяй турмы, каб у шапіку турмы прадавалі яблыкі, але і гэта аказалася немагчыма. Аказваецца, і яблыкі для Беларусі з'яўляюцца экзатычным прадуктам. Нават тады, калі ад іх ломяцца сады і людзі гатовы аддаваць яблыкі амаль за бясплатна (як было мінулай восенню). Усё гэта не дробязі, гэта тое, што робіць людзей інвалідамі. Хоць ні ў адным прысудзе не напісана, што асуджанага можна калечыць (...)».

31 кастрычніка малодшы оперупаўнаважаны аддзялення крымінальнага вышуку Крычаўскага РАУС, старэйшы сяржант міліцыі быў асуджаны Бабруйскім міжгарнізонным судом па ч.3 арт. 426 Крымінальнага кодэкса (перавышэнне ўлады альбо службовых паўнамоцтваў) і п.9 ч.2 арт. 147 КК РБ (наўмыснае прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання). Па сукупнасці злачынстваў яму прызначана пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам 6 гадоў з накіраваннем у калонію ўзмоцненага рэжыму, без канфіскацыі маёмасці, з пазбаўленнем адмысловага звання «старэйшы сяржант міліцыі», з пазбаўленнем права займаць вызначаныя пасады тэрмінам на пяць гадоў. Крычаўскія міліцыянеры ў снежні 2012 года затрымалі грамадзяніна Л., ён праходзіў падазраваным у крадзяжы ў Крычаўскім УКПП «Камунальнік». Супрацоўнікі міліцыі прымянілі меры фізічнага ўздзеяння да падазраванага, у выніку гэтага ён атрымаў цяжкія цялесныя пашкоджанні. Пасля вызвалення грамадзянін звярнуўся з заявай у Крычаўскі міжрайаддзел КДБ. Пры тым, што ў збіцці падазраванага ў будынку Крычаўскага РАУС удзельнічала некалькі супрацоўнікаў праваахоўных органаў, да крымінальнай адказнасці прыцягнуты толькі адзін.

## Пераслед праваабаронцаў і праваабарончыя арганізацыі

8 кастрычніка ў судзе Савецкага раёна Мінска з чацвёртай спробы адбыўся перагляд адміністрацыйнай справы сябра Рады ПЦ «Вясна» Уладзіміра Лабковіча. Адносна праваабаронцы 4 верасня Мінскі гарадскі суд адмяніў пастанову аб прыцягненні да адміністрацыйнай адказнасці па ч. 1 арт. 23.34 КаАП (парушэнне парадку арганізацыі і правядзення маса-

вага мерапрыемства), вынесеную суддзёй Савецкага раёна Дзмітрыем Паўлючэнкам 6 жніўня, і накіраваў справу ў той жа суд на перагляд да іншага суддзі. Суддзя Эдуард Якубоўскі прызнаў праваабаронцу вінаватым і пакараў Уладзіміра Лабковіча, як і ягоны папярэднік, штрафам у памеры 30 базавых велічынь. 18 кастрычніка Уладзімір Лабковіч накіраваў у Мінскі гарадскі суд касацыйную скаргу на пастанову суда Савецкага раёна. На гэты раз Уладзімір Лабковіч паведаміў у Мінгарсуд, што на момант падачы касацыйнай скаргі яму нават невядома, што паслужыла для суда падставай прызнаць яго вінаватым у адміністрацыйным правапарушэнні: «У самім працэсе суддзя суда Савецкага раёна г.Мінска Эдуард Якубоўскі, які старшыняваў у судовым пасяджэнні, азнаёміў мяне толькі з выніковай часткай пастановы, бо ў сувязі з адсутнасцю электрычнасці ў будынку суда на момант разгляду маёй скаргі не мог, з яго слоў, вырабіць поўны тэкст пастановы». Атрымліваецца, што «па тэхнічных прычынах» суддзя Якубоўскі пазбавіў Лабковіча права на абарону ў рамках касацыйнай вытворчасці. «Фактычна я магу толькі здагадвацца пра тое, у чым жа я сапраўды прызнаны вінаватым», — адзначае праваабаронца. У скарзе У. Лабковіч просіць Мінскі гарадскі суд адмяніць пастанову суддзі Савецкага раёна г. Мінска ад 8 кастрычніка пра штраф і спыніць справу аб адміністрацыйным правапарушэнні. Таксама Уладзімір Лабковіч настойвае на прыцягненні да адказнасці суддзі суда Савецкага раёна Мінска Эдуарда Якубоўскага за непрадстаўленне копіі пастановы аб адміністрацыйным правапарушэнні, што пазбавіла яго магчымасці касацыйнага абскарджвання.

10 кастрычніка ў Мінскім гарадскім судзе адбыўся разгляд касацыйнай скаргі праваабаронцы Тамары Сяргей на рашэнне суда Цэнтральнага раёна Мінска, які прызнаў законным і абгрунтаваным вынесенае ёй афіцыйнае папярэджанне Генеральнай пракуратуры аб крымінальнай адказнасці за арганізацыю дзейнасці незарэгістраванага грамадскага аб'яднання — ініцыятывы «Супраць беззаконня ў судах і пракуратуры». Судовая калегія Мінгарсуда ў складзе Вольгі Рамашэўскай (старшыня), Алены Пруднікавай і Кацярыны Якутовіч, вярнуўшыся з дарадчага пакоя, замест абвяшчэння рашэння перанесла пасяджэнне на 24 кастрычніка. Сваё рашэнне суд матываваў тым, што неабходна запатрабаваць ад Генпракуратуры матэрыялы, на падставе якіх актывістцы было вынесена афіцыйнае папярэджанне. 24 кастрычніка касацыйная скарга Тамары Сяргей была адхіленая.

25 кастрычніка сябра Праваабарончага цэнтра «Вясна» з Гомеля Анатоля Паплаўнага папярэдзілі пра скасаванне з ім працоўных адносінаў «у

сувязі са сканчэннем працоўнага кантракта», які быў падпісаны ўсяго год таму. Пяць гадоў адпрацаваў А. Паплаўны слесарам-інструментальшчыкам на вытворчым унітарным прыватным прадпрыемстве «Віпра», ніякіх спагнанняў за гэты час не меў. Гэта адзначана і ў паведамленні аб звальненні. «Дзякуем за добрасумленную працу!», — напісаў слесару дырэктар ВУПП «Віпра» Ігар Шчыгельскі. Праваабаронца за сваю дзейнасць неаднаразова прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці, летам 2011 года падчас маўклівых акцый пратэсту адбываў у ІЧУ 15-ці сутачны адміністрацыйны арышт. Прымае актыўны ўдзел у назіранні за выбарамі.

25 кастрычніка платформа на мінскім чыгуначным вакзале, з якой а 18.50 адпраўляўся цягнік на Вільню, ужо за гадзіну да адпраўлення была поўная людзей у цывільным з рацыямі. Тых, хто заходзіў на платформу, здымалі на відэа. Ніякіх перашкодаў нікому не чынілі, цягнік адправіўся паводле раскладу. На наступны дзень, 26 кастрычніка, у літоўскай сталіцы распачынаўся ІІІ Беларускі праваабарончы форум, у якім бралі ўдзел больш за 150 дэлегатаў і гасцей з Беларусі, большасць з якіх ехалі на Форум на вечаровым віленскім цягніку.

## Ціск спецслужбаў на грамадска і палітычна актыўных грамадзян

25 кастрычніка ад непасрэднага начальніка магілёўскага блогера Дзмітрыя Ярмоленкі супрацоўнікі КДБ запатрабавалі характарыстыку. Нагодай для ўвагі КДБ да блогера сталі публікацыі на сайце «Свабоднага фармата» (formats.by). Летам бягучага года Дзмітрый ужо меў размову з супрацоўнікам КДБ, які спрабаваў яго завербаваць, аднак, як толькі хлопец адмовіўся ад гэтага — на яго пачалі ціснуць з усіх бакоў. Супрацоўнікі КДБ прыходзілі ў гарсавет, дзе працуе Дзмітрый Ярмоленка і размаўлялі з яго начальнікам, які ў сваю чаргу правёў з ім прафілактычную размову з нагоды з'явіўшыхся ў інтэрнэце публікацый. Яны, нібыта, псуюць імідж краіны і дзеючай улады. Дзмітрыя Ярмоленку раней адлічылі з юрыдычнага факультэта Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Куляшова.

## Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні

4 кастрычніка Мінскі гарадскі суд у асобе суддзі А. Бычко адмяніў пастанову суда Цэнтральнага раёна сталіцы аб прыцягненні да адміністрацыйнай адказнасці актывіста нацыянал-бальшавіцкага руху Дзмітрыя

Паліенкі, які 22 жніўня быў аштрафаваны на 12 базавых велічынь судом Цэнтральнага раёна сталіцы па абвінавачанні ў парушэнні парадку арганізацыі або правядзення масавых мерапрыемстваў (арт. 23.34 КаАП). Абвінавачанне было звязана з пратэстам супраць «прызыўнога рабства», які адбыўся 8 жніўня ў Мінску. Справа накіравана на новы разгляд у суд Цэнтральнага раёна.

4 кастрычніка з тэрыторыі рынка аўтазапчастак, які знаходзіцца на Гомельскай шашы ў Магілёве, быў прымусова выведзены актывіст Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) Алесь Сердзюкоў, які раздаваў там партыйны бюлетэнь, прысвечаны кампаніі «За зніжэнне растаможкі аўтамабіляў, увозімых у Беларусь з Еўропы і ЗША». Актывіст здолеў раздаць каля 50 бюлетэняў, пасля чаго да яго падыйшло трое супрацоўнікаў міліцыі і пачалі разбірацца ў тым, што за прадукцыю ён раздае. Прозвішча аднаго з міліцыянераў, які вёў перамовы з Алесем Сердзюковым — Уладзімір Данцоў. У выніку актывіст мусіў пакінуць рынак.

7 кастрычніка віцебскага актывіста Барыса Хамайду, распаўсюдніка незалежнай прэсы, затрымалі супрацоўнікі міліцыі і даставілі ў Чыгуначны РАУС г.Віцебска за нібыта несанкцыянаванае пікетаванне. Б. Хамайды быў адпушчаны з пастарунка без складання пратакола. Па словах актывіста, ён распаўсюджваў незалежную прэсу ў цэнтры Віцебска як заўсёды, і ніякіх прыкметаў пікетавання не было.

12 кастрычніка скончыўся 15-суткавы адміністрацыйны арышт лідара «Zmena» Паўла Вінаградава, але супрацоўнікі Цэнтра ізаляцыі правапарушальнікаў яго не адпусцілі ў вызначаны тэрмін, а адвезлі з ЦІП у пасёлак Сокал пад Нацыянальны аэрапорт прыкладна за 30 кіламетраў ад Мінска, каб яго не сустрэлі сябры.

17 кастрычніка ў Мінску на прахадной МАЗ былі затрыманыя сябры АГП Антон Жылко і Дзмітрый Кавалгін падчас раздачы інфармацыйнага бюлетэня АГП «Голас розуму» . Актывісты былі дастаўлены ў аддзяленне міліцыі Заводскага раёна, адкуль былі вызвалены праз 3 гадзіны пасля напісання тлумачэнняў. Супрацоўнікі міліцыі папярэдзілі актывістаў, што іх могуць выклікаць па выніках экспертызы канфіскаваных матэрыялаў.

23 кастрычніка, напярэдадні паседжання Савета кіраўнікоў МЗС краінаў СНД, запланаванага ў Мінску на 24 кастрычніка, адбыўся шэраг адвольных прэвентыўных затрыманняў актывістаў розных арганізацый і рухаў, якія раней удзельнічалі ў арганізацыі пратэстных акцый. Лідар беларус-

кіх нацыянал-бальшавікоў Яўген Контуш быў затрыманы каля ўласнага пад'езда. У гэты ж дзень з аддзялення міліцыі яго даставілі ў суд Маскоўскага раёна Мінска, дзе пакаралі арыштам на 5 сутак нібыта за дробнае хуліганства. Справу разглядаў суддзя Юрый Сезін. Актывіст гэтага руху Дзмітрый Паліенка быў затрыманы адразу пасля працы на прахадной прадпрыемства і дастаўлены ў аддзяленне міліцыі Заводскага раёна. На яго быў складзены пратакол па арт.17.1 (дробнае хуліганства). У гэты ж дзень суддзя Таццяна Матыль пакарала Д. Паліенку арыштам на 6 сутак. 23 кастрычніка быў затрыманы таксама нацбол Арцём Карпучок, у гэты ж дзень суд Кастрыніцкага раёна сталіцы вынес яму пакаранне ў выглядзе 5 сутак арышту. Супрацоўнікі міліцыі спрабавалі затрымаць яшчэ аднаго актывіста нацыянал-бальшавіцкага руху — Аляксандра Палякова, аднак яму ўдалося пазбегнуць гэтага. Актывіст «Еўрапейскай Беларусі» Андрэй Молчан быў затрыманы на працоўным месцы а другой гадзіне дня і дастаўлены ў пастарунак, суд Маскоўскага раёна пакараў яго арыштам на 5 сутак па арт. 23.4 КаАП (непадпарадкаванне службовай асобе), суддзя — Таццяна Мотыль. Увечары быў затрыманы актывіст «Zmena» Віталь Васількоў, пра што ён паспеў па тэлефоне паведаміць Аляксандру Арцыбашаву. На наступны дзень В. Васількоў быў пакараны арыштам на 5 сутак. Суддзя Наталля Драчова прызнала яго вінаватым у непадпарадкаванні супрацоўнікам міліцыі (арт. 23.4 КаАП).

29 кастрычніка, у Дзень памяці ахвяраў таталітарных рэпрэсій, у Мінску супрацоўнікі міліцыі затрымалі 23 удзельнікаў жалобнага марафона і журналістаў. Сярод затрыманых грамадзскія дзеячы Аляксей Шэін, Уладзімір Раманоўскі, Ганна Шапуцька, Алесь Макаеў, Сяргей Ханжанкоў, Кацярына Садоўская, Ніна Багінская, Ілля Дабратвор, адно дзіця — Яўсей Дабратвор, а таксама 5 журналістаў — Наталля Валакіда, Сяргей Краўчук, Наталля Касцюкевіч (Беніцэвіч), Дзяніс Носаў і Аляксандр Корсакаў. Затрыманыя былі дастаўлены ў РУУС Фрунзенскага раёна. Адна з удзельніц ушанавання Галіна Сіўчык адмовілася падымацца ў РУУС, бо ёй цяжка падымацца па прыступках, міліцыянты хацелі ёй дапамагчы, але яна запярэчыла гэтаму, тады яе пакінулі ў спакоі, аднак пазней усё ж затрымалі. Праз тры гадзіны ўсе затрыманыя ўдзельнікі жалобнай акцыі былі вызвалены без складання пратаколаў.

29 кастрычніка суд Ленінскага раёна Магілёва ў асобе суддзі Алены Волкавай аштрафаваў старшыню Магілёўскай абласной кааліцыі дэмакратычных сіл Юрыя Новікава на 45 базавых велічынь за распаўсюд улётак і збор подпісаў супраць размяшчэння расійскай авіябазы. У якасці доказаў паслужылі сем улётак і падпісныя лісты, канфіскаваныя ў Юрыя

Новікава пры затрыманні, якое адбылося вечарам 8 верасня каля дома №29 на вуліцы Ленінскай у Магілёве. У судзе ў якасці сведкаў былі дапытаны два чалавекі, якія паставілі свае подпісы супраць расійскіх баз у Беларусі. Адзін з іх зазначыў, што гэтым людзям варта даваць медалі, а не прыцягваць іх да адміністрацыйнай адказнасці. Праваабаронца Барыс Бухель адзначыў, што гэта прэцэдэнт, калі за распаўсюд улётак і збор подпісаў штрафуюць як за распаўсюд сродкаў масавай інфармацыі.

29 кастрычніка ў Мінску супрацоўнікі міліцыі затрымалі актывіста кампаніі супраць ушчыльнення забудовы ў Першамайскім раёне Віктара Талмачова. Актывіст раздаваў улёткі пра падрыхтоўку да рэферэндуму супраць ушчыльнення забудовы. Ва ўлётках утрымлівалася інфармацыя пра ініцыятыўную групу па зборы подпісаў, якую стварылі мясцовыя жыхары пры падтрымцы актывістаў «Еўраперспектывы», і падрыхтоўку да рэгістрацыі гэтай групы. Актывіст быў дастаўлены ў РУУС Першамайскага раёна, адкуль быў вызвалены пасля апытання і канфіскацыі ўлётак.

## Абмежаванні свабоды слова
## і права на распаўсюд інфармацыі, пераслед журналістаў

3 кастрычніка міжнародная праваабарончая арганізацыя Freedom House прэзентавала даклад аб свабодзе інтэрнэта. Згодна з даследаваннем, Беларусь уваходзіць у групу краін, у якіх карыстанне інтэрнэтам несвабоднае. Аўтары даклада заявілі, што Беларусь выкарыстоўвае сістэму маніторынгу і кантролю за інтэрнэтам СОРМ, як і Расія. Яе таксама выкарыстоўваюць улады Узбекістана, Кыргызстана, Казахстана і Украіны. У дакладзе гаворыцца, што з 60 краін, якія даследаваліся сёлета, 29 блакавалі альбо фільтравалі кантэнт палітычнага і сацыяльнага характару. Індэкс свабоды інтэрнэта ў Беларусі ў 2013-м годзе — 67. Наша краіна суседнічае з Аб'яднанымі Арабскімі Эміратамі і Пакістанам. З былых савецкіх рэспублік горшую за Беларусь пазіцыю мае толькі Узбекістан — 78. Найбольш свабоднымі ў 2013-м прызнаны: Ісландыя, Эстонія, Германія, ЗША і Аўстралія.

5 кастрычніка на V Форуме грамадзянскай супольнасці Усходняга партнёрства ў Кішынёве намеснік старшыні ГА «БАЖ» Андрэй Бастунец агучыў інфармацыю, што выдавецтва «Логвінаў» пазбаўляюць ліцэнзіі. Адпаведнае паведамленне пра спыненне ліцэнзіі на выдавецкую дзейнасць індывідуальны прадпрымальнік Ігар Логвінаў атрымаў 23 верасня, дакумент падпісала першая намесніца міністра інфармацыі Лілія Ананіч. Ліцэнзія адклікаецца «ў сувязі з дапушчанымі грубымі парушэннямі зака-

надаўства аб ліцэнзаванні». Гаворка ідзе пра выпуск альбома «Прэс-фота Беларусі 2011», які суд Ашмянскага раёна прызнаў экстрэмісцкім 18 красавіка 2013 года. «Логвінаў» выступала выдаўцом альбома. У выдавецтве лічаць, што пазбаўленне ліцэнзіі адбылося незаконна, са шматлікімі парушэннямі, і таму накіравала адпаведны ліст міністру інфармацыі Алегу Праляскоўскаму. 23 кастрычніка выдавецтва «Логвінаў» накіравала ў Вышэйшы гаспадарчы суд заяву аб прызнанні несапраўдным загада Мініфармацыі аб спыненні дзеяння ліцэнзіі на выдавецкую дзейнасць.

15 кастрычніка ў судзе Крычаўскага раёна пачаўся разгляд грамадзянскага іску працаўнікоў Чэкыкаўскай ПМК-280 да журналістаў газеты «Вольны горад». Штукатур Байгола і столяр Конеў запатрабавалі ад журналістаў кампенсацыі маральнай шкоды ў памеры 16 мільёнаў рублёў за выкладзеныя ў артыкуле «З абвяржэннем пачакаем» («Вольны горад» №25 ад 29 чэрвеня 2013 года) звесткі. Згодна пазоўнікаў, выкладзеныя ў артыкуле звесткі пра тое, што з імі не заключаны належным чынам працоўныя дамовы, даставілі ім маральныя пакуты. Разгляд справы ў судзе Крычаўскага раёна ажыццяўляла суддзя Антаніна Качанава, якая апытала пазоўнікаў і журналістаў «Вольнага горада». Падчас апытання суддзёй пазоўнікі не змаглі адказаць, у чым заключаліся для іх маральныя пакуты і якім чынам газетны артыкул нанёс ім маральную шкоду. Рэдактар газеты Сяргей Няроўны ўпэўнены, што простыя работнікі — гэта не сапраўдныя замоўнікі гэтага пазова, мэта іску — прымусіць замаўчаць «Вольны горад». Наступнае паседжанне было прызначана на 24 кастрычніка. У гэты дзень суд Крычаўскага раёна спыніў разгляд справы. Адпаведнае вызначэнне вынесла суддзя Антаніна Качанава, пасля таго, як супрацоўнікі Чэрыкаўскай ПМК-280 адмовіліся ад прэтэнзій да журналістаў газеты «Вольны горад».

22 кастрычніка суд Крычаўскага раёна задаволіў іск КУП «Чэрыкаўская ПМК-280» да газеты «Вольны горад». Суддзя Антаніна Качанава прыйшла да высновы, што журналісты ў артыкуле «З абвяржэннем пачакаем» дыскрэдытавалі кіраўніцтва прадпрыемства і падарвалі яго дзелавую рэпутацыю. Газета абавязана змясціць на сваіх старонках абвяржэнне змешчанай у артыкуле інфармацыі, тэкст абвяржэння павінна падрыхтаваць адміністрацыя прадпрыемства. Таксама журналісты газеты «Вольны горад» павінны кампенсаваць затраты Чэрыкаўскай ПМК-280 на паслугі адваката ў памеры 850 тысяч рублёў і аплаціць судовыя выдаткі ў суме 300 000 рублёў.

15 кастрычніка ў бабруйскім судзе прайшло другое пасяджэнне па справе блогера Алега Жалнова і ягонага сына Аляксея, якіх супрацоўнікі

ДАІ абвінавачваюць у аказанні супраціву і прымяненні ў адносінах да іх фізічнай сілы (арт. 23.4 КаАП РБ). Справу разглядала суддзя Наталля Чарапуха. Жалновы настойваюць на тым, што супраціўлення не аказвалі, а наадварот, самі сталі ахвярамі перавышэння паўнамоцтваў з боку супрацоўнікаў ДАІ. Наталля Чарапуха цікавілася ў Жалновых, ці даваў ім нехта дазвол на відэаздымку каля будынка ДАІ, на гэтым жа пытанні засяроджвалі ўвагу і «даішнікі». Суддзя абвесціла перапынак да 23 кастрычніка, каб зрабіць запыт на неабходныя дакументы, але ў гэты дзень судовы працэс не працягнуўся ў сувязі з выяўленымі недапрацоўкамі ў пратаколе, які складаў маёр міліцыі Сяргей Рудзько, які не быў сведкам падзей, а складаў паперу па рапартах супрацоўнікаў ДАІ. Увечары 1 лістапада суддзя Наталля Чарапуха скончыла разгляд справы, прызнала Алега Жалнова вінаватым і пакарала штрафам памерам у 20 базавых велічынь.

24 кастрычніка прыкладна ў 07.10 у кватэру Алега Жалнова прыйшлі супрацоўнікі міліцыі. Работнікі Бабруйскага УУС — маёры Дзяніс Ракоўскі і Сяргей Рудзько — праніклі ў памяшканне, калі выходзіла жонка блогера. Разам з міліцыянтамі быў яшчэ адзін чалавек, які не назваў сябе, а таксама панятыя. У візіцёраў была пастанова на агляд «месца здарэння», падпісаная пракурорам горада Карапецянам. Агляд таксама санкцыянаваны двума намеснікамі начальніка Бабруйскага УУС — Віталём Харлапавым і Аляксандрам Сяргеевым. Падставай для агляду стала заява маёра ДАІ УУС Бабруйскага гарвыканкама Яўгена Сераштанава ў сувязі з размяшчэннем у сетцы інтэрнэт у 2012-2013 гадах аўдыё- і відэаматэрыялаў, якія зневажаюць яго гонар і годнасць і шкодзяць яго дзелавой рэпутацыі. Маёр лічыць, што дадзеныя матэрыялы былі размешчаны Алегам Жалновым і просіць распачаць супраць блогера крымінальную справу.Ператрус доўжыся 7 гадзін і скончыўся выманнем аргтэхнікі і сродкаў сувязі: вінчэсцераў, мадэма, смартфона, мабільнага тэлефона.

19 кастрычніка раніцай на платформе мінскага чыгуначнага вакзала міліцыя затрымала прэс-сакратара ГА «БАЖ» і журналіста часопіса «Абажур» Барыса Гарэцкага, журналістаў «Еўрарадыё» Алеся Пілецкага і Віталя Ругайну, фатографа Аляксандра Васюковіча, фотакарэспандэнта «Нашай Нівы» Сяргея Гудзіліна, журналістку Надзею Гацак, карэспандэнтаў БелаПАН Андрэя Корсака і Захара Шчарбакова, карэспандэнта Радыё «Свабода» Ягора Маёрчыка. Усе яны збіраліся асвятляць вяртанне ў Мінск былога палітвязня, палітыка і публіцыста Паўла Севярынца. Міліцыянты мэтанакіравана затрымлівалі журналістаў. Было відавочна, што прадстаўнікі прэсы прыйшлі асвятляць мерапрыемства, бо шмат у каго з іх была прафесійная апаратура. Журналісты мелі пры сабе журналісцкую

тэхніку і рэдакцыйныя пасведчанні. Нягледзячы на гэта, усім журналістам супрацоўнікі міліцыі казалі пра іх «падазроны выгляд». У пастарунку журналісты правялі каля гадзіны, пасля чаго былі вызвалены. Аперацыяй па затрыманні журналістаў кіраваў асабіста начальнік ГУУС Мінгарвыканкама Аляксандр Барсукоў. У памяшканні дзяжурнай часткі ён праверыў дакументы журналістаў і даў загад сваім падначаленым вызваліць іх. Без тлумчэння прычыны затрымання ён заявіў: «Усё, гуляйце!».

29 кастрычніка побач са станцыяй метро Першамайская ў Мінску былі затрыманы незалежныя журналісты Аляксандр Баразенка і Марыя Арцыбашава. Журналістаў пры выкананні працоўных абавязкаў затрымалі супрацоўнікі Ленінскага РУУС і даставілі ў аддзяленне міліцыі, адкуль яны ў хуткім часе былі вызвалены.

## Абмежаванне свабоды сходаў

2 кастрычніка сябры Брэсцкага аддзялення АГП паведамілі, што гарвыканкам не дазволіў ім правядзенне чатырох пікетаў супраць увядзення выязной пошліны. Гарвыканкам спаслаўся на тое, што заяўнікі альбо прапануюць для пікетавання месцы, якія непрыдатныя для правядзення масавых мерапрыемстваў, альбо не заключылі адпаведныя дамовы з камунальнымі службамі, міліцыяй і ўстановай аховы здароўя.

3 кастрычніка актывіст гарадскога прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці Рыгор Грык паведаміў, што Баранавіцкі гарвыканкам забараніў пікет да Міжнароднага дня за годную працу і адпаведны заробак, які планаваўся 7 кастрычніка. Адмова падпісана намеснікам старшыні гарвыканкама Д. Касцюкевічам, які прычынай адмовы назваў невыкананне патрабавання рашэння гарвыканкама «Аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў у г. Баранавічы» ў частцы заключэння дамоў на абслугоўванне пікета з міліцыяй, ЖКГ і бальніцай, што на практыцы немагчыма зрабіць.

3 кастрычніка актывісткі прафсаюза РЭП паведамілі, што ім адмоўлена ў правядзенні пікета. Жанчыны хацелі пратэставаць супраць дзеянняў адвакаткі Наталлі Захарчанка і рашэння суддзі суда Ленінскага раёна Галіны Тарасавай з нагоды высялення іх з інтэрната ААТ «Будаўнічы трэст №12» без прадастаўлення іншага памяшкання для пражывання. Пікет мусіў адбыцца 2 кастрычніка ў 100 метрах ад будынкаў судоў і пракуратуры, размешчаных на вуліцы Дабралюбава, па ходу руху пешаходаў у бок пазначаных будынкаў ад прыпынку грамадскага транспарту «По-

літэхнікум». Падставай для адмовы пікета стала неадпавяднае месца правядзення масавага мерапрыемства. Паводле адказу чыноўніка з гарвыканкама, у горадзе масавыя мерапрыемствы дазволена праводзіць толькі на пляцоўцы каля стадыёна «Хімік» па вул. Чалюскінцаў. Святлану Іванюшаву і Іну Цярэлю адміністрацыя інтэрната будтрэста №12 выкінула на вуліцу з дзецьмі 4-х і 16-ці гадоў. Падчас разгляду справы ў судзе жанчыны падпісалі міравое пагадненне з будаўнічым трэстам. Суддзя Тарасава і адвакатка Захарчанка сказалі, што для іх гэта не будзе мець ніякіх адмоўных наступстваў, аднак вынікам стала канчатковае высяленне жанчын з інтэрната.

6 кастрычніка Гродзенскі гарвыканкам не даў дазволу праваабаронцам Віктару Сазонаву, Уладзіміру Хільмановічу і Раману Юргелю правесці інфармацыйны пікет 10 кастрычніка, у сусветны дзень змагання супраць смяротнага пакарання. Чыноўнікі ў афіцыйным лісце за подпісам намесніцы старшыні Гродзенскага гарвыканкама Алены Агей паведамілі: «...в своём заявлении вы должны были сообщить, будет ли массовое мероприятие проводиться с использованием пиротехнических изделий и открытого огня...». Другая прычына адмовы ў тым, што, зыходзячы з адказаў аддзела ўнутраных спраў адміністрацыі Ленінскага раёна, гродзенскай гарадской жыллёва-камунальнай гаспадаркі і гарадской станцыі хуткай дапамогі на адпаведныя запыты, гарвыканкам прыйшоў да высновы, што заяўнікі не ў стане выканаць патрабаванні заканадаўства. На чым юрыдычна грунтуецца гэтае сцверджанне — не растлумачана.

8 кастрычніка праваабаронца Аляксей Лапіцкі атрымаў праз Галоўпаштампт замоўную карэспандэнцыю з Жодзінскага гарвыканкама, у якой утрымлівалася інфармацыя пра адмову ў правядзенні пікета ў дзень супраць смяротнага пакарання 10 кастрычніка. Афіцыйны ліст быў падпісаны намеснікам старшыні Жодзінскага гарвыканкама Юрыем Шарагам. Згодна з лістом, выканкам нават не разглядаў заяўку па сутнасці з-за адсутнасці далучаных да яе дамоў з міліцыяй, медыкамі і камунальнікамі. Аднак дадзеныя дамовы атрымаць не ўяўляецца магчымым, што пацвердзілі адказы з дадзеных устаноў на папярэднюю заяўку на правядзенне ў Жодзіне масавага мерапрыемства, якое планавалася 4 жніўня. Аказалася, што дадзеныя ўстановы проста не маюць практыкі заключэння дамоў з грамадзянамі, таму адмаўляюць у іх афармленні.

10 кастрычніка бярозаўскія праваабаронцы і грамадскія актывісты паведамілі пра атрыманне з райвыканкама за подпісам намесніка старшыні райвыканама Віктара Міхнюка адмовы на правядзенне пікета ў дзень

супраць смяротнага пакарання. Адмова матывавана адсутнасцю дамоў з міліцыяй, бальніцай і жыллёва-камунальнай службай. Пры гэтым праваабаронцы 25 верасня адпаведныя заявы падалі ў Бярозаўскі РАУС, бальніцу і ЖКГ. З міліцыі атрымалі адказ, што паводле Пастановы Савета міністраў ад 2012 года № 207 райвыканкам павінен даслаць да іх копію зарэгістраванай заявы на пікет (чаго райвыканкам не зрабіў), і толькі тады можа быць абмеркавана з райвыканкамам дзеянні міліцыі падчас пікета.

10 кастрычніка ў Першамайскім райсудзе Віцебска адбыўся разгляд скаргі абласнога каардынатара Руху «За свабоду» Хрыстафора Жаляпава і прадстаўніка аргкамітэта па стварэнні партыі «Народная Грамада» Аляксея Гаўруцікава на забарону пікета 8 верасня супраць размяшчэння расійскіх вайсковых баз. Заяўнікі прасілі суд абавязаць раённыя ўлады даць дазвол на правядзенне акцыі такой самай тэматыкі ў іншы час. З раённай адміністрацыі даслалі паперу, што просяць суд разгледзець скаргу ў іх адстутнасць, і суддзя Вольга Іванова не ўбачыла ніякіх прычын, каб абавязаць чыноўнікаў даць заяўнікам дазвол у наступны раз. Не прыйшлі на суд і прадстаўнікі Віцебскай абласной управы МУС, а менавіта з гэтай структурай арганізатары не змаглі заключыць дамову на абслугоўванне акцыі, як патрабуе адпаведнае рашэнне Віцебскага гарвыканкама. У абласной управе дачакаліся, пакуль з раённай адміністрацыі заяўнікам дадуць адмову з-за адсутнасці пацвярджэння на аказанне імі паслуг па ахове пікета, а потым даслалі свой адказ — маўляў, якая цяпер дамова, калі вам усё адно забаронена. У Першамайскі райсуд з'явіліся толькі прадстаўнікі цэнтральнай гарадской паліклінікі, з якой актывісты таксама не змаглі заключыць дамову. У судзе было заяўлена, што ў выходныя хуткая дапамога бывае празмерна занятая. Суддзя адхіліла просьбу заяўнікаў абавязаць адказныя структуры заключыць дамовы і не ўбачыла падстаў, каб вынесці прыватнае вызначэнне наконт таго, што рашэнне гарвыканкама невыканальнае, бо парушана рацыянальная паслядоўнасць атрымання дазволу на масавыя акцыі. У выніку суд пакінуў скаргу без задавальнення.

11 кастрычніка гарадзенскі актывіст Алег Калінкоў атрымаў адмову за подпісам намесніцы старшыні гарвыканкама Алены Агей на сваю заяўку аб правядзенні 20 кастрычніка ў Гродна вулічнага шэсця з мэтай выказвання пратэсту супраць фальсіфікацый на выбарах і агітацыі за сумленныя выбары. У заяўцы была пазначана колькасць удзельнікаў мерапрыемства — адзін чалавек. Прычыну адмовы гарвыканкам тлумачыць найперш тым, што заяўнік падаў маршрут шэсця ў цэнтры горада, у

тым ліку праз плошчу Савецкую, а ў гэтым месцы правядзенне мерапрыемстваў не па рашэнні дзяржаўных органаў не дазваляецца. Чыноўнікі таксама звярнулі ўвагу на тое, што заяўнік не выканаў патрабаванняў заканадаўства, не паведаміўшы ўсе патрэбныя звесткі, пры тым не тлумачачы, што канкрэтна не ўказаў Алег Калінкоў у сваёй заяве.

15 кастрычніка з Чыгуначнай раённай адміністрацыі Віцебска за подпісам намесніцы старшыні адміністрацыі Наталлі Ляпёшкінай прыйшлі дзве адмовы на правядзенне масавых мерапрыемстваў. Віцебскім праваабаронцам было адмоўлена ў правядзенні пікета 19 кастрычніка, прысвечанага тэме смяротнага пакарання ў Беларусі. Пікет да 25-х угодкаў утварэння БНФ збіраліся правесці віцебскія актывісты Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі БНФ Ян Талпыга і Ян Дзяржаўцаў, але таксама атрымалі адмову. Прычына адмоваў і праваабаронцам, і партыйцам аднолькавая — адсутнасць дамоў на абслугоўванне акцый з міліцыяй, службай ЖКГ і медыкамі. Наяўнасць такіх дамоў яшчэ да атрымання ўласна дазволу на акцыю рэгламентавана рашэннем Віцебскага гарвыканкама № 881 «Аб масавых мерапрыемствах у г. Віцебску». Актывісты лічаць, што яно супярэчыць дзеючаму заканадаўству, і неаднаразова прасілі ўнесці змены ў гэтае рашэнне, бо адказныя структуры адмаўляюцца ад супрацоўніцтва з імі, пакуль не атрыманы дазвол ад уладаў.

22 кастрычніка ў судзе Ленінскага раёна г. Магілёва пад старшынством суддзі Валянціны Лапацінай адбыўся разгляд скаргі праваабаронцаў Барыса Бухеля і Аляксея Колчына на рашэнне Магілёўскага гарвыканкама «Аб масавых мерапрыемствах у горадзе Магілёве». Гэтым рашэннем гарвыканкам яшчэ ў 2007 годзе вызначыў адзінае ва ўсім горадзе месца для правядзення тых масавых мерапрыемстваў, што арганізуюцца палітычнымі партыямі, грамадскімі арганізацыямі, прафсаюзамі і грамадзянамі. Гэта — стадыён па адрасе: вуліца Чалюскінцаў, 64В; ён знаходзіцца далёка ад цэнтральных вуліц горада ў малалюдным месцы і, відавочна, не з'яўляецца зручным для правядзення масавых акцый. Праваабаронцы ў сваёй скарзе прасілі адмяніць рашэнне гарвыканкама на падставе таго, што яно супярэчыць Закону аб масавых мерапрыемствах, Канстытуцыі, і Міжнароднаму пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах (МПГПП). Суд не прыняў довады заяўнікоў да ўвагі і адмовіў ім у задавальненні скаргі.

28 кастрычніка Аляксей Гаўруцікаў і Хрыстафор Жаляпаў атрымалі адмову з адміністрацыі Першамайскага раёна Віцебска на заяўку аб правядзенні 29 кастрычніка пікета салідарнасці з палітвязнямі. Пікет быў прызначаны на будні дзень, бо перадапошнім разам актывістам не

ўдалося заключыць дамову на абслугоўванне акцыі з медыкамі. З цэнтральнай гарадской паліклінікі адказалі, што ў выходныя няма магчымасці арганізаваць дзяжурства машыны хуткай дапамогі, бо іх на працы і так нямнога. На гэты раз медыкі адмовілі ўжо без указання прычын — проста напісалі, што немагчыма заключыць дамову. З міліцыі заяўнікі ўвогуле не дачакаліся адказу. З усіх адрасатаў станоўчы адказ быў атрыманы толькі ад структуры ЖКГ. Папярэдняе заключэнне дамоў на абслугоўванне акцый рэгламентавана рашэннем гарвыканкама, і яго невыкананне стала прычынай для адмовы ў пікеце.

## Абмежаванне свабоды асацыяцый

13 кастрычніка сябра Беларускага незалежнага прафсаюза Леанід Дубаносаў паведаміў, што ён не можа дамагчыся аднаўлення на працы на прадпрыемстве «Граніт». На РУВП «Граніт» Дубаносаў адпрацаваў амаль 20 гадоў і гатовы працягнуць сваю дзейнасць, бо мае шэраг запатрабаваных на прадпрыемстве спецыяльнасцяў. Пасля таго, як у судзе па справе наконт ягонага аднаўлення на працы юрыст «Граніта» заявіў, што кантракт з прафсаюзным актывістам не быў працягнуты зусім не на падставе яго сяброўства ў незалежным прафсаюзе, Л. Дубаносаў пайшоў на прыём да генеральнага дырэктара Эдуарда Гаўрылковіча. Ён нагадаў, што можа працаваць не толькі экскаватаршчыкам. Аднак кіраўнік адміністрацыі «Граніта» катэгарычна адмовіў у тым, каб актывіст зноў уладкаваўся на працу на гэтым прадпрыемстве. Леанід Дубаносаў адзначыў, што на «Граніце» адчуваецца недахоп рабочых кадраў, таму адмову ў працаўладкаванні ён расцэньвае як дыскрымінацыю ў сувязі з удзелам у незалежным прафсаюзным руху.

З 14 кастрычніка двое лідараў арганізацыі Беларускага незалежнага прафсаюза Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода пачалі галадоўку на працоўных месцах. Да галадоўкі Юрыя Швеца, які першы распачаў акцыю, далучыўся ягоны намеснік — Васіль Альхоўскі. Працаўнікі МНПЗ абвясцілі трохдзённую галадоўку пасля несправядлівага звальнення пяцёх актывістаў БНП, з якімі не працягнулі тэрміновыя працоўныя кантракты. Ціск на сябраў альтэрнатыўнага прафсаюза з боку адміністрацыі не спыняецца з 2008 года.

16 кастрычніка ў судзе Баранавіцкага раёна і горада Баранавічы адбыўся папярэдні разгляд скаргі грамадскага актывіста Мікалая Чарнавуса на дзеянні начальніка ўпраўлення эканомікі Баранавіцкага гарадскога выканаўчага камітэта Раісы Уласовіч. Судовае пасяджэнне вёў суддзя Міка-

лай Сельмановіч. Справа датычыць неаднаразовых адмоў у прадастаўленні памяшкання для грамадскага аб'яднання баранавіцкіх украінцаў «Кабзар», нягледзячы на інфармацыю з афіцыйнага сайта Баранавіцкага гарвыканкама аб наяўнасці вольных памяшканняў. У сваім пазове Мікалай Чарнавус прасіў суд абавязаць Баранавіцкі гарвыканкам выдзяліць адно з вольных памяшканняў для арганізацыі. Паколькі адказнік Раіса Уласовіч у суд не прыйшла, то суддзя перанёс судовае пасяджэнне на 24 кастрычніка. У гэты дзень інтарэсы дзяржаўнага органа ў судзе прадстаўляў начальнік юрыдычнай службы гарвыканкама Алег Яўсееў. Ён заявіў, што ГА «Кабзар» не ўваходзіць у спіс арганізацый, якія могуць прэтэндаваць на бясплатную ўласнасць. Суддзя не задаволіў скаргу М. Чарнавуса і прызнаў, што гарвыканкам дзейнічаў у адпаведнасці з законам.

23 кастрычніка Брэсцкім абласным судом не была задаволена скарга грамадскага актывіста Аляксандра Кузьміна з Белаазёрска на дзеянні пракурора Бярозаўскага раёна і пракурора Брэсцкай вобласці. Суддзя Алена Кавальчук падтрымала рашэнне пракурораў, якія вынеслі яму папярэджанне за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізцыі — кампаніі «Гавары праўду».

# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Лістапад

У лістападзе беларускія ўлады прадэманстравалі, што не намераны змякчаць сваю пазіцыю ў сферы выканання правоў чалавека ў краіне, найперш — змяняць стаўленне да праблемы палітычных зняволеных, у тым ліку сыходзячы са знешнепалітычнага фактару. Не апраўдалі сябе чаканні некаторых экспертаў, што напярэдадні саміту краін Усходняга партнёрства беларускія ўлады пойдуць на саступкі патрабаванням Еўрапейскага Саюза, які нязменна артыкуляваў вызваленне палітвязняў як асноўную перадумову наладжвання супрацоўніцтва з беларускім бокам.

Афіцыйны Мінск у сваю чаргу прытрымліваўся пазіцыі прагматычных адносін і дэманстраваў адсутнасць жадання дыскусіі па каштоўнасных пытаннях. Так, напярэдадні саміту, 21 лістапада, міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей у інтэрв'ю польскаму выданню Gazeta Prawna адзначыў, што ўлады краіны разглядаюць супрацоўніцтва ў межах праекта ЕС Усходняе партнёрства ў асноўным з эканамічнага пункту гледжання. «У рамках гэтай ініцыятывы разгледжаны праекты, якія прынясуць адчувальныя выгады. Мы з нецярпеннем чакаем сумеснай працы па паляпшэнні дзелавога клімату», — заявіў Уладзімір Макей. Што датычыць палітзняволеных, У. Макей заявіў, што большасць асуджаных ужо на волі, частка выехала на Захад. «Я не маю права адказваць на пытанне, калі з турмаў выйдуць астатнія — гэта кампетэнцыя судоў, а не Міністэрства замежных спраў». Падчас самога саміту У. Макей спрабаваў займаць пазіцыю адмаўлення наяўнасці палітзняволеных у Беларусі. «У нас няма ніякіх палітвязняў, — заявіў міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей, размаўляючы з журналістамі. — Тыя зняволеныя, якія сядзяць у турме, пакараны за канкрэтныя крымінальныя злачынствы. У іншых краінах яны атрымалі б, напэўна, і большыя тэрміны». І супярэчачы самому сабе, адказваючы на пытанне, ці гатовыя беларускія ўлады адпусціць палітвязняў у адказ на адмену санкцый, Макей заявіў: «З нагоды вызвалення палітвязняў — гэта пытанне не да Міністэрства замежных спраў, а да тых структур, якія прымалі адпаведнае рашэнне. У нас суды незалежныя, таму звяртайцеся да іх. Але я ўпэўнены, калі б гэтыя зняволеныя напісалі прашэнне аб памілаванні, то гэта прашэнне было б разгледжана і, магчыма, было б прынята станоўчае рашэнне». Фактычна, ён пацвердзіў агучаную ўжо раней пазіцыю кіраўніка дзяржавы па палітвязнях: яны могуць быць вызвалены выключна пасля напісання прашэнняў аб памілаванні.

Пазіцыя ЕС заставалася нязменнай. Еўракамісар па пытаннях пашырэння і палітыкі добрасуседства Штэфан Фюле падчас саміту адзначыў,

што перспектывы адносін Еўрасаюза і Беларусі вялікія, але яны залежаць толькі ад рашэння беларускіх уладаў у пытанні палітычных зняволеных: «Тут палітыка Еўрасаюза ясная з самага пачатку. Як толькі не будзе палітвязняў і пройдзе іх рэабілітацыя, Еўрасаюз гатовы пайсці не толькі на пабудову трывалай асновы двухбаковых адносін паміж ЕС і Беларуссю, але і казаць аб рэформе праграмы, падтрымцы мадэрнізацыі Беларусі ў рамках амбіцый беларускага народа».

Міністр замежных спраў Швецыі Карл Більт у рамках саміту Усходняга партнёрства ў Вільні пацвердзіў: «Нашы патрабаванні застаюцца ранейшымі — вызваленне палітвязняў і крокі па дэмакратызацыі». Па словах Більта, падчас саміту тэма палітвязняў у Беларусі «была згаданая некалькімі лідэрамі ў іх выступах», у той час як міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей у сваім выступе гэтую тэму не закранаў . «Але Макей ведае, што павінна быць зроблена. Думаю, што ў яго ёсць магчымасць паўплываць на рашэнне гэтых пытанняў».

У выніку адсутнасці пазітыўный дынамікі на высокім палітычным узроўні лёс беларускіх палітвязняў заставаўся нязменным, за кратамі працягвалі ўтрымлівацца 9 палітычных зняволеных: Алесь Бяляцкі, Мікалай Статкевіч, Мікалай Аўтуховіч, Эдуард Лобаў, Мікалай Дзядок, Яўген Васьковіч, Арцём Пракапенка, Ігар Аліневіч і Андрэй Гайдукоў. Замацоўвалася негатыўная тэндэнцыя прыцягнення былых палітвязняў да крымінальнай адказнасці па абвінавачанні ў парушэнні правіл прэвентыўнага нагляду. 12 лістапада Мінскі гарадскі суд пакінуў у сіле прысуд суда Першамайскага раёна аб арышце тэрмінам на тры месяцы Уладзіміра Яроменкі па дадзеным абвінавачанні, прысуд уступіў у сілу, і з моманту ўзяцця пад варту актывіста яногае прозвішча папоўніць спіс палітвязняў. 28 лістапада крымінальная справа па тым жа абвінавчанні пачала разглядацца ў судзе Першамайскага раёна сталіцы ў адносінах да Васіля Парфянкова, які пасля амністыі ў 2011 годзе ўжо адбыў адзін тэрмін пакарання ў выглядзе 6 месяцаў арышту за парушэнне правіл прэвентыўнаяга нагляду. Прэвентыўны нагляд як сродак кантролю за грамадска-палітычнай дзейнасцю актывістаў дзейнічаў у адносінах яшчэ 3 былых палітвязняў: Паўла Вінаградава, Дзмітрыя Дашкевіча і Аляксандра Францкевіча. Прафілактычны нагляд у сувязі з непагашанай судзімасцю працягваўся яшчэ над 28 чалавекамі, якія раней былі асуджаныя па палітычных матывах.

Такім чынам, у лістападзе захоўвалася сітуацыя, калі Еўрасаюз паслядоўна патрабаваў вызвалення палітвязняў для ўсталявання паўнавартасных стасункаў з афіцыйным Мінскам, а той у сваю чаргу не рабіў ніякіх крокаў насустрач і не дэманстраваў ніякіх пазітыўных намераў. Закладні-

камі беларускіх уладаў у дадзенай тупіковай сітуацыі па-ранейшаму заставаліся палітычныя зняволеныя.

## Палітычныя зняволеныя, крымінальны пераслед грамадскіх актывістаў

4 лістапада — роўна палова тэрміну, які адбыў за кратамі палітвязень, кіраўнік Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесь Бяляцкі, асуджаны на 4 гады і 6 месяцаў пазбаўлення волі. 9 лістапада Наталля Пінчук, жонка Алеся Бяляцкага, паведаміла, што зняволены праваабаронца, працуючы ўпакоўшчыкам на швейнай вытворчасці 6 дзён на тыдзень, зарабляе ўсяго каля 20 тысяч рублёў (2 даляры). 12 лістапада намеснік старшыні Дзяржаўнага мытнага камітэта Сяргей Барысюк у адказе на скаргу аб парушэннях з боку службовых асоб Ашмянскай мытні пры прызначэнні экспертызы сканфіскаванай кнігі Алеся Бяляцкага «Асьвечаныя Беларушчынай» і парушэннях з боку экспертнай камісіі паведаміў, што «ўлічваючы Вашую нязгоду з заключэннем экспертаў, а таксама адсутнасцю канкрэтных высноў экспертаў па пытаннях, пастаўленых Ашмянскай мытняй у рашэнні аб прызначэнні мытнай экспертызы, ДМК Рэспублікі Беларусь даручыў Ашмянскай мытні, кіруючыся артыкулам 143 Мытнага кодэкса Мытнага саюза арганізаваць у як мага больш кароткія тэрміны правядзенне паўторнай мытнай экспертызы...». Згодна з высновамі папярэдняй экспертызы, літаратуразнаўчая кніга Алеся Бяляцкага «можа нанесці ўрон іміджу Рэспублікі Беларусь».

5 лістапада Марына Адамовіч, жонка палітвязня Мікалая Статкевіча, паведаміла, што адміністрацыя магілёўскай турмы №4 выкарыстоўвае супраць яго катаванні адсутнасцю сна: некалькі начэй запар кантралёр грукае ў дзверы і крычыць з рэгулярнасцю ў 10-15 хвілін, замінаючы начному сну. Гэта вымушае палітвязня адпачываць удзень, што караецца карцарам. 6 лістапада Дзмітрый Дашкевіч падаў заяву ў Дэпартамент выканання пакаранняў па Магілёўскай вобласці з просьбаю правесці праверку ў турме №4 Магілёва і высветліць, чаму ад Мікалая Статкевіча не даходзяць лісты. Жонка Мікалая Статкевіча паведаміла яму, што атрымала ад мужа ліст за 21 кастрычніка, дзе той перадае вітанні Д. Дашкевічу і піша, што даслаў яму тры лісты за апошні час. Д. Дашкевіч атрымаў ад яго толькі адну паштоўку два месяцы таму. 9 лістапада Марына Адамовіч са спасылкай на словы мужа паведаміла, што начны грукат у дзверы спыніўся, і ён атрымаў медыцынскую бандэроль. 23 лістапад сябра М. Статкевіча па перапісцы Леанід Гаравы падаў скаргу на дзеянні супрацоўнікаў турмы №4 г. Магілёва наконт абмежавання права на ліставанне ва ўпраўленне Дэпартамента выканання пакаранняў МУС

па Магілёўскай вобласці. Падача скаргі была звязана з тым, што ў адказ на апошні ліст спадар Гаравы атрымаў ад Мікалая Статкевіча паведамленне, што гэты ягоны допіс не прайшоў цэнзуру. У атрыманай ад Статкевіча паштоўцы было напісана: «Атрымаў пусты канверт ад Вашага ліста з пазнакай цэнзуры. Значыць, Ваш ліст быў вельмі добры. Дзякуй за падтрымку. Поспехаў і плёну ў Вашых справах!»

12 лістапада Мінскі гарадскі суд пакінуў у сіле прысуд суда Першамайскага раёна аб арышце тэрмінам на 3 месяцы былога палітвязня, фігуранта крымінальнай справы аб масавых беспарадках у Мінску 19 снежня 2010 года Уладзіміра Яроменку за парушэнне правіл прэвентыўнага нагляду. Падчас пасяджэння касацыйнай інстанцыі У.Яроменак і яго адвакат сцвярджалі, што матэрыялы справы былі сабраны незаконна, і сама крымінальная справа была ўзбуджаная незаконна. У прыватнасці, адвакат указала на тое, што пратаколы аб нібыта наяўных парушэннях прэвентыўнага нагляду складаліся са шматлікімі парушэннямі. Пасля ўступлення прысуду ў сілу Уладзімір Яроменак павінен чакаць выкліку з крымінальна-выканаўчай інспекцыі Першамайскага РУУС для адбыцця арышту.

14 лістапада стала вядома, што пасля публікацыі артыкула палітвязня Мікалая Аўтуховіча «Письмо из ада» (кастрычнік, «Народная воля») у краме Гродзенскай турмы з'явіліся цыбуля і іншая гародніна, вязню выдалі пасцельныя прыналежнасці. М. Аўтуховіча таксама наведалі дактары, якія пацвердзілі наяўнасць праблем з зубамі, якія ўплываюць на пераважоўванне ежы, і рэкамендавалі дэтальнае абследаванне стану здароўя. 16 лістапада маці М. Аўтуховіча — Лідзія Юльянаўна, прыехаўшы на спатканне з сынам, даведалася, што спатканне забаронена, прычына не была названа. Прадуктовая і рэчавая перадача вагой 30 кілаграмаў была прынята.

26 лістапада пасля доўгага перапынку палітвязень Яўген Васьковіч патэлефанаваў дадому. Размова з ягонай маці Рушаніяй Васьковіч цягнулася 20 хвілін, што значна болей, чым дазвалялася раней. Больш за два месяцы тэлефанаванняў увогуле не было з-за таго, што ў магілёўскай турме быў сапсаваны тэлефон-аўтамат. Палітвязень паведаміў, што ў камеры ўключылі цяпло.

28 лістапада — роўна 3 гады, як быў арыштаваны палітвязень Ігар Аліневіч, які адбывае 8-гадовае пакаранне ў калоніі №10 Наваполацку.

28 лістапада ў судзе Першамайскага раёна Мінска пачаўся судовы працэс над былым палітвязнем Васілём Парфянковым па абвінавачанні

ў парушэнні правіл прэвентыўнага нагляду (артыкул 421 Крымінальнага кодэкса). У суд В.Парфянкова прывезлі пад канвоем, паколькі ён знаходзіцца ў лячэбна-працоўным прафілакторыі (ЛПП) № 1 у Светлагорску (Гомельская вобласць), куды быў накіраваны 21 верасня. Разгляд справы быў перанесены суддзёй Леанідам Ярмоленкавым на 5 снежня ў сувязі з тым, што В. Парфянкову ва ўстаноўленым парадку не была ўручана пастанова аб прызначэнні судовага паседжання. Адпаведны дакумент былы палітвязень павінен быў атрымаць за пяць дзён да суда, аднак яму паведамілі пра дату пасяджэння толькі 27 лістапада. Бок абароны папрасіў суддзю перанесці разгляд справы, каб быў час на падрыхтоўку да ўдзелу ў судовым паседжанні.

30 лістапада пачаўся этап палітвязня Мікалая Дзядка з магілёўскай турмы ў рэспубліканскі турэмны шпіталь у Жодзіне, які доўжыўся 13 гадзін. Жонка палітвязня Валерыя Хоціна паведаміла, што 1 снежня М. Дзядок ужо быў размешчаны ў палату, яму былі пастаўленыя два дыягназы, звязаныя з хваробай страўніка, пачалі выдавацца лекі і праводзіцца працэдуры. Усё гэта рабілася ў кайданках, бо ў характарыстыцы М. Дзядка напісана, што ён схільны да пабегу.

## Смяротнае пакаранне

13 лістапада стала вядома, што Камітэт па правах чалавека ААН, разгледзеўшы індывідуальны зварот асуджанага да смяротнага пакарання і расстралянага ў сакавіку 2010 года Андрэя Жука, прызнаў парушэнне яго правоў з боку беларускай дзяржавы. Камітэт па правах чалавека задаволіў усе пункты, а менавіта: парушэнне ў дачыненні да Андрэя Жука арт. 6 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах — права на жыццё, арт. 7, які забараняе катаванні і бесчалавечнае абыходжанне, арт. 9 — права на свабоду і асабістую недатыкальнасць, арт. 14 — права на справядлівы суд і прэзумпцыя невінаватасці. Андрэй Жук быў асуджаны да выключнай меры пакарання ў ліпені 2009 года. Яго маці Святлана Жук накіравала ў Камітэт індывідуальны зварот з просьбай зарэгістраваць яго ў неадкладным парадку. Камітэт прыняў зварот да разгляду, і Рэспубліка Беларусь атрымала ноту Упраўлення Вярхоўнага камісара ААН па правах чалавека аб рэгістрацыі гэтага звароту. Працэдура КПЧ прадугледжвае патрабаванне не прыводзіць у выкананне смяротныя прысуды, пакуль справа знаходзіцца на разглядзе. Тым не менш, смяротны прысуд быў прыведзены ў выкананне ў сакавіку 2010 года — да завяршэння працэдуры разгляду скаргі Камітэтам. Справа Андрэя Жука — другая ў практыцы кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання», разгле-

джаная Камітэтам па правах чалавека. Першай была справа Уладзіслава Кавалёва (расстраляны разам з Дзмітрыем Канавалавым у 2012 годзе). Разгляду ў ААН чакаюць яшчэ чатыры звароты — па справах Васіля Юзэпчука (расстраляны ў 2010 годзе), Андрэя Бурдыкі і Алега Грышкаўцова (расстраляныя ў 2011 годзе), а таксама Паўла Селюна, смяротны прысуд якому Вярхоўны суд пакінуў у сіле ў верасні 2013 года.

18 лістапада маці асуджанага да смяротнга пакарання Паўла Селюна звярнулася да Аляксандра Лукашэнкі. Яна просіць прэзідэнта памілаваць яе сына: «Мой сын пакуль жывы. Хацелася б звярнуцца да Вас, Аляксандр Рыгоравіч, бо зараз толькі ад вас залежыць лёс майго сына. Тое, што здарылася, ужо здарылася, расстрэлам майго сына ахвяры не ўваскрасіш». Маці просіць памілаваць яе сына і, па магчымасці, сустрэцца з ім асабіста, каб толькі пасля сустрэчы прымалася рашэнне: «Калі ласка, не спяшайцеся прыняць неабдуманае рашэнне. Цяпер лёс майго сына толькі ў вашых руках».

26 лістапада ў Гомельскім абласным судзе распачаты новы разгляд крымінальнай справы Аляксандра Грунова па забойстве з асаблівай жорсткасцю студэнткі Наталлі Емяльянчыкавай. Паўторны працэс вёў намеснік старшыні Гомельскага абласнога суда Анатоль Тозік. Вярхоўны суд у кастрычніку скасаваў А.Грунову смяротнае пакаранне, пасля чаго выказаўся Аляксандр Лукашэнка: «Калі ты — нягоднік і падонак, і не першы раз учыняеш злачынства, забіваеш чалавека, дык якое права ты маеш жыць на гэтай зямлі? Я не крыважэрны, але адплата і пакаранне павінныя быць адпаведнымі. У іншым выпадку мы ніколі не навядзём парадак і ніколі не панізім гэтую тэмпературу ў грамадстве. Цяжкія, асабліва цяжкія злачынствы: вінаваты — адказвай на ўсю катушку». У судзе А. Груноў адмовіўся даваць паказанні, віну ў жорсткім забойстве прызнаў часткова: так, забойства здзейсніў, але не прызнаў, што ўчыніў гэта з хуліганскіх памкненняў. Маці забітай Ірына Емяльянчыкава падчас сваёй прамовы спаслалася на выказванне Аляксандра Лукашэнкі і прасіла прысудзіць забойцу смяротнае пакаранне. Працяг працэсу прызначаны на 8 снежня.

## Выкарыстанне катаванняў і жорсткага абыходжання

5 лістапада пракурор Светлагорскага раёна Уладзімір Тарасенка адмяніў пастанову пра адмову ва ўзбуджэнні крымінальнай справы ў сувязі са смерцю ў ІЧУ Светлагорскага РАУС Аляксандра Акуліча. Пра гэта паведаміла маці памерлага Валянціна Акуліч. У шматлікіх скаргах у органы пракуратуры і следчага камітэта, у падрыхтоўцы якіх жанчыне дапамага-

юць праваабаронцы ПЦ «Вясна», увесь час ставіцца пытанне аб прыцягненні супрацоўнікаў Светлагорскага РАУС Бачкова А.А. і Сцешанкова Р.І. да крымінальнай адказнасці. Такое патрабаванне тлумачыцца тым, што гэтыя супрацоўнікі міліцыі — яны дзяжурылі па ізалятары часовага ўтрымання ў ноч 26 траўня 2012 года, калі там памёр Аляксандр Акуліч — не толькі несвоечасова выклікалі брыгаду «хуткай дапамогі», але і збівалі затрыманага, які знаходзіўся ў хваравітым стане. У адказ на гэтыя скаргі Валянціна Акуліч неаднаразова атрымлівала адно і тое ж: «вынесена пастанова пра адмову ва ўзбуджэнні крымінальнай справы паводле падставаў п. 2 ч.1 арт. 29 КПК РБ». Гэта пункт — «за адсутнасцю ў дзеяннях складу злачынства». Пры гэтым супрацоўнікі следства, а ўслед за імі і судова-медыцынская камісія ўвесь час абыходзілі галоўнае пытанне — ці мелася прамая прычынна-выніковая сувязь паміж смерцю яе сына і несвоечасова аказанай медыцынскай дапамогай.

27 лістапада мінчанка Людміла Кучура, чый муж адбывае пакаранне ў ПК-15 г. Магілёва, распавяла Праваабарончаму цэнтру «Вясна» пра тое, што метады ціску, якія прымяняюцца да асуджанага, сур'ёзна пагражаюць яго здароўю. Псіхалагічны ціск на Пятра Кучуру распачаўся пасля публікацыі на сайце праваабарончай арганізацыі «Платформа» ў чэрвені гэтага года артыкула пра паборы ў магілёўскай ПК-15, з'яўленне якога адміністрацыя палічыла справай рук асуджанага і яго жонкі — актывісткі ініцыятывы супраць беззаконня ў судах і пракуратуры. Адно за другім на Кучуру пасыпаліся спагнанні, пасля спагнанняў было ШЫЗА, а за ім — ПКТ. Абуральны факт, па якім Людміла Міхайлаўна патрабуе пакарання для адміністрацыі і персаналу ПК-15, меў месца ў штрафным ізалятары. Апынуўшыся ў камеры ШЫЗА 19 верасня, Пётр Кучура ўбачыў, што ў рукамыйніцу і ўнітаз засыпана хлорка — прыкладна з вядро. Пра праблемы з каналізацыяй яму нічога не паведамілі. Як толькі ён уключыў ваду, раствораная ў вадзе хлорка дала рэакцыю. Ад моцнага раздражнення слізістых вачэй і роту мужчына не мог ні глядзець, ні дыхаць, ён пачаў грукаць у дзверы. Кантралёр, які з'явіўся ў камеры, паведаміў, што сантэхніка пакуль прыслаць не могуць, усе сантэхнікі занятыя. Варта адзначыць, што ў такіх памяшканнях, як ШЫЗА, вентыляцыя практычна адсутнічае. Сантэхнікаў выклікалі толькі калі вязню стала дрэнна. Пасля ачысткі каналізацыі яму кінулі анучку памерам з насоўку, каб ёю ён прыбраў усё, што было разліта па камеры. Камеру ён вымыў, але дыхаць у ёй па-ранейшаму было немагчыма. У іншую камеру яго перавялі толькі калі яго самаадчуванне значна пагоршылася. Усё гэта падрабязна апісана ў скарзе на супрацьпраўныя дзеянні адміністрацыі і персаналу ПК-15, якую 5 лістапада Л. Кучура накіравала начальніку ўпраўлення Следчага камітэта па Магілёўскай вобласці. Яна прасіла правесці

праверку для ўстанаўлення факта атручвання хлорам і наступстваў гэтага атручвання і распачаць крымінальную справу супраць асоб, вінаватых у прычыненні шкоды здароўю яе мужа. Аднак начальнік упраўлення А.І. Ракусаў не стаў разбірацца і перанакіраваў скаргу ў Магілёўскае абласное ўпраўленне ДВП МУС. Пры гэтым ДВП МУС не ўпаўнаважаны разглядаць заявы і паведамленні пра злачынствы. У адпаведнасці з Крымінальна-працэсуальным кодэксам прыняцце рашэнняў па заявах або паведамленнях пра злачынствы, учыненыя службовымі асобамі органаў унутраных спраў у сувязі з іх службовай ці прафесійнай дзейнасцю, адносіцца да выключнай кампетэнцыі органаў папярэдняга следства ў адпаведнасці з іх падследнасцю. У сувязі з гэтым наступную падрыхтаваную скаргу Людміла Кучура накіравала ўжо намесніку старшыні Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь.

## Пераслед праваабаронцаў і праваабарончыя арганізацыі

11 лістапада намеснік старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» Валянцін Стэфановіч паведаміў, што ў перапісцы з рознымі дзяржаўнымі ўстановамі так і не атрымаў адказу, на падставе рашэння якога паўнамоцнага дзяржаўнага органа сайт spring96.org унесены ў спіс інтэрнэт-рэсурсаў абмежаванага доступу. Першы намеснік начальніка Аператыўна-аналітычнага цэнтра пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь У.А. Рабаволаў на зварот праваабаронцы адказаў, што «ААЦ не валодае інфармацыяй» і параіў «звяртацца ў адрас РУП «БелДІЭ» для разгляду па сутнасці пастаўленага пытання». З Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства па наглядзе за электрасувяззю «Бел ДІЭ» В.Стэфановіч нічога ўцямнага таксама не атрымаў. Замест абяцанага ААЦ адказу па сутнасці РУП «БелДІЭ» адпісалася: «Нарматыўнымі прававымі актамі не рэгламентаваны паўнамоцтвы РУП «БелДІЭ» па распаўсюджванні інфармацыі аб ідэнтыфікатарах інтэрнэт-рэсурсаў, якія змяшчаюцца ў спісе абмежаванага доступу». Наступным крокам начальнік «БелДІЭ» С.І. Багданаў прапаноўвае Валянціну Стэфановічу накіраваць звароты ва ўсе дзяржаўныя органы, якія згодна з адпаведным палажэннем маюць права прымаць рашэнні аб унясенні інтэрнэт-рэсурса ў спіс абмежаванага доступу, пасля чаго абскардзіць іх дзеянні ў судзе. Праваабаронца адзначыў, што расцэньвае такую прапанову як непрыхаваны здзек і далей будзе звяртацца ў Міністэрства сувязі і інфарматызацыі, паколькі адказ, які ён атрымаў з дзяржаўнай інспекцыі па электрасувязі, па сутнасці не з'яўляецца адказам на пастаўленае ім пытанне. Спіс «забароненых» інтэрнэт-рэсурсаў з'явіўся згодна з пастановай ААЦ ад 29 чэрвеня 2010 года. Сярод іншых у яго трапіў сайт Праваабарончага цэнтра «Вясна» spring96.org. Паводле

інфармацыі Уладзіміра Рабаволава, на люты бягучага года ў спіс было ўнесена 119 рэсурсаў, якія ў асноўным утрымліваюць матэрыялы парнаграфічнага і экстрэмісцкага характару ці парушаюць аўтарскія правы. Доступ да іх закрыты на абавязковай аснове ў дзяржаўных органах, установах адукацыі і культуры.

13 лістапада ў судзе Маскоўскага раёна Мінска пачаўся разгляд справы дырэктара прыватнай культурна-асветніцкай установы «Платформ інавейшн» Андрэя Бандарэнкі па абвінавачанні ў парушэнні ч. 1 арт. 23.34 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях (арганізацыя і правядзенне несанкцыянаванага мерапрыемства). Праваабаронца абвінавачваўся ва ўдзеле ў акцыі 14 верасня, калі 18 чалавек былі затрыманы каля СІЗА № 1 на вуліцы Валадарскага ў Мінску падчас спробы ўшанаваць памяць 21-гадовага арыштанта Ігара Пцічкіна, які памёр у гэтым следчым ізалятары пры загадкавых абставінах 4 жніўня 2013 года. Гэты малады чалавек быў збіты і памёр ўсяго праз некалькі дзён, праведзеных у зняволенні. Андрэй Бандарэнка заявіў хадайніцтва аб прадастаўленні адваката, якое было задаволена суддзёй Яўгенам Хаткевічам. Паседжанне было перанесенае на наступны дзень. 14 лістапада суддзя вярнуў пратакол адміністрацыйнага правапарушэння на дапрацоўку, паколькі ён быў складзены той самай асобай, якая затрымлівала А.Бандарэнку. Новы пратакол быў складзены супрацоўнікамі РУУС Маскоўскага раёна проста ў будынку суда, аднак Андрэй Бандарэнка адмовіўся яго падпісваць без адваката. Яму абвесцілі, што ён затрыманы на 72 гадзіны. Працоўны дзень у судзе скончыўся, весці справу пагадзілася ўжо іншая суддзя — Таццяна Мотыль. Сведкамі выступілі супрацоўнікі міліцыі Іван Казак, Куімаў і падпалкоўнік Лагуноў. Суддзя адхіліла просьбу адваката Бандарэнкі далучыць да справы фота- і відэаматэрыялы. У 21-50 суддзя прызнала праваабаронцу вінаватым і вынесла рашэнне аб пакаранні яго арыштам на 5 сутак. 19 лістапада Андрэй Бандарэнка выйшаў на волю па сканчэнні тэрміну арышту. Скаргу на пастанову суда Маскоўскага раёна Андрэй Бандарэнка накіраваў у Мінскі гарадскі суд яшчэ да вызвалення з ЦІП.

23 лістапада сябра Рады ПЦ «Вясна» Уладзімір Лабковіч атрымаў з Мінскага гарадскога суда ліст аб прызначэнні разгляду ягонай касацыйнай скаргі на 19 лістапада. У сувязі са значным спазненнем апавяшчэння пра дату суда, ён не мог прысутнічаць на паседжанні, паколькі яно ўжо адбылося. Скарга была пададзена на пастанову суда Савецкага раёна Мінска ад 8 кастрычніка, згодна з якой праваабаронца быў пакараны штрафам у памеры 30 базавых велічынь за раздачу паштовак з нагоды другой гадавіны арышту старшыні ПЦ «Вясна» Алеся Бяляцкага. 6-га

жніўня рашэннем суда Савецкага раёна праваабаронца быў прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці — за парушэнне парадку арганізацыі і правядзення масавага мерапрыемства і пакараны штрафам — 30 базавых велічынь. У выніку абскарджання ў Мінскім гарадскім судзе пастанова была адмена, а справа накіравана ў суд Савецкага раёна на перагляд да новага суддзі. 8 кастрычніка суддзя Эдуард Якубоўскі прыняў па сутнасці такое ж рашэнне і пакараў праваабаронцу штрафам у памеры 30 базавых велічынь. 29 лістапада стала вядома, што суддзя Мінскага гарадскога суда Аляксей Бычко падстаў для адмены судовага рашэння не ўгледзеў, пастанову суддзі суда Савецкага раёна Мінска ад 8 кастрычніка пакінуў без зменаў, а ягоную скаргу без задавальнення.

## Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні

3 лістапада жыхар Гомеля Юрый Рубцоў быў затрыманы ў Мінску пасля акцыі «Дзяды». Ён быў апрануты ў майку з надпісам «Лукашенко, уходи», і яшчэ напачатку акцыі супрацоўнікі міліцыі папярэджвалі, каб актывіст зняў яе. Затрыманне адбылося ўжо пасля мітынгу ў Курапатах — у раёне дыспетчарскай станцыі «Карбышава» два міліцыянеры схапілі Ю.Рубцова і, заламіўшы рукі, запіхнулі ў мікрааўтобус. Затрыманы быў дастаўлены ў міліцэйскі пастарунак. 4 лістапада суд Савецкага раёна Мінска пакараў Юрыя Рубцова 3-суткавым адміністрацыйным арыштам. Суддзя Дзмітрый Паўлючэнка, разгледзеўшы адміністрацыйную справу, прызнаў актывіста вінаватым у «непадпарадкаванні» супрацоўнікам міліцыі (паводле артыкула 23.4 КаАП РБ). Сведкі-міліцыянты, якія затрымлівалі Ю. Рубцова, патлумачылі, што ён адмаўляўся на іх патрабаванне сесці ў машыну, гэта яны і расцанілі як «непадпарадкаванне». 8 лістапада Юрый Рубцоў накіраваў у Мінскі гарадскі суд скаргу аб незаконным адміністрацыйным арышце. Актывіст таксама запатрабаваў ад начальніка Маскоўскага РАУС сталіцы правесці службовае расследаванне па факце адвольнага адбірання «прадмета адзення, які мае надпісы палітычнага характару».

6 лістапада супрацоўнікі міліцыі затрымалі 9 чалавек, якія прыйшлі сустракаць да ЦІП на Акрэсціна арыштаванага на 3 сутак пасля мітынгу ў Курапатах гамяльчаніна Юрыя Рубцова. Сярод затрыманых — Кулакоў Леанід, Цітова Марына, Нікалайчык Вольга, Вінаградаў Павел, Аксана Сцяпанава, Рубцоў Юрый, Юля Сакалова, фрыланс-журналістка Настасся Рэзнікава і журналіст газеты «Новы час» Вячаслаў Пяшко. У РУУС Маскоўскага раёна ў іх перапісалі рэчы і асабістыя дадзеныя, пратрымалі каля трох гадзін і выпусцілі.

6 лістапада ў Мінску каля ГУМа падчас збору подпісаў за перайменаванне вуліцы Леніна на гістарычную Францысканскую быў затрыманы лідар «Маладога Фронту» Дзмітрый Дашкевіч. Збор подпісаў праходзіў у рамках кампаніі дэкамунізацыі, якую абвесціў МФ, два папярэднія дні праходзілі без эксцэсаў. У гэты ж дзень суддзя суда Цэнтральнага раёна Валерый Есьман разгледзеў складзены на актывіста пратакол аб непадпарадкаванні законным патрабаванням міліцыі і прыняў рашэнне аб арышце тэрмінам на 3 сутак.

6 лістапада актывіста «Маладога Фронту» Рамана Пратасевіча затрымалі падчас суда над Дзмітрыем Дашкевічам і адвезлі ў Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў на Акрэсціна, дзе ён правёў 2 дні да суда. 8 лістапада суд Цэнтральнага раёна Мінска прыняў рашэнне аб арышце Р. Пратасевіча на 2 сутак па абвінавачанні ў несанкцыянаваным пікетаванні і вызваліў з залы суда, паколькі гэты тэрмін актывіст адбыў.

7 лістапада ў Гомелі супрацоўнікі міліцыі затрымалі Юрыя Рубцова. Прыкладна каля 9-30 Ю.Рубцоў выйшаў на галоўную плошчу ў майцы «За Беларусь без кантрактаў». Яго адвялі ў міліцэйскі аўтобус, перапісалі асабістыя дадзеныя і прапанавалі пакінуць плошчу. Пасля гутаркі Юрый Рубцоў быў адпушчаны.

8 лістапада намеснік старшыні АГП Васіль Палякоў быў выкліканы да начальніка аддзела грамадскага парадку Навабеліцкага РАУС Гомеля падпалкоўніка Генадзя Хількевіча. На В. Палякова быў складзены пратакол аб парушэнні парадку арганізацыі і правядзення масавых мерапрыемстваў (арт. 23.34 КаАП) за ўдзел у акцыі памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій, якая прайшла ў Гомелі 3 лістапада. В. Палякоў разам з іншымі актывістамі ўсклаў кветкі і вянкі, былі запалены знічы каля пакутных крыжоў, якія ўсталяваны на месцах масавых забойстваў людзей у гады сталінскіх рэпрэсій. 13 лістапада суддзя Сяргей Новікаў (Навабеліцкі суд Гомеля) вынес пастанову аб прыцягненні Васіля Палякова да адміністрацыйнай адказнасці. Палітыка прызналі вінаватым і пакаралі штрафам у памеры 35 базавых велічынь.

10 лістапада ў Мінску адбыліся жалобнае шэсце і мітынг у Лошыцкім Яры. У акцыі, якую арганізавала КХП-БНФ, удзельнічалі прыкладна 70 чалавек. Падчас мерапрыемства міліцыя затрымала жыхара Стаўбцоўскага раёна Леаніда Смаўжа, які прыйшоў на акцыю ў майцы «За Беларусь без дыктатуры». 11 лістапада ў судзе Ленінскага раёна сталіцы суддзя Надзея Навіцкая прызнала Л. Смаўжа вінаватым у непадпарадкаванні

супрацоўнікам міліцыі (арт.23.4 КаАП РБ) і пакарала 5 суткамі адміністрацыйнага арышту. Сваёй віны Леанід Корж не прызнаў, адзначыўшы, што такім чынам выказваў пратэст супраць несправядлівасці, паколькі некалькі гадоў не можа працаўладкавацца.

10 лістапада ў 16-30 ў Полацку ў офісе грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду» супрацоўнікі міліцыі затрымалі 5 актывістаў «Полацкай кааліцыі дэмакратычных сіл»: Бельскага Юрыя, Ясіновіча Антона, Пракапенку Анатоля, Крайко Алега, Вільскага Яўгена. У затрыманні актывістаў удзельнічалі тры супрацоўнікі МУС у форме і некалькі прадстаўнікоў ЖКГ, яны ж выступілі і ў ролі панятых. Было заяўлена, што сход адбываецца ў непрацоўны час і гэта, маўляў, замінае жыхарам. Усе затрыманыя былі дастаўлены ў Полацкі РАУС. Праз 2 гадзіны пасля ўзяцця тлумачэнняў затрыманыя былі адпушчаны.

11 лістапада на плошчы Леніна ў Гомелі быў затрыманы каардынатар грамадзянскай кампаніі «Хопіць піць — трэба жыць» Дзмітрый Карашкоў, які выйшаў з антыалкагольным пікетам: перад вокнамі аблвыканкама актывіст разгарнуў вялізны надпіс «Спыніце продаж алкаголю каля школ». У Цэнтральным РАУС Гомеля міліцыя склала на яго пратакол па артыкуле 23.34 КаАП (парушэнне парадку правядзення масавага мерапрыемства). Маладога чалавека пасля апытання, складання пратакола і канфіскацыі расцяжкі адпусцілі дахаты, папярэдзіўшы, што хутка адбудзецца суд.

12 лістапада на чыгуначным вакзале сталіцы быў затрыманы гродзенскі актывіст Вадзім Цярлецкі. Юнак прыехаў з Гродна ў Мінск, каб вырашыць грамадскія справы, звязаныя з палітвязнем Мікалаем Аўтуховічам, і ў той жа дзень планаваў вярнуцца назад. На В.Цярлецкага былі складзены 2 адміністрацыйныя пратаколы: арт 17.1 КаАП (дробнае хуліганства) і 23.4 КаАП (непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі). Ноч да суда ён правёў у ЦІП на Акрэсціна. 13 лістапада Вадзім Цярлецкі быў дастаўлены ў суд Кастрычніцкага раёна. Суддзя Максім Лапко, які разглядаў справу, дапусціў у залу толькі адваката, тым самым фармальна зрабіўшы паседжанне закрытым. В.Цярлецкі быў прызнаны вінаватым у дробным хуліганстве і пакараны арыштам на 3 сутак, абвінавачанне ў непадпарадкаванні супрацоўнікам міліцыі суддзя адхіліў.

13 лістапада ўвечары маці памерлага ў СІЗА №1 Мінска Ігара Пцічкіна — Жанна Пцічкіна была дастаўлена ў суд Маскоўскага раёна Мінска. Яна была затрымана дома супрацоўнікам міліцыі і невядомымі ў

цывільным і абвінавачана ва ўхіленні ад яўкі ў суд па адміністрацыйнай справе аб пікеце 14 верасня (у той дзень сваякі Ігара Пцічкіна і іншыя грамадзяне, якія не вераць у афіцыйную версію яго смерці, хацелі ўшанаваць памяць памерлага ўскладаннем кветак да сцен СІЗА, тады было затрымана 18 чалавек). Разам з Жаннай Пцічкінай па такім жа абвінавачанні судзілі праваабаронцу Андрэя Бандарэнку. Жанна Пцічкіна і Андрэй Бандарэнка заявілі хадайніцтва аб удзеле ў працэсах адваката, суддзя Яўген Хаткевіч яго задаволіў і перанёс судовыя разгляды на наступны дзень. 14 лістапада суддзя прызнаў Ж. Пцічкіну вінаватай ва ўдзеле ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве і вынес ёй пакаранне ў выглядзе папярэджання. Андрэй Бандарэнка пакараны адміністрацыйным арыштам тэрмінам 5 сутак, пастанову вынесла суддзя Таццяна Мотыль. У гэты ж дзень суд Маскоўскага раёна вынес рашэнне пакараць 5-сутачным арыштам яшчэ аднаго ўдзельніка акцыі памяці — Аляксандра Данілава.

16 лістапада ўвечары на тэрыторыі Савецкага раёна Гомеля супрацоўнікі міліцыі затрымалі сустаршыню «Маладога Фронту» Андрэя Цянюту і яго таварыша Станіслава Булу падчас расклейвання ўлётак антыалкагольнай тэматыкі. Затрыманыя былі дастаўлены ў РАУС, дзе яны прабылі прыблізна паўтары гадзіны. А. Цянюта тлумачэнні даваць адмовіўся, у Станіслава Булы тлумачэнні ўзялі. Ён напісаў, што ўлёткі расклейваліся на інфармацыйных стэндах — у дазволеным месцы. Ва ўлётках утрымліваўся заклік да ўладаў не прадаваць спіртное ў непасрэднай блізкасці ад навучальных устаноў. 27 лістапада А.Цянюта па пошце атрымаў ліст — копію пратакола аб адміністрацыйным правапарушэнні.

23 лістапада ўвечары супрацоўнікі міліцыі ўварваліся ў Дом культуры вёскі Казловічы, дзе планаваўся паказ фільма пра Слуцкі збройны чын. Супрацоўнік міліцыі Дзмітрый Шклярэўскі патлумачыў, што ў арганізатара імпрэзы Зінаіды Цімошак «няма санкцыі на сустрэчу». Міліцыянеры больш за дзве гадзіны праводзілі допыты прысутных, разбіўшыся на «тройкі» ў 4-5 памяшканнях Дома культуры. Адны з іх стаялі пры дзвярах залы, каб суправаджаць на допыты і не даць нікому збегчы. Супрацоўнікі МУС высвятлялі ў прысутных, ці ёсць у гэтай сустрэчы палітычны аспект. На імпрэзу была запрошана гісторык з Мінска Ніна Стужынская, якая планавала паказаць фільмі «40 дзён сялянскай рэспублікі». Н.Стужынская спрычынілася да стварэння гэтага фільма, які ўжо быў паказаны ў эфіры АНТ. На З.Цімошак быў складзены пратакол па арт. 23.34 КаАП (парушэнне парадку арганізацыі і правядзення масавых мерапрыемстваў). Яе папярэдзілі, што справа будзе перададзена ў суд.

## Абмежаванні свабоды слова і права на распаўсюд інфармацыі, пераслед журналістаў

31 кастрычніка адміністратар друкарскага цэнтра «Карандаш» Алена Рыбак адмовілася прыняць заказ на друк карты Усходніх могілак Мінска ў прадстаўнікоў Беларускай службы Радыё «Свабода», журналісты якой афіцыйна працуюць у Рэспубліцы Беларусь. Яна спаслалася на службовую інструкцыю, паводле якой «ДатаПрынт» не займаецца друкам матэрыялаў парнаграфічнай, экстрэмісцкай, нацысцкай, антыдзяржаўнай скіраванасці, а таксама агітацыйных матэрыялаў, якія ўтрымліваюць прыкметы перадвыбарчай агітацыі, агітацыі па пытаннях рэферэндуму і тых, якія могуць быць ужытыя падчас правядзення грамадска-палітычных акцый і кампаній. 5 лістапада ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» накіравала ў прыватнае прадпрыемства «ДатаПрынт» афіцыйны запыт адносна адмовы паліграфічнай фірмы надрукаваць карту Усходніх могілак на замову Радыё «Свабода». Да ліста арганізацыя прыклала паштоўку «Журналісты — не экстрэмісты», выпушчаную Еўрапейскай федэрацыяй журналістаў у межах кампаніі «Станем за журналістыку». Асобная паштоўка пайшла персанальна Алене Рыбак у павільён №2.

5 лістапада телеканал «Белсат ТВ» атрымаў позву на 11 лістапада ў Вярхоўны суд. Уладальнік таварнага знака «Белсат» — кампаніі, якая займаецца продажам абсталявання для прыёму спадарожнікавага і кабельнага тэлебачання і прадае радыётэхнічнае абсталяванне, Андрэй Белякоў сцвярджае, што тэлебачанне «Белсат» незаконна выкарыстоўвае свой таварны знак. Кампанія паўстала ў 2003 годзе пад кіраўніцтвам Сяргея Лысянкова і тады называлася «Хайтэх-маркет». У траўні 2006 года ўжо было вядома пра тое, што паўстае телеканал пад назвай «Белсат ТВ». Праз месяц уласнік кампаніі «Хайтэх-маркет» Сяргей Лысянкоў аддаў таварны знак Андрэю Белякову, які змяняе назву на Унітарнае прадпрыемства «БЕЛСАТплюс», а ў 2011 годзе ў спецыфікацыі фірмы з'яўляецца слова ТВ, праўда, выключна кабельнае. Телеканал «Белсат» зарэгістраваны ў Польшчы, таксама, як і дамен сайта. Даменнае імя не зарэгістраванае ў Беларусі і не адмініструецца з тэрыторыі Беларусі, таксама і тэлебачанне не транслюецца з тэрыторыі Беларусі. Адпаведна, і знак — не падпадае пад юрысдыкцыю беларускага права. Да таго ж «Белсат» зарэгістраваны як «Белсат ТВ» («Belsat TV»), а гандлёвае ўнітарнае прадпрыемства — як «БЕЛСАТплюс» (пасведчанне аб рэгістрацыі № 190991566). 11 лістапада — у Польшчы Дзень Незалежнасці і афіцыйны выходны, у сувязі з гэтым «Белсат» звярнуўся ў суд з просьбай перанесці судовае паседжанне. Фірма, якая падала ў суд на «Бел-

сат ТВ», не хоча грашовай кампенсацыі. Яе адзінае патрабаванне, каб спадарожнік «Astra» прыпыніў трансмісію сігналу тэлебачання «Белсат» («Белсат» транслюецца са спадарожніка «Astra 4A» (ранейшая назва — «Sirius 4»)). 11 лістапада Вярхоўны суд вырашыў перанесці разгляд справы на 9 снежня. Прадстаўнік тэлеканала Міхась Янчук патлумачыў, што тэлеканал атрымаў позву за два працоўныя дні да пачатку пасяджэння, таму паводле закона яны маюць права на адтэрміноўку.

12 лістапада намеснік старшыні «Беларускай асацыяцыі журналістаў» Андрэй Бастунец паведаміў, што Беларусь займае апошняе месца паводле свабоды СМІ сярод краін Усходняга партнёрства. Пра гэта сведчыць квартальны Індэкс свабоды слова, прэзентаваны ў Мінску. На бягучы момант безумоўнымі лідарамі рэйтынга з'яўляюцца Малдова і Грузія. Эксперты адзначылі: паколькі становішча спраў у медыйнай сферы застаецца без зменаў, магчыма, гэта звязана якраз з тым, што ў Беларусі не адбываецца ніякіх электаральных кампаній. І другі раз запар усе эксперты паставілі мінімальную колькасць балаў (нуль), калі ацэньвалі сітуацыю з заканадаўствам аб дэфамацыі. Калі ў Крымінальным Кодэксе Беларусі ёсць 6 артыкулаў, якія прадугледжваюць крымінальную адказнасць за дэфамацыю, то такі падыход экспертаў вельмі зразумелы. Індэкс свабоды слова вызначаецца ў шасці краінах праграмы Усходняга партнёрства паводле падзей і тэндэнцый, якія адбыліся ў галіне СМІ за тры мінулыя месяцы. Найбольш адмоўнай падзеяй у Беларусі за ліпень-кастрычнік было названа закрыццё ўладамі прыватнага незалежнага выдавецтва «Логвінаў».

18 лістапада ў Вышэйшым гаспадарчым судзе пачаліся слуханні па заяве на Міністэрства інфармацыі Беларусі з просьбай адмяніць загад аб пазбаўленні ліцэнзіі выдавецтва «Логвінаў». Ліцэнзію адклікалі па рашэнні калегіі міністэрства «ў сувязі з дапушчанымі грубымі парушэннямі заканадаўства аб ліцэнзаванні» — выпуск альбома «Прэс-фота Беларусі 2011», які суд Ашмянскага раёна прызнаў экстрэмісцкім 18 красавіка 2013 года. Выдавецтва «Логвінаў» выступала выдаўцом альбома». Справу разглядала суддзя Таццяна Праташчык. Суд задаволіў хадайніцтва аб заслухоўванні сведкаў Уладзіміра Арлова, Ігара Бабкова і Юліі Дарашкевіч. Сведка Юлія Дарашкевіч паведаміла, што ў альбоме былі змешчаныя фота, якія раней з'явіліся ў СМІ, у т.л. дзяржаўных — «СБ», БелТА. Уладзімір Арлоў паведаміў, што выдавецтва «Логвінаў» працуе 14 гадоў, выдадзена за гэты час 700 кніг, і гэта важкі ўнёсак у развіццё беларускай культуры. Сведка Ігар Бабкоў зазначыў, што «Логвінаў» — гэта не барыкады і не палітычны праект, гэта праект у самым сэрцы беларускай культуры. Пацярпелымі, калі выдавецтва закрыюць, будуць чытачы і

беларускія аўтары». Прадстаўнік «Логвінава» Андрэй Бастунец паставіў пытанне пра правамоцнасць паседжання калегіяльнай камісіі Мініінфармацыі, дзе было прынята рашэнне аб пазбаўленні ліцэнзіі выдавецтва. У дакументах стаіць толькі подпіс міністра Праляскоўскага, прозвішчы 9 іншых членаў калегіі не ўказаны. Суддзя паведаміла, што правамоцнасць падцверджана подпісам міністра. Прадстаўнік Міністэрства інфармацыі праігнаравала крытыку Бастунца, што рашэнне дзяржоргана не адпавядае нормам Канстытуцыі і Міжнароднаму пакту аб грамадзянскіх і палітычнах правах. Рашэнне суддзі: «Суд вырашыў: ІП Ловінаву адмовіць у прызнанні несапраўдным рашэнне Міністэрства інфармацыі». Рашэнне можа быць абскарджана ў касацыйным парадку.

26 лістапада каля 12-й гадзіны на ўездзе ў Глыбокае затрымалі незалежных журналістаў Вячаслава Пяшко і Насту Рэзнікаву. Яны ехалі рыхтаваць відэасюжэт для сайта газеты «Новы час». Машыну, якой кіраваў В.Пяшко, спынілі на ўездзе ў горад супрацоўнікі ДАІ. Праверыўшы дакументы, міліцыянеры спачатку сказалі, што іх насцярожвае нумар кузава машыны. Пасля праверылі багажнік і папрасілі праехаць з імі ў РУУС, бо вонкава машына і яе пасажыры нібыта падыходзілі пад апісанне махляроў у вышуку. На просьбу журналістаў паказаць «арыенціроўку» — апісанне прыкмет злачынцаў, на падставе якіх іх затрымалі, — міліцыянты прад'явілі непераканаўчы дакумент на камп'ютары з агульным апісаннем мужчыны «еўрапейскай знешнасці». Раздрукаваць дакумент адмовіліся. Прыкладна праз паўгадзіны абодвух вызвалілі, перапісаўшы пашпартныя дадзеныя і нумары тэлефонаў. Гутарыў з імі старшы оперупаўнаважаны Мікалай Кватэра.

## Абмежаванне свабоды сходаў

1 лістапада ў Жодзінскім гарадскім судзе пачаўся разгляд справы аб забароне 4 жніўня пікета ў падтрымку зняволенага праваабаронцы Алеся Бяляцкага і іншых палітвязняў. Паседжанне вёў суддзя Іван Грынкевіч. Гарвыканкам па справе прадстаўляла загадчыца юрыдычнага аддзела Вольга Вергель. Адметнасцю дадзенай справы з'яўлялася тое, што заяўнікі, праваабаронцы Аляксей Лапіцкі і Святлана Лапіцкая, аспрэчвалі адмову, вынесеную згодна з новай пастановай ад 27 ліпеня 2012 года за №1020 «Аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў у горадзе Жодзіна». У адпаведнасці з новымі патрабаваннямі, да заяўкі ў выканкам неабходна прыкласці копіі дамоў з міліцыяй, медыкамі і камунальшчыкамі, але яны не заключаюць такіх дамоў да атрымання адпаведнага дазволу з выканкама на правядзенне масавага мерапрыемства. Пасля

прадстаўлення пазіцый суд прыняў шэраг хадайніцтваў з боку заяўнікаў і пастанавіў выклікаць на паседжанне 8 лістапада прадстаўнікоў Жодзінскіх ГАУС, ЖКГ і гарадской бальніцы для дачы тлумачэнняў па справе. У агульнай колькасці адбыліся 4 судовыя паседжанні па справе, у выніку якіх суддзя 22 лістапада не задаволіў скаргу праваааронцаў, прызнаўшы рашэнне гарвыканкама законным.

5 лістапада ў Гродзенскім абласным судзе прайшоў разгляд касацыйнай скаргі праваабаронцаў Віктара Сазонава, Уладзіміра Хільмановіча і Рамана Юргеля на рашэнне суда Ленінскага раёна Гродна па адмове гарвыканкама ў правядзенні пікета 4 жніўня ў падтрымку зняволенага праваабаронцы Алеся Бяляцкага. 23 верасня суддзя Ленінскага раённага суда Гродна Жана Краўчанка вызначыла, што гарвыканкам зрабіў усё законна. Калегія абласнога суда на чале з суддзёй Людмілай Малючок і ў прысутнасці пракурора пакінула рашэнне раённага суда нязменным.

6 лістапада стала вядома, што жыхароў Глыбокага фактычна пазбавілі права на правядзенне мірных сходаў. Райвыканкам вырашыў унесці змены ў сваё рашэнне наконт арганізацыі масавых мерапрыемстваў — змяніць месца для іх правядзення. Высветлілася гэта, калі мясцовыя актывісты вырашылі зладзіць пікет салідарнасці з палітвязнямі. Паводле атрыманага імі ліста з адмовай, правядзенне масавых мерапрыемстваў немагчыма нявызначаны тэрмін. Як напісана ў лісце за подпісам старшыні Глыбоцкага райвыканкама Алега Морхата, змены ў ранейшае рашэнне райвыканкама ўнесены 8 кастрычніка, і ў дадзены момант новая рэдакцыя праходзіць юрыдычную экспертызу ў абласной управе юстыцыі, потым яно мусіць быць унесена ў рэестр дзяржаўных актаў. І толькі потым, калі не спатрэбіцца яшчэ нейкая праўка ці ўдакладненні, зменене рашэнне будзе надрукавана ў раённай газеце і ўступіць у законную сілу. Пікет салідарнасці з палітвязнямі быў запланаваны на 23 лістапада. 18 лістапада заяўляльнік пікета Дзмітрый Лупач падаў у суд Глыбоцкага раёна скаргу на рашэнне райвыканкама аб забароне масавага мерапрыемства. 25 лістапада падчас разгляду скаргі ў судзе прадстаўніца юрыдычнага аддзела райвыканкама агучыла іншую прычыну забароны: адсутнасць дамоў з міліцыяй, медыкамі і ЖКГ на абслугоўванне акцыі. Суд прыняў бок выканкама і прызнаў забарону пікета законнай, узяўшы пад увагу прычыну, агучаную ў працэсе. Толькі ў судзе Дзмітрый Лупач даведаўся, што новае рашэнне выканкама ўжо зацверджана і з 1 лістапада ўступіла ў дзеянне, пры гэтым раённая газета «Веснік Глыбоччыны» пра гэта не паведамляла, а на сайце выдання рубрыка «Нарматыўныя прававыя акты» не працуе ўвогуле.

6 лістапада Слонімскі раённы суд разгледзеў скаргу слонімскага актывіста Алеся Масюка, у якой ён прасіў прызнаць незаконным і адмяніць рашэнне райвыканкама аб забароне правядзення пікета 29 верасня ў абарону чытачоў і падпісчыкаў «Газеты Слонімскай». Падставай для адмовы паслужыла тое, што ў гэты дзень паводле плану працы аддзела ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі Слонімскага райвыканкама, РК ГА «БРСМ» у гарадскім парку павінна была адбыцца крос-віктарына «Ведай свой край». А згодна закону, у адным месцы адначасна нельга праводзіць некалькі масавых мерапрыемстваў. Калі прадстаўнікі выканкама прадставілі ў суд план работы аддзела ідэалагічнай работы, у ім было пазначана, што крос-віктарына запланавана на 29 верасня, а ўжо пазней з'явілася дата 28 верасня. Нягледзячы на гэта, суд вынес рашэнне пакінуць скаргу заяўніка без задавальнення, палічыўшы, што з боку райвыканкама парушэнняў закону не было.

10 лістапада на Цэнтральным гарадскім стадыёне Бярозы планаваўся пікет салідарнасці з палітвязнямі, аднак Бярозаўскі райвыканкам у асобе намесніка кіраўніка Яўгена Тарасюка забараніў яго. Названая прычына: адсутнасць дамоў з адпаведнымі службамі: міліцыяй, медыкамі і ЖКГ. Пры гэтым райвыканкам быў пастаўлены праваабаронцамі ў вядомасць, што службовыя асобы самі павінны звязваецца з міліцыяй для абслугоўвання пікета згодна з патрабаваннямі Пастановы Савета Міністраў ад 2012 года № 207. Таксама заяўнікамі быў дасланы ў райвыканкам дакумент з райбальніцы, дзе паведамлялася, што яны не маюць адпаведнай Пастановы на абслугоўванне пікета, як і прэйскуранта.

12 лістапада стала вядома, што Камітэт па правах чалавека ААН прызнаў парушэнне беларускімі ўладамі права старшыні Гомельскай абласной арганізацыі Беларускай партыі левых «Справядлівы мір» Уладзіміра Сякеркі на правядзенне мірнага сходу, забараніўшы ў снежні 2007 года правесці ў Гомелі мітынг у знак нязгоды з адменай льгот насельніцтву краіны. Мясцовыя чыноўнікі запатрабавалі тады ад дэмакратаў аплаціць паслугі міліцыі, камунальшчыкаў ды хуткай дапамогі. Камітэт па правах чалавека нагадаў, што калі дзяржава накладае абмежаванне на свабоду мірнага сходу, тады ёй варта садзейнічаць ажыццяўленню права, а не шукаць непатрэбныя або неадпаведныя абмежаванні. На падставе рашэння Камітэта ААН урад Беларусі мусіць забяспечыць «ахвяры парушэння эфэктыўны сродак прававой абароны, уключна з поўным пакрыццём выдаткаў і належнай кампенсацыяй», а таксама абавязаны «не дапускаць падобных парушэнняў у будучыні». Акрамя таго, беларусія ўлады абавязаны «змяніць нацыянальны Закон аб масавых мерапрыемствах і прак-

тыку яго прымянення такім чынам, каб забяспечыць кожнаму права на свабоду правядзення мірных сходаў».

13 лістапада актывісты Руху «За свабоду» і АГП Аляксандр Процка і Андрэй Толчын атрымалі паведамленне з Камітэта па правах чалавека ААН, згодна з якім прызнана парушэнне беларускімі ўладамі іх права на свабоду выказвання меркавання (артыкул 19 Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах). Камітэт ААН раіць беларускаму ўраду кампенсаваць Аляксандру Процку і Андрэю Толчыну выдаткі і маральную шкоду, аднавіць іх правы, а таксама прывесці нацыянальнае заканадаўства, у прыватнасці, Закон аб масавых мерапрыемствах, у адпаведнасць міжнародным стандартам. Справа датычыла падзей 2008 года, калі актывісты распаўсюджвалі ў Брагіне і Нароўлі запрашэнні на сустрэчу з лідарамі апазіцыі, якія збіраліся наведаць «чарнобыльскія» раёны напярэдадні чарговай гадавіны аварыі на ЧАЭС. Аляксандр Процка і Андрэй Толчын былі затрыманы міліцыяй і пакараны штрафам і арыштам адпаведна.

14 лістапада Баранавіцкі гарвыканкам у асобе намесніка старшыні гарвыканкама Д. Касцюкевіча забараніў пікет пад лозунгамі «Іх трэба спыніць», «Дзеянні ўлады — пад грамадскі кантроль», заяўка на які была пададзена актывістам гарадскога прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці Рыгорам Грыкам. Чыноўнік адзначыў, што лозунг заяўленага масавага мерапрыемства парушае патрабаванні арт. 10 Закона РБ «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь».

14 лістапада калегія Віцебскага абласнога суда разгледзела скаргу Хрыстафора Жаляпава і Аляксея Гаўруцікава на пастанову Першамайскага райсуда (суддзя Вольга Іванова), куды звярнуліся пасля атрымання чарговай забароны на правядзенне 8 верасня пікета супраць размяшчэння на тэрыторыі Беларусі расійскіх вайсковых баз. У якасці прычыны адмовы была ўказана адсутнасць дамоў на абслугоўванне пікета супрацоўнікамі МУС і хуткай дапамогі. Гэткія дамовы, паводле рашэння Віцебскага гарвыканкама №881, трэба далучаць адразу да заяўкі на акцыі. Аднак абласная ўправа МУС і цэнтральная гарадская паліклініка — менавіта гэтыя структуры пералічаны ў рашэнні гарвыканкама «Аб арганізацыі масавых мерапрыемстваў у г.Віцебску — адмовіліся заключаць дамовы з актывістамі. Як і раённы суд, калегія Віцебскага абласнога суда прызнала забарону законнай, але накіравала на перагляд справу ў той частцы, якая тычылася адмоў ад супрацоўніцтва з актывістамі з боку міліцыі і цэнтральнай гарадской паліклінікі.

17 лістапада слонімскі актывіст Алесь Масюк меў намер правесці ў гарадскім парку пікет, на якім хацеў выказацца за права жыхароў Слонімскага раёна свабодна афармляць падпіску на рэгіянальную «Газету Слонімскую» ў РУП «Белпошта» і вольна яе набываць у шапіках «Белсаюздруку». За чатыры дні да заяўленага мерапрыемства з райвыканкама прыйшла адмова за подпісам выконваючага абавязкі першага намесніка старшыні Уладзіслава Гершгорына. У ёй тлумачыцца, што ў гэты ж дзень і час у Слоніме па вуліцы Опернай будзе праводзіцца дзяржаўнае масавае мерапрыемства «Маладое пакаленне — на старт!», прысвечанае Міжнароднаму дню студэнта.

19 лістапада ў судзе Бярозаўскага раёна адбыўся разгляд скаргі праваабаронцаў Тамары Шчапёткінай і Сяргея Русецкага, а таксама грамадскай актывісткі Таццяны Тарасевіч на рашэнне райвыканкама аб забароне пікета супраць смяротнага пакарання, які планаваўся 10 кастрычніка. Заяўнікі прасілі суд прызнаць адмову ў пікеце неправамоцнай, паколькі рашэнне райвыканкама ад 9 лютага 2010 года «Аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў у Бярозаўскім раёне» выканаць проста немагчыма. Згодна з рашэннем выканкама, разам з заявай на пікет павінны быць пададзены копіі дамоў з міліцыяй, ЖКГ і бальніцай на абслугоўванне масавага мерапрыемства. Разам з тым, паводле Пастановы Савета Міністраў ад 2012 года № 207, райвыканкам павінен даслаць у міліцыю копію зарэгістраванай заявы на пікет (чаго райвыканкам не зрабіў падчас прыняцця рашэння па забароне пікета), і толькі тады могуць быць абмеркаваны з райвыканкамам дзеянні міліцыі падчас пікета. Бярозаўская бальніца не заключыла дамову, бо гэта проста не прапісана ў дакументах Міністэрства аховы здароўя і няма нават прэйскуранта на гэта. У ЖКГ таксама адмовіліся складаць дамову на 10 кастрычніка, указаўшы, што стадыёны з'яўляюцца ўласнасцю райвыканкама і параілі звяртацца па дамовы туды. Мяняць рашэнне паводле больш позняй Пастановы Саўміна райвыканкам адмовіўся. На судзе юрыст райвыканкама Яўген Кашталян заявіў, што яму ніхто з Саўміна не даваў адпаведнага распараджэння. Суддзя Наталля Мінчанка пры прыняцці рашэння стала на бок райвыканкама і адмовіла праваабаронцам і грамадскай актывістцы ў задавальненні скаргі. 29 лістапада праваабаронцы падалі скаргу на рашэнне суда першай інстанцыі ў Брэсцкі абласны суд.

21 лістапада старшыня Быхаўскай раённай арганізацыі Партыі БНФ Сяргей Антонаў падаў у мясцовы райвыканкам пісьмовы зварот да яго старшыні Дзмітрыя Калеева з просьбай вызначыць месца для правядзення пікетаў на тэрыторыі горада Быхава. Падставай для напісання

звароту паслужыла тое, што, двойчы за апошнія месяцы яго заяўкі на правядзенне масавых мерапрыемстваў (пікетаў) былі адхілены. У першы раз падставай для адмовы паслужыла тое, што заяўленае месца (плошча Красоўскага) знаходзіцца паблізу ад раённага радыё. У другі раз Сяргею Антонаву адмовілі ў правядзенні пікета супраць размяшчэння замежных вайсковых баз і ваенных аб'ектаў на тэрыторыі Беларусі па прычыне таго, што мясцовае УКП «Жылкамгас» праводзіла рамонтныя работы ў парку 50-годдзя Перамогі. «Спадзяюся, што Дзмітрый Калееў нарэшце дасць мне канкрэтны адказ, дзе ж у Быхаве можна праводзіць пікеты, — адзначае Сяргей Антонаў. — Ну а пасля зноў падам заяўку на правядзенне пікета ўжо ў вызначаным імі самімі месцы, каб у чыноўнікаў не было нейкіх падстаў для чарговай адмовы».

25 лістапада Магілёўскі абласны суд разгледзеў дзве скаргі, пададзеныя праваабаронцамі Барысам Бухелем і Аляксеем Колчыным. У першым выпадку суд пад старшынствам суддзі Святланы Стальмаховай спыніў справу з нагоды скаргі магілёўскіх праваабаронцаў на рашэнне Магілёўскага гарвыканкама з нагоды вызначэння адзінага месца ў горадзе для правядзення масавых мерапрыемстваў, арганізатарамі якіх выступаюць палітычныя партыі, грамадскія арганізацыі, прафсаюзныя арганізацыі і грамадзяне. У другім выпадку на падставе рашэння, якое было прынята ў судзе першай інстанцыі, Магілёўскі абласны суд у гэтым жа складзе адмовіў у задавальненні скаргі і пакінуў у сіле рашэнне суда Ленінскага раёна Магілёва з нагоды забароны пікета магілёўскімі ўладамі з мэтай патрабавання вызваліць праваабаронцу Алеся Бяляцкага і іншых палітвязняў.

## Абмежаванне свабоды асацыяцый

11 лістапада сябра Беларускага незалежнага прафсаюза Леанід Дубаносаў спрабаваў аспрэчыць рашэнне суда Лунінецкага раёна, які не аднавіў яго на працы на прадпрыемстве «Граніт» і не прызнаў факт дыскрымінацыі з-за прафсаюзнай прыналежнасці. У сваёй касацыйнай скарзе ў Брэсцкі абласны суд Дубаносаў адзначыў, што звальненне адбылося менавіта за ягоны ўдзел у незалежным прафсаюзным руху, бо раней амаль за 20 гадоў працы на «Граніце» ён не меў ніякіх спагнанняў з боку адміністрацыі прадпрыемства, а за апошні час атрымаў адразу два, якія і з'явіліся падставай, каб не працягваць працоўны кантракт. Абласны суд пакінуў скаргу без задавальнення.

# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Снежань

Апошні месяц 2013 года не прынёс зменаў у агульнай сітуацыі з правамі чалавека — яна заставалася стабільна кепскай. Адбывалася далейшая кансервацыя негатыўных тэндэнцый, якія фарміраваліся і замацоўваліся на працягу года: адсутнасць палітычнай волі беларускіх уладаў у вырашэнні праблемы палітычных зняволеных, моцныя абмежаванні свабоды выказвання меркаванняў, свабоды сходаў і іншых грамадзянска-палітычных правоў, ігнараванне заклікаў да адмены ці ўвядзення мараторыю на смяротнае пакаранне, вынясенне смяротнага прысуду і прызнанне прыхаванай інфармацыі пра вынесены ў лістападзе яшчэ адзін смяротны прысуд.

У снежні беларускія ўлады прадэманстравалі, што не намераны адмаўляцца ад рэпрэсіўных захадаў у адносінах да іншадумцаў і апанентаў. На працягу месяца спіс палітвязняў (Алесь Бяляцкі, Мікалай Статкевіч, Мікалай Аўтуховіч, Эдуард Лобаў, Мікалай Дзядок, Яўген Васьковіч, Арцём Пракапенка, Ігар Аліневіч, Андрэй Гайдукоў) папоўніўся прозвішчамі Уладзіміра Яроменкі і Васіля Парфянкова, і агульная колькасць палітычных закладнікаў дасягнула 11 чалавек. Уладзімір Яроменак і Васіль Парфянкоў былі асуджаны па абвінавачанні ў парушэнні правіл прэвентыўнага нагляду, які быў усталяваны над імі судамі за актыўную грамадскую дзейнасць пасля памілавання ў 2011 годзе, калі яны былі асуджаны за ўдзел у акцыі пратэсту ў снежні 2010 года. Гэтыя дзве справы даюць падставы сцвярджаць, што беларускія ўлады схільныя прытрымлівацца пэўнай стабільнасці ў пытанні палітвязняў: на працягу года фіксавалася тэндэнцыя захоўвання прыблізна аднолькавай колькасці палітычных зняволеных — вызваленне ў жніўні-кастрычніку трох вязняў было «скампенсавана» з'яўленнем новых двух у снежні. Таксама дадзеныя справы засведчылі, што ўлады не збіраюцца саслабіць кантроль над былымі палітычнымі зняволенымі, выкарыстоўваючы механізмы абмежавальнага характару, звязаныя з непагашанай судзімасцю, як сродак абмежавання іх актыўнасці і запалохвання (прэвентыўны нагляд дзейнічаў над трыма былымі палітвязнямі — Дзмітрыем Дашкевічам, Аляксандрам Францкевічам і Паўлам Вінаградавым; дзеянне прафілактычнага нагляду распаўсюджвалася над яшчэ 28 былымі палітычнымі зняволенымі).

Для снежня было характэрным зніжэнне міжнароднай увагі да сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі, у прыватнасці, да праблемы палітвязняў. Назіралася фактычная адсутнасць публічных выказванняў з боку ЕС і

ЗША па гэтай праблеме як умовы наладжвання паўнавартаснага палітычнага дыялогу і супрацоўніцтва з афіцыйным Мінскам. Так, не агучвалася ніякай інфармацыі пра наяўнасць гэтага пытання ў павестцы дня падчас сустрэчы міністра замежных спраў Беларусі Уладзіміра Макея з кіраўнікамі дыпламатычных ведамстваў ЕС, ЗША і Ватыкану, якая адбылася 17 снежня. Усё, што вядома, гэта што падчас размовы абмеркавана «шырокае кола пытанняў, якія тычацца стану і перспектыў развіцця адносін Рэспублікі Беларусь з дадзенымі краінамі ў двухбаковым і шматбаковым фарматах». Гэта стала трывожным знакам, паколькі знешнепалітычны фактар у сённяшняй сітуацыі з'яўляецца найбольш эфектыўным і фактычна адзіным інструментам уплыву на афіцыйны Мінск, а адыход ад абмеркавання праблемы палітвязняў можа спрыяць далейшаму замарожванню вырашэння пытання.

Важным з'яўлялася ў снежні акцэнтаванне праваабаронцаў як на нацыянальным, так і на міжнародным узроўнях на сацыяльных і эканамічных правах у Беларусі. Сумесны даклад FIDH і ПЦ «Вясна» канстатаваў глыбокі крызіс у сацыяльна-эканамічнай сферы і адлюстраваў паўсядзённыя парушэнні правоў грамадзян Беларусі. 29 лістапада Камітэт па эканамічных, сацыяльных і культурных правах ААН у сваіх заключных заўвагах узняў праблему прымусовай працы і парушэння працоўных правоў, паднятую ў прадстаўленай FIDH і ПЦ «Вясна» ў Камітэт справаздачы. У прыватнасці, Камітэт адназначна запатрабаваў ад Беларусі перагледзець сістэму кароткатэрміновых працоўных кантрактаў, адмяніць прымусовую працу асоб з алкагольнай і наркатычнай залежнасцю, якія супраць сваёй волі ўтрымліваюцца ў так званых «лячэбна-працоўных прафілакторыях», а таксама «абавязаных асоб», перагледзеўшы адпаведнае заканадаўства, забяспечыць свабодную дзейнасць прафсаюзаў і распачаць шэраг пазітыўных мер па забеспячэнні рэальнай і эфектыўнай сацыяльнай абароны правоў насельніцтва.

## Палітычныя зняволеныя, крымінальны пераслед грамадскіх актывістаў

1 снежня палітвязню Эдуарду Лобаву споўнілася 25 гадоў. З 6 па 9 снежня маці і брат мелі з ім доўгатэрміновае спатканне тэрмінам 3 сутак у калоніі № 22 «Воўчыя норы» Івацэвіцкага раёна. Марына Лобава паведаміла, што яе сын адчувае сябе добра. Чатыры апошнія месяцы ён вучыцца на электразваршчыка, пасля выхаду з калоніі плануе атрымаць вышэйшую адукацыю — паступіць на гістарычны факультэт. Э. Лобаў распавёў, што перад спатканнем быў вельмі заняты, трэба было папры-

шываць на зімовую вопратку біркі, навесці парадак у рэчах і паперах, бо пачынаюцца пераднавагодніяператрусы. Магчымая прычына ператрусаў — пошук алкаголю, бо перад Новым годам шмат спатканняў, і нехта можа яго пранесці (гэта адбываецца кожны год). Пасля ператрусаў трэба шмат часу, каб усё прыбраць і раскласці па месцах.

2 снежня Марына Адамовіч, жонка палітвязня Мікалая Статкевіча, пасля працяглага перапынку атрымала адразу два лісты ад мужа. З гэтых лістоў стала вядома, што ў Мікалая Статкевіча быў праведзены вельмі доўгі, больш за паўтары гадзіны, начны вобыск, у якім прымалі ўдзел вышэйшыя афіцэры магілёўскай турмы, дзе ўтрымліваецца палітвязень. 3 снежня была агучана інфармацыя, што 18 лістапада Мікалаем Статкевічам была накіравана скарга ў Камітэт па правах чалавека ААН, яго інтарэсы ў КПЧ прадстаўляе жонка. Дадзеная скарга з'яўляецца другім зваротам у структуры ААН прадстаўнікамі Мікалая Статкевіча. У лютым 2011 года Кацярына Статкевіч, дачка зняволенага, падала зварот у Працоўную групу ААН па адвольных затрыманнях. 19 чэрвеня 2011 г. Працоўная група палічыла, што Беларусь парушыла правы Мікалая Статкевіча і вынесла рашэнне, што пазбаўленне яго волі з'яўляецца адвольным і ўяўляе сабой парушэнне арт. 9 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і арт. 9 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах. Працоўная Група заклікала ўрад Беларусі прыняць неабходныя меры для выпраўлення сітуацыі, якія павінны былі ўключаць непасрэднае вызваленне Статкевіча і выплату адэкватнай кампенсацыі. У цяперашнім індывідуальным звароце абгрунтоўваецца цэлы шэраг парушаных Беларуссю агульнапрызнаных міжнародных стандартаў пры расследаванні і судовым разглядзе крымінальнай справы, па якой М. Статкевіч быў асуджаны. 12 снежня Марына Адамовіч паведаміла, што з надыходам маразоў у камеры палітзняволенага сапсаваліся батарэі ацяплення, адсутнічае цяпло як у камеры палітыка, так і ў дзвюх суседніх. М. Статкевічу выдалі дадатковую коўдру, але ёю можна скарыстацца толькі ўначы, а ўдзень вельмі пільна сочаць, нават спрабавалі накласці на яго спагнанні за няправільную форму вопраткі. 16 снежня гарадоцкі актывіст Леанід Гаравы атрымаў ад начальніка магілёўскай турмы А. В. Дзмітрава адказ на сваю скаргу, датычную абмежавання права на ліставанне М. Статкевіча. Ён патрабаваў тлумачэнняў, чаму яго ліст не дайшоў да палітвязня. У адказе ўказвалася толькі наступнае: «Парушэнняў супрацоўнікамі турмы № 4 парадку выняцця накіраванага вамі ліста не ўстаноўлена». Тлумачэнні, якія былі прадпрыняты меры для поўнага, аб'ектыўнага, усебаковага і своечасовага разгляду скаргі, у адказе адсутнічалі. 26 снежня Марына Адамовіч мела кароткатэрміновае спатканне з Мікалаем Статкевічам,

падчас якога высветлілася, што ліст палітвязня, які ўтрымліваў інфармацыю пра знікненне з рацыёну зняволеных белага хлеба, не прайшоў турэмную цэнзуру і не быў дасланы адрасату.

5 снежня суддзя суда Першамайскага раёна Мінска Леанід Ярмоленкаў асудзіў грамадскага актывіста Васіля Парфянкова за парушэнне правіл прэвентыўнага нагляду да 1 года пазбаўлення волі ў папраўчай калоніі строгага рэжыму з прымяненнем прымусовых мер бяспекі і лячэння да асоб, якія пакутуюць на хранічны алкагалізм згодна з арт. 107 Крымінальнага кодэкса. В. Парфянкоў быў узяты пад варту ў зале суда і адпраўлены ў следчы ізалятар, да лютага 2014 года ён будзе ўтрымлівацца ў СІЗА №7 Жодзіна. Васіль Парфянкоў у лютым 2011 года быў асуджаны да чатырох гадоў пазбаўлення волі па ч. 2 арт. 293 КК РБ (удзел у масавых беспарадках) за ўдзел у акцыі пратэсту супраць фальсіфікацый падчас прэзідэнцкіх выбараў, у жніўні таго ж года — памілаваны згодна з указам прэзідэнта. Прэвентыўны нагляд за В. Парфянковым быў усталяваны 5 студзеня 2012 года тэрмінам на 1 год, неўзабаве пасля адбыцця 15-ці суткавага адміністрацыйнага арышту за ўдзел у мірным сходзе 19 снежня — у гадавіну падзеяў 2010 г., аднак за парушэнні ўмоў нагляду суд Першамайскага раёна Мінска 29 траўня 2012 года асудзіў яго па артыкуле 421 Крымінальнага кодэкса на 6 месяцаў арышту, які Парфянкоў адбываў у калоніі №6 горада Баранавічы. Пасля вызвалення з калоніі 9 лютага 2013 года прэвентыўны нагляд быў працягнуты яшчэ на паўгады. 12 ліпеня Парфянкову было ізноў прад'яўлена абвінавачванне па артыкуле 421 Крымінальнага кодэкса. Аднак справа да суда тады не дайшла, паколькі з 21 верасня Васіля Парфянкова, паводле рашэння суда Першамайскага р-на г. Мінска, накіравалі ў лячэбна-працоўны прафілакторый у Светлагорску тэрмінам на 1 год для прымусовага лячэння ад алкагалізму. Падчас разгляду справы аб парушэнні правіл прэвентыўнага нагляду 5 снежня Васіль Парфянкоў адмовіўся даваць паказанні ў судзе і не прызнаў сябе вінаватым. Ён патлумачыў, што пільная ўвага да яго з боку праваахоўных органаў — ні што іншае, як чарговая спроба ізаляваць яго за актыўную грамадскую дзейнасць. Васіль Парфянкоў выказаў намер абскардзіць прысуд суда Першамайскага раёна ў касацыйным парадку ў Мінгарсудзе. Праваабарончы цэнтр «Вясна»і РГА БХК расцанілі асуджэнне Васіля Парфянкова як палітычна матываны пераслед.

6 снежня ветэраны вайны ў Афганістане накіравалі скаргу Генпракурору, у якой запатрабавалі агучыць інфармацыю пра стан палітвязня Мікалая Аўтуховіча. Тэкст скаргі даслаў кіраўнік «Прававой дапамогі насельніцтву», сустаршыня аргкамітэта Рэспубліканскага грамадскага

аб'яднання ветэранаў вайны ў Афганістане «Абаронцы Айчыны» Алег Волчак. Праваабаронца адзначыў, што ў верасні 2013 года была атрымана інфармацыя, што зняволены гродзенскай турмы Мікалай Аўтуховіч у знак пратэсту на незаконныя дзеянні адміністрацыі быў вымушаны пашкодзіць сабе жывот, каб спыніць неабгрунтаваныя дзеянні супрацоўнікаў турмы. На падставе гэтай інфармацыі была пададзена скарга на імя Генпракурора. Заяўляльнікі спадзяваліся, што органы пракуратуры будуць строга прытрымлівацца Закона «Аб пракуратуры» і правядуць пракурорскую праверку, аднак скарга ў парушэнне дзеючага заканадаўства была накіравана ў той орган, на які скардзіліся, а менавіта на імя палкоўніка ўнутранай службы Талочака. Аўтары звароту падкрэсліваюць, што праверка фактычна не праводзілася, што прымусіла звярнуцца з паўторнай скаргай да органаў нагляду за выкананнем законнасці. 20 снежня Алег Волчак паведаміў, што скарга з Генпракуратуры перанакіравана для разгляду ў пракуратуру Гродзенскай вобласці. Таксама праваабаронца адзначыў, што ў Мікалая Аўтуховіча пераддыябетны стан, у яго выяўлены павышаны цукар у крыві — 8 ммоль/л (норма глюкозы (цукру) у крыві ў дарослага чалавека — 3,89 — 5,83 ммоль/л пры аналізе крыві з пальца; норма для крыві з вены да 6,1, вышэй 7,0 — цукровы дыябет).

9 снежня актывісту «Маладога Фронту» Уладзіміру Яроменку паведамілі дату яго змяшчэння пад варту — 11 снежня ён павінен з'явіцца ў Першамайскім РАУС з рэчамі, адтуль яго даставяць у СІЗА Мінгарвыканкама на Валадарскага. 20 жніўня актывіст быў асуджаны на 3 месяцы арышту за парушэнне правіл прэвентыўнага нагляду, 12 лістапада Мінскі гарадскі суд пакінуў прысуд у сіле. Уладзімір Яроменак — фігурант крымінальнай справы аб масавых беспарадках у Мінску 19 снежня 2010 года. Ён быў асуджаны на 3 гады зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму, але ў жніўні 2011 года вызвалены на падставе ўказа прэзідэнта аб памілаванні. Над ім быў устаноўлены прэвентыўны нагляд. Дзеянні ўлад у дачыненні да У.Яроменкі праваабаронцы расцэньваюць як палітычна матываваны пераслед. 17 студзеня жонцы Уладзіміра Яроменкі Валянціне паведамілі ў Дэпартаменце выканання пакаранняў МУС, што мужа перавядуць для адбыцця пакарання ў арыштны дом у Баранавічах. Жонка У. Яроменкі паведаміла, што да зняволенага не пускаюць адваката, аргументуючы тым, што ён нібыта не напісаў адпаведную заяву.

10 снежня мэр Парыжа Бертран Дэланоэ перадаў сімвалічную ўзнагароду — тытул Ганаровага грамадзяніна горада Парыжа — Адаму Бяляцкаму, сыну зняволенага віцэ-прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека і кіраўніка ПЦ «Вясна» Алеся Бяляцкага. Тытул праваабаронцу

быў прысвоены ў кастрычніку 2012 года па прапанове мэра Парыжа, а таксама па ініцыятыве Гарадскога савета 11-й акругі сталіцы Францыі. У цяперашні час у спадара Дэланоэ сканчаецца мандат, і паколькі яго жаданне ўручыць ганаровае грамадзянства асабіста А. Бяляцкаму невыканальнае, ён прыняў рашэнне з нагоды 10 снежня ўручыць гэтую ўзнагароду сыну вязня сумлення. Сп. Бертран Дэланоэ асабіста знаёмы з Алесем Бяляцкім і ўважліва сочыць за ягоным лёсам. 10 снежня Беларускі Пэн-цэнтр і Радыё «Свабода» абвясцілі лаўрэатаў прэміі імя Францішка Аляхновіча — за найлепшы твор, які быў напісаны ў зняволенні. Сярод лаўрэатаў — кніга Алеся Бяляцкага «Асьвечаныя беларушчынай».

10 снежня аўтар кнігі «Еду ў Магадан», палітвязень Ігар Аліневіч стаў уладальнікам першай прэміі імя Францішка Аляхновіча. Гэтая ўзнагарода, заснаваная Беларускім Пэн-цэнтрам і Радыё «Свабода», уручаецца за твор, напісаны ў зняволенні. Узнагароду прыняла маці Ігара — Валянціна Аліневіч. Яна паведаміла, што ёй пішуць людзі з розных краін, якія прачыталі кнігу сына ў інтэрнэце. Паводле яе слоў, тры асобнікі «Еду ў Магадан» ёсць у знакамітай расійскай «Бутырцы», дзе яе чытаюць асуджаныя па справе на Балотнай плошчы ў Маскве.

30 снежня палітвязень Мікалай Дзядок сустрэўся ў жонкай Валерыяй Хоцінай у магілёўскай турме. Гэта было першае і адзінае спатканне, якое магчымае Мікалаю на год. Сустрэча працягвалася дзве гадзіны праз шкло і краты, размаўлялі па тэлефоне. Са слоў В. Хоцінай, Мікалай бледны, бо ўжо год знаходзіцца ў камеры без паветра і сонца, але не змяможаны. Ён пацвердзіў інфармацыю Мікалая Статкевіча (які знаходзіцца ў той жа турме), што зняволеным перасталі выдаваць належны белы хлеб.

## Смяротнае пакаранне

12 снежня Тамара Сялюн, маці асуджанага да смяротнага пакарання Паўла Селюна, атрымала ад кіраўніка Беларускай праваслаўнай царквы мітрапаліта Філарэта адказ на свай зварот. Мітрапаліт падкрэсліў, што БПЦ выступае супраць смяротнага пакарання ў Беларусі: «Беларуская праваслаўная царква прыкладае намаганні, каб смяротныя прысуды ў нашай краіне не выконваліся, што цалкам адпавядае палажэнням, выкладзеным у «Асновах сацыяльнай канцэпцыі Рускай праваслаўнай царквы». Хрысціянскае маральнае выхаванне выхавала ў свядомасці людзей адмоўнае стаўленне да смяротнага пакарання. Адмена смяротнага пакарання дае больш магчымасцяў для пастырскай працы з тым, хто аступіўся, і для яго ўласнага пакаяння». У адказе таксама паведам-

ляецца, што ліст Тамары Сялюн і адказ Мітрапаліта Філарэта накіраваны ў камісію па памілаванні пры Адміністрацыі прэзідэнта. Начальнік галоўнага ўпраўлення Адміністрацыі Дзяніс Колас паведаміў, што дакументы далучаны да матэрыялаў справы і будуць улічаныя пры разглядзе хадатайніцтва аб памілаванні.

17 снежня Праваабарончаму цэнтру «Вясна» стала вядома, што 26 лістапада ў Беларусі быў вынесены яшчэ адзін смяротны прысуд. Асуджаны Мінскім абласным судом да смяротнага пакарання — 53-гадовы Эдуард Лыкаў, які пад следствам знаходзіўся з 2011 года. Пра яго асобу вядома, што ён не меў сталага месца жыхарства, падтрымлівае кантакты з маці, якая жыве ў Баранавічах. Сын жыве ў Расіі, дачка — у Германіі, але з дзецьмі асуджаны стасункаў не мае. Э.Лыкаў — ураджэнец Расіі, грамадзянін Рэспублікі Беларусь. Замоўчванне ўладамі вынясення смяротнага прысуду Э. Лыкаву прадэманстравала, што дзяржава можа хаваць ад грамадскасці факты вынясення смяротных прысудаў і іх выкананне. 20 снежня Следчы камітэт паведаміў «Советской Белоруссии» дэталі па справе Э. Лыкава. Яму інкрымінавана пяць забойстваў, першыя два з якіх ён здзейсніў яшчэ у 2002 годзе — пасля застолля разгарэўся канфлікт, у выніку якога ён забіў свайго былога сукамерніка і яго маці. За гэта злачынства пакаранне ў турме адбываў ні ў чым невінаваты чалаве — 7 гадоў адседзеў брат загінулага і адпаведна сын загінулай. Паводле следства, трэцяе забойства Э.Лыкаў здзейсніў у 2004 годзе — забіў каханка сваёй сужыцельніцы, мяркуемы матыў — рэўнасць. У 2011 годзе, па версіі следства, Лыкаў забіў і саму сужыцельніцу за тое, што яна хацела выгнаць яго з дому. Эдуарда Лыкава затрымалі ў верасні 2011 года. Напярэдадні ў пасёлку Ждановічы пад Мінскам быў забіты 74-гадовы жыхар. Згодна з матэрыяламі справы, паміж забітым і абвінавачаным узнікла сварка, завязалася бойка, падчас якой Эдуард Лыкаў нанёс знаёмаму некалькі ўдараў трубой. Такім чынам, паміж першым забойствам і затрыманнем Эдуарда Лыкава прайшло дзевяць гадоў. Псіхіятрычная экспертыза паказала, што Лыкаў мае павышана агрэсіўны характар, але знаходзіцца пры свядомасці, здольны кантраляваць свае ўчынкі.

20 снежня намеснік старшыні Вярхоўнага суда Валерый Калінковіч падчас прэс-канферэнцыі, адказваючы на пытанне, ці зменіцца ў бліжэйшы час парадак інфармавання журналістаў аб вынясенні і прывядзенні смяротных прысудаў у выкананне, адзначыў, што гэта пытанне будзе разглядацца на пленуме Вярхоўнага суда. «Тут можна падумаць сапраўды над падыходамі да распаўсюду ініцыятыўнай інфармацыі аб дзейнасці судоў. Гэта акурат будзе адным з прадметаў разгляду пленума Вярхоўнага су-

да». В.Калінковіч дадаў, што ў цэлым сёння «носьбітам гэтай інфармацыі з'яўляецца ўсё ж орган, які адказвае за выкананне пакаранняў», г. зн. Міністэрства ўнутраных спраў. Прэс-канферэнцыя адбылася перад пачаткам пленума Вярхоўнага суда «Аб забеспячэнні галоснасці пры ажыццяўленні правасуддзя і распаўсюдзе інфармацыі аб дзейнасці судоў».

24 снежня Гомельскі абласны суд другі раз асудзіў Аляксандра Грунова да смяротнага пакарання за забойства. 25-гадовы Аляксандр Груноў апоўначы 20 верасня 2012 года здзейсніў забойства сваёй знаёмай студэнткі Наталлі Емельянчыкавай. На судзе ён патлумачыў, што за некаторы час да сустрэчы яна абразіла яго ў кампаніі знаёмых людзей і не папрасіла прабачэння. Гэта і стала прычынай агрэсіі. У выніку ён нанёс ахвяры 102 нажавыя раненні. 14 чэрвеня бягучага года рашэннем Гомельскага абласнога суда Аляксандру Грунову была прызначана выключная мера пакарання. У судзе абвінавачаны віну прызнаў цалкам і папрасіў прабачэння ў маці Наталлі Емельянчыкавай. Калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда 18 кастрычніка разгледзела касацыйную скаргу, прысуд адмяніла, справу накіравала на новае судовае разбіральніцтва. У выніку паўторнага разгляду крымінальнай справы зноў было вынесена смяротнае пакаранне. У Аляксандра Грунова засталася магчымасць зноў абскардзіць прысуд у Вярхоўным судзе.

## Выкарыстанне катаванняў і жорсткага абыходжання

4 снежня была праведзена эксгумацыя цела памерлага ў мінскім СІЗА на Валадарскага 21-гадовага зняволенага Ігара Пціčкіна, у якой бралі ўдзел эксперты Дзяржкамітэта судовых экспертыз. На працягу месяца павінны быць вядомыя вынікі паўторнага ўскрыцця. Родныя І. Пцічкіна дамагаліся правядзення эксгумацыі амаль чатыры месяцы пасля пахавання. Ігар Пцічкін мусіў адбыць у СІЗА 3-месячны арышт: сеў за руль аўто, хаця быў пазбаўлены правоў, а 4 жніўня памёр. Начальнік СІЗА спачатку паведаміў, што ў Ігара 3 жніўня пачалося «псіхаматорнае ўзбуджэнне», і яго змясцілі ў медыцынскую частку, «дзе давялося фіксаваць яго мяккімі рамянямі». На фатаздымках трупа Пцічкіна заўважны шматлікія сінякі. У яго смерці вінавацяць работніка медычнай часткі СІЗА №1, які дзяжурыў у ноч смерці. Распачата крымінальная справа за неналежнае выкананне прафесійных абавязкаў медработнікам, што пацягнула за сабой па неасцярожнасці смерць пацыента. Родныя Пцічкіна лічаць, што Ігара білі перад смерцю. 13 снежня стала вядома, што справу па факце смерці І. Пцічкіна расследуе Галоўнае следчае ўпраўленне, да гэтага ёй займалася ўпраўленне Следчага камітэта па Мінску.

10 снежня мінчанка Людміла Кучура, чый муж у ПК-15 горада Магілёва падвяргаўся катаванням хлоркай, атрымала адказ з Следчага камітэта РБ на скаргу, у якой прасіла распачаць крымінальную справу па гэтым факце. Начальнік галоўнага ўпраўлення працэсуальнага кантролю СК РБ Міхаіл Алёшкін паведаміў Людміле Кучуры пра тое, што «падстаў для правядзення праверкі па Вашым звароце ў парадку крымінальна-працэсуальнага заканадаўства органамі Следчага камітэта няма». Прымаючы такое рашэнне, СК не праводзіў ніякай праверкі, нягледзячы на тое, што заяўніца прасіла пра гэта, і спаслаўся на прыкладзенае да скаргі рашэнне пракуратуры Магілёўскай вобласці ад 13.11.2013г., у якім паведамляецца, што «ў сувязі з Вашай скаргай праводзілася праверка ўстаноўленага парадку адбыцця Кучурам П.К. пакарання, а таксама ўмоў яго ўтрымання ў ПК-15. Якіх-небудзь парушэнняў, у тым ліку фактаў, якія пацвярджаюць здзяйсненне службовымі асобамі папраўчай установы ў дачыненні да Кучуры П.К. злачынства, у ходзе праверкі не выяўлена». У дадзеным выпадку назіраецца змяшчэнне акцэнту следчым органам, паколькі ранейшая пракурорская праверка, па сутнасці, не была накіраваная на ўстанаўленне факту атручвання Пятра Кучуры хлорам і наступстваў гэтага атручвання. Акрамя таго, довады заяўніцы пра тое, што ДВП МУС (туды Упраўленне СК па Магілёўскай вобласці «адфутболіла» яе папярэднюю скаргу) не ўпаўнаважаны разглядаць паведамленні пра злачынствы, учыненыя службовымі асобамі органаў унутраных справаў у сувязі з іх службовай дзейнасцю, прадстаўнік СК РБ Міхаіл Алёшкін у сваім адказе праігнараваў.

13 снежня пракурор Светлагорскага раёна Уладзімір Тарасенка накіраваў адказ на скаргу Валянціны Акуліч, маці памерлага ў Светлагорскім ІЧУ Аляксандра Акуліча, у якой указаў, што раённы Следчы камітэт адмовіў ва ўзбуджэнні крымінальнай справы па факце смерці яе сына законна: «праверка праведзена ў поўным аб'ёме, падстаў для адмены прынятага рашэння няма». У наступным абзацы паведамляецца: «25.11.2013 матэрыял праверкі па факце смерці Акуліча А.А. для вывучэння і праверкі законнасці прынятага рашэння накіраваны ў пракуратуру Гомельскай вобласці, дзе ў цяперашні час і знаходзіцца». Гэты адказ Уладзіміра Тарасенкі датаваны 13.12.2013 , а скарга Валянціны Акуліч паступіла ў пракуратуру 12.12.2013. Атрымліваецца, што пракурор адпісаўся на скаргу без азнаямлення з матэрыяламі праверкі. Паўтары гады Валянціна Акуліч дамагаецца крымінальнага пакарання для супрацоўнікаў Светлагорскага РАУС Бачко А.А. і Сцешанкова Р.В., па віне якіх, як яна настойвае, у ІЧУ ў траўні 2012 года памёр яе сын Аляксандр Акуліч. Следчы камітэт неаднаразова адмаўляў Валянціне Акуліч ва ўзбуджэнні крымінальнай

справы па факце смерці яе сына, і яна неаднаразова абскарджвала гэтыя адмовы. Валянціна Акуліч ўпэўненая, што ў смерці яе сына вінаватыя супрацоўнікі РАУС Бачко А.А. і Сцешанкоў Р.В., якія дзяжурылі ў тую ноч па ІЧУ і, замест аказання своечасовай меддапамогі, збівалі затрыманага, які знаходзіўся ў хваравітым стане.

18 снежня экс-кандыдат у прэзідэнты на выбарах 2010 года Алесь Міхалевіч паведаміў, што атрымаў адказ з Генпракуратуры на сваю заяву аб магчымасці азнаямлення з матэрыяламі праверкі па фактах ужывання здзекаў і катаванняў супрацоўнікамі СІЗА КДБ, якая праводзілася па выніках ягонага звароту пасля выхаду са следчага ізалятара ў сакавіку 2011 года. У адказе Генпракуратуры сказана, што матэрыялы праверкі, праведзенай па заяве А. Міхалевіча аб катаваннях, з'яўляюцца дзяржаўнай таямніцай. І таму адвакату не толькі не дадуць з імі азнаёміцца, але нават не выдадуць копію пастановы аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы. «Будучы ў следчым ізалятары, мне ўжо казалі, што наяўнасць людзей у чорным, якія з нас здзекваліся і катавалі, з'яўляецца «таямніцай следства». Цяпер іх павысілі да «таямніцы, якая ахоўваецца законам»», — адзначыў палітык.

## Пераслед праваабаронцаў і праваабарончыя арганізацыі

10 снежня Генеральнай пракуратурай на адрас намесніка старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» Валянціна Стэфановіча быў дасланы адказ на ягоны запыт аб уключэнні сайта Праваабарончага цэнтра «Вясна» www.spring96.org у спіс абмежаванага доступу. Паводле дадзенага адказу, сайт арганізацыі быў унесены ў спіс абмежаванага доступу паводле рашэння Генеральнай пракуратуры ў жніўні 2011 г. у сувязі з тым, што «дзеянні ад імя Праваабарончага цэнтра «Вясна», якая не прайшла ў вызначаным парадку дзяржаўную рэгістрацыю, супярэчыць заканадаўству Рэспублікі Беларусь». Генеральная пракуратура таксама нагадвае, што за арганізацыю дзейнасці або ўдзел у дзейнасці арганізацыі, якія не прайшлі ва ўстаноўленым парадку дзяржаўную рэгістрацыю, арт. 193.1 КК Рэспублікі Беларусь прадугледжана крымінальная адказнасць. У сувязі з тым, што доўгі час на інтэрнэт-рэсурсе www.spring96.org размяшчалася інфармацыя, якая прапагандуе дзеянні, забароненыя заканадаўствам, Генеральнай пракуратурай у жніўні 2011 г. вынесена пастанова аб уключэнні ідэнтыфікатара гэтага інтэрнэт-рэсурса ў спіс абмежаванага доступу, якая накіравана ў РУП «БелДІЭ» для выканання. Адказ Генпракуратуры падпісала начальнік аддзела па нагляду за захаваннем правоў і свабод грамадзян М. Папова. 23 снежня Валянцін Стэфановіч падаў

скаргу ў суд Цэнтральнага раёна г. Мінска, у якой адзначыў, што з'яўляецца і аўтарам, і чытачом матэрыялаў, размешчаных на сайце spring96.org, а пастанову Генпракуратуры аб абмежаванні доступу да інтэрнэтрэсурса лічыць праявай цэнзуры. В. Стэфановіч просіць суд прызнаць пастанову неправамернай і абавязаць праваахоўны орган скасаваць дапушчаныя парушэнні. Праваабаронца адзначыў, што падставы для абмежавання правоў на выказванне свайго меркавання, свабодны пошук і распаўсюд інфармацыі, указаныя ў адказе Генеральнай пракуратуры, не звязаны з дапушчальнымі абмежаваннямі (для павагі і правоў і рэпутацыі іншых асоб; для аховы дзяржаўнай бяспекі, грамадскага парадку, здароўя ці маральнасці насельніцтва), указанымі ў адпаведных артыкулах Канстытуцыі і палажэннях Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах.

14 снежня гомельскаму праваабаронцу Анатолю Паплаўнаму, які працуе слесарам на ЧУП «Віпра», у суботу кіраўніцтва не дазваляла працаваць і патрабавала пакінуць працоўнае месца. На прадпрыемстве 12 снежня з'явілася аб'ява, што працоўны дзень з 31 снежня пераносіцца на 14 снежня, суботу. А. Паплаўны прыйшоў на працу, прыступіў да выканання сваіх абавязкаў, але прыйшоў начальнік інструментальнага цэха і пачаў патрабаваць, каб ён пакінуў працоўнае месца. Маўляў, ён не павінен працаваць, таму што ў яго 27 снежня заканчваецца тэрмін кантракта. Пры гэтым на днях павінен адбыцца суд па грамадзянскаму зыску праваабаронцы да прадпрыемства, і ён упэўнены, што каб не выйшаў на працу 14 снежня, яго б адразу ж звольнілі з працы за прагул. Кіраўніцтва шукае хібы ў працы праваабаронцы, каб потым выйграць зыск у судзе. Анатоль Паплаўны пяць гадоў адпрацаваў слесарам на прадпрыемстве «Віпра», ніякіх спагнанняў не меў за гэты час, аднак атрымаў папярэджанне, што кантракт з ім не будзе працягнуты. Праваабаронца праз суд дамагаецца, каб яго звольнілі, але не па ўзгадненні бакоў, як таго хоча дырэктар, бо ў такім выпадку супрацоўнік не атрымае кампенсацыі. А. Паплаўны за сваю дзейнасць не раз прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці, летам 2011 года падчас маўклівых акцый пратэсту быў вымушаны адбыць у ІЧУ 15-суткавы адміністрацыйны арышт. Заўсёды бярэ актыўны ўдзел у назіранні на выбарах.

### Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні

6 снежня ў 21:00 каля Мар'інай Горкі, праз гадзіну пасля ад'езду з Мінска, быў спынены чартарны аўтобус з з 53 беларусамі, якія накіроўваліся

ў Кіеў, каб падтрымаць удзельнікаў Еўрамайдана. У спыненні аўтобуса прымалі ўдзел супрацоўнікі КДБ, транспартнай міліцыі і ДАІ. З дакументамі ва ўсіх (і на аўтобус) было ўсё ў парадку. Усе пасажыры адмовіліся ехаць у РУУС, выйшлі з аўтобуса, а прадстаўнікі сілавых структур з аўтобусам з'ехалі. Паступова ўдзельнікі паездкі цягам двух гадзін, дзякуючы папуткам і машынам з Мінска, раз'ехаліся, частка з іх працягнулі шлях ва Украіну і дабраліся да Кіева.

7 снежня раніцай на чыгуначным вакзале Гомеля быў затрыманы сустаршыня «Маладога Фронту» Андрэй Цянюта, які сустракаў з цягніка сяброў з Мінску, што ехалі на канцэрт «Ляпіса Трубяцкога» ў Кіеў. Да актывіста і яго сяброў падышлі міліцыянеры. У жыхароў Мінска яны праверылі дакументы, перапісалі пашпартныя дадзеныя і адпусцілі, а Андрэя Цянюту пратрымалі каля гадзіны ў аддзеле міліцыі на чыгуначным вакзале, высвятляючы, што ён робіць на вакзале, і хто гэтыя людзі, якіх ён сустракаў. Пратакола не складалі.

9 снежня сустаршыня «Маладога Фронту» і ўдзельнік кампаніі «Хопіць піць — трэба жыць» Андрэй Цянюта атрымаў штраф у памеры 25 базавых велічынь за расклейванне антыалкагольных дэматыватараў у грамадскіх месцах. Рашэнне вынесла адміністрацыйная камісія Савецкага раёна г. Гомеля згодна з артыкулам 21.14 КаАП РБ (парушэнне правіл добраўпарадкавання і ўтрымання населеных пунктаў). Складанне пратакола адміністрацыйнага правапарушэння адбылося 21 лістапада — у той вечар разам з Андрэем Цянютам быў затрыманы Станіслаў Булла. Разгляд справы С. Буллы быў адкладзены з-за адсутнасці ў яго пры сабе пашпарта.

9 снежня позна ўвечары да актывіста Руху салідарнасці «Разам» Іллі Дабратвора прыйшлі супрацоўнікі міліцыі РУУС Цэнтральнага раёна Мінска. Яны папярэдзілі актывіста пра неабходнасць з'явіцца 10 снежня ў аддзяленне для складання пратакола адміністрацыйнага правапарушэння за пікетаванне ўкраінскай амбасады 30 лістапада. 10 снежня Ілля Дабратвор пасля складання пратакола быў затрыманы і адпраўлены ў Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў да суда. 11 снежня суддзя суда Цэнтральнага раёна Мінска Вікторыя Шабуня адправіла пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні па арт 23.34 КаАП РБ на дапрацоўку ў РУУС Цэнтральнага раёна, а Дабратвора адпусцілі дадому. Падчас разгляду справы выявілася несупадзенне паказанняў з пратаколам: Дабратвор трымаў у руках украінскі сцяг, а ў пратаколе быў пазначаны сцяг Еўрасаюза. 12 снежня суддзя пакарала актывіста штрафам у памеры 8 базавых велічынь.

10 снежня суд Навабеліцкага раёна Гомеля прызнаў вінаватым мясцовага грамадскага актывіста Уладзіміра Шыцікава ў арганізацыі несанкцыянаванага шэсця на «Дзяды». 3 лістапада група актывістаў усклала вянок да крыжа на месцы расстрэлаў ахвяр сталінскіх рэпрэсій. Шэсце з бел-чырвона-белым сцягам адбылося на ўскраіне горада і доўжылася ўсяго каля дзвюх хвілін. За гэта суддзя Таццяна Шаўчэнка аштрафавала Шыцікава на 20 базавых велічынь. Асаблівасць справы Уладзіміра Шыцікава ў тым, што ён нават не ведаў, што ў дачыненні да яго быў складзены адміністрацыйны пратакол. Яго не выклікалі ў міліцыю, а копію пратакола актывіст атрымаў па пошце.

15 снежня актывіст БХД Алесь Чаркашын каля ганка Брэсцкага аблвыканкама зладзіў перформанс: апрануўшыся як прарок, запэцкаўшы рукі чырвонай фарбай, заклікаў улады пакаяцца за свае грахі перад народам. Ён быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі Ленінскага РУУС Брэста праз 10 хвілін пасля заканчэння перформансу. Яго даставілі ў РУУС, дзе склалі пратакол за арганізацыю несанкцыянаванага пікета, але з міліцэйскага пастарунка Чаркашына забралі санітары Брэсцкага абласнога псіханеўралагічнага дыспансэра, каб правесці псіхіятрычную экспертызу. Меркавалася, што працэдура можа заняць да трох дзён, аднак той жа ноччу Чаркашына вярнулі ў міліцэйскі пастарунак. 17 снежня суд Ленінскага раёна Брэста не стаў разглядаць справу аб адміністрацыйным правапарушэнні ў дачыненні да А. Чаркашына ў сувязі з недакладнасцямі ў пратаколе.

19 снежня ўвечары актывіст «Еўрапейскай Беларусі» Максім Вінярскі быў затрыманы разам з актывісткай Наталляй Гарачка на плошчы Незалежнасці ў Мінску, калі дзяўчына ставіла знічку пад Чырвоным касцёлам з нагоды трэцяй гадавіны падзеяў Плошчы-2010, а Максім рабіў фотаздымкі. Затрыманых даставілі ў РАУС Маскоўскага раёна. Праз некаторы час Наталлю адпусцілі, а Максіма Вінярскага перавялі ў Цэнтральны РАУС, дзе на яго быў складзены пратакол за несанкцыянаваны пікет пад украінскай амбасадай 30 лістапада. 20 снежня суддзя Цэнтральнага раёна Мінска Вікторыя Шабуня пакарала Максіма Вінярскага арыштам на 15 сутак. Суд прызнаў яго вінаватым у парушэнні арт. 23.34 КаАП РБ (парушэнне парадку правядзення альбо арганізацыі масавага мерапрыемства). Актывіст папрасіў суд адтэрмінаваць выкананне пакарання на месяц у сувязі з хваробай яго маці, але гэтая просьба была адхілена. На знак пратэсту супраць рашэння суддзі Максім Вінярскі абвесціў галадоўку.

20 снежня на праспекце Незалежнасці Мінска супрацоўнікі Цэнтральнага РУУС без усялякіх тлумачэнняў і складання адпаведных да-

кументаў забралі аўтамабіль BMW ва ўдзельніка акцыі «Стоп-падатак» Дзмітрыя Прыгарава. Ён рухаўся па праспекце з боку плошчы Перамогі ў накірунку Дома ўрада, калі ў раёне Палаца Рэспублікі быў спынены патрулём ДАІ. Д. Прыгарава адразу аштрафавалі за тое, што ён сігналіў, пры гэтым, як вызначылі ў суцэльным гуле менавіта ягоны сігнал, не растлумачылі. Супрацоўнікі міліцыі, якія знаходзіліся з ім у машыне ДАІ, не прадставіліся, не паказалі ніякіх дакументаў. Пасля таго, як штраф быў афармлены, Д. Прыгарава папрасілі адкрыць капот аўтамабіля і паведамілі, што машына адпраўляецца на стаянку Цэнтральнага РУУС. У міліцыі аўтамабіль апячаталі, а ўладальніку не далі ні копію пратакола аб затрыманні, ні копію агляду аўтамабіля. Сказалі толькі прыйсці 23 снежня. У гэты дзень супрацоўнік Цэнтральнага РУУС паведаміў Прыгараву, што яго аўтамабіль застанецца там на месяц, дадаўшы: раней трэба было думаць, сядзеў бы дома — не было б праблем. 24 снежня Д. Прыгараў накіраваў скаргу на дзеянні супрацоўнікаў міліцыі начальніку ўпраўлення ўнутраных спраў адміністрацыі Цэнтральнага раёна горада Мінска.

20 снежня ў Бярозе ў 17 гадзін каля крамы Еўраапт супрацоўнікамі міліцыя ў цывільным падчас раздачы ўлётак з заклікам падтрымаць акцыю «Стоп-падатак» затрымалі кіраўніка раённай суполкі Аб'яднанай грамадзянскай партыі Аляксандра Кабанава разам з братам Яўгенам. На Аляксандра Кабанава і яго брата былі складзены пратаколы і канфіскаваны ўлёткі. Праз паўтары гадзіны яны былі адпушчаны.

23 снежня ў судзе Цэнтральнага раёна Мінска адбыўся разгляд адміністрацыйных спраў Аляксандра Францкевіча, Анастасіі Кухта і Анастасіі Шатэрнік, затрыманых падчас акцыі «Стоп-падатак» 20 снежня. Затрыманне адбылося каля плошчы Перамогі з боку Дома-музея РСДРП каля 18.30. Да Аляксандра Францкевіча падышлі невядомыя асобы ў цывільным без апазнавальных бэйджаў, калі пабачылі, што актывіст здымае на тэлефон супрацоўнікаў міліцыі. За А.Францкевіча спрабавалі заступіцца Анастасія Кухта і Анастасія Шатэрнік, у выніку чаго ўсе трое былі затрыманы. У РУУС Цэнтральнага раёна на іх былі складзены пратаколы адміністрацыйнага правапарушэння па арт. 23.4 КаАП РБ (непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі). З пятніцы да панядзелка затрыманыя чакалі суда ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў ГУУС Мінгарвыканкама. Суддзя Аляксандр Якунчыхін вынес рашэнне аштрафаваць Анастасію Кухта на 5 базавых велічынь, Анастасія Шатэрнік аштрафавана на 10 базавых велічынь. Аляксандр Францкевіч, згодна з рашэннем суддзі Вікторыі Шабуні, арыштаваны на 12 сутак.

У гэты ж дзень у судзе Ленінскага раёна Мінска адбыўся разгляд адміністрацыйных спраў затрыманых падчас акцыі «Стоп-падатак» аўтааматараў Канстанціна Глушко і Андрэя Самохіна і абвінавачаных у непадпарадкаванні патрабаванням супрацоўнікам міліцыі (арт. 23.4. КаАП РБ). Яны былі затрыманыя 20 снежня, у пятніцу, і выходныя да суда правялі ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў. Суддзя Андрэй Камушкін вынес пастанову аб пакаранні Канстанціна Глушко адміністрацыйным арыштам на 5 сутак. У дачыненні да Андрэя Самохіна, які з'яўляўся пасажырам у аўтамабілі К.Грушко, адміністрацыйная вытворчасць спыненая.

23 снежня суд Слуцкага раёна ў асобе суддзі Святланы Пастуховай прыняў рашэнне аб пакаранні мясцовай актывісткі Зінаіды Цімошак штрафам у памеры 20 базавых велічынь паводле арт. 23.34 КаАП (арганізацыя альбо ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве). Несанкцыянаваным масавым мерапрыемствам была прызнана спроба правесці кінапрагляд дакументальнай стужкі «40 дзён сялянскай рэспублікі», прысвечанай Слуцкаму збройнаму чыну, у Доме культуры вёскі Казловічы 23 лістапада. Прагляд быў прымеркаваны да чарговых угодкаў Слуцкага збройнага чыну, аднак мясцовыя міліцыянты сарвалі мерапрыемства: затрымалі і правялі допыты ўдзельнікаў імпрэзы, а на арганізатарку Зінаіду Цімошак склалі адміністрацыйны пратакол. На знак пратэсту загадчык Дома культуры вёскі Казловічы Аляксандар Туміловіч пакінуў сваю пасаду.

23 снежня суд Маскоўскага раёна Мінска прыняў рашэнне аб арышце грамадскага актывіста Аляксандра Макаева на пяць сутак паводле арт. 23.34 КаАП (парушэнне парадку арганізацыі ці правядзення масавых мерапрыемстваў). А. Макаеў быў затрыманы 24 лістапада ў вёсцы Грозаў Капыльскага раёна падчас мерапрыемстваў з нагоды гадавіны Слуцкага збройнага чыну за тое, што ўзняў бел-чырвона-белы сцяг.

26 снежня 23-гадовы актывіст АГП і ўдзельнік групы «Стоп-падатак» у сацыяльнай сетцы «УКантакце» Антон Касцоў быў асуджаны Кастрычніцкім судом Магілёва на 3 сутак адміністрацыйнага арышту. 24 снежня на Антона Касцова быў складзены пратакол аб парушэнні ім часткі 1 артыкула 23.34 КаАП (парушэнне парадку арганізацыі і правядзення масавых мерапрыемстваў). У яго быў канфіскаваны ноўтбук. 26 снежня Антон Касцоў павінен быў прыйсці ў Кастрычніцкі РАУС Магілёва, дзе, паводле яго слоў, супрацоўнікі міліцыі мелі намер вывучыць яго перапіску ў сетцы. Яшчэ 24 снежня яны запатрабавалі ад актывіста выдалення з сацыяль-

най сеткі групы «Стоп-страх», з якой арганізавалася група «Стоп-падатак». Антон Касцоў змог выдаліць з яе толькі свае запісы, паколькі, паводле яго сцвярджэння, з'яўляўся толькі яе ўдзельнікам, а не стваральнікам. У той жа дзень група была выдалена яе стваральнікам з іншага горада. У групе «Стоп-падатак» абмяркоўвалася магчымасць правядзення 27 снежня другой акцыі пратэсту аўтамабілістаў супраць увядзення падатку на допуск аўтамабіляў да руху.

26 снежня ў Мінску быў затрыманы актывіст нацыянал-бальшавіцкай партыі Дзмітрый Паліенка. Затрыманне адбылося каля 16.00 на прахадной завода МАЗ, дзе ён працуе. Актывіста даставілі ў РУУС Заводскага раёна і склалі пратакол па артыкуле 17.1 КаАП за «дробнае хуліганства». 27 снежня суддзя суда Заводскага раёна Анастасія Осіпчык пакарала Д. Паліенку 15 суткамі адміністрацыйнага арышту, пры гэтым адмовіла ў хадайніцтве аб запатрабаванні і праглядзе відэа з прахадной завода, якое магло засведчыць, што ён не рабіў ніякіх супрацьпраўных дзеянняў. Дзмітрый Паліенка расцэньвае незаконныя дзеянні праваахоўнікаў як прэвентыўны пераслед, звязаны з прызначанай на 27 снежня акцыяй «Стоп-падатак», адміністратарам суполкі якой ён з'яўляецца ў сацыяльнай сетцы «УКантакце».

27 снежня падчас акцыі «Стоп-падатак-2» у Гродна быў затрыманы актывіст Маладых хрысціянскіх дэмакратаў Мікола Верамеенка. Яго спачатку спынілі і абвінавацілі ў тым, што «ён праехаў у адным і тым жа месцы тры разы». Пасля таго, як актывіст запытаўся, на якой падставе яго затрымліюць, адказалі, што машына знаходзіцца ў вышуку і трэба пад'ехаць у Гродзенскую ДАІ. Затрымліваў машыну інспектар Грыцкевіч, складаў пратакол інспектар Дзядзюшка. Мікалая Верамеенку пратрымалі тры гадзіны. Перад вызваленнем ён запатрабаваў, каб у пратаколе быў зроблены запіс, што яго аўтамабіль не ўдзельнічаў ні ў якім ДТЗ і не знаходзіцца ў вышуку.

30 снежня ў Гродна суддзя суда Кастрычніцкага раёна Зінаіда Барцэвіч пакарала штрафам у 22 базавыя велічыні Аляксандра Іванова за размяшчэнне інфармацыі ў інтэрнэце аб акцыі «Стоп-падатак». 26 снежня Аляксандар Іваноў на «Гродненском форуме» напісаў, што 27 снежня на Савецкай плошчы а 18-й гадзіне збіраюцца аўтамабілісты, неабыякавыя да ўвядзення новага падатку на аўтамашыны. У выніку Іванову патэлефанавалі з міліцыі і паведамілі, што на яго складзены пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні — яго абвінавацілі ў арганізацыі несанкцыянаванага мерапрыемства.

31 снежня стала вядома з рапарта маёра Зайцава, які быў накіраваны на імя першага намесніка начальніка УУС Магілёўскага аблвыканкама палкоўніка міліцыі Кавальчука, што міліцыя расшуквае аднаго з арганізатараў акцыі «Стоп-падатак» у Магілёве Аляксандра Сімановіча. Копія рапарта патрапіла да магілёўскіх праваабаронцаў. З яе вынікае, што, паводле міліцыі, акрамя актывіста АГП Антона Касцова (асуджаны на 3 сутак за парушэнне парадку арганізацыі і правядзення масавых мерапрыемстваў) каардынатарам групы «Стоп-падатак» выступае магілёвец Аляксандр Сімановіч. Менавіта ён стварыў у сацыяльнай сетцы «Вконтакте» групу «Стоп-страх» для каардынацыі дзеянняў удзельнікаў несанкцыяванага мерапрыемства «Стоп-падатак».

## Абмежаванні свабоды слова і права на распаўсюд інфармацыі, пераслед журналістаў

3 снежня гродзенскі журналіст Алесь Дзянісаў быў афіцыйна папярэджаны абласной Гродзенскай пракуратурай за працу на сродак масавай інфармацыі, які не мае афіцыйнай акрэдытацыі. Алесь Дзянісаў быў выкліканы ў пракуратуру Гродзенскай вобласці з нагоды таго, што ён рабіў відэаздымкі ў Свіслачы і Якушоўцы 27 кастрычніка падчас адзначэння грамадскасцю традыцыйнага Дня памяці паўстанцаў 1863 года. У 2012 годзе А. Дзянісаў папярэджваўся пракуратурай таксама за тое, што быў з відэакамерай на Свіслацкім фэсце.

4 снежня Гродзенская абласная пракуратура вынесла афіцыйнае папярэджанне сябру ГА «БАЖ» Алесю Кіркевічу. Намеснік начальніка аддзела пракуратуры Гродзенскай вобласці Валерый Павядайка паведаміў яму, што той парушыў ч. 2 арт. 22.9 КаАП, а менавіта: «незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ». Алесь Кіркевіч адмовіўся даваць тлумачэнні на гэты конт, а таксама падпісваць любыя паперы.

4 снежня судовая калегія па грамадзянскіх справах Магілёўскага абласнога суда разгледзела касацыйную скаргу выдаўца газеты «Вольны горад» Уладзіміра Кудраўцава на рашэнне суда Крычаўскага раёна ад 22 кастрычніка 2013 года па пазову КУП «Чэрыкаўскае ПМК-280» аб абароне дзелавой рэпутацыі. Судовая калегія ў выніку разгляду скаргі прыняла рашэнне адмяніць цалкам рашэнне суда Крычаўскага раёна (суддзі Антаніны Качанавай) з прычыны непадсуднасці і спыніць вытворчасць па справе. Спрэчкі паміж юрыдычнай асобай і фізічнай асобай, якія звязаны з абаронай дзелавой рэпутацыі ў сферы прадпрымальніцкай і іншай гаспадарчай (эканамічнай) дзейнасці мусіць разглядаць толькі гаспадарчы суд.

8 снежня праца сайтаў украінскай, беларускай і іншых службаў Радыё «Свабода» прыкладна з 12 да 18 гадзін была паралізавана праз DDoS-атаку. Атака не спыніла доступу да старонак РС/РСЭ, аднак запаволіла працу служб радыё і абнаўленне сайтаў. Вечарам гэтага ж дня праца сайтаў была адноўлена ў нармальным рэжыме.

9 снежня ў Вярхоўным судзе Беларусі адбылася другая сустрэча па зыску прыватнай кампаніі «Белсат плюс» да акцыянернага таварыства «Польскае тэлебачанне» (SA «TVP») — заснавальніка тэлеканала «Белсат ТВ». На слуханні прыйшлі зыскоўца — дырэктар «Белсат плюс» Андрэй Белякоў, з боку адказчыка — адвакат мінскай калегіі адвакатаў Ігар Дзячкоў і прадстаўнік «Белсат» у Беларусі Міхась Янчук. Сп. Дзячкоў папрасіў час для азнаямлення з матэрыяламі справы. Ён патлумачыў, што атрымаў даверанасць на прадстаўленне інтарэсаў адказчыка толькі 6 снежня, а пасля перакладу і натарыяльнага завярэння на рукі адвакат атрымаў дакументы толькі раніцай гэтага ж дня. Суддзі задаволілі хадайніцтва, прызначыўшы наступную сустрэчу на 20 студзеня.

16 снежня сталі вядомы вынікі праверкі, праведзенай Следчым камітэтам Беларусі па факце затрымання журналістаў на чыгуначным вакзале ў Мінску 19 кастрычніка. У ходзе праверкі следчыя апыталі супрацоўнікаў органаў унутраных спраў, якія непасрэдна затрымлівалі прадстаўнікоў СМІ. У прыватнасці, міліцыянер роты аховы грамадскай бяспекі АМАП ГУУС Мінгарвыканкама Сільвановіч П.М. паведаміў, што атрымаў загад ад кіраўніцтва затрымліваць падазроных асоб падчас прыезду ў Мінск апазіцыйнага палітыка Паўла Севярынца. Разам са сваім напарнікам Набароўскім А.В яны прыбылі на чыгуначную платформу, да якой мусіў прыбыць цягнік Брэст-Масква. Паводле Сільвановіча, на платформе невялікімі групкамі знаходзіліся журналісты, якіх міліцыянты ідэнтыфікавалі па наяўнасці відэаапаратуры. Пасля гэтага, паводле матэрыялаў праверкі, супрацоўнікі міліцыі падыходзілі да ідэнтыфікаваных імі журналістаў і затрымлівалі іх, «каб не дапусціць масавых беспарадкаў». У выніку праверкі Следчы камітэт Беларусі прыйшоў да высновы, што ў дзеяннях супрацоўнікаў міліцыі не знойдзена фактаў перашкоды законнай прафесійнай дзейнасці журналістаў. 19 кастрычніка на платформе мінскага чыгуначнага вакзала міліцыя затрымала 10 журналістаў.

17 снежня салігорскім праваабаронцам з БХК паступіла інфармацыя пра «добраахвотна-прымусовую» падпіску на дзяржаўную прэсу з прадпрыемстваў і арганізацый горада — структурных падраздзяленняў ААТ «Беларуськалій», адкуацыйных устаноў рэгіёна, сістэмы ААТ «Будтрэст

№3», ААТ «Салігорскі ДСК» і іншых. Спіс выданняў, на якія распаўсюджваецца «добраахвотна-прымусовая» падпіска, застаецца амаль нязменным і ў значнай ступені залежыць ад ведамаснай падначаленнасці арганізацыі. Так, у школах, акрамя класічных варыянтаў кшталту «СБ-Беларусь Сегодня» і мясцовай раёнкі «Шахцёр», выкладчыцкаму складу настойліва «раіцца» аформіць падпіску на «Настаўніцкую газету», а навучэнцам — на «Юного спасателя». У «Будтрэсце №3» да агульнанацыянальных дзяржаўных газет у «добраахвотна-прымусовы» спіс традыцыйна трапляе ўнутрыарганізацыйная газета «Будаўнік Салігорска».

17 снежня ў Гродзенскую абласную пракуратуру быў выкліканы сябра «Беларускай асацыяцыі журналістаў» Андрэй Мялешка. Гутарку з журналістам вёў намеснік начальніка аддзела пракуратуры Гродзенскай вобласці Валеры Павядайка. Размова датычыла рэпартажу на сайце Беларускага Радыё «Рацыя» пад псеўданімам Ігар Мікалаеў, прысвечанага Дню памяці паўстанцаў 1863 года ў Свіслачы і Якушоўцы, што прайшоў 27 кастрычніка. У выніку размовы Андрэй Мялешка, хаця яго аўтарства матэрыялу нічым не ўстаноўлена, быў афіцыйна папярэджаны за працу без акрэдытацыі. Гэта ўжо трэцяе папярэджанне пракуратуры ў снежні гродзенскім журналістам за асвятленне грамадска-культурніцкай акцыі ў Свіслачы. Характэрна, што прадстаўнікі пракуратуры выносяць папярэджанні, але ніякіх дакументаў на рукі не даюць.

18 снежня стала вядома, што прадпрыемства «Партнёр-Слонім» (ТАА), якому належыць арандаванае рэдакцыяй «Газеты Слонімскай» памяшканне, прымушае выданне вызваліць яго да 1 студзеня 2014 года. У якасці прычыны называецца забарона пажарных службаў эксплуатаваць другі паверх будынка. Рэдакцыя месціцца там з 2008 года. Разам з газетай пакоі на другім паверсе арандуюць яшчэ некалькі прыватных прадпрыемстваў, у тым ліку і сама адміністрацыя «Партнёр-Слонім». Акрамя апошняй, усіх высяляюць. Тым не менш, галоўны рэдактар выдання Віктар Валадашчук сумняецца ў самастойнасці прынятага арэндадаўцамі рашэння і ўпэўнены, што дзеянні скіраваныя менавіта супраць «Газеты Слонімскай».

26 снежня супрацоўнікі Палескага дзяржаўнага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка паведамілі, што іх прымушаюць падпісацца на афіцыйную прэсу. У кожнае падраздзяленне запаведніка прыносяць «распараджэнне», падпісанае ідэолагам і заверанае дырэктарам. Кіраўнікі падраздзяленняў нясуць адказнасць за падпіску і павінны дакладной запіскай адсправаздачыцца аб праведзенай працы ідэолагу. Тым, хто не

выпіша афіцыйную прэсу, могуць не працягнуць кантракт па яго сканчэнні. Людзі запалоханы перспектывай застацца без працы, абураюцца, але падпісваюцца.

## Абмежаванне свабоды сходаў

Пяць пікетаў, запланаваных з 3 па 7 снежня ў Слоніме, былі забаронены. Заяўляльнікам масавых мерыпрыемстваў у падтрымку «Газеты Слонімскай» выступіў грамадскі актывіст Алесь Масюк. Ён дамагаецца магчымасці публічна выказацца за права жыхароў Слонімскага раёна свабодна афармляць падпіску на рэгіянальную «Газету Слонімскую» у РУП «Белпошта» і вольна яе набываць у шапіках «Белсаюздруку». На гэты раз слонімскія чыноўнікі сцвярджаюць, што заяўляльнік недакладна вызначыў месца правядзення пікетаў.

3 снежня Брэсцкі абласны суд не задаволіў касацыйную скаргу праваабаронцаў з Бярозы, якія прасілі прызнаць незаконннай забарону пікета 4 жніўня і адмяніць рашэнне суда Бярозаўскага раёна, які прызнаў рашэнне райвыканкама правамоцным. Прычынай для адмовы стала адсутнасць дамоў з міліцыяй і бальніцай. Як раённы суд, так і абласны не звярнулі ўвагі на довады праваабаронцаў аб немагчымасці заключэння такіх дамоў. Міліцыя спаслалася на Пастанову Саўміна №207 ад 2012 года, у п.5 якой сказана, што пасля падачы заявы цягам сутак райвыканкам павінен даслаць копію заявы ў міліцыю для ўзгаднення (чаго райвыканкам не зрабіў). Бальніца не заключыла дамову, бо гэта не прадугледжана ў дакументах Міністэрства аховы здароўя і няма нават прэйскуранта на падобныя паслугі.

3 снежня быхаўскі актывіст Сяргей Антонаў атрымаў адказ з мясцовага райвыканкама на свой зварот з просьбай вызначыць месца для правядзення пікетаў на тэрыторыі Быхава. У адказе, падпісаным намеснікам старшыні райвыканкама Н. Шунькінай, паведамляецца, што «ваш ліст ад 21.11.2013 г. не разгледжаны ў сувязі з тым, што афармленне звароту не адпавядае патрабаванням артыкула 12 Закона Рэспублікі Беларусь ад 18 ліпеня 2011 г. «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб». Таксама звяртаем Вашу ўвагу на тое, што раённая арганізацыя Партыі БНФ «Адраджэнне», кіраўніком якой Вы прадставіліся, на тэрыторыі Быхаўскага раёна не зарэгістравана». Сяргей Антонаў палічыў, што чыноўнікі з Быхаўскага райвыканкама знайшлі чыста фармальную падставу, каб не даць яму канкрэтнага адказу, адзначаючы, што зварот быў афармлены ў адпаведнасці с законам. Каб усё ж дамагчыся канкрэтнага адказу, 4 снежня ён падаў у

аддзел па зваротах грамадзян Быхаўскага райвыканкама чарговы зварот, аднак падпісаў яго ўжо як прыватная асоба. 14 снежня Сяргей Антонаў атрымаў адказ з Быхаўскага райвыканкама. За подпісам намесніка старшыні райвыканкама Н. Шунькінай у ім паведамлялася, што «зараз распрацаваны і праходзіць узгадненне праект рашэння Быхаўскага раённага выканаўчага камітэта «Аб масавых мерапрыемствах», які вызначае месца і парадак правядзення ў Быхаўскім раёне сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый, пікетавання і іншых масавых мерапрыемстваў, арганізатарам якіх выступаюць палітычныя партыі, грамадскія аб'яднанні, прафсаюзныя арганізацыі і грамадзяне. Пра ўступленне ў сілу рашэння выканаўчага камітэта вам будзе паведамлена дадаткова». Сяргей Антонаў адзначае, што з адказу вынікае, што ў Быхаўскім раёне наогул не былі вызначаны месцы для масавых мерапрыемстваў і парадак іх правядзення.

4 снежня ў судзе Ленінскага раёна Гродна прайшоў разгляд скаргі праваабаронцаў Віктара Сазонава, Уладзіміра Хільмановіча і Рамана Юргеля на рашэнне гарвыканкама, якім не было дазволена правядзенне інфармацыйнага пікета 10 кастрычніка ў Сусветны дзень супраць смяротнага пакарання. Грамадзянскую справу па скарзе разглядала суддзя Вольга Шуманская ў прысутнасці пракурора Сеўрынай. Бок адказчыка прадстаўляў галоўны спецыяліст юрыдычнага аддзела гарвыканкама Сяргей Табулевіч. Гродзенскі гарвыканкам заявіў у сваёй афіцыйнай адмове, што заяўнікі былі абавязаны паведаміць пісьмова, ці будзе масавае мерапрыемства праводзіцца з выкарыстаннем піратэхнічных вырабаў і адкрытага агню. Чыноўнікі таксама палічылі, што заяўнікі не змогуць «в должной мере соблюсти необходимые требования действующего законодательства Республики Беларусь по обеспечению безопасных условий проведения заявленного массового мероприятия и наведения порядка по его окончании». На судовым працэсе стала зразумела, на чым грунтавалася такая выснова. Паводле запытаў у розныя службы (аддзел унутраных спраў Ленінскага раёна, Гродзенскую гарадскую станцыю хуткай медычнай дапамогі, Гродзенскую гарадскую жыллёва-камунальную службу) гарвыканкам вылічыў, што за абслугоўванне масавага мерапрыемства заяўнікі мусілі заплаціць ажно 23 мільёны 324 тысячы 200 беларускіх рублёў. Аднак, пра гэтыя разлікі і абсурдную суму паслуг праваабаронцам да суда нічога не паведамілі. На судовым працэсе таксама прагучала, што для аховы парадку падчас пікета міліцыі Ленінскага раёна патрэбна задзейнічаць ажно 31 ахоўніка правапарадку, прычым на 5 гадзін. Хоць час заяўленага пікета складаў усяго 2 гадзіны, а патэнцыйная колькасць удзельнікаў паводле заявы складала да 10 чалавек. Суддзя прадказальна ўзяла бок выканаўчай улады і не задаволіла скаргу праваабаронцаў.

4 снежня грамадскі актывіст Вячаслаў Болбат атрымаў ліст за подпісам намесніка старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Д. Касцюкевіча, у якім паведамлялася, што гарвыканкам не дае згоды на правядзенне пікета 10 снежня. Чыноўнік палічыў, што заяўнік парушыў п. 4 рашэння гарвыканкама ад 16.06.2009г. № 1497 «Аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў у горадзе Баранавічы», але ў лісце традыцыйна не паведамлялася, што канкрэтна парушыў Вячаслаў Болбат. Заяўляльнік адзначаў у звароце ў выканкам, што паколькі ў пікеце плануецца ўдзел усяго 5 чалавек, то абавязкі па забяспячэнні грамадскага парадку падчас мерапрыемства, прыборкі тэрыторыі пасля пікета ён бярэ на сябе. Таксама ён адзначаў, што будзе мець медычную аптэчку для аказання першай медыцынскай дапамогі. Гарвыканкам палічыў такі падыход да справы парушэннем свайго рашэння, датычнага арганізацыі масавых мерапрыемстваў, згодна з якім патрабуецца заключэнне абавязковых дамоў з жыллёва-камунальнай гаспадаркай, паліклінікай і міліцыяй.

4 снежня грамадскі актывіст Мікалай Уласевіч атрымаў адмову ў правядзенні пікета 7 снежня каля камбіната бытавога абслугоўвання раённага цэнтра Астравец. Мэтай пікета пад назвай «Карупцыянераў да адказнасці» было прыцягненне ўвагі жыхароў, а таксама праваахоўных органаў да службовых злоўжыванняў і карупцыйных праяў сярод высокапастаўленых асоб раёна. Адмова была падпісана першым намеснікам старшыні Астравецкага райвыканкама Андрэем Янчэўскім. Чыноўнік лічыць, што Уласевіч парушыў патрабаванне артыкула 5 «Закона аб масавых мерапрыемствах» у частцы прыняцця мер па забеспячэнні грамадскага парадку і бяспекі пры правядзенні масавага мерапрыемства, мер, звязаных з медыцынскім абслугоўваннем, а таксама крыніцамі фінансавання масавага мерапрыемства.

5 снежня галоўны ідэолаг Салігорскага райвыканкама Мікалай Маскевіч забараніў мясцовым грамадскім актывістам правядзенне пікета, прымеркаванага да Міжнароднароднага дня правоў чалавека. Паводле чыноўніка, змест заявы на правядзенне масавага мерапрыемства 10 снежня на Цэнтральнай плошчы горада не адпавядае патрабаванням артыкула 5 Закона «Аб масавых мерапрыемствах». Якія менавіта часткі згаданага артыкула нібыта парушаныя арганізатарамі пікета, галоўны ідэолаг Салігоршчыны не растлумачыў. Арганізатары пікета ў сваёй заяўцы прасілі ад уладаў, у выпадку нейкіх перашкодаў для правядзення дадзенага масавага мерапрыемства, прапанаваць ім альтэрнатыўныя варыянты згодна з заканадаўствам Беларусі. Гэтую просьбу чыноўнікі наўпрост праігнаравалі.

6 снежня бярозаўскія праваабаронцы атрымалі адказ з райвыканкама на сваю просьбу растлумачыць, якім чынам магчыма заключыць дамовы з бальніцай, ЖКГ і міліцыяй пры жаданні правесці масавае мерапрыемства, калі дадзеныя ўстановы адмаўляюцца. Так, бальніца на зварот аб заключэнні дамовы на абслугоўванне пікета адказвала, што яна не мае нават прэйскуранта на падобныя паслугі. Цяпер, як паведаміў намеснік старшыні райвыканкама Яўген Тарасюк, подпіс якога стаіць пад адказам з выканкама, ужо распрацаваны прэйскурант для бальніцы, праўда, кошт паслуг не паведамляецца. ЖКГ будзе заключаць дамовы, нягледзячы на тое, у чыёй уласнасці знаходзіцца тэрыторыя. Неабходнасць такога ўдакладнення паўстала з папярэдняга адказу праваабаронцам, калі камунальшчыкі ў адмове на заключэнне дамовы на пікеты 10 кастрычніка і 10 лістапада напісалі, што заяўнікам трэба заключаць дамову з райвыканкамам, паколькі стадыён, дзе планавалася правядзенне пікетаў, знаходзіцца ва ўласнасці райвыканкама. Міліцыя, згодна з адказам Я. Тарасюка, павінна спярша заключыць дамову з арганізатарамі масавых мерапрыемстваў, а потым райвыканкам з міліцыяй абмяркуюць дэталі аховы парадку, як гэта прадугледжана ў Пастанове Савета міністраў № 207.

6 снежня ў Віцебскім абласным судзе Хрыстафор Жаляпаў і Аляксей Гаўруцікаў спрабавалі аспрэчыць рашэнне Кастрычніцкага райсуда, куды звярталіся пасля атрыманай забароны на шэсце і мітынг салідарнасці з Ігарам Пастновым, што планаваўся 28 верасня. Абласны суд адхіліў скаргу, пагадзіўшыся з райсудом. Гарвыканкам, які вынес забарону, раённы суд, які прызнаў гэтую забарону законнай, і абласны суд аргументавалі сваю пазіцыю, абапіраючыся на рашэнне Віцебскага гарвыканкама аб правядзенні масавых акцый. У адмове гарвыканкама казалася, што заяўляльнікі не прыклалі дамовы на абслугоўванне акцыі, што патрабуецца ў адпаведнасці з названым рашэннем. Але ў тым рашэнні не згадваюцца шэсці — толькі пікеты і мітынгі. Адпаведна, у арганізатараў быў шанец атрымаць дазвол без уліку гэтага рашэння. Аляксей Гаўруцікаў падкрэсліў, што рашэнне гарвыканкама № 881 «Аб масавых мерапрыемствах у Віцебску» практычна невыканальнае, паколькі ні міліцыя, ні цэнтральная гарадская паліклініка не пагаджаюцца на супрацоўніцтва, пакуль няма дазволу на акцыю ад органа ўлады. А ўладныя структуры патрабуюць такія дамовы.

8 снежня ў Віцебску былі забаронены 2 пікеты да Дня правоў чалавека. Прычына: адсутнасць дамоў на абслугоўванне акцый. З адміністрацыі Кастрычніцкага раёна ліст з пісьмовай забаронай акцыі атрымаў старшыня гарадской арганізацыі Партыі БНФ Аляксандр Кузняцоў. Тэма піке-

та, які ён хацеў правесці — гэта «пратэст супраць палітычных рэпрэсій у краіне, акцыя салідарнасці з палітвязнямі і патрабаванне іх неадкладнага вызвалення і поўнай рэабілітацыі». Каардынатар Руху «За свабоду» па Віцебскай вобласці Хрыстафор Жаляпаў і актывіст аргкамітэта па стварэнні сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада» Аляксей Гаўруцікаў падавалі заяўку на акцыю да ўгодкаў прыняцця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека ў Першамайскую раённую адміністрацыю. Па атрыманне дамоў на абслугоўванне масавага мерапрымства яны звярнуліся ў адпаведныя структуры яшчэ за 2 месяцы да запланаванай даты. ЖКГ пагадзілася на заключэнне дамовы, міліцыя і медыкі — адмовіліся. З цэнтральнай гарадской паліклінікі напісалі, што дамову на абслугоўванне заключыць немагчыма, бо ўзімку ўсе медычныя службы працуюць у складаным рэжыме, абумоўленым масавымі захворваннямі. Пасля таго, як з Першамайскай адміністрацыі прыйшла адмова на правядзенне пікета з-за адсутнасці дамоў на абслугоўванне, з міліцыі быў дасланы ліст, што там лічаць немэтазгоднай дамову, бо акцыя ўжо забароненая.

8 снежня Аршанскі райвыканкам забараніў пікет, ініцыяваны актывістамі Юрыем Нагорным і Алесем Шутавым, і запланаваны на 12 снежня ў абарону парку ў мікрараёне «Чаромушкі», дзе дрэвы зносяць, каб збудаваць чарговы «шматпавярховік». Прычына забароны — адсутнасць дамоў на ахову, медычнае абслугоўванне і прыборку тэрыторыі пасля акцыі. Паводле Алеся Шутава, з усімі гэтымі службамі выканкам патрабуе заключыць дамовы загадзя, а самі гэтыя службы згаджаюцца заключыць такія дамовы толькі пасля згоды выканкама.

8 снежня віцебскі праваабаронца Павел Левінаў атрымаў забароны на правядзенне пікетаў у Дзень правоў чалавека. Ён падаваў заяўкі ў адміністрацыі Кастрычніцкага, Першамайскага і Чыгуначнага раёнаў на акцыі працягласцю ў адну хвіліну, але і гэтага раённыя ўлады не дазволілі. Прычына адна і тая ж — адсутнасць дамоў на абслугоўванне службамі ЖКГ, медыкамі і міліцыяй. Гэтых дамоў чыноўнікі патрабуюць на падставе рашэння гарвыканкама №881 «Аб арганізацыі масавых акцый у г.Віцебску». Але ў дадзеным выпадку патрабаванне выглядае абсурдным. Забарона на чыста сімвалічныя аднахвілінныя пікеты — гэта яшчэ адно пацверджанне таго, што мясцовыя ўлады вырашылі не дапускаць у горадзе падобных акцый любым коштам.

10 снежня праваабаронца Уладзімір Вялічкін звярнуўся ў Брэсцкі гарадскі выканаўчы камітэт да намесніка старшыні гарвыканкама Барысюка Г.І. з просьбай устраніць супярэчнасці, якія ўтрымліваюцца ў

прававых актах, якія рэгламентуюць парадак арганізацыі масавых мерапрыемстваў. Падставай да звароту паслужылі абставіны падрыхтоўкі і правядзеняня пікета, прысвечанага 65-ай гадавіне Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Падчас падрыхтоўкі выявілася, што выкананне рашэння Брэсцкага гарвыканкама № 1210 ад 30 чэвеня 2011 г. у частцы падпункта 5.1 — заключэнне дамовы з «аддзеламі ўнутраных спраў адміністрацый раёнаў горада Брэста па месцы правядзення масавага мерапрыемства па ахове грамадскага парадку падчас правядзення мерапрыемства» — немагчымае. Яно супярэчыць п.п. 5-8 Пастановы Савета Міністраў РБ ад 05.03.2012 № 207, дзе сказана: «мясцовы выканаўчы і распараджальны орган на працягу аднаго дня з моманту рэгістрацыі заявы на правядзенне масавага мерапрыемства накіроўвае яго копію ў тэрытарыяльны орган ўнутраных спраў для разгляду пытанняў, якія звязаны з аховай грамадскага парадку і забеспячэннем грамадскай бяспекі, і выпрацоўкі адпаведных прапаноў». Уладзіміры Вялічкін папрасіў намесніка старшыні прапанаваць старшыні Брэсцкага гарвыканкама выключыць з пункта 5 адпаведнага рашэння гарвыканкама падпункт 5.1, які супярэчыць палажэнням Пастановы Савета міністраў. 23 снежня з гарвыканкама за подпісам кіраўніка справамі В.В. Чарнова быў атрыманы адказ за № 35-1/321Л: «Брэсцкім гарадскім выканаўчым камітэтам падрыхтаваны праект рашэння «Аб унясенні зменаў у рашэнне Брэсцкага гарадского выканаўчага камітэта ад 30 чэрвеня 2011 г. № 1210», якім прадугледжана з пункта 5 прыбраць пункт 5.1.»

11 снежня калегія Гродзенскага абласнога суда не задаволіла скаргу слонімскага актывіста Алеся Масюка на рашэнне Слонімскага раённага суда, які прызнаў законнай забарону 29 верасня пікета за права жыхароў Слонімскага раёна свабодна афармляць падпіску на «Газету Слонімскую» ў РУП «Белпошта» і магчымасць свабодна яе купляць ў кіёсках «Белсаюздруку». Абласны суд прызнаў рашэнне раённага суда законным.

18 снежня брэсцкія гарадскія ўлады не далі дазволу на шэсце ў падтрымку ўкраінскага Еўрамайдана. Арганізатарамі выступілі мясцовыя прадстаўнікі Аб'яднанай грамадзянскай партыі, якія такім чынам збіраліся выказаць сваю салідарнасць з украінскім народам у яго імкненні жыць у Еўрасаюзе. У адказе з гарвыканкама было сказана, што «правядзенне масавых мерапрыемстваў не дапускаецца на адлегласці менш за 50 метраў ад будынкаў рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, мясцовых прадстаўнічых, выканаўчых і распарадчых органаў, дыпламатычных прадстаўніцтваў і консульскіх установаў, судоў, органаў пракуратуры, тэ-

рыторый арганізацый, якія забяспечваюць абараназдольнасць, бяспеку дзяржавы і жыццядзейнасць насельніцтва, на адлегласці менш за 100 метраў ад будынкаў арганізацый аховы здароўя». Старшыня Брэсцкай абласной арганізацыі АГП Уладзімір Вуек лічыць такую прычыну адмовы беспадстаўнай, паколькі падчас святкавання 1 траўня па такім самым маршруце брэсцкія прадстаўнікі дэмакратычных сіл праводзілі дазволенае ўладамі шэсце.

18 снежня грамадскі актывіст Мікалай Уласевіч атрымаў адмову на правядзенне інфармацыйнага пікета ў Астраўцы з мэтай падтрымкі ўкраінскага народу. Заяўка была пададзена на 21 снежня. Чыноўнікі ў афіцыйным адказе за подпісам намесніка старшыні Астравецкага райвыканкама Віктара Свілы адмовілі на той падставе, што на заяўленым месцы будзе праводзіцца тэатралізаванае прадстаўленне «Запрасіце казку ў дом». Пры тым не ўказваецца, у які дзень і ў які час будзе праводзіцца гэтае прадстаўленне. Далей у адмове чыноўнік спасылаецца на тое, што заяўнікам не выканана заканадаўства ў частцы забеспячэння на пікеце правапарадку і бяспекі, медыцынскага абслугоўвання, прыборкі тэрыторыі.

18 снежня старшыня бабруйскай суполкі АГП Віктар Бузінаеў атрымаў ліст з гарвыканкама за подпісам намесніка старшыні Аляксандра Маркачова, у якім было сказана, што шэсце і пікет, які актывісты хацелі правесці 21 снежня ў знак салідарнасці з украінцамі, не дазволены. Чыноўнік патлумачыў адмову тым, што для правядзення масавых мерапрымстваў у Бабруйску існуе пэўнае месца (аддалены ад цэнтра стадыён фабрыкі «Славянка»), а заяўнікі ўказалі іншае (цэнтр горада). Таксама чыноўнік лічыць, што заява была складзена з парушэннямі, напрыклад, не ўказана колькасць людзей, не ўказана, ці збіраюцца ўдзельнікі выкарыстоўваць піратэхнічныя вырабы. Акрамя гэтага, Маркачоў дадаў, што да заявы мусілі быць прыкладзены дамовы арганізатараў з асобамі, адказнымі за ахову парадку, прыборку тэрыторыі і бальніцай, хаця ў заяве адзначалася, што арганізатары бяруць гэтыя турботы на сябе. Чыноўнік таксама адзначыў, што арганізатар мерапрыемства не меў права агучваць інфармацыю пра пікет да моманту яго дазволу, а інфармацыя пра бабруйскае мерапрыемства ўсё ж з'явілася ў мясцовых СМІ.

20 снежня ў Мінску адбылася акцыя супраць увядзення мыты на аўто. Заклікі на дадзеную акцыю ажыццяўляліся праз сацыяльныя сеткі, заява на правядзенне акцыі не падавалася. Супрацоўнікі праваахоўных органаў замест выканання функцыі аховы ўдзельнікаў мірнай акцыі ажыццяўлялі кантралюючыя функцыі, а таксама рэпрэсіўныя ў асобных інцыдэнтах

(выцясненне людзей у пераход паміж уваходам ва ўніверсам «Цэнтральны» і Кастрычніцкай плошчай; затрыманні людзей, эвакуацыя машын, наяўнасць вялікай колькасці супрацоўнікаў міліцыі ў цывільнай вопратцы і іншыя), чым стваралі перашкоды ў рэалізацыі права грамадзян на свабоду мірных сходаў. Асаблівую занепакоенасць выклікае немагчымасць ідэнтыфікаваць супрацоўнікаў праваахоўных органаў як такіх праз адсутнасць форменнай вопраткі, а таксама адсутнасць ідэнтыфікацыйных картак на супрацоўніках у форме.

27 снежня ў Мінску адбылася другая акцыя супраць увядзення мыты на аўто з 1 студзеня 2014 года. Заклікі на дадзеную акцыю ажыццяўляліся праз сацыяльныя сеткі, дазвол на правядзенне акцыі не запытваўся, зафіксаваны пагрозы з боку ДАІ аб штрафаванні, эвакуацыі аўтамабіляў для ўдзельнікаў, а таксама крымінальнай адказнасці за блакіраванне транспартных камунікацый. Сілавыя структуры прыклалі ўсе намаганні для папярэджання правядзення акцыі: жорсткае пакаранне ўдзельнікаў мінулай акцыі штрафамі і адміністрацыйнымі арыштамі, выдаленне першаснай суполкі ў сацсетках, прэвентыўнае затрыманне і арышт напярэдадні акцыі адміністратара суполкі «УКантакце», абмежаваны рух па частцы праспекта Незалежнасці. Дадзеныя метады можна расцаніць як метады запалохвання і ціску, якія абмежавальна ўплываюць на рэалізацыю права на свабоду сходу, а таксама неадэкватныя і несуразмерныя па сваім характары. Супрацоўнікі праваахоўных органаў, як і раней, замест выканання функцыі аховы ўдзельнікаў мірнай акцыі ажыццяўлялі рэпрэсіўныя дзеянні ў асобных інцыдэнтах (спыненне машын з прыкметамі ўдзельнікаў, а таксама пры падачы гукавых сігналаў). Вядомы факты як мінімум 5 спыненняў машын і афармлення пратаколаў і штрафаў за падачу гукавых сігналаў, стварэння аварыйнай сітуацыі. Адзін з затрыманых падаў гукавы сігнал супрацоўніку міліцыі, які перабягаў перад яго машынай дарогу ў неналежным месцы. За гэты інцыдэнт на кіроўцу праз працяглы час быў складзены пратакол за стварэнне аварыйнай сітуацыі, але ў выніку кіроўца вынайшоў адно кола аўтамабіля спушчаным па незразумелых прычынах.

28 снежня грамадская актывістка Анжаліка Камбалава атрымала заказны ліст за подпісам намесніка старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Д. Касцюкевіча, у якім паведамлялася аб адмове ў правядзенні пікета 30 снежня супраць размяшчэння расійскай авіябазы ў Баранавічах. Чыноўнік лічыць, што заяўніца парушыла п. 4 рашэння гарвыканкама ад 16.06.2009г. № 1497 «Аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў у горадзе Баранавічы» і не заключыла дамовы з жыллёва-камунальнай

гаспадаркай, паліклінікай і міліцыяй. А. Камбалава ў заяве пісала, што паколькі ў пікеце прыме ўдзел усяго 1 чалавек, то абавязкі па забеспячэнні грамадскага парадку падчас мерапрыемства, прыборкі тэрыторыі пасля пікету яна бярэ на сябе. Таксама яна паведаміла, што будзе мець медычную аптэчку для аказання першай медыцынскай дапамогі.

30 снежня Салігорскі райвыканкам забараніў правядзенне мітынгу супраць падатку на аўтамабілі на мясцовым стадыёне «Будаўнік». Паводле выканкамаўскіх ідэолагаў, якія займаліся падрыхтоўкай адказу на заяву, арганізатары масавага мерапрыемства пазначылі недастатакова захадаў па ахове грамадскага парадку, забеспячэнні медыцынскім абслугоўваннем падчас правядзення мітынгу і прыборцы тэрыторыі пасля мерапрыемства. Адказ чыноўнікаў ініцыятары мерапрыемства назвалі некампетэнтным і супрацьпраўным. Па-першае, па незразумелых прычынах ідэолагі пішуць пра забарону пікетавання, хаця ў заяўцы на мерапрыемства вялася гаворка пра мітынг на 200 чалавек. Па-другое, просьбу аб ускладанні абавязкаў па ахове парадку, медыцынскім абслугоўванні і прыборцы тэрыторыі на органы мясцовай улады цяжка назваць недастатковымі, бо гэта звычайная сусветная практыка і наўпроставы абавязак дзяржавы.

ДАДАТАК 1.

## Рэзалюцыя Савета па правах чалавека ААН «Абарона праваабаронцаў». *15 сакавіка 2013 г.*

Организация Объединенных Наций A/HRC/22/L.13

Генеральная Ассамблея

Distr.: Limited
15 March 2013
Russian
Original: English

**Совет по правам человека**
**Двадцать вторая сессия**
Пункт 3 повестки дня
**Поощрение и защита всех прав человека, гражданских, политических, экономических, социальных и культурных прав, включая право на развитие**

**Австрия, Аргентина, Армения*, Босния и Герцеговина*, бывшая югославская Республика Македония*, Венгрия*, Германия, Гондурас*, Грузия*, Ирландия, Исландия*, Испания, Коста-Рика, Кот-д'Ивуар, Мексика*, Норвегия*, Парагвай*, Перу, Польша, Португалия*, Словакия*, Тимор-Лешти*, Турция*, Уругвай*, Франция*, Черногория, Чешская Республика, Чили, Швейцария, Швеция*, Эстония: проект резолюции**

**22/…**
**Защита правозащитников**

*Совет по правам человека,*

*руководствуясь* Всеобщей декларацией прав человека,

*ссылаясь* на резолюцию 53/144 Генеральной Ассамблеи от 9 декабря 1998 года, в которой Ассамблея консенсусом приняла Декларацию о праве и обязанности отдельных лиц, групп и органов общества поощрять и защищать общепризнанные права человека и основные свободы, текст которой содержится в приложении к этой резолюции, и вновь подтверждая важное значение Декларации и ее пропаганды и осуществления,

*напоминая также* о сохраняющейся значимости и применимости всех положений вышеупомянутой Декларации,

*ссылаясь далее* на все предыдущие резолюции по этому вопросу, в частности на резолюции 13/13 и 16/15 Совета по правам человека от 25 марта 2010 года и 24 марта 2011 года соответственно и резолюцию 16/164 Генеральной Ассамблеи от 19 декабря 2011 года,

*ссылаясь* на Венскую декларацию и Программу действий,

*вновь подтверждая*, что государства обязаны защищать все права человека и основные свободы всех людей,

* Государство, не являющееся членом Совета по правам человека.

GE.13-12028 (R) 190313 190313

*признавая*, что правозащитники играют важную роль на местном, национальном, региональном и международном уровнях в поощрении и защите прав человека,

*подчеркивая*, что уважение и поддержка деятельности правозащитников, в том числе женщин-правозащитников, имеют исключительно важное значение для всеобъемлющего осуществления прав человека,

*учитывая*, что внутригосударственное право и административные положения и их применение должны облегчать деятельность правозащитников, в том числе за счет недопущения какой-либо криминализации, стигматизации, затруднения, воспрепятствования или ограничения этой деятельности в нарушение международного права прав человека,

*подтверждая* серьезную озабоченность, выраженную Генеральной Ассамблеей в ее резолюции 66/164 в связи с серьезным характером рисков, с которыми сталкиваются правозащитники из-за направленных против них угроз, нападений и актов запугивания,

*будучи глубоко обеспокоен* тем, что в некоторых случаях национальное законодательство по обеспечению безопасности и борьбе с терроризмом и другие меры, такие как принятие законов, регулирующих деятельность организаций гражданского общества, неправомерно используются для преследования правозащитников или препятствуют их работе и ставят под угрозу их безопасность в форме действий, противоречащих международному праву,

*признавая* в этой связи, что новые формы коммуникации, включая распространение информации в онлайновом и автономном режимах, могут послужить правозащитникам полезным подспорьем в деле поощрения и обеспечения защиты прав человека,

*признавая также* срочную необходимость в рассмотрении и принятии конкретных мер по предотвращению и прекращению использования законодательства для необоснованного сокращения или ограничения имеющихся у правозащитников возможностей проводить их работу, в том числе путем проведения обзора и, при необходимости, изменения соответствующего законодательства и его осуществления в целях обеспечения соответствия международному праву прав человека,

*приветствуя* предпринятые некоторыми государствами шаги, направленные на принятие политики или законодательства в целях защиты отдельных лиц, групп и органов общества, занимающихся поощрением и защитой прав человека, включая декриминализацию диффамации, которые призваны защитить правозащитников от преследований за мирную деятельность и от угроз, притеснений, запугивания, принуждения, произвольных задержаний или арестов, насилия и нападений со стороны государственных и негосударственных субъектов,

1. *приветствует* работу Специального докладчика по вопросу о положении правозащитников, включая ее два последних доклада, представленные в соответствии с резолюцией 66/164 Генеральной Ассамблеи и резолюцией 16/5 Совета по правам человека и посвященные применению законодательства, затрагивающего деятельность правозащитников[1], и национальным правозащитным учреждениям[2] соответственно;

---

[1] A/67/292.
[2] A/HRC/22/47.

## Праваабарончы цэнтр «Вясна» заклікае спыніць практыку ціску на грамадскіх актывістаў і прыняць меры да адмены арт. 193.1 КК

*Мінск, 2 траўня 2013 г.*

Праваабарончы цэнтр «Вясна» заклікае беларускія ўлады спыніць практыку запалохвання і ціску на грамадскіх актывістаў, а таксама неадкладна дэкрыміналізаваць дзейнасць незарэгістраваных арганізацый.

На працягу апошніх двух месяцаў Праваабарончым цэнтрам «Вясна» было зафіксавана павелічэнне выпадкаў вынясення органамі пракуратуры і КДБ афіцыйных пісьмовых папярэджанняў аб недапушчальнасці дзейнасці ад імя незарэгістраваных арганізацый у адносінах да шэрагу грамадскіх актывістаў і праваабаронцаў.

18 красавіка 2013 г. пракуратура Бярозаўскага р-на Брэсцкай вобласці вынесла папярэджанне за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі актывісту грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду» Аляксандру Кузьміну.

24 красавіка 2013 г. Генеральная пракуратура Рэспублікі Беларусь вынесла пісьмовае папярэджанне аб недапушчальнасці дзейнасці ад імя незарэгістраванай арганізацыі праваабаронцы Тамары Сяргей.

29 красавіка 2013 г. у г. Магілёве на прафілактычную гутарку ва УКДБ па Магілёўскай вобласці ў сувязі з дзейнасцю ад імя незарэгістраванай арганізацыі быў выкліканы мясцовы актывіст партыі БХД Алег Аксёнаў, які ў кастрычніку 2012 года быў пастаўлены на прафілактычны ўлік КДБ за ажыццяўленне такой дзейнасці.

Усе вышэйназваныя асобы былі папярэджаны аб магчымым прыцягненні да крымінальнай адказнасці па арт. 193.1 КК Рэспублікі Беларусь, санкцыя якога прадугледжвае адказнасць у выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам да двух гадоў.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» лічыць неабходным нагадаць, што свабода асацыяцый гарантавана грамадзянам Беларусі арт. 36 Канстытуцыі. Паводле арт. 23 Канстытуцыі, абмежаванне правоў і свабод асобы дапускаецца толькі ў выпадках, прадугледжаных законам, у інтарэсах нацыянальнай бяспекі, грамадскага парадку, абароны маральнасці, здароўя насельніцтва, правоў і свабод іншых асоб. Таксама арт. 5 Канстытуцыі ўтрымлівае вычарпальны пералік дапушчальных абмежаванняў свабоды асацыяцый: забараняецца стварэнне і дзейнасць палітычных партый, а роўна і іншых грамадскіх аб'яднанняў, якія маюць на мэце гвалтоўнае змяненне канстытуцыйнага ладу, ці якія вядуць прапаганду вайны, сацыяльнай, нацыянальнай, рэлігійнай і расавай варожасці. Сыходзячы

з канстытуцыйных гарантый і дапушчальных абмежаванняў, відавочна, што наяўнасць крымінальнай адказнасці толькі за факт дзейнасці ад імя незарэгістраванай арганізацыі з'яўляецца парушэннем гарантаванай Асноўным законам свабоды асацыяцый.

15 кастрычніка 2011 г. Еўрапейская камісія за дэмакратыю праз права Савета Еўропы (Венецыянская камісія) падрыхтавала заключэнне, паводле якога арт. 193.1 КК Рэспублікі Беларусь быў прызнаны не адпавядаючым палажэнням Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах і іншым міжнародным абавязальніцтвам, якія ўзяла на сабе Рэспубліка Беларусь.

Варта нагадаць, што на працягу 2008-2010 гг. службовыя асобы Міністэрства юстыцыі і Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь неаднаразова заяўлялі пра магчымасць адмены дадзенага артыкула Крымінальнага кодэкса.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» ў чарговы раз заклікае ўлады Беларусі спыніць практыку ціску на грамадскіх актывістаў і прыняць меры да адмены арт. 193.1 КК і дэкрыміналізацыі дзейнасці незарэгістраваных арганізацый.

Арт. 193.1 КК Рэспублікі Беларусь (незаконная арганізацыя дзейнасці грамадскага аб'яднання, рэлігійнай арганізацыі ці фонду, альбо ўдзел у іх дзейнасці) утрымлівае пакаранне штрафам ці арыштам да шасці месяцаў, ці пазбаўленнем волі на тэрмін да двух гадоў.

З 2006 г. вядома аб 18 выпадках прыцягнення да крымінальнай адказнасці па дадзеным артыкуле.

У лютым 2011 г. Генеральная пракуратура Рэспублікі Беларусь вынесла пісьмовае папярэджанне ад недапушчальнасці дзейнасці ад імя незарэгістраванай арганізацыі старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесю Бяляцкаму.

## Заява FIDH і «Вясны» з нагоды працягнення дзеяння мандата Спецыяльнага дакладчыка па Беларусі Саветам па правах чалавека ААН

**Міжнародная федэрацыя за правы чалавека (FIDH)**
**Праваабарончы цэнтр «Вясна»**

*Парыж-Мінск, 13 чэрвеня 2013 г.*

Савет па правах чалавека ААН працягнуў дзеянне мандата Спецыяльнага дакладчыка па Беларусі, нягледзячы на поўную адсутнасць супрацоўніцтва краіны з механізмамі ААН.

Сёння, 13 чэрвеня 2013 года, Савет па правах чалавека Арганізацыі Аб'яднаных Нацый (СПЧ) прыняў рэзалюцыю пра працягненне мандата Спецыяльнага дакладчыка па становішчы ў галіне правоў чалавека ў Беларусі і выказаў глыбокую заклапочанасць з нагоды працягу парушэнняў правоў чалавека ў краіне.

У рэзкіх выразах рэзалюцыя «настойліва заклікае ўрад Беларусі неадкладна і без усялякіх умоў вызваліць і рэабілітаваць усіх палітычных зняволеных, (...) і неадкладна пакласці канец адвольнаму затрыманню праваабаронцаў ды адвольным забаронам на паездкі (...), скіраваным на запалохванне прадстаўнікоў палітычнай апазіцыі і сродкаў масавай інфармацыі, а таксама праваабаронцаў і грамадзянскай супольнасці».

Савет падае зразумелы сігнал Беларусі, што яе сістэматычная адмова ад супрацоўніцтва з ААН толькі паказвае поўную адсутнасць волі да паляпшэння становішча з правамі чалавека. «Мой калега Алесь Бяляцкі, які быў асуджаны да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму, дасюль чакае, пакуль Беларусь будзе выконваць свае міжнародныя абавязкі, паводле якіх ён павінен быць неадкладна вызвалены», — заявіў намеснік старшыні «Вясны» Валянцін Стэфановіч.

Рэзалюцыя, прадстаўленая Еўразвязам, была прынята большасцю галасоў: «за» прагаласавалі 26 краін-удзельніц СПЧ ААН, «супраць» — 3, а 18 устрымаліся. Падтрымка гэтай рэзалюцыі стала шырэйшай, чым ранейшых рэзалюцый па Беларусі. Краіны з усіх рэгіёнаў, у тым ліку Буркіна-Фасо, Коста-Рыка, Гватэмала, Маўрытанія і Перу, дадалі свае галасы на карысць еўрапейскіх і іншых заходніх дзяржаў, што надае рэзалюцыі моцную міжрэгіянальную падтрымку.

У той жа час, Савет не стаў завастраць увагу на праблеме смяротнага пакарання ў Беларусі і абмежаваўся мінімальнай згадкай, «адзначаючы ўвагу Спецыяльнага дакладчыка да пытання смяротнага пакарання», не асуджаючы выкарыстанне смяротнай кары і смяротныя прысуды ў Беларусі, у той час як яшчэ адзін смяротны прысуд быў вынесены толькі ўчора.

## Заява Праваабарончага цэнтра «Вясна» і Беларускага Хельсінкскага камітэта адносна вынясення прысуду Андрэю Гайдукову

*Мінск, 1 ліпеня 2013 г.*

1 ліпеня 2013 года Андрэй Гайдукоў асуджаны па частцы 1 артыкула 14 і артыкуле 356-1 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (замах на ўстанаўленне супрацоўніцтва са спецыяльнай службай, органам бяспекі або разведвальным органам замежнай дзяржавы) і асуджаны да 1,5 гадоў пазбаўлення волі.

Крымінальны пераслед Андрэя Гайдукова быў распачаты ў пачатку лістапада 2012 года, калі ён быў затрыманы супрацоўнікамі Камітэта дзяржаўнай бяспекі і змешчаны ў следчы ізалятар КДБ. 13 лістапада 2012 г. Камітэтам дзяржаўнай бяспекі была распаўсюджана інфармацыя аб спыненні супрацьпраўнай дзейнасці грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, які займаўся па заданні замежнай выведкі зборам і перадачай інфармацыі палітычнага і эканамічнага характару. У дачыненні да затрыманага ўзбуджаная крымінальная справа па ч.1 арт.356 Крымінальнага Кодэкса Рэспублікі Беларусь (здрада дзяржаве ў форме правядзення агентурнай дзейнасці). Ужо ў ходзе судовага разбіральніцтва абвінавачванні перакваліфікаваныя на частку 1 артыкула 14 і артыкул 356-1 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» і РПГА «Беларускі Хельсінкскі Камітэт» канстатуюць, што папярэдняе расследаванне і судовае разбіральніцтва былі цалкам закрытымі і непразрыстымі, нягледзячы на павышаную цікавасць да гэтай справы з боку грамадскасці і сродкаў масавай інфармацыі. Пры гэтым кампетэнтнымі органамі не было дадзена ніякага абгрунтавання неабходнасці разгляду справы ў закрытым судовым пасяджэнні. З улікам таго, што Гайдукову спачатку інкрымінавалася здзяйсненне больш цяжкага злачынства (арт. 356 КК — здрада дзяржаве), а ў далейшым яго дзеянні былі перакваліфікаваны на менш цяжкае злачынства, можна выказаць здагадку, што неабходнасць у разглядзе дадзенай справы ў закрытым судовым паседжанні была выклікана жаданнем схаваць ад грамадскасці незаконныя метады расследавання і правакаванне абвінавачанага да здзяйснення больш цяжкага злачынства. Такая кваліфікацыя здзейсненага судом указвае, што КДБ увёў у зман грамадскасць у той час, як супрацоўнікамі КДБ не было выяўлена факта ўстанаўлення грамадзянінам Рэспублікі Беларусь супрацьпраўнага супрацоўніцтва з органамі замежнай дзяржавы. Пры ўстаноўленых абставінах супрацоўнікі КДБ працягвалі схіляць Гайдукова да здзяйснення больш цяжкага злачынства, гэта значыць, здзейснілі правакацыю.

У ходзе расследавання парушалася права А.Гайдукова на абарону, адвольна абмяжоўваліся яго сустрэчы з адвакатам. Кантакты з роднымі былі абмежаваны нерэгулярнай, жорстка цэнзураванай перапіскай. Мерай уздзеяння на адваката — абаронцы А.Гайдукова, стала папярэджанне аб крымінальнай адказнасці за разгалошванне дадзеных папярэдняга расследавання. Дадзеная мера, якая празмерна шырока прымяняецца на практыцы, сур'ёзна абмяжоўвае магчымасці адваката адстойваць інтарэсы свайго падабароннага.

А.Гайдукоў асуджаны за здзяйсненне злачынства, прадугледжанага артыкулам 356-1 Крымінальнага кодэкса, якая прадугледжвае адказнасць за ўсталяванне супрацоўніцтва на канфідэнцыйнай аснове са спецыяльнай службай, органам бяспекі або разведвальным органам замежнай дзяржавы пры адсутнасці прыкмет здрады дзяржаве. Гэта дзеянне было крыміналізавана ў лістападзе 2011г.

Беларускія праваабаронцы ўжо тады ўказвалі на недапушчальнасць выкарыстання ў крымінальным законе некарэктных азначэнняў, у тым ліку такіх, якія дапускаюць адвольнае або пашыральнае іх тлумачэнне.

У канцы траўня 2013 года з заявы старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі В.Вакульчыка стала вядома, што крымінальная справа па абвінавачванні А.Гайдукова накіравана ў суд, дзе была разгледжана ў закрытым судовым пасяджэнні; прад'яўленае абвінавачванне не мянялася. Такая празмерная актыўнасць кіраўніка КДБ, а не пракуратуры, якая падтрымлівае абвінавачванне ў судзе, у асвятленні дэталяў і перспектыў судовага разбіральніцтва сведчыла аб магчымым уплыве Камітэта дзяржаўнай бяспекі на высновы і працэсуальныя рашэнні суда.

Характар абвінавачвання з улікам грамадскай значнасці справы не пакідае сумневаў у тым, што разгляд яе ў судзе павінен быў прайсці з захаваннем прынцыпу галоснасці, паколькі перадумоў для яго абмежаванняў, прадугледжаных законам, не існавала.

Варта адзначыць, што дзеянне, за ўчыненне якога асуджаны Гайдукоў, адносіцца да катэгорыі злачынстваў, якія не ўяўляюць вялікай грамадскай небяспекі. Да асобы, абвінавачанай у яго здзяйсненні, нельга прымяніць меру стрымання ў выглядзе заключэння пад варту. Згодна з пунктам 1 пастановы Пленума Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь «Аб прызначэнні судамі пакарання ў выглядзе пазбаўлення волі» пазбаўленне волі ў якасці пакарання можа прызначацца толькі ў прадугледжаных законам выпадках, за здзяйсненне злачынстваў, якія ўяўляюць значную грамадскую небяспеку, калі суд з улікам характару здзейсненага злачынства і асобы вінаватага прыйдзе да высновы, што яго ізаляцыя забяспечыць абарону грамадства ад злачынных замахаў і будзе спрыяць мэтам крымінальнай адказнасці. Аналіз наяўных дадзеных не дазваляе зрабіць

выснову пра тое, што прызначанае судом пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі з'яўляецца апраўданым. На наш погляд, факт прызнання судом Гайдукова вінаватым у замаху на здзяйсненне злачынства, якое адносіцца да катэгорыі не ўяўляючых вялікай грамадскай небяспекі, раней не судзімага, не дазваляў суду ўжыць да яго рэальнае пазбаўленне волі. Такім чынам, заключэнне пад варту і асуджэнне да пазбаўлення волі з'яўляецца адвольным.

Ацэньваючы ў сукупнасці названыя абставіны, характар прад'яўленага абвінавачвання, дапушчаныя падчас папярэдняга расследавання працэсуальныя парушэнні, а таксама закрыты рэжым разгляду справы ў судзе, зыходзячы з наяўнай у праваабаронцаў інфармацыі аб дзеяннях Гайдукова, якія паслужылі фармальнай падставай для яго затрымання, Праваабарончы цэнтр «Вясна» і РПГА «Беларускі Хельсінкскі камітэт» прыходзяць да наступнай высновы:

асуджэнне А. Гайдукова з'яўляецца неабгрунтаваным і палітычна матываваным, паколькі яно ў значнай ступені мела на мэце павышэнне ролі і значнасці КДБ у дзяржаве непрымальнымі ў дэмакратычным грамадстве метадамі, а пазбаўленне свабоды было ўжыта ў парушэнне права на справядлівае судовае разбіральніцтва, іншых правоў і свабод, гарантаваных Міжнародным пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах, працягласць пазбаўлення волі відавочна непрапарцыйна (неадэкватна) правапарушэнню, у якім асоба была прызнаная вінаватай;

РПГА «Беларускі Хельсінкскі Камітэт» і Праваабарончы Цэнтр «Вясна» патрабуюць неадкладнага вызвалення А. Гайдукова, адмены незаконна вынесенага прысуду і яго перагляду пры захаванні права на справядлівае судовае разбіральніцтва.

## Заява Праваабарончага цэнтра «Вясна» з нагоды крымінальнага пераследу В. Парфянкова і У. Яроменкі

*Мінск, 16 ліпеня 2013 г.*

12 ліпеня Першамайскі раённы (г. Мінска) аддзел Следчага камітэта паведаміў былому палітвязню Васілю Парфянкову пра ўзбуджэнне супраць яго крымінальнай справы за парушэнні ўмоў прэвентыўнага нагляду, устаноўленага судом Першамайскага раёна Мінска. У гэты ж дзень актывісту было прад'яўлена абвінавачванне паводле артыкула 421 Крымінальнага кодэкса. Абвінавачанне паводле гэтага артыкула стала ўжо другім па ліку пасля вызвалення Васіля Парфянкова згодна з указам прэзідэнта аб памілаванні ў жніўні 2011 года пасля ягонага асуджэння да чатырох гадоў пазбаўлення волі па ч. 2 арт. 293 КК РБ за ўдзел у акцыі пратэсту супраць фальсіфікацый падчас апошніх прэзідэнцкіх выбараў. Першы раз актывіст быў асуджаны судом Першамайскага раёна г. Мінска паводле артыкула 421 Крымінальнага кодэкса 29 траўня 2012 г. і пакараны 6 месяцамі турэмнага арышту.

16 траўня крымінальная справа з аналагічным абвінавачаннем у парушэнні ўмоў прэвентыўнага нагляду была ўзбуджана ў дачыненні яшчэ аднаго былога палітвязня і фігуранта крымінальнай справы «аб масавых беспарадках» — актывіста «Маладога Фронту» Уладзіміра Яроменкі. За ўдзел у акцыі пратэсту пасля прэзідэнцкіх выбараў 14 траўня 2011 г. ён быў асуджаны судом Партызанскага раёна Мінску на 3 гады пазбаўлення волі па ч. 2 арт. 293 КК РБ, у жніўні таго ж года — памілаваны згодна з указам прэзідэнта.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» расцэньвае крымінальны пераслед Васіля Парфянкова і Уладзіміра Яроменкі як выключна палітычна матываваны, звязаны з імкненнем уладаў спыніць іх актыўнасць, а таксама з жаданнем запалохаць іншых палітычных і грамадскіх актывістаў.

Васілю Парфянкову і Уладзіміру Яроменку пагражае да года пазбаўлення волі. У выпадку прызнання іх вінаватымі і асуджэння да фактычнага пазбаўлення волі, яны будуць прызнаны палітычнымі зняволенымі.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» патрабуе:

— неадкладнага і безумоўнага вызвалення ўсіх палітычных вязняў, якія знаходзяцца ў месцах пазбаўлення волі;

— спынення крымінальнага пераследу ў дачыненні да Васіля Парфянкова і Уладзіміра Яроменкі;

— зняцця (пагашэння) судзімасці з усіх незаконна асуджаных па палітычных матывах, што будзе расцэнена як крок да іх рэабілітацыі і дазволіць працягнуць грамадска-палітычную дзейнасць.

## Праваабарончы цэнтр «Вясна» патрабуе неадкладнага і безумоўнага вызвалення Алеся Бяляцкага і ўсіх палітычных зняволеных.

*Мінск, 4 жніўня 2013 г.*

Праваабарончы цэнтр «Вясна» патрабуе неадкладнага і безумоўнага вызвалення Алеся Бяляцкага і ўсіх палітычных зняволеных Беларусі.

4 жніўня спаўняецца два гады з моманту арышту нашага сябра і калегі, старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна», віцэ-прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека, асуджанага на чатыры з паловай гады пазбаўлення волі.

Пазбаўленне волі аднаго з вядомейшых і аўтарытэтных праваабаронцаў Беларусі стала вынікам шматгадовай рэпрэсіўнай палітыкі ўладаў ў дачыненні да грамадзянскай супольнасці краіны, з'яўляецца расправай за прынцыповую шматгадовую праваабарончую дзейнасць Алеся Бяляцкага.

Дзейнасць Алеся Бяляцкага і створанага ім у 1996 годзе Праваабарончага цэнтра «Вясна», якая ўключае ў сябе ў тым ліку фінансаванне рэгулярнай праваабарончай актыўнасці арганізацыі, з'яўляецца цалкам легітымнай і адпавядае прынцыпам, закладзеным у Дэкларацыі аб праве і абавязку асобных асоб, груп і органаў грамадства заахвочваць і абараняць агульнапрызнаныя правы чалавека і асноўныя свабоды (Дэкларацыі ААН аб праваабаронцах), а таксама палажэнням Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах.

Дадзеная пазіцыя была неаднаразова пацверджана Саветам па правах чалавека ААН, які аднагалосна заклікаў усе дзяржавы забяспечыць, каб заахвочванне і абарона правоў чалавека не лічыліся злачынствам, і каб праваабаронцы не былі пазбаўлены магчымасці карыстацца ўніверсальнымі правамі чалавека, датычнымі іх працы, як індывідуальна, так і сумесна з іншымі. Гэтая ж пазіцыя была адлюстравана ў Меркаваннях Працоўнай групы па адвольных затрыманнях Савета па правах чалавека ААН па справе Алеся Бяляцкага.

За мінулыя два гады з моманту арышту Алеся Бяляцкага сітуацыя з правамі чалавека ў краіне не палепшылася і застаецца стабільна цяжкай: зараз у турмах працягваюць знаходзіцца 12 палітвязняў, працягваецца практыка крымінальнага і адміністрацыйнага пераследу грамадзян па палітычных матывах, асноўныя грамадзянскія і палітычныя правы з'яўляюцца скрайне абмежаванымі.

Пазбаўленне волі і ўжыванне іншых спосабаў рэпрэсій за перакананні, грамадскую і палітычную дзейнасць з'яўляецца сведчаннем няздоль-

насці ўладаў да выбудоўвання дэмакратычнага і плюралістычнага грамадства, імкненне да знішчэння любога іншадумства, глыбокага крызісу прававой сістэмы краіны. У дадзенай сітуацыі пераслед праваабаронцаў, якія аказваюць дапамогу ахвярам парушэнняў правоў чалавека і крытыкуюць урад у сувязі з гэтымі парушэннямі — яскравае сведчанне таго, што ўлады гатовы выкарыстоўваць самыя жорсткія меры дзеля застрашэння апанентаў і ўсяго грамадства з мэтай захавання існуючага палітычнага рэжыму ў краіне.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» рашуча выступае супраць палітычна матываванага пераследу грамадзян краіны і патрабуе ад уладаў неадкладнага і безумоўнага вызвалення ўсіх палітзняволеных, аднаўлення іх ва ўсіх грамадзянскіх і палітычных правах.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» заяўляе, што працягне сваю легітымную і законную дзейнасць па абароне і адстойванні правоў чалавека ў Беларусі.

## Адкрыты зварот Праваабарончага цэнтра «Вясна» ў сувязі з арыштам святара Уладзіслава Міхайлавіча Лазара

*Мінск, 14 жніўня 2013 г.*

Праваабарончы цэнтр «Вясна» заклікае КДБ Рэспублікі Беларусь праінфармаваць грамадскасць аб прычыне і месцы ўтрымання пад вартай святара Уладзіслава Міхайлавіча Лазара, сутнасці прад'яўленага яму абвінавачвання.

Грамадзянам Рэспублікі Беларусь гарантуецца права на атрыманне, захоўванне і распаўсюд поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі аб дзейнасці дзяржаўных органаў, грамадскіх аб'яднанняў, аб палітычным, эканамічным, культурным і міжнародным жыцці, стане навакольнага асяроддзя (артыкул 34 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь).

Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах замацоўвае: кожны чалавек мае права на свабоднае выказванне свайго меркавання; гэта права ўключае свабоду шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць усялякага роду інфармацыю.

Карыстанне прадугледжанымі правамі накладае асаблівыя абавязкі і асаблівую адказнасць. Яно можа быць, такім чынам, спалучана з некаторымі абмежаваннямі, якія, аднак, павінны быць устаноўлены законам і з'яўляцца неабходнымі для павагі правоў і рэпутацыі іншых асоб, для аховы дзяржаўнай бяспекі, грамадскага парадку, здароўя або маралі насельніцтва.

Мяркуем, што інфармацыя аб затрыманні, змяшчэнні пад варту асобы, сутнасці падазрэнняў і абвінавачванняў, працэсуальным статусе, месцы ўтрымання і іншых аспектах, якія не маюць дачынення да дэталяў крымінальнага пераследу, не можа парушыць таямніцу следства, якая ахоўваецца па закону, і не паставіць пад пагрозу інтарэсы дзяржаўнай бяспекі, аховы грамадскага парадку.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» рэгулярна атрымлівае звесткі аб абмежаванні або парушэнні органамі ўлады, дзяржавы правоў тых ці іншых асоб. Такія выпадкі маюць патрэбу ў адэкватнай рэакцыі з боку інстытутаў грамадзянскай супольнасці. Між тым, праваабаронцы, разумеючы адказнасць за непрадузятасць і аб'ектыўнасць сваіх меркаванняў, вымушаны канстатаваць часам поўную адсутнасць афіцыйнай інфармацыі, нават у тых выпадках, калі тая ці іншая справа мае шырокі грамадскі рэзананс.

Таму Праваабарончы цэнтр «Вясна» заклікае кампетэнтныя органы дзяржавы — пракуратуру, МУС, КДБ, Следчы камітэт — інфармаваць з дапамогай сродкаў масавай інфармацыі і са старонак уласных сайтаў

аб кожным рэзанансным або стратэгічным выпадку абмежавання правоў грамадзян.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» нагадвае, што незалежна ад цяжару прад'яўленага абвінавачвання, затрыманыя асобы карыстаюцца ўсімі правамі, за выключэннем тых, якія абмяжоўваюцца самім фактам утрымання ў няволі; катаванні, а таксама жорсткія, бесчалавечныя, прыніжаючыя асобу адносіны забароненыя.

## Заява Праваабарончага цэнтра «Вясна» з нагоды вынясення прысуду Уладзіміру Яроменку

*Мінск, 20 жніўня 2013 г.*

20 жніўня суд Першамайскага р-на г. Мінска асудзіў на 3 месяцы арышту актывіста моладзевай арганізацыі «Малады Фронт» Уладзіміра Яроменку, прызнаўшы яго вінаватым у парушэнні правіл прэвентыўнага нагляду (арт. 421 Крымінальнага кодэкса).

Праваабарончы цэнтр «Вясна» расцэньвае прысуд Уладзіміру Яроменку як палітычна матываваны ў мэтах недапушчэння ці спынення ягонай далейшай грамадска-палітычнай дзейнасці, аказання ціску ў сувязі з такой дзейнасцю. Сённяшні прысуд У. Яроменку з'яўляецца наўпроставым наступствам ягонага асуджэння на 3 гады пазбаўлення волі за ўдзел у акцыі пратэсту пасля прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010 года.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» адзначае, што прэвентыўны нагляд быў усталяваны судом у дачыненні да У. Яроменкі пасля памілавання ў сувязі з неаднаразовымі прыцягненнямі яго да адміністрацыйнай адказнасці за мірнае ажыццяўленне правоў, гарантаваных Канстытуцыяй і Міжнародным пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах. Шэраг адміністрацыйных спраў насілі сфальсіфікаваны характар з мэтай кароткатэрміновай ізаляцыі актывіста.

Асуджэнне Уладзіміра Яроменкі з'яўляецца відавочным фактарам, які сведчыць пра пагаршэнне сітуацыі з правамі чалавека ў краіне, замацоўвае адмоўную сталую тэндэнцыю апошніх месяцаў у дадзенай галіне.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» заклікае ўлады Беларусі:

— спыніць крымінальны пераслед Уладзіміра Яроменкі;

— спыніць практыку палітычна матываванага пераследу грамадска-палітычных актывістаў, праваабаронцаў, журналістаў і ўсіх апанентаў дзеючага палітычнага рэжыму;

— неадкладна і безумоўна вызваліць усіх палітычных вязняў і зняць усе абмежаванні іх правоў, накладзеныя ў сувязі з іх асуджэннем.

## Заява FIDH і Прааабарончага цэнтра «Вясна» з нагоды вызвалення Дзмітрыя Дашкевіча

*Парыж-Мінск, 30 жніўня 2013 г.*

FIDH і яе сяброўская арганізацыя ў Беларусі, Праваабарончы цэнтр «Вясна», 28 жніўня 2013 года былі шчаслівыя ўбачыць на волі Дзмітрыя Дашкевіча — кіраўніка грамадзянскай і палітычнай арганізацыі «Малады Фронт». Яго выпусцілі на волю пасля адбыцця поўнага тэрміну пакарання па абвінавачванні ў «злосным хуліганстве» і «злосным непадпарадкаванні патрабаванням адміністрацыі».

FIDH і ПЦ «Вясна» адзначаюць, што за апошнія месяцы вельмі складаная сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі стала больш жорсткай, і выхад на волю Дашкевіча ні ў якім разе нельга разглядаць як прыкмету яе паляпшэння. Нашы арганізацыі хацелі б прыцягнуць увагу да таго факта, што Дашкевіч не проста адбыў поўны тэрмін пакарання ў турме, але ні адно з вылучаных супраць яго абвінавачванняў не было знята. У цяперашні час ён знаходзіцца пад прэвентыўным наглядам міліцыі, што дае ўладам права ў любы час наведваць яго. Акрамя таго, калі супраць яго тры разы ў бягучым годзе будуць вылучаны абвінавачванні ў адміністрацыйным парушэнні, ён будзе змешчаны пад больш строгі нагляд і падвергнецца сур'ёзным абмежаванням.

«Міжнародная супольнасць не павінна памыляцца, выхад на волю Дзмітрыя Дашкевіча не адлюстроўвае ніякіх паляпшэнняў сітуацыі з правамі чалавека», — заявіў прэзідэнт FIDH Карым Лахіджы. «Адзінаццаць палітвязняў, уключаючы прэзідэнта Праваабарончага цэнтра «Вясна» і віцэ-прэзідэнта FIDH Алеся Бяляцкага пакутуюць за кратамі ў выключна жорсткіх умовах турмаў і калоній Беларусі. Рэжым працягвае пастаянна пераследваць праваабаронцаў, журналістаў і актывістаў. У такім кантэксце той факт, што Савет Еўрапейскага Саюза прыпыніў забарону на ўезд у ЕС для кіраўніка МЗС Беларусі Уладзіміра Макея не паддаецца ніякаму апраўданню», — дадаў ён.

«Хутчэй за ўсё, Дашкевіча чакае доля такіх актывістаў, як Уладзімір Яроменак і Васіль Парфянкоў, супраць якіх быў адноўлены крымінальны пераслед. Міліцэйскі нагляд часцяком выкарыстоўваюць як сродак кантролю дзейнасці палітычных актывістаў і праваабаронцаў пасля іх вызвалення з турмы», — дадаў намеснік старшыні ПЦ «Вясна» Валянцін Стэфановіч.

24 сакавіка 2011 года Дзмітрыя Дашкевіча асудзілі да двух гадоў пазбаўлення волі за акты «злоснага хуліганства», якія ён нібыта здзяйсняў напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў у снежні 2010 года. Пасля затрымання

і арышту яго шэсць разоў пераводзілі ў розныя следчыя ізалятары і калоніі. Акрамя таго, 28 жніўня 2012 года да яго тэрміну ддадалі адзін год за «злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі».

FIDH і ПЦ «Вясна» заклікаюць улады Беларусі адмовіцца ад усіх пунктаў абвінавачвання супраць Дашкевіча і аднавіць яго ў грамадзянскіх і палітычных правах. Нашы арганізацыі таксама заклікаюць улады Беларусі неадкладна і без якіх-небудзь умоваў вызваліць усіх палітвязняў.

«Мы заклікаем ЕС не ўпадаць у зман адносна рашэнняў Аляксандра Лукашэнкі, не падпадаць пад уплыў салодкіх песень рэжыму» — дадаў Карым Лахіджы.

## Сумесная заява Беларускага Хельсінкскага камітэта і ПЦ «Вясна» з нагоды прымусовай шпіталізацыі Ігара Пастнова

*Мінск, 2 верасня 2013 г.*

РПГА «Беларускі Хельсінкскі Камітэт» і Праваабарончы цэнтр «Вясна» занепакоеныя прымусовай шпіталізацыяй Ігара Пастнова.

21 жніўня 2013 г. суд Віцебскага раёна Віцебскай вобласці ў закрытым пасяджэнні задаволіў заяву Віцебскага абласнога клінічнага цэнтра псіхіятрыі і наркалогіі аб прымусовай шпіталізацыі і лячэнні Ігара Пастнова.

Аднак справа разглядалася ў яго адсутнасць. У рашэнні суда не ўтрымліваецца дастатковага абгрунтавання немагчымасці яго ўдзелу ў працэсе, прыведзена толькі фармальная падстава, прадугледжаная ч. 3 арт. 391 Грамадзянскага працэсуальнага кодэкса, якая дае магчымасць разглядаць справы ў адсутнасці грамадзяніна, — стан яго здароўя.

У сувязі з гэтым неабходна адзначыць, што ўдзел грамадзяніна пры разглядзе судом справы аб абмежаванні яго правоў і свабод, калі ён можа прадстаўляць суду довады ў сваю абарону, з'яўляецца найважнейшай гарантыяй справядлівага судовага разбіральніцтва. Асабліва гэта важна ў выпадках, калі судом разглядаецца пытанне аб абмежаванні свабоды грамадзяніна.

Нашу занепакоенасць выклікае той факт, што да Ігара Пастнова прымусовая шпіталізацыя і лячэнне ўжыты пасля выказвання ім крытыкі стану медыцыны ў Віцебскай вобласці, указання на парушэнні заканадаўства кіраўнікамі медыцынскіх установ. Больш за тое, заява ў суд аб прымусовай шпіталізацыі пададзена галоўным лекарам Віцебскага абласнога клінічнага цэнтра псіхіятрыі і наркалогіі, чые дзеянні, у тым ліку, былі аб'ектам крытыкі Ігара Пастнова.

Згодна з ч. 1 артыкула 392 ГПК, рашэнне суда аб прымусовай шпіталізацыі павінна быць матываваным, паколькі гаворка ідзе аб абмежаванні базавых правоў і свабод чалавека. Аднак рашэнне суда не ўтрымлівае ніякіх пераканаўчых абгрунтаванняў неабходнасці прымянення прымусовай шпіталізацыі. Згодна з ч. 2 артыкула 36 Закона «Аб аказанні псіхіятрычнай дапамогі», рашэнне суда аб прымусовай шпіталізацыі і лячэнні выносіцца ў выпадку знаходжання асобы, якая пакутуе на псіхічнае захворванне, і ўхілення яе ад лячэння, у стане, які абумоўлівае:

— яе непасрэдную небяспеку для сябе і (або) іншых асоб;

— яе бездапаможнасць;

— магчымасць прычынення істотнай шкоды свайму здароўю з прычыны пагаршэння стану псіхічнага здароўя, калі такая асоба будзе пакінута без псіхіятрычнай дапамогі.

Важнай умовай вынясення рашэння аб прымусовай шпіталізацыі з'яўляецца ўхіленне асобы ад лячэння. Дадзены факт павінен быць правераны судом з выклікам і допытам у судовым пасяджэнні асоб, якія могуць пацвердзіць факт ухілення грамадзяніна ад лячэння. Як відаць з рашэння суда, гэтага не было зроблена.

У рашэнні не ўказваецца, у чым менавіта заключаецца непасрэдная небяспека Пастнова для сябе, чаму пакіданне яго без медыцынскай дапамогі можа нанесці істотную шкоду яго здароўю.

Вырашэнне дадзеных пытанняў з'яўляецца важнай гарантыяй захавання правоў і свабод грамадзяніна пры правядзенні працэдуры прымусовай шпіталізацыі.

Правядзенне суда ў закрытым рэжыме без дастатковых на тое падстаў супярэчыць прынцыпу галоснасці пры адпраўленні правасуддзя і само па сабе з'яўляецца парушэннем права на справядлівы суд.

Відавочна, што парушэнне права Ігара Пастнова на справядлівае судовае разбіральніцтва пацягнула парушэнне яго права на асабістую недатыкальнасць.

Такія дзеянні, апроч усяго, з'яўляюцца парушэннем гарантыі на свабоду меркаванняў і іх свабоднае выказванне.

Мы заклікаем кампетэнтныя органы неадкладна вызваліць Ігара Пастнова з псіхіятрычнага стацыянара і перагледзець рашэнне аб яго прымусовай шпіталізацыі ў адкрытым працэсе з захаваннем устаноўленых працэдур і прынцыпаў справядлівага судовага разбіральніцтва.

## Заява Праваабарончага цэнтра «Вясна» адносна арышту праваабаронцы Андрэя Бандарэнкі

*Мінск, 15 лістапада 2013 г.*

14 лістапада ў судзе Маскоўскага раёна горада Мінска адбыўся разгляд адміністрацыйнай справы ў дачыненні да дырэктара прыватнай культурна-асветніцкай установы «Платформ інавейшн» Андрэя Бандарэнкі, у выніку якога праваабаронца быў прызнаны вінаватым у парушэнні артыкула 23.34 КаАП РБ (парушэнне парадку арганізацыі і правядзення масавых мерапрыемстваў) і асуджаны на 5 сутак арышту.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» канстатуе, што «ў адпаведнасці з Дэкларацыяй аб праве і абавязку асобных асоб, груп і органаў грамадства заахвочваць і абараняць агульнапрызнаныя правы чалавека і асноўныя свабоды* кожны чалавек мае права, індывідуальна і сумесна з іншымі, заахвочваць і імкнуцца абараняць і ажыццяўляць правы чалавека і асноўныя свабоды на нацыянальным і міжнародным узроўнях;

кожны чалавек, індывідуальна і сумесна з іншымі, мае права: ведаць, шукаць, здабываць, атрымліваць і мець у сваім распараджэнні інфармацыю аб усіх правах чалавека і асноўных свабодах, уключаючы доступ да інфармацыі аб тым, якім чынам забяспечваюцца гэтыя правы і свабоды ва ўнутраным заканадаўстве, у судовай ці адміністрацыйнай сістэмах; свабодна публікаваць, перадаваць або распаўсюджваць сярод іншых думкі, інфармацыю і веды аб усіх правах чалавека і асноўных свабодах; вывучаць, абмяркоўваць, складаць і мець меркаванні адносна захавання ўсіх правоў чалавека і асноўных свабод як у заканадаўстве, так і на практыцы, і прыцягваць увагу грамадскасці да гэтых пытанняў, выкарыстоўваючы гэтыя і іншыя адпаведныя сродкі;

кожны чалавек мае права, індывідуальна і сумесна з іншымі, удзельнічаць у мірнай дзейнасці, накіраванай супраць парушэнняў правоў чалавека і асноўных свабод;

Дзяржава павінна прымаць усе неабходныя меры ў мэтах забеспячэння абароны любога чалавека, які выступае індывідуальна і сумесна з іншымі, ад любога гвалту, пагроз, помсты, негатыўнай дыскрымінацыі, ціску або любога іншага адвольнага дзеяння ў сувязі з законным ажыццяўленнем яго правоў, згаданых у Дэкларацыі.

У сувязі з гэтым кожны чалавек, індывідуальна і сумесна з іншымі, мае права на эфектыўную абарону нацыянальнага заканадаўства ў выпадку прыняцця мер у адказ або выступаў з выкарыстаннем мірных сродкаў супраць дзейнасці або дзеянняў, даручаных дзяржаве, вынікам якіх з'яўля-

* Прынята рэзалюцыяй 53/144 Генеральнай Ассамблеі ААН ад 9 снежня 1998 года.

юцца парушэнні правоў чалавека і асноўных свабод, а таксама супраць актаў гвалту, якія здзяйсняюцца групамі або асобнымі асобамі і закранаюць ажыццяўленне правоў чалавека і асноўных свабод.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» расцэньвае затрыманне і адміністрацыйны пераслед праваабаронцы, дырэктара прыватнай культурна-асветніцкай установы «Платформ інавейшн» Андрэя Бандарэнкі як выключна беспадстаўны, які груба парушае прынятыя на сябе дзяржавай міжнародныя абавязацельствы ў галіне абароны правоў чалавека.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» патрабуе:

— спыніць практыку пераследу і ціску на праваабаронцаў, абмежавання іх права на свабоду мірнай дзейнасці, накіраванай супраць парушэнняў правоў чалавека і асноўных свабод;

— спынення адміністрацыйнага пераследу ў дачыненні Андрэя Бандарэнкі і неадкладнага яго вызвалення.

## Заява Праваабарончага цэнтра «Вясна» і Беларускага Хельсінкскага камітэта з нагоды крымінальнага прысуду Васілю Парфянкову

*Мінск, 6 снежня 2013 г.*

Праваабарончы цэнтр «Вясна»і РГА «Беларускі Хельсінкскі камітэт» расцэньваюць асуджэнне грамадскага актывіста Васіля Парфянкова да пазбаўлення волі за парушэнне прэвентыўнага нагляду як палітычна матываны пераслед.

Васіль Парфянкоў у лютым 2011 года быў асуджаны да чатырох гадоў пазбаўлення волі па ч. 2 арт. 293 КК РБ (удзел у масавых беспарадках) за ўдзел у акцыі пратэсту супраць фальсіфікацый падчас прэзідэнцкіх выбараў, у жніўні таго ж года — памілаваны згодна з указам прэзідэнта.

Пасля свайго вызвалення Васіль Парфянкоў працягваў грамадскую дзейнасць і неаданаразова затрымліваўся за ўдзел у акцыях у падтрымку беларускіх палітвязняў, якія заставаліся і застаюцца за кратамі.

Пасля ўдзелу ў мірным сходзе, прысвечаным салідарнасці з палітвязнямі, 19 снежня 2011 года ён быў арыштаваны на 12 сутак, пасля чаго 5 студзеня 2012 г. судом Першамайскага р-на г. Мінска за ім быў устаноўлены прэвентыўны нагляд тэрмінам на адзін год. Такім чынам, прэвентыўны нагляд у дачыненні да актывіста быў усталяваны з мэтай прадухілення ягонай далейшай грамадскай дзейнасці, у тым ліку далейшага ўдзелу ў мірных сходах па пытаннях грамадска-палітычнага жыцця ў краіне.

29 траўня 2012 г. судом Першамайскага раёна г. Мінска Васіль Парфянкоў быў асуджаны на 6 месяцаў арышту па арт. 421 КК Рэспублікі Беларусь (парушэнні ўмоў прэвентыўнага нагляду, устаноўленага судом). Дадзены прысуд быў вызначаны Праваабарончым цэнтрам «Вясна» і РГА БХК як палітычна матываны пераслед, а падвергнуты арышту Васіль Парфянкоў як палітычны вязень.

5 снежня 2013 г. суд Першамайскага р-на г. Мінска паўторна асудзіў Васіля Парфянкова па арт. 421 КК Рэспублікі Беларусь на адзін год пазбаўлення волі з адбыццём пакарання ва ўмовах калоніі строгага рэжыму.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» і РГА БХК асуджаюць палітычна матываны пераслед, скіраваны на спыненне ці перашкоды грамадска-палітычнай актыўнасці Васіля Парфянкова і адзначае, што разбіральніцтва па дадзенай справе не адпавядала стандартам справядлівага судовага разбіральніцтва, а вынесенае пакаранне з'яўляецца відавочна не суразмерным і не прапарцыйным тым парушэнням, у якіх абвінавачвалі Васіля Парфянкова.

Варта адзначыць, што паводле ацэнак FIDH і Праваабарончага цэнтра «Вясна» рознага кшталту абмежаванні — ад прафілактычнага ўліку да прэвентыўнага нагляду — устаноўлены ў дачыненні да 32 чалавек, якія былі раней асуджаны за падзеі 19 снежня 2010 г. і вызвалены з месцаў пазбаўлення волі без пагашэння судзімасці. Прэвентыўны нагляд устаноўлены, у тым ліку і ў дачыненні да нядаўна вызваленых палітвязняў Д. Дашкевіча і А.Францкевіча.

Дадзеныя абставіны сведчаць пра тое, што гэтыя абмежаванні з'яўляюцца элементам кантролю уладаў над грамадскімі і палітычнымі актывістамі. Крымінальны пераслед за парушэнні раней устаноўленага прэвентыўнага нагляду ў дачыненні В. Парфянкова, У. Яроменкі, устаноўлены прэвентыўны нагляд у дачыненні да П. Вінаградава з'яўляюцца яскравым прыкладам такога кантролю.

У сувязі з гэтым Праваабарончы цэнтр «Вясна» РГА БХК патрабуюць:

1. спыніць практыку крымінальнага пераследу палітычных і грамадскіх актывістаў, у тым ліку спыніць крымінальны пераслед Васіля Парфянкова і прыняць меры па ягоным вызваленні;

2. зняць (пагасіць) судзімасці з раней вызваленых па працэдуры памілавання ці заканчэння тэрмінаў палітычных зняволеных, забяспечыўшы такім чынам іх магчымасць паўнавартаснага ўдзелу ў палітычным жыцці краіны, у тым ліку магчымасць удзелу ў будучых выбарчых кампаніях.

## Рада Праваабарончага цэнтра «Вясна» заяўляе пра законнасць дзейнасці арганізацыі ў Беларусі

*Мінск, 16 снежня 2013 г.*

10 снежня 2013 года Генеральнай пракуратурай Рэспублікі Беларусь на адрас намесніка старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» Валянціна Стэфановіча быў дасланы адказ на ягоны запыт аб уключэнні сайта Праваабарончага цэнтра «Вясна» www.spring96.org у спіс абмежаванага доступу.

Паводле дадзенага адказу сайт арганізацыі быў унесены ў спіс абмежаванага доступу паводле рашэння Генеральнай пракуратуры Рэспублікі Беларусь у жніўні 2011 г. у сувязі з тым, што «дзеянні ад імя Праваабарончага цэнтра «Вясна», якая не прайшла ў вызначаным парадку дзяржаўную рэгістрацыю, супярэчыць заканадаўству Рэспублікі Беларусь». Генеральная пракуратура таксама нагадвае, што за арганізацыю дзейнасці або ўдзел у дзейнасці арганізацыі, якія не прайшлі ва ўстаноўленым парадку дзяржаўную рэгістрацыю, арт. 193.1 КК Рэспублікі Беларусь прадугледжана крымінальная адказнасць.

У сувязі з гэтым Рада Праваабарончага цэнтра «Вясна» адзначае:

У адпаведнасці з арт. 5 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь усталяваны вычарпальны пералік абмежаванняў у дзейнасці грамадскіх аб'яднанняў у Рэспубліцы Беларусь, згодна з якім забараняецца стварэнне і дзейнасць грамадскіх аб'яднанняў, якія маюць на мэце гвалтоўнае змяненне канстытуцыйнага ладу альбо прапагандуючых вайну, сацыяльную, нацыянальную, рэлігійную і расавую варажнечу.

Згодна з арт. 22 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах кожны чалавек мае права на свабоду асацыяцыі з іншымі, уключаючы права ствараць прафсаюзы і ўступаць у іх для абароны сваіх інтарэсаў. Карыстанне гэтым правам не падлягае абмежаванням, акрамя тых, якія прадугледжваюцца законам і якія неабходны ў дэмакратычным грамадстве ў інтарэсах дзяржаўнай ці грамадскай бяспекі, грамадскага парадку, аховы здароўя і маральнасці насельніцтва ці абароны правоў і свабод іншых асоб.

Паводле арт. 1 Дэкларацыі аб праве і абавязку асобных асоб, груп і органаў грамадства заахвочваць і абараняць агульнапрызнаныя правы чалавека і асноўныя свабоды (Дэкларацыя аб праваабаронцах), зацверджанай Генасамблеяй ААН 9 снежня 1998 г., кожны чалавек мае права, індывідуальна і сумесна з іншымі, заахвочваць і імкнуцца абараняць і ажыццяўляць правы чалавека і асноўныя свабоды на нацыянальным і міжнародным узроўнях.

У сваёй дзейнасці Праваабарончы цэнтр «Вясна» заўсёды кіраваўся і кіруецца дадзенымі палажэннямі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, а таксама вышэйуказанымі міжнароднымі нормамі ў галіне правоў чалавека, ратыфікаванымі Рэспублікай Беларусь.

Трэба адзначыць, што рашэнне Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь аб ліквідацыі Грамадскага аб'яднання Праваабарончы цэнтр «Вясна» ў лістападзе 2003 г, у адпаведнасці з рашэннем Камітэта па правах чалавека ААН ад 7 жніўня 2007 г. № 1296/2004 было прызнана парушэннем права на свабоду асацыяцый, якое Беларусь павінна забяспечыць у адпаведнасці сваім абавязацельствам па МПГПП. Ураду было прапанавана забяспечыць заснавальнікам арганізацыі адпаведныя сродкі прававой абароны, уключна з перарэгістрацыяй ПЦ «Вясна» і кампенсацыяй.

Ратыфікаваўшы МПГПП і першы Факультатыўны пратакол да яго, Рэспубліка Беларусь узяла на сабе абавязацельствы не толькі не ўмешвацца і не ствараць перашкоды законнай дзейнасці праваабаронцаў, але і пазітыўныя абавязацельствы аб стварэнні належных умоў для такой дзейнасці. Пра гэта таксама было адзначана ў рашэнні Працоўнай групы па адвольных затрыманнях Савета па правах чалавека ААН, прынятым шэсцьдзясят чацвёртай сесіяй 27-31 жніўня 2012 года.

Насуперак узятым на сабе абавязацельствам урад краіны не толькі не выканаў рашэнне КПЧ ААН, але і тройчы адмовіў у рэгістрацыі новастовраных сябрамі ПЦ «Вясна» грамадскіх аб'яднанняў. У выніку відавочнага нежадання легітымізацыі дзейнасці арганізацыі, сябры Рады ПЦ «Вясна», у тым ліку старшыня арганізацыі Алесь Бяляцкі заявілі аб працягненні сваёй дзейнасці без дзяржаўнай рэгістрацыі.

Датычна крымінальнай адказнасці за факт ажыццяўлення дзейнасці арганізацыі без дзяржаўнай рэгістрацыі, устаноўленай арт. 193.1 КК Рэспублікі Беларусь, міжнароднымі і беларускімі праваабарончымі арганізацымі неаднаразова заяўлялася аб неканстытуцыйным характары гэтага артыкула, аб яго неадпаведнасці міжнародным нормам у галіне правоў чалавека. Адпаведная ацэнка арт. 193.1 КК Рэспублік Беларусь была дадзена і ў экспертна-прававым заключэнні Еўрапейскай камісіі за дэмакратыю праз права (Венецыянскай камісіі пры Савеце Еўропы).

У сувязі з гэтым Рада Праваабарончага цэнтра «Вясна» ў чарговы раз заяўляе, што:

дзейнасць арганізацыі ў Беларусі носіць цалкам законны характар і мае на мэце легітымную дзейнасць, скіраваную на абарону правоў і свабод чалавека;

дзейнасць дзяржаўных органаў Рэспублікі Беларусь, скіраваная на стварэнне перашкодаў, аказанне ціску ці пераследу за ажыццяўленне праваабарончай дзейнасці, з'яўляецца парушэннем Канстытуцыі і ўзятых на сабе дзяржавай міжнародных абавязацельстваў у галіне правоў чалавека;

нагадвае аб патрабаваннях міжнароднай і беларускай праваабарончай супольнасці аб неадкладным і безумоўным вызваленні старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алеся Бяляцкага.

## FIDH і ПЦ «Вясна» патрабуюць неадкладнага і безумоўнага вызвалення Мікалая Статкевіча і іншых палітзняволеных

*Парыж-Мінск, 19 снежня 2013 г.*

Тры гады таму, 19 снежня 2010 года, услед за сілавым разгонам мітынгу пратэсту на плошчы Незалежнасці ў г. Мінску адбыўся шэраг арыштаў, затрыманняў і пераследу прадстаўнікоў апазіцыі, актывістаў і грамадзян, якія бралі ўдзел у мірных дэманстрацыях у сталіцы Беларусі. Многія з іх пасля падвергліся судоваму пераследу, уключаючы некалькіх кандыдатаў у прэзідэнты. 19 снежня быў затрыманы і кандыдат у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь, апазіцыйны палітык Мікалай Статкевіч, які і па сённяшні дзень застаецца ў зняволенні.

26 траўня 2011 г. судом Ленінскага раёна г. Мінска Мікалай Статкевіч быў асуджаны да 6 гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў калоніі ўзмоцненага рэжыму па ч. 2 арт. 293 КК Рэспублікі Беларусь. На дадзены момант Мікалай Статкевіч адбыў палову вынесенага яму тэрміну зняволення.

Прадстаўнікі беларускіх праваабарончых арганізацый, якія праводзілі маніторынг судовага паседжання, прыйшлі да высновы, што ў ходзе суда не была даказана віна Мікалая Статкевіча ў здзяйсненні інкрымінуемых яму дзеянняў — арганізацыі масавых беспарадкаў альбо непасрэднага кіраўніцтва і ўдзелу ў іх. Судовае разбіральніцтва не адпавядала стандартам незалежнага і бесстаронняга разгляду. Праваабарончыя арганізацыі таксама выказалі нязгоду з кваліфікацыяй уладамі падзеяў,якія адбыліся 19 снежня 2010 г., як масавых беспарадкаў, а празмернае прымяненне сілы органамі правапарадку Беларусі і рэпрэсіі, якія адбыліся за гэтым, выклікалі рэзкае і адназначнае асуджэнне міжнароднай супольнасці.

Як афіцыйна зарэгістраваны ў ЦВК Беларусі кандыдат у прэзідэнты Мікалай Статкевіч сапраўды неаднаразова заклікаў грамадзянаў краіны прыняць удзел у мірнай дэманстрацыі пратэсту і выказаць сваё меркаванне з нагоды мінулых выбараў прэзідэнта Беларусі і ўдзелу ў іх Аляксандра Лукашэнкі, які знаходзіцца ва ўладзе з 1994 года.

FIDH і ПЦ «Вясна» адзначаюць, што права на мірныя сходы гарантавана як Канстытуцыяй Беларусі, так і міжнароднымі нормамі права ў галіне правоў чалавека.

19 чэрвеня 2011 года Працоўная група па адвольных затрыманнях пры Савеце па правах чалавека ААН вынесла рашэнне, што пазбаўленне волі М. Статкевіча з'яўляецца адвольным і парушае арт. 9 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і арт. 9 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, ратыфікаванага Рэспублікай Беларусь. Працоўная

група заклікала ўрад Беларусі прыняць неабходныя меры для выпраўлення сітуацыі, уключаючы неадкладнае вызваленне Статкевіча і выплату адэкватнай кампенсацыі.

Падчас адбыцця пакарання ў калоніі г. Шклова Мікалай Статкевіч неаднаразова падвяргаўся рознага кшталту дысцыплінарным спагнанням, у тым ліку змяшчаўся ў штрафны ізалятар (ШІЗА) і памяшканне камернага тыпу (ПКТ) з прычыны «злоснага парушэння рэжыму». 12 студзеня 2012 г. на закрытым паседжанні Шклоўскі раённы суд змяніў рэжым адбыцця пакарання Мікалая Статкевіча на больш строгі — тры гады турэмнага зняволення. На працягу ўсяго зняволення на Мікалая Статкевіча аказваўся ціск з патрабаваннем падпісаць прашэнне аб памілаванні, прычым з гэтай мэтай з боку адміністрацыі арганізоўваліся розныя правакацыі, у тым ліку пры выбары яго сукамернікаў.

FIDH і ПЦ «Вясна» лічаць, што пераслед Мікалая Статкевіча звязаны выключна з яго палітычнай дзейнасцю, у тым ліку з мірным ажыццяўленнем права на свабоду сходаў і меркаванняў, і мае на мэце выключна спыненне палітычнай дзейнасці Мікалая Статкевіча.

У сувязі з гэтым FIDH і Праваабарончы цэнтр «Вясна» патрабуюць ад уладаў Беларусі неадкладнага і безумоўнага вызвалення Мікалая Статкевіча, а таксама іншых палітычных зняволеных, іх поўнай рэабілітацыі з кампенсацыяй нанесенай шкоды.

# ЗМЕСТ